Зміцер Лукашук
Максім Гаруноў

# БЕЛАРУСКАЯ ІДЭЯ

## ШТО ТАКОЕ БЕЛАРУСЬ І ХТО ТАКІЯ БЕЛАРУСЫ: ВОСЕМДЗЕСЯТ ПЯЦЬ КАРОТКІХ ІНТЭРВ’Ю ПРА БЕЛАРУСКІ НАЦЫЯНАЛЬНЫ ПРАЕКТ

Мінск
Медысонт
2020

# ЗМЕСТ

# ЗМЕСТ

## УВОДЗІНЫ

Ідэя перадачы пра нацыянальную ідэю Беларусі ўзнікла сама сабой пасля так званай «рускай вясны», калі расійскія мэдыя пачалі гаварыць, што ўкраінцы не з'яўляюцца асобным ад рускіх народам і што ў складзе Украіны ёсць «рускія рэгіёны». Вайна ў Данецку і Луганску, анэксія Крыму паказалі, наколькі сур'ёзна расейцы ставяцца да такога роду тэорый. Украінцы заўсёды былі больш «этнічнымі» за беларусаў: часцей гаварылі на роднай мове, больш актыўна настойвалі на сваёй унікальнасці. Калі з пункту гледжання расійскіх медыя ўкраінцы не з’яўляюцца асобным народам, то беларусы, якія амаль перайшлі на рускую мову, выглядалі вельмі ўразліва. З'явілася неабходнасць зразумець: а што беларусы думаюць пра сябе самі? Як яны будуць сябе паводзіць, калі расейскія медыя раптам пачнуць казаць нешта падобнае і пра іх краіну?

Мы разумелі, што пытанне пра тое, чаму беларусы — не рускія, а Беларусь — не Расія, абмяркоўвалі ўжо не раз і не два. У канцы 80-х — пачатку 90-х гадоў мінулага стагоддзя, напярэдадні распаду СССР і адразу пасля абвяшчэння незалежнасці Беларусі, абмеркаванні былі асабліва інтэнсіўныя. Тады былі і дыскусіі, і публікацыі, была ўвага публікі, былі яркія фармулёўкі. Але, на жаль, пасля 1996 года абмеркаванняў стала істотна менш. Дзяржава свядома вярнулася да савецкай нацыянальнай праграмы. Згодна з ёй, нацыянальная ідэнтычнасць павінна як мага хутчэй сысці ў мінулае, саступіўшы месца «інтэрнацыянальнай салідарнасці працоўных». Развагі пра гістарычную спадчыну, мову, дэмакратыю, пра шматпартыйную сістэму ў СССР класіфікавалі як «буржуазны нацыяналізм» або «нацыянал-радыкалізм» і атаясамляліваліся з гітлерызмам. У варыянце 1996 года аб інтэрнацыянальнай салідарнасці гаворкі ўжо не ішло, але «буржуазны нацыяналізм» па-ранейшаму адмаўляўся і пераследаваўся. Быў ціск на журналістаў, на гуманітарыяў, на іх выдаўцоў, на незалежныя кнігарні. У такой атмасферы дыскусіі аб нацыянальным праекце сышлі ў падполле, сталі доляй асобных груп. Вяртанне да ідэалагічных установак Савецкага Саюза абцяжарыла дыялог беларусаў пра саміх сябе, не даў яму развіцца і шмат у чым замарозіў.

Наколькі нам удалося высветліць, за апошнія дваццаць гадоў у Мінску

не было праграмы на радыё, на якую можна прыйсці і расказаць пра тое, што такое Беларусь і хто такія беларусы. Былі асобныя яркія выступы, падзеі, кнігі. Задачай нашай праграмы было даць беларусам магчымасць сказаць пра сябе, дапамагчы ім звярнуць на сябе ўвагу, вярнуць абмеркаванне гэтай тэмы ў грамадства. Як мы цяпер разумеем, не заўсёды ў нас атрымлівалася. Часам вядучыя не разумелі, пра што трэба пытацца. Часам госці адказвалі не пра тое і не так. Але ў цэлым можна сказаць, што дыялог пра Беларусь і беларусаў — які ён быў магчымы тут і цяпер — пачаўся. Тэмы, пра якія як быццам забыліся, зноў абмяркоўваюцца.

Фармат перадачы — два вядоўцы, адзін госць — прыдумалі адразу. Ідэя запрасіць на ролю другога вядучага чалавека не з Беларусі, але, што называецца, «у тэме», таксама з'явілася адразу. Пытанні «збоку», якія ігнаруюць звыклыя для беларускага грамадства канвенцыі пра саміх сабе, павінны былі надаць дыскусіі драйв.

Пытанні і адказы былі на дзвюх мовах. Госці адказвалі, як ім было зручна. Некаторыя адказвалі толькі па-руску, некаторыя толькі па-беларуску. Некаторыя адказвалі на той мове, на якой ім было зададзена пытанне. Не без задавальнення адзначым, што большасць адказвалі на беларускай мове.

Як нам цалкам справядліва заўважылі пазней, тэрмін «нацыянальная ідэя» — гэта калька з тэрміна «руская ідэя», якім карысталіся рускія філосафы — Уладзімір Салаўёў, Мікалай Бярдзяеў, Васіль Разанаў ды іншыя. У еўрапейскіх краінах выкарыстоўваюць іншую тэрміналогію. Магчыма, меў бы сэнс казаць пра нацыянальны праект, але мы палічылі, што ў сітуацыі, што склалася, гэта ўскладніла б задачу. Пра нацыянальныя каштоўнасці ў Беларусі, улічваючы яе савецкі багаж, казаць даволі цяжка, а пра ідэю — параўнальна лёгка. У гасцей і ў публікі няма насцярожанасці да «ідэі», а нам не хацелася большую частку эфіру прысвячаць спрэчкам аб значэнні слоў. У будучыні, калі беларускія гуманітарыі — у тым ліку і на дзяржаўнай службе — масава прачытаюць кнігі на англійскай, нямецкай і французскай мовах пра тое, што такое «нацыяналізм», неабходнасць у «рускай ідэі» сыдзе.

За два гады было запісана больш за сто інтэрв'ю з палітыкамі, гісторыкамі, грамадзянскімі актывістамі, пісьменнікамі, паэтамі. Мы выбралі тыя, якія, на наш погляд, найлепш тлумачаць, што такое Беларусь і чаму яна з'яўляецца каштоўнасцю для беларусаў. Самі інтэрв'ю — гэта не проста стэнаграма размовы. Яны моцна скарочаныя, некаторыя ў пяць-шэсць разоў.

Сярэдняя праграма доўжыцца каля сарака хвілін. Адрэдагаваны намі тэкст зойме не больш за сем хвілін. У першую чаргу, былі прыбраныя развагі, якія не маюць дачынення да асноўнай тэмы. Пытанні вядучых скарачаліся асабліва моцна. Пэўныя фармулёўкі прыйшлося пераставіць месцамі, асобныя завяршыць. Сэнс усіх гэтых аперацый у тым, каб зрабіць думкі, якія прагучалі ў праграме, больш даступнымі і зразумелымі.

У канцы можна знайсці спасылкі на кнігі пра гісторыю нацыянальнага руху ў свеце і Беларусі, якія дапамогуць глыбей разабрацца з праблемай. Спіс складзены дацэнтам Полацкага дзяржаўнага ўніверсітэта, супрацоўнікам Інстытута «Палітычная сфера» (Вільня — Мінск) Аляксеем Ластоўскім.

Спадзяемся, у нас атрымалася перадаць не толькі сэнс, але і дух нашых студыйных дыскусій. І мы маем намер іх, гэтыя дыскусіі, нашы пошукі і «намацванні» беларускай нацыянальнай ідэі працягваць з разлікам на тое, што, магчыма, калісьці нам і ўдасца яе знайсці.

## ПАДЗЯКІ:

гукарэжысёрам **Паўлу Курзу** і **Алегу Пятровічу**,
відэааператару **Андрэю Мамаю**,
**Марыі Вайтовіч** — за выдатныя фотаздымкі герояў,
краме **Symbal.by** і асабіста **Паўлу Белавусу**.
Усяму калектыву **Euroradio.fm** і асобна **Паўлу Свярдлову** і **Віктару Малішэўскаму** — за распрацоўку ідэі і канцэпцыі праграмы «Ідэя Х».
**Зоі Лукашук** — за цярпенне і маральную падтрымку,
а **Міраславе Лукашук** — за шчырае захапленне нашымі праграмамі.
**Веры Галубовіч**, **Марыне Лаўрыновіч** і **Алене Пятровіч** —
за працу з тэкстамі.
**Стасю Карпаву** і **Кацярыне Карпавай** —
за сардэчную гасціннасць і паўночныя размовы.
**Дар'і Ліллесон** —за разважлівасць і такт.
**Юрыю Сенакосаву** і **Алене Неміроўскай** —
за ўсеагульнае разуменне ўсяго.
**Людміле** і **Айвару Руукель**, **Ортэму Ёрге**, **Вользе Урасінавай**,
**Андрэю Жадову** — за вобразы.
Асобная падзяка супрацоўнікам «**Беларускай чыгункі**»
за нязменна гарачую каву ў шэсць раніцы і цукеркі «Палессе» да яе.
Таксама — **усім удзельнікам праграмы**,
якія ахвяравалі сваім часам і дзяліліся сваімі развагамі.

## ФУНДАТАРЫ КНІГІ:

**Віталь Дамасевіч**, **Павел Белавус**, **Павел Хівук**,
**Валерый Кавалеўскі**, **Ігар Кузаўка**,
**Святлана Вераскоўская**, **Андрэй Рапапорт**,
**грамадская кампанія «Годна»**,
**крама Symbal.by**.

**Кніга выйшла ў межах грамадскай кампаніі «Годна», якая прысвечана вывучэнню, развіццю і далейшаму фармаванню беларускай нацыянальнай свядомасці.**
**Падрабязней на Hodna.by.**



# СТАНІСЛАЎ
# ШУШКЕВІЧ

## «БУДЗЬМА БЕЛАРУСАМІ!» — ГЭТЫ ЛОЗУНГ МУСІЦЬ СТАЦЬ НАШАЙ НАЦІДЭЯЙ!

euroradio·fm

Гутарылі Зміцер Лукашук, Максім Гаруноў
Фота Еўрарадыё

З.Л. Вітаю ўсіх слухачоў «Еўрарадыё». Сённяшні наш госць — чалавек, якога вінавацяць у развале Савецкага Саюза, першы кіраўнік незалежнай Беларусі, прафесар Станіслаў Станіслававіч Шушкевіч. Добры дзень.

С.Ш. Добры дзень.

З.Л. Станіслаў Станіслававіч, у сваіх інтэрв'ю вы расказвалі, што калі прыехалі ў Віскулі, дзе Савецкі Саюз і разваліўся, вы нават не думалі, што гэтым усё скончыцца. А пра нацыянальную ідэю што-небудзь думалі?

С.Ш. Я па адукацыі фізік. У нас самае галоўнае — вызначыць паняцце. Тады для мяне нацыянальная ідэя была — барацьба за незалежную Беларусь. Я не думаў, што гэта пытанне зварухнецца ў якіх-небудзь Віскулях. На той момант у нас была больш важкая прычына сабрацца. Пачыналіся маразы. Мы не мелі ні газу, ні нафты. Мы пераходзілі да рынку, а ў нас ні грошай, ні аўтарытэту, каб атрымаць крэдыт. У мяне галоўная задача была — дабіцца, каб па старых канонах, не рынчачным чынам, Расія паставіла нам нафту і газ, каб беларусы не замерзлі зімой. Гэта была мэта. Калі мы пачалі абмяркоўваць пытанне, высветлілася, што мы нічога не можам зрабіць і трэба прасіць Гарбачова. Ён прэзідэнт СССР, хаця Ельцын быў ужо абраны прэзідэнтам Расіі. У той палітычнай сітуацыі, якая склалася, Ельцын наша пытанне не зварухне. Мы пачалі думаць: а кім мы ёсць, чаму сабраліся? І тады ўзнікла пытанне незалежнасці. Ніхто нават не ўжыў слова «нацыянальная ідэя». Выбітнейшыя палітыкі свету — Буш старэйшы, Мітэран, Кісінджэр, Тэтчэр — казалі нам: ніякага сепаратызму, ніякага развалу. А мы сабраліся і разумеем, што калі мы будзем дзейнічаць, як нам раяць, то нічога не зробім. І тут Бурбуліс, філосаф, сказаў: «А не ці не пагодзіцеся вы падпісаць, што СССР як геапалітычная рэальнасць і суб'ект міжнароднага права скончыў сваё існаванне». Я яго за гэта вельмі паважаю. Ельцын кажа яму: «Цудоўна, я падпішу». Падпісалі і далей сабралі экспертаў, сказалі ім, што трэба на гэтую костку нанізаць мяса, і атрымалася пагадненне аб стварэнні садружнасці незалежных дзяржаў. Я ўнутрана цешыўся, што першым паставіў подпіс у алфавітным парадку, што прэзідэнт Расіі

падпісаў, і што мы цяпер незалежная дзяржава. Але я баяўся за нашу ратыфікацыю: у нас быў камуністычны Вярхоўны савет. Я ехаў адтуль, не думаючы пра нацыянальную ідэю. Пра гэта не ішло гаворкі. А ўжо пасля пайшла размова пра нацыянальную ідэю.

З.Л. Праз колькі часу?

С.Ш. Не адразу, не. Вы ведаеце, мы падпісалі незалежнасць ад Расіі. З 1794 года мы залежалі ад яе, былі яе калоніяй. Нам патрэбны быў час, каб прыйсці ў сябе, каб зразумець, што адбылося.

М.Г. Я уточню вопрос Змитра. Как вы представляли себе независимую Беларусь? Что это была за страна?

С.Ш. Для мяне тады існавала нямецкая нацыянальная ідэя. Федэральны канцлер Нямеччыны, Людвіг Эрхард, напісаў кніжку «Дабрабыт для ўсіх». У ёй ён напісаў, што працаваў так, каб розныя слаі насельніцтва ў Нямеччыне імкнуліся палепшыць сваё становішча. Каб той, хто валодае вялікімі грашыма, быў больш духоўны. А той, хто бедны, быў больш падтрыманы і г.д. Дабрабыт для ўсіх. І яшчэ ў мяне былі вершы нашага паэта Янкі Купалы, яго радок: «Я адплаціў народу, чым моц мая магла: зваў з путаў на свабоду, зваў з цемры да святла». Весці людзей да свабоды, з цемры да святла — для мяне гэта была мая нацыянальная ідэя.

З.Л. А прапанаваць яе народу?

С.Ш. Нацыянальную ідэю добра фармуляваць, удасканальваць і прапаноўваць у нацыянальнай дзяржаве. У нас не было нацыянальнай дзяржавы. Дзяржава з'явілася пасля нашых дэкларацый аб незалежнасці. 14 снежня 1991 года адбылася ратыфікацыя расійскай Дзяржаўнай Думай, а мы ратыфікавалі раней. Вось тады, пасля ратыфікацыі, для мяне з'явілася беларуская дзяржава, і можна было гаварыць аб ідэі ў беларускай дзяржаве.



З.Л. Толькі тады пачалі гаварыць пра гэта?

С.Ш. Так.

З.Л. Хто з кім?

С.Ш. Дэпутаты пачалі гаварыць. Пытанне пачало выносіцца на сесію, на абмеркаванне, на дэбаты. У дэпутатаў не атрымлівалася, ды яны і не вельмі стараліся. Абстаноўка была вельмі і вельмі складаная. Каб мяне тады запыталіся, што такое твая нацыянальная ідэя, я б сказаў, что гэта наша незалежная беларуская валюта. Вось так было.

З.Л. А пазней?

С.Ш. Мы ўтварылі беларускую, незалежную дзяржаву, у якой, як нам хутка стала ясна, амаль няма беларускасці. І мы, беларусы, не імкнемся гэта выпраўляць. У нас і да сёння ідуць спрэчкі пра тое, трэба нам адраджаць беларускасць ці не.

М.Г. Недавно вышла книга о Беларуской Народной Республике. Там есть интересный момент: немецкий чиновник, который в марте 1918 года наблюдал за происходящим в Минске, назвал республику беларусов «мужицкой республикой». «Мужицкая» — потому что большая часть населения не понимала, зачем им своя республика и какая от неё польза.

С.Ш. Вы знаете, если говорить на эту тему, то беларусы всегда жили крайне бедно, на грани выживания. Они добывали себе прокорм самыми примитивными орудиями, и у них ещё отбирали часть урожая через налоги. У наших людей всегда было только одно на уме: выжить. Они выживали. У них никогда не было возможности роскошествовать, как горцы некоторые. Никогда. Я бываю на Кавказе. У них другие природные условия, совершенно другая земля, другие урожаи. Они могут себе позволить рассуждать о том, что такое национальная идея. А беларусы нет. И поэтому в 1918 году у нас и не могло быть большого сдвига в сторону национального. Людям было не до этого. А в советское время всё национальное было придушено. Вы посмотрите на расстрелянных в 1937 году. В Беларуси расстреляли всех поэтов и писателей, всех,

кто писал. Кроме того, по нашей территории постоянно прокатывались войны. Чтобы выжить, нам нужно было научиться скрывать свою идентичность. Вы возьмите самоназвание — «тутэйшыя». Откуда оно? Из опыта войны, из опыта оккупации. Назовешь себя беларусом − плохо. Назовешь себя поляком — ещё хуже. Поэтому мы стали «тутэйшымі». Мы старались не быть беларусами, потому что это было опасно для жизни. Мы вот в таких условиях выросли.

М.Г. Хотел узнать у вас о вашем отношении к православной церкви. Не кажется ли вам, что православие сдерживало развитие беларусов? В начале прошлого века у эстонцев, которые лютеране, грамотность была в три раза выше, и сейчас у них самая успешная страна бывшего СССР.

С.Ш. Православие способствовало принудительной руссификации. Это очевидно. Потому что церковно-славянский язык, на котором идут молитвы в храмах, в понимании беларуских православных, — это фактически русский язык. Что касается Эстонии, то я бываю в Эстонии. Они мою книжку издали. Эстонцы живут на берегу Балтийского моря и на островах. У них есть возможность ловить рыбу. Один хороший улов может дать семье пищу на полгода. А здесь, в Беларуси, ничего не уловишь. Здесь пашешь, косишь, добываешь, а результат мизерный, угроза голода не уходит. У нас была низкая грамотность из-за большей занятости трудом для выживания, такое мое понимание этого вопроса.

З.Л. Вы агучылі такую нацыянальную ідэю сённяшняга дня: «Будзьма беларусамі». Але для таго, каб гэтая ідэя была прынятая людзьмі, што трэба зрабіць?

С.Ш. Гэта ўсе звязана з палітычным ладам. Калі будзе дэмакратычна абранае кіраўніцтва, то мы гэтую справу з беларускасцю паправім. Я многа ўбачыў хібаў ва Украіне. Але што тычыцца ўмацавання нацыянальнай самасвядомасці, умацавання мовы, яе распаўсюду — там выдатныя ўмовы. Таму што там улада абіраецца, і няма гэтых фальсіфікацый, як у нас. У нас жа сорам глядзець, што робіцца. У 1996 годзе былі апошнія прызнаныя цывілізаваныя выбары.

М.Г. А Лукашенко — настоящий беларус? Вы сказали, что беларусы всегда жили в очень тяжёлых условиях, что они выживали. Лукашенко из деревни, из очень бедной семьи, у него не самое хорошее образование.

С.Ш. Вы знаете, это очень непростой вопрос. Лукашенко в лучшем случае чуть-чуть научился говорить по-беларуски. Он не настоящий беларус. Он абсолютно не беларус, потому что беларуские качества ему не свойственны. Настоящие беларусы не берутся управлять, если они не умеют. А он берётся. И вот посмотрите на результаты. Средняя заработная плата в Польше, Литве, Латвии, Эстонии и Беларуси. В 1991 году у Беларуси стартовые условия были лучше, чем у них. В 3, в 3,5 раза лучше. А сейчас? Мы самые бедные. Понимаете? И слушайте, разве может беларус выступать против крестов в Куропатах, которые поставленные там, чтобы мы помнили о жертвах террора?

М.Г. Снос крестов на месте массовых расстрелов — это ужасно, но люди, которые вытаскивали кресты из земли, — ведь это были беларусы, разве нет?

С.Ш. Это не беларусы, это выродки. А человек на тракторе? Этого дурака посадили за трактор. Он кроме трактора ничего не знает и знать не будет. Вытащит кресты и премию получит. Не говорите, что там настоящие беларусы снесли кресты. Не богохульствуйте.

М.К. Не дай Господь. Вы сказали, что беларусы столетиями выживали. Когда люди выживают, они готовы в том числе и на аморальные поступки.

С.Ш. Ничего подобного. Беларусы выживали, но об аморальности речи не было. Речь шла о спасении жизни. Беларусь дала миру достаточное количество интеллигентных людей. Мы нашу первую книжку напечатали раньше России.

З.Л. На якой мове, пад якім сцягам трэба несці нацыянальную ідэю ў народныя масы?

С.Ш. Пажадана па-беларуску. Але ведаеце, сёння 70% людзей дрэнна валодаюць беларускай мовай. Нават такія карыфеі, як Алексіевіч, наш нобелеўскі лаўрэат. Вы ж ведаеце, што яна піша па-руску і добра, што піша, гэта наш гонар. Я ўсё жыццё чытаў лекцыі па фізіцы на рускай мове. І цяпер у замежжы я чытаю на рускай мове. Я толькі польскую ведаю так, каб чытаць лекцыі. Трэба ўжываць тую мову, якая зразумелая для тых, з кім маеш справу. Але не трэба забываць і пра беларускую мову. За апошні час у нашу партыю ўлілося каля тысячы чалавек, пераважна маладых. У нас усё справаводства ў партыі вядзецца па-беларуску. І цяпер мы падумваем, што трэба зрабіць нейкія фрагменты на рускай мове. Калі мы гэтага не зробім, мы адштурхнем людзей, якія выраслі ў сітуацыі, калі не было падтрымкі беларускай мовы, а была толькі дзяржаўная праграма прымусовай русіфікацыі. У савецкі час жартавалі, што ў БССР толькі вёска і Саюз пісьменнікаў гавораць па-беларуску. У той час вёска была вялікай. Сёння вёска вельмі малая, у ёй мала людзей, і яны не захоўваюць беларускасць, таму што інструкцыя для трактара будзе на рускай мове.

М.Г. Когда вы сказали, что надо идти к свету. А свет — это что? Европа — это свет или не свет?

С.Ш. Я думаю, что Европа — преимущественно свет. Хотя нет правил без исключения. Есть и изъяны. Вы же заметили, англичане не захотели идти по европейскому пути, а пошли по-своему? Есть повод задуматься, что там не так.

З.Л. Падчас сённяшняй размовы я пачуў дзве нацыянальныя ідэі: «Будзьма беларусамі» і «З пут — да свабоды, з цемры — да святла». Якую націдэю вы ж ўсё ж такі пакінеце? Адну.

С.Ш. І адна, і другая беларусам прыдасца. А ўвогуле, трэба быць прыстойнымі беларусамі. Не такімі, якія крыжы ў Курапатах зносяць. Трэба змагацца за добрыя беларускія традыцыі, за добрыя беларускія адносіны паміж людзьмі, за добрае стаўленне да розных рэлігій. Дарэчы, татары ў нас ужыліся, як нідзе ў іншым свеце. Можа, яшчэ ў Літве параўнальна. Вось, я за такую Беларусь. За талерантную, за добразычліваю.

З.Л. Атрымліваецца, што агульная і канчатковая ідэя ад Станіслава Шушкевіча — гэта «За талерантную Беларусь»?

С.Ш. Ведаеце што, давайце проста раскрыем паэму «Новая зямля» Якуба Коласа. Некалі мой настаўнік у школе прымушаў мяне чытаць для класа гэту «Новую зямлю». Я і цяпер яе гартаю. Можа, гэта не зусім карэктна, але я часам гартаю Шэкспіра і часам гартаю Коласа. Колас мне больш зразумелы, хоць веліч Шэкспіра ўсім відавочная. «Новая зямля» — гэта пра тое, як чалавек хацеў купіць зямлю і далей ён хваліць яе, кажа што яна за цуд. Фактычна ён апісвае Беларусь, і я разам з ім.



# ІВОНКА СУРВІЛА

## «НЕ ЎСЕ ЗАКЛАДЗЕНЫЯ ВА ЎСТАЎНЫЯ ГРАМАТЫ БНР ІДЭАЛЫ МЫ ЗДЗЕЙСНІЛІ»

euroradio·fm

Гутарылі Зміцер Лукашук, Максім Гаруноў
Фота Еўрарадыё

З.Л. Вітаю ўсіх слухачоў, наш сённяшні ганаровы госць — старшыня Рады Беларускай Народнай Рэспублікі ў выгнанні спадарыня Івонка Сурвіла. Добры дзень, спадарыня Івонка.

І.С. Добры дзень.

З.Л. Я адразу да вас з пытаннем: вось мы гаворым пра нацыянальную ідэю, а ўвогуле беларусам патрэбна нацыянальная ідэя ці не? Ці дастаткова, каб быў парадак у доме, каб быў свой участак, бульба пасеяна?

І.С. Да той ступені патрэбная, што беларусы абвесцілі яе 25 сакавіка 1918 года. Калі мне дазволіце, я хацела б прачытаць Трэцюю Устаўную грамату, у якой якраз выказваюцца ідэалы 25 сакавіка.

З.Л. Безумоўна. Усе чулі пра Устаўную грамату, але калі спытацца, што ў ёй было напісана, то мала хто зможа пераказаць. Калі ласка.

І.С. Дзякуй. Мова будзе крышку іначай ад сённяшняй, але я спадзяюся, што не будзе праблем:
«Год назад народы Беларусі разам з народамі Расіі скінулі ярмо расейскага царызму, які найцяжэй прыціснуў быў Беларусь. Не пытаючыся народу, ён укінуў наш край у пажар вайны, якая чыста зруйнавала гарады і вёскі Беларусі. Цяпер мы, Рада Беларускай Народнай Рэспублікі, скідаем з роднага краю апошняе ярмо дзяржаўнай залежнасці, якое гвалтам накінулі расейскія цары на наш вольны і незалежны край. Ад гэтага часу Беларуская Народная Рэспубліка абвяшчаецца незалежнай і вольнай дзяржавай. Самі народы Беларусі ў асобе свайго Устаноўчага Сойму пастановяць аб будучых дзяржаўных звязах Беларусі. На моцы гэтага трацяць сілу ўсе старыя дзяржаўныя звязы, якія далі магчымасць чужому ўраду падпісаць і за Беларусь трактат у Берасці, што забівае насмерць беларускі народ, дзелячы зямлю яго на часткі. На моцы гэтага ўрад Беларускай Народнай Рэспублікі мае ўвайсці ў адносіны з зацікаўленымі старанамі, прапануючы ім перагледзець тую часціну берасцейскага трактату, якая датычыць Беларусі, — тут гаворыцца, што прадстаўляе сабой Беларусь, — Беларуская Народная

Рэспубліка павінна абняць усе землі, дзе жыве і мае лічбовую пераваґу беларускі народ, а ўласне: Магілёўшчыну, беларускія часці Меншчыны, Гродзеншчыны з Гродна, Беластокам і Віленшчыны, Віцебшчыны, Смаленшчыны, Чарнігаўшчыны і сумежныя часці суседніх губерняў, заселеныя беларусамі. Беларуская Народная Рэспубліка пацвярджае ўсе тыя правы і вольнасці грамадзян і народаў Беларусі, якія абвешчаны Устаўной Граматай ад 9 сакавіка 1918 году (тут заўважу, што гэтыя вольнасці грамадзян і правы ёсць поўнасцю мадэрныя, можна было б іх напісаць і сёння) і далей абвяшчаючы аб незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі Рада яе пакладае свае надзеі на тое, што ўсе любячыя волю народы дапамогуць беларускаму народу ў поўнай меры здзейсніць яго палітычна-дзяржаўныя ідэалы. Рада Беларускай Народнай Рэспублікі, дана ў Менску Беларускім 25 сакавіка 1918 году».
Дык вось, тут маюцца нашыя нацыянальныя ідэалы: незалежнасць, асабліва ад нашых усходніх суседзяў, у няволі якой Беларусь была больш за сто год на той час, і ўсе іншыя ідэалы, якімі мы жывём ад таго часу.

З.Л. З таго часу прайшло больш за сто гадоў. Незалежнасць у нас ёсць, здаваць яе ніхто не збіраецца. Моладзь, якая нарадзілася ў незалежнай Беларусі, іншай незалежнай Беларусі не хоча. Тэрыторыі, праўда, не такія, як тут напісана, але распачынаць тэрытарыяльныя войны ніхто не хоча. Атрымліваецца, калі браць Трэцюю Устаўную грамату як нацыянальную ідэю, то яна ўжо выкананая. Можа, час шукаць нейкую новую?

І.С. Яна не ёсць выкананая. Як вы думаеце, Зміцер, ці многія сёння ў Беларусі разумеюць мову гэтай граматы?

З.Л. Не ўпэўнены, што многія.

І.С. Я не буду тлумачыць, наколькі гэта важна. І так, вы маеце рацыю ў тым, што к нашаму часу Устаўная грамата магла б быць выканана. Але гэта было б магчыма толькі ў тым выпадку, калі б бальшавікі не занялі Беларусь, калі б яны не замясцілі БНР сваёй уласнай савецкай рэспублікаю. Бальшавікі нішчылі ўсё, што рабіла нас асаблівым народам. Нішчылі нашую інтэлігенцыю, мову. У БССР была такая русіфікацыя,

што нават дзіва, што беларусы выжылі, што беларуская культура выжыла, што мова выжыла прынамсі ў некаторых частках Беларусі. Нягледзячы на тое, што наша мова ёсць адной з афіцыйных моў, яна элімінаваная з афіцыйнага дзяржаўнага жыцця. З беларушчыны ў Беларусі ёсць толькі тое, што робяць прыватныя асобы. Урад нічагусенькі не робіць. Часта гаворыцца аб білінгвізме. Гэта па-беларуску «білінгвізм»?

З.Л. Гэта наша запазычанае слова.

І.С. Як жывуць людзі ў краіне, у якой афіцыйны білінгвізм? Вось я ўжо шмат гадоў жыву ў Канадзе. Калі грамадзянін у Канадзе звяртаецца да ўрадоўца на французскай мове, урадовец мусіць адказваць яму на французскай мове. Калі беларус прыйдзе ў афіцыйную установу і спытае па-беларуску, яму скажуць: гаварыце па-людску. То-бок, гаварыце на рускай мове. У краіне прадаўжаецца нішчэнне ўсяго беларускага, і таму няможна сказаць, што ідэалы дасягнутыя. Яны часткова дасягнутыя. Мы маем свой край, сваю быццам бы незалежную рэспубліку, але звярніце ўвагу: пра нас у свеце толькі цяпер пачынаюць патроху ведаць. Нам на чужыне трэба было на кожным кроку пераконваць людзей у тым, што Беларусь – гэта сапраўдная суверэнная краіна, што яна існуе. Усе гэтыя гады пра нас ніхто не ведаў, пра нас маўчалі. Беларусь хавалі, нібы гэта быў нейкі важны сакрэт. Асабліва Масква старалася.

М.Г. Вы сказали о языке, о территории и о независимости. А парламент, демократия, права человека — это важно или нет?

І.С. Усё важна. Я не сказала адразу пра парламент, таму што гаварыла пра беларушчыну. Нашая Рэспубліка Беларусь, на жаль, не ёсць беларуская Рэспубліка Беларусь. Усё беларускае зараз элімінуецца.

М.Г. А демократия и парламент — это беларуское?

І.С. Безумоўна, беларускае. Нам вельмі важны парламент, і вельмі шкада, што ў нас у Беларусі няма дэмакратыі, але трэба заўважыць, што гэта не зусім наша віна. Два фактары сталі прычынай жаласнай сітуацыі з дэмакратыяй у Беларусі. Першая — пра Беларусь ніхто не ведаў,

як я ўжо сказала. Заходнія краіны, якія памагалі ўсім іншым, не памаглі нам, калі маглі памагчы стаць на ногі. Другое — антыдэмакратычная дзяржаўная прапаганда і дзеянні ўладаў. Ужо шмат гадоў дзяржава пераконвае грамадзян, што дэмакратыя не працуе. У дабавак, у нас уся краіна перабудаваная пад інтарэсы аднаго чалавека, які сам залежыць ад Масквы. Усё робіцца паводле волі аднаго чалавека. Наш парламент не ёсць парламент. Усе дэмакратычныя ўстановы фактычна не існуюць у Беларусі.

З.Л. Уявім сабе фантастычны момант, што з заўтрашняга дня Лукашэнка пачынае гаварыць па-беларуску. Адпаведна, усе міністры, якія ў нас робяць так, як робіць ён, цягам месяца таксама пераходзяць на беларускую мову. Праз паўгода-год пачынаюць гаварыць усе дробныя чыноўнікі, а там ужо і беларусы следам. Можа быць, ён нават верне бела-чырвона-белы сцяг і «Пагоню» на сваё месца. Ці скажа Рада БНР, што беларушчына вярнулася ў Беларусь і мы прызнаем Лукашэнку?

І.С. Мы Лукашэнку так лёгка мандата не перадамо. Рада БНР здасць свой мандат толькі дэмакратычна выбранаму парламенту, па-першае. І калі будзе гарантыя, што незалежнасць не будзе ад яе адабраная зноў, па-другое. Калі Лукашэнка скажа, што я беларус, гавару па-беларуску і краіна будзе дэмакратычная — чаму не? Тады, магчыма, ён будзе кандыдатам на прэзідэнта і яго выберуць нармальна, без ніякіх ашуканстваў. Але пакуль што мы вельмі далёка ад гэтага. Я думаю, што нягледзячы на тое, што ён хоча захаваць сваю тэрыторыю, ён, на жаль вельмі лёгка прадаў бы яе за месца ў Маскве.

М.Г. А если Путин предложит Лукашенко пост губернатора Сахалина? Там запасы нефти как в Кувейте, денег у него будет больше, чем в Беларуси.

І.С. Лукашэнка не патрэбныя ад Масквы грошы, нафта, нейкія тэрыторыі на краі свету. У Лукашэнкі велізарныя палітычныя амбіцыі. Ад Масквы яму патрэбны маскоўскі трон. Наўрад Пуцін, пры ўсім яго цынізме, дасць яму тое, што ён так хоча. Гэты сцэнар малаверагодны. Але мы памятаем, што Ельцын казаў пра тое, што такое магчыма, і Лукашэнка

ў гэта верыў і імкнуўся ў Маскву.

З.Л. Вы кажаце пра васямнаццаты год, пра нацыянальную ідэю, якую нам сфармулявалі бацькі-заснавальнікі БНР. Хтосьці скажа: зараз іншыя часы. Часы глабалізацыі, айці. Я магу сядзець у Мінску, а працаваць на фірму ў Злучаных Штатах. Мне англійская мова трэба больш, чым беларуская, расійская, кітайская ці яшчэ якая-небудзь. І таму давайце прыдумайце мне якую-небудзь іншую сучасную ідэю, каб яна была са шкла, бетону, як хмарачос.

І.С. Ці вы заўважылі, што кірунак краін Еўропы і Злучаных Штатаў ва ўсім свеце не ёсць у бок глабалізацыі? Глабалізацыя ёсць патрэбаю толькі для мільянераў і бізнесменаў. Трамп, Макрон, Меркель ідуць у бок нацыянальнай незалежнасці. Свет падзелены на багатых і на бедных, і бедныя людзі гэта вельмі моцна адчуваюць і патроху вяртаюцца ў свае нацыянальныя краіны. Яны хочуць сваіх нацыянальных краін, якія будуць абараняць іх правы і даходы, клапаціцца пра пенсіі, ахову здароўя, даступную адукацыю. Так што я думаю, што вашая тэорыя не можа споўніцца.

З.Л. Вось яшчэ пытанне аб асаблівасці паводзін беларускіх эмігрантаў. Сёння многія звычайныя беларусы ў пошуках лепшай долі з'язджаюць за межы. Украінцы таксама едуць. Украінцы за мяжой гуртуюцца разам, ствараюць таварыствы. Ёсць моцныя ўкраінскія таварыствы у Брытаніі, у Штатах, у Францыі. Беларус прыязджае у іншую краіну, і такое адчуванне, што ён хоча як мага хутчэй забыцца на тое, што ён беларус, забыцца пра бярозкі, палі і ўсё астатняе і хутчэй стаць тым, куды ён прыехаў: амерыканцам, французам, аўстралійцам.

І.С. Я маю іншае ўражанне. Я жыла ў Даніі, у Францыі, у Іспаніі і ў Канадзе, мусіла адаптавацца да розных краін, і я не стала ні француженкай, ні іспанкай, ні датчанкай. Чаму? Таму што я беларуска. Вакол мяне сёння людзі, паэты, новыя паэты, якія не былі паэтамі ніколі, якія ў сям'і ў Беларусі гаварылі па-расейску. Яны прыехалі ў Канаду і раптоўна адчулі, што яны беларусы, што яны тужаць па Беларусі, што іхняя краіна — гэта Беларусь. Вельмі шмат такіх выпадкаў. Яны не толькі тужаць

па Беларусі і адчулі, што беларусы. Яны перайшлі на беларускую мову, пішуць вершы па-беларуску, дзе выказваюць сваю любоў да Беларусі. Людзі, якія гэтага ніколі не зрабілі б у Беларусі. Што тычыцца ўкраінцаў, то так, яны лепш арганізуюцца, я згодная. У Канадзе ёсць мільён дзвесце тысяч украінцаў. Гэта не тыя, што цяпер прыехалі. Гэта тыя, што прыехалі з аўстрыйскай зоны Украіны, якім далі зямлю і якія ўжо пяць ці колькі пакаленняў вучаць сваіх дзяцей і ўнукаў украінскай мове, украінскім звычаям, украінскай рэлігіі. Яны ўсе ўніяты. Мы ў найгоршай сітуацыі былі. Мы былі краінай, якую найбольш хацела здабыць Расія: мы былі для Расіі найкарацейшай дарогай у Еўропу.

З.Л. Можа быць, беларусы — такія людзі, якім, каб адчуць сябе беларусамі, трэба з'ехаць за мяжу? Можа, усіх выселіць з Беларусі? Хай яны на чужыне адчуюць тугу па сінявокіх прасторах і потым вернуцца, гадоў праз сорак?

І.С. Гэта мог быць адзін з спосабаў, гэта факт. Але эмігранты будуць заўсёды. Заўсёды будуць людзі, для якіх свая краіна завузкая, замаленькая. Напрыклад, данчыкі едуць на вакацыі ў Аўстралію. Чаму? Таму што Аўстралія вялікая, а іх Данія маленькая і халодная, і ім зацесна. Я думаю, калі ў Беларусі будуць створаныя абставіны, будзе нармальнае жыццё, беларусы перастануць эміграваць, як цяпер.

З.Л. А можа, тады нацыянальнай ідэяй сённяшняга дня павінна быць: «Зробім у Беларусі беларусам годнае жыццё»?

І.С. З аднаго боку, вы маеце рацыю, жыццё павінна быць годным. З другога боку, ёсць суседства Расіі. Пакуль у Беларусі будзе гэтая штодзённая прапаганда па радыё, па тэлевізары, у газетах, у сацыяльных сетках пра тое, што мы адзін народ, мы не здабудзем поўнай і канчатковай незалежнасці. Урад мусіць забараніць расійскую прапаганду ў Беларусі. Яны русіфікуюць наш народ кожны дзень.

З.Л. Мне вось яшчэ цікавы такі момант: усе беларусы павінны прыняць нацыянальную ідэю, ці хопіць, каб прыняў палітычны істэблішмэнт?

І.С. Вось глядзіце: радзіма — гэта матка. Яна патрэбная кожнаму чалавеку. Пачуццё зямлі, дзе ляжаць косці тваіх продкаў, гэтыя лясы, палі, дзе дыхаеш тым самым паветрам, што дыхаў Скарына, што дыхаў Каліноўскі — гэта патрэбна кожнаму.

З.Л. Я прадчуваю, як людзі, якія не любяць беларускую мову, скажуць: гэта ўсё словы і мары эмігрантаў, замежнікаў. Што яны ведаюць пра сучасную Беларусь? Носяцца са сваімі Устаўнымі граматамі 1918 года. Ці разумеюць яны нас, сучасных беларусаў, якія жывуць на гэтай зямлі?

І.С. Беларусы замежжа, якія жывуць Беларуссю, магчыма, больш ведаюць пра Беларусь, лепш разумеюць Беларусь, чым людзі, якім тут прамываюць мазгі. Мы не ёсць пад уплывам прапаганды. Мы вольна думаем, разважаем, бачым.

З.Л. Ці можаце вы нейкімі трыма словамі ці двума сказамі сфармуляваць Устаўную грамату, нашу нацыянальную ідэю, скараціць яе да памеру твіта?

І.С. Я думаю, што словы «Жыве Беларусь» мне вельмі падабаюцца. Бо «жыве» − значыць, што яна жыла дасюль, і што жыве цяпер, і будзе жыць вечна. Яшчэ мне падабаецца французскі лозунг — «Свабода, роўнасць, братэрства». Я думаю, што людзі з часам далучаць гэты кліч да беларускіх клічаў. У Беларусі людзі так прывыклі змагацца за штодзёншчыну, што ў іхніх сэрцах, у іхніх мазгах няма пункта, што трэба змагацца за волю, за свабоду. Я ўпэўнена, што прыйдзе час, калі словы французскага лозунга далучацца да «Жыве Беларусь», і яны будуць гучаць разам, узмацняючы адно аднаго.



# МЕЧЫСЛАЎ ГРЫБ

## «БЕЛАРУСАМ ТРЭБА ПАЗБАВІЦЦА ТАГО СПРАДВЕЧНАГА СТРАХУ, ЯКІ ЗАБІВАЕ НАЦЫЮ»

euroradio·fm

Гутарылі Зміцер Лукашук, Максім Гаруноў
Фота Еўрарадыё

З.Л. Вітаю ўсіх слухачоў «Еўрарадыё», у эфіры чарговы выпуск праграмы «Ідэя Х». Наш сённяшні госць — другі па чарзе кіраўнік незалежнай Беларусі, старшыня Вярхоўнага Савета РБ, генерал-лейтэнант міліцыі ў адстаўцы Мечыслаў Грыб. Добры дзень, Мечыслаў Іванавіч!

М.Грыб. Добры дзень.

З.Л. Пад вашым кіраўніцтвам у 1994 годзе была прынятая Канстытуцыя незалежнай Беларусі. Можа, варта было б у Канстытуцыі прапісаць нацыянальную ідэю?

М.Грыб. Я не думаю, што нацыянальную ідэю краіны трэба прапісваць у Канстытуцыі. Нацыянальная ідэя — гэта народная ідэя. Яна павінна існаваць сама па сабе, а Канстытуцыя прапісвае правы і абавязкі.

М.Гаруноў. Украинский философ Михаил Минаков утверждает, что через Конституции постсоветских стран можно увидеть их планы на будущее. Одни страны через свои Конституции говорили, что «мы войдём в Европу и у нас всё будет по-европейски». Другие говорили: «мы не хотим быть европейцами, мы сами по себе». Вот Вы, когда принимали Конституцию, какое воображали будущее для Беларуси? С Европой, с Россией, отдельно от всех?

М.Грыб. Мы не ставілі мэты ўвайсці ў Еўропу, але прапановы былі. Калі прымалася Канстытуцыя, у нас была задача — абвясціць нашу краіну незалежнай. Да гэтага мы не былі незалежнай дзяржавай, мы ўваходзілі ў склад іншай дзяржавы, СССР. Мы павінны былі замацаваць свае асноўныя законы. Мы падкрэслівалі, што ў нас унітарная дзяржава, у нас свая тэрыторыя, у нас свае законы, у нас народаўладдзе, што мы прызнаем сусветнае заканадаўства і нашае заканадаўства павінна адпавядаць гэтаму сусветнаму, еўрапейскаму заканадаўству. Гэта галоўнае. Мы ўказалі, што мы не супраць іншых краін, нашых суседзяў, у першую чаргу. Мы да іх ставімся з вялікай павагай і з вялікім разуменнем, што яны нашы суседзі. Суседзяў, зразумела, не выбіраюць, але ёсць што ёсць, і мы павінны жыць з імі ў ладзе і згодзе.

М.Гаруноў. Конституция была тактическим ходом, чтобы оформить новый статус страны?

М.Грыб. Так, гэта быў тактычны ход.

М.Гаруноў. Можно ли будет говорить о более тесном союзе с Москвой, если случится чудо и у нее появятся демократия и технологии?

М.Грыб. Ну, цуды могуць здарацца, але ёсць гісторыя, колькі мы яе бачым, колькі можам з ёю знаёміцца. На працягу тысячы гадоў з боку нашага ўсходняга суседа мы не бачым гэтага. Няма ў яго ні дэмакратыі, ні прагрэсу, ні тэхналогій. Можна разлічваць, што цуд з'явіцца, але такіх цудаў не бывае, каб усё здарылася ў адзін час, адно імгненне — і ўсё ператварылася ў нешта такое... Не... Не бывае.

З.Л. У нас сфармавалася нацыя ці не?

М.Грыб. Калі казаць пра мае падыходы і погляды, то беларускі народ як нацыя знаходзіцца ў стадыі фарміравання. Канчаткова сказаць, што ў нас нацыя сфарміравалася, гэта было б, мне здаецца, занадта, гэта было б перабольшванне.

М.Гаруноў. А какой для вас будет признак того, что нация сформировалась?

М.Грыб. Першае — гэта мова. Ёсць нармальныя і паспяховыя нацыі, якія карыстаюцца некалькімі мовамі, і яны квітнеюць. Але для нас гэта сёння небяспечна. У нас ёсць расейская мова, якая аўтаматычна выцясняе беларускую, таму што для нашых людзей яна здаецца зручнейшай, больш практычнай, больш вядомай, і гэта вельмі небяспечна. Немагчыма сказаць, што руская мова нейкая нікчэмная. Гэта вялікая мова і культура. І адукацыя там ёсць на парадак вышэйшая за беларускую. Калі нашы юнакі і дзяўчаты маюць жаданне туды паступіць і там вучыцца, у гэтым нічога дрэннага няма. Дзе лепшая адукацыя, туды хай і паступаюць. І па эканоміцы, і па прамысловасці, і па насельніцтве Расея ў 15 разоў большая за Беларусь. Але тое, што там няма сучасных

тэхналогій, акрамя адпрацоўкі ваенных узбраенняў, то гэта так. Трэба гаварыць што там ёсць на самой справе.

М.Гаруноў. Как вы относитесь к английскому языку?

М.Грыб. Я вось як на пенсіі, пачаў вывучаць англійскую мову і польскую мову. Мне падабаецца, у мяне ўжо атрымліваецца штосці разумець. Калі гэта робіць моладзь і людзі старога ўзросту, гэта прыемна. Ні англійская, ні нямецкая, ні польская мовы не пагражаюць беларускай мове. А расійская пагражае, таму што яна ў нас з'яўляецца дзяржаўнай мовай і справаводства практычна ўсё на рускай мове. Перавядзіце ўсё справаводства на беларускую мову — і руская мова перастане быць небяспечнай для Беларусі.

З.Л. Можа і праўду сказаў Лукашэнка, што не дараслі мы яшчэ да нацыянальнай ідэі.

М.Грыб. Я з Лукашэнкам не згодзен. Да нацыянальнай ідэі не растуць. Яна або ёсць, або яе няма. І колькі ты ні расці, калі яе няма, ты да яе не дарасцеш. Нацыянальная ідэя можа быць вельмі простая і вельмі адкрытая. «Абы не было вайны», напрыклад. Усе не хочуць вайны.

З.Л. «Абы не было вайны»?

М.Грыб. Мне вельмі шмат прыходзілася сустракацца з людзьмі і весці з імі размовы калі я вылучаўся дэпутатам раённага савета, гарадскога савета ў Віцебску, абласнога савета, Вярхоўнага Савета. З усіх гэтых сустрэч я вынес, чым цікавяцца людзі: «каб не было вайны». Для гэтага яны гатовы ахвяраваць многім. Людзі гатовыя ад многага адмовіцца, шмат працаваць, упарта працаваць, толькі каб «не было вайны». Абапіраючыся на гэты запыт, можна зрабіць Беларусь мостам паміж Еўропай і ўсходняй Расіяй. Мост мог бы пракарміць усю нашу нацыю.

М.Гаруноў. Это пацифистский лозунг или милитаристский?

М.Грыб. Ён пра тое, што нам трэба шукаць моцнага саюзніка, але

з аглядкай на наш сумны досвед. Уся гісторыя Беларусі, уся гісторыя ліцвінаў сведчыць аб тым, што саюзнікі рана ці позна спрабуюць падпарадкаваць нашу краіну. У свой час Польшча імкнулася апалячыць беларусаў. Потым была Расія. Яна асімілявала нас больш груба, больш нахабна. Гэта было, гэта наша гісторыя. Я за ўступленне нашай краіны ў Еўрапейскі саюз. Брусель не прэтэндуе на тваю тэрыторыю, на тваю незалежнасць, на тваю нацыянальнасць і гэтак далей. Выбіраць у якасці саюзніка Кітай ці Расію, як гэта робіць Лукашэнка, — я не бачу ў гэтым вялікай патрэбы.

М.Гаруноў. Вы за Европейский союз?

М.Грыб. І за Еўрапейскі саюз, і за НАТА таксама. Чаму прыбалты пабеглі пад зонд НАТА? Таму што баяліся, што Расія іх назад пацягне за ногі, прымусіць быць у тым стане, з якога яны выйшлі. Яны гэта разумелі. Тое ж самае і сербы, і іншыя. Куды яны імкнуцца? У ЕС, канечне. Ім трэба абарона. І я хачу дадаць, што нават нейтральная дзяржава можа мець свае ўзброеныя сілы, калі ласка. Гэта тваё права, адно другому не супярэчыць, я тут вялікіх разыходжанняў не бачу. Абарона лішняй не бывае.

М.Гаруноў. Можно ли сказать, что страх перед войной — это главная проблема беларусов?

М.Грыб. За апошнія сто гадоў на нашай тэрыторыі было так шмат войнаў, што страх перад вайной перайшоў ужо ў гены. У нас траціна насельніцтва загінула ў Другой сусветнай, а была яшчэ і Першая сусветная, сталінскі тэрор, Чарнобыль. У нас шмат назапашанага страху. Беларусы баяцца нешта сказаць, баяцца выказацца. Нават чыноўнікі, людзі са сваімі кабінетамі, нададзеныя ўладай. Ледзь што, адразу паказваюць пальцам уверх, маўляў, «не магу гаварыць». Лукашэнка дабавіў сюды сваю лыжку. Нядрэнную, вялікую дабавіў. І палітыку такую праводзіць, што запалохаў людзей. У стане страху людзі нічога добрага зрабіць не могуць. Ні праблему вырашыць, ні аб'яднацца. Нічога. І я думаю, што Беларусь пачне хутка развівацца, калі беларусы адчуюць, што пагроза

вайны стала меншай. Адсутнасць ці хаця б памяншэнне страху разняволіць беларусаў, зробіць іх актыўнымі. Яны і цяпер актыўныя, але гэта актыўнасць збоку выглядае як заціснутасць. Мы заціснутыя, мы насцярожаныя. Моцнае войска і саюзнікі змогуць расціснуць абцугі страху, дасць магчымасць праяўляць актыўнасць у чым-небудзь яшчэ, акрамя гатоўнасці да вайны.



# ЮРЫЙ ХАШЧАВАЦКІ

## «САМАЕ ЛЕПШАЕ ЎКЛАДАННЕ — УКЛАДАННЕ Ў ДЗЯЦЕЙ, ЯНЫ БУДУЧЫНЯ КРАІНЫ»

euroradio·fm

Гутарылі Зміцер Лукашук, Максім Гаруноў
Фота Еўрарадыё

З.Л. Вітаю ўсіх слухачоў, наш сённяшні адмысловы госць — рэжысёр, кінадакументаліст Юрый Хашчавацкі. Спадар Юрый, а вы ведаеце, што гэта такое — нацыянальная ідэя?

Ю.Х. Я тоже всегда думал, что же такое национальная идея. И я сразу скажу, что человека, который будет говорить вам о том, что он нашёл национальную идею, лучше всего сразу изолировать, чтобы он не натворил беды. Я в этом уверен. Кто мне не верит, может проверить, но не советую. При этом, национальная идея существует. Я её увидел в её первородном состоянии, когда впервые приехал в Амстердам. Там дул такой сильный ветер, так рвались облака, что я понял: голландцы обязательно должны были строить бриги, ставить паруса и плавать по океанам, по морям. Это природное, это было в них заложено с самого начала. Вот из таких вещей, наверно, и вырастает национальная идея. Или, например, Соединенные Штаты. Кто туда ехал? Протестанты из Европы, которых преследовали. Они мечтали о своём клочке земли, о свободе. В первую очередь, о свободе совести, чтобы им разрешали молиться как они хотят. Мечтали о доме, о семье: у протестантов большие семьи. Вот они приехали и начали строить. Они не формулировали национальную идею. Они начинали строить ту жизнь, о которой мечтали. И в результате они получили самое мощное, самое лучшее в мире государство. Или возьмите евреев в рассеянии. Разве у них была национальная идея, кроме мечты вернуться на землю обетованную? Каждая еврейская семья была построена на желании вырастить детей, дать им образование, и это давало им импульс чтобы развиваться, чтобы жить. Я сейчас хочу сказать, что национальная идея живёт в фундаменте народном. Оттуда все идёт. Там родились эти самоидентификации — «мы едем в поисках свободы» или «мы обожаем паруса и ветер, который несет нас вокруг земли», или «мы всё положим на то, чтобы вырастить своих детей и дать им образование». Но ещё раз повторю: национальную идею лучше не формулировать. Тот, кто будет её формулировать и насаждать, быстро превратится в Гитлера, в Ленина, в Мао, в Пол Пота и тому подобное. Это всё очень опасно. Опасные игры.

З.Л. У галандцаў — вецер, у амерыканцаў — каб маліцца свабодна, у габрэяў — адукацыя для дзяцей. А ў беларусаў што?

Ю.Х. Я думаю, что у беларусов идея не очень отличается от еврейской: построить свою семью, сделать ее «заможной». Это хорошее слово, я не вижу ему аналогов в русском языке. «Заможный» — то есть, состоятельной, чтобы в семье все были здоровы. Но мне кажется, что на территории Беларуси это было потеряно в течение столетий войн, прихода оккупантов, раздрая, русификации. Вот я много снимал в Грузии. Я видел, что грузины очень разные, но их объединяет грузинский язык и их грузинская православная церковь. У них есть национальные скрепы. Это слово сейчас используется не по делу. На самом деле скрепы существуют.

З.Л. Сапсаванае слова?

Ю.Х. Да, слово испортили. Слову надо возвращать его нормально значение. Скрепа — то, что объединяет, помогает быть вместе. О национальной идее можно говорить, когда есть нация. Что такое нация? Это когда люди умеют видеть друг друга. Умеют друг другу помогать. Умеют вместе решать какие-то общие проблемы, вот как грузины, о которых я упомянул. Обратите внимание, насколько у нас сегодня это не так.

З.Л. Сёння беларускай нацыі няма?

Ю.Х. Мы хотим, чтобы она была. Я хочу, чтобы она была. Я делаю для этого всё, но я не вижу, что она есть. Я вижу изумительных, грамотных, замечательных людей, но я не вижу нации. Когда протестуют студенты, я вижу, как мимо идут предприниматели и посмеиваются. Потом, когда я вижу, как гоняют предпринимателей, я вижу, что студентам на них наплевать. Мы разобщены, мы атомизированы, мы не умеем думать друг о друге. Мы не умеем сочувствовать, сопереживать, жить чужими интересами. Те, чьими интересами мы не хотим жить, не живут нашими интересами. И на этом нас ловят, и потому мы и бессильны. Когда мне говорят, что вот, мол, в Беларуси не существует сильной оппозиции, я

отвечаю: «Ребята, бросьте! В Беларуси нет общества, которое могло бы поддержать эту оппозицию, вот в чём дело». Вот в чём наша главная слабость.

М.Г. Много раз слышал мнение, что ситуация в Беларуси, когда никто никому не сочувствует и не помогает, — это такой способ выживания в условиях постоянных войн и оккупаций. Если никому не сочувствуешь, а вокруг оккупация, то шансы выжить выше. На территории Беларуси постоянно были войны, и люди придумали, как им выживать в этих условиях. Вот как чехи, которые в Первую мировую войну охотно сдавались россиянам в плен.

Ю.Х. Я понимаю, о чём вы говорите. Более того, я согласен с вами. Мне кажется, что наш восточный сосед несколько веков тому назад уловил это свойство беларусов и использовал против них русский язык. Чехи во время войны тихо сидели в своих пивных, да. Но они говорили там по-чешски. А здесь говорят на русском. Язык серьёзно влияет на человека. Мы все построены на языке. Я русскоговорящий человек. Я вырос на русском языке, я на нём живу, я им пользуюсь. Я прекрасно понимаю, что этот язык хорош для литературы, для поэзии, но на нём нельзя сформулировать закон: на нём всегда можно найти обходной вариант. Он неточный в этом смысле. Он хорош для поэта, но плох для прокурора, для адвоката и для судьи.

М.Г. Язык связан с правовой культурой?

Ю.Х. В средние века у нас в городах было Магдебургское право. Что такое города, в которых действует Магдебургское право? Это места, откуда начинается демократия, парламентаризм, выборы и тому подобное. В городах живут ремесленники, у них есть интересы, они общаются, спорят, стараясь найти компромисс. Теперь посмотрите на ордынские города. Эти города абсолютно не понимают красоты демократии и её необходимости. Они понимают только необходимость сильной руки. Там, где не властвует закон, обязательно нужна сильная рука. Если закон не работает, значит, есть право силы. И вот это сюда принесли. Это было не характерно для беларусов, не составляло их принципов

жизни. Но произошли изменения, и сегодня исчезает фундамент, на основе которого может родиться наша собственная национальная идея.

М.Г. А когда началось привнесение, о котором вы говорите?

Ю.Х. 1863 год, после восстания Калиновского, когда началась русификация.

М.Г. И чтобы вернуть утраченное, в том числе и правовую культуру, беларусам нужно вспомнить беларуский язык?

Ю.Х. Возвращение беларуского языка необходимо, но как? Я по этому поводу говорил со многими своими беларускамоўнымі друзьями. К сожалению, они не всегда меня понимают. В нас живёт это желание всех заставить. Оно давным-давно в нас вложено. Помните, как было в Советском Союзе: «не можешь — научим, не хочешь — заставим». Мне кажется, ни в коем случае нельзя заставлять. Я бы не стал трогать ни беларуский, ни русский. Я бы оставил оба языка в качестве государственных. Почему? Потому что, если бы я оставил государственным только беларуский, я бы напряг беларуское общество. Обратите внимание, что у нас никогда не было насильственного насаждения беларуского языка, но нас всегда этим пугали. Причем пугали не те, кто был носителем языка, а их противники. Не надо пугать общество. Вот я говорю: ребята, у нас два языка государственных, да? Что из этого следует? Что любой государственный чиновник обязан владеть двумя языками. Если он не владеет одним из языков, он не может быть государственным чиновником. Ни один бюджетный человек не может быть бюджетником, если он не владеет беларуским языком. Почему? Потому что право выбрать язык принадлежит человеку, гражданину. Если вы директор школы, даже русской, а я беларускамоўны, пришёл к вам и говорю по-беларуски, то вы обязаны отвечать мне по-беларуски. Вы, как государственный служащий, не имеете права выбирать. Если ты не знаешь двух языков, ты можешь идти в частный сектор. Открой ресторан, пожалуйста. К тебе будут приходить русскоговорящие и те беларускамоўныя, которым всё равно, на каком языке у тебя меню.

Но на государство ты работать не можешь. Ведь это честный принцип, правда? И потом, для того чтобы этому языку обучаться, должны быть учебные заведения, в том числе и высшие. Следовательно, стране необходим беларускамоўны университет, курсы для развития беларуского языка. И самое главное — в обществе появляется импульс, появляется необходимость этим языком владеть. Вот и всё.

З.Л. Ёсць закон аб мовах і закон аб дзяржаўнай службе. Проста трэба выконваць гэтыя законы. І ўсё, так?

Ю.Х. Помню, в очередной раз судили Славу Сивчика. Я пришёл на суд и вижу такую картину: Слава Сивчик говорит судье: «Я беларускамоўны, я хочу, чтобы вы говорили со мной на беларуском языке». Она говорит: «У нас двуязычие, у нас два государственных языка, будете слушать по-русски». То есть, она как представитель государства выбирает язык. А язык должно выбирать не государство. Язык должен выбирать человек.

З.Л. Такім чынам, атрымліваецца, што нам трэба вярнуць мову і гісторыю, каб, можа быць, імі змацаваць наша грамадства. Гэта?

Ю.Х. Не совсем так. Дело в том, что если ты хочешь быть богатой и успешной страной, то ты в любом случае должен идти по пути демократии. В Сингапуре может быть иначе, но в Европе это так. И не потому что тебя заставляют, а потому что другого хода нет. Демократия — это культура городов, мы об этом только что говорили. Почему демократия у нас не прививается пока что? Вы не задавали себе этот вопрос? Она не прививается у нас по одной очень важной и очень глубокой причине. Один пример. Кажется в девяносто седьмом году, когда Шрёдер первый раз шел в канцлеры, он пригласил меня пообщаться. Я приехал в Берлин, мы с ним общались довольно долго и весело. А потом у них был съезд социал-демократов, и после съезда мы пошли пить пиво. Там были достаточно известные в Германии люди из мира культуры, искусства. И вот мы сидим, пьем пиво. Я немецкий не знаю, но у меня была великолепная переводчица. Она мне синхронно на ухо переводила абсолютно все, что происходит. Когда я понял, о чем они говорят, у меня

голова пошла кругом. Вот эта вся тусовочная элита сидит и обсуждает предвыборные программы Шрёдера и Коля. Такое возможно у нас или нет? Чтобы мы сели и начали обсуждать программу Лебедько или Лукашенко? Или программу Северинца, к примеру? Вы представляете себе, чтоб это происходило? Нет. Я спросил переводчицу: «Они что, всегда так?» Она говорит: «Конечно». У них же у всех собственность, у них счета в банках и всё, что предлагается в программах, касается их самым прямым образом. Какой будет налог на недвижимость, какие будут ставки рефинансирования и так далее. Я тогда понял, что мы не собственники, а люмпены. Мы люмпены с люмпеновскими мозгами. Те, кто у нас сумел сейчас сделать деньги и ухватить какую-то собственность, они не приверженцы демократии. Они приверженцы хорошего контакта с администрацией.

М.Г. Всё дело в культуре частной собственности?

Ю.Х. Только класс собственников, средний класс, устанавливает в обществе атмосферу, при которой поддерживаются законы. Именно этот класс следит за тем, чтобы законы свято соблюдались. Я помню, в Штатах пил кофе в кафешке на такой маленькой площади. На ней машин двенадцать помещалось. Кто-то выезжал, случайно разбил подфарник у соседней машины и уехал, не заметив. Все, кто сидели в кафе, взяли мобильники и начали звонить. У нас это называется: «А, решили заложить, да?» А у них это называется – уважение к чужой собственности, защита собственности. Почему? Потому, что в противном случае пострадавший вынужден будет заплатить свои деньги. Или вот едешь по хайвею. Я люблю быстро ездить, а мне подруга говорит: «Не ускоряйся, не надо». Я говорю: «Да брось, ментов же не видно». Она говорит: «Так позвонят. Позвонят и скажут, что ты едешь, превышаешь скорость». Я говорю: «Чего, настучат на меня?» А она мне: «Извини, это их безопасность». Это общество, которое поддерживает закон. Вот только тогда возможна демократия. Кстати, Лукашенко не даёт людям обрасти жирком и превратиться в средний класс. Он уничтожает своего могильщика, точно как по Карлу Марксу.

З.Л. Нацыянальная ідэя, у адпаведнасці з якой жыве рэжысёр Юрый Хашчавацкі?

Ю.Х. Это не называется национальная идея. Это идея, по которой мы, моя семья, существуем и, я надеюсь, будем существовать ещё долго, долго, долго.

З.Л. І як яна гучыць?

Ю.Х. Вырастить хороших детей. Хороших в самом широком смысле, в том числе и в политическом. Чтобы они относились по-честному ко всем процессам, которые происходят вокруг них. И образование, конечно. Образование прежде всего. Вот мы сейчас уже, слава Богу, с сыном разобрались, теперь внучка. С ней та же кропотливая работа, которую я рекомендую делать всем. Наши бабушки и дедушки знали главное: самое лучшее вложение, которое ты можешь сделать, — это вложение в своих детей. Было бы хорошо, если бы это стало идеей будущего для нашей страны. По-моему, она звучит неплохо.




# ЗЯНОН
# ПАЗНЯК

## «БЕЛАРУСЬ ПЕРАДУСІМ!» — ГЭТА СЁННЯ НАША ГАЛОЎНАЯ НАЦІДЭЯ

euroradio·fm

Гутарылі Зміцер Лукашук, Максім Гаруноў
Фота Еўрарадыё

З.Л. Вітаю ўсіх слухачоў. Наш сённяшні выпуск мы робім з Варшавы, куды мы прыехалі, каб сустрэцца з нашым сённяшнім госцем. Гэта палітык і грамадскі дзеяч, археолаг, мастацтвазнаўца, пісьменнік Зянон Станіслававіч Пазняк. Добры дзень, спадар Зянон Станіслававіч.

З.П. Добры дзень.

З.Л. Зянон Станіслававіч, вось для вас нацыянальная ідэя — што такое? Мы пакуль не бяром слова «беларуская», проста нацыянальная ідэя, як яна ёсць.

З.П. Нацыянальная ідэя ужо даўно сфармулявана, гэта як двойчы два. У Еўропе яна была сфармулявана яшчэ ў 1848 годзе, падчас «вясны народаў», калі еўрапейскія імперыі ўпершыню пачалі разбурацца. Нацыянальная ідэя — гэта ідэя народа, які мае перад сабой задачу стварэння сваёй уласнай нацыянальнай дзяржавы. Ідэя грунтуецца на ўяўленні пра яго тэрыторыю, яго мову, яго культуру, традыцыі. Калі нацыянальная дзяржава ствараецца, гэта значыць, што нацыянальная ідэя перамагла. Калі нацыянальная дзяржава ужо існуе, нацыянальная ідэя нікуды не знікае, у яе з'яўляецца іншая функцыя: зыходзячы з яе, нацыя стараецца пабудаваць сваё жыццё, знайсці добрыя рашэнні для сваіх палітычных, эканамічных, культурных пытанняў. Нічога складанага, як бачыце. Але калі ў нас пытаюць пра нацыянальную ідэю ў людзей, якія выступаюць супраць нашай дзяржавы, яны адразу пачынаюць муціць ваду, задаваць бязглуздыя пытанні: «Якая нацыянальная ідэя сёння? А якая заўтра? А якая была ў Ірландыі, якая ў Швейцарыі?» Гэта, як у народзе кажуць, бадзяга з разлікам на людзей малаадукаваных. На самой справе нацыянальная ідэя, як я вам растлумачыў, ёсць практычна ва ўсіх еўрапейскіх краін.

З.Л. А як гэта ўсё адносіцца да нас? Калі казаць пра нацыю, то яшчэ на пачатку мінулага стагоддзя беларусы думалі: беларусы мы ці тутэйшыя?

З.П. Усякую з'яву трэба разглядаць у развіцці, а з'яву, звязаную з грамадствам, трэба разглядаць у гісторыі. Нацыя — гэта гістарычная з'ява. Без ведання гісторыі яе немагчыма зразумець. Пачатак нашай нацыі,

як ні парадаксальна, быў звязаны з заканчэннем. Вялікае Княства Літоўскае, наша старажытная дзяржава, перастала існаваць у канцы васямнаццатага стагоддзя. Гэта якраз быў перыяд, калі ў Еўропе пачалі прабуджацца нацыі. У канцы васямнаццатага стагоддзя праект сваёй нацыянальнай дзяржавы з'явіўся ў Венгрыі. У тыя часы Венгрыя была часткай Аўстра-Венгерскай імперыі. Венгерскі адукаваны клас ужо гаварыў па-нямецку, але венгерскія арыстакраты зразумелі, што нацыянальная мова выведзе іх на дарогу незалежнага існавання. Быў заснаваны венгерскі тэатр, які паставіў перад сабой задачу прапагандаваць венгерскую мову. Не само тэатральнае мастацтва, а менавіта венгерскую мову. Праз уласны тэатр, праз уласную мастацкую літаратуру венгерская арыстакратыя пачала масава пераходзіць на мадзьярскую мову, і ў выніку венгры выйшлі з імперыі і атрымалі сваю краіну на сваёй роднай мове. Тое самае было паўсюдна. У балгараў, і ў палякаў.

З.Л. А ў беларусаў?

З.П. У беларусаў нацыянальнае адраджэнне праходзіла значна складаней, чым у венграў. Наша шляхта працавала на ідэю агульнай Рэчы Паспалітай. Шляхта пайшла за Рэччу Паспалітай, з палякамі. На нашу незалежнасць працавалі толькі паэты, пісьменнікі, творчыя людзі. Дзякуючы паэтам, народ, які аказаўся без імені, знайшоў сабе новае імя — беларусы. Спачатку ў пісьменніка Яна Баршчэўскага паявіўся новы тэрмін — Беларусь. У самым пачатку гэта быў тэрытарыяльны тэрмін, але з часам ён стаў нацыянальным. Дакладных меж, дзе пачынаецца Беларусь і дзе сканчаецца, не было. Час ад часу лічылася, што ў склад Беларусі ўваходзяць ці не ўваходзяць Смаленшчына, Магілёўшчына, нават Валынь. Выглядала гэта не так яскрава і пышна, як у венграў, але паціху-патроху наш праект пачаў развівацца, напаўняцца сэнсам. Напрыклад, у 1852 годзе адбылася пастаноўка оперы Вінцэнта Дуніна-Марцінкевіча «Ідылія» на беларускай мове. Тэатр Марцінкевіча працаваў як венгерскі тэатр: ён дэманстраваў адукаванай публіцы магчымасці нацыянальнай мовы. Пасля першага прадстаўлення опера была забароненая і потым ставілася нелегальна. Беларусь як паўнавартасны палітычны праект аформіўся ў 1863 годзе падчас паўстання

Кастуся Каліноўскага. Ён быў жорстка супраць шляхты, якая здрадзіла інтарэсам народа. Яго апора была на сялян, на беларусаў. Газета, якую ён выдаваў падчас паўстання, так і называлася «Мужыцкая праўда». Наступны этап — так званая першая расійская рэвалюцыя 1905 года, калі беларусам далі дазвол на свае тэатр, газеты, грамадскія аб'яднанні. Спачатку далі, потым хутка забралі. І вяршыня ўсяго — 1918 год: стварэнне Рады БНР і аб'яўленне незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі. Гэта была маніфестацыя нацыі, якая дайшла да ўсведамлення неабходнасці сваёй дзяржавы. Сцяг быў падняты. А канчатковае завяршэнне было 25 жніўня 1991 года, калі была створана наша сучасная дзяржава, прызнаная ўсёй міжнароднай супольнасцю, па ўсіх правілах, з усімі атрыбутамі: войскам, валютай, амбасадамі, урадам.

З.Л. То-бок, Беларусь зараз — нармальная нацыянальная краіна, як тая ж Венгрыя?

З.П. Дзяржава створана, дзяржава нацыянальная, але ўлада засталася фактычна каланіяльнай. Улада кіруецца з Масквы, залежная ад яе. Прытым яна самасведама пайшла на палітыку залежнасці. Улада не ўспрымае нашу культуру, мову, і гэта, мне здаецца, унікальны выпадак у сусветнай гісторыі. Іх пазіцыя па мове — сведчанне, да якой ступені яны каланіяльныя, да якой ступені ім некамфортна быць незалежнымі. Але яны не могуць вярнуцца да метраполіі, знішчыць гэтую дзяржаву: калі яны знішчаюць дзяржаву, яны знішчаюць і сваю ўладу. Дзякуючы нашаму суверэнітэту ў іх ёсць улада, а дзякуючы ўладзе ў іх ёсць магчымасць даіць гэты няшчасны народ.

З.Л. Наколькі гэтае становішча небяспечнае для Беларусі?

З.П. Небяспечнае, але, як ні дзіўна, беларусы ў гэтай палавіністай дзяржаве актыўна кансалідуюцца насуперак усяму. Я памятаю шасцідзясятыя, сямідзясятыя, васьмідзясятыя гады ў Савецкім Саюзе, памятаю дзевяностыя. У дзевяностыя гады такой кансалідацыі яшчэ не было, хаця тады сітуацыя з веданнем роднай мовы была значна лепшай. За 25 год у Беларусі ўтварылася новая салідарная беларуская нацыя. Мы зараз больш салідарныя, чым ў дзевяностых, гэта відавочна.

Людзі пасля Савецкага Саюза яшчэ не вельмі разумелі, што такое суверэнітэт, у чым яго сэнс. Цяпер, нягледзячы на ўсю прапаганду, якая ідзе з боку Масквы, нягледзячы на каланіяльную палітыку ўлады, салідарнасць паміж людзьмі на падставе беларушчыны расце і мацнее. Я са здзіўленнем гляджу на маладое пакаленне, як думаюць людзі маладзейшыя: гэта людзі Беларусі.

М.Г. Вы упомянули территорию, язык, культуру, традиции, но ни слова не сказали, как именно эта нация будет управлять сама собой. С вашей точки зрения, это не важно?

З.П. Калі справа ідзе аб нацыянальных пытаннях і прытым калі ёсць пагроза нацыі, людзі спрачаюцца аб прыярытэтах, аб галоўным. Калі ёсць пагроза нацыі, некаторыя аспекты ўвогуле не паяўляюцца, таму што яны ў дадзеным выпадку другарадныя.

М.Г. И что на первом месте?

З.П. Пры пагрозе першае пытанне заўсёды будзе мова.

М.Г. Для защиты языка, территории и суверенитета вполне хватит авторитарного лидера, такого как Лукашенко, например. Лукашенко сейчас не защищает язык, но если начнёт, то в общем ваша программа будет выполнена. А как с демократией и прочим? Для национальной идеи язык важнее, чем демократия?

З.П. Паколькі людзям сёння мова баліць, яны яе абмяркоўваюць. Калі ў нас будзе нармальная краіна, пра мову ніхто гаварыць не будзе. Што тычыцца дэмакратыі, дык вы ж пачытайце граматы рады БНР, у якіх яна абʼявіла нашу незалежнасць. Там вельмі ясна сказана што Беларуская Народная Рэспубліка была дэмакратычнай дзяржавай. Па іншаму яно і быць не магло. Сама ідэя нацыі – гэта дэмакратычная зʼява. Калі ствараецца нацыя, гэта як сямʼя, гэта думанне пра ўсіх, пра ўвесь народ. Нацыі не нараджаліся як таталітарныя рэжымы. Яны нараджаліся як дэмакратыі. Бывалі выключэнні, дзівацтвы, адхіленні, у залежнасці ад таго, якія ў дадзенага грамадства былі палітычныя традыцыі.

Але ўсе мелі цягу да дэмакратыі. У сваёй аснове нацыя прадугледжвае парламент як найлепшы спосаб арганізацыя ўлады. Калі мы сям'я, калі мы ўсе роўныя, мы маем права выбіраць сабе ўрад, вышэйшае кіраўніцтва. Гэта натуральна, і гэта і ёсць дэмакратыя.

З.Л. А калі няма мовы, нацыя ёсць ці няма?

З.П. Беларуская нацыя зараз фармуецца на аснове дзяржавы, а не на аснове мовы, але гэта вымушаная сітуацыя. Адмова ад сваёй мовы кардынальна супярэчыць сутнасці нацыянальнай дзяржавы, якой з'яўляецца Беларусь. Таму, адразу як толькі гэта рэжым падзе, усё ўстане на свае месцы, у тым ліку і наша мова. Гэта будзе не ў загадным парадку. Усё вернецца паступова. Я перакананы ў тым, што, напрыклад, не трэба патрабаваць ад людзей старэйшага ўзросту, каб яны вось прама зараз перайшлі на беларускую мову. Яны выжылі — і дзякуй Богу. Дзяцей яны аддадуць у нармальныя беларускамоўныя школы, і праз нейкі час усё вернецца на свае кругі. Я бачу ў гісторыі такія дзівосы, што нашая праблема мне здаецца вельмі лёгкай. Не забывайце, што пад намі культура Вялікага Княства Літоўскага, што само па сабе вялікі плюс.

З.Л. Такім чынам, нацыянальная ідэя — яна як гучыць?

З.П. Цяпер у нашай нацыі павінен быць амерыканскі лозунг: «Беларусь перадусім!» Зараз ёсць пагроза нашай незалежнасці, і мы павінны выратаваць Беларусь.

З.Л. А вам не падаецца, што перанос Каліноўскага ў Беларусь — гэта быў бы адзін з момантаў адстойвання незалежнасці нашай краіны?

З.П. Не. Гэта дэмагогія. Нават не варта пра гэта гаварыць. Гэта поўная дэмагогія.

З.Л. «Беларусь перадусім» — гэту нацыянальную ідэю павінны прыняць інтэлігенцыя, палітычны істэблішмэнт ці ўвесь беларускі народ, у тым ліку той мільён, які з'ехаў у Расію на заробкі?

З.П. А вы ведаеце, гэтая ідэя ўжо ўспрынятая. Вось я слухаю апытанні на вуліцах пра магчымае аб'яднанне з Расіяй. Людзям цяжка сфармуляваць сваю думку, але калі яны пачынаюць фармуляваць, то самы часты адказ: «Дык навошта нам?» Старыя людзі, якія яшчэ пры камунізме жылі, будуць казаць нешта у падтрымку аб'яднання. Але ў асноўным людзі адказваюць «а навошта?». На што людзі могуць абаперціся зараз? На тое, што наша дзяржава ёсць. Гэта самае галоўнае. Дзяржава — гэта тое, што сёння аб'ядноўвае людзей. Дзяржава робіць нас салідарнымі ў нашым агульным імкненні захаваць яе незалежнасць. І гэта не так дрэнна, як можа здацца. Вы ўявіце, калі б яе не было. Вось курды, раздзеленыя на тры часткі. У іх няма дзяржавы, інтэлігенцыя знішчана, яны могуць дзейнічаць толькі аўтаматамі, а ў сучасным свеце аўтаматамі цяжка што дасягнуць. Курдам надзвычай складана адстойваць свае інтарэсы. А ў нас — я яшчэ раз гэта з задавальненнем паўтару – ёсць свая дзяржава. На даны момант наша дзяржава — гэта наша найвялікшая каштоўнасць, наша нацыянальная ідэя, якая была дасягнута ў выніку доўгага шляху.

М.Г. А на какую страну вы бы хотели, чтобы Беларусь стала похожа? Эстония, Финляндия, кто-нибудь ещё?

З.П. Пасля таго як разваліўся Савецкі Саюз і пачалі развівацца незалежныя дзяржавы, то на мой погляд з усіх былых савецкіх рэспублік, найлепш развіваецца Эстонія. Іхняя стаўка на новыя тэхналогіі, на камп'ютарныя тэхналогіі, на адукацыю, яна вельмі правільная. Яны пайшлі па шляху, аптымальным для іх. Улічваючы, што ў іх няма асаблівых карысных выкапняў, улічваючы, што іх мала, улічваючы, што трэба рабіць стаўку так, каб іх не задушылі рознымі пабочнымі метадамі. Яны, напрыклад, адразу абрэзалі гандаль з Расіяй. Расійская эканоміка — гэта палітыка. Палітыка націску на дзяржаву. Эстонцы першыя гэта цудоўна зразумелі і і пастараліся дыстанцыявацца ад расійскага рынку. Латышы не дыстанцыяваліся і потым мелі праблемы. Хаця у Расіі для нас агромністы рынак, але гэта трэба было зрабіць. У Расіі прыярытэтам з'яўляецца палітыка паглынання тэрыторый. Гэта ментальнасць сярэдніх вякоў. Зараз дзяржава развіваецца праз сваю эканоміку, праз адукацыю, навуку, а ў іх яшчэ думанне пра развіццё за кошт далучэнне

новых тэрыторый. Гэта сярэднявечча, і перспектыў у іх ніякіх няма, таму што гэта прыводзіць да тэхналагічнай і эканамічнай адсталасці. Імперская палітыка загоніць іх у гроб. Эстонцы, паўтаруся, гэта добра разумелі і пастараліся загадзя адысці ў бок. Мы не вельмі афішавалі, але таксама гаварылі, што фактычна пастараемся ўсімі спосабамі мінімізаваць гандаль з Расіяй. У дзевяностых гадах мы разлічылі, што за восем гадоў Беларусь, зыходзячы з тых магчымасцяў, будзе адна з такіх найбольш перадавых і ў эканамічным плане краін на сходзе Еўропы. У нас для гэтага тады былі ўсе падставы. У нас шмат зямлі, амаль гектар на чалавека. У нас была вельмі навукаёмістая эканоміка, высокі ўзровень кваліфікацыі рабочых, высокі ўзровень адукацыі. За восем год мы маглі б выйсці на вельмі сур'ёзны ўзровень. Якімі мы былі б, калі б у нас атрымалася здзейсніць задуманае? Паглядзіце на сучасную Польшчу, як моцна яна вырасла за гады сваёй незалежнасці. Тады, у дзевяностыя, у іх умовы былі горшыя, чым у нас. Мы маглі б зараз быць багацейшымі за Польшчу. У Польшчы мне, дарэчы, вельмі па душы іх беражлівая палітыка захавання помнікаў культуры. Яшчэ падабаецца Швейцарыя, іх ваенная дактрына, калі кожны грамадзянін з'яўляецца салдатам. Калі нас пыталі з нагоды рэформы войска, мы заўсёды казалі, што мы будзем другой Швейцарыяй.



# АЛЯКСАНДР МІЛІНКЕВІЧ

## «ПРОСТЫЯ СЛОВЫ «ЛЮБІЦЬ БЕЛАРУСЬ» — ГЭТА НАША НАЦЫЯНАЛЬНАЯ ІДЭЯ»

euroradio·fm

Гутарылі Зміцер Лукашук, Максім Гаруноў
Фота Еўрарадыё

З.Л. Вітаю ўсіх слухачоў, наш сённяшні адмысловы госць — экс-кандыдат у прэзідэнты Аляксандр Мілінкевіч. Добры дзень, спадар Аляксандр.

А.М. Добры дзень.

З.Л. Спадар Аляксандр, як вы лічыце, а нацыянальная ідэя беларусам увогуле патрэбная ці не?

А.М. Яна патрэбная ўсім, хаця не ўсе прызнаюцца і некаторыя краіны нават слова «нацыянальнае» баяцца. Па адукацыі я фізік, і ў фізікаў ёсць такі стары, яшчэ з 70-х гадоў, жарт: «фізікі ўсё ведаюць пра прыроду, пра сябе, пра будучыню, пра былое, але не могуць вызначыць адной галоўнай рэчы — што такое час». Да сённяшняга дня фізікі не могуць даць вызначэнне часу. Яны вызначаюць, што такое сіла, што такое рух, што такое электрон, а час — не. Я думаю, што з нацыянальнай ідэяй сітуацыя падобная.

З.Л. А беларусы сфармаваліся як нацыя?

А.М. У нас існуе нацыянальная свядомасць. Напэўна, яна дэфармаваная, таму што ў нас была і паланізацыя, і русіфікацыя, мы жылі ў розных імперыях. Але, безумоўна, як нацыя беларусы адбыліся, і я думаю, што ўжо даўно. Што тычыцца нацыянальнай ідэі, то беларусам да яе яшчэ ісці і ісці. Сёння і Лукашэнка шукае нацыянальную ідэю, але ніколі яе не знойдзе, таму што ён шукае, як умацаваць уладу з дапамогай нацыянальнай ідэі, а гэта пра іншае.

З.Л. А звычайным беларусам навошта яна?

А.М. Ведаеце, для мяне нацыянальная ідэя — гэта штосьці блізкае да сям'і. Вось я з Гародні. Калі два гарадзенцы сустрэнуцца ў Менску, у іх абавязкова знойдуцца агульныя тэмы для размовы, таму што ў іх ёсць нейкае адзінства. Я лічу, што нацыянальная ідэя — гэта пра адзінства, пра дапамогу, пра давер, калі вы, як у вёсцы, не вешаеце на дзверы замок, а зачыняеце яе на трэску. Як і для сям'і, для нацыянальнай ідэі

вельмі важна памятаць продкаў, паважаць іх памяць, думаць пра тое, што будзе з нашчадкамі. Яшчэ ёсць гонар за сваё. Нават людзі, якія не думаюць пра ідэю, хочуць адчуваць гонар за сваё і гэтае жаданне таксама з'яўляецца часткай нацыянальнай ідэі.

М.Г. То, что обычно говорит Лукашенко, — про урожай, про бульбу с тушёнкой — насколько это часть беларуской национальной идеи?

А.М. Для мяне не, для некаторых так.

М.Г. Сколько этих «некоторых», как вы думаете?

А.М. Мне цяжка сказаць. Я гэтых людзей часцей за ўсё называю, не абражаючы іх, «савецкімі людзьмі». Беларускай свядомасці ў іх няма. Некаторыя з іх нават саромеюцца роднай мовы і ўжо згубілі яе. Яны не вельмі ведаюць нашу гісторыю, але адчуванне патрыятызму ў іх есць. З іх пункту гледжання, Беларусь мае межы, і іх нельга чапаць. Яны абіралі Лукашэнку як такога добрага, сучаснага, мадэрновага рэфарматара, які будзе ім рабіць Савецкі Саюз яшчэ лепшым, чым быў. Я думаю, што для часткі людзей гэта і сёння так. Яле я хацеў бы, каб беларусы былі менш савецкімі і больш беларускімі.

М.Г. Но они и так считают себя беларусами, разве нет?

А.М. Я ніколі не дазволю сабе лічыць, што яны не маюць права называцца беларусамі. Абсалютна не. Я хачу мець іх партнёрамі, каб гэтую зямлю, гэтую краіну рабіць лепшай. Мы не маем маральнага права іх адкінуць, нават калі яны згубілі беларускасць. Ім часам кажуць: «А, вось вы не беларусы там, бо гісторыі не ведаеце, на мове не размаўляеце». А што, яны вінаватыя? Яны самі адмовіліся?

М.Г. Из ваших слов следует, что вы являетесь носителем правильной беларуской национальной идеи, а они не совсем.

А.М. Я растлумачу. Я супраць гвалту, прымусу, запалохвання. Я сам калісьці атрымаў велізарную асалоду, стаў чалавекам з моцным духам

дзякуючы таму, што я даведаўся пра сапраўдную гісторыю нашай краіны. Калі гэта адбылося, я раптам адчуў такую моц, такую сілу, і я хачу, каб яны таксама гэта адчувалі. Чалавек без гісторыі — ён слабы, ён як дрэва з падсечанымі каранямі. Я хацеў бы, каб яны ўспрынялі гэта не праз дыктат і не праз прымус. Я хацеў бы, каб яны ўспрынялі гэта праз веды, праз адчуванне свайго месцы ў гісторыі. Каб яны ўсвядомілі, хто мы, адкуль, куды мы ідзём і хто мы ёсць зараз.

М.Г. У советских людей тоже есть своя верность корням. С их точки зрения, беларусы «заўсёды былі» крестьянами, нищими, бедными. Их эксплуатировали помещики, ксендзы, короли, попы, цари. В результате Октябрьской резолюции они освободили себя и построили свою Беларускую Советскую Социалистическую Республику, где у них наконец-то появилось право голоса. А вы, как им кажется, выступаете на стороне эксплуататорских классов.

А.М. Выбачайце, але ў мяне іншае бачанне савецкага мінулага. Можа таму, што я з Заходняй Беларусі. Я нарадзіўся ў Гродне, але ўсе мае дзяды былі з вёсак, як і ў большасці беларусаў. Мой дзядуля, Аляксандр Мілінкевіч, які вельмі паўплываў на мяне, быў з вёскі Бершты, побач з сучаснай літоўскай мяжой. Яго пакаленне памятала дарэвалюцыйную Беларусь і памятала Беларусь за польскім часам. У Польшчы не было абсалютнай дэмакратычнай роўнасці паміж каталікамі і праваслаўнымі. Але яны памяталі, што была ўрадавая праграма, якая давала ім зямлю, дзе яны маглі будавацца, і кавалак лесу. Памяталі танныя крэдыты і зямельны банк, які іх даваў. А пры Саветах іх пачалі заганяць у калгас. Найбольш выдатных гаспадароў выслалі ў Сібір. Яны цанілі, што пры Саветах іх дзеці і ўнукі хадзілі ў школу да дзясятага класа. Некаторыя нават скончылі ўніверсітэт. Але яны памяталі, што пры Саветах яны не мелі пашпартоў і не маглі выехаць за межы сваіх вёсак. Гэта быў рабскі стан, і яны памяталі гэта. Яны, напрыклад, казалі, што нават немцы напачатку былі лепшыя, чым калгасы, у якія іх насільна зганялі. Калі немцы штосьці бралі на войска, то заўсёды лічылі, колькі дзяцей у сям'і, і бралі столькі, каб хапіла і дзецям. Калі пачаліся партызаны, то немцы спальвалі людзей разам з дзецьмі, з жывёлай, але потым уначы прыходзілі партызаны, і гвалт не спыняўся, а працягваўся.

М.Г. Почему тогда избиратели Лукашенко голосуют, условно говоря, за советский флаг, а не за демократический бело-красно-белый? У них другой исторический опыт?

А.М. Ведаеце, калі б у мяне была ўлада, то я б у першы дзень правеў бы па тэлебачанні сур'ёзную дыскусійную праграму, каб навукоўцы змаглі пераканаць людзей, што варта вяртацца да тых сцягоў, што маюць гісторыю, а не тых, што штучна створаныя.

М.Г. На передаче будет присутствовать только одна сторона, я правильно услышал?

А.М. Можна запрасіць і тых, хто супраць. Галоўнае — растлумачыць людзям, што адмаўляцца ад свайго — гэта здрадзіць пакаленням, якім змагаліся за свабоду пад гэтымі сцягамі. І тут я зноў паўтараю свой тэзіс аб тым, што веданне гісторыі — гэта такая асалода, такое ўзмацненне, што многія людзі ўспрымуць яго як падтрымку духу, падтрымку волі, характару.

З.Л. Ці магчыма аб'яднаць нацыю?

А.М. Магчыма, калі не будзеш абзывацца кепскімі словамі. Калі будзеш ставіцца з павагай. Калі ты дэмакрат, ты мусіш паважаць іншы пункт гледжання, бо далікатнасць у табе павінна быць на першым месцы. І яшчэ трэба быць гатовым да таго, што нягледзячы на ўсе твае намаганні і далікатнасць, усё роўна застануцца людзі, якія будуць стаяць за сённяшнія чырвона-зялёныя сцягі.

З.Л. Як вярнуць беларускую мову?

А.М. Я магу расказаць, як праходзіла беларусізацыя ў нас ў Гародні напачатку дзевяностых. Я браў удзел і магу распавесці, як было. Апошняя школа з беларускай мовай у нас зачынілася, можа быць, у шэсцьдзесят сёмым годзе. Людзі на вуліцах размаўлялі на расейскай мове, беларуская лічылася мовай вёскі. Напрыканцы перабудовы быў прыняты закон «Аб мовах». Згодна з ім, беларуская мова ў нас была дзяржаўная,

а руская — мова міжнацыянальных зносін. У Гарвыканкаме, дзе я быў намеснікам старшыні, было прынята рашэнне, якія школы ў будучыні будуць беларускімі, а якія рускімі. Мы вызначылі што семдзесят пяць працэнтаў будуць беларускімі, а дваццаць пяць працэнтаў рускімі. Я сам хадзіў на сустрэчы і пераконваў бацькоў, што трэба запісваць дзяцей у беларускую школу і навучаць па-беларуску. Я выступаў па-руску, каб быць ім бліжэй, каб не было дыстанцыі. Мог сказаць пару фраз па-беларуску, але толькі каб пераканаць. Мае аргументы былі простыя: дзеці будуць жыць у краіне, якая размаўляе па-беларуску. Шушкевіч, кіраўнік дзяржавы, гаворыць па-беларуску. Тэлебачанне — таксама па-беларуску. На вуліцах па-беларуску яшчэ не гавораць, але чакаць ужо нядоўга. Акрамя таго, у меня быў жалезны аргумент: у Гарадзенскім універсітэце перайшлі на беларускую мову. Нават фізікі, хімікі і біёлагі перайшлі на выкладанне па-беларуску, не кажучы ўжо пра гуманітарыяў. Спасылаючыся на ўніверсітэт, я казаў бацькам, што калі іх дзеці вывучаць беларускую мову, яны будуць паўнавартаснымі грамадзянамі гэтай новай беларускай Беларусі. Расейскую мову дзеці вывучаць і так, яна ў нас паўсюль. І гэта спрацавала. У дзевяноста трэцім годзе ў нас семдзесят пяць працэнтаў першых, другіх і трэціх класаў былі беларускімі. То-бок, перагіны, напэўна, былі, але няможна казаць, што мы змарнавалі рэформу. Беларусізацыя ішла поўным ходам.

З.Л. А як яна скончылася?

А.М. З дзевяноста чацвёртага поўны адкат — і ўсё, і няма больш беларускага школьніцтва. Людзі адхіснуліся ад беларусізацыі, бо быў страшэнны эканамічны крызіс. Настаўнікі зараблялі па дзесяць-пятнаццаць даляраў. Хто на меншых работах, тыя яшчэ менш. Людзі хацелі выжыць, а Лукашэнка ім абяцаў, што будзе як у Савецкім Саюзе: будзе стабільная зарплата, на якую можна пражыць і будуць рэформы, якія дазволяць развівацца, а не беларусізацыя, якая рабілася.

М.Г. Вы вначале сказали, что беларусы стесняются своего языка, считают его не очень культурным. Массовый переход на русский связан с этим?

А.М. Няма на свеце народа, які дабравольна адмаўляецца ад сваіх каранёў, ад сваёй мовы, ад сваёй культуры і ад сваіх традыцый. За гэтай адмовай заўсёды стаіць дзяржаўная палітыка. Я вам прывяду два прыклады са свайго досведу. Мае бацькі баяліся гаварыць па-беларуску і па-польску, хоць ведалі гэтыя мовы. Я вучыўся ў рускамоўнай школе. Яны баяліся таму, што большасць інтэлігенцыі з горада Гродна аказалася ў Сібіры. Бацькі не хацелі ехаць ў Сібір і таму аддавалі перавагу расейскай мове. Другі прыклад: я толькі абараніў дысертацыю ў Менску і прыехаў у Гарадзенскі ўніверсітэт. Мяне адразу адправілі прымаць экзамен па фізіцы разам са старым выкладчыкам, маім сябрам. Мы з ім сядзім, слухаем адказы. Да нас падыходзіць дзяўчынка і пачынае расказваць. Уся чырвоная, заікаецца, не можа сказаць. Я бачу, што яна вельмі хвалюецца. Можа, і ведае тэму, але расказвае проста на нуль. Я пытаюся: «Можа, вам штосьці перашкаджае?» А яна кажа: «Я вучыла ў школе фізіку па-беларуску і не магу па-руску гаварыць». І я тады зразумеў, на якім узроўні ў нас моўная дыскрымінацыя. Беларускія школы, можа, яшчэ і захаваліся, але ні на адным факультэце, акрамя філалагічнага, няма спецыяльнасцяў на роднай мове. Гэта відавочнае прыніжэнне чалавечай годнасці. Бацькі тады думалі і сёння думаюць так: «Навошта нам навучаць дзяцей па-беларуску, як яны прыйдуць у дарослае жыццё, ім будзе ўсё незразумела, яны адстануць і не зробяць кар’еры?» Вось таму я і не магу сказаць, што беларусы самі адмовіліся.

М.Г. А у вас есть примеры, когда беларусы боролись за свой язык?

А.М. Вось вёска майго дзеда, Бершты, пра якую я вам ужо казаў. У канцы Першай сусветнай вайны ў ёй жыло каля трох тысяч чалавек. Як толькі Заходняя Беларусь адышла да Польшчы, дзвесце хлопцаў з гэтай вёскі пайшло ў лес у партызаны, каб змагацца супраць палякаў, бо палякі не хацелі рабіць беларускае школьніцтва. Вясковыя людзі з малой адукацыяй патрабавалі беларускай дзяржавы. Ну, праўда, іх хутка вылавілі, але напрыканцы дваццатых гадоў паўстала Таварыства беларускай школы. Амаль уся вёска запісалася, людзі змагаліся за сваё. Мой дзед прасядзеў два гады ў польскай турме, таму што патрабаваў даць

беларусам культурную аўтаномію і школы на роднай мове. Можа, так было не паўсюдна, але такіх выпадкаў было многа.

З.Л. Што б вы зрабілі вось зараз?

А.М. Трэба даць магчымасць расказваць нацыі пра гісторыю нацыі, пра значэнне яе мовы. Гэта называецца асвета. Асветай трэба займацца і настаўнікам, і грамадскім дзеячам. Я думаю, што калі займацца асветай як след, большасць людзей з задавальненнем будзе вяртацца да сваёй спадчыны. Толькі б не наламаць дроў. Дровы трэба ў лесе браць, а не на ідэалагічным змаганні.

З.Л. Нацыянальная ідэя, у адпаведнасці з якой жыве Аляксандр Мілінкевіч і ў адпаведнасці з якой ён бы марыў, каб жыла Беларусь?

А.М. Вельмі простыя словы: «Любіць Беларусь».




# ВАЛЕРЫЙ ВАРАНЕЦКІ

## «ТРЭБА ЎСВЯДОМІЦЬ — МЫ ЎСЕ СТАІМ НА ПЛЯЧАХ НАШЫХ ПРОДКАЎ»

euroradio·fm

Гутарылі Зміцер Лукашук, Максім Гаруноў
Фота Еўрарадыё

З.Л. Вітаю ўсіх слухачоў, сёння з намі дэпутат Палаты прадстаўнікоў, старшыня міжнароднай камісіі, дыпламат, былы пасол Беларусі ў Аўстрыі, Харватыі, Еўрасаюзе, пры ААН і гэтак далей, Валерый Варанецкі. Добры дзень, спадар Валерый.

В.В. Добры дзень.

З.Л. Нацыянальная ідэя нам патрэбная?

В.В. Яна абавязкова патрэбная кожнай нацыі, якая хоча займаць «свой пачэсны пасад між народамі», як казаў наш класік Янка Купала. Немагчыма забяспечыць суверэннасць нацыі, адмовіўшыся ад яе нацыянальных каштоўнасцей. Што такое нацыянальныя каштоўнасці? Гэта тое, што характарызуе нейкае мноства людзей як народ, што падкрэслівае яго ўнікальнасць сярод іншых мностваў. Гэта і нацыянальная мова, і нацыянальная гісторыя, і нацыянальныя традыцыі, і нацыянальная культура. Кожны член нацыі павінен ведаць гэта ўсё розумам і адчуваць сэрцам.

З.Л. Калі пачалася гісторыя Беларусі?

В.В. Я б пайшоў з часоў нашай летапіснай гісторыі, якая адлюстравана ў хроніках, летапісах. Але мы можам ісці і далей. У нашы дні ў нас ёсць археалогія, генетыка, антрапалогія. Мы можам вывучаць гісторыю свайго народа нашмат глыбей, чым тое, што мы можам знайсці ў летапісах. Наш народ — я хачу гэта асабліва падкрэсліць — стагоддзямі панаваў на сваёй зямлі, абараняў яе і на поўначы, і на захадзе, і на ўсходзе, і на поўдні. У нас нават цэрквы будаваліся як крэпасці. Наш народ разумеў, што ў любы момант можа з’явіцца вораг. Паглядзіце на нашы замчышчы і крэпасці ў Крэве, у Лідзе, у Мсціславе, у Оршы, у Смаленску. У нас слаўная ваенная гісторыя. Мы перамагалі нашых ворагаў пад Грунвальдам, пад Сінімі Водамі, пад Кірхгольмам, пад Оршай.

М.Г. А было что-нибудь, кроме войн с соседями?

В.В. Нашыя законы. Нашыя продкі ўсхвалялі цудоўныя законы. Можна

ўспомніць Статуты Вялікага Княства Літоўскага. Я ўсюды кажу, што гэта была першая канстытуцыя ў Еўропе. Акрамя канстытуцыі, у нашых продкаў было ўсё добра з асветай. Напрыклад, мы адзначаем 500-годдзе друкавання беларускай Біблії, Біблії Скарыны. Нашы продкі надрукавалі яе раней, чым усе нашы суседзі. Нават раней, чым французы і англічане, гэта таксама трэба ўлічваць і падкрэсліваць.

М.Г. Что потом пошло не так?

В.В. Атрымалася змена геапалітычнага становішча. У нашым рэгіёне з'явіліся новыя магутныя гульцы, з якімі мы не змаглі знайсці агульнай мовы, скажам так. Частка нашага адукаванага грамадства была знішчожана ў выніку войнаў. Частка пачала арыентавацца на Рэч Паспалітую і адышла ад беларушчыны. Дарэчы, Рэч Паспалітая была канфедэратыўная дзяржава, і мы там былі роўным партнёрам. Гэта вялікая памылка, калі нехта думае, што ў Рэчы Паспалітай Польшча была першай дзяржавай, а Беларусь была другой. Нічога такога, мы захоўвалі ўвесь свой суверэнітэт. Але вельмі важна тое, што мы выжылі. Сёння мы можам казаць, што мы аднавілі сваю беларускую дзяржаву. Мэты, якія ставілі перад сабой нашы продкі, мы здзейснілі. Незалежная Беларусь, незалежная беларуская дзяржава сёння існуе, і мы павінны ставіць перад сабой іншыя мэты.

М.Г. Например?

В.В. Сёння мы маглі б гаварыць аб тым, каб у нас была добрая адукацыя. У першую чаргу, звязаная з матэматыкай, фізікай, сучаснай хіміяй, інжынернымі навукамі. У Беларусі добра сябе паказаў айці-сектар, інфармацыйныя тэхналогіі. Шмат якія кампаніі з усіх канцоў свету рэгіструюцца ў Беларусі. Мы можам заняць першыя пазіцыі у айці-сектары, у адукацыі, у навуцы, у эканоміцы і гэта была б добрая мэта, да якой варта было б імкнуцца.

З.Л. «Жыве Беларусь» губляе актуальнасць?



В.В. Я б інакш выказаўся. Да пачатку нашага адраджэння, мы казалі:

«Жыве Беларусь». Сёння мы, беларусы, займелі свой дом. Нас амаль пазбавілі нашага дома, але цяпер ён у нас ёсць і трэба казаць: «За шчаслівую і магутную Беларусь», ці «Жыве шчаслівая і магутная Беларусь». Мы не хочам, каб паўтарыліся тыя нягоды і няшчасці, з якімі сутыкнуліся нашы продкі. Мы павінны так збудаваць наш зноўку аднаўлены дом, каб людзі не хацелі шукаць шчасця недзе за морам. Мы ўсе павінны разумець, што мы можам знайсці шчасце у сваім доме. У маім разуменні, мы сёння павінны будаваць магутны і шчаслівы беларускі дом — Маці Беларусь.

З.Л. Вы ўпэўнены, што беларусы ў яго павераць?

В.В. Ведаеце, вось вазьміце Радуніца ці Дзяды. Паглядзіце, колькі людзей прыязджае на могілкі. Наша культура так ўладкована, што мы задумваемся аб тым, хто былі нашы дзяды, прадзеды, як яны жылі, чым. Людзі памятаюць пра сваіх продкаў. Трэба час, каб гэта стала падставай для пачуцця ўласнай годнасці і імкнення ўзяць на сябе адказнасць за краіну. Я ўпэўнены, што развіццё нацыянальнай самасвядомасці ідзе ў нас у геаметрычнай прагрэсіі. Я думаю, калі мы з вамі праз пяць гадоў сустрэнемся, мы прызнаем, што праблем, якія абмяркоўваюцца сёння, проста не будзе. Я ў гэта веру.

З.Л. У мяне адчуванне, што дзяржава робіць усё, каб знішчыць самасвядомасць.

В.В. Таксама не згаджуся. Дзяржава спакойна, паступова робіць тое, што трэба. Дваццаць гадоў назад, калі я быў значна маладзейшым, мне хацелася рыўка, хуткага развіцця. Але справа ў тым, што тады не ўсе грамадзяне разумелі выгады сваёй нацыянальнай дзяржавы. Працэс разумення ідзе, у яго свой рытм, свая дынаміка. Мы можам успомніць палітыку, якую праводзіла БНФ. Жаданне за адну ноч усё перайначыць выклікала адпаведную рэакцыю ў нашых людзей і гэта сыграла вельмі негатыўную ролю. У нейкім сэнсе мы згубілі час. Народ як палітычная супольнасць не быў гатовы да такога агрэсіўнага падыходу, і маятнік, на жаль, качнуўся ў другі бок.



# ВАЛЕРЫЙ КАВАЛЕЎСКІ

## «ГОДНАСЦЬ, УЗАЕМАПАВАГА І РОЎНАСЦЬ УСІХ ПЕРАД ЗАКОНАМ — МАЯ ІДЭЯ»

euroradio·fm

Гутарылі Зміцер Лукашук, Максім Гаруноў
Фота Еўрарадыё

З.Л. Вітаю ўсіх слухачоў, наш сённяшні госць, які адмыслова для запісу нашай праграмы прыляцеў з ЗША, — былы беларускі дыпламат, які зараз працуе ў ЗША ў арганізацыі, імя якой мы нават не будзем называць, Валерый Кавалеўскі. Добры дзень, спадар Валерый.

В.К. Добры дзень.

З.Л. Беларусам патрэбная нейкая нацыянальная ідэя?

В.К. Я не думаю, што нацыянальная ідэя, яе прысутнасць, стане выратаваннем для Беларусі. Гэта можа быць адным з фактараў таго, што дапаможа Беларусі знайсці сябе, свой голас, сваё месца ў свеце.

З.Л. Нацыянальная ідэя — гэта што?

В.К. Тое, што аб'ядноўвае людзей, якія завуць сябе беларусамі. Тое, што прапісана ў нашым ДНК, што з'яўляецца неад'емнай часткай нашага мыслення, нашай псіхалогіі.

З.Л. Чаму, прыехаўшы ў іншую краіну, нам, простым грамадзянам, даводзіцца тлумачыць, што такое Беларусь?

В.К. Некалькі тыдняў таму я быў у Судане і да каго б я ні звяртаўся, з кім бы я ні размаўляў, усе добра ведаюць, дзе Беларусь знаходзіцца. Я разумею, што гэта адносіны Лукашэнкі і іх уласнага дыктатара, якога, дарэчы, толькі што зрынулі. Нягледзячы на тое, што дыктатара зрынулі, шараговыя суданцы добра ведаюць, што такое Беларусь. Але гэта выключэнне. У Францыі, у Германіі, а часам і ў Польшчы не вельмі добра разумеюць, што такое Беларусь. Функцыя інфармавання міжнароднай грамадскасці пра тое, што Беларусь існуе, належыць дзяржаве. Пагаджуся з тым, што ў гэтым напрамку трэба яшчэ шмат чаго зрабіць. Але мне здаецца, апошнімі гадамі Міністэрства замежных спраў стала значна лепш распавядаць свету пра тое, што такое Беларусь і ў чым наша асаблівасць.

З.Л. У зносінах з дыпламатамі іншых краін на які варыянт нашай гісторыі вы абапіраліся: ад Полацкага княства ці савецкі?

В.К. Калі вы прааналізуеце, пра што беларускія дыпламаты гавораць з замежнымі дыпламатамі, з палітыкамі, і тое, што яны гавораць у Беларусі, то адрозненне будзе вельмі істотнае. За мяжой мы ганарымся

сваёй багатай гісторыяй, сваёй старажытнасцю. Мы расказваем пра канфлікты з Расіяй, пра трынаццацігадовую вайну, як Беларусь згубіла палову свайго насельніцтва, сваіх самых кваліфікаваных, самых прасунутых людзей. Тут, у Беларусі, мы пра гэта маўчым, не гаворым, таму што мы не хочам сапсаваць нашы адносіны з вельмі важным партнёрам, з Расіяй. Калі мы ў Беларусі чуем нейкіх чыноўнікаў, якія паказваюць сваё няведанне гісторыі, то гэта, канешне, ганебна, гэта недапушчальна. З іншага боку, трэба разумець, наколькі гэта складаная тэма.

М.Г. А в чём сложность?

В.К. Вось у нас было шмат войнаў з Расіяй. У той самы час у нас не было канфліктаў з Польшчай, з літоўцамі, з Украінай. Калі мы пачнем гаварыць аб нашых войнах з Расіяй, то тады лагічна паўстае пытанне, чаму мы сябруем з тым, з кім столькі ваявалі? Чаму мы не сябруем з тымі, з кім мы не ваявалі? Зноў жа, возьмем гісторыю з Касцюшкам і яго паўстаннем. Калі мы будзем услаўляць Касцюшку, то мы адразу будзем павінны сказаць, што генерал Сувораў задушыў паўстанне Касцюшкі. Але чаму тады ў нас ёсць Сувораўская вучэльня, а няма нічога, прысвечанага Касцюшку? Павінна быць паслядоўнасць у дэкларацыях і дзеяннях, а ў нашым выпадку гэта не заўсёды проста. Я думаю, што сёння ў нас такая свядомая тактыка пазбягання складаных пытанняў і практычных крокаў. У нашым выпадку ёсць падзеі, якія лепш увогуле не закранаць, каб не адказваць на непрыемныя пытанні.

З.Л. Чаму ў нас зараз такі стан з беларускай мовай?

В.К. Я думаю, што гэта звычайная русіфікацыя і вынік таго, што ў трыццатыя гады мінулага стагоддзя ў нас вынішчалі інтэлектуальную эліту. Мы зараз ведаем пра Якуба Коласа і Янку Купалу. Ці можам мы быць упэўненымі, што зараз мы чытаем найлепшыя творы таго перыяду? Што яны не былі знішчаныя разам з іх аўтарамі? Думаю, гэта магло пачацца і яшчэ раней, падчас бесперапынных крывавых войнаў напрыканцы Сярэднявечча, калі вынішчалася наша насельніцтва. Звычайна ў войнах у першую чаргу гінуць самыя актыўныя, самыя абараназдольныя, хто гатовыя стаяць за сябе, стаяць за сваю краіну. Іх вынішчалі, а тыя, хто гатовы быў здацца, паддацца, скласці зброю, тыя выжывалі. Магчыма, гэта і прывяло да таго, што ў беларусаў сфармаваўся вельмі цярплівы характар. Мы гатовыя паступацца сваімі інтарэсамі. Калі паглядзець, як успрымаюць беларусаў на постсавецкай прасторы, то гэта вельмі спакойныя, неканфліктныя людзі, якія не будуць чапляцца, не будуць біцца

за сваё імя. Верагодна, так склалася праз канфлікты, праз вынішчэнне, праз адбор.

З.Л. Мы не размаўляем на сваёй мове дзеля сваёй бяспекі, я вас правільна зразумеў?

В.К. Магу сказаць, што размаўляць на беларускай мове значна прасцей у Злучаных Штатах Амерыкі. У Злучаных Штатах я са сваім сынам размаўляю па-беларуску, і ніколі не адчуваю тармазоў, не аглядваюся па баках. Калі я прыязджаю ў Беларусь і размаўляю з ім па-беларуску на вуліцы, я часам магу злавіць на сабе здзіўленыя погляды, і гэта не вельмі прыемна, гэта напружвае. Толькі самыя смелыя сёння ў Беларусі могуць сабе дазволіць размаўляць на беларускай мове кожны дзень, у кожным асяроддзі і не тармазіць.

З.Л. Пытанне мовы важнае ці не?

В.К. Абсалютна важнае, але яно не адзінае абсалютна важнае пытанне для таго, каб сфармуляваць нацыянальную ідэю. Калі дазволіце, я перайду да свайго адказу на пытанне, што такое нацыянальная ідэя ў маім разуменні. Я думаю, што гэты адказ запісаны ў самім гербе беларускім «Пагоня». «Пагоня» — гэта сімвал таго, што мы ўсе павінны стаяць адзін за аднаго. Мы павінны за сваіх стаяць. Калі мы хочам, каб Беларусь развівалася, мы не можам не ўсведамляць таго, што перш за ўсё яна складаецца з людзей. Нацыю складаюць людзі. Людзі, якія нацыю рухаюць наперад, раскрываюць свой творчы патэнцыял, якія працуюць штодзённа і абараняюць адзін аднаго. Мне здаецца, што гэта магло б стаць адной з нацыянальных ідэй у Беларусі. На вялікі жаль, мне здаецца, што на сённяшні дзень беларусы адзін за аднаго не стаяць.

З.Л. Можа, гэта таму што мы пакуль не нацыя?

В.К. Я ўпэўнены, што мы нацыя, але нацыя, якая нараджаецца. Памяняліся абставіны навокал нас, мы выйшлі на новы гістарычны этап. Мы зараз незалежная краіна. Мы маем магчымасць весці гутарку пра саміх сябе. Мы маем разбірацца з тым, хто мы такія, шукаць адказы на пытанні, на якія мы шмат стагоддзяў не маглі знайсці адказу.

З.Л. Як шмат беларусаў карыстаюцца амерыканскай свабодай, каб пачаць гаварыць на беларускай мове?

В.К. Бывае такое, што шукаюць сваю ідэнтычнасць, адказы на пытанні пра тое, хто яны. Не магу сказаць, што гэта павальна. Ёсць людзі, якія едуць па кавалак каўбасы. Ёсць людзі, якія шукаюць рэалізацыі, якім проста не хапае кіслароду ў Беларусі. Нават самыя таленавітыя ў Беларусі могуць трапіць у абставіны, калі выпісаны воўчы білет і ніякіх варыянтаў, акрамя эміграцыі, не застаецца.

З.Л. Наколькі важны пошук нацыянальнай ідэі, размовы пра яе?

В.К. Увогуле важна, каб у грамадстве развіваўся дыялог, каб задавалі складаныя пытанні, крытыкавалі адзін аднаго. Каб гэта было канструктыўна, каб праз гэты дыялог мы рухаліся кудысьці. Мне з-за мяжы заўважна, што ў Беларусі не так шмат дыялогу. Лідары думкі, журналісты, эксперты, палітолагі вельмі часта размаўляюць самі з сабой. Няма абмену меркаваннямі, ўзаемнай крытыкі, нейкага жадання выйсці на паразуменне.

З.Л. На вашу думку, чаму нашы лідары паводзяць сябе менавіта так?

В.К. Таму, што лідараў, якія былі, ці знішчылі, ці паламалі, ці выгналі з краіны. Людзі, якія маглі бы стаць лідарамі, проста баяцца выйсці на першы план, стаць кімсьці, кінуць выклік сістэме. З другога боку, мы не абараняем нашых лідараў. На прэзідэнцкіх выбарах мы бачылі, як лідары траплялі ў турмы. Мы дапамагалі ім чымсьці, але вельмі хутка забывалі пра тое, што гэтыя лідары церпяць за нас усіх. Пасля такой рэакцыі грамадства вельмі складана чакаць, што новыя лідары захочуць стаць такімі ахвярнымі авечкамі і пойдуць наперад, ведаючы, што ў складанай сітуацыі істотнай падтрымкі ў іх не будзе.

З.Л. Сцяг, сімволіка — яна мае значэнне і якой яна мусіць быць? Можа быць, адразу «Пагоня» і чырвона-зялёны сцяг?

В.К. Цікава, што калі я працаваў у МЗСе, у мяне на стале стаяў сцяжок з бел-чырвона-белым сцягам. Я працаваў пад чырвона-зялёным, але бела-чырвона-белы сцяг у мяне таксама прысутнічаў. І дарэчы, ён успрымаўся нармальна. Нават на ўзроўні кіраўніцтва міністэрства. Ніхто мяне не выганяў з кабінета. Калі я пісаў лісты па-беларуску, гэта таксама ўспрымалася збольшага нармальна. На сённяшні дзень мы маем тое, што маем. Калі я бачу чырвона-зялёны сцяг за мяжой, то я не адварочваюся і ў прысутнасці іншых людзей, якія нічога пра нас не ведаюць. Я не буду казаць ім штосьці адмоўнае, штосьці негатыўнае.

Магчыма, калі мы будзем трохі больш знаёмыя, я распавяду пра тое, што ў нас было. Але ў любым выпадку гэта сімвал маёй дзяржавы, я павінен яго паважаць. Калі прыйдзе час — а я спадзяюся, што такі час прыйдзе — і вернецца бела-чырвона-белы сцяг і «Пагоня», то чырвона-зялёны сцяг зойме сваё пачэснае месца дзе-небудзь у музеях. Яго ніхто не будзе рваць, калі яго будуць здымаць з галоўнага флагштока краіны. Яго здымуць акуратна, пачэсна і вернуць у музей.

З.Л. Як выглядае ваша Беларусь будучыні?

В.К. У нас будзе свая краіна, дзе людзі будуць паважаць адзін аднаго. Дзе годнасць чалавека будзе на першым месцы. Дзе мы зможам рэалізоўваць сябе так, як нам хацелася б. Гэта не азначае, што мы павінны ствараць цяплічныя ўмовы адзін для аднаго. Калі ласка, ты можаш дабіцца ўсяго самастойна. Але ва ўсякім разе ніхто цябе не будзе біць па руках. Ніхто не будзе цябе караць за тваё жаданне быць самім сабой. Я думаю, калі б у нас з'явілася такая краіна, людзі пачалі б адчуваюць прыналежнасць да адной грамады, што мы адныя людзі, што мы разумеем адзін аднаго. Самае галоўнае — з'явілася б павага да годнасці адзін аднаго.

З.Л. Не бачу ў вашай карціне месца для лядоўні. У вас ёсць месца для лядоўні? Ці толькі для грамадзянскіх свабод і культуры дыялогу?

В.К. А хто створыць працоўныя месцы? У наш час дзяржава больш не стварае працоўных месцаў. Працоўныя месцы ствараюць людзі, якія з'яўляюцца прадпрымальнікамі, бізнесменамі, якія ўмеюць рызыкаваць, якія не баяцца ўзяць ініцыятыву і зрабіць нешта абсалютна новае. Гэтыя людзі ствараюць для сябе лядоўню і тым самым дапамагаюць стварыць лядоўні для ўсіх вакол сябе. Менавіта людзі, якія вольныя, разняволеныя, якія адчуваюць, што іх не гнабяць, што іх не падсякаюць, што іх падтрымліваюць і разумеюць, тыя людзі раскрываюць свой творчы патэнцыял, і гэта ідзе на карысць усяму грамадству.

З.Л. Нацыянальная ідэя ад Валерыя Кавалеўскага трыма сказамі?

В.К. Мы павінны стаяць за сваіх. Мы павінны ствараць умовы для развіцця кожнага і ўсіх. Узаемная павага і годнасць чалавека павінны быць прызнаны каштоўнасцямі для ўсёй грамады.



# АЛЕНА
# АНІСІМ

## «НАЦЫЯНАЛЬНАЯ ІДЭЯ МУСІЦЬ БАРАНІЦЬ НАС АД ВІРУСУ АНТЫБЕЛАРУСКАСЦІ»

euroradio·fm

Гутарылі Зміцер Лукашук, Максім Гаруноў
Фота Еўрарадыё

З.Л. Вітаю слухачоў «Еўрарадыё», наш сённяшні госць — дэпутат палаты прадстаўнікоў, старшыня Таварыства беларускай мовы Алена Анісім. Спадарыня Алена, добры дзень.

А.А. Добры дзень.

З.Л. Па-першае, я ведаю, што ў вашым кабінеце ў палаце прадстаўнікоў вісіць на сцяне такі плакат з цытатай кіраўніка Беларусі Аляксандра Лукашэнкі, дзе ён выказваўся ў абарону беларускай мовы.

А.А. Пра тое, што мова з'яўляецца важным чыннікам беларускай нацыі.

З.Л. А вось зараз мы паслухаем другую рэпліку Аляксандра Лукашэнкі. Мне цікава, ці павесілі б вы гэтую цытату на іншай сцяне вашага кабінета. Калі ласка.
«Мы живём как живём, без этой идеи, а хотелось бы. Но её нет, её нет. И я абсолютно убеждён, придумать её невозможно. Нас к этому должна подвести сама жизнь, само развитие нашей страны».
Ну, як вы зразумелі, гэта наконт нацыянальнай ідэі Аляксандр Рыгоравіч выказваўся. Дык вось, няма ідэі, на яго думку. Цытату гэту павесіце ў сябе?

А.А. Я не хацела б вешаць гэтую цытату. Не таму што я з ёй не згодная ці яшчэ што-небудзь. Я лічу, што сфармуляваць нацыянальную ідэю мусіць палітычная эліта краіны, якая адчувае сваю адказнасць за лёс Беларусі, здольная такія ідэі фармуляваць і ажыццяўляць іх.

З.Л. А вы сябе прылічваеце да нацыянальнай эліты Беларусі?

А.А. Гэта няхай робяць палітолагі.

З.Л. А нам па сакрэце скажаце?

А.А. Ніякіх сакрэтаў няма. Я проста лічу сябе адказным грамадзянінам Рэспублікі Беларусь і хачу зрабіць свой унёсак, каб Беларусь развівалася як цывілізаваная, дэмакратычная, прававая дзяржава. Каб яна займела сваё месца і ў гурце еўрапейскіх краін, і ўсіх астатніх краін свету.

З.Л. Вось вы можаце сфармуляваць нацыянальную ідэю Беларусі?

А.А. Ну, я магу прайсціся па гісторыі нашай краіны, нашага народа, і паглядзець, якім чынам, хто і як спрабаваў яе сфармуляваць. Можа быць, не называючы гэта нацыянальнай ідэяй, але фармулюючы жаданні, памкненні, якімі жылі людзі, чым яны цікавіліся. Ёсць выказванні розных культуролагаў, філосафаў і літаратараў.

М.Г. Может быть Лукашенко ищет идею, которая была бы совместима с ним?

А.А. Згодная з вамі. Напэўна, так можна трансфармаваць, што Аляксандр Рыгоравіч Лукашэнка сярод прапанаваных ідэй, якіх вельмі многа, не знайшоў сабе прымальнай. Ну, значыць, трэба, як кажуць, пэўнай частцы грамадства, зацікаўленай менавіта ў нацыянальнай ідэі, сфармуляваць яе і прапанаваць.

М.Г. И если какой-нибудь поэт найдёт формулу, с которой Александру Григорьевичу будет комфортно, то он сразу даст большую пресс-конференцию о том, что наконец-то нашлась беларуская идея.

А.А. Ну, вось я б усё ж разглядала гэта трошачкі пад іншым ракурсам. Справа ўся ў тым, што найперш ідэя павінна захапіць грамадства. Я зыходжу з таго і настойваю на тым, што грамадства мае большае права, чым хтосьці яшчэ. А лідар, калі ён прэтэндуе на ролю лідара, мусіць прыслухоўвацца да грамадства і адчуваць. Так, у прынцыпе, у большасці краін і адбываецца. А тое, што датычыцца беларускай нацыянальнай ідэі, то ў розныя часы яна фармулявалася па-рознаму. Напрыклад, у Францішка Скарыны было сваё бачанне нацыянальнай ідэі.

М.Г. А у Франциска Скорины есть место для Александра Григорьевича?

А.А. Ну, я не ведаю, чаму вы ўвесь час зводзіце толькі да адной фігуры, мне гэта не зусім зразумела.

М.Г. Мы же сейчас рассуждаем о словах Александра Григорьевича, верно? Если у Скорины ему места нет, то может быть, у Янки Купалы?

А.А. Ёсць ва ўсіх. Калі мы так паглядзім па ўсёй гісторыі Беларусі, і ў выказваннях выдатных асоб, у постацях беларускіх, то ўсіх яднае любоў да радзімы, выказаная яшчэ Францішкам Скарынам, і каштоўнасць мовы, выказаная Францішкам Багушэвічам. Якуб Колас — глыба, асоба, якая глядзела з пазіцыі звычайнага чалавека: у яго «Новай зямлі» выказана такое: «Займець зямлю, прыдбаць свой кут, каб з панскіх выпутацца пут». Далей Купала, які выказаў у сваім гімне — «людзьмі звацца»

М.Г. И специфика беларуской национальной идеи в том, что, кроме народа, нужно учесть ещё Александра Григорьевича?

А.А. Вы падгледзелі якраз рэч, якая часам шкодзіць таму, каб Беларусь сапраўды стала еўрапейскай, дэмакратычнай, суверэннай краінай, якая будзе і сама сябе паважаць, і яе будуць паважаць.

З.Л. Наколькі беларусы згодныя з гэтым мненинем Лукашэнкі?

А.А. Трэба прызнаць, што ў нас на сённяшні дзень, грамадства і дзяржава не маналітныя. Частка людзей прымае развіццё Беларусі як незалежнай краіны. Частка адкрыта варожа ставіцца да развіцця Беларусі як незалежнай краіны. Частка ставіцца індыферэнтна: яны проста хочуць жыць тут і зараз, не замарочваючыся ні на ідэю нацыянальную, ні яшчэ на што-небудзь. У дадзеным выпадку, напэўна, Аляксандр Рыгоравіч імкнецца трымаць руку на пульсе.

З.Л. Калі Лукашэнка пяройдзе на беларускую мову і абвесціць нейкую ідэю нацыянальнай, гэтага будзе дастаткова?

А.А. Ну, на самой справе ёсць я не выключаю таго, што Аляксандр Рыгоравіч аднойчы загаворыць па-беларуску і тым самым дасць сігнал усім. Але я думаю, што тут важная яшчэ і свабода дзеяння і чыноўнікаў. Ім нішто не замінае на сваіх працоўных месцах карыстацца беларускай мовай. Не абавязкова іх штурхаць, што час ад часу мы бачым на мясцовым узроўні.

М.Г. А чиновники не будут саботировать беларуский язык?

А.А. Чыноўнік — гэта пра чалавечы фактар. Давайце згадаем нядаўняе мінулае, калі Міхаіл Сяргеевіч Гарбачоў задумаў перабудову. Тады ўлады казалі нам, што трэба «пачынаць з сябе». Простыя людзі на гэта адказвалі: «Мне з сябе пачынаць? Я ж нічога там не вырашаю. Раз вы там дарулІліся да таго, што трэба змяняцца, то вы там і змяняйцеся». Тое самае адбываецца і ў нас тут. Калі трэба «пачынаць з сябе» — чалавек супраціўляецца. Але ў нашым выпадку мы можам мінімізаваць уласныя патугі, выкарыстоўваючы лічбавыя распрацоўкі.

З.Л. Вы, спадарыня Алена, сказалі, што ёсць нацыянальныя ідэі, якія выказаныя ў працах літаратараў, пісьменнікаў. У кожнага свая, выбірай любую. А вось вам, асабіста, якая бліжэйшая?

А.А. Жыць у сваёй краіне, любіць яе, працаваць на яе штодня, карыстацца беларускай мовай. Каб Беларусь самастойна прымала рашэнні і самастойна выбудоўвала сваю палітыку. Каб грамадзяне Рэспублікі Беларусь адчувалі сябе ў прававой забяспечанасці, каб ім было камфортна.

З.Л. Мой рэдактар любіць казаць: «Пішы так, каб было зразумела нават самаму дурному рэдактару». А можаце сфармуляваць зусім каротка?

А.А. Ну, ведаеце, ёсць, як кажуць, розныя выразы. Адзін з іх: «працуй пільна, і тут будзе Вільна», маючы на ўвазе, што старайся — і ўсё будзе ў парадку: і бела-чырвона-белы сцяг, і беларуская мова ва ўсіх сферах грамадскага жыцця. Дарэчы, сёння мы разумеем, што, для таго каб развівацца, трэба, каб у краіне было некалькі дзяржаўных моў. Гэта ў нас разумелі яшчэ ў пачатку 20-ага стагоддзя. Мы сёння, ажыццяўляючы ідэю ўніверсітэта з беларускай мовай навучання, ставім мову навучання беларускай, але яна падразумявае наяўнасць іншых еўрапейскіх моў: англійскай, нямецкай, французскай, польскай, іх прысутнасць у інтэлектуальнай прасторы.

З.Л. Ці трэба нам на сённяшні дзень фармуляваць гэтую нацыянальную ідэю і даносіць яе людзям?

А.А. А я думаю, што напярэдадні парламенцкіх і прэзідэнцкіх выбараў

хтосьці з палітычных суб'ектаў скарыстаецца магчымасцю сфармуляваць нацыянальную ідэю, прапанаваць яе ў якасці сваёй праграмы.

З.Л. Колькі выбараў ужо было, чаму да гэтага часу не сфармулявалі?

А.А. А гэта пытанне не да мяне, а да палітычных суб'ектаў, якія ішлі на выбары без нацыянальнай ідэі. Вось няхай заклапоцяцца.

З.Л. А вось давайце прыгадаем папярэднія парламенцкія выбары і кандыдата ў дэпутаты парламента Алену Анісім. У яе выбарным слогане была закладзена нацыянальная ідэя?

А.А. Пра нацыянальную ідэю не казала. Пра пашырэнне беларускай мовы казала. Гэта мая місія.

З.Л. Кажуць, што вайна на Данбасе зрабіла з украінцаў нацыю. Можа быць, беларусам трэба нешта, што прымусіць іх нарэшце стаць сапраўднай нацыяй?

А.А. Я думаю, што беларусы дастаткова перажылі войнаў. І я лічу, што ў нас мысленне ў цэлым прагматычнае і мы можам знайсці не рэвалюцыйны і не ваенны шлях вырашэння праблем. Дастаткова проста сабрацца адказным людзям, сесці за стол перамоў, як грамадзянская супольнасць органаў улады, і выпрацаваць агульна прымальную нацыянальную ідэю як шлях вырашэння праблем.

З.Л. Так і запішам, што Алена Анісім прапанавала: «А давайце збяром круглы стол, пагаворым, абмяркуем, рэзалюцыю вынесем».

А.А. Ну, не зусім так. Я проста да таго, што калі ў нашай краіне ўжо абвешчаны дыялог і ён вядзецца, то ён павінен весціся ў тым ліку і на пытанні нацыянальнай ідэі. Я не губляю веры, аптымізму і думаю, што эвалюцыйным шляхам мы да яе ўсё-такі прыйдзем.



# ФІЛІП
# ЧМЫР

## «КАЛІ БЫЛА НАЦЫЯНАЛЬНАЯ ІДЭЯ, ГЭТА ЗАЎСЁДЫ ПРЫВОДЗІЛА ДА КРЫВІ»

euroradio·fm

Гутарылі Зміцер Лукашук, Максім Гаруноў
Фота Еўрарадыё

З.Л. Вітаю ўсіх слухачоў, наш сённяшні госць — лідар гурта «Drum Ecstasy» Філіп Чмыр. Філіп, а як вы лічыце, нацыянальная ідэя павінна быць у беларусаў ці не?

Ф.Ч. Какая национальная идея в наши дни? Откуда это вообще берётся? Что такое нация? Что такое «национальное»? Мне кажется, национальная идея — это ересь из девятнадцатого века. В наши дни уже существует, извините меня, Евросоюз, где у государств нет национальных идей, а есть нормальное процветание граждан и права человека.

М.Г. Специалисты говорят, что нация — это расширенная семья. У человека, который причисляет себя к некоторой нации, есть родители, есть родственники и есть люди, которые ему близки, потому что они с ним одна нация.

Ф.Ч. Какие родственники? Какие могут быть родственные отношения в Европе, где была война, где были массовые перемещения людей, где одни уехали, другие приехали, многие погибли? У нас может быть только совместное проживание. Мы проживаем на одной территории, у нас одинаковые паспорта и гражданство, но это ни разу не родство. В нашей национальной сборной по футболу могут играть люди разных национальностей, приехавшие сюда, условно говоря, семь-восемь лет назад. Они могут гонять мяч за нашу страну, и никто им слова не скажет. Это не родственные связи, это гражданство, основанное на праве и законах. Для нас самые главные книги — это Конституция и Уголовный кодекс. Они нас объединяют.

З.Л. То бок, нацыянальная ідэя не патрэбная, а можа нават і шкодная?

Ф.Ч. Абсолютное зло. Я считаю, что национальная идея — это абсолютное зло.

З.Л. Якой бы яна ні была?

Ф.Ч. Какой бы она ни была. Мне кажется, что она просто отодвигает нас от нормального гражданского общества, когда каждый человек, живущий

здесь, знает, что он гражданин и у него есть права и обязанности. Гражданин требует от государства исполнения его части контракта. Согласно контракту, государство в обмен на налоги должно обеспечить гражданам безопасность, медицину, образование и так далее. Если появляется национальная идея, то это означает, что мы, как граждане, должны будем отказаться от своих свобод и тратить наши налоги на симулякры, на пустышки. Кроме того, национальная идея — это когда всех гребут под одну гребенку: ты наш, а ты не наш, ты соответствуешь нашей национальной идее, а ты не соответствуешь. Это очень попахивает совком, а мне обязательная любовь к красному флагу ещё тогда надоела.

З.Л. Якаў Цярэшчанка, былы выкладчык Аляксандра Рыгоравіча Лукашэнкі з Магілёўскага педагагічнага інстытута, на пачатку двухтысячных гадоў сфармуляваў сваё бачанне нацыянальнай ідэі ў беларусаў. Я цытую на мове арыгінала, па-руску: «Будущее Беларуси — в братском содружестве большой евразийской цивилизации: это и есть наша судьба, наша национальная идея». Такая нацыянальная ідэя вам падабаецца?

Ф.Ч. Это хороший уход от национальной идеи, правильное движение к просто гражданской позиции. Там, правда, было про евразийскую семью, но мне кажется, это не страшно. Хотя зачем нам семья? Нам нужен милиционер, чтобы он четко пресекал нарушения закона. Вот это нам нужно, а не семья, о которой вы говорите. Задачей государства является правопорядок, его обеспечение на всей территории. Мы с вами платим налоги, так? Факт уплаты налога значит, что мы наняли милиционера, судью, прокуратуру, и они обеспечивают нам правопорядок. Могут быть вопросы к тому, как они работают, но это уже такая техническая сторона. Если они работают плохо, граждане должны давить на власть, чтобы милиционер и судья работали правильно. Вот и всё, понимаете? Какая семья?

М.Г. Семья тут, скорее, как метафора. Речь идёт об общности, о близости.

Ф.Ч. Вы вот сами подумайте: ну какая может быть общность у меня с алкоголиком из Шабанов? Никакой. А вы предлагаете мне с ним общность

и чтобы мы вместе придумывали какую-то там национальную идею. У меня с рок-музыкантом из Берлина более семейные отношения, чем с алкоголиком из Шабанов. Музыкант из Берлина мне ближе по убеждениям, по вкусам. Язык у нас разный, но это ничего страшного.

М.Г. Если мы предложим вам сделать выбор между алкоголиком из Шабанов, алкоголиком из Улан-Удэ, алкоголиком из Пекина и алкоголиком из Киншасы, кого вы выберете?

Ф.Ч. Никого. Они для меня одинаковые враги, люди одного класса. Сейчас я вынужден терпеть алкоголика из Шабанов только потому, что у него паспорт такой же как у меня. Кроме паспорта, у меня с ним ничего общего нет.

М.Г. Совсем ничего?

Ф.Ч. Совсем ничего. И я не хочу выбирать между ними. Я их вычеркиваю из своей жизни, понимаете? Так получилось, что я вынужден с ним жить в одной стране. Я плачу налоги. За мои деньги государство будет его арестовывать, лечить и хоронить. По-моему, оплатив это всё, я достаточно уделил ему внимания, мои отношения с этим гражданином заканчиваются. Никакого родства и близости у меня с ним быть не может.

М.Г. Как вы объясните тот факт, что национальные движения до сих пор существуют?

Ф.Ч. Это пережиток, рудимент, который должен отмереть, и многие над этим работают.

М.Г. Жалеть не будете?

Ф.Ч. Нет. Мне очень хорошо без национального движения.

З.Л. Можа быць, вы супраць нацыі ўвогуле?

Ф.Ч. Против, да. Я ненавижу это всё. У меня самые главные враги знаете кто?

М.Г. Кто?

Ф.Ч. Националисты. Националисты и радикалы. И я готовлюсь к тому, что мне придётся в них стрелять. Я хорошо стреляю из пистолета, кстати.

З.Л. А калі сюды прыйдуць з «рускім мірам» зялёныя чалавечкі?

Ф.Ч. У вас психоз, ребята, у вас психоз. Никакие зелёные человечки сюда не придут. Весь этот психоз делается только для того, чтобы потратить наши с вами деньги не на больницы, не на социальные проекты, а на производство оружия. Оружие — хороший бизнес. Как в Соединённых Штатах: никто не угрожает Соединённым Штатам, но они производят дикое количество оружия. Вы в этом сейчас участвуете, а я не хочу участвовать. Я понимаю, что Беларуси не угрожает ни НАТО, ни Россия, ни халифаты. Мало того, я понимаю, что в Беларуси такое количество милиции и военных, что они в состоянии подавить любое восстание любого халифата на этой территории. Что нужно Беларуси по-настоящему? Моей стране нужны соблюдения прав человека. Это основная наша проблема. Нам нужно, чтобы здесь уважалась человеческая жизнь, чтоб здесь уважалось право на демонстрации.

З.Л. І ніякіх нацыянальных ідэй?

Ф.Ч. Зачем вы повторяете один и тот же вопрос? Я на него уже ответил. Знаете, у кого была национальная идея? У Гитлера была национальная идея. Вообще, я считаю, что национализм — это для тех, у кого нет детей.

М.Г. Почему?

Ф.Ч. Когда у людей появляются дети, они начинают беречь территорию, на которой выпасается их молодняк. Их начинает заботить экология, чтобы машины не парковались на газонах и так далее. То есть, самец начинает держать территорию. Я уверен, что люди, у которых есть дети, абсолютно не хотят войны, абсолютно не хотят никакой конфронтации.

А вот молодые люди, у которых нет детей, легко соглашаются на войну. Кстати, у нас в государстве мы говорим о семье на самом высоком уровне. Забота о семье, о ячейке общества — это у нас ещё с советских времен идёт, и это хорошо, это большое благо для страны.




# ВАЛЯНЦІН
# АКУДОВІЧ

## «ДЛЯ МЯНЕ АПРАНУЦЬ ВЫШЫВАНКУ — ЯК САБОР НА ПЛЕЧЫ ПАСТАВІЦЬ»

euroradio·fm

Гутарылі Зміцер Лукашук, Максім Гаруноў
Фота Еўрарадыё

З.Л. Вітаем усіх слухачоў, мы працягваем фармуляваць беларускую нацыянальную ідэю, і сёння нам дапаможа філосаф, пісьменнік, мысляр Валянцін Акудовіч. Добры дзень, спадар Валянцін.

В.А. Добры дзень усім.

З.Л. Спадар Валянцін, што такое для вас беларуская нацыянальная ідэя?

В.А. Для мяне гэта каштоўнасці людзей, якія тут жылі апошняе тысячагоддзе. Іх мова, культура, іх лад жыцця, гістарычныя падзеі, рэлігіі, якія у тут былі, — усё гэта нацыянальныя каштоўнасці. Нацыя сама па сабе — гэта суплёт каштоўнасцяў, якія напрацаваныя стагоддзямі супольнага жыцця на гэтай зямлі, з гэтым вось кліматам, пад гэтым вось небам. Людзі проста тут жылі і ў працэсе свайго жыцця напрацоўвалі канкрэтна вось такія каштоўнасці. І яшчэ я лічу, што толькі суверэнная нацыянальная дзяржава ў стане захоўваць і развіваць гэтыя каштоўнасці. Таму мне так важна, каб адбывалася беларуская дзяржава.

М.Г. Что не так с беларуской национальной идеей?

В.А. Калі коратка, то мы вельмі спазняемся. Ідэя нацыі пачала ў нас фармавацца напрыканцы дзевятнаццатага стагоддзя. У той час беларуская інтэлектуальная супольнасць была яшчэ слабай.
З другога боку, а скуль ёй было быць моцнай? Беларускі друк быў забаронены Расійскай імперыяй. Рускія дазволілі газеты і кнігі на нашай мове толькі ў 1905 годзе, пасля першай рэвалюцыі. Навучання ў школках па-беларуску не было, пакуль Расійская Імперыя не ляснулася. Натуральна, нашы сілы былі невялікія. У гэты самы момант украінскі нацыяналізм ужо выпрацаваў сваю мадэль нацыянальнага развіцця. Выпрацавалі чэхі, палякі. Нас апярэджваюць нават балтыйскія краіны. Акрамя таго, наша першая канцэпцыя нацыі была калькай сярэднееўрапейскага стандарту нацый, але ў нас для яе не было базавых падстаў, гэта была памылка. Тут былі велізарныя габрэйскія, польскія, татарскія абшчыны. У Савецкай Беларусі першыя гады было адразу чатыры дзяржаўныя мовы, уключаючы ідыш. І гэта не была фантазія

камуністаў. Габрэяў было вельмі шмат, асабліва ў гарадах. Наколькі я ведаю, толькі ў даваеннай Беларусі ідыш атрымаў статус дзяржаўнай мовы. Беларуская літаратурная мова была ў зародку. Была праблема з нацыянальнымі межамі: не было разумення дзе сканчаецца Беларусь. Каб высветліць межы, даводзілася абапірацца на працы расійскіх этнографаў, у якіх былі дадзеныя пра тое, дзе ў нашым рэгіёне гавораць на беларускай мове, а дзе не. З такой складанай структурай насельніцтва, без дакладных меж цяжка пабудаваць Чэхію.

М.Г. Беларусы сейчас говорят в основном на русском языке. Это тоже как-то связано с опозданием, о котором вы говорите?

В.А. Не зусім так. У пачатку мінулага стагоддзя дзевяноста адсоткаў беларусаў жылі ў вёсцы. Горад быў пераважна габрэйскім. Нават рускіх у гарадах было больш, чым беларусаў. Беларусы былі люмпенамі, беларуская мова ў іх свядомасці была мовай аўтсайдараў. Ад расійскай рэвалюцыі яны чакалі аднаго − кардынальнага павышэння сацыяльнага статусу. У іх разуменні гэта азначала, па-першае, пераехаць у горад. Па-другое, забыцца мову аўтсайдараў і перайсці на рускую ці польскую. Калі нашы рамантыкі і нацыяналісты прапанавалі ім гаварыць у горадзе на беларускай мове, яны іх не зразумелі. З іх пункту гледжання, нацыяналісты не давалі ім палепшыць сваё жыццё. Быў канфлікт, які цягнецца і да сёння.

М.Г. С вашей точки зрения, люди, которые меняли язык, были не правы?

В.А. І так, і не. Яны былі ўпэўненыя, што робяць правільна. У тым грамадстве, у той час яны на самой справе былі аўтсайдарамі. Яны арыентаваліся на свой вясковы досвед, на аграрны свет, які да таго часу ўжо сыходзіў у мінулае. Яны не разумелі каштоўнасці сваёй асобнай мовы ва ўмовах індустрыяльнага свету. Калі б яны разумелі, які актыў у іх ёсць, яны б паводзілі сябе інакш. Але хто б мог ім гэта растлумачыць? Як я ўжо сказаў, у іх не было сваіх газет, і чытаць яны часцяком не ўмелі. Я лічу, што беларуская мова — гэта каштоўнасць. Усё самае каштоўнае, што ў нас здаралася — здаралася па-беларуску. Біблія Скарыны, Статут Вялікага Княства Літоўскага, наша класічная

літаратура. Усё значнае, усё самае вялікае паяўлялася і паяўляецца ў нас на беларускай мове. Хтосьці скажа пра Святлану Алексіевіч і будзе мець рацыю, але я кажу, што яна выключэнне, а выключэнні толькі пацвярджаюць правілы, прабачце.

З.Л. Нобель — гэта яшчэ не гарантыя ўваходу ў класікі.

В.А. Так-так-так, безумоўна. Я скончыў Літаратурны інстытут у Маскве і як літаратар магу сказаць, што нобелеўскіх лаўрэатаў забываюць, нават сваіх, нацыянальных.

М.Г. Алексиевич перевели на беларуский. Я читал на беларуском «Галасы ўтопіі», она совершенно по-другому звучит.

В.А. Так. І многія так кажуць. А пачытайце самую лепшую яе кніжку, з майго гледзішча, «У вайны не жаночы твар». Перакладаў я. І я заценіў па-новай.

З.Л. Калі мы дагэтуль не сфармаваны як нацыя, то ці мае сэнс нам казаць пра неабходнасць нацыянальнай ідэі?

В.А. Разумееце, калі мы будзем глядзець на нацыю не з гледзішча мовы і нацыянальных каштоўнасцяў, а паглядзім з боку дзяржавы, то 25 год улады Лукашэнкі зрабілі для яе фармавання значна больш, чым усе нашы нацыяналісты разам. У нашай сітуацыі для нацыі страшэнна істотна тое, што яна ўпершыню здабыла сваю краіну. У нас мала хто звяртае ўвагу, што мы ніколі не мелі сваёй дзяржавы. Вялікае Княства Літоўскае было федэрацыяй, у склад якой мы ўваходзілі. У Рэчы Паспалітай мы былі часткай. У Расійскай Імперыі мы былі проста «Заходнім краем» У Савецкім Саюзе мы ўжо былі рэспублікай, але нават гатункі тортаў у нашых кулінарыях мы зацвярджалі ў Маскве. А ў 1991 годзе мы раптам прачнуліся ў сваёй краіне. Разгубленасць была неверагодная. Не так проста, не маючы сваёй дзяржавы цягам тысячагоддзя, адразу зразумець, што пачалося ўжо іншае жыццё. Гэта складна.

М.Г. Беларусь до недавнего времени называли последней диктатурой Европы. Это имеет значение?

В.А. Так, мы атрымалі дрэнную дзяржаву. Так, дыктатарскую, але сваю, разумееце? Яна ў нас ёсць, важны сам факт яе існавання. І вось гляньце — 25 гадоў мы прачынаемся пад гукі беларускага гімна. Ён, можа, нам не падабацца, але ён на самай справе наш і толькі наш, беларускі. Мы глядзім беларускае тэлебачанне, слухаем беларускае радыё. У нас беларускія грошы. У нас беларускія законы. У нас за мітынгі і шэсці садзяць у нашы турмы, а не ў Сібір высылаюць. У нас сваё войска. Між іншым, за ўсе гэтыя гады на рускіх войнах не загінуў ніводзін беларус. Больш за тое, слухайце, у нас ёсць свой дыктатар! Гэта неверагодна! Свой, не чужы!

М.Г. То есть, беларуская нация существует, потому что Лукашенко не русский, а беларуский диктатор?

В.А. У тым ліку, у тым ліку. Але гэта толькі палова справы. Свой дыктатар — гэта важна, але гэта не ўсё. За гэты час мы выбудавалі незалежную беларускую культуру. У якую сферу ні зірні, дзяржава з усімі сваімі міністэрствамі культуры нічога не змагла з намі зрабіць. Яны нам забаранялі, трэціравалі нас, не пускалі ў эфіры, не давалі выступаць, але ў іх па сутнасці нічога не атрымалася. Мы, беларускія мастакі, паэты, пісьменнікі, існуем, у нас ёсць свая публіка, і яна патроху расце, становіцца цікавей. Гэта дзіўная сітуацыя якраз і надае мне аптымізм. Мы выжылі за гэтыя дваццаць пяць год, мы сталі моцныя, мы сталі яшчэ больш таленавітыя. Нас яшчэ больш друкуюць у розных краінах, запрашаюць на канцэрты. Скажам вось «Свабодны тэатр» знакаміты ва ўсім свеце, хоць улада яго тут ледзь спускае.

З.Л. Вось мы сталі мацнейшымі, нягледзячы на тое, што артыкуляванай нацыянальнай ідэі ў нас няма. Дык можа, яна і не патрэбна?

В.А. Ну, я яшчэ скажу — для мяне яна не патрэбна, абсалютна. Мне трэба, каб мы тварылі, выказваліся, друкаваліся. Каб кожны творца рабіў што хоча, што з яго пункту гледжання падаецца важным і дарэчным у дадзены момант. Незалежна, трапляе яно ў фармат нейкай нацыянальнай ідэі ці не. Варта, каб шмат было і вольнага мыслення, і свабоднай творчасці. Вось што істотнае, а не сама ідэя.

З.Л. Шмат хто сцвярджае, што нацыянальная ідэя мусіць быць, бо без яе і нацыя не нацыя. Я так разумею, што вы з такой фармулёўкай не згодныя.

В.А. Увогуле, нацыя — гэта сімулякр. Ёсць бацька ўсіх сімулякраў — Бог. Мы не знаем, ёсць Бог ці яго няма, але сімулякр настолькі магутны, што нам здаецца, што ён аказвае ўплыў на наша жыццё. Нацыянальная ідэя — гэта такі ж сімулякр, як і Бог. То-бок, я вам вось зараз, калі вы так просіце, магу што-небудзь такое яркае нафантазіяваць. З сімулякрамі я ўмею працаваць, але навошта?

З.Л. А можаце нам такі сімулякр сфармуляваць, які пры жаданні хтосьці можа сабе ўзняць на сцяг на шляху да нейкага хутчэйшага фармавання нацыі?

В.А. Нацыя — гэта калі чалавеку, які ўзначальвае краіну, узбрыдзе ў галаву скіраваць нас усіх на якую-небудзь вайну, а ўсе дзевяць мільёнаў беларусаў пойдуць на плошчу і скажуць: «Не, даражэнькі, так не будзе, мы так не хочам». Нацыя — гэта калі грамадзяне ў нейкі крытычны момант могуць сабрацца разам і выступіць супраць. Не некалькі смелых выйдуць, а астатнія застануцца дома або схаваюцца ў лесе, а ўсе дзесяць мільёнаў, разумееце? Нацыя — гэта салідарнасць у крытычныя моманты. І у гэтым сэнсе, напэўна, беларусаў яшчэ як нацыі няма. Але гэта толькі адна справа нацыі, толькі адна.



# УЛАДЗІМІР МАЦКЕВІЧ

## «ВЫДУМЛЯЦЬ НАЦЫЯНАЛЬНУЮ ІДЭЮ – ГЭТА ЎСЁ ЛУХТА!»

euroradio·fm

Гутарылі Зміцер Лукашук, Максім Гаруноў
Фота Еўрарадыё

З.Л. Вітаю ўсіх слухачоў, гэтым разам у нас у гасцях метадолаг Уладзімір Мацкевіч. Добры дзень, спадар Уладзімір.

У.М. Прывітанне.

З.Л. Шмат хто нам казаў, што ў прынцыпе беларуская нацыянальная ідэя і так існуе. Як вы лічыце, можа быць, нам яе і не трэба шукаць?

У.М. Ведаеце, мне трохі абрыдла абмеркаванне нацыянальнай ідэі. Колькі гадоў таму я вярнуўся на радзіму, столькі гадоў я чую размовы пра нацыянальную ідэю. Колькі ўжо можна?

М.Г. Настолько заезженная тема?

У.М. Ну, так. Нацыя — гэта свежая навіна з васямнаццатага стагоддзя, а сёння ў нас дваццаць першае стагоддзе. У васямнаццатым стагоддзі былі як мінімум тры спробы стварыць нацыю. Дзве паспяховыя, адна не вельмі. Па-першае, амерыканская нацыя. Па-другое, французская нацыя. Па-трэцяе, канфедэрацыя Рэчы Паспалітай і Вялікага Княства Літоўскага. У дзевятнаццатым стагоддзі сваю нацыю будавалі немцы падчас стварэння адзінай Германіі. І немцы, і амерыканцы, і французы — гэта вельмі і вельмі адукаваныя нацыі. Вы ўяўляеце, колькі тады было напісана пра тое, што такое нацыя і як яе трэба будаваць?

М.Г. А что из уже сказанного за эти три века подходит именно Беларуси?

У.М. Існуюць дзве фармулёўкі нацыянальнай ідэі. Яны існуюць ва ўсіх еўрапейскіх і не толькі еўрапейскіх дзяржавах. Першая — «радзіма перадусім». Другая — «свабода, роўнасць, братэрства». Не бывае так, што ў нейкай краіне ёсць толькі «радзіма перадусім», а ў нейкай толькі «свабода, роўнасць, братэрства». Ва ўсіх нацыях гэтыя дзве фармулёўкі суіснуюць разам. Яны не змагаюцца паміж сабой, а мяняюцца месцамі ў залежнасці ад сітуацыі ў краіне. Падчас крызісаў, войнаў на першы план выходзіць «радзіма перадусім». Падчас нармалёвага

развіцця на першае месца выходзіць «свабода, роўнасць, братэрства».

М.Г. У немцев вроде бы не очень нация получилась. Сначала две мировых войны, потом пятьдесят лет Берлинской стены.

У.М. Таму што немцы зрабілі памылку. Нацыяналізм у першую чаргу — гэта грамадзянскі нацыяналізм. Як у амерыканцаў, як у французаў, як у Рэчы Паспалітай. З грамадзянскім нацыяналізмам вялікіх праблем не бывае. Грамадзянская нацыя — гэта сукупнасць грамадзян, у роўнай ступені надзеленых палітычнымі правамі. Амерыканская нацыя — гэта нацыя амерыканскіх грамадзян. Французская нацыя — гэта нацыя французскіх грамадзян. Як стаць грамадзянінам? Прайсці працэдуру, здаць экзамены і атрымаць пашпарт. Калі пашпарт ёсць, значыць, ты здаў экзамены, ты грамадзянін і маеш права голасу. Чым займаюцца грамадзяне? Калі вы ведаеце як працуе парламент, то ведаеце, што грамадзяне бесперапынна спрачаюцца, спрабуючы знайсці правільнае рашэнне агульных праблем.

М.Г. А немцы что сделали не так?

У.М. Немцы дадалі кроў. З іх пункту гледжання, каб быць грамадзянінам, каб мець права голасу і права спрачацца ў парламенце, трэба мець правільную кроў. Кроў, паходжанне, расу і так далей. І вось гэта сталася вельмі трагічным для ўсяго нацыяналізму. Нацыяналізм па крыві прывёў да таго, што немцы змагаліся не за свабоду, а супраць іншых нацый за прывілеі для сваёй нацыі. Яны ў выніку і ў парламенце спрачацца перасталі. Як спрачацца, калі ў вас адна кроў і вы ўсе браты і сёстры па крыві? Трэба не спрачацца, трэба слухацца бацьку нацыі.

М.Г. А откуда они взяли эту идею про кровь?

У.М. Кроў — гэта такое пашырэнне паняцця братэрства. У французаў было «свабода, роўнасць, братэрства». Немцы ўзялі «братэрства», пашырылі яго так, што яно стала ў іх біялагічным братэрствам. «Свабоду» і «роўнасць» яны выключылі з формулы. Гэтая пашыраная трак-

тоўка братэрства сыходзіць каранямі ў Сярэднявечча, у правілы жыцця меншасцяў, якія змагалася за скасаванне феадальных нормаў жыцця. Адсюль братэрства, як у каталіцкіх ордэнах, як у масонаў ці ў таемных нейкіх таварыствах.

З.Л. Я вярну вас на зямлю і задам больш простае пытанне. Усё ж такі пытанне мовы мае значэнне?

У.М. Мае. Але не тое, якое імкнуцца яму надаць тыя, хто хоча вярнуць учарашні снег. Мы не згубім сваёй ідэнтычнасці, калі пяройдзем на іншую мову. На кітайскай, на англійскай мы ўсё роўна застанемся беларусамі. Чаму на нашай тэрыторыі, адкрытай усім вятрам, не адмежаванай ад астатняга свету ні морам, ні гарамі, ні вялікімі рэкамі, захоўваецца наша ідэнтычнасць? Можа быць, таму што ідэнтычнасць — гэта не такая ўжо і крохкая рэч, не думалі пра гэта? А вы кажаце — мова.

М.Г. Что важно кроме языка?

У.М. Дастаткова вось дзвюх рэчаў: «наша радзіма Беларусь, і яна перадусім» і «свабода, роўнасць», ну і «братэрства» ў тым сэнсе, што калі прыходзіцца змагацца за «свабоду і роўнасць», патрэбна адчуваць плячо сябра, брата.

З.Л. А што вас звязвае з Беларуссю?

У.М. Мяне?

З.Л. Вас.

У.М. У мяне сантыменты. Я люблю Беларусь. Я палюбіў яе, яшчэ калі нарадзіўся за пяць тысяч кіламетраў ад яе. Палюбіў праз дзядоўскія, бацькоўскія расповеды. Я мог добра ўладкавацца у Маскве. Можна было не вяртацца. Я значна згубіў у даходах, прыбытках, калі пераехаў у Мінск. Тут не было такіх грошай, не было заказаў для мяне, для маёй працы. Тым не менш сантыменты прывялі мяне сюды. І я думаю, што

шмат такіх людзей ёсць, у якіх ёсць сантымент такі да Беларусі. Ёсць карані, ёсць нешта такое, што іх тут прывязвае.

З.Л. А чаму Лукашэнка кажа, што не дараслі мы да нацыянальнай ідэі, што няма яе?

У.М. Лукашэнка шмат глупстваў гаворыць. Чаму вы слухаеце Лукашэнку, а не мяне? Лукашэнка выхаваны ў імперыі, якая змагалася за валадарства ва ўсім свеце. Для яго радзіма — гэта імперыя. Ён думаў, што аднаўленне імперыі пачнецца з Мінска. Думаў, што ён захавае тут савецкае ядро, потым перанясе яго у Маскву, адновіць Савецкі Саюз і ў Крамлі будзе сядзець не грузін з воспаю, а беларус з вусамі. Беларускія вусы ня горшыя за грузінскія. У нас, дарэчы, таксама ёсць свая гісторыя імперскіх амбіцый. Князь Міндоўг, калі прэтэндаваў на тое, каб стаць каралём, напрыклад. Ад Міндоўга пачалася распаўсюджвацца ў нас ідэя, што трэба стварыць вялікую цывілізацыйную еднасць.

М.Г. Амбиции Лукашенко возродить и возглавить новый СССР — это продолжение королевских амбиций Миндовга?

У.М. Я не веру ў генетыку і ў рэінкарнацыю. Але ж ідэі прарастаюць наноў у адпаведных сітуацыях. Я ні ў якім выпадку не магу лічыць Лукашэнку нашчадкам Міндоўга ці Вітаўта, але ж тое, што ён робіць, яно апісваецца вось у метадалагічным сэнсе, фармальным сэнсе.

З.Л. Забыў спытаць: а як быць з касмапалітамі?

У.М. У нас ёсць Францыск Скарына, паўтысячагадовы сімвал беларускага касмапалітызму. Чалавек свету, касмапаліт. Але вось зноў жа, да пытання аб моцы беларускай ідэнтычнасці. Ці дрэнна яму было ў Падуі? Ці дрэнна яму было ў Празе? Не, ён пацягнуўся ў Вільню, каб рэалізаваць тут сваю мару. І менавіта Скарына сфармуляваў беларускую нацыянальную ідэю, пра якую вы мяне пастаянна пытаецеся. Памятаеце, як у яго было сказана? «Як рыбы шукаюць віры свае, як і птушкі ўюць гнёзды свае, так і чалавек, да радзімы прыкіпеўшы, тут хоча рэаліза-

вацца». Хоць з іншага боку, які ён быў касмапаліт? Мы, беларусы, наша грамадства, пяцьсот год таму не стварылі ўмоў для Скарыны. Ён вымушаны быў з'ехаць спачатку ў Кёнігсберг, потым у Прагу. Цяжка, цяжка бывае людзям з мараю. Вось, на жаль, мы пакуль не шануем людзей з марамі, з памкненнямі, з ідэямі.




# СЯРГЕЙ ХАРЭЎСКІ

## «МОЦ БЕЛАРУСІ – У РАЗНАСТАЙНАСЦІ І РАСКРЫЦЦІ ТВОРЧАГА ПАТЭНЦЫЯЛУ»

euroradio·fm


Гутарылі Зміцер Лукашук, Максім Гаруноў
Фота Еўрарадыё

З.Л. Вітаю ўсіх слухачоў «Еўрарадыё». У эфіры чарговы выпуск праграмы «Ідэя Х». Наш сённяшні адмысловы госць праграмы — мастацтвазнаўца, культуролаг, выкладчык Еўрапейскага гуманітарнага ўніверсітэта Сяргей Харэўскі.

С.Х. Добры дзень.

З.Л. Добры дзень, спадар Сяргей. У мяне ёсць такая перасцярога, што вы адразу сфармулюеце нам нацыянальную ідэю і скажаце: «На гэтым можаце сваю праграму і завяршаць».

С.Х. Баюся, адразу не атрымаецца. У нас усё вельмі заблытана. Перш за ўсё, трэба сказаць, што мы адарваныя ад Еўропы. Гэта парадаксальная сітуацыя. Мы мяжуем з трыма краінамі Еўрапейскага саюза. У нас агульная мяжа з Украінай, якая так хоча ўступіць у Еўрапейскі саюз, што ўжо зрабіла з гэтай нагоды дзве рэвалюцыі. У нас ува ўсіх буйных гарадах у цэнтры стаяць каталіцкія касцёлы і езуіцкія калегіумы. Мы выглядаем як Еўропа, але ў нашым уяўленні нас аддзяляюць ад Еўропы тысячы і тысячы кіламетраў. Сёння ў нас умоўна беларуская мапа свету выглядае так, што далёкае замежжа — гэта Літва з Латвіяй, а блізкае замежжа — Кыргызстан з Узбекістанам. Паехаць у Рыгу, да якой з Полацка і Віцебска пара гадзін на цягніку, — гэта далёка. А ў Самарканд — гэта як да сябе на дачу. Я вядома, моцна спрашчаю, але вось так яно ў нас. Я б, напэўна, пачаў размову пра нацыянальную ідэю з гэтага парадоксу. Нам трэба вярнуцца ў Еўропу. Напэўна, гэта і ёсць адна з нашых нацыянальных ідэй: вяртанне ў Еўропу.

М.Г. Если возвращение в Европу так важно, то берёте беларуских школьников и отправляете их на экскурсии в ближайшие европейские города: Вильнюс, Каунас, Таллинн, Ригу, Краков. По-моему, пешеходная улица Ленинская в центре Могилёва очень похожа на старые улицы в Вильнюсе и Каунасе. Дети это сразу заметят, и вопрос о том, что им ближе — Ашхабад или Вильнюс — уйдёт.

З.Л. Я катэгарычна так не думаю. Турызм нічога не мяняе.

М.Г. Это не туризм, это знакомство.

С.Х. З Мінска толькі лянівы не бываў в Европе. Да Вільні тут 170 км.

М.Г. Это из Минска.

С.Х. Гэта не мае значэння. Вось вы згадалі назву пешаходнай вуліцы ў цэнтры Магілёва – вуліца Ленінская. Гэта яскравы прыклад. Вось я жыву ў Мінску ў Маскоўскім раёне. У нас кінатэатр «Масква», станцыя метро «Маскоўская», вуліца Маскоўская, Маскоўскі раён. І гэта ў нашы дні, у сталіцы нацыянальнай дзяржавы, праз трыццаць гадоў пасля абвяшчэння незалежнасці. Як такое магчыма? Я лічу, што прычына ў нашай палітычнай культуры. Мы не ўмеем быць грамадзянамі. У нас мала грамадзянскай досведу і шмат іншага досведу, далёкага ад грамадзянскага. У беларусаў даволі змрочнае разуменне ролі чалавека ў жыцці — «ад цябе нічога не залежыць». Так склалася наша гісторыя. Змяніць гэта разуменне з дапамогай прагулкі па Кракаву наўрад ці атрымаецца. Лад жыцця ў Польшчы або Літве, пра каторыя вы згадалі, базуецца на больш фундаментальных рэчах, чым знешні выгляд горада. У Польшчы і Літве ёсць выбары, выбарчыя кампаніі, парламент, свабодныя медыя, свабодны ўніверсітэт. Каб вярнуцца ў Еўропу, беларусам трэба даць паспрабаваць усё гэта, выхаваць густ. Нам патрэбны ўдзел у палітыцы, заангажаванасць у палітыцы. Патрэбна адсутнасць дзяржаўных СМІ і маса, маса такіх тонкіх рэчаў, якія і складаюць сутнасць Еўропы. Калі зусім шырока, беларусам неабходная перакананасць, што нешта можна змяніць. Мы ўпэўненыя, што нічога нельга змяніць і што трэба цярпець. Не ведаю, ці ёсць на свеце больш цярплівыя людзі, чым беларусы.

М.Г. А Россия может помочь? Я имею в виду её империализм. Чем агрессивнее Россия будет себя вести, тем скорее беларусы задумаются о себе, о своей национальной идентичности, о суверенитете.

С.Х. Баюся, і тут вы не маеце рацыі. Баюся, што чуткі пра агрэсію Расіі выклічуць не хвалю патрыятызму, а хвалю апатыі. У нас асаблівая сітуацыя, я ж кажу. У нашых суседзяў, у палякаў, чуткі пра агрэсію Расіі падымуць хвалю патрыятызму і будзе шмат размоў — не заўсёды

разумных, затое вельмі гучных — пра польскую ідэнтычнасць. У літоўцаў такая ж сітуацыя. Украінцы, як вы бачылі, змаглі аказаць супраціў расійскім танкам, фактычна не маючы рэгулярнай арміі. У нас усё наадварот. Беларусы апошнія стагоддзі пастаянна цярпелі паразу. Рэгулярныя паразы траўмавалі нас. Уся наша гісторыя найноўшага часу — ланцуг траўмаў. Мы вельмі траўмаваная нацыя, у гэтым уся і фішка. Іншыя нацыі ўзялі з сваёй гісторыі агонь, а мы ўзялі попел. Калі Расія зноў будзе нам пагражаць, баюся, мы ўспомнім, да чаго гэта прыводзіла ў мінулыя разы і сыдзем у сябе, застанемся дома. Калі і будзе парыў, то апатыя, якая была сфармаваная за апошнія стагоддзі,ператворыць яго ў вату. Любыя лозунгі, любыя палкія, харызматычныя выступы заглухнуць у гэтай ваце апатыі.

М.Г. Получается, что поездки в Европу ничего не дадут. Россия с её империализмом не разбудит беларусов. А если заняться травмами? У беларусов много травм, как вы сказали. Может быть, чтобы вернуть беларусов в Европу и вообще к активной жизни, им нужны психоанализ и доктор Фройд?

С.Х. Лепей паплакаць на кушэтцы ў псіхолага, чым пасля рагатаць у псіхіятра. Я думаю, гэта быў бы добры варыянт. Нам на самой справе патрэбная масавая, групавая, нацыянальная тэрапія. І індывідуальная не перашкодзіла б. Я не згодны з пазіцыяй маіх калег, якія гавораць, што размова аб траўмах нацыянальнай гісторыі бясплённая. Дзясяткі нацый паўсталі праз траўму. Палова нацый Еўропы будуе свой гістарычны наратыў менавіта праз праз працу са сваімі траўмамі. Гэта важная і неад'емная частка светапогляду і нацыянальнай ідэі. Тым больш гэта датычыць беларусаў. Мы можам зрабіць выгляд, што ў нас была «звычайная гісторыя», «не горш, чым у суседзяў». Пытанне ў тым, хто ў гэта паверыць. Простае разважанне: калі ў нас звычайная гісторыя, то чаму ў пачатку дваццаць першага стагоддзя мы выглядаем менавіта так? Таму лічу, што нам трэба прызнаць, што нашы траўмы нам перашкаджаюць, і трэба паклікаць доктара Фрэйда.

М.Г. Кажется, я понял, почему Светлана Алексиевич — главный писатель Беларуси: все её творчество посвящено травме.

С.Х. Бясспрэчна.

М.Г. А как режим Лукашенко относится к травмам?

С.Х. Цяперашняя ўлада эксплуатуе нашы фобіі на ўсю катушку. Яна на іх абапіраецца, як на падмурак. Асабліва на наш жах перад Другой сусветнай вайной. Улада так і кажа: «падпарадкоўвайцеся, а то будзе як падчас вайны». Самае цікавае, што спасылкі на жах вайны працуюць. Людзі на самой справе падпарадкоўваюцца, калі ім нагадваюць пра голад, пра холад, пра смерць, пра боль, пра карныя акцыі. Падпарадкоўваюцца нават цяпер, у 2019 годзе. Як у гэтай сітуацыі не пачаць гаварыць аб траўме?

З.Л. Была ў нас на праграме спадарыня Зінаіда Бандарэнка, якая сказала: «Нацыянальная ідэя выказваецца адным словам — «мова». Так?

С.Х. Калі мы лічым мову не галоўным аспектам, тады трэба прыдумаць, а для чаго ўвогуле мусіць існаваць беларуская дзяржава? Дзеля пасады вышэйшай службовай асобы Рэспублікі Беларусь? Якое тады наогул абгрунтаванне гэтага ўсяго? Беларусь задумвалася ў 19 стагоддзі людзьмі, апазіцыйнымі да расійскага імперскага афіцыёзу. Мова была асновай іх ідэнтычнасці. Мова фармавала шырэйшы комплекс гуманістычных ідэй: і правы чалавека, і ахова прыроднага асяроддзя, і ахова помнікаў. Я, напрыклад, у нашы дні ў Мінску не ведаю чалавека, які б гаварыў па-беларуску і яму было б абыякава пытанне экалогіі ці аховы помнікаў. Мова з'яўляецца падставай грамадзянскай актыўнасці ў Беларусі. Мова — гэта канстанта, падмурак і нашай незалежнасці, і нашай дзяржаўнасці, і адначасова пачатак размовы аб гуманістычных каштоўнасцях.

З.Л. А можна нам нацыянальную ідэю для Беларусі ад Сяргея Харэўскага?

С.Х. Я лічу, што ў будучым наша нацыя павінна базавацца на прынцыпах разнастайнасці і талерантнасці. У нас павінна быць не толькі беларуская мова, а шматмоўе, як гэта і было заўсёды. Ідэю Беларусі

фармавалі людзі не толькі розных веравызнанняў, што ўнікальна для нашых усходнееўрапейскіх суседзяў, але і розных нацыянальнасцей, якія абралі сабе менавіта беларускую ідэнтычнасць. Ідэалы, якія былі запачаткаваны будзіцелямі нашай нацыі, — талерантнасць і роўнасць. І абавязкова творчасць. Творчасці павінна быць шмат, яна павінна быць усюды. Нам трэба інспіраваць творчасць, выхоўваць талерантнасць, плюралізм, шматмоўе. У Беларусі спрадвеку існавалі ідыш, польская, украінская мовы, былі лакальныя гаворкі, мікрамовы. Было б добра, калі б гэта разнастайнасць як-небудзь сама, без прымусу, вярнулася. Я лічу, што трываласць Беларусі менавіта ў разнастайнасці, у раскрыцці творчага патэнцыялу. Нам з апошніх сіл трэба ўкладаць менавіта у творчасць.

М.Г. И чтоб без неврозов и апатии.

З.Л. Мне больш падабаецца: за разнастайную Беларусь па-беларуску.

М.Г. Это и есть без неврозов.

З.Л. Ну, за разнастайную Беларусь без неўрозаў і па-беларуску!

З.Л. Вітаю ўсіх, у эфіры чарговы выпуск праграмы «Ідэя Х», наш сённяшні госць — журналіст, медыяэксперт Франак Вячорка.

Ф.В. Добры дзень.

З.Л. Нацыянальная ідэя для цябе — гэта што?

Ф.В. Для мяне нацыянальная ідэя — гэта комплекс каштоўнасцяў: мова, ідэнтычнасць, гістарычная памяць, усё тое, што робіць Беларусь Беларуссю, а беларусаў беларусамі.

З.Л. А як звязаны нацыянальная ідэя і нацыяналізм?

Ф.В. Нацыянальная ідэя — гэта тое, што вызначае нацыяналізм і што аб’ядноўвае, склейвае нацыю. Нацыянальная ідэя складаецца з такіх элементаў як мова, літаратура, біяграфіі і ідэі бацькоў-заснавальнікаў. У нашым выпадку, гэта біяграфіі Антона і Івана Луцкевічаў, Кастуся Каліноўскага, Тадэвуша Касцюшкі. Гэта клей нацыянальнай ідэі. А нацыяналізм — гэта працэс станаўлення нацыі, аб’яднання людзей у вялікую палітычную супольнасць.

З.Л. Як я разумею, гэта у цэлым. А ёсць дадатак вось на сённяшні дзень?

Ф.В. Напэўна, сёння нам варта згадаць аб дзвюх рэчах. Беларуская нацыя не павінна складацца толькі з культурна-гістарычных фактараў. Яна павінна быць больш палітызаванай. І варта было б задумацца пра нашае месца ў еўрапейскай сям’і народаў. Я думаю, што на дадзены час ёсць кансэнсус, што беларуская нацыя адбылася як незалежная і самадастатковая, але няма дакладнай упэўненасці, да якой цывілізацыі мы належым. Трэба асобна падкрэсліць, што Беларусь — гэта еўрапейская нацыя.

З.Л. Ці, прасцей кажучы, «Беларусь — гэта Еўропа».

Ф.В. «Беларусь — гэта Еўропа», так. Але мы павінны сфармуляваць у больш сэксі-прывабным фармаце, каб гэта натхніла кожнага

грамадзяніна Беларусі. «Беларусь як мост паміж Еўропай і Азіяй» таксама не працуе: мост — гэта тое, па чым усе топчуцца, дзе заўжды адбываліся войны, дзе пасля войнаў збіраліся трупы. Тут мала сэксі і мала пазітыву. Наш пазітыў можа быць у нашай унікальнасці і нашай незаменнасці ў еўрапейскім канструктары.

М.Г. А если так: Португалия — самая западная точка Европы, а Беларусь — самая восточная?

Ф.В. Беларусь як ускраіна заходняй цывілізацыі — вельмі класна гучыць, мне падабаецца. Але я не ведаю, як доўга мы будзем самай усходняй краінай. Рана ці позна трэба будзе гаварыць пра змены межаў унутры самой Расіі. Паглядзіце, што адбываецца ў Татарстане, Башкартастане, у цэнтральных расійскіх рэспубліках. Тамтэйшыя нацыянальныя рухі будуць развівацца. Магчыма, мяжа Еўропы пасунецца, і мы ужо не будзем жыць на краі. Між іншым, размежаванне Еўропы і Расіі адбываецца ў нас не толькі у дыскусіях, але і на вуліцах гарадоў, у архітэктуры. Я нядаўна прайшоў па Менску і звярнуў увагу на дахі ў цэнтры горада. У нас даху двух колераў: зялёныя і чырвоныя. Чырвоны дах — гэта такая еўрапейская класіка, а зялёныя — гэта будынкі, якія належаць Рускай Праваслаўнай Царкве. Тры гады назад зялёным быў толькі кафедральны Свята-Духаў сабор. Потым я паглядзеў фоткі з дрона. У будынкаў, якія належаць РПЦ, дахі зялёныя. І ўсе новыя іх будынкі пакрытыя зялёнымі дахамі. Яны кожны год паціху разбудоўваюцца, і новыя будынкі абкладаюцца новай зялёнай дахоўкай. Нават кіёскі, дзе прадаюць праваслаўную атрыбутыку, з зялёным дахам.

М.Г. Зелёный – цвет ислама.

Ф.В. Але чаму тады праваслаўная царква выкарыстоўвае яго?

М.Г. Ну, Владимир Владимирович уже сказал, что московское православие ближе к исламу, чем к католичеству. И сейчас, после «консервативного поворота», московское православие стремится быть аналогом иранского политического ислама, выполнять ту же роль. И если мы уж начали говорить о границе, то вот я очень люблю кровяную колбасу,

а в Москве кровяной колбасы почти нет. Москвичи её не едят, и купить её можно либо в беларуских мясных магазинах, либо на рынках в центре города как редкий деликатес. В Беларуси кровяная колбаса, наоборот, всюду, в каждом магазине. Иудеи и мусульмане не едят кровь и если мы обозначим границу, которая разделяет мир с кровяной колбасой и мир без кровяной колбасы, то Москва окажется на одной стороне с Ираном, Турцией и Саудовской Аравией, а Беларусь на одной стороне с Польшей, Германией, Францией.

З.Л. Цікавы паварот, але давайце паспрабуем знайсці што-небудзь яшчэ, акрамя крывянай каўбасы і чырвоных дахаў. Франак, ці можам мы вызначыць нейкі прыгожы слоган, які зачэпіць усіх?

Ф.В. У мяне такога слогана няма. Слоганы, якія сёння прыдумляюць і прапаноўваюцца, гучаць як слоганы на турыстычную прадукцыю: прыгожа, але не аб'ядноўвае кожнага з кожным. І я не ўпэўнены, што вось зараз увогуле магчыма прыдумаць слоган, аб якім ты пытаеш. За савецкім часам людзі жылі ў сваіх уласных бурбалках, у сваіх хатах, працавалі на розных прадпрыемствах. Не было ніякай супольнасці. Агульная беларуская супольнасць пачынае фармавацца толькі цяпер. Толькі цяпер людзі пачынаюць шукаць тое, што іх аб'ядноўвае, звяртаюцца да свайго агульнага мінулага, пачынаюць насіць вышыванкі, вышымайкі, вышыкашулі. Зусім вось нядаўна, літаральна ўчора, мы раптам зразумелі, што арнамент — гэта нашае, беларускае, а не толькі ўкраінскае. Гэта вельмі свежае, юнае пачуццё.

М.Г. Если объединение началось вот только сейчас, можно ли сказать, что беларуская нация до сих пор не сложилась?

Ф.В. Я прыхільнік канцэпцыі, згодна з якой калі хаця б адно пакаленне цалкам прайшло школьную адукацыю ў пэўных межах пэўнай ідэнтычнасці, з каштоўнасцямі, з ідэямі, з гістарычнымі персанажамі, то нацыя ўжо сфармаваная. У Афганістане яшчэ не было ніводнага пакалення, якое б скончыла сярэднюю школу ў адной агульнай афганскай ідэнтычнасці. У Афганістане яшчэ магчымыя розныя сцэнары, розныя варыянты афганскай нацыі. У залежнасці ад таго, хто на гэтай

тэрыторыі будзе мець больш уплыву, могуць з’явіцца амерыканскія афганцы, іранскія афганцы, мясцовыя племянныя афганцы. А Беларусь ужо сфармаваная. У тым ліку, дзякуючы дваццатым гадам, БССР, савецкай беларусізацыі. І калі зараз расейцы падкідваюць нам сваё радыкальнае праваслаўе, гэта выглядае дзіка. Асабліва калі гаворка заходзіць пра казакоў.

М.Г. В Беларуси есть казаки?

З.Л. Так!

Ф.В. Зараз куча! Гістарычна іх ніколі не было. У нас казакі былі часткай войска, але зараз расейцы ўстаўляюць ідэю, што ў вас жа былі казакі і, значыць, вы такія ж, як мы. Знайшліся нейкія гістарычныя псеўдасведчанні, і праз казакоў закідваецца, што вы, беларусы, — частка вялікай праваслаўнай трыадзінай рускай ідэі. У нас прыкладна сорак два адсоткі лічаць, што беларусы з’яўляюцца часткай трыадзінага народа. Вось гэтымі сарака двума працэнтамі яны і маніпулююць праз казакоў і РПЦ.

З.Л. У дадзеным выпадку, наколькі важная мова?

Ф.В. Суперважная, проста ключавое значэнне мае. Як ва уйгураў у Кітаі. Мова ў прынцыпе — апошні такі фарпост, абарона, браня іх ідэнтычнасці. Калі яны пазбавяцца мовы, то адразу ўсё, яны акажуцца проста безабароннымі перад вялікай імперскай культурай.

З.Л. А беларусы карыстаюцца гэтай бранёй?

Ф.В. Беларусь таксама карыстаецца. Калі б у 90-ыя гады ў нас не было беларускай мовы, у нас быў бы лёс ірландцаў і валійцаў, якія вельмі лёгка паддаліся на ўплыў Лондана. У нас сітуацыя нашмат лепшая, чым у іх. І дарэчы, нашмат лепшая, чым у лужычан, у невялікіх славянскіх моўных груп на тэрыторыі Польшчы, Чэхіі, Славакіі. Ці нават у русінаў. Вось, напрыклад, лёс русінаў: ім так і не ўдалося сабрацца і наладзіць адукацыю на сваёй мове. А нам удалося. Дзякуючы школьнай адукацыі

мы паспелі выратаваць пакаленне беларускае. І ў тым ліку, дзякуючы літаратуры. Нацыя — тады нацыя, калі ў яе ёсць свае паэты. У беларусаў ёсць, гэта нас трымае, і ўжо ніхто гэтага не адбярэ.

М.Г. Что беларусы потеряют, если окончательно забудут беларуский язык?

Ф.В. Дом і магчымасць аб'яднацца ў супольнасць. Без мовы яны згубяць сувязь са сваім домам, з бацькаўшчынай, і ў іх не застанецца момантаў, якія іх аб'ядноўваюць. Мова і памяць аб доме аб'ядноўвае, напрыклад, нью-ёркскіх беларусаў, якія ходзяць у сваю царкву, час ад часу робяць беларускамоўныя івэнты, гавораць па-беларуску. Як толькі івэнт у Нью-Ёрку не беларускамоўны, ён нічым не адрозніваецца ад расійскага, украінскага ці любога іншага.

М.Г. А почему нужна связь с домом? Гражданин Беларуси может перебраться в США, стать американцем, объединяться с другими американцами в американское сообщество?

Ф.В. Кожнаму чалавеку неабходна разуменне сваіх каранёў. Твая гісторыя робіць цябе табой. Ты згадаў Злучаныя Штаты. Вось, напрыклад, я іду на тусоўку ў Вашынгтоне, тусуюся там з markознымі студэнтамі. На першы погляд, яны ўсе звычайныя амерыканцы, але калі пачынаеш з імі гаварыць, адразу высвятляецца, што вось яна з М'янмы, гэты хлопец з Ганконга, а гэты – кенійскага паходжання. І ты разумееш: «Ваў, як цікава». У іх у кожнага ёсць гісторыя. Гісторыя бацькоў, гісторыя сям'і, гісторыя, як яны пераязджалі. Ты просіш іх сказаць чаго-небудзь на мове паходжання. Чаму ў Амерыцы такія папулярныя тэсты ДНК? Таму што твае гены распавядаюць табе пра тваё паходжанне, пра тваю краіну, тваю тэрыторыю, адкуль твой род, твая сям'я, твае бацькі. Зараз у Амерыцы паўсюль білборды, шчыты, экраны, якія рэкламуюць: «Правер сваё паходжанне». У Амерыцы любяць вызначыць, адкуль ты прыехаў, адкуль твае бацькі. Быць проста амерыканцам не цікава, і быць проста еўрапейцам не цікава.

М.Г. И насколько это рационально? Я имею ввиду, тратить так много энергии на прошлое?

Ф.В. Гэта зэканоміць табе грошы на псіхааналітыка. Выцесніць памяць аб сваім мінулым, стаць іншым — не так ужо і бясшкодна. Я сустракаўся з дзяўчынай, якая працуе на фінансавым рынку ў Нью-Ёрку і мае амерыканскі пашпарт. Яна ўсё роўна прыязджае ў Беларусь, хаця ў яе тут нікога не засталося. Яна проста псіхалагічна не можа сюды не прыязджаць. Людзі не звальваюць за мяжу, каб стаць амерыканцамі, каб станавіцца не беларусамі. Яны звальваюць за мяжу, каб дасягнуць, рэалізавацца, зарабіць грошай, але эмацыйна іх цягне ў дом. І вось гэты дом — гэта тое, што дасць ім гэта мова, памяць, міфы, і ўсё пра што мы гаварылі.

З.Л. Ты служыў у беларускім войску. З тваёй пункту гледжання, нацыянальная ідэя і армія як спалучаюцца?

Ф.В. Нацыянальная ідэя патрэбна для абароны краіны. Здольнасць цвёрда адстойваць правы на сваю тэрыторыю — гэта вынік цвёрдай ідэнтычнасці. Калі я сем гадоў таму служыў у войску, яшчэ не было гэтай «мяккай» беларусізацыі і была праблема, за што мне змагацца, калі гэта будзе трэба. За гэтую гнілую бульбу? За гэтых афіцэраў, камандзіраў, генералаў, якія цябе гнабяць, цiснуць, не паважаюць? За тую казарму? За паламанае дзяцінства? За заработак у сто даляраў? Рацыянальных аргументаў на карысць таго, каб трымаць у руках зброю, не было. У звычайных народаў ёсць пачуццё абавязку перад сваёй нацыяй, яно матывуе іх на абарону сваёй краіны. Гэта пачуццё дасягаецца ў моцнай нацыянальнай свядомасці, а ў беларусаў, дзякуючы ў тым ліку і Расіі, яго амаль няма.

З.Л. Сімволіка важная?

Ф.В. Важная. Я не ведаю ніводнага маладога чалавека, які выйдзе на мітынг, на абарону, на пікет, на акцыю пратэсту за чырвона-зялёны сцяг ці за «капусту», за герб афіцыйнай дзяржавы. Яны не выклікаюць сантыментаў, не выклікаюць эмоцый. Маладзейшыя ўвогуле не памятаюць рэферэндуму пра змену сімволікі. Думаю, калі наша сімволіка вернецца, для многіх беларусаў гэта дазволіць абазначыць у тым ліку і разуменне, што такое Беларусь. Яны зразумеюць, за што мы змагаемся. Сёння для многіх узнікае канфлікт: мы змагаемся за Лукашэнку ці

за Беларусь?! Калі зараз раптам нападзе Расія і пачнецца мабілізацыя праз ваенкаматы, можа быць парадокс, што вайна будзе не за Беларусь, а за Лукашэнку. Ён атаясамлівае сябе з дзяржавай, і менавіта праз яго людзі не хочуць атаясамліваць сябе з ёй. Многія скажуць: «За Беларусь я пайду ваяваць з расейцамі, а за Лукашэнку не!»

З.Л. Наколькі палепшылася сітуацыя за апошнія гады?

Ф.В. У нас нашмат больш з'явілася нагод, каб святкаваць разам. Рэчы, якія раней нам было проста складана ўявіць: што беларусы пад сваім сцягам, пад назвай Беларусь, будуць станавіцца зоркамі, удзельнічаць у фестывалях. Нашыя фільмы — вось «Хрусталь» зараз удзельнічае ў фестывалях класа «А». Паспяховыя гісторыі беларусаў, стартап, які прадалі у Каліфорніі, — гэта нацыянальнае свята. Такога раней не было. Гэты пазітыў трэба шукаць, трэба рабіць на ім акцэнт, абазначаць. Трэба падкрэсліваць, што гэта наша, што гэта мы зрабілі. І не шукаць ліній падзелу, не шукаць, хто ў нас беларускай нацыянальнасці, хто не.

З.Л. І на завяршэнне праграмы, можа быць, усё ж такі паспрабуеш сфармуляваць які-небудзь лозунг?

М.Г. Make Belarus sexy again?

Ф.В. Не ведаю, не. Я не магу такога сфармуляваць, гэта задача для ўсіх нас: шукаць, абмяркоўваць, дыскутаваць і выпрабаваць нешта. Беларусь — гэта Еўропа, дом, калыска. Беларусь сапраўды была ад самага пачатку, а тое, што мы робім, — гэта абнаўленне. Мы не ствараем новае, мы абнаўляем, ачышчаем ад налёту, ад гістарычна няўдалых паваротаў.



# ЮЛІЯ ЛЯШКЕВІЧ

## «НЕ ТРЭБА ЖОРСТКА ФАРМУЛЯВАЦЬ НАЦЫЯНАЛЬНУЮ ІДЭЮ – З ЦАГЛІНАК СКЛАДЗЕЦЦА МАЗАІКА»

euroradio·fm

Гутарылі Зміцер Лукашук, Максім Гаруноў
Фота Ю.Ляшкевіч

З.Л. Вітаю ўсіх слухачоў, наш сённяшні госць, які дапаможа нам, спадзяюся, сфармуляваць гэтую нацыянальную ідэю, — рэкламіст Юлія Ляшкевіч.

Ю.Л. Не поможет.

З.Л. Ну, чаму адразу не дапаможа? Вы ж прафесіянал, рэкламіст.

Ю.Л. Именно потому, что я профессионал, я так и говорю. Мне кажется, что национальная идея – это такая сакральная вещь и сформулировать её до конца невозможно, как невозможно до конца сформулировать, что такое бог. Она везде, как бог. Она разлита в воздухе, мы видим её отдельные элементы. Кажется, Тертуллиан говорил, что вера недоказуема. Так же и тут: «я беларус, ибо хрен пойми почему я беларус».

М.Г. Можем ли мы сказать, что беларусы, которые не очень заботятся о своей идентичности, слегка атеисты?

Ю.Л. Нет людей, которые не заботятся о том, что они беларусы. Вось у маёй сям'і ніхто не размаўляў па-беларуску. Мой дедушка очень хорошо знал беларускую мову, но наша семья пострадала во время репрессий, и он не любил лишний раз показывать, что он какой-то не такой. Националиста во мне вырастила бабушка. Она рассказывала, как жила в Западной Беларуси при немцах, при русских и при поляках. Этими рассказами она дала мне понять, что мы другие, что мы отдельная общность.

М.Г. Отдельная в чём?

Ю.Л. Вот есть нации, избранные богом. Вот русские избранные богом, они чувствуют, что им надо куда-то идти, что-то доказывать. А мы — богом поцелованные. Бывают дети, настолько любимые своими родителями, что им ничего не надо доказывать. Им не надо бороться за первое место, не надо кричать «мама, посмотри, как я сделал». Они уверены, что мама всегда на них смотрит. Вот мы и есть такая богом поцелованная нация. Мы просто знаем, что мы хорошие. Нам не нужны

знаки внимания. У нас и история такая, что всё как-то само собой складывалось. Не было момента, когда нужно было куда-то бежать, что-то громко кричать, кому-то доказывать.

М.Г. То есть, беларусы добьются всего того, чего добиваются украинцы, но без баррикад?

Ю.Л. Мы с украинцами разные. Недавно был пост в Фейсбуке про восстание беларусов в Могилёве. Автор сравнивал беларусов и украинцев и говорил, что украинцам нужен подвиг, а беларусам нужна эффективность. Тогда в Могилёве беларусы восстали ночью и в тишине убили всех оккупантов, пока те спали. У беларусов был специальный человек, который грел на кладбище землю, чтобы сразу похоронить убитых. Смысл в том, чтобы в городе не началась какая-нибудь болезнь. То есть, чистая эффективность, никаких ярких демонстративных жестов.

М.Г. И беларусы знают, что они беларусы?

Ю.Л. Мало того, они поглощают всех, кто приезжает к ним. Если человек остаётся в Беларуси, в него проникает этот вирус. Кем бы ты ни был, если ты сюда приехал, рано или поздно ты станешь беларусом. Легенда моей семьи гласит, что наши предки были татары, которые пришли на службу польскому королю, но со временем стали беларусами.

М.Г. Во Владивостоке в начале прошлого века жило 10% беларусов, а сегодня почти ни одного. Репрессий против них не было. Как пишут исследователи, они ассимилировались, исправили фамилии и в наши дни во время переписи называют себя русскими.

Ю.Л. Национальная идея — это больше, чем то, что ты указываешь в паспорте. Я жила у бабушки в западной Беларуси. У них кто перешёл в католичество, того записывали поляком. Думаете, они после этого стали больше поляками? Я не думаю. Я считаю, что Беларусь — это вещь в себе. Не нужно определять нашу беларускость по тому, что вы написали во время никому не нужной переписи.

М.Г. Почему никому не нужной?

Ю.Л. Она нужна государству, а я говорю об отдельно взятом человеке, который воспринимает перепись, условно говоря, как странное вторжение. Я не очень представляю, что там происходит во Владивостоке. Я там не была.

З.Л. Калі чалавек запісвае сябе не беларусам, а рускім, калі ён змяняе прозвішча на больш падобнае да рускага, то як захоўваецца беларус?

Ю.Л. Ты не знаешь, ты не был в этой семье во Владивостоке. Ты не спрашивал, как они рассказывают своим детям про Беларусь. Не является ли Беларусь для них землёй обетованной, о которой родители рассказывают своим детям сказки? Мы этого не знаем. И потом, беларускость — это спящая сила. Она может быть похоронена, но человек в любой момент может её раскопать и вернуться к своим истокам.

З.Л. Паводле перапісу, толькі 51, здаецца, ці 53 адсоткі назвалі беларускую мову сваёй роднай мовай. Гэта ўсё ж такі беларусы? Яны запісаныя беларусамі, але, можа быць, нам трэба больш беларускасці?

Ю.Л. Конечно, нужно больше. Всегда нужно больше. Вот простой пример — майка на тебе. Я хорошо помню разговор три года назад, в котором мне убеждённо говорили, что майки с национальными принтами не будут популярны. Сегодня даже у меня на Масюковщине люди ходят в майках с вышиванкой. Почему? Потому что побеждает эстетика, которая у тебя в подсознании, которая вписывается в твой менталитет, о котором ты даже не подозреваешь. За этим знаками стоит нечто, и люди чувствуют это нечто. Это реальная вещь, она разлита в воздухе. Они что-то чувствуют, оно наполняет их радостью и гордостью, и поэтому тратят деньги на эти майки.

З.Л. Ці патрэбна нам добра сфармуляваная нацыянальная беларуская ідэя?

Ю.Л. Что такое хорошо сформулированная беларуская идея?

М.Г. Если нация, как вы сказали, — это вера, то национальная идея — это символ веры.

Ю.Л. Символ веры важен не для веры. Он важен для церковного института, а мы говорим про веру, и это разные вещи. Для моей веры вообще не нужен никакой символ веры. И поверьте, для огромного количества людей на улице, которые верят, им тоже не нужен символ веры. Он нужен для обрядности, но не нужен для твоего внутреннего реального ощущения.

З.Л. Абрад зусім не патрэбны?

Ю.Л. Нужен, но проблема в том, что мы только об обряде и говорим. Когда мы начинаем говорить о национальной идее, мы сразу говорим о высокопарных вещах: «свобода, равенство, братство». Но давайте посмотрим на листовки, которые писали те же французы, когда они стали нацией. На песенки, которые тогда распевали дети на улицах. Они были крайне простые, примитивные, но яркие, цепляющие. Они обращались напрямую к чувству. Я понимаю, что это, может быть, не очень правильно, но это обязательный этап и он должен быть пройден. Сейчас мы в Беларуси лепим наших героев, но потом мы начнём в них сомневаться.

З.Л. Развенчивать?

Ю.Л. Немного развенчивать, немного искать, немного понимать. Но вначале мы должны установить их на пьедестал.

М.Г. А зачем вообще нужен свой отдельный язык?

Ю.Л. Это важный вопрос. С одной стороны, вроде бы всем удобнее говорить на одном языке. С другой стороны, Юрий Мельничек, беларуский айтишный олигарх, недавно рассказывал, что в скором будущем можно будет заказать программу, которая будет следить за тем, чтобы на каждой пицце были одинаково разложены ингредиенты. Я представила себе мир, в котором все пиццы одинаковые. Это ужас. Мне

кажется, что разнообразие важнее рационализма. У разнообразия есть побочные эффекты, но тем не менее. Япония в своё время на два века закрылась от мира, и это дало огромный толчок к развитию. Когда Япония снова открылась, Европа офигела.

З.Л. Пра Японію зразумела. А дзяржаве Беларусі патрэбны нацыяналізм?

Ю.Л. Государство у нас очень странное. Мы единственная страна в постсоветском пространстве, которая вообще никак не раскручивает национальную идею. Вообще. У украинцев сейчас даже праотец Адам был украинцем, и это нормальный подход. У нас же всё наоборот. Моя подруга исследовала изображение на марках. С приходом Лукашенко у нас с марок исчезают личности. Есть война, природа, а личности как бы исчезают. Нет ничего, связанного с нашей историей в Великом Княжестве Литовском. До начала Второй мировой войны нас как бы и не существовало вовсе.

З.Л. Дык патрэбны ці не патрэбны, я не зразумеў? У пачатку вы быццам бы казалі, што нацыяналізм у нас і так ёсць і не трэба нам замарочвацца.

Ю.Л. Я не так говорила. Я говорила, что мы не должны думать, что раз мы не сформулировали нашу национальную идею в одной фразе, то значит, что её у нас нету. Я говорила, что национальная идея — это больше, чем одна сформулированная фраза. И больше, чем одна идея. Если вам нужны конкретные формулировки, то можно взять наш мультфильм. Там был ясно сказано, что мы люди с огромной историей, которые выигрывали, которые в своё время были на многое способны. Это была первая идея. Вторая идея была в том, что мы богом поцелованные и что бог нас любит. Если вам этого недостаточно, то я не знаю, что вам предложить да и нужно ли предлагать.



# СЯРГЕЙ ЧАЛЫ

## «НАМ ПАТРЭБНЫ НЕ АДЗІН ГОРВАТ НА ЎСЮ БЕЛАРУСЬ, А СЕТКА ГОРВАТАЎ!»

euroradio·fm

Гутарылі Зміцер Лукашук, Максім Гаруноў
Фота Еўрарадыё

ЗЛ: Вітаю слухачоў «Еўрарадыё»! Наш сённяшні госць — эканаміст Сяргей Чалы. Сяргей, тут Максім вызначыў, што беларусы як нацыя існуюць. А калі існуюць, то і нацыянальная ідэя ў іх павінна існаваць. Ці ёсць яна, ці няма?

С.Ч. Мне кажется, что сейчас нет такой идеи, которую можно было назвать беларуской национальной. Мне кажется, у нас сейчас довольно странное состояние: у нас есть государство, которое не считает нацию своей, и есть нация, которое не считает государство своим.

ЗЛ: А нацыянальная ідэя — яна ўвогуле нам патрэбная?

С.Ч. Не знаю. Для чего?

М.Г. Чтобы нация и государство перестали жить отдельно, чтобы они слились в экстазе.

С.Ч. Сложно сказать. Проблема в том, что у нас эту идею ищут в прошлом. Странное государство без нации, и странная нация без государства роются в прошлом. Отличается только глубина. По версии государства, мы − партизаны времен Второй мировой войны, и древнее у нас ничего нет. По версии нации, наши корни уходят в самое ранее средневековье, мы Европа, возможно, её лучшая часть, а российско-советский период и Лукашенко − это такая трагическая случайность. На мой взгляд, им всем не хватает ответа на вопрос: «Чего мы хотим?» На вопрос, кем мы не являемся, мы уже ответили: мы не поляки и не русские. Это уже общепринято. А вот кем мы хотим стать? И нужно иметь в виду, что в обозримой перспективе мы не станем членом ЕС. Посмотрите, что происходит в Венгрии, в Польше. Европа нащупала свои пределы. По-моему, это понятно и ей, и нам. Пойти по пути стран Балтии, которые успели войти в ЕС, у нас не получится. Нужно придумать будущее без возможности вступить в Европейский союз.

М.Г. А мне кажется, у авторитарного беларуского государства есть образ будущего.

С.Ч. Какой?

М.Г. «Лукашенко правит вечно».

С.Ч. Они бы этого хотели, я согласен. Но это временная вечность, надо понимать. Беларуские чиновники живут в начале советских 80-х, им там комфортно, у них нет стимулов меняться. В 1994 году, после победы Лукашенко на выборах, они вернулись в понятный им мир, к процедурам и служебным инструкциям позднего СССР. Лукашенко воплотил в жизнь их желание жить в начале 80-х. Администрация президента переехала в здание Центрального Комитета. У администрации сейчас такие же права и обязанности как у ЦК. Её структурные подразделения повторяют структурные подразделения  центрального комитета коммунистической партии. Это не имеет никакого отношение к будущему Беларуси.

М.Г. Почему не имеет? Стремление повторять одно и тоже — разве это не отношение к будущему?

С.Ч. Да, но чьё? Лукашенко приятно играть роль советского лидера. Это и в целом приятная роль: много  власти, никакой отчётности, закрытость. А что думают юноши и девушки? У нас открыты границы, доступен интернет. Молодёжь ездит на выходные в Вильнюс и Варшаву. Они не видят себя в советских декорациях. Они их терпят, и в этом смысле это такая временная вечность: пока жив Лукашенко и его команда. Какое будущее нас ждёт, когда эта советская вечность закончится?

З.Л. Ты кажаш, што нацыянальная ідэя павінна ўключаць у сябе праекты будучыні. Адзін з нашых гасцей сказаў, што мы зараз гэта не ўспрымаем як нацыянальную ідэю, але менавіта так яна, можа быць, будзе прапісана ў нейкіх падручніках, нашымі ўнукамі, праўнукамі. Гэта — «Жыве Беларусь» ці «Барані сваё».

С.Ч. А чем это отличается от национальных идей других национальных государств? От той же Польши?

З.Л. Яна гучыць на беларускай мове.

С.Ч. Ну разве что. Мне кажется, что национализм в наше время – это довольно слабое развлечение, если честно. Я согласен с мнением левых, которые утверждают, что национальное государство – это продукт промышленной революции, и в нашу постиндустриальную эпоху его задачи выполнены. Общее образование мы получили, люди способны разговаривать на одном языке. Цели националистов, которые были заявлены в 1848 году, во время «весны народов», достигнуты, и повестка национального государства исчерпана. Что мы видим сейчас в Европе? Существуют наднациональные образования в виде ЕС. С каждым годом они важнее национальных правительств. Место национализма занимает регионализм, то есть, более локальная идентичность. «Малая родина», как у нас говорят. Для национализма, о котором вы говорите, места не остается, национальный романтизм себя исчерпал.

М.Г. Если посмотреть на современную беларускую литературу, то самый громкий успех за последние годы — это работы Андруся Горвата, а у него очень национальная лирика. Я был на двух театральных постановках по его пьесам. Его умиляет традиционная кухня, быт, деревня. Что это, если не романтизм?

С.Ч. У Горвата региональная лирика, а не национальная. Он пишет о своём Полесье на полесском диалекте, а не о Беларуси на литературном беларуском.

З.Л. Тым не менш. Скажам, вось гэты тэзіс «малой радзімы», айчыны. Гэта можа быць нейкая частка нацыянальнай ідэі?

С.Ч. На мой взгляд, сейчас есть два конкурирующих проекта будущего ЕС: союз суверенных государств и федеративные штаты Европы. Мы рассуждаем о Беларуси на это фоне. Если ЕС так и останется союзом суверенных держав, это будет означать, что национализм как повестка, объединяющая и мобилизующая людей, не ушла, и левые были не правы. В этом случае наш национализм получит ещё один

шанс. Если нет, если регионы заменяют национализм, то Горват, упомянутый вами, будет первым писателем Полесья.

З.Л. А ты за какой вариант?

С.Ч. За регионализм. А в целом — за конституцию и толерантность.

М.Г. А если окажется, что Евросоюз решит стать Соединенными Штатами Европы?

С.Ч. Я очень на это надеюсь. Идея в том, что основные функции государства будут передаваться наверх, в Брюссель и Страсбург. Идея левого российского философа Николая Бердяева о том, что нас ждёт новое средневековье, мне чрезвычайно симпатична. Я имею ввиду, дробление современных крупных национальных государств на «малые родины». Особенно с учётом того, что развитие цифровых технологий позволяет избегать негативных экстерналий. То есть, оказавшись в государстве Бавария, ты всё равно будешь иметь доступ к информационному пространству и услугам, как в государстве Германия. Это будет такое цифровое средневековье.

З.Л. Сяргей, такое можа быць меркантыльнае. Лукашэнка ўжо дзесяць гадоў кажа пра тое, як ён імкнецца давесці сярэдні заробак у рэспубліцы да 500 даляраў ЗША ў месяц. Можа быць, гэта і ёсць наша нацыянальная ідэя? «Малая радзіма», пра якую ты кажаш, гучыць неяк занадта паэтычна.

С.Ч. 500 долларов каждому — это такая старая советская идеология равенства в нищете. Отчасти это похоже на лозунги российских правых вроде Владимира Жириновского. В нулевые у Жириновского был лозунг: «Я за бедных, я за русских». Он отождествлял классовую идентичность и национальную, как делали коммунисты в СССР. В этом смысле Лукашенко, как и Жириновский, пользуется разработками советской пропаганды.



З.Л. Эканамічна, Беларусь — гэта пра бедных?

С.Ч. Да, но бедность — это слабая идентичность. Классовая идентичность не работает. Национальная идентичность сильнее классовой. Первая мировая война это очень хорошо показала, когда коммунисты, будучи как будто принципиальными интернационалистами, в первый же день войны добровольно шли на призывные пункты разных национальных армий.

З.Л. І наша нацыянальная ідэя?

С.Ч. Цифровое средневековье, я бы так сказал. Идея федерализации Европы, регионализации политики и в целом общественной жизни. Нечто такое.



# ЗМІЦЕР
# ДРОЗД

## «ВЫЖЫЦЬ, КАБ ПАБУДАВАЦЬ КРАІНУ СПРАВЯДЛІВАСЦІ — МАЯ ІДЭЯ-ЎТОПІЯ»

euroradio·fm

Гутарылі Зміцер Лукашук, Максім Гаруноў
Фота Еўрарадыё

З.Л. Вітаю ўсіх слухачоў, наш сённяшні госць — гісторык, даследчык Зміцер Дрозд. Добры дзень, Зміцер.

З.Д. Дзень добры.

З.Л. Чаму вы беларус?

З.Д. У меня просто нет других вариантов. Все мои предки, о которых мне удалось найти сведения в архивах, были беларусы и жили рядом с Минском. Самые далёкие предки, о которых я знаю, — Максимилиан и Констанция Дроздовские. В 1720 году Максимилиан был крещён в униатской церкви в деревне Тарасово на реке Свислочь, о чём сохранилась запись. Насколько я могу судить по документам, за три века мои предки были и католиками, и православными, но жили рядом с Минском, никуда не уезжали. Я их потомок и чувствую родство с ними.

З.Л. А мова?

З.Д. Я не смог выяснить, на каком языке они говорили три века назад. Во времена Максимилиана в Минске и вокруг говорили либо на беларуском языке, либо на такой польско-беларуской трасянке, приблизительно как в текстах у Адама Мицкевича. Я говорю на русском, но это потому, что моё поколение растили как советских людей. В школе мы услышали беларуский язык только в четвёртом классе. Судя по моим школьными дневникам, в пятом классе у нас было больше английского языка, чем беларуского. Сегодня я хочу, чтобы мой ребенок хорошо говорил на беларуском, на русском, на польском и на английском языках. Языки — это богатство, чем их больше, тем лучше.

З.Л. На якой мове гаварылі вашы бабулі?

З.Д. Моя бабушка по материнской линии жила на границе Минского и Дзержинского районов. Её поколение заканчивало сельские школы и училось на беларуском языке. Когда она переехала в Минск, то перешла на русский язык и стеснялась говорить на беларуском. Моя бабушка по линии отца до шестнадцати лет не знала русского. Она выросла

в деревне Загалье, это почти Полесье. В её деревне все говорили на беларуском языке. Бабушка закончила беларускую школу и только в шестнадцать лет, когда попала в Минск, столкнулась с необходимостью говорить на русском языке. До этого у неё такой необходимости не было.

З.Л. Навошта вашым дзецям беларуская мова?

З.Д. Сегодня в беларуском обществе, если ты хочешь принадлежать к культурной элите, ты обязан знать беларуский язык и использовать его хотя бы в социальной сети. Я со своим русским языком и русскоязычным блогом о беларуском прошлом чувствую себя немножко как чужеродное существо. Каждую неделю в комментариях на Facebook у меня спрашивают на беларускай мове: «Слушай, а почему ты говоришь на русском языке?»

М.Г. Был ли у ваших предков опыт участия в каких-то объединениях, союзах?

З.Д. Мне кажется, что социальный и культурный мир беларуса — это всё-таки отдельный хутор, в котором живёт одна семья. Беларус жил так: «я работаю, я кормлю своих детей, я даю им шанс выбиться в люди, получить образование. Это мой смысл, и я для этого живу. Кроме этого меня ничего не заботит». Большинство беларусов жили на своих хуторах совершенно своей отдельной, отвлечённой жизнью. Это было автономное существование, мало зависящие от того, что происходит в большом мире. Выходом за границы хутора были разве что воскресные поездки в церковь. Беларусов на хуторах совсем не беспокоила смена властей. Власти менялись, на смену полякам приходили россияне, но это мало влияло на их ритм жизни. Его обитатели были по-своему самодостаточны, по-своему довольны и не чувствовали необходимости в какой-то большой объединяющей национальной идее.

З.Л. Зараз гэта таксама засталося?

З.Д. Думаю, для многих всё осталось совершенно так.

М.Г. Какова была обычная реакция на несправедливость со стороны властей?

З.Д. Насколько я знаю, никто из моих предков не участвовал в восстаниях. Может быть, к сожалению. Я бы хотел, чтобы они сопротивлялись, но в их ситуации силы всегда были слишком неравны. И беларусы наивные, хуторская доверчивость их подводит: когда их ведут на убой, они молчат и верят, что может быть и обойдётся. Когда в тридцатые годы к моим предкам пришли большевики и сказали отдать землю, они отдали и как «кулаки» поехали умирать в Архангельскую область. За первые полгода умерло трое. Один из моих родственников назван якобы польским шпионом. Но те, кто реально сопротивлялся советской власти, до сих пор они не реабилитированы, считаются преступниками.

М.Г. А были уехавшие в США?

З.Д. Нет, никто не уезжал, все остались здесь.

М.Г. Как вы отнеслись к слухам о возможной интеграции с Российской Федерацией?

З.Д. Думал о том, что, когда придут россияне, надо будет бежать в сторону польской границы. Я не вижу для себя будущего в Российской Империи. Если это произойдёт, то бегство будет единственным выходом.

М.Г. Почему?

З.Д. У меня есть большой опыт моей семьи, что им приходилось пережить во время оккупаций, и мне не хотелось бы это повторять.

З.Л. Не думалі падаць дакументы на «карту паляка»?

З.Д. Одна из веток моих предков была записана как поляки, но это фикция. Они были беларусы, но католики, а в Российской Империи

был такой подход: если католик, то обязательно поляк. Большинство документов, которые я читаю в архивах, я читаю на польском. Мой главный герой, Дунин-Марцинкевич, считается польско-беларуским поэтом, хотя по работе он писал ещё и на русском языке.

М.Г. Как вы отнесётесь к тому, что через двести лет у вашего потомка будет тёмная кожа, он будет жить в Канаде и будет говорить, допустим, на французском? При этом он будет помнить, где его корни.

З.Д. Я не исключаю такого варианта. Человек оценивает свою жизнь из сегодняшнего дня. Если сегодня он счастлив, то ему, по большому счёту, всё равно, что двести лет назад его страна была уничтожена. Мы с вами живём несмотря на то, что Великое Княжество Литовское было уничтожено. Более того, есть много историй о том, как люди, которые родились в Великом Княжестве Литовском, потом сделали военную карьеру в Российской Империи и принимали участие в подавлении антироссийских восстаний на этих территориях. Для меня главное, чтобы мой потомок через двести лет был счастлив, реализовался и, я думаю, это подход большинства людей. Вот Америка, страна эмигрантов: думаете, американцы много комплексуют по поводу того, что двести лет назад они покинули свою родину? Люди просто выживают исходя из доступных возможностей.

З.Л. Выжываць любым спосабам?

З.Д. Не любым. Есть какая-то мера, какая-то граница, за которую нельзя переходить, и за которую никогда не переходили мои предки, к моему счастью.

М.Г. Например?

З.Д. Никто из моих предков не сотрудничал ни с советской властью, ни с немецкой властью. Ни на ком из них нет крови. И для меня сотрудничество тоже недопустимо.



М.Г. Что такое для вас Беларусь?

З.Д. Меня полностью устраивает, что между Польшей и Россией существует Беларусь. Я родился в Советском Союзе, и я не плакал, когда он развалился. Я даже и не заметил, как он развалился. Иногда меня посещает ностальгия по тому времени, но только как по детству, юности и не более того. Мне нравится Беларусь. Мне не нравится нынешняя беларуская власть, не нравится, что Беларусь сейчас не беларуская. Но сам факт существования Беларуси — я счастлив. Я беларус, у беларусов есть беларуское государство, и я хочу, чтобы так было и дальше. К сожалению, я не уверен в будущем. Я не знаю, что будет завтра. Когда говорили об интеграции, я думал о том, что ни в военном плане, ни в общественном нам нечего противопоставить поглощению Россией, что мы беззащитны. Мне кажется, что в нашем положении единственно правильный выход — это культурная работа: просто открывать людям исторический опыт. И ещё надеяться на то, что государство, которое уже появилось, в котором живут десять миллионов граждан, тяжело будет окончательно интегрировать.

М.Г. Какой должна быть Беларусь?

З.Д. Как Чехия хотя бы. Когда будем как Чехия, можно будет спокойно жить и быть довольным жизнью.

З.Л. Масавая працоўная міграцыя?

З.Д. Не вижу в этом проблемы. Все люди ищут, как рыба, где глубже. Посмотрите, сколько поляков, несмотря на их сильное национальное сознание, работает в Лондоне. Сейчас мир поменялся, а мы в какой-то степени остались хуторянами и пытаемся жить как на хуторе, и отсюда эти опасения, как мне кажется. В прошлом веке у нас также было. В начале прошлого века беларусы часто уезжали в Америку на заработки, но потом возвращались и на «американские» деньги обустраивали свои хутора, где можно было жить отдельно и самодостаточно.



# АЛЕГ ХАМЕНКА

## «ТРЭБА ВЫЗНАЧЫЦЬ МЕСЦА НАЦЫІ Ў СУСВЕЦЕ, А ПАСЛЯ І НАЦІДЭЯ НАДБУДУЕЦЦА»

euroradio·fm

Гутарылі Зміцер Лукашук, Максім Гаруноў
Фота Еўрарадыё

З.Л. Вітаю ўсіх слухачоў, наш сённяшні госць — выкладчык, музыка, лідар гурта «Палац» Алег Хаменка. Я ведаю, што ты не толькі рыхтаваўся да нашай праграмы, але даўно і плённа распрацоўваў нашу нацыянальную ідэю і ледзь не кандыдацкую спрабаваў па гэтай тэме абараніць.

А.Х. Не, не, не. У мяне ёсць сябра, Ігар Скрыпка. Мы пазнаёміліся ў аспірантуры. Ён спрабаваў зрабіць кандыдацкую пра развіццё беларускай нацыянальнай ідэі. Мы з ім гэта абмяркоўвалі. Я распавядаў яму пра свае думкі, ён мне пра свае. Я глядзеў на нацыянальную ідэю праз фальклорнае асэнсаванне, і мне да гэтага часу падаецца, што мой падыход можа быць вельмі карысным.

З.Л. Што такое нацыянальная ідэя і навошта яна патрэбная?

А.Х. У свеце рэдка карыстаюцца паняццем «нацыянальная ідэя». Гавораць пра «нацыянальную свядомасць» альбо пра «нацыянальную самаідэнтычнасць». Не гавораць пра «нацыю», а разважаюць пра «нацыянальнасць» у сэнсе «народ», або «folk». Пра «ідэю» таксама не гавораць, а гавораць пра «місію», пра «прызначэнне народа», пра «стратэгію развіцця народа». Таму, як мне здаецца, калі гаварыць коратка і зразумела, то тут трэба гаварыць пра фолк, пра народ, пра яго стратэгічнае развіццё і пра яго месца ў сусвеце.

З.Л. На гэтай перадачы мы шукаем месца беларусаў у свеце?

А.Х. Безумоўна.

З.Л. А народу на самой справе патрэбна місія або прызначэнне? Ці можна як-небудзь без іх?

А.Х. Адны кажуць, што надзвычай патрэбна, іншыя кажуць, што гэта не важна, бо баяцца разважаць пра свой народ і яго місію. Глеба для асцярогі ёсць, і гэта відавочна, я думаю. Калі гаворка ідзе пра «місію народа», пра «месіянскі народ», пра «мы можам у сусвеце ўсё», то там да дэструктыўнага нацыяналізму ці нацызму два крокі. Нацыянальная ідэя так ці інакш сцвярджае, што вось гэты канкрэтны народ не проста чымсьці адметны, а што ў яго надзвычайнае прызначэнне — змяніць сусвет, а значыць, падпарадкаваць сабе іншыя народы. Гэта даволі небяспечная тэма.

М.Г. При каких условиях национализм становится нацизмом?

А.Х. Гэта калі «мая нацыя лепшая за вашу» і «мая нацыя мае права, а ваша нацыянальнасць мае толькі абавязкі».

З.Л. А каб быць нацыяналістам, а не скаціцца да фашызму? Гэта магчыма?

А.Х. Абсалютна магчыма. Зараз у сусвеце і ў нас «нацыяналізм», як паняцце вярнулася ва ўжытак у першапачатковым сэнсе слова. Па шэрагу прычын, слова «патрыятызм» перасталі выкарыстоўваць, бо яго значэнне — любоў да малой радзімы — гэта сфера пачуццяў, а «нацыяналізм» — гэта палітыка і дзяржаўная ідэалогія. У сённяшнім значэнні нацыяналіст — гэта патрыёт, і пакуль ты проста патрыёт, проста хочаш дабра сваёй краіне, ты на правільным шляху. А вось калі ты пачынаеш глядзець на суседзяў і думаць, што ў іх дрэнна ляжыць, гэта ўжо шлях у іншы бок, у нядобры.

М.Г. Норвегия в 1905 году разрывает унию со Швецией и впервые за много веков становится независимой. Норвежец, который говорит шведам, что теперь Норвегия — независимая страна, в который мы, норвежцы, будем говорить на своём норвежском языке, а не на вашем, шведском, — он нацист или не нацист?

А.Х. Ён патрыёт. Можна гаварыць, што ён патрыёт у кантэксце нацыяналізму. Нацыяналізм бывае з рознымі фарбамі. Вызваленчы, культурны, этнічны, рамантычны нацыяналізм — вельмі вядомае такое спалучэнне. Альбо грамадзянскі нацыяналізм і інтэгральны нацыяналізм. Гэтыя рэчы шмат абмяркоўваюцца, і туды я б не хацеў паглыбляцца, таму што там шмат навуковай лексікі.

З.Л. Нацыяналізм увогуле — гэта добра ці дрэнна? Я пытаюся, бо ў Беларусі нацыяналізм — гэта мацернае слова.

А.Х. Бенедыкт Андэрсан і Эрнест Гелер падрабязна пісалі, што такое нацыяналізм. І акрамя іх шмат хто пісаў і разважаў. Нацыяналізм — гэта старая з'ява. Магчыма, першымі ў Еўропе нацыяналістамі былі галандцы, калі іх ачолілі князі Бургундыі. Галандцы раптам уперліся, сказалі, што мы не немцы і не французы, хочам жыць асобна ў сваіх Нідэрландах без уціску гішпанскіх Габсбургаў. Калі ў іх атрымалася вызваліцца ад усіх, у іх быў проста каласальны прарыў у эканоміцы, у культуры,

у тэхналогіях. Быў перыяд у гісторыі Еўропы, калі галандцы былі першымі ва ўсім і па сутнасці кіравалі светам. Колькі там той Галандыі па тэрыторыі і па насельніцтве, але тым не менш. За галандцамі пайшлі і астатнія, асабліва ў дзевятнаццатым стагоддзі, калі пачаўся проста парад нацыяналізмаў.

З.Л. Можна сказаць, што беларусам не хапае нармальнага, здаровага нацыяналізму?

А.Х. Мы яшчэ знаходзімся ў стане рамантычнага нацыяналізму. І дарэчы, я ўвогуле не бачу падстаў, каб у Беларусі з'явіўся агрэсіўны нацыяналізм. Іх пакуль няма. Пра гэта, напэўна, будзе трэба гаварыць гадоў праз дзесяць. Магчыма, тады могуць паўстаць нейкія моманты, на якія лепш было б сістэмна ўплываць.

М.Г. Как связаны экономика и национальная идея?

А.Х. Калі ў якой-небудзь супольнасці — зараз не гаворым пра народ, проста гаворым аб супольнасці — ёсць мэта і ёсць адзінства, супольнасць значна хутчэй працуе ў адным напрамку, і тады цалкам магчыма дасягнуць адчувальнага эканамічнага росту. Калі людзі чымсьці аб'яднаныя, ім значна прасцей узаемадзейнічаць, і гэта магутна ўплывае на ўсе сферы жыцця. У гісторыі Беларусі нешта такое ўжо мела месца. Як толькі мы абмяжоўваліся, у першы момант гэта давала каласальны выбух культуры, якая падцягвала за сабой усё астатняе, у тым ліку эканоміку. Але ў нас яшчэ ні разу не было працягу. Далейшае развіццё атрымлівалася мутным, і ўсе здабыткі скасоўваліся.

З.Л. Наколькі небяспечна тое, што мы амаль згубілі сваю мову?

А.Х. Я не лічу, што мы страцілі мову. Спытайце ў культурных дзеячаў старэйшага пакалення, які быў стан мовы ў сямідзясятыя гады. Зараз сітуацыя лепшая. Але, цяпер усё развіваецца значна хутчэй, у тым ліку працэсы знішчэння, асіміляцыі. На жаль, паўнавартаснае вяртанне нашай мовы будзе вельмі моцна расцягнута ў часе. Для народа гэта нармальна, а для асобнага чалавека, творчых людзей, гэта, канешне, праблема і, нярэдка трагічная.

М.Г. Что такое США с точки зрения национализма?

А.Х. Усё, што прапануе Амерыка — гэта ўніверсалізацыя. У Амерыцы ўсё

ўніверсальна. Яны карыстаюцца ўніверсальнай мовай. Яны пабудавалі ўніверсальную культуру, якая з'яўляецца такой сумессю англійскай, ірландскай, італьянскай і гэтак далей. У іх універсальная рэлігія — пратэстантызм. Іншая справа, што ў ЗША вы ўсё роўна пабачыце, як развіваюцца нацыянальныя супольнасці. І палякі збіраюцца, і беларусы збіраюцца, і індзейцы ладзяць фэсты, а ў некаторых мястэчках увогуле ўсе паміж сабой гавораць па-іспанску.

З.Л. Наколькі важны фолк, народныя традыцыі?

А.Х. Цытата з сябе: «Нацыянальную ідэю сфармуляваць немагчыма да таго моманту, пакуль яна не фармулюецца як фальклорны твор. Тады яна становіцца настолькі відавочнай і зразумелай, што тлумачыць яе недарэчна, а карэктаваць бессэнсоўна». Напрыклад, у нас не трэба тлумачыць, як і навошта святкаваць радаўніцу. Усе ўпэўненыя, што яе трэба святкаваць і гэтую ўпэўненасць у беларусаў ну ніяк не адбярэш. КПСС колькі змагалася, колькі душылі, стралялі людзей, але беларусы, не зважаючы на небяспеку, у патрэбны дзень таемна хадзілі на свае могілкі і ўсё роўна святкавалі. Так і нацыянальная ідэя: нараджаецца ў народзе і існуе. Міфалогія нашай нацыянальнай самаідэнтычнасці добра распрацавана, і гісторыя яе зразумела, і на чым яна грунтуецца, таксама зразумела, але афіцыйна яна не прынята.

З.Л. Афіцыйна не прынята. А народам прынята?

А.Х. Усім народам, безумоўна, не. Мала таго, частка эліт таксама яе не прымае. Я сам у такім яе выглядзе не прымаю, бо мне хочацца яе падправіць. Мне хочацца, каб паралельна існавала яшчэ некалькі дэвізаў нацыянанальнай самаідэнтычнасці. Я, да прыкладу, прапаноўваў уласны лозунг «Беларусь — краіна Святога Духа» і «Гонар, годнасць, грамадзянскасць». Мне ён здаецца перспектыўным. Але ў гэтага народа ўжо ёсць свой лозунг — «Жыве Беларусь. Жыве вечна!» Народ яго прыняў, ён з ім пагадзіўся, карыстаецца і змагацца з гэтым няма ніякага сэнсу.

З.Л. Як радаўніца.

А.Х. Як радаўніца.

М.Г. Есть мнение, что нация – это то, что заменяет нам Бога и вечность. В нации я могу жить вечно, по крайней мере, пока она не исчезнет. Я сам умру, но сообщество, частью которого я был, будет жить и дальше,

будет помнить обо мне, и это такая форма вечности.

А.Х. Абсалютна згодны, але трэба ўдакладніць, што гэта магчыма толькі ў сітуацыі, калі нацыя, грамадства канчаткова сфармавалася. Калі ёсць нейкая агульная фармулёўка ідэі, уяўленне аб агульнай місіі, якую падзяляюць і сярэдні клас, і маргіналы, і эліты. То-бок, альбо ўсе, альбо пераважная большасць. Калі гэта ёсць, тады мы можам казаць пра нацыю і пра тое, што яна можа прэтэндаваць на вечнасць.

З.Л. Як выглядае нацыя без місіі, пра якую вы ўвесь час кажаце?

А.Х. У адказ на гэтае пытанне я часта прыводжу прыклады са старога савецкага кіно пра мушкецёраў. Там быў такі дыялог, калі ў мушкецёраў пыталіся, навошта яны б'юцца. Д'Артаньян казаў, што за каханне, Атос сказаў, што за сваё імя, а Партос — што ён б'ецца, таму што ён б'ецца. Выдатны адказ, але ў ім ёсць непаўнавартаснасць. Калі мы б'емся проста каб біцца ці калі мы жывем проста каб нарадзіць дзяцей, урэшце атрымліваецца, што мы нічым не адрозніваемся ад віруса, які проста распаўсюджваецца, захоплівае прастору, пакуль у яго ёсць на гэта моц. Калі мы людзі, калі у нас ёсць свядомасць і розум, то нам неабходна нешта большае, чым проста жыццё, проста распаўсюджванне ва ўсе бакі. Вось амерыканцы кажуць: «Мы стварылі краіну мары». Французы кажуць: «Мы ведаем свабоду». Брытанцы кажуць: «У нас закон перадусім». Расейцы заўсёды будавалі свой «Трэці Рым». Яны і зараз яго будуюць. Тыя ж кітайцы, «мы паднябесныя, а вы ўсе пры зямлі». У беларусаў сёння лозунг «Жыве Беларусь. Жыве вечна». Скарочаны варыянт — «Жыве Беларусь!» — гэта часовы лозунг, улічваючы наша сённяшняе становішча. Потым, магчыма, з'явіцца больш змястоўны лозунг, больш свядомы. Пры гэтым я ні разу не адмаўляю, што ў прынцыпе можна жыць і з гэтым выдатным дэвізам нацыянальнай ідэнтычнасці. Для асобнага чалавека яго цалкам можа быць дастаткова. Адсутнасць такога моцнага лозунгу, як у тых жа французаў, ніяк не перашкаджае жыць асобнай сям'і або маленькай супольнасці. Але гэта перашкаджае ў кантэксце прадказальнасці народа ў цывілізацыйнай прасторы, а гэта ўжо небяспечна.

З.Л. Такім чынам, місія беларускага народа — гэта «Жыве вечна»?

А.Х. «Жыве Беларусь. Жыве вечна». Пакуль так, але, паўтаруся, будзем спадзявацца, што з часам іншыя лозунгі народзяцца і будуць прынятыя народам як дэвізы нацыянальнай ідэнтычнасці.




# ЛЯВОН ВОЛЬСКІ

## «НАЦІДЭЯ ПАВІННА БЫЦЬ РАМАНТЫЧНАЙ І ВЯРТАЦЬ ПАЧУЦЦЁ ГОДНАСЦІ»

euroradio·fm


Гутарылі Зміцер Лукашук, Максім Гаруноў
Фота Еўрарадыё

З.Л. Вітаю ўсіх слухачоў, наш сённяшні адмысловы госць — генералісімус айчыннага рок-н-рола Лявон Вольскі.

Л.В. Прывітанне.

З.Л. Лявон Артуравіч, вы ж, можна сказаць, заснавальнік беларускамоўнага рок-андэграўнду.

Л.В. Ну, не.

З.Л. А хто перад вамі быў?

Л.В. «Песняры» (смяецца).

З.Л. Я ведаў, што вы так скажаце.

Л.В. Аднолькава падышлі з гуртом, які называўся спачатку «Студыя 7», а потым «Бонда», дзе, дарэчы, быў Ігар Варашкевіч.

З.Л. Але «Студыя 7» спачатку па-руску спявала.

Л.В. Там было тры песні беларускамоўныя. «Тата мае рацыю» ўжо была тады. Мы ўзяліся за беларускую мову таму, што больш нічым здзівіць не маглі. Выкананне ў нас было так сабе. Да таго ж, мы былі ўжо ў досыць сталым узросце: мне было пятнаццаць, а Давыдоўскаму наогул, здаецца, сямнаццаць. Часу, каб напрацаваць тэхніку, зусім не заставалася.

М.Г. В пятнадцать лет вы просто решили петь на беларуском языке, и все?

Л.В. Так. Як ні смешна, гэта так і было.

М.Г. А Беларусь существует? Ничто никуда не исчезает, правильно?

Л.В. Ну, ёсць як бы (смяецца).

М.Г. И язык есть, и публика есть, люди слушают, подпевают, и творчество идёт?

Л.В. Ну, так і ёсць, так і ёсць (смяецца).

М.Г. И вы звезда, и уже довольно давно, не первый год?

Л.В. Зорка, так (смяецца).

М.Г. Ну, если Беларусь существует, если функционирует, то основной вопрос нашей программы: «А что такое Беларусь?» — он для вас совершенно глупый.

Л.В. Цікавая пастаноўка пытання.

З.Л. Ну, Лявон, ён праўду кажа. Вакол Вас беларускасць, Вы сапраўды жывяце ў «беларускай Беларусі», і нашы пытанні ўспрымаеце як дэбільныя.

М.Г. Когда вы в последний раз видели русского, не включая меня?

Л.В. Паўсюль. На вуліцах, у рэстарацыі.

М.Г. И как вы к ним относитесь?

Л.В. Нармальна, а што? Што, я павінен іх ненавідзець? Гэта ж нашая рэчаіснасць, нашая сумная рэчаіснасць. Бывае, што яны не зусім разумеюць, што я ім кажу (смяецца).

М.Г. Почему в Минске на улицах и в ресторанах так много русского языка?

Л.В. Таму што ўвесь час наша высокае начальства дэманструе пагарду і нелюбоў да мовы. Калі так сябе паводзіць высокае начальства, усё дробнае начальства гэта капіюе. Дадайце сюды кепскае выкладанне мовы ў школе. Дадайце кепскі рэйтынг, які ёй робяць на працягу апошніх гадоў.

М.Г. Каким образом?

Л.В. Спачатку беларусам казалі, што на гэтай мове гаворaць толькі калгаснікі. Потым казалі, што на беларускай мове ўвогуле ніхто не ўмее правільна размаўляць. Нібыта калісьці маглі размаўляць вялікія

пісьменнікі, як Ніл Гілевіч, але цяпер усе нашыя вялікія пісьменнікі памерлі і ніхто не можа. Потым казалі, што беларуская мова — гэта апазіцыянеры, «Народны фронт», «БНФаўцы паганыя»: павылазілі, размаўляюць па-беларуску, хочуць, каб усе гаварылі па-беларуску. І яшчэ заўсёды побач ёсць прапагандыст, які адлюстроўвае з сябе такога сапраўднага звычайнага беларуса і гучна згаджаецца з уладамі дзесьці у сацыяльных сетках: «А я не хачу размаўляць па-беларуску! Я сталічны жыхар! Ну і што, што другое пакаленне з вёскі? Насамрэч, я размаўляю па-гарадскому, а на беларускай мове нават тэрміналогіі матэматычнай няма».

М.Г. А терминология есть?

Л.В. Усё распрацавана даўным-даўно, яшчэ за часамі Савецкага Саюза. У нас усё ёсць. Ёсць мова карэннага насельніцтва, яна ўнармаваная, ёсць слоўнікі, ёсць астранамічная, фізіка-матэматычная тэрміналогія.

М.Г. Язык можно было бы вернуть?

Л.В. Безумоўна. Мова – сур'ёзная частка нацыянальнай ідэі. За дваццаць пяць гадоў сітуацыю можна было б кардынальна змяніць. Як яна змянілася ў нашых суседзяў ва Украіне, напрыклад. У іх там, праўда, захоўваецца падзел на ўсход і захад. Я не ведаю, можа быць, яны шмат чагосьці няправільна робяць, але сітуацыя з украінскай мовай выпраўляецца.

М.Г. Всё, что вы сейчас описали, сказывается на количестве людей, которые приходят к вам на концерты? На реакции зала на ваши песни? Реакция становится не такой эмоциональной, как раньше?

Л.В. Не. У нас жа ў асноўным слухач быў студэнт. Студэнты — такія людзі, якія імкнуцца да адукацыі, ставяцца вельмі прывязана да беларускай мовы і, у прынцыпе, размаўляюць на ёй. Увогуле, пакуль чалавек чытае, пакуль ён у пошуку, пакуль у ім ёсць дух бунтарства, ён лаяльны да роднай мовы. Гэта ўжо потым, калі ты пачынаеш хадзіць на працу, глядзець тэлевізар, штосьці там у табе атрафіруецца.

М.Г. Приходит зрелость, и они переходят на русский язык?

Л.В. Прычым на не вельмі добрую. Яшчэ нядаўна яна ў нас тут была

з такім характэрным акцэнтам. Хаця і зараз можна пачуць беларуса, калі ён размаўляе па-руску. Заўсёды адчуваецца, што гэта беларус гаворыць.

З.Л. Як ты ставішся да лозунга: «Будзе мова — будзе шчасце»?

Л.В. Не, гэта не прывабна для народа. Народ скажа: грошы дайце, навошта мне мова?

З.Л. Нацыянальная ідэя ўвогуле патрэбна?

Л.В. Ведаеце, я лічу, што нацыянальную ідэю трэба фармуляваць, калі ты прыходзіш да ўлады, каб гэта была дзяржаўная палітыка. Мы тут, гаворачы, нічога асабліва не зменім. Зменіць дзяржава, калі яна зменіць адукацыю, калі чыноўнікі будуць гаварыць па-беларуску, калі будзе адна дзяржаўная мова. Ад пазіцыі дзяржавы шмат чаго залежыць. Асабліва ў нас. Калі дзяржава прымала рашэнне аб дзвюх дзяржаўных мовах, было ясна, што беларуская мова зноў вернецца пад плінтус. Калі дзяржава змяніла сваё стаўленне да прадпрымальніцкай дзейнасці, людзі масава вярнуліся з свайго дробнага бізнесу назад на заводы, дзе мала, але плацяць.

З.Л. Дзяржава можа змяніцца?

Л.В. З гэтай уладай не. Трэба спачатку, каб памянялася ўлада, каб прыйшлі нармальныя, пісьменныя людзі, і тады ўсё магчыма.

З.Л. Нацыянальная ідэя павінна быць нейкай рамантычнай?

Л.В. Яна рамантычнай і прывабнай павінна быць і каб чалавек годна пачуваўся: «Вось я беларус, значыць гэта…», а не тое: «Ну, мы так, маленькая краіна, ну, так. У нас тут менш, чым у вас, заробкі, праўда» (смяецца). Калі амерыканец гаворыць, што ён амерыканец, ён ведае, што за гэтым стаіць: што Злучаныя Штаты, гэты сцяг, гэта краіна велізарных магчымасцей і дэмакратычных каштоўнасцей. Нешта такое трэба і нам. Не ведаю, можа быць ва ўладзе мусіць быць праграма фармавання прывабнай нацыянальнай ідэі. Каб народ не адчуваў сябе кінутым у беспаветранай прасторы.

М.Г. Если у беларусов всё так тяжело с осознанием себя беларусами, не проще ли пригласить сюда короля? Найти кого-нибудь приличного из Радзивиллов или Сапег, короновать, и пусть он будет живым воплощением беларуской национальной идеи? Хочешь узнать, что такое беларус? Не надо читать толстые книги, просто глянь на короля беларусов. Беларуский король будет европейцем: будет выглядеть как европеец, одеваться как европеец, говорить как европеец, ездить на велосипеде. И при этом он беларус. Как вам такой план?

Л.В. Штосьці падобнае ў нас ужо было ў пачатку дзевяностых. Я памятаю, як сюды вазілі розных музыкантаў з Масквы. Пасля аднаго канцэрта мы з імі сядзелі ў інтэрнаце, адпачывалі. У іх тады быў Ельцын, а ў нас Шушкевіч. Яны сядзяць і кажуць нам: «Ну, у вас жа прафесар. І гаворыць нармальна, і разумны такі. Ай, а ў нас гэты. Ай, усё». У той момант у мяне была такі гонар нацыянальны. Ну, так, у нас прафесар. А калі раптам будзе кароль, як вы прапануеце, дык і зусім класна. На жаль, у той раз нам карону не давезлі (смяецца). У гэты раз трэба давезці. Узяць з Ватыкана і ўсё прывезці. І хай адразу каранацыю правядуць як трэба.

З.Л. І адразу Беларусь стане беларускай, вернецца мова, вернецца наш сцяг.

Л.В. Ну, з такім каралём, як жа ж вы думаеце? Канечне, усё вернецца.

З.Л. Пад якім сцягам?

Л.В. Нацыянальны сцяг, безумоўна. Ён прыгажэйшы за цяперашні дзяржаўны. Нават калі ў чалавека няма мастацкай адукацыі, але ёсць пэўнае ўяўленне пра дызайн, ён разумее што цяперашні дзяржаўны — гэта не тое, што трэба. Бела-чырнона-белы — самадастатковы, лаканічны. Белае з чырвоным — вельмі прыгожае спалучэнне колераў.

З.Л. Такім чынам, два камяні ў падмурак нашай нацыянальнай ідэі: мова і сімволіка. І на гэтым падмурку стаіць манументам што?

Л.В. Цвёрдая каралеўская ўлада!



# ЯГОР
# СУРСКІ

## «НАША ІДЭЯ — У НАШАЙ АДМЕТНАСЦІ, ЯКУЮ ЯШЧЭ ТРЭБА ШУКАЦЬ І АДСТОЙВАЦЬ»

euroradio·fm

Гутарылі Зміцер Лукашук, Максім Гаруноў
Фота Еўрарадыё

З.Л. Вітаю ўсіх слухачоў, наш сённяшні госць — гісторык, кінадакументаліст, супрацоўнік Інстытута гісторыі Ягор Сурскі. Добры дзень, спадар Ягор.

Я.С. Вітаю.

З.Л. Справа ў тым, што спадар Ягор на прафесійным узроўні, але не звязаным з яго звычайнай прафесійнай дзейнасцю, займаецца вывучэннем беларускіх пладова-ягадных він. Я ведаю, што нацыяналісты розных краін кажуць, што калі ты сапраўдны нацыяналіст, ты павінен харчавацца толькі ў адпаведнасці з нацыянальнай кухняй і піць нацыянальныя напоі. Гэта такі складнік, а можа, і сама нацыянальная ідэя. А ў нас так?

Я.С. Несумненна, нацыянальная ідэя — гэта пэўная адметнасць. Задача любога заўзятага прыхільніка нацыянальнай ідэі гэтую адметнасць, у залежнасці ад сітуацыі, вышукваць, падкрэсліваць, вызначаць.

З.Л. Чаму пладова-ягадныя віны ў Беларусі называюць чарнілам?

Я.С. Існуе некалькі цікавых версій. З аднаго боку, ёсць меркаванне, што было віно, якое называлася «Чары Ніла». Паколькі ёсць пэўная сугучнасць, ад гэтага і пайшло. Я не магу пацвердзіць гэтай версіі, у мяне ў калекцыі віна з такой назвай няма. Іншая версія, што колер і густата нагадвае атрамант. Яшчэ ёсць версія, што гэтым віном можна літаральна заправіць асадку і пісаць. У мяне ёсць анекдатычная гісторыя: яшчэ ў савецкія часы беларусы былі ў Расіі на нейкіх будоўлях і запыталі ў мясцовых: «А где тут можно купить чернила?» Мясцовыя не зразумелі, чаго яны хочуць, і адправілі іх кудысьці. Беларусы прыйшлі, а там віна няма, але ёсць сапраўдныя канцылярскія тавары. То-бок, гэта наша пэўная такая адметнасць, таннае віно так называюць толькі ў нас.

З.Л. Наколькі гэтае віно можа мець дачыненне да нацыянальнай асаблівасці беларусаў? Ну, апроч таго, што назва свая. Я разумею, дранікі або смажаныя свіныя вушы, але віно?

Я.С. Ёсць пэўныя гістарычныя перадумовы, каб назваць пладовае віно

беларускай з’явай. З другога боку, для мяне было нечаканым вызначыць, што апроч Беларусі, гэты напой дагэтуль дастаткова шырока распаўсюджаны ў Польшчы, у суседняй Літве, часткова ва Украіне. Як ні дзіўна, гэта супадае з арэалам былой Рэчы Паспалітай. Ёсць і яшчэ адна важная дэталь: існуе шмат даследаванняў, якія вызначаюць алкагольныя густы людзей. Уся еўрапейская цывілізацыя — гэта гарэлка, піва ці віно. Мы неяк выбіваемся з агульнага шэрагу. Мы не там і не там. Справа ў тым, што ў мінулыя часы ў нашым рэгіёне моцныя алкагольныя напоі не былі такімі моцнымі, градус быў значна ніжэйшым. Прыгатаваць з мясцовай сыравіны можна абмежаваны лік напояў. Да таго ж, беларусы ў большасці аддавалі перавагу наліўкам і настойкам, якія не проста ўпісаць у дзяленне на гарэлку, віно і піва. На дадзены момант Беларусь усё яшчэ знаходзіцца ў пошуках свайго ўласнага алкагольнага брэнда і я лічу, гэта магло б быць пладовае віно. Тым больш, што у нас ёсць сапраўды яскравыя і якасныя напоі.

М.Г. А когда встречается первое упоминание о плодовом вине в Беларуси?

Я.С. Хутчэй за ўсё першымі ў нас з’явіліся вермуты, і гэта было ўжо пасля Другой сусветнай вайны. У маёй калекцыі самая старая бутэлька − «Мінскае янтарнае» 1967 года вытворчасці. Калі мы будзем шукаць ранейшыя адпаведнікі, то, як я казаў, гэта будуць наліўкі, таксама ўмацаваныя напоі з утрыманнем спірту, але не настолькі моцныя, як тая ж гарэлка. Дарэчы, у нас такім вядомым і легендарным з’яўляецца віно пладовае «Крыжачок». Нядаўна знаёмы калекцыянер прыдбаў старую этыкетку алкагольнага напою «Лявоніха». Гэта была мацнейшая наліўка, але выявы на ёй былі тыя ж самыя, як і на «Крыжачку». Я так вызначыў, што хутчэй за ўсё гэта была маці «Крыжачка». На мой погляд, гэта сведчыць пра тое, што ў пладовага віна ёсць свая традыцыя, свая культура, свае пераемнасці, свае стандарты якасці.

М.Г. А есть какое-нибудь исследования о том, как рецепты местных традиционных наливок и вообще слабого алкоголя вошли в рецептуру ликёро-водочных заводов в Беларуской Советской Социалистической Республике?

Я.С. На жаль, няма, хаця ёсць гісторыкі, якія займаюцца гісторыяй беларускіх алкагольных напояў. Алкаголь – гэта частка нематэрыяльнай культурнай спадчыны кожнай краіны, і яе даследуюць, гэта натуральна. Паміж тым, сёння я бачу агульнае вялікае вяртанне да традыцый. З'явіліся старкі. Дзяржава пачала рабіць дыстылят пад назвай «Самагон». «Дзяржаўны самагон» гучыць камічна, але я бачу ў гэтым пошук нашай аўтэнтычнасці. Я лічу, што мы зараз перажываем адраджэнне традыцый алкагольных вырабаў. Для мяне гэта таксама з'яўляецца прыкметай нашай самастойнасці і незалежнасці. Мы на шляху пошуку свайго ўласнага брэнда алкагольнай вытворчасці. Гэты адметны шлях, ён адрозны ад іншых краін, і ён несумненна з'яўляецца таксама такім чыннікам суверэнітэту для мяне.

З.Л. Я хацеў спытацца, ці з'яўляецца прыкметай тое, што дзяржава пачала выпускаць самагон, такой прыкметай мяккай беларусізацыі, але тут пайшлі яшчэ далей, аказваецца, гэта прыкмета такая і складнік… ці доказ суверэнітэту і незалежнасці.

З.Л. Наколькі ўсур'ёз мы можам разглядаць тэму нацыянальных напояў, алкаголю і таго ж самага чарніла ў звязку з развагамі пра беларускую нацыянальную ідэю?

Я.С. Ёсць розны ўзровень успрыняцця нацыянальных каштоўнасцяў. Адзін узровень для гісторыка, для творцы, для мастака, для філосафа. Іншы ўзровень успрымання гэтых каштоўнасцяў будзе для звычайнага чалавека. Нацыянальная ідэя ўвасабляе шмат розных рысаў. Для кагосьці сімвал нацыянальны — гэта і капанне бульбы гачыкам, і «Крыжачок». Нацыянальную ідэю варта шукаць усюды, усюды, дзе толькі гэта магчыма. Пладовае віно — гэта нашая адметнасць, адна з многіх. Спасылаючыся на гэтую адметнасць, можна выбудоўваць камунікацыю паміж людзьмі, у якіх ёсць нейкія пачуцці да яе, свае асабістыя гісторыі, нейкі асабісты вопыт. Алкаголь і яго ўжыванне, асабліва ў кампаніі – гэта важная частка культуры сацыялізацыі ў нашым рэгіёне. Сацыялізацыя адбываецца ў звязку з кантэкстам, у якім мы камунікуем з рознымі людзьмі. Калі я кажу пра ролю нашага пладовага віна, я ў большай ступені, напэўна, маю на ўвазе вось гэтую культуру зносін паміж людзьмі падчас яго ўжывання. Пладовае віно — гэта размова

чалавека з чалавекам, абмен выказваннямі. Нацыя, як мы цяпер ведаем, — гэта такі паважлівы абмен выказваннямі, дыялог, і ў гэтым сэнсе, безумоўна, віно і ўсё, што з ім звязана ў плане камунікацыі, не могуць не быць часткай нацыянальнай ідэі.

М.Г. Я заметил, что, когда мне здесь, в Минске, говорили про плодовое вино, то это почти всегда было с нотой лёгкого пренебрежения, как к чему-то, что связано с бедностью, с грубостью, с плохой жизнью.

Я.С. Самі вытворцы віна часта крыўдзяцца, што вось мы робім нармальны, добры, якасны напой з мясцовай сыравіны, з мясцовых прадуктаў, а пакупнікі не цэняць і цураюцца. Вы ж ведаеце, напэўна, што зрабіць віно з вішнёвага соку, з суніц, з малін, з агрэсту куды цяжэй. Такія віны ёсць, і яны на вельмі высокім якасным узроўні, але іх вельмі цяжка прадаць, таму што прадаўцы ніяк не магу пераадолець тыя самыя стэрэатыпы пра якія вы вось сказалі.

М.Г. То есть, продукт качественный, но у него плохая история?

Я.С. Былі розныя абсалютна перыяды. Былі часы перабудовы, калі была антыалкагольная кампанія, алкаголь з'яўляўся дэфіцытам, і на гэтай хвалі была знішчана вытворчасць, магутнасці былі страчаныя. На пачатаку дзевяностых, на фоне цяжкага эканамічнага крызісу, якасць упала так нізка, што пладовым віном лёгка можна было атруціцца. Для справядлівасці трэба сказаць, што ў той час атруціцца можна было і іншымі напоямі, у тым ліку і імпартнымі. Дзевяностыя ў сэнсе спажывання алкаголю былі небяспечнымі. Тыя гады даўно прайшлі, якасць вярнулася, але памяць засталася.

З.Л. Калі б не гэтая памяць, дзе б зараз былі гэтыя віны?

Я.С. Сёння ў Мінску вы можаце ў любой краме купіць таннае вінаграднае віно ў картонікавых пачках. Думаю, гэта ніша і для пладовага віна таксама. На самой справе пладовыя віны паступова займаюць сваё месца. Гэта працэс, які ідзе. Нядаўна ў меню сталічнага рэстарана з'явілася кактэйлі на аснове пладовага віна, і там адбывалася вельмі прыемная дэгустацыя. Ёсць ужо і сувенірныя варыянты. Я спадзяюся,

што такія брэнды яшчэ будуць з'яўляцца і шмат што залежыць ад культуры спажывання, а не ад самога напою. Нам бракуе высокай культуры спажывання.

З.Л. Гэта табе не з рыльца бутэльку чарніла адразу за крамай.

Я.С. Раздушыць пляшку, як кажуць.

З.Л. Такім чынам, пладовае віно як нацыянальная ідэя — гэта што?

Я.С. Падстава для размовы беларуса з беларусам. Не павінна быць адзінага вытворцы нацыянальнай ідэі. Гэта павінны быць розныя людзі, розныя аб'яднанні людзей, іх размовы аб саміх сабе. Звычайныя людзі, для многіх з якіх пладовае віно мае значэнне як частка іх прыватных гісторый, таксама з'яўляюцца ўдзельнікамі гэтага працэсу. Я за нацыянальную разнастайнасць. І я лічу, што беларусам вельмі пашанцавала. У іх багатая, цікавая гісторыя, і пошукам у ёй нашай адметнасці трэба займацца адначасова ўсім і абсалютна на розных узроўнях. Сімвалаў, атрыбутаў, увасабленняў гэтай нацыянальнай ідэі можа быць безліч, але ўсе яны павінны грунтавацца на нашай гісторыі, на нашых традыцыях.

З.Л. Нацыянальная ідэя асабіста Ягора Сурскага?

Я.С. Яна ў нашай адметнасці, але гэтую адметнасць трэба шукаць, распрацоўваць, вызначаць, часам падкрэсліваць і адстойваць.

З.Л. А назва ёсць вось у вашай нацыянальнай ідэі?

Я.С. Нацыянальная ідэя.

З.Л. То-бок, не «Крыжачок»?

Я.С. Ну, «Крыжачок» для мяне — адзін з элементаў гэтай нацыянальнай ідэі.



# ІГАР
# ВАРАШКЕВІЧ

## «ВАЖНА ДОБРА РАБІЦЬ СВАЮ СПРАВУ І ПАЖАДАНА РАБІЦЬ ЯЕ ПА-БЕЛАРУСКУ»

euroradio·fm

Гутарылі Зміцер Лукашук, Максім Гаруноў
Фота Еўрарадыё

З.Л. Вітаю ўсіх слухачоў, наш сённяшні госць — легенда беларускага рок-н-рола, лідар гурта «Крама» Ігар Варашкевіч. Прывітанне, Ігар.

І.В. Прывітанне. Схапілі вы мяне так нечакана.

З.Л. Ты вельмі доўга ўхіляўся ад станоўчага адказу на ўдзел у нашай праграме. Усё вось нешта цябе спыняла. Але што спыняла?

І.В. Ну, ты ж ведаеш, што я нешматслоўны чалавек. Я ўвогуле не люблю даваць інтэрв'ю. І я не мысляр, не філосаф, а так, марнатраўны сын.

З.Л. А ўвогуле калі-небудзь задумваўся пра нацыянальную ідэю?

І.В. Не задумваўся. Я больш вам буду пытанні задаваць, а не вы мне. Вось першае пытанне: чаму гэтая тэма існуе менавіта ў Беларусі? Чаму яе няма ў венграў, у чэхаў, у славакаў, у славенцаў, у літоўцаў? Чаму? Таму што ў іх ёсць свая мова, ці не?

М.Г. Скорее да, чем нет. Чтобы национальное государство вот здесь, в этой части Восточной Европы, состоялось, как правило, необходимо чтобы у большинства не было сомнений о том, кто они. Условный венгр не сомневается в том, что он именно венгр, а не немец, румын или словак. У людей, которые живут в Беларуси, с этим почему-то проблема. Ты спрашиваешь, кто они, и начинаются метания: поляки, русские, может быть, латыши?

І.В. Наконт палякаў у нас была смешная сітуацыя: неяк мы стаялі ў Палацы культуры трактарнага завода. Не памятаю ці нейкая выстава была, ці мы на «Басовішча» збіраліся. Мы стаялі, размаўлялі, і да нас падышоў мужычок. Ён стаяў побач з намі, глядзеў на нас, вельмі так уважліва, пільна слухаў, а потым спытаў: «А вы палякі?» Вось. Нармальна? Людзі размаўляюць па-беларуску — і: «А вы палякі?» Альбо ў дзевяностыя гады ў нас быў такі выпадак: мы селі ў таксі, дзяўчына за рулём убачыла нашы гітары і спытала, хто мы. Кажу: «Музыкі». — «А што вы спяваеце?» — «Беларускі рок-н-рол на беларускай мове». — «Ой, а чё? Она ж такая некрасивая? Песняры прыгожыя, а мова – некрасивая».

М.Г. А не было ли у вас никогда ощущения, что вы играете рок-н-ролл на беларуском языке, но ваша публика — это такая сплочённая небольшая община, а вокруг неё люди совсем другой культуры?

І.В. Ёсць такое адчуванне, безумоўна. Але я думаю, што гэта ўсё залежыць ад палітычнай сітуацыі, якая адбываецца ўжо дваццаць пяць год. Шмат людзей нас проста не ведае, шмат людзей думае: «Ага, яны спяваюць па-беларуску, ага, гэта БНФ, нацыяналісты». Самае жахлівае, што мы не можам паўплываць на гэтую сітуацыю. Пакуль што гэта атрымліваецца толькі ў аднаго чалавека — у Сяргея Міхалка. Нягледзячы на тое, што ён спачатку спяваў па-расейску, людзі яму вераць і на яго канцэрты прыходзіла не па сто чалавек. Тысячы людзей ездзілі з ім у Гомлю, у Палац спорту. Я ўвесь час думаў, што яны мову ведаюць.

М.Г. Даже если на Михалка приходит несколько тысяч, то это всего лишь в несколько раз больше, чем на ваших концертах. А дальше кто?

І.В. А далей усё папса. Прычым расейская папса. Не беларуская.

М.Г. Может, польская?

І.В. Не-не-не-не-не. Польская можа быць толькі на мяжы. І тое. У Гародні так, а ў Берасці ўжо не.

М.Г. А украинская?

І.В. Патрэбна папса, якая па-расейску гучыць. І гэта ж не Савецкі Саюз, калі слухалі Ратару. Па-ўкраінску слухаюць толькі «Акіян Эльзы».

М.Г. Почему беларусы не слушают польскую попсу?

І.В. Калі ў цэлым, то вялікай любові паміж беларусамі і палякамі няма, але вось у мяне ёсць. Мая бабка была полька, я ў дзяцінстве і юнацтве слухаў польскую рок-музыку, блюз, дзякуючы чаму я потым і стаў спяваць па-беларуску. Ну, і дзякуючы яшчэ першым альбомам «Песняроў». Але ў першую чаргу была польская музыка. Да беларускай мовы мяне прывяла польская мова. Чаму ў беларусаў няма асаблівай любові да палякаў, я не ведаю. Хутчэй за ўсё, гэта ўплыў расійскі, але можа быць, я і памыляюся. У Расіі тут свае зацікаўленасці, у палякаў свае. І ў нас шмат нацыяналістычна накіраваных людзей, для якіх аднолькава дрэнна, што расейцы, што палякі. Для мяне ёсць розніца. Я думаю, мне лягчэй было б жыць у Польшчы, чым у Расіі.



М.Г. Какие именно польские группы вы слушали в юности?

І.В. У пачатку васьмідзясятых я прыйшоў з войска і быў пад вялікім уплывам рок-музыкі, якая гучала ў Польшчы, калі там было абвешчана ваеннае становішча. На мяне вельмі моцна паўплывалі гурты, дзякуючы якім палякі перамаглі камунізм. «Lady Pank» найперш, «Budka Suflera», «Perfect», «Wanda i Banda» і шмат-шмат іншых.

М.Г. Это группы, которые были связаны с «Солидарностью»?

І.В. Так. Зараз такіх гуртоў там няма. Зараз палякі ў большасці накіраваны на англамоўную музыку. Яны ўжо ў Еўразвязе, хочацца зарабляць грошы на ангельскай мове, напэўна. Хоць можа я і зноў памыляюся.

З.Л. Ты сказаў, што ніколі не разважаў над нацыянальнай ідэяй.

І.В. Я адчуваю сябе беларусам. Калі б я нарадзіўся ў Польшчы, можа быць, я б адчуваў сябе палякам, не ведаю. Але я нарадзіўся на гэтай зямлі, так сталася. Ува мне цячэ шмат рознай крыві: беларуская, польская, асірыйская, магчыма расійская. Бабуля па маці была запісана рускай, як і мая мама, але ў яе беларускае прозвішча Лашкевіч і жылі яны ў Гомелі. З дзяцінства я вандраваў з бацькам. Ён браў мяне з сабой у камандзіроўкі. З дзяцінства я ведаю ўсе назвы ў Брэсцкай вобласці. Розныя там Карэлічы, Івацэвічы, Жабінкі, Дзятлава. Летам я ездзіў адпачываць да бабулі ў Паставы. Там была такая беларуска-польская атмасфера. Дзед быў беларус, а бабуля была полька, ведала польскую мову, чытала нанач малітвы па-польску. Размаўляла яна на беларуска-польскай трасянцы. Бацькі бралі мяне і ў турыстычныя вандроўкі. Мы адпачывалі на Нарачы, на Мядзелі, на возеры Свір. Я і зараз люблю туды ездзіць. Яшчэ мы ездзілі ў Літву. Да гэтага часу памятаю назвы месцаў дзе мы тады бывалі: Švenčionys, Didžiosios, Ukmergė, Šiauliai. Я ўвабраў гэта ўсё. Вось мне тут не вельмі камфортна жыць, але я люблю гэтую зямлю і не магу з яе з’ехаць. Напэўна, няправільна назваць гэта нацыянальнай ідэяй. Але мне здаецца, што адчуванне, што ты не можаш пражыць без гэтай зямлі, дае табе зразумець, што ты беларус, а не паляк ці літовец. Мне не патрэбныя абшары Савецкага Саюза. Мне Хабараўск не патрэбны. Я магу туды з’ездзіць, калі грошы будуць, зараз не так танна. Ці на Байкал, у Сібір. Але я не лічу гэта сваёй зямлёй. Мне патрэбная вось гэтая пустая прастора. Я ж езджу ў Баранавічы, у Гомель, у Магілёў, у Брэст. Едзеш і нічога. Пустая краіна, насамрэч.

З.Л. То-бок, адчуваць сябе жыхаром гэтай зямлі, любіць узлесачак, поле, кантралёраў у Баранавічах?

І.В. Кантралёраў у Баранавічах я не палюблю.

З.Л. Ну, я вобразна.

І.В. Я казаў пра краявіды ў асноўным, а не пра людзей. А вось з людзьмі не ўсё так проста.

З.Л. А я ўсё ж такі пра людзей. У цябе атрымліваецца, што беларус — гэта той, у каго ёсць пачуцці да гэтай зямлі і да гэтай атмасферы

І.В. Я ўпэўнены, што частка людзей адчуваюць сябе беларусамі, але проста пра гэта не думаюць. Я сам ужо ж не малады. У наступным годзе шэсцьдзесят. У маім узросце людзі не думаюць, беларусы яны або не. Яны ўпэўнены, што яны беларусы. Яны будуць размаўляць на трасянцы, ужываючы дзевяноста адсоткаў расейскіх слоў, будуць думаць, што яны размаўляюць па-беларуску. Ты падыдзі да бабкі з Палесся, якая будзе смачна і цекаць, і дзекаць, і зю-зю-зю, а потым скажа не «вёска», а «дзярэўня»: «У дзярэўні жыву, сыночак». І як ты ёй растлумачыш, што яна памылілася?

М.Г. Насколько хорошо вы говорите на польском?

І.В. У нас дома заўсёды былі польскія часопісы. Памятаю, бацька выпісваў такі сатырычны часопіс «Szpilki». Ён быў класны, я любіў там карыкатуры. Польскую мову я ведаў на слых, таму што радыё слухаў. Я размаўляць магу, а пісьмова я не змагу. Але калі б я там жыў, я б размаўляў нармальна. Калі мы ездзілі ў дзевяностыя ў Польшчу, аднойчы там да мяне падышоў дзед і сказаў: «Ой, вы як стары варшавяк размаўляеце».

М.Г. Было ли желание махнуть рукой на Беларусь и уехать в Польшу?

І.В. Жаданне ў мяне не было. Была прапанова застацца ў Польшчы, калі мы там запісваліся ў дзевяноста шостым годзе. Але трэба было развітацца з некаторымі хлопцамі з калектыву, і я сказаў, што я гэтага не буду рабіць.



М.Г. А с русской стороны были предложения?

І.В. Калі мы ездзілі ў Расію, на нашы канцэрты прыходзіў Павук. Ён лічыў, што мы фашысты. А я тады ў чорным берэце хадзіў.

М.Г. Это большое достижение.

З.Л. Павук — гэта «Чорны абеліск»?

І.В. Не, «Карозія металу».

З.Л. А, «Карозія металу».

М.Г. Это великий человек.

І.В. Ага. Нам крычалі: «Фашысты!» Але гэта не толькі ў Расіі нам крычалі. У Беларусі крычалі тое ж самае. На першых выбарах, калі мы за БНФ ездзілі ў Магілёве, за намі бегаў хлопец і крычаў: «Фашысты!» Вось краіна, так? Дастаткова размаўляць на сваёй мове — і ты фашыст. Класна?

М.Г. Как вы отнесётесь к идее отключить вещание российских телеканалов на территории Беларуси?

І.В. Ну, гэта не дэмакратычна, але ў прынцыпе ў нейкі перыяд, напэўна, гэта правільна. Людзі настолькі задураныя расейскай прапагандай. Я разумею, што гэта такая доўгабудоўля ў іх. Яны зразумелі, што нашу краіну на раз-два-тры не захопіш, і вырашылі рабіць пастунова. Вырашылі чакаць, калі вырасце новая генерацыя беларусаў, якія будуць слухаць толькі рускі рэп, папсу і думаць пра тое, што заробкі лепшыя ў Расеі. Яны там мяркуюць, што такім чынам, паціху, можна захапіць гэтую тэрыторыю. Безумоўна, лепей было б закрыць нейкія каналы, з якіх проста ну такое льецца, што я не ведаю, як гэта назваць.

М.Г. А какие оставить?

І.В. Ёсць жа ж расейскі канал «Наука». Добры навуковы канал, хай сабе і далей працуе.



# УЛАДЗІМІР ПУГАЧ

## «МОРА ЛЮБОВІ — ТАКОЙ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ ІДЭІ Я ЖАДАЮ БЕЛАРУСАМ»

euroradio·fm

Гутарылі Зміцер Лукашук, Максім Гаруноў
Фота Еўрарадыё

З.Л. Вітаю ўсіх слухачоў «Еўрарадыё», наш сённяшні госць — лідар гурта «J:Морс» Уладзімір Пугач.

У.П. Hello, everybody.

З.Л. Я даўно вас ведаю. Вось быў рускамоўны гурт «J:Морс», і быў Уладзімір Пугач, які спяваў па-руску выключна, а пасля з'яўляецца песня на беларускай мове «Беларускае золата». Што, раптам адчулася разуменне таго, што трэба нешта зрабіць для таго, каб беларусы адчулі сябе беларусамі?

У.П. Не скажу, что «раптам». С середины 2000-х годов у нас в альбомах были беларускоязычные песни. Сначала их писал Рома, наш гитарист. Он знает язык, а я не очень. Я родом из южного Полесья, у нас беларуский звучит только по радио. Я начал сочинять на беларуском позже, когда приобщился к этой культуре. Для меня нет никакой разницы, на каком языке писать. Если по-русски будет более хлёсткое выражение, которое пробивает сердце, я напишу по-русски. Могу взять английское слово. Я жёстко против обязательств и функций, которые якобы должны брать на себя творческие люди. Я просто придумываю песни, и всё.

М.Г. А как часто появляется желание написать песню на беларуском языке?

У.П. За последние 8 лет вышло, условно говоря, 5 альбомов, и там больше песен на русском языке, чем на беларуском.

М.Г. Ситуация не меняется?

У.П. Никак. Я не ставлю перед собой задачу делать песни только на беларуском. У нас был один придуманный проект, который назывался «Адлегласць». Там были только беларуские песни. Это была наша задумка: на протяжении какого-то временного отрезка писали песни, которые потом вошли в альбом. Но это была не совсем естественная для меня форма существования. Я считаю, что как оно пишется, пусть

и пишется. Мне вот больше пишется по-русски.

М.Г. А реакция публики сильнее на русский или на беларуский?

У.П. Не имеет значения. Есть отдельные люди, которым важно, что я пою по-беларуски, им это важно само по себе. Они не оценивают эстетическую ценность песни, они оценивают то, что ты спел по-беларуски. Для меня это менее ценно, чем если бы мне сказали, что моя песня просто понравилась.

М.Г. Эстетическая ценность беларуских и русских примерно одинаковая?

У.П. Я вообще вам крамольную вещь скажу: для меня, если брать песню как музыкальное произведение, как некую конструкцию, которую ты создаёшь, для меня язык, текст, речь – это элемент аранжировки. Мне важно, сколько там гласных. Я наблюдаю за коллегами, которые пишут по-беларуски. У некоторых это хорошо получается, у некоторых не очень. Если люди, которые принципиально пишут только по-беларуски, но это им не помогает. Есть и обратная история: кто-то вообще по-беларуски не поёт или кто-то поёт мало. И там, и там результат в принципе одинаковый. У Сергея Михалка, который в любое время может собрать в Минске стадион, песен по-беларуски немного, и это не мешает ему быть любимым артистом миллионов беларусов.

З.Л. На тэму ўсё ж такі нацыянальнай ідэі: можаце сабе сфармуляваць канкрэтны адказ?

У.П. Скорее всего, не смогу. Я и для себя не могу сформулировать конкретного ответа. У меня есть ощущение какой-то теплоты, ощущение дома. Вот я выезжаю из Смоленска, проезжаю 30 километров, оказываюсь в Беларуси, вижу другие дороги, другие заправки, и чувствую тепло, чувствую себя дома. Это какие-то простые обывательские вещи, не пафосные совершенно. Они кажутся мне гораздо более живыми.



М.Г. В Беларуси у вас есть ощущение домашнего тепла?

У.П. Да. Фэншуйчик получше.

М.Г. Переезжаете границу и сразу чувствуете фэншуйчик?

У.П. Да-да.

З.Л. Тым не менш, вось як вы лічыце, сама нацыянальная ідэя для беларусаў як для нацыі патрэбная ці не?

У.П. Я думаю, что национальная идея — это явление, возникающее естественно, и ваш вопрос звучит как «нужна ли нам гроза в мае или не нужна?» Чтобы вы тут не придумали, если гроза грянет, то грянет, а если нет, то нет.

З.Л. Яна павінна сама неяк зарадзіцца?

У.П. Я верю в эволюционное развитие общества. Общество развивается, и на определённом этапе у него появляется видение себя как нации. Это видение и есть национальная идея. Оно появляется само, его невозможно симулировать. Все искусственные проекты с национальной идеей, которые мне известны, заканчиваются крахом.

М.Г. Развитие, о котором вы говорите, в случае с Беларусью будет связано с освободительной борьбой, как вы думаете?

У.П. Да, конечно. Национальная освободительная борьба. Мы же всю нашу историю доказываем всем, что мы отдельная страна. То мы восточная часть Речи Посполитой, то мы западная часть Российской империи. Хотя, мне кажется, пора уже отойти немного в сторону от этого. У нас, слава Богу, уже тридцать лет суверенная страна. Можно немного успокоиться на этот счёт и сосредоточится на чём-то другом. Например, болеть на свою футбольную команду. Я вообще футбол не люблю, не интересуюсь, но когда я вижу, сколько людей ходит на стадион, я понимаю, как это важно. Считаю, что это временное зыбкое единодушие на два часа, пока идёт матч, прекрасно.

З.Л. На тэму патрыятызму: Уладзімір сказаў, што ён калі толькі прыязджае, вяртаецца ў Беларусь, адразу адчувае, што ўсё нарэшце па фэн-шуі. Гэта патрыятызм?

У.П. Напэўна, патрыятызм, я не ведаю дакладна. Мабыць і так.

З.Л. А мяжуе ён з нацыяналізмам ці не?

У.П. Нет. У меня со словом «национализм» негативные ассоциации. Но мне приятно слово патриотизм. Для меня это естественное чувство, эмоция, не поддающаяся анализу. Ты просто любишь Родину.

З.Л. І гэта не залежыць ад таго, на якой мове пішуцца песні?

У.П. Ни разу. Ну так получилось исторически, что у нас два языка.

З.Л. У нас у эфіры была Зінаіда Бандарэнка, і на яе погляд галоўная нацыянальная ідэя – гэта мова. Каб мова беларуская вярнулася ў паўсядзённае жыццё ўсіх беларусаў.

У.П. Я на 400% за. Я просто против того, чтобы мова насаждалось искусственно. Молодёжь воспринимает национальную культуру через массовую культуру, и надо действовать через неё. Сколько бы мы ни издевались над принтовыми вышиванками, но шаг за шагом они прививают любовь к Родине. И это лучше, чем если мы сейчас силой заставим преподавать в школе математику на беларуском.

З.Л. Самае галоўнае — любоў да Радзімы?

У.П. Да. Было бы хорошо, если бы беларуского языка было больше, но я отношусь к этому как к данности. По целому ряду исторических причин сегодня у нас двуязычие. Кто-то говорит на русском, кто-то на беларуском. Люди, которые сознательно переходят на беларуский, — молодцы. У них на это есть время и желание. Я, в принципе, говорю по-беларуски, но в быту, в магазине я чаще говорю по-русски. Если мне звонят

и говорят по-беларуски, я отвечаю по-беларуски. Если в эфире есть гость из России, я разговариваю по-русски.

З.Л. Можна сказаць, што нацыянальная ідэя Уладзіміра Пугача — гэта: «Любі сваю Радзіму»?

У.П. Можно. Вообще, мне очень нравится израильский историк Юваль Харари. Он написал книгу «Sapiens: Краткая история человечества» про развитие общества. Там есть термин «интерсубъективная реальность». Грубо говоря, чтобы общество существовало, люди придумывают мифы. Эти мифы объединяют людей, дают им возможность избегать конфликтов, жить вместе. Иногда мифы могут быть опасны, за ними надо следить. Я считаю, что идея, о который вы меня спрашиваете, обязательно сама собой появится и объединит нас, как это уже произошло со всеми нашими соседями. Объединение произойдёт натуральным образом, без усилий. Нам не надо об этом как-то особенно беспокоиться. Нужно только не забывать, что у объединения могут быть и отрицательные стороны. О них надо помнить и избегать. Например, избегать государственного принуждения и вообще принуждения. По-моему, там, где есть принуждение, всегда есть риск, что объединение будет не на пользу людям, а во вред.



# ТАЦЦЯНА КАВАЛЁНАК

## «БАЗУЮЧЫСЯ НА НАЙЛЕПШЫХ ГІСТАРЫЧНЫХ МОМАНТАХ, ШУКАЦЬ, ЯК ЗРАБІЦЬ БЕЛАРУСЬ ДЭМАКРАТЫЧНАЙ І ГЛАБАЛЬНАЙ ДЗЯРЖАВАЙ»

euroradio·fm

Гутарылі Зміцер Лукашук, Максім Гаруноў
Фота Еўрарадыё

З.Л. Вітаю ўсіх слухачоў, наш сённяшні адмысловы госць, дакладней, госця — Таццяна Кавалёнак, заснавальніца і вядучая першага падкасту пра адукацыю ў Беларусі. Ну, і апроч усяго, як сказаў Максім, яна мае вельмі прыгожы дыплом, бо вучылася ў Англіі. Добры дзень.

Т.К. Добры дзень усім.

З.Л. Вучоба і жыццё ў іншай краіне матывуе неяк задумацца, што ж такое Беларусь?

Т.К. Так. У маім выпадку было вельмі шмат людзей, якія гаварылі: «Я першы раз сустракаю кагосьці з Беларусі». У такі момант ты разумееш: «Акей, на мне груз адказнасці: якое я ўражанне дам чалавеку, з такога ён і пачне нешта дазнавацца пра Беларусь». Беларусь у выніку стала для мяне краінай, якую я прадстаўляла. Я заўсёды артыкулявала, што Беларусь — гэта не Расія, што яна знаходзіцца на скрыжаванні паміж Еўропай і Расіяй, і суразмоўцам было даволі проста атаясамліваць беларусаў і як еўрапейцаў, і як тых, у каго ёсць часцінка рускасці.

З.Л. Чаму вы вярнуліся?

Т.К. У групе, у якой я ехала, трэба было падпісваць пагадненне, што пасля выпуску ты абавязуешся два гады не знаходзіцца на тэрыторыі Злучанага Каралеўства. Але гэта быў ўжо не першы раз, калі я з'язджала з Беларусі і вярталася. Рашэнне вярнуцца ў Беларусь было ўзважанае і добра прадуманае. Я не разглядала варыянт заставацца ў Брытаніі. Як краіна, у якой я б жыла нейкі доўгатэрміновы час, Брытанія мне не падабалася.

М.Г. На что вы опирались, когда придумывали ответы на вопрос о том, что такое Беларусь?

Т.К. Я заўсёды адштурхоўвалася ад гісторыі Вялікага Княства Літоўскага, што ў свой час гэта была самая вялікая дзяржава ў Еўропе. То-бок, я зыходзіла з гісторыі, пачынаючы з Сярэднявечча. Як правіла, гэта выклікала цікавасць у суразмоўцаў. Потым пачынаеш распавядаць,

як дзялілі Рэчы Паспалітую, як мы адышлі да Расіі, як потым усё было нядобра.

М.Г. Когда вы рассказывали про Великое Княжество Литовское — это были сведения из вашего школьного курса по истории или из университетского? Или просто книга по истории?

З.Л. Ці можа быць з мастацкай літаратуры?

Т.К. Я шмат чытала беларускай мастацкай літаратуры, і я даволі добра навучалася ў школе. Падручнікі, па якіх я вучылася, былі яшчэ з сярэдзіны дзевяностых гадоў і былі даволі нацыяналістычныя, так скажам. Калі я навучалася ў Еўрапейскім каледжы, я брала курс па публічнай гісторыі з Аляксеем Братачкіным, і мы там таксама трошкі разважалі на гэтую тэму. То-бок, у мяне была такая зборная салянка з мастацкай, навуковай і вучэбнай літаратуры.

М.Г. А почему вы выбрали сюжет именно про Великое Княжество Литовское? Почему не советские сюжеты? Вот Фидель Кастро приезжал в Минск к Петру Машерову как к партизану и главе партизанской страны. Беларусь для Кастро была аналогом Кубы. Это же очень яркая история.

Т.К. Я згодная, што яна яркая, але я ніяк не атаясамліваю сябе з партызанскім рухам на Беларусі. Партызанскі рух у перыяд Другой сусветнай — ён даволі супярэчлівы. У мяне не хапае ведаў, каб адказаць на заўвагу, што партызаны рабілі шмат чаго дрэннага, і я не магу сказаць, што партызаны — гэта і ёсць Беларусь. Але калі мы з сябрамі і сяброўкамі ў Мінску збіраемся і распавядаем нейкія гісторыі, то мы даволі часта кажам, што беларусы — партызаны. Партызанскі наратыў добра зразумелы ў Беларусі, але у мяне зараз няма падстаў неяк выносіць яго навонкі.

М.Г. Почему не книги Светланы Алексиевич, её истории о травмах беларусов вроде Чернобыля?

Т.К. Мне падаецца, што распавядаць пра цяжкія моманты чалавеку, у якога першы кантакт з краінай — гэта даволі небяспечна. Хочацца найперш распавесці пра тое, што выклікае пазітыўныя эмоцыі, а потым ужо пераходзіць да такіх глыбокіх гісторый.

М.Г. Как вы описываете беларусов своим собеседникам?

Т.К. Я звычайна распавядаю, як добра ў беларуса развітая здольнасць адаптавацца ў розных умовах. З беларусаў атрымліваюцца добрыя бельгійцы, немцы, французы. Калі беларусы прыязджаюць у іншую краіну, яны вельмі хутка схопліваюць культурны код, які там ёсць, прымаюць яго, асвойваюцца і адчуваць сябе камфортна. Мне падаецца, што гэта такая пазітыўная гісторыя, якую можна распавядаць.

З.Л. Вы думаеце, што гэта пазітыўная гісторыя?

Т.К. Так.

З.Л. Можа, гэта негатыўная гісторыя і сведчанне таго, што ў беларусаў няма свайго кода?

Т.К. Мне ўвогуле не падабаецца гісторыя пра супернацыянальныя ідэі, калі вось мы — беларусы, а вось вы — французы, і мы з вамі не маем нічога агульнага. Мне падаецца, што чым больш мы будзем развівацца, тым больш кожны з нас будзе ўтрымліваць у сабе часцінкі з іншых краін. Мне падаецца, гэта робіць нас больш напоўненымі, больш разнастайнымі і прыводзіць да той самай талерантнасці, якой нам не хапае. У нас у грамадстве ёсць такое меркаванне, што беларусы — талерантная нацыя. Я з гэтым не згодная, мне падаецца, што Беларусь — не вельмі талерантная краіна. Пры гэтым, у беларусаў, безумоўна, ёсць здольнасць счытваць культурны коды тых, хто вакол, неяк пераламляць яго ў сябе ўнутры.

З.Л. А свой код у беларусаў ёсць?

Т.К. Ёсць некаторае адчуванне, якое лунае ў паветры. Вербалізаванага

і артыкуляванага кода, каб кожны чалавек мог сказаць словамі, што «я — беларус», і гэта значыць гэта і гэта — у нас такога, мне падаецца, няма, і ў гэтага ёсць, канешне, свае адмоўныя бакі.

М.Г. Способность приспосабливаться, о которой вы говорите, — может быть, это есть беларускость?

Т.К. Гэта цікавая думка, і яна трошкі карэлюе з тым, што я гаварыла ў пачатку. Мы знаходзімся на скрыжаванні культур, паміж Еўропай і Расіяй, і ў нас атрымалася такая трошкі вадзяністая культура. Яна ўтрымлівае ў сабе і нейкія часцінкі з адной культуры і з другой, робіць сваё на такім міксе. На мой погляд, дакладна бачна, што беларускі культурны код змяшаны з розных, і немагчыма гаварыць, што наша нацыянальная ідэя базуецца на нейкім такім добра ўсталяваным культурным кодзе.

З.Л. А ў вас ёсць які-небудзь свой варыянт нацыянальнай ідэі для Беларусі?

Т.К. Артыкуляванага у мяне зараз няма. Мая нацыянальная ідэя зараз у пошуку. Мне падаецца, што больш свядомыя беларусы займаюцца тым, што шукаюць гэтую ідэю, а менш свядомыя чакаюць, калі нехта іншы знойдзе. Хочацца верыць, што я на працягу свайго жыцця яе знайду. Калі не, то наступныя пакаленні падхопяць.

З.Л. Калі ўсё так складана, дык, можа, яно і не трэба?

Т.К. Ведаеце, зараз у свеце шмат нацый знаходзяцца ў такім жа стане, як і беларусы. Мы не ўнікальныя. Ва ўмоўных французаў з іх багетамі, сырамі і вінам больш усталяваны культурны код, але калі ты проста запытаешся ў чалавека на вуліцы, у парку ці ў кафэ, «хто такія французы», ён таксама разгублена будзе шукаць адказ і казаць: «Ну, не ведаю, Вялікая французская рэвалюцыя?» І ў гэтай сітуацыі, як мне здаецца, ёсць і свае станоўчыя бакі, пра якія мы, быць можа, не заўсёды ведаем. Зараз вельмі папулярная канцэпцыя адукацыі праз усё жыццё. Лічыцца, што тыя, хто хоча працаваць над сваёй кар'ерай, абавязаны паста-

янна вучыцца. Мне падаецца, што беларусы з гэтым сваім бясконцым пошукам нацыянальнай ідэнтычнасці вельмі добра карэлююць з ідэяй пастаяннага навучання. Мы на працягу свайго жыцця шукаем, пераглядаем, зноў і зноў шукаем. Можна сказаць, што мы ўсё жыццё вучымся, і гэта якраз тая рыса, якая запатрабавана ў сучасным свеце.

З.Л. Нацыянальная ідэя беларусаў — гэта такі вечны пошук?

Т.К. Так. Вечны ці не вечны, але пошук. І пытанне: «А ці трэба нам дакладна вызначацца, каб на гэтым спыніць пошук?» — з'яўляецца адкрытым. Для мяне, напрыклад, не трэба. Мне як беларусцы цікавей атаясамліваць сябе не з нейкай устоянай назаўжды догмай, а з працэсам, з рухам да чагосьці важнага. Напрыклад, з бесперапынным рухам краіны да больш дэмакратычных інстытутаў.

З.Л. Нацыянальная ідэя, у адпаведнасці з якой жыве Таццяна Кавалёнак.

Т.К. Базуючыся на найлепшых гістарычных момантах, шукаць тое, як зрабіць Беларусь больш дэмакратычнай і глабальнай дзяржавай.



# СТАСЬ КАРПАЎ

## «ЗАХАВАЦЦА ЯК НАЦЫЯ — АДЗІНАЯ НАЦЫЯНАЛЬНАЯ ІДЭЯ, ЯКАЯ МОЖА БЫЦЬ»

euroradio·fm

Гутарылі Зміцер Лукашук, Максім Гаруноў
Фота Еўрарадыё

З. Л. Сёння ў нас у гасцях блогер Стась Карпаў.
На вашу думку, Стась, ці патрэбная беларусам нацыянальная ідэя?

С. К. Я лічу, што нацыянальная ідэя — гэта такі канструкт, які да рэальнага жыцця мае даволі ўскоснае дачыненне. Па сутнасці, я не вельмі веру ў наяўнасць нацыянальных ідэй у прынцыпе. Трэба падзяляць: ёсць нацыянальны інтарэс, ёсць інтарэс насельніцтва. І нацыянальны інтарэс — ён шырэйшы за інтарэс насельніцтва.
Ведаеце, ёсць такая гульня «Цывілізацыя». Ты павінен хуценька развіцца, каб «засталбіць» адну з васьмі рэлігій. Калі не паспееў, то табе нічога і не застанецца. То-бок, да прыкладу, у амерыканцаў нацыянальная ідэя — несці дэмакратыю. У Расіі нацыянальная ідэя — гэта быць тыпу самымі ахрэніцельнымі ахоўнікамі духоўнасці. А ўсім астатнім, па-мойму, нацыянальных ідэй не засталося. І гэта нават пры тым, што нацыянальная ідэя Расіі супярэчыць яе нацыянальным інтарэсам, а палітыка Трампа (ды й Амерыкі) супярэчыць нацыянальным інтарэсам Амерыкі. То-бок нацыянальная ідэя можа нават уступаць, як мне падаецца, у нейкі канфлікт з нацыянальным інтарэсам. І тым больш з інтарэсамі насельніцтва, якія, як я ўжо казаў, вузейшыя за нацыянальны інтарэс.
Нацыянальная ідэя можа быць якраз-такі ў такіх «няшчасных» нацый, як беларусы. Але гэта, халера, такая штука, кшталту «захавацца як нацыя» — адзіная нацыянальная ідэя, якая можа быць. Яна ж і гіпертрафіраваны нацыянальны інтарэс. Гэта адзіная нацыянальная ідэя ў Беларусі, якую я бачу, — захавацца як нацыя. Усё. Больш ніякай ідэі быць не можа.

Вось толькі гэта, як… Уявіце сабе чалавека, які бухаў, курыў, і вось яго скурчыла нарэшце. І ў гэты момант у яго з'яўляецца інстынкт самазахавання. Ён адразу пачынае думаць пра здаровы лад жыцця. І да той мяжы, пакуль ён, калі яму пашанцуе і ён разагнецца і адчуе сябе нармальна, вось да гэтага моманту ў яго будзе страшнае… Яго круціць ягоная асабістая чалавечая ідэя — выжыць. Калі ён сябе адчуе нармальна, ягоная ідэя «выжыць як арганізм» адыдзе на другі план, ён будзе займацца іншымі больш важнымі для сябе рэчамі. Тое самае ў беларусаў. У нас зараз ёсць нацыянальная ідэя — выжыць як нацыя,

але гэта ідэя не ўніверсальная ў кожнай нацыі, калі яна знаходзіцца пад пагрозай знікнення. Хоць нібыта нацыянальная ідэя адна і тая ж.

З. Л. Я прыгадваю Віктара Марціновіча, які сказаў, што пошукі нацыянальнай ідэі падобныя да шызафрэніі. А зараз, слухаючы Стася, я пачынаю думаць, што, можа быць, мы сапраўды зараз нейкім шызафрэнічным дзействам займаемся…

С. К. Не зусім. Я лічу, што адчуванне нацыі патрэбна кожнаму чалавеку: нам трэба ведаць межы сваёй адказнасці. Я сыходжу з таго, што нацыі ўтвараюцца праз індывідуальную адказнасць. Чалавек не можа адказваць за ўсё. Чалавеку трэба межы, за якімі яго адказнасць заканчваецца. У мяне ёсць мяжа адказнасці ў маёй кватэры, у маім горадзе, у маёй краіне. Чалавеку трэба, каб усе гэтыя прасторы адказнасці былі канчатковымі, мелі межы. Агульныя межы адказнасці фармуюць пачуццё нацыі. І я лічу, што захавацца як нацыя, захаваць прастору нашай агульнай адказнасці — гэта адзіная нацыянальная ідэя ў Беларусі. І больш ніякай ідэі ў нас быць не можа.

З. Л. А як з’яўляецца нацыянальная ідэя?

С. К. Нацыянальная ідэя нараджаецца ў момант, калі ты разумееш, наколькі ты ў сваіх адчуваннях супадаеш з суседам па лесвічнай пляцоўцы і суседам суседа па лесвічнай пляцоўцы на другім канцы тваёй краіны. Гэта як рэзананс, як камертон. Рэзананс ад гэтага сумеснага супадзення нараджае знутры сябе нейкую нацыянальную адметнасць.

З. Л. І ў нас гэты рэзананс ёсць?

С. К. Ёсць, але мы жывём у вельмі маленькіх кластарах. У нас у краіне такі падводны свет, калі акустыка вельмі слабая і ёсць прасторы абсалютнай узаемнай глухаты. Вось, напрыклад, знутры мяне ёсць пачуццё любові да маіх суграмадзянаў, да беларусаў. На жаль, я не ўпэўнены, што яно ўзаемнае, тоеснае. Я не ўпэўнены, што яно не заканчваецца на межах майго Фэйсбука. Але я, дарэчы, перакананы ў тым, што, калі

мы ўсе будзем размаўляць па-беларуску, нам ужо не трэба будзе абмяркоўваць нацыянальную ідэю. Тады мы будзем ужо абмяркоўваць нацыянальныя задачы. Нацыянальныя задачы — гэта канкураваць з іншымі нацыямі на межах, якія будуць пачынацца там, дзе будзе заканчвацца мяжа нашай адказнасці і пачынацца мяжа іх адказнасці. Будзем канкураваць як карпарацыі ці, наадварот, каапеÑравацца для велічных праектаў.

З. Л. Фінальная мэта?

С. К. Быць заможнай нацыяй, якая ўсведамляе сябе як нацыю. Быць нацыяй, дзе культывуецца пачуццё самапавагі грамадзян да сябе. Гэта вельмі важна — пачуццё павагі да нацыі і пачуццё павагі да сябе як да чалавека.

З. Л. Праект нацыянальнай ідэі ад Карпава?

С. К. Нацыянальная ідэя — гэта каб у нашай нацыянальнай дзяржаве людзі паважалі сябе і падзялялі адказнасць за агульны лёс.
Я хачу бачыць нашу краіну, нашу дзяржаву такой, каб яна спрыяла самапавазе чалавека. У Беларусі зараз жыве дзесяць мільёнаў чалавек, але свядомых і адказных беларусаў у ёй, у лепшым выпадку, мільёны тры. У гэтым сэнсе беларуская нацыянальная ідэя — зрабіць з астатніх сямі мільёнаў добрых, адказных грамадзян нашай з імі агульнай краіны. Не проста насельніцтва, а беларусаў. Мне падаецца, гэта афігіцельная праца — абуджаць у сваім суседзе па лесвічнай клетцы адказнага грамадзяніна, абуджаць у ім беларуса.

З.Л. Вітаю ўсіх слухачоў, наш сённяшні ганаровы госць — прафесар універсітэта Заходняга Мічыгана, спадарыня Алена Гапава. Я вось чытаў пра спадарыню Алену ў розных крыніцах і прачытаў, што гэта навуковец, якая можа проста расказаць пра складаныя рэчы, растлумачыць пра гендарную роўнасць і фемінізм у антыдармаедскім дэкрэце Лукашэнкі. А можаце нам дапамагчы з нацыянальнай ідэяй?

А.Г. Ну, пагаварыць з вамі магу.

З.Л. Тады пачнем з самага галоўнага пытання: ці патрэбна нам, беларусам, нацыянальная ідэя? Вось колькі ўжо пражылі без яе, дык можа, і пачынаць не трэба?

А.Г. Ну, добрае пытанне, таму што, вы ведаеце, сапраўды так адбылося, што (гаворыць па-расейску) распался Советский Союз, и пятнадцать республик оказались независимыми государствами. Какие-то из них очень хотели независимости, а какие-то страшно удивились, когда на них это упало. Те, которые страшно удивились, некоторое время ещё жили советским сознанием. Но потом прошло 25 лет, и оказалось, что деваться некуда, надо каким-то образом объяснить людям, почему мы вместе и почему мы являемся общностью. Это очень непростая и интересная задача. С точки зрения истории, вот есть территория, есть регион и есть люди, которые говорили на взаимопонятных диалектах славянского языка. Если, допустим, идти от Москвы на запад, то язык будет меняться. Это будут разные варианты славянского языка. Формальных границ между диалектами не было, но люди друг друга как-то отличали. Государственные границы в регионе были подвижные, часто менялись. Особенно последние 100 лет. Например, до 1939 когда граница с Польшей проходила в 40 километрах от Минска, а через 10 лет от Минска до границы с Польшей было уже 300 километров. В начале прошлого века у беларусов появилось национальное государство с границами, бюрократией и школой на национальном языке. Национальное государство отделило беларусов от небеларусов. Если мы говорим о большинстве людей, живущих на этих территориях, то своё государство было для них неожиданностью. В 1991 году оказалось, что в этих границах есть сообщество, у него есть полный суверенитет

и оно должно себе сказать: «Да, мы вместе, потому что у нас есть какая-то большая идея, и она исторически сложилась». На самом деле, это очень непросто.

З.Л. Гэта толькі ў беларусаў так?

А.Г. Нет, это не только наша проблема. Так было у всех стран бывшего Советского Союза, так было у всех стран на территории бывшей Югославии, так было в Чехии и Словакии, когда разделились Чехословакия. Им всем нужно было придумать для себя ответ, почему мы вместе, что нас объединяет, почему мы общность. Самое главное, им нужно было ответить на вопрос: «Ради чего?» Национальная идея — это «ради чего»? И отвечая на ваш вопрос о том, что «может быть, национальная идея нам не нужна» − нужна, наверно. Но только где её взять?

З.Л. Нацыянальная ідэя патрэбная нам для таго, каб самім сабе маглі патлумачыць, чаму мы ўсе разам?

А.Г. Мне здаецца, так.

М.Г. Ситуация с независимостью беларусов, которые, как вы говорите, не очень её ждали, похожа на ситуацию с отменой крепостного права в России? Российские крепостные крестьяне вроде бы тоже не сразу поняли, как им распоряжаться своей независимостью.

А.Г. Трудно делать такое сравнение. После 1861 года крепостные перестали быть крепостными, но не стали гражданами. Они остались подданными. Крестьян освободили без земли, окончательного освобождения не произошло, полноценными гражданами они не стали, а у беларусов появились своя страна. Разница слишком большая.

М.Г. А на ситуацию с получением прав женщинами? Я имею в виду, что не все женщины боролись за свои права и не все сразу начали ими пользоваться, когда получили.

А.Г. Ситуация с женщинами тоже гораздо сложнее, чем подразумевает ваш вопрос. Угнетённое положение женщин связано с их репродуктивной ролью. Быть экономически независимой, когда у тебя на руках маленький ребенок, можно только если есть системы социальной поддержки материнства. Без этих систем пользоваться правами — даже если они у тебя есть — довольно сложно.

М.Г. Я просто ищу параллели с внезапными освобождением угнетённых, которые не очень ждали своего освобождения.

А.Г. Ваши параллели с крепостными крестьянами и с женщинами до некоторой степени имеют под собой почву. Но только до некоторой. Сейчас много спорят о том, была ли Беларусь колонией и было ли советское колониальным. Если Беларусь была колонией, то параллели, предложенные вами, возможны. Здесь, как мне кажется, уместно было бы вспомнить Сергея Ушакина, известного исследователя, и его статью про Беларусь «В поисках места между Сталиным и Гитлером: о постколониальных историях социализма». Он там рассматривает два дискурса, прошу простить мне это слово. С одной стороны, дискуссии вокруг Куропат. С другой стороны, дискуссии вокруг Хатыни. Мы знаем, как долго не признавалось, что в Куропатах были сталинские расстрелы. До сих пор жива версия, что там расстреливали немцы. Опять же, в школе нас учили, что Хатынь сожгли фашисты. Потом стало известно, что это был украинский батальон под началом немца, сформированный в Киеве из советских военнопленных. Ушакин рассматривает эти две дискуссии и говорит, что в них всегда звучит тема ускользания от ответственности за происходящее, что беларусы всегда ни при чём. Пришел Сталин и расстрелял беларусов в Куропатах, потом пришли какие-то батальоны и сожгли беларусов в Хатыни. Беларусы всегда были только жертвами. Ушакин утверждает, что это такой общий постколониальный мотив осознания себя: описывать себя как невинную жертву внешних сил. В этом смысле, наверно, в Беларуси какая-то общность всё-таки есть.

З.Л. На чым грунтуецца наша ідэя?

А.Г. Я думаю, всем понятно, что в двадцать первом веке национальная идея не может быть построена на тех же основаниях, что и в конце девятнадцатого. Язык как единственный фундамент сообщества — это идея из немецкого романтизма начала девятнадцатого века. Этого было достаточно для чехов, когда они боролись за свои права в Австро-Венгерской империи, но явно недостаточно сейчас. Я думаю, что в наши дни такой идеей мог бы быть план, как нам прокормить себя, как нам модернизировать нашу экономику, как нам стать экономически успешными, сделать рывок вперёд.

З.Л. Вы як прафесар Мічыганскага ўніверсітэта можаце нам расказаць, што такое вялікая амерыканская нацыянальная ідэя?

А.Г. Я читаю в университете курс, который называется «Социологическая теория». У меня там от Маркса и до настоящего времени. В какой-то момент мы обсуждаем со студентами глобализацию и проблемы, с нею связанные. Я обычно прошу у студентов посмотреть, где сделаны их майки. Американские студенты очень удивляются, что их майки и другие вещи произведены не в Америке. Потом я их спрашиваю, что экспортирует Америка. Как правило, я ожидаю, что они скажут «софт» или «кино», а недавно девочка сказала: «Демократию!» Я подумала: «Ого!» Но во многом она права. Их национальная идея — это свобода. Они ценят свободу и уверены, что Америка впереди демократических преобразований во всём мире, что она всюду несёт новые идеалы.

М.Г. А может ли свобода стать национальной идеей беларусов? Чтобы Беларусь стала как Америка: прибежище всех угнетённых? У беларусов длинная история несвободы, и они могли бы сказать, что в прошлом мы натерпелись и теперь всей душой за свободу.

А.Г. Во-первых, меня смущает ваша фраза «в прошлом мы натерпелись». Кто эти «мы»? Если мы говорим о прошлом, то Беларусь, которая есть сейчас, — это всё-таки советский проект, как мне кажется. Массовое осознание себя беларусами, создание нации со всеми необходимым атрибутами — это всё-таки советский проект. До советского проекта была примордиальная идентичность, когда люди не осмысливали

себя в рамках нации, потому что нации не было. Это сейчас, когда мы смотрим на историю назад, мы говорим: «Ага, вот мы были угнетаемые». Тогда это были какие-то крестьяне, какая-то шляхта, какие-то аристократы. Беларуский язык был языком крестьянства этих земель. Помещики говорили на других языках. «Мы» в таком виде, как мы сейчас себе представляем, не существовало. То же Великое Княжество Литовское не было государством, основанном на этническом принципе.

М.Г. А во-вторых?

А.Г. Во-вторых, если мы будем страной, куда приедут все угнетаемые, то у нас не так много земли. И для того, чтобы мы возглавили все покорённые народы и вели их куда-то, надо быть успешными. Я имею в виду экономический успех. Только тогда этот проект сработает. У Америки получается, она успешна, потому что когда-то она стала прибежищем для европейских предпринимателей, уставших от произвола аристократии и королей. Предприниматели хотели разумных налогов и справедливого суда, и Америка дала им это. Одними лозунгами невозможно обойтись, и поэтому я хочу вернутся к тому, о чём я говорила в самом начале: мне кажется, что национальную идею надо бы искать в сфере экономической успешности, в модернизации. Хорошая национальная идея — это стать нацией, производящей самый лучший софт, например.

З.Л. Што вы скажаце пра лозунг «Беларусь перадусім»?

А.Г. Это похоже на то, как Трамп заявил, что хватит американцам заниматься всем миром, мы должны заниматься собой. Америка в самом деле присутствует по всему земному шару, это дорого, и Трамп это заявил, когда начались экономические трудности. Но я очень понимаю, что это значит в беларуском случае.

З.Л. А «Барані сваё»?

А.Г. Это лозунг племенного сознания, что-то из первобытно-общинного строя. В примордиальном мире было ясно, что если к нам придёт другое

племя, то оно вырежет мужчин, уведет в «палон» женщин. Сейчас социальная реальность несколько иная. И в то время было хорошо понятно, что «своё» и что «не своё». Сегодня, если говорить о культурной принадлежности, то наша ситуация гораздо сложнее, чем кажется на первый взгляд. Как нам относится к русской литературе, например? Это своё или не своё, учитывая, как хорошо её знают в Беларуси? Вот я росла в литературоцентричной семье. Как в семьях многих советских интеллигентов, у моих родителей цитаты из русской литературы просто торчали из ушей, они всё время их использовали. Цитаты из беларуской литературы на беларуском языке у моих родителей тоже были, я их и сейчас помню, но они шли вперемешку с цитатами из русской литературы на русском языке. Мне кажется, русская литература в Беларуси будет и дальше в какой-то степени формировать людей, потому что это действительно великая культура. В этом отношении, я не очень понимаю, что именно значит «барані сваё».

М.Г. А вам не кажется, что влияние русской литературы на беларусов связано с холодной войной и железным занавесом? Если бы беларусы последние сто лет могли свободно посещать Париж и Лондон, они бы меньше ценили Пушкина и больше Бодлера и Уитмена.

А.Г. Но, тем не менее, русская культура — это культура на понятном языке. Даже если ты вырастаешь в беларускоязычной семье, всё равно это понятный язык и это большая культура. Это очень важные вещи. Я помню, читала статью беларуской женщины-философа, которая написала: «Почему наши люди продолжают читать российскую газету «Известия»? Почему они не читают «Financial Times»?» И я даже задохнулась, это прочтя. По-моему, ответ очевиден: потому что это близко, потому что язык понятен, потому что события понятны. «Financial Times» − это совсем другой язык, другая культура, другая история. Надо приложить немалые усилия, чтобы выучить язык, понять, о чём там идёт речь, войти во вкус, а мы не любим прикладывать усилия.

З.Л. Ёсць яшчэ лозунг, што нацыянальная ідэя Беларусі — гэта яе бела-чырвона-белы сцяг, «бела-чырвона-белая нацыянальная ідэя».

У.М. Мы живём на территории современной Беларуси. Хотите, я сейчас вас закопаю территориями и национальностями? Как вы думаете, город Смоленск русский или беларуский? А в Литве живут литовцы или беларусы? А здесь, в Беларуси, живут, беларусы или литовцы?

З.Л. Мы бяром сучасную Беларусь. Каб гэтае грамадства развівалася, у яго павінна быць нейкая ідэя?

У.М. Знаете, я вижу развитие в объединении людей всей планеты. Сейчас есть позитивный вектор — общее развитие человечества, взаимное проникновение. Мы никуда от этого не денемся. Ещё чуть-чуть, и мы будем попадать в любую точку на планете за пятнадцать минут. А ещё немного спустя мы будем колонизировать Луну и Марс. И мне интересно, как на Марсе мы будем определять национальные идеи.

М.Г. Колонизировать Луну будут россияне, и вас, беларусов, мы с собой не возьмём.

У.М. Какая разница? У китайцев есть своя программа освоения космоса. Я хочу сказать, что мы выходим за пространство Земли. О какой национальности будет идти речь на Марсе?

М.Г. Мы не выходим.

У.М. Я хочу спросить, какой у вас телефон?

М.Г. У меня финский.

У.М. Вот видите. Мы, человечество, движемся вперёд, мы придумываем, а вы этим пользуетесь. А если мы не будем придумывать? Куда вы денетесь? Вернётесь к сохе? Кстати, я глобалист, но, с другой стороны, моя голубая мечта — купить остров и организовать там маленькую коммуну вне коммуникации со всем миром. Потому что это прикольно, это интересно.



М.Г. Правильно ли я вас понял: Беларусы должны выучить какой-нибудь

глобальный язык, который понятен во всех университетах этой планеты?

У.М. Скорее это будет два или три языка.

М.Г. Хорошо. И они должны получить дипломы, которые принимаются работодателями по всей планете, интегрироваться в общность, которую вы называете человечеством, и распыляются по всей планете?

У.М. Да.

М.Г. А ощущение, что мы беларусы, у них остаётся?

У.М. Ну, да. Традиции, культура, музыка, искусство и какая-то генетическая память, она всё равно сохраняется.

М.Г. А эта территория?

У.М. И территория.

З.Л. Беларусь будучыні — гняздо, куды ты можаш вярнуцца?

У.М. Хутор или остров. Смотрите, почему я так пытаюсь опустошить понятие национальной идеи? Потому что мне кажется, что любая фраза, связанная с национальной идеей, — это пустышка, которая не даёт заниматься делом. Почему мне не нравится предложение: «А давайте разработаем нашу национальную идею»? Потому что это лишнее предложение. Национальная идея — это быть счастливым. Что ещё нужно? Ничего. Про счастье все понимают, и хватит говорить об этом.



# СВЯТЛАНА
# КАЛІНКІНА

## «НАЦЫЯНАЛЬНАЯ ІДЭЯ ЁСЦЬ — ЯЕ КРЫЧАЦЬ НА СТАДЫЁНАХ»

euroradio·fm

Гутарылі Зміцер Лукашук, Максім Гаруноў
Фота Еўрарадыё

З.Л. Вітаю ўсіх слухачоў, наш сённяшні госць — адзін з самых чытаных, самых любімых і самых цытаваных калумністаў нашай краіны, Святлана Калінкіна.

С.К. Добры дзень.

З.Л. Святлана, давайце ў тэрмінах вызначымся: нацыянальная ідэя — гэта што?

С.К. На мой погляд, гэта ідэя, якая аб'ядноўвае большасць людзей, якія жывуць у гэтай краіне, якія не ворагі яе, якія жадаюць, каб яна існавала далей.

З.Л. На сённяшні дзень можна сказаць, што нацыянальная ідэя ёсць?

С.К. Так. Нацыянальная ідэя ў Беларусі ёсць. Успомніце, што скандуюць беларускія стадыёны? Людзі, зусім далёкія ад палітыкі, людзі, якія не маюць ніякага дачынення да апазіцыі, скандуюць: «Жыве Беларусь!» Гэты лозунг гучыць зараз нават на праўладных канцэртах. Ён гучыць насуперак стаўленню да яго з боку дзяржавы. Яна ставіцца да яго з вялікім падазрэннем, не хоча прыняць. Яшчэ нядаўна суды ў Беларусі пісалі ў пратаколах людзям, якіх арыштоўвалі на вуліцы за публічнае скандаванне гэтага лозунгу: «Выкрыкваў антыдзяржаўныя лозунгі «Жыве Беларусь!» Па логіцы гэтых запісаў, наш дзяржаўны лозунг павінен гучаць як «Памрэ Беларусь». Гэта было абсурдна, проста абсурдна, але сёння артысты, якія выступаюць на канцэртах у падтрымку ўлады, скандуюць яго са сцэны, як ні ў чым не бывала. Яны не разумеюць, у чым крамола. То-бок, нягледзячы на супраціў і забароны з боку дзяржавы, ён жыве ў нашай краіне, распаўсюджваецца сярод людзей. Для мяне гэта сведчанне таго, што гэты лозунг і ёсць наша нацыянальная ідэя. «Жыве Беларусь!» А вось якая Беларусь жыве і як яна жыве — тут ужо патрэбная расшыфроўка, тут мы можам спрачацца паміж сабой.

М.Г. А какие есть варианты?

С.К. Нехта сцвярджае, што гэта павінна быць хрысціянская краіна на хрысціянскіх каштоўнасцях.

М.Г. Вы с ними согласны?

С.К. Не. Я лічу, што Беларусь, па-першае, шматканфесійная, а па-другое, у нас шмат атэістаў, пра якіх мы забываем і якія цудоўныя людзі і гэтаксама маюць права на свае погляды. Я лічу, што ў якасці нацыянальнай ідэі трэба адбіраць такія крытэрыі, якія аб'ядноўваюць максімальную большасць людзей. Вось як вы лічыце, які крытэрый аб'ядноўвае ну амаль што ўсіх людзей?

М.Г. Я не знаю.

З.Л. Я таксама не ведаю.

С.К. Шчасце. Усе мы хочам быць шчаслівымі. Мне падаецца, што тэрмін «шчасце» — ён такі абагульняльны, ён для ўсіх і пра ўсіх. Было б вельмі правільна ў якасці канцэпцыі вылучыць, што Беларусь — шчаслівая краіна, у якой жывуць шчаслівыя людзі. Другім крытэрыем я б абрала свабоду. Свабода і для краіны, і для людзей. Свабодныя людзі, якія маюць права голасу, права выбару, ведаюць, што суд будзе справядлівым, што ніякага міліцэйскага ці спецслужбоўскага бязмежжа ў гэтай краіне быць не можа. Трэцім я б абрала сучаснасць. Гэта тычыцца і эканомікі, і культуры, і ўвогуле падыходаў да таго, як будуецца жыццё краіны. Хопіць беларусам быць некрафіламі і маліцца на тое, што памёрла. Савецкага Саюза няма, ён памёр. Трэба глядзець у будучыню, трэба, каб у нас людзі былі сучасныя, каб яны ўмелі працаваць у новых умовах.

М.Г. А можете привести пример счастливой страны, на которую вы хотели бы, чтобы Беларусь была похожа?

С.К. Кажуць, што ва ўсіх рэйтынгах шчасця самыя шчаслівыя — гэта цёплыя краіны, дзе цэлы год сонца. Як Тайвань, напрыклад. Жыхары Тайваня заўсёды ўсміхаюцца, усіх любяць, у іх усё добра. У іх нават цудоўны кароль, які прыязджае на афіцыйныя візіты ў рваных джынсах. Я не магу сказаць, што нам трэба арыентавацца на Тайвань, але хацелася б, как беларусы ўсміхаліся. Вось я зараз ехала ў метро. У вагоне ну ніводнай усмешкі, ніводнай гучнай размовы. Людзі без усмешак,

зацятыя сваімі праблемамі, моўчкі кудысьці едуць. Мне б хацелася, каб людзі больш усміхаліся, больш радаваліся, не чакалі ад кожнага новага дня ўдару па галаве.

М.Г. А кроме Тайваня?

С.К. Мне вельмі падабаецца Амерыка. Падабаецца, што Злучаныя Штаты даюць надзею кожнаму. З якой бы ты сям'і ні быў, калі ты нечым выбітны, ты можаш стаць мільянерам і ніхто не спакусіцца на твае грошы. І яшчэ мне вельмі падабаецца, што Злучаныя Штаты шмат увагі надаюць бяспецы і абароне сваіх грамадзян у любой краіне свету. Што б ні здарылася, грамадзяне ЗША цвёрда ведаюць, што іх краіна будзе іх абараняць, будзе пра іх клапаціцца. Вось Беларусь, якую мы зараз маем, адназначна нікога бараніць не будзе. Наша дзяржава не бароніць беларусаў нават унутры краіны

М.Г. А можно сказать, что идеальная Беларусь — это Беларусь, в которой беларусы будут иметь возможность как можно больше времени проводить в странах, где постоянно светит солнце?

С.К. Не, так сказаць нельга. Я якраз думаю, што сутнасць нацыянальнай ідэі ў тым, каб беларусам было ўтульна ў сваёй краіне, каб не трэба было нікуды ехаць у пошуках лепшага жыцця. Але калі яны хочуць паехаць некуды адпачыць, ці папрацаваць, ці павучыцца, ці палячыцца, то нішто і ніхто ўнутры краіны не павінна ім перашкаджаць. Ну, і між іншым, кліматолагі кажуць, што да нас ужо прыходзіць сонца, што хутка ў нас тут будзе клімат, як ва Украіне. Мора, праўда, няма.

З.Л. Вы сказалі, што беларусам трэба пазбавіцца ад некрафіліі і глядзець на сучаснасць і ў будучыню. А якое ўвогуле павінна быць стаўленне да нашага мінулага? Мы пра яго зусім забываемся?

С.К. На мой погляд, лозунг «Жыве Беларусь» — якраз універсальны, у ім спалучаецца і мінулае, і будучыня. Мы ведаем нашу гісторыю. Мы ведаем, адкуль прыйшоў гэты лозунг. Мы ведаем, што гэта быў лозунг надзеі нашых продкаў на суверэнную беларускую дзяржаву. Надзеі, якая пры

іх не збылася, але збылася пры нас. Само слова «жыве» ў Беларусі, я нагадаю, мае не проста сэнс фізічнага існавання. Вось успомніце: вы прыязджаеце ў беларускую вёску і пачынаеце распытваць пра знаёмых: «Як там Валя?» — «Валя, працуе ў магазіне, яе мужык п'е». — «Як там Фёдар?» — «Фёдар ужо зусім спіўся». — «А як там Васіль?» — «А Васіль жыве». У нас не проста жыць — існаваць. «Жыве» — гэта заможна, добра сябе пачувае. «Жыве» — гэта погляд у будучыню, каб гэтая краіна існавала і праз стагоддзі, каб мы яе пакінулі і дзецям, і ўнукам. Тут спалучана і мінулае, і сённяшні дзень, і будучыня.

З.Л. Наколькі важная мова?

С.К. Вельмі важная. Мова — гэта самаідэнтыфікацыя. «Жыве Беларусь» — беларускамоўны вокліч. Зразумелы ўсім, нават тым, хто беларускую мову, як яны сцвярджаюць, не ведае. Хаця я перакананая, што ўсе, хто жыве ў Беларусі, мову ведаюць. Можа, не гавораць на ёй, можа, баяцца пісаць, можа, горш, можа, лепш, але ведаюць.

З.Л. Валоданне мовай усімі ўваходзіць у нашу нацыянальную ідэю ці не?

С.К. Гэта вельмі спрэчнае пытанне. Я лічу, што ўсе павінны ведаць мову. Больш за тое, як я ужо сказала, я лічу, што ўсе, хто жыве ў Беларусі дастаткова доўга, яе ведаюць. Праблема, паўтаруся, у тым, што наша быццам бы нацыянальная дзяржава, паводзіць сябе не як нацыянальная дзяржава. Сёння ніводзін з дзяржаўных афіцыйных сімвалаў не з'яўляецца сімвалам суверэннай, самастойнай, гістарычнай, маючай права на існаванне Беларусі. Ні савецкі сцяг, ні савецкі гімн, ні савецкі герб не маюць дачыненне да сапраўднай гістарычнай Беларусі. Гэта ўсё «навадзелы»,ператвораныя БССР. Але мы не хочам будаваць БССР, не хочам быць у складзе іншай дзяржавы. Калі ў нас ёсць свая нацыянальная ідэя, калі ў нас ёсць свая суверэннай краіна, у нас павінны быць свае ўласныя гістарычныя сімвалы і мы павінны гаварыць на сваёй уласнай роднай мове.

М.Г. Я хочу задать очень гадкий и подлый вопрос. Представим себе, что Москва не такая, как сейчас. Представим, что реформы 90-х удались.

Представим, что из России приходят новые технологии, новации, свободы, просвещение, экономический рост. Был бы тогда смысл в беларуском национализме или нет?

С.К. Канешне, быў бы. Бо ў любым выпадку наша агульная мэта — захаваць сваю дзяржаву і не залежаць ні ад каго. Мы, беларусы, жывучы ў Беларусі, не павінны думаць, як нехта ў Крамлі, ці ў Белым Доме, ці у Бруселі нам скажа. У нас ёсць свая краіна. У нас ёсць свае інтарэсы. У нас ёсць свой погляд на сваё месца ў свеце, на сваё жыццё, на тое, якімі мы павінны быць. Цудоўна, калі Расія будзе сучаснай, калі там будуць Іланы Маскі. Я думаю, значна большая колькасць людзей будзе туды ездзіць на экскурсіі, на працу.

З.Л. На заканчэнне я дадам троху ваяўнічасці. Міраслаў Лазоўскі, былы фігурант справы патрыётаў, у нас у эфіры сказаў, што нацыянальнай ідэяй для беларусаў сёння павінна стаць уменне бараніць сваю краіну ад захопнікаў і чужынцаў. Гадаваць вось сваю нацыянальную беларускую армію, гадаваць людзей, якія гатовы аддаць жыццё за гэтую краіну. У вашым праекце Беларусі гэты складнік прысутнічае?

С.К. Зразумела, што мы павінны сябе бараніць. Армія павінна быць, але галоўнае, каб былі патрыёты, якія пойдуць служыць у войска, пойдуць бараніць сваю краіну. Якія не скажуць: «Ну, і добра, а можа, у Расіі там заробкі большыя, дык будзем жыць у Расіі, ці ў Польшчы». Армія без патрыётаў — не армія, гэта трэба разумець ясна.



# ТОМАС
# ВЕНЦЛАВА

## «ДАГНАЦЬ ЦЫВІЛІЗАВАНЫ СВЕТ, НЕ ЗАБЫВАЮЧЫ СВАЕ МОВУ І ТРАДЫЦЫІ»

euroradio·fm

Гутарылі Зміцер Лукашук, Максім Гаруноў
Фота Еўрарадыё

З.Л. Вітаю ўсіх слухачоў «Еўрарадыё». Наш сённяшні адмысловы госць — вялікі інтэлектуал, паэт, дысідэнт, праваабаронца Томас Венцлава. Добрый день.

Т.В. Добрый день. Спасибо.

З.Л. Как вы считаете, нации нужна национальная идея?

Т.В. И да, и нет. Когда о ней начинают говорить, легко сорваться в ксенофобию, в шовинизм, в изоляционизм. Она должна получаться как-то сама собой, естественно. Тогда можно не опасаться срывов. То, что человечество делится на нации, на отдельные национальные культуры, по языкам — это явление нашего времени, уже довольно давнее и продлится ещё долго. И поэтому, конечно, это хорошо. Деление придаёт миру разнообразие и красоту. Взаимоотношения и столкновения наций, пока они не переходят в кровопролития, в общем полезны для обогащения мировой культуры, как и любые противоречия.

М.Г. «Говорят / не говорят» — это единственный критерий, по которому можно отличить нормальное, естественное состояние национального самосознания от того, которое приводит к насилию?

Т.В. Не единственный, но один из важных. Я, честно говоря, против, когда слово «нация» пишут с большой буквы. По-литовски «tauta». У нас его часто пишут с большой буквы и в газетах, и в книгах. Это делают публицисты правого толка. Я себя к таковым не причисляю. Я считаю, что большие буквы следует поберечь для ценностей, которые более важны, чем нация. Для христианина — это Бог, для агностика или атеиста — это Совесть. Есть ценности трансцендентные, вечные, метафизические, и есть ценности темпоральные. Нация принадлежит ко вторым. 1000 или 1500 лет назад наций в нашем понимании не было. Были какие-то иные образования. Племена, диалекты, что угодно, но не нации. Это явление развилось и приобрело современный смысл в 19 веке. Через 1000 или 1500 лет наций, по-видимому, уже не будет. Будут какие-то другие образования. Может быть, они будут похожи на нации, а может и нет. А такие предметы, как свобода, как правда, — они всегда были

и всегда будут. Поэтому ограничивать свободу во имя нации я бы не стал. Говорить неправду или скрывать правду во имя нации я бы тоже не стал. Эти ценности для меня важнее. Если надо выбирать между нацией и свободой, между нацией и правдой, то я выбираю свободу и правду. Хотя эти явления могут друг другу и не противоречить. И хорошо, если они друг другу не противоречат.

З.Л. А нация — это что такое?

Т.В. Смысл этого понятия меняется со временем. И, кстати, опыт литовцев тут очень типичен. «Литовец» или «литвин» 500 лет назад означало гражданин Великого княжества Литовского. Он мог говорить по-литовски, он мог говорить по-русински, на древней форме беларуского или украинского. 500 лет назад эти языки ещё не слишком отличались. Он мог говорить даже по-немецки, по-итальянски. Вильнюс и некоторые беларуссие города были построены итальянскими архитекторами. Эти люди были гражданами Великого княжества, признавали литовский Статут. Их называли литвины. Они могли говорить по-польски и чаще всего они говорили по-польски, хотя по происхождению были либо литовцами, либо беларусами. Но тем не менее это были литвины. Сейчас говорят, что это были «старолитвины». В 19 веке появились «новолитвины» и «новобеларусы», для которых главным критерием был язык: говоришь ты на нашем языке или нет? Если говоришь, тогда ты литовец или тогда ты беларус. Так относились к вопросу языка и наши классики — Симонас Даукантас, Юозас Вайжгантас, Майронис, и беларуские классики — Янка Купала, Максим Богданович, Франциск Богушевич. Но это новое явление. А вот понятие «свобода» остаётся свободой независимо от того, к каким временам мы его относим. Понятие правды также.

М.Г. Если вы будете выбирать между Богом и нацией, то вы выберете Бога?

Т.В. Да, хотя я считаю себя скорее агностиком, но что такое агностик? Агностик — это тот, кто говорит: «Я не знаю, есть Бог или нет». Доказать, что Бог есть или что Бога нет, невозможно. Но при этом есть два вари-

анта агностика: или вести себя так, что Бога нет, или вести себя так, что Бог есть. Я скорее выберу второй вариант.

М.Г. А между правами человека и нацией?

Т.В. По-моему, права нации логически вытекают из прав человека. Право на независимость, на свободное развитие, на сохранение языка, на воспитание молодого поколения в духе традиций следуют из прав человека. Права человека первичны, права нации вторичны. Для некоторых националистов права человека вытекают из прав нации. Вот это, по-моему, неверный логический ход. Для меня права человека первичны, они важнее.

З.Л. Когда есть национальная идея, автоматически идёт разговор об истории нации, о культуре, о языке. Когда её нет, то получается, как у беларусов, когда на вопрос, кто мы, Лукашенко, президент страны, говорит, что мы «русские со знаком качества».

Т.В. Я, конечно, сам, увы, не беларус и не имею права про это говорить. Но скажу вот что. С беларусами сложно, потому что у них было слишком мало времени, чтобы обрести самотождественность. Они начали её обретать в начале 20 века, и потом это как-то рухнуло: половина Беларуси оказалась в Советском Союзе, половина – в Польше. И в том, и в другом случае возможности для национального саморазвития были ограничены, мягко говоря. Где-то больше, где-то меньше, но ограничены. Литве повезло, она сумела сохранить независимость. Мы объявили её в одно время с беларусами, но потом мы были независимы 20 лет, до начала Второй мировой войны, и сумели осознать эту самотождественность, сохранить язык. Вопрос: что такое эта самотождественность? Конечно, это традиция. Что беларусы не русские — это совершенно очевидно. Достаточно поездить по Беларуси, посмотреть. Это другая культура, архитектура, более сложный религиозный рисунок. Тут есть католики, есть униаты, есть православные. Другие традиции, другой фольклор, другая историческая память. Это была часть Речи Посполитой, она играла большую роль и в Речи Посполитой, и в Великом княжестве Литовском. Люди, которых весь мир считает поляками, — Тадеуш Костюшко, Адам

Мицкевич — говорили на польском языке, были патриотами Польши, но под Польшей они понимали всю Речь Посполитую, включая Литву, Беларусь, Украину, и называли себя литвинами, литовцами. Я часто говорю, что начало «Пана Тадеуша» — это самые парадоксальные строки в мире. Главная польская поэма начинается словами «Отчизна, милая Литва. Litwo, Ojczyzno moja!» Но это только первый уровень парадокса. Второе то, что он говорит не о Литве, а о Беларуси. Он говорит о своём родном крае, Новогрудчине. Это Беларусь, но в каком-то смысле и Литва. Во времена Мицкевича там были литовские деревни. В древности там жили ятвяги: балтийское племя, родственное литовцам, которые потом славянизировалось. Я, будучи студентом, ездил в эти края и около города Дятлово (по-литовски Zietela) были деревни, говорящие на литовском языке. На очень странном диалекте, но понять их было можно. Сейчас, кажется, они уже ассимилировались. Во времена Мицкевича это была скорее Беларусь, чем Литва, и это парадоксально: три народа одновременно сочетались в одном человеке. Наиболее глубокий след Мицкевич оставил в польской культуре, но несомненно и в беларуской, и несомненно в литовской. Что-то очень похожее можно сказать о Тадеуше Костюшко.

М.Г. В Беларуси разговоры о нации звучат только в этой студии и ещё в нескольких кафе рядом с ним. Остальные на эту тему не говорят. С вашей точки зрения, это знак того, что с беларуской национальной идеей всё хорошо?

Т.В. Скорее плохо, чем хорошо. Но дело в том, что это всё скорее внешнее, цензурное препятствие. Из этого не следует, что внутренне человек не может осознавать себя беларусом. Слово «нация» вообще сложное. У литовцев употребляется целых 3 слова: можно сказать «нация», «tauta» и «liaudis». При Советах употребляли «liaudis», это означало «трудовой народ», все, кроме буржуазии и священников. Крестьяне и рабочие — это «liaudis». Сейчас говорят «tauta», что означает и крестьян, и рабочих, и высшие слои. «Нация» — это скорее то, что создаёт государство и даже отчасти совпадает с понятием государство. Вот у русских деления на «tauta» и «liaudis» нет, они просто говорят «народ». Не знаю, как у беларусов.

З.Л. Беларусы — народ. «Беларуская нация» — очень редко употребляется.

Т.В. Трудовой народ и народ, включая элиту — это одно и то же слово?

З.Л. Тут уже зависит от интонации.

Т.В. Понятно, у вас от интонации. У нас есть разные слова. «Liaudis» теперь почти не употребляется. Оно имеет советский оттенок, хотя это невинное слово. Я думаю, что цензурные препятствия рано или поздно отпадут, если мы сами будем стараться меньше осторожничать.

З.Л. Что вы думаете о языке?

Т.В. Это очень важный вопрос. У литовцев говорят, что беларусы потеряли язык, какой ужас, до чего довели народ. Но, во-первых, не потеряли. Я вижу, что много книг выходит, есть газеты. Вот вы на радио говорите на беларуском языке. Я не говорю на беларуском языке, но я его понимаю, особенно тексты. Язык существует, он никуда не исчез. И я бы хотел, чтобы он существовал как можно дольше, хотя он тоже исчезнет, как и всё на этом свете. И литовский язык исчезнет. И русский язык исчезнет. Ничто в этом мире не вечно, всё поддается силам распада. Беларуский язык мягок, приятен, красив, своеобразен по словарю. Меня очень привлекают беларуские названия месяцев. Вот у поляков свои названия месяцев, у литовцев — свои. У русских — нет, там латинские названия: январь, февраль. У вас свои и очень эстетичные, что-то говорящие воображению. У вас есть своя литература, своя поэзия и довольно сильная, большая. Я сейчас слышал много беларуских стихов. Они приятно звучат.

М.Г. А как быть, если язык всё-таки исчезнет?

Т.В. Не дай Бог, но давайте представим себе такой случай. Такие случаи есть. Вот ирландцы. У них национальный язык гэльский. Он больше отличается от английского, чем, скажем, литовский от русского. На нём говорят около 30 тысяч человек в Богом забытых деревнях. В Дублине

пытались издавать газету на гэльском, и она обанкротилась, потому что её никто не покупал. 95% или 96% ирландцев говорят на английском. Но это не значит, что они англичане. У них другая традиция, другая религия, другой образ жизни. Они считают себя ирландцами, у них своё государство, которое с Англией всегда, и даже сейчас, находится в несколько напряжённых отношениях. То есть, язык исчез, но народ не исчез. То же самое Германия и Австрия. Ещё один пример — Румыния и Молдова: язык один, государства два. Объединятся ли они в будущем — неизвестно. Есть люди, которые этого хотят, и есть люди, которые этого не хотят. Пока что это два разных государства, различные во многом. И слава Богу, что они есть, они придают больше разнообразия миру. Поэтому я бы сказал, не надо так сильно бояться потери языка. Это нежелательно, это плохо, но даже если это случается, это не означает потери национальной идентичности. Народ может остаться, даже потеряв язык. Мне в той же Ирландии говорили: «Ах, мы, ирландцы, должны у вас, литовцев, учиться. 3 миллиона человек по-прежнему говорят на своём архаичном, красивом, звучном, сложном, интересном языке». Конечно, это очень хорошо, что нам удалось. Кому-то, может, и не удастся. Но я вам желаю, чтобы беларуский язык сохранился, процветал, и мне кажется, это в какой-то мере происходит. Скажем, когда я был здесь 15 лет назад, было больше вывесок на русском, чем на беларуском. А сейчас наоборот. Сейчас на вокзале вижу надписи беларуские, английские и китайские, а русских ещё пойди поищи. Это означает, что язык укрепляется, чего я ему и желаю.

З.Л. Я согласен с тем, что права человека, свобода слова и всё остальное важнее, чем нация. Но после 2014 года возникает сомнение. Если во главу угла не ставить нацию, не ставить суверенитет, независимость национального государства, то как же тогда быть в случае, если будет угроза нации?

Т.В. Тут существует такая вещь, как международное право. В случае с Украиной это право было резко и бесповоротно нарушено. Может быть, многие россияне действительно хотели, чтобы Крым находился в составе России. Есть разные пути решения этого вопроса согласно с международным правом. То, что было сделано — не согласно с международным

правом, и поэтому Крым не является частью России. Он присоединён незаконно. Как это будет решаться в будущем — сложно сказать. Я могу привести пример из литовского прошлого. Вильнюс был занят Польшей в 1920 году при сопротивлении Литвы, которая не без основания считала этот город своей столицей. На наших картах Вильнюс, а также города Сейны и Сувалки, в которых проживают в основном литовцы, отмечалась как часть Литвы, оккупированная Польшей. Прошло 20 лет, изменилась политическая конфигурация, и Вильнюс оказался в составе Литвы. Все государства мира, включая Польшу, это признали. Сейны, кстати, так и не перешли к Литве, но права литовцев там соблюдаются. Есть литовские школы, есть литовский центр. У нас нет повода волноваться за судьбу литовцев в Сейнах. И потом, граница открытая. Если хочешь поехать из Литвы в Сейны, кого-то там увидеть — всегда можешь это сделать. Что-то в этом роде произойдёт и с Крымом. Рано или поздно, при изменении политической конфигурации, статус Крыма может измениться. С точки зрения теперешнего международного права, очевидно, как именно он должен измениться.

М.Г. По поводу границ — у Беларуси есть некоторые территориальные претензии к соседям.

З.Л. Претензий нет!

М.Г. Слушай, я у Лукашенко нашёл. Когда Россия взяла Крым, Лукашенко сказал: «А давайте посмотрим, чей Брянск». Потом я услышал здесь…

Т.В. А про Смоленск не сказал?

М.Г. Про Смоленск, к сожалению, не помню. Потом есть группа «Dzieciuki».

З.Л. Гродненская.

М.Г. Да, гродненская группа. У них есть такой мощный хит «Трымайся, браце!». Его любят, я видел реакцию публики на их концертах. Там есть строчка о том, что Беларусь — она «от Белостока и до Смоленска». Если

прогуляться по Минску, можно найти сувенирные магнитики, на которых границы Беларуси гораздо шире, чем сейчас. На этих магнитах в состав Беларуси входят часть Литвы, Латвии, Польши, Украины, России. Как к этому относиться?

Т.В. В общем, территориальная претензия — это плохо. Это всегда опасно, может привести к кровопролитию и тогда к старым обидам добавятся новые. Необходимо сохранять те границы, которые признаны договорами и международным законом. Это касается и Вильнюса. Вильнюс, конечно, имеет большое значение для Беларуси, и я это прекрасно понимаю. Я много писал о Вильнюсе. Я много изучал этот вопрос. Я так говорю: Вильнюс для Литвы — это Иерусалим, а Каунас — это Тель-Авив. Но и для Беларуси Вильнюс — это Иерусалим. Минск важен, но это современный город, деловой и административный центр, как Тель-Авив. Сейчас Вильнюс населён литовцами и говорит на литовском языке. Если, не дай Бог, решить это изменить, будет кровопролитие и большая обида. Неизвестно, к чему это приведет. Поэтому международные законы, слава Богу, пока никто нарушать не собирается. А закон на стороне Литвы. Но, конечно, литовцы должны сохранять память о беларуском начале в Вильнюсе. Эта память есть, и она сохраняется. В этом смысле к Литве никаких претензий быть не может. В Вильнюсе полно мемориальных досок. И Брониславу Тарашкевичу, и Янке Купале, и Якубу Колосу, и кому угодно. Указано, где издавалась первая беларуская газета «Наша Ніва», указано, где создавалась первая беларуская партия «Грамада». Останки отцов-основателей Беларуси, братьев Луцкевичей, Антона и Ивана, покоятся на кладбище в Вильнюсе.

З.Л. А сейчас будет ещё могила Кастуся Калиновского.

Т.В. Да, сейчас нашли останки его и других повстанцев, и будет торжественное перезахоронение. Надпись, конечно, должна быть на трёх языках — на литовском, на польском и на беларуском. Это герои трёх народов. С каким-то перевесом в сторону той или иной национальности. Скажем, Калиновский, видимо, с некоторым перевесом в сторону беларускости. Антанас Мацкевичус был литовец, говорил по-литовски.

Сераковский уже скорее поляк. Между собой они общались, конечно, по-польски, но принадлежат трём разным народам. Я могу еще сказать: у нас, у литовцев, в этом плане есть Калининградская область, бывший Кёнигсберг. Это колыбель литовской культуры. Как Вильнюс для беларусов, так и Кёнигсберг для нас. В Кёнигсберге вышла первая литовская книга, первый литовский перевод Библии, первый литовский сборник народных песен, первая грамматика литовского языка. Сейчас она населена русскими, а была населена немцами. Когда-то там были литовцы, но уже перед Второй мировой войной их оставалось совсем мало. Какие-то чувства к Кёнигсбергу есть у каждого сознательного литовца. Но это не значит, что мы должны присоединять нынешний российский Калининград к Литве. Достаточно, если там будет сохранено литовское наследие. Сегодня в Калининграде есть музей поэта Кристионаса Донелайтиса, есть памятник Людвигу Рейзи, который издал первый сборник литовских песен. Это идёт со скрипом, с трудом. Российские власти как-то препятствуют, но я бы сказал, что при немецкой власти было хуже. Конечно, всё познаётся в сравнении. Вот так и Вильнюс для беларусов. Если беларуское наследие в литовском Вильнюсе в почёте и доступно беларусам, тогда всё в порядке. Другое дело, что между нами сейчас есть такой немного «железный занавес», и чтобы поехать из Вильнюса в Минск, нужна виза. Вот я вынужден летать в Минск, потому что это единственный способ избежать этой тягомотины с визой. Но это тоже изменится. Придёт время, когда мы будем ездить друг к другу в гости без особых препятствий.

М.Г. Представьте себе, что в Беларуси случилось несчастье, произошел срыв и беларусы страстно захотели вернуть себе Брянск, который сейчас российский, а в средние века был окраиной Великого Княжества Литовского. Не знаю, зачем им Брянск, но вот случилось такое.

З.Л. И Смоленск.

М.Г. И Смоленск.

Т.В. Для решения таких вопросов, как Брянск, существует, как я уже сказал, международное право. Что касается срыва, то, к сожалению, эта

чума распространяется по всей Европе. Она есть в России. Она есть в Польше. Она есть в Венгрии у Орбана, в Италии, и в какой-то мере в Соединенных Штатах. Трамп тоже хорош в этом плане. Это популизм, это национализм, это вредно, это опасно, это ставит Европу в ситуацию, в какой она уже была в 39 году. И мы помним, чем это кончилось. Интеллектуал должен выступать против этого.

М.Г. То есть, нужно предавать беларусов?

Т.В. Почему предавать? Это означает, охранять беларусов от опасности.

М.Г. От них самих?

Т.В. Да, в каком-то смысле, от них самих. От тех дурных свойств, которые коренятся в каждом народе. Я бы также выступал в случае с литовцами. То есть мне, честно говоря, хотелось бы, чтобы Кёнигсберг был литовским. Но я понимаю, что это безнадежно и бессмысленно. Он уже населен другими людьми, его статус закреплен международными договорами и тут уже ничего не переменишь.

З.Л. Референдум проведёте, как в Крыму провели.

Т.В. Понимаете, на референдуме в нынешнем Калининграде люди вряд ли проголосуют в пользу Литвы. Нам, литовцам, следует ограничиться сохранением своего наследия. Там многое можно сделать. Например, на территории Калининградской области жили пруссы. Это был очень интересный балтский народ, который исчез к 18 веку. Я там был на развалинах лютеранской кирхи. Это единственное в мире место, о котором мы точно знаем, что там служили мессу на прусском языке. Лютеранскую мессу. Вот хорошо бы эту кирху восстановить и создать, допустим, центр изучения и сохранения прусского языка. Это было бы прекрасно, и это важнее для сохранения идентификации народа, чем территориальные претензии.

З.Л. В самом начале вы сказали, что национальная идея не должна быть придумана, а должна как бы сама созреть внутри народных масс, родиться.

Т.В. Вы знаете, не обязательно народных. Скорее, в интеллигенции. Народные массы, в общем, следуют за тем, что им говорит интеллигенция. Рано или поздно.

З.Л. Я к тому, что она должна созреть сама. Вот вы смогли бы её сформулировать?

Т.В. Я думаю, что искусственно формулировать национальную идею — это и есть путь к «Майн Кампф». Национальная идея создаёт себя сама. Если она уже есть, её надо вылущить, извлечь на свет Божий как спелую мякоть ореха из скорлупы. Меня спрашивают: а какая у литовцев национальная идея? Я говорю, что название нашего герба «Vytís». По-беларуски это «Пагоня». «Vytís» можно прочитать как глагол неопределённого наклонения — гнаться, догонять. Я говорю: наша идея — это догонять Европу, догонять цивилизованный мир, стать цивилизованными, решать вопросы так, как они решаются в Европе сейчас. Европа научилась решать свои проблемы цивилизованным образом. И мы должны этому научиться. Вот это и будет наша национальная идея — догнать более просвещённые страны.

З.Л. А наша передача? Она похожа на вылущивание?

Т.В. Да, и напомню ещё раз, что это должно происходить как-то естественно, как-то без излишних усилий. Эта идея уже есть, она заключается в традициях, в языке. Я думаю, что с её поиском можно справиться. Даже и без большого труда.



# ГАННА ЧЫСТАСЕРДАВА

## «АКТЫЎНАСЦЬ І ЎНУТРАНАЯ АДКАЗНАСЦЬ ЗА СЯБЕ І КРАІНУ — МАЯ ІДЭЯ»

euroradio·fm

Гутарылі Зміцер Лукашук, Максім Гаруноў
Фота Еўрарадыё

З.Л. Вітаю ўсіх слухачоў, наша сённяшняя госця — арт-дырэктар галерэі сучаснага мастацтва «Ў» Ганна Чыстасердава.

Г.Ч. Прывітанне.

З.Л. Ганна, тады з самага пачатку: а яно нам, беларусам, увогуле трэба? Я маю на ўвазе нацыянальную ідэю?

Г.Ч. Канечне, патрэбна.

З.Л. А навошта?

Г.Ч. Мае быць. Мае быць у розуме і мае быць у сэрцы. Галоўнае для самога сябе вырашыць, хто такі беларус, якую я займаю пазіцыю ў гэтым грамадстве, што мне як беларусу блізка, што хацелася б змяніць. Магчыма, калі мы пачнем самі сабе, прыватным чынам, задаваць такія пытанні, спачатку з'явяцца адказы для нас саміх, кожнаму свой уласны. А потым, калі мы, магчыма, навучымся культуры грамадскага дыялогу, мы знойдзем супольны адказ для нас усіх.

З.Л. «Калі мы, магчыма, навучымся культуры грамадскага дыялогу» — гучыць як нешта такое касмічнае, дзесьці ў далечы, праз мільёны кіламетраў.

Г.Ч. Ну, слухайце, для мяне гэта такое даволі важнае пытанне, бо, шчыра кажучы, у мяне ёсць адчуванне, што нашаму грамадству не патрэбны дыялог. Магчыма, гэта нейкі такі наш асаблівы шлях, але мне ён не вельмі падабаецца.

М.Г. А какие признаки того, что нет потребности в диалоге?

Г.Ч. Посетите любую публичную дискуссию в Минске, чего бы она ни касалась. Поле моей профессиональной деятельности — это культура. Вроде бы, мы рассчитываем, что в сфере культуры все углы закруглены и споры не такие непримиримые. К сожалению, это не совсем так. К сожалению, любой диалог, любая публичная дискуссия, на которых я

присутствовала, выглядят как хор монологов. В нашем обществе есть такая очень странная вещь: оказавшись на дискуссии, выговориться, абсолютно не слыша ни оппонентов, ни тех, кто тебя поддерживает. Артур Клинов очень хорошо определил нашу культурную среду как «общество крайних индивидуалистов». Наверно, это в природе творческой единицы — быть индивидуальностью, быть неповторимым, обособленным. С другой стороны, без диалога ничего не возможно построить. И мне достаточно обидно следить за новостями о политической ситуации в нашей стране. У нас нет диалога даже между людьми, которые хотят одних и тех же изменений. Что с этим делать, я вам рецепта не дам. Возможно, нам нужно чаще встречаться лично. Иногда мне кажется, что соцсети не очень позитивно на нас влияют. Легко быть смелым и радикальным, сидя дома на диване с чашечкой кофе. Быстренько надавать по щекам своим оппонентам, сказать: «Я здесь самый умный, а вы ничего не знаете». Мне кажется, нам не хватает в том числе и такта, мягкости.

М.Г. А как устроен этот хор монологов? Люди перебивают друг друга или ждут, когда человек завершит свой монолог?

Г.Ч. По-разному бывает. Многое зависит от умения спикера и от внутренней культуры выступающих.

М.Г. Беларусы не умеют спорить?

Г.Ч. Не умеют договариваться, не умеют находить что-то общее. Не важно, идёт ли речь о вещах со знаком плюс или со знаком минус. Спорить, мне кажется, мы все нормально умеем.

З.Л. І ніякай ісціны ў спрэчцы не выяўляецца?

Г.Ч. Калі казаць непасрэдна пра культурніцкі асяродак, то, напрыклад, мне амаль што ўвесь час маёй працы — а гэта ўжо больш за шаснаццаць гадоў – не хапае прафесійнай крытыкі. Для мяне крытыка з'яўляецца рухавіком развіцця. У нашым грамадстве крытыкаваць — гэта сказаць: «Ай, гаўно, нецікава». Калі ты пачынаеш пытаць, «а ў чым «гаўно?»,

«у чым не цікава?», «як, на вашу думку, павінна быць?» — табе нічога не адказваюць, таму што з іх пункту гледжання дыялог ужо завершаны і размаўляць зусім няма пра што.

М.Г. Это похоже на общение в Украине?

Г.Ч. Для меня Украина — это такой абсолютно нерегулируемый хаос. Но при этом, украинское общество, с моей точки зрения, обладает уникальной способностью к самоорганизации. Как только что-то не так, «хоп» — и к вечеру полтора миллиона украинцев стоит на Майдане. Майдан собрался за полтора часа. У нас в таких случаях обычно начинается: «Ой, нештачка надвор'е не тое, не-не, не пайду. Сёння халодна будзе, пасяджу-пагляджу стрым», или: «Нештачка сёння планы памяняліся, не пайду». Я не знаю, почему так происходит. Быть может, корень зла в том, что нам не хватает ответственности. У нас пока не возникает внутренняя ответственность за себя, за окружение, в котором мы живём. За то, как мы живём, что мы едим, что читаем, как относимся к своим соседям. У нас нет ответственности за всё, что происходит за порогом нашей квартиры. У нас у всех ответственность заканчивается за родной металлической дверью. Оказавшись по ту сторону двери, мы закрываемся и не здороваемся, не говорим даже с соседями.

М.Г. Какое общество, какая страна устроена правильно, с вашей точки зрения?

Г.Ч. До недавнего времени мне нравился подход ко всему — и к социальным вещам, и к политическим — в Швеции. Вообще модель стран Северной Европы очень была по душе. Там есть культура диалога, есть культура обсуждения, есть культура комьюнити. И это несмотря на то, что они достаточно холодные нордические ребята. Они с вами охотно проведут время, но в публичном пространстве. В свой дом они вас не скоро пригласят. Мне они близки в плане социальной поддержки и того, как это происходит. Но мне абсолютно не близко это их холодное дистанцирование.

З.Л. Слухаючы вас, я зараз разумею, што нават калі мы і знойдзем

гэтую гэтую аб'яднаўчую ідэю, гэта не факт, што яе прыме нават культурніцкая тусоўка, не тое, што ўся Беларусь.

Г.Ч. Мне вельмі падабаецца ў Лявона Вольскага прыпеў з яго песенькі пра трох чарапах: «ты не чакай — сюрпрызаў не будзе». Для мяне ён дакладна характарызуе, як беларуская супольнасць час ад часу ставіцца да вельмі важных пытанняў. Колькі гадоў гэтай песні? А сюрпрызаў не было і не будзе.

З.Л. А я вось спадзяваўся, што мы з вамі пасядзім, пагаворым, прыдумаем геніяльную нацыянальную ідэю і на сподачку яе панясем…

Г.Ч. Куды? (смяецца) Для мяне галоўнае пытанне: як гаварыць пра тое, хто мы, што мы, якая наша гісторыя і якая наша будучыня. Калі ў выніку нават тыя два адсоткі людзей, якія актыўныя, не пачнуць узрушана размаўляць са сваімі суседзямі, ваш сподачак з ідэяй будзе нікому не патрэбны. Я, напрыклад, ужо два гады жыву ў сваёй кватэры. Са мной ніколі не вітаюцца суседзі. Болей за тое, яны шарахаюцца ад мяне, як ад шалёнай, калі я кажу ім «добрай раніцы» ці «добры вечар».

З.Л. Грошай, відаць, пазычыць хоча.

Г.Ч. Да, за солью сейчас придёт. І я не кажу ўжо пра тое, што на паверсе, дзе мы жывём, мы адзіныя, хто прыбірае. Астатнім гэта не патрэбна. Вось ляжыць паперка на лесвічнай пляцоўцы, але я прыбіраць яе не буду, я пайду дамоў, прылягу.

М.Г. А может быть, они предполагают, что есть специально обученный человек, который должен прийти и эту бумажку поднять? Что есть график уборки подъезда, утверждённый государством?

Г.Ч. Да, но этого графика уже месяц нету. А бумажка лежит.

М.Г. А если это временная неполадка?

Г.Ч. Иногда для того, чтобы работало это государство, которое за меня

решает, когда убирать бумажку, нужно что-то для сделать. Мой мобильный телефон знают все работники местного ЖЭСа. Когда я звоню, они снимают трубку и говорят: «Ой, Анна Олеговна, добрый день». Я, на самом деле, никогда не думала, что найду своё призвание в борьбе с нашими жилищно-эксплуатационными службами. Но ведь бумажка лежит. И там не только бумажки, там много чего. Я понимаю, что у меня есть право звонить и требовать, чтобы они выполнили свою работу. И я хотела бы, чтобы и остальные это тоже понимали. Чтобы мифическая уборщица или мифический электрик пришли, надо совершить жест, надо позвонить, сказать: «Ребята, ну, вот надо прийти».

З.Л. То-бок, беларусам, перш за ўсе, трэба набрацца смеласці, каб праявіць хоць нейкую смеласць і патэлефанаваць у ЖЭС?

Г.Ч. Так, гэта ж не страшна. Націснуць пальцам тры лічбы на тэлефоне. Напрыклад, ты чуеш, што за сценкай у суседзяў адбываецца нешта вельмі вясёлае. Я пагаджуся з тым, што ў нашай сітуацыі, у нашай культуры, патрэбна нейкая смеласць, каб патэлефанаваць у адпаведныя службы. Я разумею, што потым патрэбна будзе паразмаўляць спачатку з міліцыяй, потым з суседзямі. Магчыма, пасля гэтага суседзі ўсё астатняе жыццё не будуць з вамі вітацца, але ж трэба рабіць тое, што трэба рабіць, хіба не так?

М.Г. А как вам такой вариант: беларусы продолжают жить в режиме оккупации. То есть, оккупантов давно нет, но беларусы в силу привычки живут так, как будто они есть.

Г.Ч. Это история про воспитание, и мне даже страшно сказать, сколько десятков лет это длится. Я много раз наблюдала странные ситуации, особенно осенью и весной, когда кто-нибудь один в трамвае, чаще всего мужчина и не очень трезвый, вдруг начинает ругаться куда-то в пустоту: «Да «за*бали, надоело, не могу я жить». И сразу со всех сторон пять-шесть женщин ему: «Тише-тише, тише, они же сейчас придут, заберут». Кто эти «они», о которых ему говорят женщины? Мне кажется, что мы сами себя изолировали и живём в придуманном мире. Мне кажется, что это такая защитная функция психики и эти правила поведения

усвоены нами от родителей, от дедушек. Мне всегда интересно слушать своих коллег из Европы, когда они в первый раз приезжают в Минск. Они ожидают увидеть европейскую Северную Корею, военное государство, где все ходят по струнке, в красивых льняных онучах одного цвета. На работу по звонку, с работы по звонку, всё молча. Они приезжают, оглядываются и говорят: «Блин, ребята, у вас же тут вообще рай какой-то». Для меня это не секрет и не новинка. Действительно, рай, всё прекрасно, но у людей, которые живут здесь, перестройки пока нет.

М.Г. А в каком возрасте вас начало отпускать?

Г.Ч. Меня?

М.Г. Да. Когда появилось ощущение, что можно позвонить в ЖЭС, можно сказать им, чтобы приходили?

Г.Ч. Возможно, совру, но я никогда себе особых рамок не выстраивала. Если мы говорим про ответственность в отношении грязного подъезда, то она у меня возникла в начале самостоятельной жизни, когда я уехала от родителей. До этого я всю свою жизнь прожила в доме, в котором я знала своих соседей. Когда я переехала в новый социум из тридцати шести квартир, я столкнулась с проблемами, которые никто не хотел решать. Я тогда подумала, что вот она, реальная жизнь. На решение одной такой проблемы у меня ушёл год. Я просто каждый месяц звонила и говорила: «Ребята, это не смешно».

З.Л. На сённяшні дзень самая галоўная бяда беларусаў — страх? Што б там не здарылася, ні ў якім разе не звані ў міліцыю і ў ЖЭС, не абурайся на сваё жыццё ў трамваі.

Г.Ч. Вось, быў — а можа, і ёсць — такі праект са слоганам «Актыўным быць файна». Гэта той лозунг, які робіць усё вакол больш зручным, цікавым. Ну, давайце быць актыўнымі. Актыўнымі паўсюль: аналізаваць тое, што адбываецца, браць на сябе адказнасць, цікавіцца жыццём. Вось давайце кожны з нас знойдзе патрэбу, карысную і для яго самога і для ўсёй нашай беларускай супольнасці. У кагосьці гэта будзе патрэба

ў арганізацыі культурных імпрэз. У кагосьці будзе патрэба ў дапамозе суседзям. У кагосьці будзе патрэба ў збіранні гісторыі, пачынаючы з асабістай і шырэй. Калі ў нас у кожнага будзе сфармулявана такая ўзаемна карысная патрэба, нешта зменіцца, мне падаецца.



# АНДРЭЙ ВІТУШКА

## «НАЦЫЯНАЛЬНАЯ ІДЭЯ БЕЛАРУСАЎ ЗНАХОДЗІЦЦА Ў ІХ КВАТЭРАХ І НА ІХ ЛЕЦІШЧАХ»

euroradio·fm

Гутарылі Зміцер Лукашук, Максім Гаруноў
Фота Еўрарадыё

З.Л. Вітаю ўсіх слухачоў «Еўрарадыё». Сёння намацоўваць беларускую нацыянальную ідэю будзе дзіцячы доктар-рэаніматолаг Андрэй Вітушка. Добры дзень!

А.В. Добры дзень.

З.Л. Вы не здзівіліся, калі я звярнуўся да вас з просьбай паўдзельнічаць у гэтай праграме?

А.В. Я вельмі здзівіўся. Асабліва пасля таго, калі паглядзеў, якія людзі тут ужо пабывалі.

З.Л. Тым не менш, у вас для сябе асабіста ёсць фармулёўка, што ж такое нацыянальная ідэя?

А.В. Нацыянальная ідэя беларусаў знаходзіцца ў іх дамах і іх на лецішчах. Паглядзіце, як людзі дбаюць пра свае ўчасткі, пра хутары, якія яны набылі. Там усё пакошанае, чысценька, адрамантавана, пафарбавана. Таксама зазірніце ў кватэры нашых людзей: заходзіш у хату, а там усё прыгожа, дагледжана. У большасці маіх знаёмых прынята раз на пяць гадоў рабіць рамонт. Ці вось пальмы з пластыкавых бутэлек у вёсках, з якіх у Мінску смяюцца. Гэта ж таксама імкненне да прыгажосці і парадку. Я думаю, што наша нацыянальная ідэя – гэта ідэя парадку і гармоніі, якую людзі стараюцца навесці ў сябе. У мяне ёсць глыбокае адчуванне, што Беларусь — гэта мой вялікі дом, і мне хочацца, каб ва ўсіх яго куточках было прыгожа, камфортна.

М.Г. Национальная идея беларусов — это порядок, чистота, уют и комфорт?

А.В. Я б сказаў, гармонія на сваёй зямлі.

М.Г. Комфорт и порядок, как у соседей в странах Балтии?

А.В. Я часта бываю ў Балтыі, і мае знаёмыя таксама часта бываюць. У Літве і Латвіі ў мінулым годзе было вельмі цёплае мора, можна было купацца, многія паехалі. У балтыйскіх краінах месцамі чыста, як у Беларусі, а месцамі запушчана, як у нас рэдка дзе ўбачыш. Але іх парадак, як і іх беспарадак, адрозніваецца ад нашага тым, што ён не спушчаны зверху. Людзі ствараюць яго самі, чаго ў нас у Беларусі ў публічнай сферы няма. Толькі ў прыватнай прасторы, у сябе дома або ў сябе на лецішчы.

М.Г. А есть страна, на которую вам бы хотелось, чтобы Беларусь была похожа?

А.В. У Беларусі ёсць меркаванне, што беларусы — гэта славянскія немцы.

М.Г. То есть, идеальная страна для беларуса — это Германия?

А.В. Я мала бываў у Нямеччыне, мне падабаецца Швейцарыя і Аўстрыя, дзе Зальцбург.

М.Г. Минск когда-нибудь станет как Зальцбург?

А.В. Хутчэй стане як Вена. У Вене вельмі шмат розных людзей, большая разнастайнасць. Шмат народу з афрыканскіх краін, з азіяцкіх, і ўсякіх-усякіх розных. У Зальцбургу людзі на вуліцы менш разнастайныя. Я думаю, што Мінск хутчэй будзе як Вена.

М.Г. А если помечтать об идеальных соседях. Предположим, что Беларусь с юга будет граничить с Австрией. С кем она будет граничить с севера? Чехия или Швеция?

А.В. Швецыя будзе на поўначы, з заходу будзе межаваць са Швейцарыяй, з усходу з Японіяй ці з Карэяй.

М.Г. Я так понял, что Россию и Украину вы не считаете лучшими соседями?

А.В. Не, гэта не значыць, што нам не камфортна сярод нашых суседзяў. Ёсць выдатная беларуская прымаўка: чалавек плануе, Бог — вынікуе. Суседзяў не выбіраюць, трэба жыць з тымі, якія ёсць. У гэтым таксама мастацтва жыцця і мастацтва стварэння гармоніі, каб знаходзіць гармонію з суседзямі.

З.Л. У Вікіпедыі ёсць такое азначэнне: «Нацыянальная ідэя вызначае сэнс існавання таго ці іншага народа». Калі сыходзіць з вашых слоў, чысціня, парадак, дачы з прыгожымі пальмамі з пластыкавых бутэлек — гэта сэнс існавання беларускага народа?

А.В. У Грэбеншчыкова ёсць радок: «Я пытался растить свой сад и не портить прекрасный вид». Гэта сэнс існавання любога чалавека: расціць свой сад і не псаваць цудоўны від, Божае стварэнне, якое ёсць навокал,

не шкодзіць навакольным людзям, навакольнаму свету.

З.Л. А вось гэтая нацыянальная ідэя, пра якую вы кажаце, яна можа беларусаў сплаціць у нацыю?

А.В. Я думаю, што зараз у нас цікавы этап: мы як нацыя, як людзі становімся дарослымі. Было прынята лічыць, што беларусы пасля Савецкага Саюза былі як дзеці. Яны хацелі «бацьку», моцную руку, каб ён ім указваў, што рабіць. Цяпер дзеці ўжо выраслі. Гэта бачна па тым, як людзі сталі здольныя да самаарганізацыі, да нейкіх супольных дзеянняў. Яно пакуль не так масава, як нам хацелася б, але гэтая тэндэнцыя вельмі ўстойлівая. Беларусы гатовыя прымаць самастойныя рашэнні і браць адказнасць за тое, што ёсць навокал.

М.Г. Вы сейчас пересказали знаменитое письмо Иммануила Канта «Что такое Просвещение?»

А.В. Я яго чытаў.

М.Г. А что с беларуским языком?

А.В. Беларуская мова патрэбная, каб усведамляць сябе гаспадаром у сваёй краіне. Уся народная творчасць, культура, традыцыя звязвае нас з былымі пакаленнямі, стварае пераемнасць. Я некалькі разоў казаў журналістам, што калі ты пачынаеш гаварыць па-беларуску, гэта ўсё роўна што табе далі бясплатна хутар у Валожынскім раёне, дзе вялізны дом і вялізная пуня. Мова — спосаб атрымаць доступ да культурнага пласта, які цябе звязвае з гэтай зямлёй, дазваляе лепш зразумець, што тут да чаго, чаму тут людзі рабілі так, а не інакш. І яшчэ, перайсці на беларускую мову — гэта добры спосаб пазбавіцца ад кагнітыўнага дысанансу. Ты ж увесь час задаеш сабе пытанне, чаму ты беларус і не размаўляеш па-беларуску. Пачні гаварыць на роднай мове, і дысананс знікне, табе стане камфортней.

М.Г. Я правильно понял: все беларусы хотят порядка, чистоты и дисциплины, но тем беларусам, которые хотят порядка и чистоты и знают беларуский язык, будет проще достигнуть своей цели?

А.В. Гэта ім дапаможа хутчэй упарадкаваць свой свет. Яны будуць разумець, што гэтыя чысціня і гармонія на беларускай, а не на нейкай яшчэ зямлі.

З.Л. Мову мы ставім адным са складнікаў агучанай вамі нацыянальнай ідэі, ці чысціня і парадак важнейшыя?

А.В. Ёсць у Мінску такі публіцыст Эдуард Пальчыс. Ён адзін з найвялікшых патрыётаў Беларусі, які размаўляе па-руску. Я не буду казаць, што Эдуард Пальчыс не патрыёт. Мова безумоўна важная, але яна не ўсё. Ёсць такое меркаванне, што ўсе беларускія людзі хочуць размаўляць па-беларуску. Гэта далёка не так. Ёсць рэчы, роўныя мове па сваёй каштоўнасці.

М.Г. А в Украине государство требует от человека знать украинский язык. Как вы к этому относитесь?

А.В. Ёсць выдатнае ўкраінскае кіно пра ўкраінскую нацыянальную ідэю, называецца «Кібаргі». Яно пра абарону Данецкага аэрапорта. Там ёсць такія важныя словы пра тое, што ўкраінцы не заўсёды размаўлялі па-ўкраінску, але іх прыпёрлі да сценкі і яны ўзялі яе як сцяг. Не хацелася б даводзіць до таго, што беларускую мову мы будзем уздымаць, як сцяг. Хочацца яе развіваць як сродак далучэння да каранёў, як пароль, які цябе звязвае з гэтай зямлёй, калі ты хочаш звязвацца. Ёсць жа людзі, якія не хочуць звязваюцца. Яны селі і паехалі працаваць у іншыя краіны, і ім у прынцыпе гэта не трэба.

З.Л. Сімволіка мае значэнне? Сцяг, герб, гімн?

А.В. Безумоўна, мае значэнне. Нядаўна я ішоў па вуліцы, і маладыя людзі раздавалі афіцыйныя беларускія сцягі. Не ведаю, чаму яны гэта рабілі. Я стаяў хвілін 10. Ім удалося аддаць штук усяго пяць. Людзі бралі іх неахвотна. Стась Карпаў нядаўна вельмі добра напісаў, што цяперашняя сімволіка эстэтычна не дасканалая. Лічыцца, што спалучэнне чырвонага і зялёнага – трошкі дзіўнаватае. Бела-чырвона-белы сцяг і «Пагоня» эстэтычна прывабнейшыя, за імі большы гістарычны бэкграўнд, больш прывабная гісторыя, за ёй хочацца ісці.

З.Л. Вы прынцыпова ўсюды гаворыце па-беларуску. І калі вы прыязджаеце да хворага дзіцяці ў сям'ю, таксама размаўляеце па-беларуску?

А.В. Так.

З.Л. Ці была такая рэакцыя: «што за доктар да мяне прыехаў, што не можа гаварыць на нармальнай мове»?

А.В. Я працую ў шпіталі і камунікую з маленькімі дзецьмі. Яны не ўспрымаюць беларускую мову негатыўна. Што датычыцца бацькоў, то за 17 гадоў маёй працы такое было тры разы. Адзін раз людзі ўпарта не разумелі маёй беларускай мовы і не хацелі гэтага зразумець. Нічога страшнага не адбылося, я перайшоў на рускую. Ёсць абмежаванне, якое накладае закон па ахове здароўя, і я мушу ў даступнай форме інфармаваць пра лячэнне. Урэшце, мне трэба з імі камунікаваць, а не даказваць, што беларуская мова самая лепшая і мы зараз будзем разам гаварыць па-беларуску. У цэлым, я ніякай праблемы не бачу.

З.Л. Абарона краіны можа быць яе нацыянальнай ідэяй?

А.В. Некаторыя людзі лічаць, што зараз ёсць сур'ёзная пагроза ўсяму таму, што мы любім, усяму нашаму беларускаму дому. Яны прыводзяць дастаткова пераканаўчыя аргументы. Канешне, наіўна думаць, што навыкі бараніць сваё — гэта лішняе. Апошнія пяць гадоў я актыўна цікаўлюся ваеннай медыцынай. Я разумею, што ў выпадку чаго, з мяне будзе больш толку не на пярэднім краі з аўтаматам, а ў шпіталі пярэдняга краю. Гэта мая прафесія. Але мне здаецца, што не можа быць толькі абарона і нічога акрамя. Абарона — гэта толькі частка.

З.Л. Такім чынам, нацыянальная ідэя ад Андрэя Вітушкі — гэта: Беларусь — краіна прыдатная да жыцця, з парадкам, з чысцінёй?

А.В. І з магчымасцю самому ўплываць на тое, што адбываецца ў краіне. У нас мала кажуць пра чалавека, пра персону, пра персанальныя правы і свабоды. Я страшна не люблю лозунг «Беларусь — дзяржава для народа». Калі «дзяржава для народа», то яна дзяржава не для чалавека. Калі мы пачынаем разважаць катэгорыямі «насельніцтва» і «народа», у нас непазбежна губляецца чалавек. Гэта адбываецца ў ахове здароўя, у адукацыі, у нацыянальнай абароне, паўсюль. Калі для ўсіх, то ні для каго. Што да чысціні ў Беларусі, то ў нас чыста не таму, што людзі свядома не смецяць. Людзі смецяць, але ёсць велізарная армія дворнікаў, якія пастаянна чысцяць вуліцы. Я лічу, што трэба звяртацца да свядомасці чалавека, выхоўваць у школе, у садочку, распавядаць пра тое, што не трэба смеціць, таму што калі смеціць, то ў нас ніколі не будзе парадачку, які мы ўсе так любім.




# СЯРГЕЙ ДУБАВЕЦ

## «НАША ЭНЕРГІЯ, НАШ “Д’ЯБАЛ” СЯДЗІЦЬ У “АМЕРЫКАНЦЫ” І СКУГОЛІЦЬ У АКЕНЦА»

euroradio·fm

Гутарылі Зміцер Лукашук, Максім Гаруноў
Фота Еўрарадыё

З.Л. Вітаю ўсіх слухачоў «Еўрарадыё». Наш сённяшні адмысловы госць — публіцыст Сяргей Дубавец. Добры дзень, спадар Сяргей!

С.Д. Добры дзень!

З.Л. Ці трэба нам шукаць нацыянальную ідэю, можа, яна ў нас даўным-даўно ёсць?

С.Д. У любой нацыі ёсць нацыянальная ідэя, і ў нас ёсць. Нацыянальная ідэя — гэта перш за ўсё энергія, каласальная колькасць энергій, якая падымае чалавечую масу як на подзвігі, так і на злачынствы. Гэтая энергія ўзнікае сама, і важна не даць ёй перайсці на цёмны бок. У Празе на Карлавым мосце ёсць скульптура святога Пракопа, які запрог д'ябла ў плуг і араў поле. Д'ябал у плузе, на якім аруць поле, — гэта і ёсць нацыянальная ідэя. Д'ябал жыве ў кожным з нас, гэта наша ўнутраная электрастанцыя, дзякуючы якой мы ходзім, гаворым, спяваем, танчым, працуем. Без гэтай энергіі мы проста ператвараемся ў труп.

М.Г. А можно поподробней, что будет, если не справиться с дьяволом?

С.Д. Будуць руіны, як у Германіі пасля Другой сусветнай вайны. У немцаў якраз не атрымалася запрэгчы, і д'ябал разбурыў іх краіну.

М.Г.  Как запрячь его в плуг?

С.Д. У нашым выпадку ён не толькі не запрэжаны ў плуг, ён сядзіць недзе ў турме КДБ, у Амерыканцы, і тужліва скуголіць у закратаванае акенца па тым, што ён, такі патэнцыялішча, нікім не выкарыстоўваецца, прападае задарма.

З.Л. Ці добрую справу робяць беларускія спецслужбы, што трымаюць нашага д'ябла ў турме?

С.Д. Яны трымаюць каласальны энергетычны рэсурс, дзякуючы якому краіна магла б проста відазмяніцца ўадначассе. І я думаю, што да гэтага спрычыніліся не толькі беларускія спецслужбы. Я думаю, і суседнія

таксама. Дакладней сказаць — беларускія пад кіраўніцтвам суседскіх.

М.Г. Предположим, что дьявол вырвался на свободу. Он стоит перед нами. У вас есть рецепт, как его обуздать?

С.Д. Трэба правесці поўную дэсаветызацыю і поўную нацыяналізацыю. Я маю на ўвазе беларусізацыю, вяртанне да роднай мовы. Д'ябал — гэта проста энергія. А арганізуе гэтую энергію, не дае Чарнобылю ўзарвацца вось гэтая культурная абалонка — мова. Мова — гэта ёсць каласальная вупраж для д'ябла. Пры дапамозе мовы мы ўтаймуем гэтую энергію і накіруем яе ў выгадным, карысным для нас напрамку.

З.Л. То-бок, беларусы спачатку павінны авалодаць беларускай мовай, а тады ўжо спрабаваць гэтага д'ябла запрэгчы?

С.Д. Я думаю, што інтэлігенцыя, эліта грамадства, гатова для таго, каб прыступіць да такой дзейнасці.

М.Г. А языка точно достаточно? Может быть, кроме языка нужно ещё что-то?

С.Д. Гуманізацыя, напрыклад. Беларусы забылі пра гуманізм, пра каштоўнасць чалавечага жыцця і каштоўнасць чалавека як такога. Увесь заходні свет прыйшоў да гэтага ў эпоху Адраджэння. Дарэчы, ў эпоху Адраджэння Беларусь таксама прайшла працэс гуманізацыі, разам з усёй Еўропай. Тады як у Расіі была тыранія, тут квітнела барока, тут Скарына выдаваў кнігі, тут ствараліся ўніверсітэты. Гэта тое, што ёсць прыкметамі гуманізму. Але пасля савецкага часу, які скасаваў гэты гуманізм к чорту, у Беларусі, на жаль, стала нормай, што любы чалавек можа быць вось зараз проста схоплены, пасаджаны, асуджаны, і так і не зразумее, за што. Я назіраў у нас судовыя працэсы, дзе не прыводзіцца абсалютна ніводнага аб'ектыўнага доказу віны, але ёсць пазіцыя суддзі, якая яму спушчана або зверху, або ад спецслужбаў, і чалавек ідзе на 7 гадоў на зону. І ніякія апеляцыі не дапамагаюць. Трэба прызнаць, што суду ў Беларусі фактычна няма. Ёсць распрацоўкі спецслужбаў, міліцыі, якія суд проста праштампоўвае і раздае тэрміны.

У Беларусі каласальная развіты апарат сілавікоў усіх масцей. Мы іх і не ведаем, яны ходзяць у цывільным па вуліцах, іх і не пазнаеш. І гэты апарат фактычна трымае грамадства пад прэсінгам. Чалавеку дазволена з'ездзіць за мяжу, чалавеку дазволена рабіць некаторы бізнес, зарабляць грошы, купіць сабе кватэру, дом за горадам. Але трэба пры гэтым разумець, што гэты чалавек абсалютна бяспраўны. У Беларусі законы не працуюць. І гуманізацыя — гэта па сутнасці вяртанне закону ў працоўны стан. Бо як там прэзідэнт сказаў: «А мне справядлівасць важнейшая за любы закон». Ну дык прабачце — у цябе свая справядлівасць, а у шараговага чалавека — абсалютна свая.

М.Г. А ещё? Кроме языка и прав человека?

С.Д. Асвета. Нам неабходна наша родная беларуская асвета. Ёсць, напрыклад, такая рэч як школа. Нашы ўлады прыдумалі двухмоўе, упісалі яго ў Канстытуцыю. Акей, калі вы так вырашылі, то дайце дзецям пароўну рускай і беларускай. Дайце 50 на 50. Ну гэта ж будзе справядліва. Не, дзеці вучацца фактычна толькі на рускай мове.

М.Г. Язык, права человека — что-нибудь ещё?

С.Д. Трэба нарэшце разабрацца з гісторыяй нашай краіны. Страшна сказаць, як доўга мы нагадваем пра гэта ўладам. Калі мы ўжо трыццаць гадоў незалежная краіна, асобная ад Расіі, то раскажыце людзям, што беларуская гісторыя абсалютна радыкальна адрозная ад расійскай. Нацыя – гэта супольнасць лёсу, а сёння беларусы думаюць, што ў нас з рускімі супольная гісторыя. У дзяржаўных медыя рэгулярна пішуць «наш цар Пётр Першы», «наша царыца Кацярына», «наш цар Іван Жахлівы». Гэта няпраўда! Ніякія яны не нашы. У нас нават гісторыя апошняй вайны абсалютна адрозная. Мы былі цалкам акупаваныя, у нас быў татальны партызанскі рух, а ў Расіі? Зусім іншы лёс. Я ўжо не кажу пра часы рэвалюцыі і стварэння беларускай незалежнасці і ўсіх астатніх незалежнасцяў вакол Беларусі. Нічога такога ў Расіі не было і блізка. Ну а там калі яшчэ глыбей пачынаць — Вялікае Княства Літоўскае – зусім іншая краіна, зусім іншае напаўненне ўсім, што толькі можна прыдумаць.

М.Г. А есть что-нибудь четвёртое? Или этих трёх хватит?

С.Д. Павінна змяніцца візуальнае аблічча краіны. Людзі павінны сваю краму назваць «Абутак», а не «Обувь» ці там «Шузы». Зараз любяць рускімі літарамі пісаць усякія «фудкорт». Ідзеш — гэта проста бескультурнасць, адсутнасць культуры.

М.Г. То есть, последний этап — меняем вывески на беларуские?

С.Д. Людзі павінны самі гэтага захацець.

М.Г. А когда они захотят?

С.Д. А яны захочуць. Калі даць ім свабоду, гэта ўсё пройдзе вельмі хутка.

З.Л. А без свабоды?

С.Д. Без свабоды нічога не атрымаецца. Мы жывем у абсалютна аўтарытарнай краіне, дзе ўсё падпарадкавана кіўку пальца аднаго чалавека. Мы ў прынцыпе не можам нічога вырашаць. Але ёсць варыянт, прапанаваны Пазняком — «ціхенька па двое збірайце кулямёт». Ёсць і такі варыянт. Я лічу, што кожны павінен рабіць сваю справу. У нас абмежаваная тэрыторыя для гэтага раблення, але «Еўрарадыё» робіць сваю справу, іншыя сродкі масавай інфармацыі — сваю, пісьменнікі пішуць кнігі, гісторыкі выдалі зараз часопіс «Наша гісторыя».

М.Г. Правильно ли я понимаю, что беларусам надо ждать, когда дьявол сам вырвется из рук спецслужб?

С.Д. Не, чакаць я не згодны. Трэба працаваць, але асцярожна, як мы і робім. Наша сітуацыя цягнецца 25 гадоў. Яна ўмоўна стабільная, але ўсякая стабільнасць у грамадскіх з'явах вечнай не бывае. Трэба патрохі дабівацца, дамагацца, знаходзіць сродкі, час. Гэта на чаканне ніяк не падобна.



З.Л. Мяне ўсё ж такі бянтэжыць магчымасць не даць рады з д'яблам,

пра якую вы згадалі ў самым пачатку. Калі не атрымаецца, будуць руіны, а мы, беларусы, вось толькі нядаўна аднавілі свае гарады пасля Другой сусветнай вайны.

С.Д. Я б з іншага боку зайшоў. Паглядзіце, як мы жывем. Што ў нас за інфармацыйная стужка сёння. У нас у газетах калонкі пра тое, як мянты рыбакоў ганяюць. Гэта досыць убога. Мы жывем як бы ў паўсілы. А ўсё таму, што ў нас няма энергіі. Вось у чым рэч. Я кажу пра выкарыстанне энергіі ў карысных мэтах. Нашы людзі захапляюцца тым, як жывуць у Нарвегіі ці нават у Эстоніі. А чаму мы не можам так жыць? Чаму ў нас не растуць класныя новыя вытворчасці тэхналагічныя, ідэі? Чаму ў нас забітая сельская гаспадарка? Я быў у Адэсе нядаўна. Я паглядзеў, як за два гады адрэстаўраваны Стары горад. Ён супер адрэстаўраваны. Не муляжы нейкія, як у нас любяць, а абсалютна паўнавартасныя помнікі архітэктуры. Прыгажэзны горад. Я думаў: «Я ў Адэсе ці ў Празе?» Калі ўкраінцы, нягледзячы на вайну і карупцыю, могуць дамовіцца паміж сабой, могуць сабраць сродкі, знайсці спецыялістаў, зрабіць якасную рэстаўрацыю, то чаму мы не можам? Таму што ў нас няма энергіі, у нас усё з рук валіцца, такія мы слабыя.

М.Г. В Миске почти стерильные улицы и на фасадах всегда свежая краска, хотя дьявол, как вы говорите, сидит в тюрьме.

С.Д. Сядзьце на любы аўтобус і выйдзіце на апошнім прыпынку ў прыгарадзе. Будзе як на Кубе ці ў В'етнаме. Усё завалена смеццем, пластыкам, усякай гадасцю. Чыстыя вуліцы ў Беларусі — гэта не частка грамадзянскай д'ябальскай самадысцыпліны, як у Эстоніі той жа. Гэта ўлады выганяюць армію няшчасных жабракоў-дворнікаў у аранжавых камізэльках, і яны мятуць, мятуць, мятуць бясконца.

З.Л. Як нам данесці вашу ідэю пра д'ябла да кожнага беларуса? Да чалавека, які працуе ў полі на трактары?

С.Д. Праз зварот да яго пачуцця ўласнай годнасці. Калі чалавек не ўсведамляе сябе беларусам, ён не мае чалавечай годнасці, і таму ён дазваляе беззаконнасць. Нацыянальнае пачуццё, нацыянальная ідэя

ўнутры яго надае яму годнасць. З жывым пачуццём уласнай годнасці ён не будзе цярпець, напрыклад, смецце вакол свайго дома. Ён і сам смеціць не будзе, і іншых пераканае. І прэцэдэнтаў шмат. Я быў у гасцях у такіх свядомых адказных грамадзян у Лохаўшчыне, напрыклад. Ну гэта ж прыгажосць. Але гэта людзі нацыянальна свядомыя, у якіх ёсць нацыянальная годнасць і чалавечая, якія гавораць па-беларуску.

М.Г. А что, с вашей точки зрения, важнее: национальная сознательность или чувство собственного достоинства? Покойный философ Мераб Мамардашвили считал, что чувство собственного достоинства является универсальным и свойственно каждому человеку. И не он один так считал, многие философы утверждали нечто подобное.

С.Д. Чалавечая годнасць выхоўваецца толькі ў нацыянальным полі, з усведамлення сябе беларусам. Быў такі грузіна-эстонскі фільм, «Мандарыны», пра апошнюю вайну ў Грузіі. У фільме ёсць прыгожая сцэна, у якой размаўляюць малады чачэнец-наёмнік і стары эстонец. Там калонія эстонцаў жыла спрадвеку і мандарынамі займаліся. Стары эстонец таму кажа: «У маім доме забойства не будзе. Гэта слова эстонца». Чачэнец аж прысеў: «Якога эстонца?» Стары на яго паглядзеў і сказаў: «Эстонец, чачэнец – якая розніца?» То-бок, калі ты ўсведамляеш сваё паходжанне, ведаеш гісторыю, ты ўжо маеш годнасць. Так і нам трэба стаць беларусамі. І тады ў нас з’явіцца чалавечая годнасць, мы перастанем дазваляць сваю бяспраўнасць. І жыццё ў краіне пачне мяняцца да лепшага.

З.Л. Але гэта такая ідылія. А большасць беларусаў, памятаеце, як у тым анекдоце пра «можа так і трэба»?

С.Д. Няхай. Мяне часам наведвае думка, аж сэрца сціскаецца: «Ёсць людзі, якія ў Савецкім Саюзе пражылі ўсё жыццё. Што ад іх засталося? Дзе, які след? Пражылі ў гэтым рабстве і зніклі. І ўсё». Так і гэтыя — яны пражывуць і памруць, і ўнукі забудуць імёны дзеда з бабкай, адкуль яны і чым жылі. Я сустракаў дзяцей, якія не ведалі, як дзеда звалі. Дзед памёр. «Як звалі дзеда?» — «Не ведаю».

З.Л. Дарэчы, я вось неяк рамантаваў машыну на гаражах, і звычайны манцёр расказваў мне пра тое, як ен аблазіў усе магчымыя архівы ў пошуках звестак пра сваіх продкаў да нейкага 13 калена. З гэтага, можа, усё і пачынаецца?

С.Д. Калі яно пачынаецца, то і другое, і трэцяе пачынаецца таксама. Спачатку даведаешся, з якой вёскі твой дзед і твая бабка. Потым даведаешся гісторыю сваёй вёскі. Потым гісторыю раёна, вобласці, усёй краіны. Потым успамінаеш родную мову, вучыш яе, купляеш у кнігарні раман Уладзіміра Караткевіча. Потым усвядоміш сябе грамадзянінам, чытаеш Канстытуцыю, пачынаеш цікавіцца тым, што адбываецца ў краіне, і гэтак далей.

З.Л. І ў выніку, лозунг для Беларусі?

С.Д. Свабода, роўнасць, братэрства.

З.Л. А д’ябал дзе?

С.Д. Ну гэта ж пра беларусаў, а не пра д’ябла.

З.Л. Значыць, усё ж такі — «свабода, роўнасць, братэрства».

С.Д. Гаворка ідзе пра тое, што мы жывем у паўсілы, а трэба жыць напоўніцу. Жыццё ў нас адно, і яго трэба максімальна запаўняць усякімі добрымі рэчамі, але ў нас для гэтага няма сіл, энергіі. Мы ўсе як абяскроўленыя, анемічныя ходзім. Нам патрэбны ток, высокае напружанне, каб ажыць і пачаць дзейнічаць.




# МІКОЛА ПАЧКАЕЎ

## «АКТУАЛЬНАЯ НАЦЫЯНАЛЬНАЯ ІДЭЯ СЁННЯ – АДСТАЯЦЬ НЕЗАЛЕЖНАСЦЬ КРАІНЫ»

euroradio·fm

Гутарылі Зміцер Лукашук, Максім Гаруноў
Фота Еўрарадыё

З.Л. Вітаю ўсіх слухачоў, наш сённяшні госць — старшыня Згуртавання беларусаў Вялікабрытаніі, намеснік старшыні Рады БНР на выгнанні па міжнародных адносінах, спадар Мікола Пачкаеў. Добры дзень, спадар Мікола.

М.П. Добры дзень. Дзякуй, рады быць на перадачы.

З.Л. Спадар Мікола, вось вы ужо доўгі час жывяце ў Лондане. Пасля столькіх гадоў за мяжой, Беларусь для вас — гэта што? Нешта такое далёкае, у гераічна-міфалагічным арэоле?

М.П. На гэтае пытанне, я звычайна адказваю жартам, што гэта мая гістарычная радзіма. Для чалавека, які тут нарадзіўся і атрымаў адукацыю, Беларусь назаўсёды застаецца, скажам так, найбольш знаёмаю ў свеце прасторай. Ёсць рэчы, якія застаюцца з табой, нягледзячы на час. Дзе б і колькі б ты ні жыў, ты ўспрымаеш мясцовую прыроду, краявід, набор раслін як найбольш знаёмае і найбольш утульнае для цябе асяроддзе. Вось я ўжо грамадзянін Брытаніі, інтэграваны ў брытанскую прафесійную супольнасць, але Беларусь так і застаецца для мяне краінай, дзе мне ўтульна. Гэта такая агульная эміграцкая гісторыя. Беларуская дыяспара, як і любая іншая дыяспара, заўсёды захоўвала на чужыне думку аб радзіме. І ў сваім грамадскім жыцці, і ў культурным жыцці. Таксама і наша арганізацыя, і нашы беларускія партнёры ў Брытаніі.

З.Л. Што вам важней: выхад Брытаніі з ЕС ці чым скончацца парламенцкія выбары ў Беларусі?

М.П. Я застаюся грамадзянінам Беларусі. І што значыць — важней? Ёсць практычныя пытанні. Калі Брытанія сапраўды выйдзе з ЕС, як гэта паўплывае на мае падарожжы? Але тое, што адбываецца ў Беларусі, выклікае ў беларуса не менш моцную эмацыйную рэакцыю, чым тое, што адбываецца вакол. Назіраючы прадстаўнікоў старой беларускай эміграцыі, магу вас запэўніць, што гэта прыхільнасць не праходзіць ні праз дваццаць гадоў, ні праз шэсцьдзесят. Эмігрант усё жыццё жыве адначасова ў дзвюх рэальнасцях. Ён цікавіцца і сваім штодзённым жыццём, і тым, што адбываецца на радзіме.

З.Л. Што павінна здарыцца, каб вы сказалі: «Наце ваш брытанскі пашпарт, я вяртаюся ў Беларусь»?

М.П. Я не думаю, што брытанскае заканадаўства ад мяне такое запатрабавала б, нават калі б я вярнуўся ў Беларусь

З.Л. Ну, я вобразна сказаў.

М.П. Бачыце, тут сітуацыі ў людзей складаюцца па-рознаму. Для чалавека, які не звязаны з палітыкай, напэўна, ёсць пляцоўка для працы і самарэалізацыі ў Беларусі. Калі чалавек інжынер ці працуе ў інфармацыйных тэхналогіях, яму няма асаблівай прычыны з'язджаць з Беларусі. Я атрымаў адукацыю ў міжнародных адносінах. Гэта галіна, дзе заставацца па-за палітыкай вельмі складана. Я заўсёды браў удзел у беларускім нацыянальным руху. Яшчэ на пачатку дзевяностых гадоў я быў у камітэце па стварэнні «Маладога фронту». Для мяне развіццё беларускай палітычнай сітуацыі было найважнейшай часткай майго жыцця. У маёй прафесійнай галіне, асабліва ў дзевяностых і двухтысячных гадах, быў моцны ціск, і сёння для мяне прафесійнага занятку ў Беларусі няма. Калі я вярнуся, мне трэба будзе мяняць прафесію, шукаць новыя магчымасці. Ну, вось так склалася жыццё.

З.Л. Нацыянальная ідэя ў Беларусі дзевяностых гадоў і нацыянальная ідэя ў дыяспары розная ці адна на ўсіх?

М.П. Калі я прыехаў на Захад, я знайшоў, што існуюць адрозненні паміж беларускасцю, з якой я быў знаёмы па Беларускім народным фронце, і ў дыяспары. Але яны настолькі мінімальныя, што іх можна сфармуляваць у пары пунктах. На мой погляд, гэта таму, што адбыўся рэімпарт. Пасля выезду нацыянальнай інтэлігенцыі ў 1944 годзе і пасля рэпрэсій, адзінай крыніцай несавецкай нацыянальнай традыцыяй для беларускай інтэлігенцыі шасцідзясятых, сямідзясятых, васьмідзясятых гадоў былі перадачы беларускага «Радыё Свабода».

М.Г. Кто в Лондоне ассимилируется быстрее беларусов?



М.П. Прыклады дыяспар вельмі розныя. Ёсць супольнасць французскіх

гугенотаў, якая бесперапынна існуе ад канца сямнаццатага стагоддзя да нашага часу. Яна — найстарэйшая дыяспара, якая мне вядомая, якая жывая, дзе людзі сапраўды ведаюць, хто яны. Гугеноты ведаюць французскую мову, стараюцца ствараць сем'і ў рамках сваёй супольнасці або з нашчадкамі іншых гугенотаў з самой Францыі. Што тычыцца бліжэй да рэгіёна Беларусі, да ўсходнееўрапейскіх краін, то лёс вельмі розны. У другім пакаленні, у трэцім пакаленні звычайна людзі губляюць цікавасць да краіны паходжання сваіх бацькоў. І губляюць мацней, чым тыя, хто прыбылі з Францыі, са Швецыі.

М.Г. Как вы это объясняете?

М.П. Шмат, вельмі шмат фактараў. Магчымасць падарожжа і магчымасць захавання сувязі для французаў, для шведаў заўсёды была значна прасцейшай, чым для ўсходнееўрапейцаў, якія выехалі на захад у 44-м годзе. Была жалезная заслона, усе сувязі з радзімай былі абсалютна адсечаныя. Не было інфармацыі аб тым, што наогул адбываецца па той бок. Я нават чуў такі трохі анекдатычны выпадак, калі ў шасцідзясятых гадах адна дзяўчына заявіла сваім бацькам, што ніякай Беларусі не існуе: «вы яе самі прыдумалі, і чаму вы мяне мучыце: усе дзеці едуць на адпачынак, а вы мяне ў нейкую дыяспару водзіце, не зразумей куды». Безумоўна, у сем'ях, дзе бацькі былі лепш адукаваныя, другое пакаленне захоўвала традыцыі, мову, цікавасць да Беларусі. У сем'ях, дзе людзі былі або фабрычныя работнікі, або сялянскага паходжання, ужо другое пакаленне цалкам асімілявалася. Яны ведаюць, што бацькі паходзяць аднекуль адтуль. Але на гэтым усё. Тое самае прасочваецца не толькі ў беларускай дыяспары. І ва ўкраінскай, і ў польскай, тут ніякага выключэння няма.

М.Г. У беларусов динамика ассимиляции примерно как у украинцев и поляков?

М.П. З той розніцай, што ўкраінская дыяспара і польская дыяспара ў Злучаных Штатах і ў Вялікабрытаніі значна больш шматколькасная. Украінцам і палякам у эміграцыі прасцей захоўваць сваю ідэнтычнасць. Ім ёсць на што абаперціся. У іх колькасць інтэлігенцыі значна вышэйшая, культурнае жыццё значна багацейшае.

М.Г. Нам регулярно говорят, что беларусы ещё не осознали себя народом, единой политической нацией. Может быть, в этом причина быстрой ассимиляции?

М.П. Можа быць, слабейшая нацыянальная свядомасць тут і мела значэнне. З беларускіх жаўнераў, якія прыехалі ў складзе польскай арміі Андэрса і заснавалі нашу арганізацыю, толькі меншасць далучылася да нейкага беларускага жыцця. Час ад часу я сустракаю ўжо другое-трэцяе пакаленне людзей, абсалютна брытанцаў, і выпадкова даведваюся, што іхнія бацькі нарадзіліся ў Беларусі, у 46-ым годзе прыехалі ў Брытанію і ніколі не мелі ніякай сувязі з радзімай. Але бывала і інакш. Калі людзі патрапляюць у абсалютна чужую краіну, часам гэта стымулюе іх на пошук нацыянальнай свядомасці, на пошук людзей, якія паходзяць з імі з адной краіны, землякоў. Я ведаў некаторых прадстаўнікоў старой эміграцыі, якія прыехалі ў Вялікабрытанію, лічачы, што яны проста грамадзяне Польшы, праваслаўныя сяляне. Фактычна беларускасцю ў нацыянальным, культурным сэнсе яны зацікавіліся і пазнаёміліся ў замежжы.

З.Л. Ці не падаецца вам, што беларусы з арміі Андэрса, якія, пераехаўшы ў Вялікабрытанію, не займелі ніякіх стасункаў з беларускай дыяспарай, недзе адышлі ўбок і жылі сваім жыццём, вельмі падобныя да большасці беларусаў у Беларусі? Беларусам у Беларусі таксама абыякава, ці беларусы яны, ці тутэйшыя, ці рускія, на якой мове гаварыць.

М.П. Безумоўна, праблема існуе. Калі мяне людзі запытваюць, колькі беларусаў у Вялікабрытаніі, я адказваю, што дакладна сказаць нельга, таму што да нас, да дыяспары, да нашых мерапрыемстваў далучаецца меншасць. Людзі, якія прыязджаюць у Брытанію, — гэта адбітак таго жыцця, якое ёсць у Беларусі. Можа, нават трохі лепшы адбітак. Каб пасяліцца ў Брытаніі, чалавек мусіць мець пэўную адукацыю і ўяўленне пра свет — лепшае, чым сярэдні чалавек у Беларусі.

М.Г. А что вы предлагаете беларусам в Лондоне?

М.П. У Брытаніі існуюць беларускія арганізацыі на любы густ, на любы гатунак і на любы ўзровень свядомасці, як мы кажам. Ёсць Згуртаванне

беларусаў Вялікабрытаніі, там усё па-беларуску. У 56-ым годзе было заснавана Англа-беларускае таварыства, яно працуе на ангельскай мове. Ёсць беларуская бібліятэка імя Францішка Скарыны, якая ладзіць імпрэзы больш з акадэмічным ухілам. Ёсць беларуская царква ў паўночным Лондане, там беларускае культурнае і рэлігійнае жыццё, зусім нічога палітычнага. І ўрэшце ёсць арганізацыя пад назвай «Паб» — «Прафесійнае аб'яднанне беларусаў»: людзі проста сустракаюцца ў пабе, нехта нешта распавядае пра сваю прафесійную дзейнасць, усе размаўляюць па-беларуску. Палітычныя тэмы таксама зусім не закранаюцца. То-бок, любы чалавек, які прыязджае ў Брытанію, можа сабе знайсці арганізацыю на свой густ і свайго ўзроўню свядомасці, дзе ён можа сустрэцца з беларусамі.

М.Г. Была ли беларуская мафия? Эмигранты в первом поколении обычно создают мафию. В Нью-Йорке в своё время была сицилийская мафия, ирландская, еврейская. А в Лондоне беларуская была?

М.П. Я скажу, што я пра такое ніколі не чуў. Прычына, напэўна, у тым, што колькасць беларусаў, якія прыехалі ў Брытанію ў 46-м годзе, была адносна невялікая. Гэта былі вайскоўцы, якія прайшлі палітычную падрыхтоўку ў Саюзе беларускай моладзі. Многія з іх перайшлі з нямецкага боку на бок заходніх саюзнікаў. Я думаю, гэта былі людзі, не схільныя да крыміналу. Адначасова, кажучы пра тыя тысячы, якія не далучыліся да беларускага жыцця, магчыма, хтосьці з іх чымсьці такім займаўся, але мы пра гэта нічога не ведаем.

М.Г. Если банда и была, то, скорее всего, они говорили на английском?

М.П. Хутчэй за ўсё яны размаўлялі па-польску.

М.Г. Для бандитизма они предпочитали польский?

М.П. Ну, польская мова была для гэтых людзей была моваю іх адукацыі. Многія з іх згадалі польскую менавіта як мову, якая надаецца для фармальных стасункаў, або афіцыйных.

М.Г. Звучит немного необычно.

М.П. Я магу сказаць, што калі наша арганізацыя была заснаваная, сярод іншых мэт дзейнасці была арганізацыя салідарнасці і ўзаемадапамогі беларусаў. У саракавых — пяцідзясятых гадах былі спробы арганізаваць беларускія пякарні, была беларуская фотастудыя. Для арганізацыі гэтых невялікіх бізнесаў падтрымку давала Згуртаванне беларусаў Вялікабрытаніі: або памяшканнем, або іншым спосабам. Але што тычыцца супрацьзаконных даходаў, то я думаю, што беларусы ў прынцыпе даволі законапаслухмяныя. А якія прайшлі войска, яшчэ і дысцыплінаваныя.

З.Л. Я вярнуся да нашай асноўнай тэмы размовы. Як вы лічыце, ёсць на сёння нацыянальная ідэя ў Беларусі, ёсць ці няма? Калі няма, то патрэбная ці не? Калі патрэбная, то можа быць, яна з вашай дыяспары прыйдзе, калі беларусы ў сябе дома самі ніяк не могуць сабе сфармуляваць нацыянальную ідэю?

М.П. Само пытанне аб нацыянальнай ідэі ўжо ёсць кепскім паказчыкам таго, што разуменне праблемы вельмі слабае. Нацыянальная ідэя — гэта свядомая прыналежнасць да супольнасці, якая мае сваю памяць, уяўленне пра сябе, пра сваё месца ў свеце. Свядомая прыналежнасць да супольнасці ў мінулым, у сучасным і ў будучыні — гэта і можна назваць нацыянальнай ідэяй. У наш час такога роду супольнасці існуюць у выглядзе суверэнных дзяржаў. Гэта азначае, што рэсурсы і лёс супольнасці павінны вызначацца ў рамках самой гэтай супольнасці, а не ў сталіцы нейкай суседняй дзяржавы. Таму ў кожнай супольнасці павінна быць свая дзяржава, павінна быць незалежнасць.

З.Л. Ёсць меркаванне, што нацыянальная ідэя супольнасці, як вы сказалі, змяняецца ў залежнасці ад сітуацыі, ад таго, якія ёсць пагрозы.

М.П. Я думаю, што менавіта калі з'яўляецца пагроза для быцця супольнасці, тады фармулююцца канкрэтныя адказы. Калі працягу нашага быцця як нацыянальнай супольнасці пагражае паглынанне суседняй нацыянальнай дзяржавай або суседняй імперыяй, значыць, нацыянальнай ідэяй у гэты момант будзе адказ на гэтую пагрозу. Калі быццю пагражае адсутнасць дэмакратыі, калі лёс супольнасці вырашае не сама супольнасць, а аўтакратычны лідар або нейкая

група, то дэмакратыя ператвараецца ў частку нацыянальнай ідэі. І я не выключаю, што калі для існавання Беларусі з'явяцца, скажам, кліматычныя пагрозы, то магчыма будзе нейкі экалагічны аспект для рэалізацыі нацыянальнай ідэі.

З.Л. Калі браць сённяшні, канкрэтны гістарычны момант, ці маглі б вы сфармуляваць кароткую нацыянальную ідэю на гэты канкрэтны гістарычны перыяд найбліжэйшы, ну, я не ведаю там, на год, на два, на пяць?

М.П. Я вас расчарую, але мае погляды вельмі артадаксальныя. Я думаю, што для Беларусі застаецца небяспека страты незалежнасці, якая нясе смяротную небяспеку для працягу існавання беларускай нацыянальнай супольнасці. Тое, што Беларусь застаецца пад уладай аўтакратара, таксама вельмі небяспечна для яе існавання. Я думаю, што нам трэба забеспячэнне незалежнасці, вяртанне да дэмакратыі, вяртанне да вяршэнства закона, забеспячэння правоў, вяртанне Беларусі ў гістарычна адпаведную цывілізацыйную прастору. Вось такая  праграма. Яна гучыць вельмі  артадаксальна, але я заўсёды кажу, што калі нешта не атрымалася, гэта не азначае, што вы робіце нешта няправільна. Гэта азначае, што вы, можа, прыкладаеце недастаткова высілкаў.

З.Л. Можна сказаць, што ў нас да гэтага часу актуальная нацыянальная ідэя, выказаная яшчэ ў свой час Янкам Купалам, — «Жыве Беларусь», а далей падпунктамі ідзе праграма, вамі зараз пералічаная?

М.П. Я думаю, што Янка Купала быў геніяльным чалавекам у шмат якіх аспектах, і «Жыве Беларусь» можна назваць абсалютна, абсалютна добрай формулай на ўсе часы, наколькі гэта можна бачыць.



# АНАСТАСІЯ ІЛЬІНА

## «ІМКНЕННЕ ДА НЕЗАЛЕЖНАЙ І ЗАМОЖНАЙ БЕЛАРУСІ МУСІЦЬ СТАЦЬ НАШАЙ ІДЭЯЙ»

euroradio·fm

Гутарылі Зміцер Лукашук, Максім Гаруноў
Фота Еўрарадыё

З.Л. Вітаю ўсіх слухачоў, сённяшні наш госць — гісторык, доктар сацыялагічных навук, Анастасія Ільіна. Добры дзень, Анастасія.

А.І. Прывітанне.

З.Л. Анастасія, наколькі ваша навуковая дзейнасць датычная пытання нацыянальнай ідэі?

А.І. Вельмі блізка. Тэма маёй дысертацыі гучыць так — «Уцёкі ад самасвядомасці беларускай рэчаіснасці».

З.Л. Наша нацыянальная ідэя — гэта ўцёкі ад самасвядомасці?

А.І. Мы не дафармавалі сваю нацыянальную ідэю ў дзевятнаццатым стагоддзі і таму мелі пэўныя праблемы ў дваццатым стагоддзі і маем іх сёння, у дваццаць першым. Усе нашы суседзі ва Усходняй Еўропе яе сфармавалі. Мы пачалі разам з імі, але да гэтага часу яшчэ не скончылі.

М.Г. Почему не закончили? Беларусы какие-то особенные?

А.І. Я б не казала, што мы нейкія зусім адметныя. Скажам, у сваёй дысертацыі я пісала пра гатычную аповесць. У Вялікабрытаніі яна была папулярная ў дзевятнаццатым стагоддзі. Што такое гатычная аповесць? Гэта замак, у замку маркоціцца галоўная гераіня, яе вызваляе смелы рыцар. Абавязкова ёсць прывід, які наводзіць на ўсіх жах. Брытанія перажыла моду на аповесці пра рыцарскія замкі з прывідамі ў дзевятнаццатым стагоддзі. У Беларусь гэтая мода прыйшла у сярэдзіне дваццатага стагоддзя. Раман Уладзіміра Караткевіча «Дзікае паляванне караля Стаха» ўспамінаюць і сёння, праз паўстагоддзя пасля першага выдання. То-бок, магчыма сказаць, што мы такія ж, як суседзі, але трошкі затрымліваемся.

М.Г. Почему задерживаетесь?

А.І. Таму што ў нас побач ёсць «Big Brother», Расія, якая ўвесь час умешваецца ў працэс нашага фарміравання як нацыі.

М.Г. А можно сказать, что из-за соседства с Россией беларусы всегда отставали от своих соседей?

А.І. Расія не заўсёды мела на нас ўплыў. У свой час у некаторых рэчах мы былі першымі. Напрыклад, Статут Вялікага Княства Літоўскага, які быў напісаны на нашай мове. Статут быў ледзь не першай канстытуцыяй у нашым рэгіёне, на пяць стагоддзяў раней, чым у Маскве. Кнігадрукаванне з'явілася на нашых землях значна раней, чым у расійцаў. Мы бліжэй да Еўропы. У нас напрыклад, ніколі не было культурна абумоўленых перашкод да міграцыі. Мы яшчэ ў Сярэднявеччы разумелі, што калі паедзеш у Прагу ці ва ўніверсітэты Італіі, атрымаеш там адукацыю, то потым можаш вярнуцца дадому і зрабіць нешта карыснае для свайго народа.

З.Л. Нам шмат хто казаў, што беларусы ў эміграцыі хутка асімілююцца і перастаюць быць беларусамі.

А.І. Я сама знаходжуся ў эміграцыі і бачу, наколькі гэта глыбока памылковае меркаванне. Калі беларус выязджае, ён застаецца беларусам. Здараюцца выпадкі, калі ён, знаходзячыся ў чужым асяродку, пачынае больш ідэнтыфікаваць сябе беларусам, пачынае шукаць сваіх.

З.Л. Вось з вашага пункту гледжання, наколькі ахвотна беларусы, якія, як вы кажаце, усвядомілі сябе беларусамі, выехаўшы з краіны, аб'ядноўваюцца у дыяспары? Нам казалі, што значна горш, чым іншыя народы.

А.І. Праблема у тым, што нам, беларусам, у прынцыпе складана аб'ядначацца. Няважна, у Беларусі ці за мяжой. Тыя ж самыя палякі за мяжой хутка гуртуюцца і вельмі паспяхова лабіруюць свае інтарэсы. У найлепшых універсітэтах Амерыкі ёсць польская прафесура. Ці ёсць там

беларуская прафесура? Яе там няма. Але што цікава, суполка беларусаў Амерыкі называецца «Беларусы ЗША. Разам лягчэй». І гэта вельмі важна, што беларусы нарэшце зразумелі, усвядомілі, што калі яны гуртуюцца, ім сапраўды лягчэй.

М.Г. Может быть, проблема в том, что выезжают не беларусы?

З.Л. А хто?

М.Г. Насколько я понимаю, беларусов в Беларуси почти нет. Есть местные, «тутейшие» с паспортами республики Беларусь. «Тутейшие» — это люди с такой туманной дополитической идентичностью, они охотно и естественно сливаются практически с любым социальным ландшафтом.

А.І. Я пагаджуся і не пагаджуся. Калі беларус выязджае ў Польшчу, то Польшча на заканадаўчым узроўні будзе патрабаваць, каб ён як мага хутчэй стаў палякам. У Амерыцы інакш. Амерыка — гэта адкрытае грамадства, і Амерыка — гэта краіна мігрантаў. Першае пытанне, якое табе зададуць ў бары: «Адкуль ты прыехаў?» Калі ты проста амерыканец, то ты ў прынцыпе асабліва не цікавы. А вось калі ты аднекуль прыехаў і твае суразмоўцы нічога не ведаюць пра тваю краіну, гэта адразу прыцягвае да цябе ўвагу. Яны папросяць цябе распавесці, што гэта за краіна, якая ў яе гісторыя. То-бок, правілы зносін у амерыканскім бары проста патрабуюць ад цябе расказаць пра твой любімы дранік-фэст у Магілёве.

М.Г. Беларусам надо ориентироваться на свои американские диаспоры, я правильно понимаю?

А.І. Так. І я лічу, што ў нацыянальнай стратэгіі нашай дзяржавы мусіць быць уключаны пункт пра дыяспару. Мы выкрэсліваем з нашага жыцця людзей, якія жывуць у Амерыцы, у іншых краінах. Але яны ёсць і лічаць сябе беларусамі. Яны патрэбныя Беларусі. Напрыклад, яны могуць быць лабістамі нашых інтарэсаў у краінах свайго пражывання. Эміграцыя

ўжо дапамагае. Зараз у Вільні быў кангрэс беларускіх даследчыкаў. Асобным пунктам там былі ўзнагароды за найлепшую кнігу па гісторыі, філасофіі і гэтак далей. Фундатарамі гэтых узнагарод з'яўляецца якраз беларуская эміграцыя. Гэта людзі, якія з'ехалі, якія не растварыліся, а наадварот, усвядомілі сябе беларусамі і змаглі сабрацца разам, самаарганізавацца.

З.Л. І як будзе гучаць нацыянальная ідэя з улікам эмігрантаў?

А.І. Беларусь — гэта незалежная суверэнная дзяржава.

З.Л. Але на сённяшні дзень незалежная краіна ў нас ёсць. Яна ёсць з Лукашэнкам, з той сістэмай, якая ім выбудавана. І эмігранты, аб якіх ты кажаш, сталі эмігрантамі шмат у чым дзякуючы Лукашэнку і яго сістэме.

А.І. Ну, ведаеш, тое, як гэтая незалежная суверэнная Беларусь выглядае зараз і як яна будзе выглядаць заўтра, залежыць ад нас саміх. Ад людзей, якія ў Беларусі, і ад людзей, якія па-за межамі Беларусі. Нам усім разам трэба зрабіць такую Беларусь, каб з гэтай краіны не хацелася з'язджаць. І яшчэ важна ўдакладніць, што калі мы хочам заставацца самімі сабой, калі нам важна заставацца самімі сабой, то нам патрэбна дзяржава. Нам патрэбны дзяржаўны апарат з яго магчымасцямі. Дзяржава — гэта магутны інструмент. Калі тваё міністэрства асветы працуе на тваю ідэнтычнасць, а не супраць яе, як цяпер у нас, у тваёй ідэнтычнасці значна больш шанцаў захавацца.

М.Г. Во имя чего граждане Беларуси терпят это министерство, если оно ведет себя так странно?

А.І. Я думаю, гэта такая наша культурная асаблівасць: беларус ніколі не змагаецца са злом. Гэта бачна ў беларускіх казках. Рускі будзе змагацца са злом, украінец будзе змагацца са злом, а беларус не. Беларус верыць у паступовую трансфармацыю зла. У нашых казках звычайна

бывае так: стаіць хата, у хаце печ, за печкай жыве чорт. Гаспадар хаты, беларус, ніколі не будзе выганяць гэтага чорта з хаты. Ён будзе яго карміць са спадзяваннем, што праз некалькі гадоў чорт будзе ўжо не зусім абсалютным злом. Калі мы паглядзім на апошнія дваццаць пяць гадоў нашай гісторыі, то як тут не паверыць, што наш народ свядома падкормлівае таго, хто жыве ў яго за печкай, са спадзяваннем, што ён усё ж такі зменіцца?



# АЛЕСЬ ЗАРЭМБЮК

## «БЕЛАРУСЫ МУСЯЦЬ БЫЦЬ ГАСПАДАРАМІ Ў СВАЁЙ БЕЛАРУСКАЙ ХАЦЕ»

euroradio·fm

Гутарылі Зміцер Лукашук, Максім Гаруноў
Фота Еўрарадыё

З.Л. Усім прывітанне, наш госць — кіраўнік Беларускага Дома ў Варшаве Алесь Зарэмбюк. Добры дзень, Алесь.

А.З. Добры дзень.

З.Л. Ці гатовы ты разважаць пра нацыянальную беларускую ідэю?

А.З. Гатовы.

З.Л. Для беларусаў, якія з'ехалі з Беларусі ў эміграцыю ці на вучобу і ўжо не плануюць вяртацца, бо абзавяліся тут і кватэрамі, і дамамі, і працай, увогуле актуальна разважаць пра беларускую нацыянальную ідэю? Можа, ім бліжэй будзе польская нацыянальная ідэя?

А.З. Я б вось так адразу не спісваў беларускую дыяспару і беларускую эміграцыю. Мерапрыемствы, якія мы тут праводзім, паказваюць, што для беларусаў важна заставацца беларусамі, што ёсць нацыянальная ідэя, што ёсць Рэспубліка Беларусь, што ёсць наша мінуўшчына, наша гісторыя. Калі вы не чулі, то наша самае масавае мерапрыемства ў Варшаве − святкаванне Дня Волі. Яно адбываецца штогод, і штогод на ім з'яўляецца ўсё больш маладых беларусаў, якія альбо навучаюцца тут, альбо прыехалі працаваць у нейкую міжнародную кампанію. Яны выходзяць кожны год і ідуць цэнтральнымі вуліцамі Варшавы пад бела-чырвона-белымі сцягамі ад помніка Тадэвушу Касцюшку, нашаму супольнаму герою, і да помніка Адаму Міцкевічу. Прыклады самых паспяховых дыяспар свету — я маю на ўвазе габрэйскую дыяспару і армянскую — паказваюць, што не трэба адасабляць беларускіх эмігрантаў ад Беларусі. Іх веды, іх сувязі, іх знаёмствы, іх пэўны лабісцкі патэнцыял патрэбныя Беларусі сёння і будуць патрэбныя заўтра ў дэмакратычнай Беларусі, якой сёння няма.

З.Л. А яны плануюць вяртацца?

А.З. Вельмі па-рознаму. На сённяшні дзень беларуская дыяспара толькі асвойваецца. Вялікай эканамічнай эміграцыі яшчэ не было. Зараз ёсць, напрыклад, асобы, якія з'язджаюць на Захад, каб атрымаць адукацыю. Безумоўна, большасць з іх, мабыць, не вернецца, таму што яны будуць мець тут іпатэкі, дамы. У іх ужо будзе іншае жыццё. Але шэраг з гэтых

людзей застаюцца беларусамі, і вельмі актыўнымі беларусамі. Я аптымістычна скажу, што актыўных у эміграцыі прыблізна дваццаць-трыццаць адсоткаў. Думаю, яны будуць гатовы выкарыстаць свае веды, досвед для ўмацавання нашай дзяржаўнасці, нашай міжнароднай палітыкі для правядзення ў Беларусі рэформ. Таму я б яшчэ раз сказаў, што я б не спісваў гэтых людзей. Тут трэба, наадварот, супрацоўнічаць, займацца супольнымі справамі, праектамі. Гэта, безумоўна, прынясе свае плады пасля.

М.Г. Среди беларусов, которые живут в Варшаве, встречаете ли вы какое-то сопротивление своей деятельности?

А.З. Я асабіста з такімі асобамі не сустракаўся. Калі мы кагосьці запрашаем на мерапрыемства альбо на той жа самы Дзень Волі, гэта добраахвотная акцыя і туды немагчыма нікога загнаць. Безумоўна, ёсць людзі, якія вельмі хутка асімілююцца. Ёсць беларусы, у якіх ёсць польскія карані, якія вярнуліся на сваю гістарычную радзіму. Ёсць беларусы, якія прыязджаюць і хочуць стаць мясцовым, карэнным чалавекам і забыць пра бацькаўшчыну. Я і мае знаёмыя з такімі не сустракаліся. Усё ж такі беларусы тут, у Варшаве і ў Польшчы, у большасці людзі паспяховыя, якія маюць годную працу і ганарацца тым, што яны беларусы, не саромеюцца сказаць, што я беларус з Гародні, з Зэльвы, з Магілёва, з Віцебска, з Бабруйска.

М.Г. К вам ходят только люди, которые достигли успеха? Если беларус не очень успешен в Польше, то он к вам не ходит и, скорее всего, ассимилируется. Нет?

А.З. Мы не з'яўляемся элітарным клубам і элітарнай арганізацыяй. Мы камунікуем абсалютна з рознымі прадстаўнікамі беларускай дыяспары. У нас усё даволі адкрыта, і прыходзяць сапраўды розныя людзі. Вельмі часта адбываецца так, што на першых кроках людзям патрэбна нейкая дапамога, пачуццё супольнасці, і яны больш актыўныя, часцей наведваюць. Пасля яны могуць знікнуць. Хтосьці застаецца. Гэта звычайны працэс.

З.Л. Вось ты не паланізуешся. А дзеці твае і дзеці іншых беларусаў, якія пераехалі?

А.З. Гэта залежыць ад выхавання. Калі ў сям'і ёсць беларускасць і беларускі стрыжань, то дзеці не становяцца палякамі. Магчыма, у нейкіх ментальных рэчах яны адрозніваюцца ад сваіх братоў, бо жывуць у дэмакратычнай краіне. Ёсць дзеці з польска-беларускіх сем'яў. Калі ў аднаго з бацькоў ёсць стрыжань беларускасці і ён яго перадаў свайму дзіцяці, то ён застаецца. На нашы акцыі, прысвечаныя Дню Волі, прыходзяць дзеці нашых эмігрантаў. Нават часам прыходзяць без бацькоў, але бацькі ім дазваляюць. Я кажу зараз пра падлеткаў. Яны нясуць бела-чырвона-белы сцяг і застаюцца беларусамі, хаця пражылі тут большую частку свайго жыцця, пайшлі тут у школу ад самага першага класа. Ёсць нават грамадзяне Расійскай Федэрацыі, якія прыходзяць у Беларускі Дом і кажуць: «А ў мяне карані беларускія, я беларус». І я не пра адну асобу кажу. Ёсць людзі, якія размаўляюць па-беларуску, таму што вывучылі мову. Паходзяць з Расіі, але ёсць беларускія карані.

З.Л. Ці сустракаецеся вы з беларусамі з Беластока?

А.З. Дастаткова часта камунікую. Безумоўна, іх там становіцца меней. Адбываюцца польска-беларускія шлюбы, многія апалячваюцца. Але ёсць, можа быць, не такое вялікае святло ў тунэлі: маладое пакаленне прадстаўнікоў беларускай меншасці ў Польшчы, наадварот, вяртаецца да сваіх каранёў, пачынае хоць з польскім акцэнтам, але размаўляць па-беларуску. Іх бацькі, можа быць, размаўляюць ужо больш па-польску, але дзяды і прадзеды размаўлялі па-беларуску. Яны гэта чулі, выраслі і вярнуліся да гэтага. Ёсць такія людзі на Беласточчыне, вось, так што не ўсё так сумна, як нам здаецца.

М.Г. Где вы смотрите новости о Беларуси?

А.З. Каб арыентавацца, я гляджу і незалежныя, і дзяржаўныя сродкі масавай інфармацыі.

М.Г. А голливудские фильмы с беларуским дубляжом?

А.З. Больш з сынам і для сына, каб была чысціня мовы. Па-беларуску, па-руску, па-польску, па-ангельску трэба размаўляць чыста, а не адно слова польскае, другое беларускае, трэцяе рускае, чацвёртае ангельскае. Галівудскія фільмы, дарэчы, добра перакладаюць на шмат моў, гэта зручна.

З.Л. Скажы мне, вось якой мусіць стаць Беларусь, каб вы, ты асабіста, беларуская дыяспара ў Польшчы, сабралі ўсё тут нажытае, плюнулі на іпатэку і паехалі ў Беларусь?

А.З. Асабіста я гатовы і заўтра. Для мяне пытанне больш бяспекі і свабоды дзеянняў у Беларусі. Для большасці дыяспары, якая прыехала сюды па эканамічных прычынах, трэба каб яны маглі зарабляць у сябе на бацькаўшчыне. Студэнтаў я не бяру. Яны пастаянна ездзяць на выходныя да бацькоў. Тут у прынцыпе недалёка. Дзвесце кіламетраў ад Варшавы да мяжы.

З.Л. Дапусцім, прэзідэнтам Беларусі становіцца Віктар Пракапеня, які сказаў, што ніякай нацыянальнай ідэі не павінна быць, не будзем заганяцца пра мову, давайце проста зарабляць грошы. Як табе?

А.З. Ніхто гэтым людзям не дасць зарабляць бабло. Альбо дадуць да пэўнай чырвонай лініі, якую ім намалюе Расійская Федэрацыя. Я часам чую, што мы можам быць як Швейцарыя альбо як Аўстрыя. Не. У нас ёсць сусед, які на працягу некалькіх стагоддзяў русіфікаваў наш народ. З суседам, якога мы маем на ўсходзе, мы не можам сабе дазволіць праводзіць такую палітыку, як Швейцарыя ці Аўстрыя. Для нас пытанне нацыянальнага адраджэння і пытанне беларускай самаідэнтыфікацыі архіважнае. Мы гэта бачым на прыкладзе сітуацыі ў Прыднястроўі, на усходзе Украіны, у анэксіраванай частцы Грузіі, у замарожаным канфлікце паміж Азербайджанам і Арменіяй. Гэта тэрыторыі нестабільнасці, якія стварыла Расійская Федэрацыя.

М.Г. Как вы оказались в Варшаве?

А.З. Я выехаў не па ўласнай ініцыятыве. Я быў рэгіянальным палітычным лідарам, даволі паспяховым. Я меў падтрымку сярод людзей, мог выйграваць выбары, нават нягледзячы на фальсіфікацыі. Я апынуўся тут абсалютна выпадкова.

М.Г. И ждёте возможности вернуться?

А.З. Я б не сказаў, што я проста чакаю. За восем год мы зрабілі каласальную працу па паляпшэнні нашых польска-беларускіх кантактаў,

па павелічэнні сувязяў паміж палякамі і беларусамі. Мы маем вельмі добрыя кантакты з прадстаўнікамі польскай эліты. І культурнай, і палітычнай, і эканамічнай. Польшча − гэта краіна-суседка, у якой працэс рэформаў атрымаўся. Польшча вельмі моцна змянілася дзякуючы таму, што яна правяла рэформы, змяніла палітычную сістэму на дэмакратычную і шматпартыйную, атрымала вялікую падтрымку ад Еўрапейскага саюза і ўмела яе выкарыстала. Калі мы будзем мяняць нашу дзяржаву, калі мы будзем праводзіць рэформу, мы будзем пераймаць вопыт у палякаў. Мы размаўляем на падобных мовах, маем вельмі вялікую супольную гісторыю, супольную мяжу. Нам сапраўды ёсць чаму павучыцца, ёсць на што паглядзець. У тым ліку і як не трэба рабіць.

М.Г. Получается, что вы ведёте себя как посол Беларуси в Варшаве. Но ведь есть и настоящий посол Беларуси, и по сравнению с ним вы посол от такой воображаемой Беларуси, разве нет?

З.Л. Беларусі будучыні.

М.Г. Платонической Беларуси, Беларуси из мира идей.

А.З. Магчыма. Хаця, пэўныя рэчы можна рабіць ужо зараз, толькі для гэтага трэба альбо палітычная воля, ну і, безумоўна, змена ўсё ж такі палітычнай сістэмы.

З.Л. Як коратка гучыць нацыянальная ідэя ад аташэ платанічнай Беларусі, Беларусі будучыні?

А.З. Гэта калі Беларусь у сённяшніх сваіх межах жыве пры дэмакратычнай уладзе, дзяржаўная мова ёсць беларускай. Нацыянальныя меншасці, якія жывуць у нашай шматнацыянальнай дзяржаве, жывуць абсалютна свабодна. Беларусы самі вырашаюць свой лёс і рухаюцца туды, дзе ёсць цывілізацыя, дзе ёсць тэхналогіі, дзе ёсць дабрабыт. Мы заўжды былі часткай агульнаеўрапейскай сям’і. Мы еўрапейская нацыя, з еўрапейскімі традыцыямі і мы павінны рухацца ў кірунку Еўропы. На захад.



# ЗІНАІДА
# БАНДАРЭНКА

## «БЕЛАРУСКАЯ МОВА — ГЭТА ПАВІННА СТАЦЬ ГАЛОЎНАЙ НАЦІДЭЯЙ ДЛЯ НАС СЁННЯ»

euroradio·fm

Гутарылі Зміцер Лукашук, Максім Гаруноў
Фота Еўрарадыё

З.Л. Наш сённяшні госць — выбітная жанчына, чалавек, якога памятаюць усе гледачы беларускага тэлебачання, Зінаіда Бандарэнка. Спадарыня Зінаіда, я працытую ваша інтэрв'ю: «Сваё дзяцінства я правяла ў вёсцы, і людзі, якія там жылі, зрабілі на мяне глыбокае ўражанне. Тады я не разумела, праўда, што такое нацыянальная ідэя, гісторыя. Але з цягам часу асэнсаванне гэтага прыйшло». А што такое нацыянальная ідэя для вас?

З.Б. Я лічу, што нацыянальная ідэя для нашай краіны, для нас — гэта беларуская мова. Асабліва для сённяшняга часу. Беларуская мова была афіцыйна абвешчана дзяржаўнай яшчэ ў красавіку 1918 года ў Беларускай Народнай Рэспубліцы, аднак за ўвесь гэты час яна так і не ўмацавалася, не стала мовай краіны. Наадварот, мы яе губляем. Калі сёння дзеці першага верасня ідуць у школу, іх бацькі, як і шмат дзесяцігоддзяў таму, вымушаныя змагацца за тое, каб з яны атрымлівалі адукацыю на беларускай мове. Час мяняецца, гады ідуць, а ім ўсё роўна ставяць перашкоды.

З.Л. А калі вы першы раз падумалі пра тое, што што беларуская мова — гэта наша нацыянальная ідэя?

З.Б. Я вельмі добра зразумела, што такое нацыянальная ідэя, калі кіраўніком нашага тэлебачання і радыё стаў Генадзь Мікалаевіч Бураўкін. Разам з ім на тэлебачанні з'явілася беларускасць, якой нам так не хапала. Калі я прыйшла працаваць на гомельскае тэлебачанне, вяшчанне там было на беларускай мове, але за яе правільнасцю ніхто асабліва не сачыў. Цэнзура сачыла за палітычным зместам, за мовай асабліва не сачылі. Сапраўдныя мовазнаўцы працавалі ў Мінску, у беларускай рэдакцыі. У той час вядучыя на тэлебачанні як і акцёры ў тэатрах, заўсёды размаўлялі па-расійску, а перад камерай пераходзілі на беларускую мову. Калі прыйшоў Генадзь Мікалаевіч, яго патрабаванне было, каб у нас ва ўсіх была практыка, каб мы вольна размаўлялі па-беларуску не толькі ў эфіры. І вы ведаеце, у яго атрымалася. Нават рускія, якія закончылі факультэт журналістыкі Маскоўскага ўніверсітэта імя Ламаносава і прыехалі працаваць да нас, хуценька пераарыентаваліся. Не так ужо і цяжка, як аказалася, вывучыць беларускую мову, добра ведаючы расейскую. Генадзь Мікалаевіч набіраў нацыянальна арыентаваных людзей. Ён, напрыклад, узяў маладога чалавека з Гародні

галоўным рэдактарам маладзёвай рэдакцыі. У нас быў пад'ём беларускай мовы, было развіццё, была цудоўная атмасфера. Але ўсе гэта было да той пары, пакуль не сышоў Генадзь Бураўкін.

З.Л. А што было потым?

З.Б. Раптам надышоў 92-і год, і ўсё рэзка змянілася. Усе, літаральна ўсе пачалі пераходзіць на расійскую мову, і я адразу адчула, што я станаўлюся як бы не цікавая для атачэння. Прыйшло шмат новых людзей, якія не збіраліся працягваць размаўляць па-беларуску.

З.Л. А чаму, з вашага пункту гледжання, Лукашэнка не хоча размаўляць на беларускай мове?

З.Б. Ён чалавек глыбока вясковы. Вясковыя людзі зацыкленыя на тым, каб не падалося, што яны правінцыйныя, што яны абмежаваныя. Ім хочацца паказаць, што я ужо вось такі «гарадской», што я ўжо не буду гаварыць «трапка», я знайду нейкае іншае слова, больш гарадское. Ён проста саромецца сябе, і таму аддае перавагу рускай мове. Але я хачу заўважыць, што, па маіх асабістых назіраннях, людзям, якія не валодаюць беларускай мовай, вельмі прыемна яе слухаць. У мяне быў выпадак, калі я прыехала ў Брэст, села ў таксі, пачала тлумачыць таксісту, куды ехаць, а ён кажа: «Ой, паразмаўляйце яшчэ. Ну, так прыгожа». Я кажу: «Ну, а чаму ж вы не размаўляеце?» Ён гаворыць: «А я не знаю». І ён з такім смуткам сказаў. Ці аднойчы мы з маім знаёмым селі у тралейбус на плошчы Перамогі і пачалі размаўляць па-беларуску. Ён чалавек з гумарам, вельмі вясёлы, нешта мне распавядаў, жартаваў, і ўвесь тралейбус неяк змоўк. Як толькі ён выйшаў на Кастрычніцкай плошчы, усе раптам пачалі мяне прасіць: «Ну, пагаварыце яшчэ, пагаварыце яшчэ». Я ім адказваю: «Дык давайце, давайце мы разам усе пагаворым». І адразу ўсе змоўклі: яны не ведалі мовы.

З.Л. Мова – гэта нацыянальная ідэя?

З.Б. Так, я лічу, так. Гэта для нас, менавіта для таго стану нашай краіны, у якім мы апынуліся сёння.



М.Г. Язык, и всё?

З.Б. Ад мовы пойдзе ўсё астатняе. Калі будзе нацыянальнае адраджэнне, у нас з'явяцца нацыянальныя кадры. Калі ў нас будуць нацыянальныя кадры, у нас будзе і эканоміка, і палітыка, арыентаваныя на нас, на беларусаў. А так у нас палова чыноўнікаў з Масквы, з ваенных акадэмій. Яны рускамоўныя, не вучаць нашу мову, пазаймалі самыя высокія дзяржаўныя пасады. Як вам здаецца, яны будуць дбаць аб нас, беларусах? Ды ні ў якім разе.

З.Л. Можа быць, да мовы дадаць яшчэ чаго-небудзь? Дабрабыт, напрыклад?

З.Б. Будзе мова — будзе ўсё астатняе. Усё астатняе прыйдзе да людзей пасля мовы.

З.Л. Як гэтую ідэю данесці да беларусаў?

З.Б. Ну, вы ж ведаеце, што ў нас зараз няма ніводнага добрага серыялу на беларускай мове. Мы глядзім увесь час гэтыя маскоўскія праграмы, маскоўскія серыялы. Мова вернецца і зойме сваё месца, калі яна атрымае сваё права законна існаваць. Тэлебачанне, радыё, інтэрнэт — усё павінна гучаць па-беларуску, і тады адразу ў нас загучыць і беларуская мова, і беларуская ідэя нацыянальная наша.

З.Л. А які-небудзь рабочы з трактарнага завода паслухае, што мы тут з вамі гаворым, і скажа: «А мне ўсё адно, на якой мове».

З.Б. Ну, ведаеце, што ўжо арыентавацца на гэтага рабочага? Ён усё жыццё пражыў у гэтым жахлівым стане. Што яму яшчэ пра мову думаць?

М.Г. А может быть, мова плюс вступление в Европейский союз?

З.Б. Ну, ва ўсякім разе беларусы яшчэ да гэтага не дайшлі. Але, канешне, Еўрасаюз быў бы для нас выратаваннем. Я лічу так.




# ВОЛЬГА НЯЧАЙ

## «МАРУ, КАБ МЫ НАРЭШЦЕ ЎСВЯДОМІЛІ, ШТО МЫ — БЕЛАРУСЫ»

euroradio·fm


Гутарылі Зміцер Лукашук, Максім Гаруноў
Фота Еўрарадыё

З.Л. Вітаю ўсіх слухачоў, наша сённяшняя госця — суаўтарка помніка Гедыміна і помніка ў Курапатах, мастачка, скульптарка, дызайнерка, магістарка мастацтвазнаўства Вольга Нячай. Добры дзень, Вольга.

В.Н. Дзень добры!

З.Л. Скажыце, вось вы калі працавалі над помнікам Гедыміну, думалі, што «вось так зраблю — і нацыянальная ідэя будзе лепш праглядацца»?

В.Н. Не, пра такія рэчы мы не асабліва думалі, магчыма, што на жаль. У канцэпцыі помніка было, канешне, для якой мэты мы гэта робім, але ў працэсе думаеш зусім аб іншым.

М.Г. А для чего вы это делали?

В.Н. Ну, перш за ўсё было цікава прымаць удзел у такім буйным конкурсе і мець дачыненне да ўсталявання помніка такой буйной гістарычнай асобе.

З.Л. То-бок, вы не думалі, напрыклад, што калі помнік будзе стаяць на галоўнай плошчы ў Лідзе ці ў Мінску, то гэта неяк падштурхне развіццё самасвядомасці беларусаў?

В.Н. Не, у нас была задача зрабіць добры твор мастацтва, каб ён прыцягваў увагу. Мы ж напісалі на шыльдзе толькі адно слова — «Гедымін». Ніякай дошкі з гістарычнай даведкай побач няма. Але ёсць інтэрнэт. Мне казалі, што ў скверы ля помніка, адразу пасля адкрыцця, сталі збірацца людзі. Яны падыходзяць да сквера, глядзяць, пачынаюць цікавіцца, задаваць пытанні, шукаць інфармацыю. Думаю, ім цікава, што гэта за персанаж на кані, і яны нешта там самі шукаюць у Google.

М.Г. Гедимин важен и для истории Литвы, и для истории Беларуси и поэтому такой вопрос: ваш князь Гедимин — он славянин или балт? Лично мне он показался похожим на славянского князя.

В.Н. А якія рысы адрозніваюць беларусаў ад балтаў? І мы гаворым пра якое стагоддзе? Ці мы ведаем, як выглядалі людзі таго стагоддзя?

М.Г. Я просто сравнил вашего Гедимина с памятником Юрию Долгорукому в Москве и с памятником Гедимина в Вильнюсе, и мне кажется, что ваш Гедимин больше похож на славянского князя.

В.Н. Ну, паслухайце, мы ж славяне. Чаму мы не можам зрабіць сабе славянскага князя?

М.Г. Но Гедимин был не очень славянин.

В.Н. А жонкі? А хто ў яго былі жонкі?

М.Г. Я давно мечтаю жениться на женщине из Эфиопии. Если мне повезёт и у меня получится, стану ли я эфиопом?

В.Н. Не, ну зразумела.

М.Г. А в каких отношениях ваш беларуский Гедимин с литовским Гедиминасом?

В.Н. Ведаеце, я нават не пытала сваіх літоўскіх сяброў, як яны ставяцца да нашага помніка.

М.Г. Почему?

В.Н. Мы маем свайго Гедыміна, і мы робім свайго Гедыміна. Літоўцы ўжо выказаліся, цяпер наша чарга.

М.Г. Вам нравится литовский памятник?

В.Н. Мой суаўтар, Сяргей, любіць гэты помнік, а я не вельмі.

М.Г. Можно сказать, что ваш Гедимин, в отличие от литовского, не националистический, а такой нейтральный, исторический и реконструкторский?

В.Н. Не, так ні ў якім разе сказаць нельга. Мастак − гэта не рэканструктар. Мы рабілі так, каб не было вялізных гістарычных хібаў, але мастацкі вобраз важнейшы за гістарычную дакладнасць.

М.Г. А почему ваш Гедимин не на вздыбленном коне, не размахивает мечом?

В.Н. Мы свядома не хацелі рабіць князя-ваяра. Мы хацелі зрабіць спакойнага ўладара дзяржавы, які не імкнецца ваяваць, які не агрэсіўны, які, наадварот, упэўнены ў сабе, трымае сваю дзяржаву. Мы ведаем, што пры Гедыміну дзяржава скончыла свой рост, межы амаль не мяняліся. Гедымін кіраваў спакойна. Што тычыцца знешняга аблічча, адзення, то мы запрасілі да сябе гістарычнага кансультанта, які знайшоў нам усе тыя рэчы, ува што мы яго апранулі. Напрыклад, карона, якая ў яго на галаве, была знойдзена ў шведскім пахаванні.

М.Г. Но обычно князей изображают более воинственными, наступательными.

В.Н. Мне здаецца, што адкрытая агрэсія нічога не вырашае. Калі нехта будзе на цябе крычаць, агрэсіўна паводзіць, як ты будзеш сябе адчуваць? А калі чалавек будзе табе спакойна нешта казаць і вельмі ціха, ты пачнеш да яго прыслухоўвацца. Агрэсія — гэта ўвогуле выхад з раўнавагі, а ў нас, наадварот, такая спакойная, упэўненая ў сабе сіла.

М.Г. Какие первые претензии были к памятнику?

В.Н. Калі людзі ўпершыню ўбачылі наш помнік, то першае, да чаго ўсе звярталіся: дзе вы бачылі такі плашч? Як ён мог ездзіць з такім плашчом?

М.Г. Что не так с плащом?

В.Н. Мы зрабілі яго вельмі доўгім і шырокім, ён пакрывае плечы князя, спіну, каня і амаль дакранаецца зямлі. У нас плашч — сімвал аб'яднання краіны, бяспекі і надзейнасці. Гедымін пад гэтым вялізным плашчом

абʼядноўвае дзяржаву. Ён дзяржаўнік, магутны, спакойны ўладар.

М.Г. А то, что у него за спиной высокая стена Лидского замка — это тоже про спокойствие, как и плащ?

В.Н. У цэлым, так. Замак — гэта надзейнае захаванне, ізноў жа. Мы гэтага не планавалі, але нам падабаецца, што наш вобраз так паспяхова супаў з ландшафтам.

З.Л. Упэўненасць, захаванне, дзяржаўнасць, што яшчэ?

В.Н. Можа быць, спакой. Увогуле, спакой, як мне здаецца, — гэта наша нацыянальная ідэя. Мы даволі спакойныя людзі, нават занадта.

З.Л. А вы самі, для сябе асабіста, прымаеце такую нацыянальную ідэю?

В.Н. Складана сказаць. Я наогул баюся нацыянальных ідэй і ідэалогій. Напэўна, нейкая ідэя нам і патрэбная, але ў нашай краіне ідэі заўсёды выкарыстоўваюцца дзяржавай у сваіх мэтах. Напрыклад, калі я вучылася ў Акадэміі, там быў прадмет «Ідэалогія». Не памятаю, колькі разоў я была на гэтым прадмеце. Можа, пару разоў, можа, больш. Я ўвогуле не памятаю, аб чым там гаварылі, але ўражанне засталося не самае светлае. Таму, напэўна, мне так цяжка адказваць на вашыя пытанні.

З.Л. Дык можа, і не трэба яно нам?

В.Н. Не, нешта такое нам усё ж такі трэба. Я бачу праблемы у Беларусі з самаідэнтыфікацыяй, з самаўсведамленнем. Мы не ведаем, хто мы, адкуль. Паколькі мы самі не ведаем адкуль мы ўзяліся, то і людзі вакол нас не ведаюць гэтага. Я зараз прыляцела з Ірана. У мяне там быў выпадак у гатэлі: я сядзела ў лобі, і там быў хлопец з Масквы. Калі ўвесь час размаўляеш на ангельскай, то вельмі стамляешся і хочацца пагаварыць калі не на беларускай, то хоць бы на расейскай мове. Мы пачынаем з ім размаўляць, і я проста так, між іншым, нешта сказала пра нашу беларускую гісторыю і ён мне адразу: «Якая ваша беларуская гісторыя? У нас адна з вамі гісторыя». Я разумею, што не хачу працягваць

гэты дыялог, не хачу сварыцца, і сышла. Мы павінны вызначыць сваю самаідэнтыфікацыю, каб такога было менш. Але зноў жа, мне хацелася б пазбегнуць прымусу, каб наша ідэнтычнасць не стала падставай для гвалту, як гэта часам бывае. І я зусім не разумею, як сумясціць выразную ідэнтычнасць з гэтым новым глабальнымі светам. Не хацелася б згубіцца ў ім, але і закрывацца ад магчымасцяў таксама жадання няма. Можа быць, неяк праз мастацтва, праз знакі, праз вобразы. Гэта складаныя пытанні, і я не ведаю, як на іх адказаць.

З.Л. На мой погляд, вы ўсё ж такі сфармулявалі нам свой варыянт нацыянальнай ідэі. Увага ўсім! Нацыянальная ідэя ад мастака, скульптара, дызайнера, магістра мастацтвазнаўства Вольгі Нячай, аднаго з суаўтараў помніка Гедыміну.

В.Н. Паразуменне, што мы беларусы.

М.Г. А спокойствие, как у Гедимина в Лиде?

В.Н. Так, паразуменне і спакой.

З.Л. Вітаю ўсіх слухачоў, у эфіры адмысловы выпуск, падчас якога мы не будзем шукаць, прамаўляць і намацваць беларускую нацыянальную ідэю. Падчас сённяшняй праграмы мы будзем гаварыць пра літаратуру, таму што наш сённяшні госць — Альгерд Бахарэвіч. Добры дзень, Альгерд.

А.Б. Добры дзень.

З.Л. Спадар Альгерд, я некалькі разоў прапаноўваў вам панамацваць нацыянальную ідэю, але вы катэгарычна адмаўляліся. Чаму? Страх складанай тэмы?

А.Б. Не, што вы, ніякага страху няма. Проста нацыянальная ідэя — гэта не тое, што мяне цяпер займае. У свеце шмат больш цікавых рэчаў за нацыянальную ідэю, і мне здаецца, што пошукі нацыянальнай ідэі, яе намацванне, яе масаж — гэта не надта актуальна. Калі вам цікавая мая пазіцыя, то на Інтэлектуальным клубе Святланы Алексіевіч я ўжо казаў: адзіная нацыянальная ідэя, якая б магла сапраўды аб'яднаць беларусаў — гэта беларуская мова. Я не бачу нічога, што магло бы нас сапраўды аб'яднаць, нейкім чынам злучыць.

З.Л. Раней цікавіла?

А.Б. Вядома, у дзевяностыя гады цікавіла, на пачатку нулявых цікавіла. З тых часоў, магчыма, адбылося нейкае расчараванне. Я заўсёды кажу, што няма адзінага беларускага народа. Няма і ўжо, відаць, ніколі і не будзе. Магчыма, нічога страшнага ў гэтым таксама няма. Мы цікавыя тым, што мы розныя. Вось я жыву ў горадзе Менску. Я хаджу па гэтых вуліцах, езджу ў гэтых тралейбусах, у метро, хаджу ў танныя кавярні, у звычайныя крамы. Я не цураюся свайго народа, але я бачу, што паміж мной і маімі суайчыннікамі не так шмат агульнага.

З.Л. А нацыя ў нас існуе?

А.Б. Беларуская нацыя, безумоўна, існуе. Дастаткова шмат нацыянальна

свядомых людзей, якія мне блізкія, з якімі мне ёсць пра што пагаварыць. Але ў той жа час ёсць людзі, якія, здаецца, жывуць зусім побач, але я не ведаю, як з імі гаварыць, пра што. Паміж намі нейкая бездань. Раней мне здавалася, што гэта трагедыя, але цяпер мне так не здаецца. Уласна кажучы, а чаму мы павінны быць адным народам? Чаму нас павінна штосьці аб'ядноўваць? Мы ўсе людзі і самі робім свой выбар як жыць, самі шукаем сабе ідэнтычнасці. У дзевяностых гадах беларусам прапанавалі на выбар шмат ідэнтычнасцяў, але большасць беларусаў, мне здаецца, так ніводнай і не выбрала. У большасці беларусаў, як я гэта сабе ўяўляю, была праблема выбару, калі ідэнтычнасцяў шмат і ніводная табе не пасуе. Мы жывем у краіне, дзе большасць спакойна абыходзіцца без усялякай ідэнтычнасці.

З.Л. У вас так атрымліваецца, што ў нас нацыя ўжо ёсць, а вось народа няма.

А.Б. Неяк так выйшла, але ў Беларусі ж шмат чаго ўнікальнага, так? Унікальная прырода, унікальныя пісьменнікі, унікальная сітуацыя з нацыянальнай ідэяй. Я лічу што пра нацыяналізм нам трэба было думаць трошачкі раней. На пэўным этапе развіцця краіны нацыяналізм — гэта файная штука, вельмі добрая рэч. Але як толькі нацыяналізм зрабіў сваю справу, ён мусіць сысці. Калі ва ўсёй Еўропе нацыяналізмы сыходзяць, у Беларусі нацыяналізм застаецца чымсьці важным, чымсьці актуальным. Гэта паказвае, наколькі мы спазняемся. Увесь свет — вялікі, сучасны, хуткасны цягнік — кудысьці едзе, кудысьці нясецца, а мы тут важдаемся з нацыянальнай ідэяй. Пры гэтым, нягледзячы на гэтае спазненне, я лічу, што беларусы — еўрапейскі народ, еўрапейскае насельніцтва, еўрапейская нацыя. Магчыма, беларусы не абіраюць еўрапейскай ідэнтычнасці, але ўсё роўна мы усе належым да Еўропы.

З.Л. З аднаго боку, вы кажаце, што мова – гэта найперш, з другога боку, вы бачыце бездань паміж вамі і гэтым народам. Нават пагаварыць з ім няма пра што. А для каго вы пішаце?

А.Б. Я пішу не для ўсіх. Калі б я пісаў для ўсіх, то я б пісаў інакш, выглядаў інакш, гаварыў інакш, паводзіўся інакш. Я свядома пішу для тых,

хто гатовы ўспрымаць складаныя тэксты. У прынцыпе, як любы пісьменнік, я звяртаюся да ўсіх людзей, якія валодаюць мовай, якой я пішу. Але ў Беларусі не так ужо і шмат людзей, якія здольныя ўспрымаць складаныя тэксты на беларускай мове. Мае кніжкі напісаныя па-беларуску дастаткова складана, з дастаткова складаным стылістычным элементам. Да таго ж, яны свядома напісаныя тарашкевіцай. Я адмыслова раблю дыстанцыю паміж сабой і так званымі людзьмі, так званым народам. Я не прагну ўсеагульнай любові і разумення.

М.Г. Где ваших книг продано больше — в Беларуси, в Евросоюзе или в России?

А.Б. На дадзены момант, відаць, у Расеі. Першае выданне «Сабак Еўропы» па-расейску ўжо скончылася і другое выданне таксама ўжо сканчаецца. Гэта невялікія тыражы, але яны большыя, чым у Беларусі.

М.Г. Вас издавали и во Франции, правильно?

А.Б. Некалькі кніг, так. У мяне дзве кнігі выйшла ў Нямеччыне, адна ў Францыі, адна ў Расеі, дзве ў Польшчы і адна ўвесну выйдзе ў Вялікабрытаніі.

М.Г. По вашим социальным сетям, по вашим постоянным перемещениям по Скандинавии, Балтии, Германии, можно сделать вывод, что вы беларуский писатель, но не столько для беларусов, сколько для объединённой Европы. Европа бережно относится к своему искусству, и с её точки зрения должна быть литература и на беларуском языке. Для Европы это ценность, экзотика, и вы пишете в общем для неё.

А.Б. Мне тут ёсць з чым пагадзіцца і ёсць што запярэчыць. З чым я згодны? З тым, што сапраўды ў мяне вельмі моцная еўрапейская ідэнтычнасць. Я еўрапейскі пісьменнік і ў сваёй творчасці звяртаюся да тых, хто падзяляе еўрапейскую ідэю. Для мяне вельмі важна ідэя абʼяднанай Еўропы і ідэя Беларусі ў абʼяднанай Еўропе. Я ўвесь час у меру сваіх сціплых сіл спрабую прасоўваць ідэю, што мы, беларусы — еўрапейцы, частка еўрапейскай цывілізацыі і займаем ў Еўропе сваё важнае месца. Пра тое, што Беларусь — гэта Еўропа, сведчаць нават

нашыя вёскі. Беларуская вёска — не меншая Еўропа за Парыж, за Лондан, за Стакгольм, за Берлін. У абліччы нашых вёсак ёсць штосьці, што моцна звязвае нас з Атлантыкай. Мне страшна крыўдна і балюча, калі я слышу як нават сярод культурных людзей ёсць уяўленне, што Еўропай называюць усё, што на захад ад Беларусі. Што да таго, што беларускія пісьменнікі, беларуская літаратура — экзотыка для заходніх краін: так, экзотыка. Калі мы туды прыязджаем, з намі не хочуць гаварыць пра літаратуру. З намі хочуць гаварыць пра палітыку, пра Лукашэнку, пра Чарнобыль. Але ж гэта справа знаходзіцца ў нашых руках. Калі мы будзем прыязджаць і будзем заяўляць: «Мы не хочам гаварыць з вамі, з заходнімі людзьмі, пра Лукашэнку. Мы хочам гаварыць пра кнігі, хочам каб да нас ставіліся сур'ёзна», то ў прынцыпе сітуацыю можна змяніць. Я і мае калегі так і робім. Мы прыязджаем і адразу кажам: «Не, пытанні пра Лукашэнку тут не пракоцяць. Мы будзем гаварыць пра тэкст». Натуральна, калі прыязджаеш на захад, і пачынаеш ныць, што мы такія бедныя, у нас мова памірае, у нас дыктатура, то і стаўленне да нас будзе адпаведнае. А калі ты прыязджаеш упэўненым у сабе чалавекам, з адчуваннем сваёй еўрапейскай ідэнтычнасці, калі ты ведаеш замежныя мовы, то стэрэатыпы вельмі лёгка рассыпаюцца.

М.Г. Что, на ваш взгляд, происходит с беларуским языком?

А.Б. Я не лічу, што беларуская мова вымірае, не лічу, што яна знікае. Яна жыве, у мяне аптымістычныя прагнозы. Як чалавек, які тут нарадзіўся і вырас, я бачу, што з 75-га года, калі я нарадзіўся і па 2020-ы з беларускай мовай усё стала значна лепш. Беларускамоўных стала значна больш. Ёсць беларускамоўныя дзеці, беларуская мова прысутнічае ва ўсіх сферах жыцця. Тое, што дзяржава неяк гэтаму супраціўляецца, а можа і не зусім супраціўляецца, не змяняе агульнай карціны. Для нас не праблема знайсці беларускамоўных суразмоўцаў. У прынцыпе, не праблема атрымаць беларускамоўную адукацыю. Ёсць тая ж літаратура і тая ж журналістыка. Беларуская мова можа быць у даволі цяжкім стане, яна хварэе, але гэта не смяротныя хваробы, гэта хранічныя хваробы.



З.Л. Думаю, шмат хто з вамі не пагодзіцца і пачнуць гаварыць пра

скарачэнне колькасці беларускамоўных школ у параўнанні з Савецкім Саюзам. Пра адсутнасць вышэйшай навучальнай установы на беларускай мове, пра дзяржаўныя радыё і тэлебачанне, якія пры камуністах былі беларускамоўныя, а зараз не.

А.Б. Я не сказаў, што сітуацыя з мовай цудоўная, я сказаў што мова хварэе. Але яна ацалее, яна выжыве. Праблемы, безумоўна, ёсць і іх шмат, але ж беларускамоўная супольнасць у нас дастаткова згуртаваная, гатовая абараняць мову, мае распрацаваныя механізмы такой культурнай самаабароны. Ёсць людзі, сапраўды гатовыя ісці за мову нават на нейкі подзвіг. Ёсць людзі, якія проста яе выцягваюць на сваім энтузіязме. Ну, і трэба глядзець праўдзе ў вочы: калі раней мы былі перакананыя, што беларуская мова жыве ў вёсках, то цяпер самы беларускамоўны горад у краіне — Менск, наша сталіца. Адраджэнне мовы сёння ідзе ў сталіцы, усё пачынаецца тут. Пакуль у Менску будуць гаварыць па-беларуску, мова будзе існаваць і пэўным чынам развівацца ў маштабах усёй краіны. Галоўнае, каб сталіца была беларускамоўная.

З.Л. Калі ўзяць вашых «Сабак Еўропы», то там ёсць дыялогі на трасянцы.

А.Б. І не толькі на трасянцы. Там ёсць і па-расейску.

З.Л. А вы сказалі пра вось гэтую бездань паміж вамі і народам. Ці не ёсць выкарыстанне расейскай мовы і трасянкі завуаляванай спробай неяк прабрацца да масавага чытача?

А.Б. Магчыма, так і ёсць, я ўжо не буду лезці ў нетры ўласнай падсвядомасці. Магчыма, я і праўда хачу, каб мяне зразумела больш людзей, чым я дэкларую. Але насамрэч я так раблю, таму што мяне заўсёды абурала нейкая крывадушнасць беларускай літаратуры. Мы ўсе ведаем, дзе мы жывем, і калі персанажы беларускамоўных раманаў размаўляюць на правільнай і чысцюткай літаратурнай беларускай мове, гэта выглядае смешна. Я хачу праўдападобнасці. Я імкнуся да максімальнай праўдападобнасці, і таму людзі ў маіх кнігах размаўляюць так, як яны размаўляюць у так званым жыцці. Хтосьці па-расейску, хтосьці

па-беларуску, хтосьці на трасянцы, хтосьці на няправільнай расейскай, хтосьці на ламанай беларускай.

М.Г. В ваших романах действия обычно происходят в городе, в кафе, в парках. Насколько среда кафе правдоподобна для Беларуси? Беларусы переехали в города относительно недавно.

А.Б. Так, у асноўным я пішу пра горад. Беларускія гараджане — мае галоўныя героі, мае любімыя персанажы. Я іх вельмі разумею, люблю. Я ведаю, што яны думаюць і як яны размаўляюць. Што да вёскі, то нядаўна я напісаў эсэ пра беларускую вёску, якое называецца «Мухі ў малацэ». Яно было перакладзена на расейскую мову, а потым на нямецкую, выйшла ў Нямеччыне, і немцы чамусьці вельмі палюбілі гэтае эсэ. Яны з задавальненнем яго чытаюць і пастаянна параўноўваюць са сваёй нямецкай вёскай. Гэта вельмі забаўна. Яны чытаюць эсэ пра беларускую вёску, пра нашых мух у малацэ, і кажуць: «І ў нас жа вось таксама было, абсалютна, і я, калі маленькі быў, там прыязджаў там у саксонскую, цюрынгскую вёску, і ўсё было абсалютна гэтаксама».

М.Г. Но кафе в Минске вот только недавно начали появляться, нет?

А.Б. Зусім не згодны пра нядаўна і не вельмі разумею, як вы памераеце час. Нядаўна − гэта калі? У дзевяноста першым годзе мне было шаснаццаць гадоў і для ўсіх маіх знаёмых і сяброў у Менску было вельмі важным, каб кавярні і ўсё гэтае багемнае жыццё, Еўропа, нарэшце прыйшлі ў Беларусь. Мінула трыццаць гадоў. Так ці інакш, але мы атрымалі тое, чаго хацелі. Трыццаць гадоў беларусы жывуць і ходзяць у кавярні, і для іх гэта абсалютна натуральна.

М.Г. Просто беларуская литература в прошлом веке жила такими деревенскими сюжетами.

А.Б. Жыла, але ўсё змянілася. У дзевяностыя гады, а можа яшчэ і ў васьмідзясятыя, маладое пакаленне беларускіх пісьменнікаў ужо свядома супрацьпастаўляла сябе вёсцы, вясковай культуры. І не думаю, што вось сёння гэта настолькі ўжо важна. Я хачу сказаць, што для бела-

рускай мовы, беларускай літаратуры горад — гэта не штосьці новае. Гарадская стыхія даўно намі асвоена. Сёння ў нас ёсць мода на тэксты пра вясковае жыццё, але яны пішуцца гараджанамі і для гараджан. І потым, гэта толькі мода, яна абавязкова пройдзе, а аснова — горад, і ягоны лад жыцця застанецца.

З.Л. У вашых раманах ёсць героі, якія шукаюць нацыянальную ідэю, спрабуюць разабрацца са сваёй ідэнтычнасцю?

А.Б. Ёсць, і мушу сказаць, што ў маіх кніжках гэта не самыя сімпатычныя героі. Звычайна, калі такія персанажы ў мяне з'яўляюцца, то гэта людзі вельмі няшчасныя, якія заблыталіся ва ўласным патрыятызме і не могуць знайсці адказаў, бо занадта вераць у догмы. У тым ліку і нацыяналістычныя. У мяне ёсць раман «Дзеці Аліндаркі» − лінгвістычны трылер пра канцлагер, у якім дзяцей адвучваюць гаварыць па-беларуску, хірургічным шляхам спрабуючы вярнуць іх да «чыстага рускага языка». Там ёсць такі персанаж — бацька дзяўчынкі. Ён беларускамоўны і перакананы, што ягоная дачка — апошняя беларускамоўная дзяўчынка ў Беларусі. Ён верыць, што яна не проста дзяўчынка, што яна панясе беларускую мову далей. Ён ускладае на маленькую дзяўчынку вялікую нацыянальную місію, і гэта трагедыя гэтага персанажа, яго злачынства. Ламаць дзіцю жыццё тым, што ты ўскладаеш на яго такія дарослыя, такія сур'ёзныя рэчы — гэта не вельмі правільна. То-бок, у мяне гэта не адмоўныя персанажы, але складаныя, вельмі нешчаслівыя і дэзарыентаваныя.

М.Г. Насколько трагедия — это беларуский жанр?

А.Б. Бачыць паўсюль трагедыі, бачыць усё самае кепскае, цёмнае — гэта звычка хутчэй не беларусаў, а літаратараў. Ёсць такое перакананне, што навошта пісаць кнігі, калі ў цябе ў жыцці ўсё так светла, так цудоўна і ты належыш да шчаслівай нацыі? З майго пункту гледжання, ува ўсіх трагічны лёс, у нашых суседзяў ён не менш трагічны, чым у нас. Кніжкі ў беларускай літаратуры на самой справе даволі злыя і саркастычныя. Мы з жонкай шмат разважаем, чаму так. Можа быць, нам ужо надакучыла проста смяяцца. За апошнія дваццаць пяць гадоў мы ўжо так насмяяліся,

што жываты баляць і сківіцы звяло. Сёння там дзе чалавек мусіць смяяцца, ён толькі пазяхне, або ўздыхне: «ну колькі ўжо можна, ну?» Можа быць, справа ў тым, што гэта літаратура стомы. Вялікай стомы.

З.Л. Ці можна неяк змяніць сітуацыю, вярнуць энергію?

А.Б. Мне здаецца, тое, што ўжо сфармавалася, будзе існаваць і далей. Людзей, якія ўспрынялі нацыянальную ідэю як сваю, якія жывуць у адпаведнасці з ёй, так і будуць з ёй жыць. Далей будзе адбывацца такая пастаянная зваротная і ўзаемная дыфузія. Малая колькасць людзей, меншасць, будзе цягнуцца да нацыянальнай ідэі, нацыянальнай ідэі, да нацыяналізму, да нацыянальных каштоўнасцяў. Большасць — не, не будзе. Колькі мы ні будзем іх дзяўбці нацыянальнай ідэяй, яны ўсё роўна яе не ўспрымуць. Не іхнае гэта, не з намі яны. Што нам з імі рабіць? І ці трэба? Чаму мы мусім прымушаць іх верыць у тое, ува што верым мы? Чаму мы вырашылі, што гэта ім неабходна?

З.Л. Але ж можна неяк пераканаць?

А.Б. Калі беларуская літаратура і наогул літаратура здольная штосьці зрабіць для нацыянальнай ідэі, то яна гэта робіць самім сваім існаваннем. Ужо робіць. Тое, што ёсць кнігі, напісаныя па беларуску, прызнаныя ў свеце, прызнаныя аўтарытэтнымі спецыялістамі ў галіне літаратуры, − гэта само па сабе сцверджанне, што і нацыя ёсць, і нацыянальная ідэя прысутнічае. Хіба гэта не працуе на нацыянальную ідэю, калі мы прыязджаем за мяжу, выступаем там, а нам кажуць: «О, дык у вас такая някепская літаратура ў Беларусі?» Гэта ўжо робіць для нацыянальнай ідэі значна больш, чым калі мы будзем у кнігах наўпрост і не вельмі наўпрост пераконваць чытача ў тым, што яму не асабліва блізка.

З.Л. Нацыянальная ідэя Альгерда Бахарэвіча, у адпаведнасці з якой ён жыве?

А.Б. Ёсць такое слова, якое вельмі прыгожа гучыць па-беларуску і таксама на іншых славянскіх мовах. Слова, якое ўсе славяне зразумеюць без перакладу, — свабода. На ёй усё грунтуецца, з яе ўсё пачынаецца,

ёй усё і сканчаецца. Калі мы будзем свабодныя, то будзе ў нас і нацыянальная ідэя і будзе ўсё астатняе. Гэта мой галоўны пасыл, які я нясу свету. Свабода!



# ВІКТАР
# МАРЦІНОВІЧ

## «БЕЛАРУСКУЮ НАЦЫЯНАЛЬНУЮ ІДЭЮ СФАРМУЛЮЕ GOOGLE»

euroradio·fm

Гутарылі Зміцер Лукашук, Максім Гаруноў
Фота Еўрарадыё

З.Л. Вітаю паважаных слухачоў, сёння мы спрабуем знайсці нацыянальную ідэю з пісьменнікам, аўтарам шасці тоўстых раманаў, Віктарам Марціновічам. Добры дзень, Віктар.

В.М. Привет.

З.Л. Один из наших гостей, сказал, что поиск национальной идеи — это такая паранойя. Вы с ним согласны?

В.М. Мне кажется, что разговор про беларускую национальную идею не столько параноидален, сколько шизофреничен. Шизофрения – это раскол субъекта, множество видений, которые никак не объединены. У беларусов с их национальной идеей схожая ситуация. Сколько белорусов, столько и национальных идей. Для каждой социальной группы представление о национальной идее, о пантеоне культурных героев, об истории будет несколько иным.

М.Г. Мои знакомые в Удмуртии говорят о чём-то подобном.

В.М. Ну, мне кажется, мир сейчас меньше озабочен выстраиванием национального пантеона, чем это было, скажем, сто лет назад. В случае с Беларусью сыграло свою роль более позднее, чем у соседей, формирование национального государства. Мне кажется, мы ничуть и ничем не хуже, чем чехи, поляки, сербы. Просто нам несколько не повезло со временем.

З.Л. Вы сказали, что национальная идея не очень актуальна. А беларусам она вообще нужна или нет?

В.М. Конечно, нужна. Хотя бы для того, чтобы объяснить себе и окружающим, кто ты, и тут я вижу важное изменение, которое произошло за последние 20 лет: откуда-то появились «global Belarusians». 20 лет назад беларусы, уехав из страны, изо всех сил старались забыть, что они беларусы, старались стать американцами, голландцами, норвежцами. Сейчас есть «global Belarusians», которые остаются беларусами и за пределами Беларуси. В целом их представления о национальной

идее, о Беларуси довольно комичные. Они готовят драники для своих американских друзей, носят вышиванки. Они нифига не читают национальной литературы, слабо изъясняются по-беларуски, если это вообще от них требуют. Но они появились, они есть, и это важно само по себе.

З.Л. Если у нас, как вы говорите, в каждом сообществе своя национальная идея, то можно ли их обобщить в какую-то одну сверхидею?

В.М. Мне кажется, что они у нас слишком разные, и в этом проблема. Идея, о которой вы меня спрашиваете, – это не просто какой-то слоган. Это нечто, что вырастает из культуры, и у меня ощущение, что процесс роста ещё не завершён. Достаточно прочитать комментарии на «Onliner», на «TUT.BY», а потом сопоставить их с комментариями на «Нашай Ніве», и станет очевидно, насколько это разные сообщества и насколько они незрелые. Наверно, мы согласны с тем, что мы не русские, но это такое слабое согласие. Если бы русская идея заключалась в том, что у них нет никакой национальной идеи, то беларусы, чтобы отличить себя от русских, сказали бы, что национальная идея у нас есть, и на этом с удовольствием прекратили бы думать о ней. Не уверен, что этого достаточно.

З.Л. А есть ли у беларусов какая-то духовная миссия? Вот у русских духовная миссия есть, они о ней всюду говорят.

В.М. Мне трудно говорить о беларуской духовности. Это скользкая и туманная тема. Я убеждён в том, что беларусы являются наименее верующей нацией в своём регионе. У нас есть православная церковь, есть католический костёл, но если говорить про метафизику, про ответ на вопрос о том, что нас ждёт после смерти, то мне кажется, что беларусы слабо верят в ответы, сформулированные церковью и костёлом. Старые ответы для беларусов не канают. Может быть, отсюда, с разговора о том, что будет с беларусом после смерти, и надо начинать выстраивание национальной идеи? Мой новый роман как раз посвящен вопросу: «что такое Бог?» Я твёрдо верю, что концепция перерождения в 21 веке более актуальна. И я считаю, что нужно возвращать в публичные дискуссии

обсуждение моральных вопросов. Проблема в том, что постмодерн убил право писателя и философа говорить о том, что морально, а что нет. Писатель сегодня – это такой ироничный игрок в бисер, он только шутит и смеётся. Ввиду этого мораль как тема для обсуждения уходит не только из религиозной сферы, но и из культурной. Мы о ней просто не говорим. Мне кажется, что было бы правильно заново определиться с тем, что плохо, а что хорошо. Например, твёрдо сказать, что врать плохо. Мы с 2010 года привыкли, что врать – нормально, что враньё — это норма. Я считаю, что такие новые нормы надо пересматривать, и это будет прекрасный заход к выстраиванию национальной идеи, общей для всех беларусов.

М.Г. Это будет какая-то новая мораль, не такая, как у христиан?

В.М. Часть ответа на этот вопрос я дал в романе, который выйдет в сентябре. Чтобы не спойлерить, я не буду пересказывать, но намекну, что фишка в том, что основания морального поведения давно сформулированы. Если кратко, то нужно стараться творить добро и стараться не творить зла. Многие религии пытались их переформулировать на свой лад. Но есть отдельные нюансы. В индуизме, например, нет ничего про ложь и кражи.

З.Л. С вашей точки зрения, ситуация в Куропатах является свидетельством забвения морали, о котором вы говорите?

В.М. Мне кажется, что ситуация в Куропатах обусловлена тем, что люди, которым нечего делить, разведены по разным сторонам. Есть клиенты ресторана. Есть владельцы ресторана. Вместо того, чтобы сближаться, они конфликтуют. И есть третья сторона, о которой, слава Богу, у нас начали вспоминать. Я говорю о чиновниках, благодаря которым это противостояние возникло. Зачем было одной рукой создавать мемориал, а другой отдавать бизнесменам участок среди крестов? Мне кажется, нам следует думать не о тех, кто вложил деньги, а о тех, кто позволил вложить деньги. На мой взгляд, это фундамент конфликта. У меня ощущение, что ситуация создана специально. Пока мы рубимся на тему, кто подлец, а кто нет и как плохо, что в Куропатах

построили кабак, мы не говорим и не задумываемся о чём-то более важном, что изобильно происходит вокруг нас.

З.Л. То есть, проблема упирается в наши законы?

В.М. Скорее в то, как наши законы применяются на практике. Формально чиновники ничего не строили на месте массовых расстрелов. Они просто дали «зелёный свет» на стройку, зная наперёд, что если что-то пойдёт не так, у них всегда будет возможность отмотать назад и сказать: «вы нас не так поняли». Вообще эта тема — «вы нас не так поняли» – является чисто беларуской. Когда в Германии говорят «нельзя», то это железное «нельзя», хоть ты тресни. У нас есть много ситуаций, где режим говорит: «Нельзя, но в принципе можно» — и вот это мне крайне не нравится.

М.Г. А вам не кажется, что благодаря этой ситуации беларуская национальная идея становится менее туманной? Люди уточнили отношение к своему прошлому, лучше себе его представили.

В.М. Нет, не кажется. Куропаты являются частью нашей национальной идеи начиная с 1988 года. Не знаю, кем надо быть, чтобы жить в Беларуси и совсем ничего не знать о Куропатах. В этом контексте я даже могу сформулировать конкретно эту часть нашей национальной идеи: «Мы в 1937 году делали вещи, за которые нам стыдно, и мы за это извиняемся». Нам нужно сказать «извините» за то, что было в Советском Союзе. Вообще было бы правильно сделать в Куропатах некрополь и если не приносить туда цветы каждое воскресенье, то хотя бы относиться к нему с уважением.

З.Л. Язык для национальной идеи — насколько это важно?

В.М. Это очень важно, но на данном этапе, если мы будем выстраивать национальную идею на беларуском языке, то исключим из нашего проекта примерно 70% беларусов. Язык важен для Беларуси будущего. Для Беларуси настоящей, той, в которой мы живём, думать нужно о других составляющих. Хотя в том числе и о языке. Конечно, важны

литература на языке, театр на языке, кино на языке. Но нужно думать и о тех людях, которые не могут говорить на беларуском и не понимают его.

З.Л. Ещё один важный момент: кто может сформулировать общую беларускую национальную идею? Чиновники, как признался сам Лукашенко, так и не смогли её сформулировать. Литераторы, журналисты, музыканты, художники или некая другая группа — кто?

В.М. Беларускую национальную идею будет формулировать Google. Google стал главным философом сейчас, наш язык и наш образ мысли поменялся. Мы мыслим Google-запросами. Мы скоро забудем, что такое грамматика. Мы уже не можем большие тексты читать.

З.Л. И как её сформулировать кратко?

В.М. У меня есть красивая и сочная формулировка из дневников Короткевича, опубликованных в прошлом году: «Трэба церабіць сваю сцежку». Беларусь — нация грибников. Мы молча ходим по лесу и ни в коем случае не сдадим свои грибные места. Но при этом, когда из леса выходим, важно, чтобы боровики лежали наверху, а сыроежки и тому подобная грибная дребедень и мелочёвка — снизу.

З.Л. Допустим, у нас получилось сформулировать национальную идею. Что нам нужно сделать, чтобы эта идея запала в сердце и душу беларусов?

В.М. Сделать по ней яркий ролик и набрать девять с половиной миллионов просмотров на Youtube.



# ЮЛІЯ ЧАРНЯЎСКАЯ

## «МАГЧЫМА, УНУКІ НАЗАВУЦЬ ЛОЗУНГ «ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!» НАЦЫЯНАЛЬНАЙ ІДЭЯЙ»

euroradio·fm

Гутарылі Зміцер Лукашук, Максім Гаруноў
Фота Еўрарадыё

З.Л. Вітаю ўсіх слухачоў, сёння ў нас у гасцях літаратар, этнакультуролаг, прафесар Юлія Чарняўская. Добры дзень.

Ю.Ч. Добрый.

З.Л. Спадарыня Юлія, вось мы тут прыйшлі да высновы, што нацыянальная ідэя ў беларусаў ёсць. Вы з гэтым згодныя?

Ю.Ч. Безусловно. Другое дело, что она существует в нескольких вариациях. Нация — это такое сложное политическое объединение свободных людей, в котором большую роль играют группы. Вот мы ещё с советских времён привыкли думать, что в любом обществе есть три группы: есть правительство, есть народ и есть так называемая «узкая прослойка интеллигенции». На самом деле групп гораздо больше, и у каждой есть своё отдельное представление о национальной идее. В своей книге «Белорусы. От «тутэйшых» к нации» я описала семь вариантов белорусской национальной идеи. Книга была опубликована почти десять лет назад, за это время появилось ещё несколько. Важно, чтоб над этими групповыми национальными идеями был консенсус относительно базовых ценностей. Базовых для всех групп, без исключения. Этот консенсус обычно и называют национальной идеей какого-нибудь народа. В Беларуси этот консенсус должен быть принят и пророссийскими группами, и религиозными, и просоветскими, и национальными, и проевропейскими. Если консенсуса нет, если группы не могут договориться о базовых принципах своего совместного существования, то это сильно осложняет жизнь в обществе. И я сразу же хочу оговориться: мы с вами сейчас национальную идею не выдумаем. Национальную идею не придумывают.

З.Л. Да вашых слоў пра тое, што ў нас сем нацыянальных ідэй, я зараз папрашу паставіць відэа вельмі вядомага ў Беларусі чалавека. Калі ласка.

Уключаюць запіс прамой лініі Аляксандра Лукашэнкі.

Журналіст. На ваш взгляд, нужна ли нам национальная идея?

Лукашэнка. Кратко и честно: ни я, ни Радьков, который целую книжку написал, ни Рубинов, который тоже книжку написал о национальной идее, они до сих пор у меня прямо на столе лежат в загородной резиденции. Я уже их не читаю. Но то, что они прорабатывали и вырабатывали, начиная от патриотизма и философской основы, все это правильно, но на душу и сердце не ложится. Нужна такая идея, чётко и кратко сформулированная, чтобы она захватила всех. Даже вот киты, Давыдько, Кисель там, Козиятко и прочие, мы их привлекали, я уже не говорю о Павле Изотовиче Якубовиче, он уже плюётся от этой идеи, ему уже это надоело. Мы никак не смогли её административным образом сформулировать. Я всё больше убеждаюсь: наверное, мы не пришли в своём развитии к той точке, когда бы эта идея ударила всех по мозгам и по сердцу. И я успокоился. Думаю, ну раз общество ничего предложить не может, и я тоже не могу придумать и даже боюсь это говорить, потому что это очень ответственно. Живём как живём без этой идеи, а хотелось бы. Но её нет, её нет. И я абсолютно убежден: выдумать ее невозможно. Нас к этому должна подвести сама жизнь, само развитие нашей страны.

М.Г. Очень похоже на российское понимание. В России такие масштабные вещи как национальная идея придумывает Администрация Президента. Предполагается, что у неё абсолютная монополия в этих вопросах. У московского философ Андрея Ашкерова в своё время была шутка про
«рождение духа российской нации
из скрипа половиц
в коридорах президентской
администрации».
Здесь тоже самое: национальную идею придумывают чиновники. Если чиновники не могут определиться, значит, ничего определенного пока нет. Тот факт, что национальную идею, особенно в восточной Европе, обычно придумывали не чиновники, а поэты, журналисты, гражданские активисты, в расчёт не берётся.

Ю.Ч. Мне кажется, что Александр Григорьевич Лукашенко сказал гораздо более мудрую вещь, чем считает Максим. Александр Григорьевич

сказал, что национальную идею нельзя создать ни мерами литературных кружков, ни мерами интеллектуальных элит. Знаете, почему?

З.Л. Чаму?

Ю.Ч. А вы когда-нибудь думали, почему Александр Григорьевич Лукашенко имеет достаточно большое число сторонников среди людей из самых разных слоёв нашего общества? Нет? Потому, что своими словами он всё время попадает в людей, в массы. Неизвестно, как ему это удаётся, но это факт. В отличие от него, интеллектуалы попадают только в себя и себе подобных. Они не попадают в среднего человека. Даже в среднего человека с высшим образованием они не попадают. Средний человек обычно смотрит на «митусню» наших групп с их национальными идеями и говорит, что ребята, мне скучно вас слушать, я пошёл.

М.Г. Скучно почему?

Ю.Ч. Есть известная фраза, что генерал всегда играет прошедшую войну. Вот мы, интеллектуалы в Беларуси, все время играем прошедшую войну. Мы не готовы говорить о современности. У нас есть, к примеру, совершенно замечательный философ, который утверждает, что поскольку Беларусь якобы не прошла всех циклов становления нации, то ей надо начинать с основ. С его точки зрения это значит, что беларусам нужно вернуться к язычеству, прислушаться к духам предков, к традиции. Как к таким идеям относится наш средний человек? Скорей всего, прохладно, со скепсисом. Мы пролетели все эти стадии. Они остались у нас в прошлом. Предложение вернуться назад — очевидно искусственное и надуманное, вряд ли найдёт много сторонников.

З.Л. Вы сказалі, што мы ўжо прайшлі ўсе стадыі і нават праляцелі іх. Ці значыць гэта, што нацыя ў нас ёсць?

Ю.Ч. Все признаки нации у нас налицо. У нас есть суверенитет. Не надо говорить, что мы экономически, культурно или как-то ещё зависим от соседей. У нас есть суверенитет, это самое важное. Люди чувствуют

себя беларусами, называют себя беларусами. Большая часть граждан Беларуси говорит, что их родной язык беларуский, хотя может никогда им не пользоваться. Я могу это пояснить на своём примере. Когда Советский Союз разрушился, мне было 29 лет. Так получилось, что я воспитывалась в семье, где был беларуский язык. Это было редкостью для тогдашних беларуских городов. Мой дедушка был беларуский писатель, и я знала беларуский язык с детства. Я очень хорошо помню, что, когда был Советский Союз, мы не очень отделяли себя от россиян. Мы понимали, что мы беларусы, но представляли себя как русский субэтнос. Когда появилась суверенная Республика Беларусь, это название многим из нас казалось лишним. Но со временем вдруг стали замечать, как сами начали им пользоваться. Потом вдруг заметили, что мы перестали читать российские новости. Сперва читали через день, потом раз в неделю. Вдруг стало не очень интересно: это не у нас. И в итоге мы с удивлением обнаружили, что наша идентичность изменилась, последовательно и незаметно окрепла.

З.Л. А вось іншы вялікі наш філосаф ужо трыццаць гадоў сумняваецца, ёсць мы ці не. Гэта нам аб нечым гаворыць?

Ю.Ч. Пока мы посыпаем главу пеплом и говорим, что мы не нация, до тех пор мы не будем чувствовать себя нацией. Тот факт, что у нас идут постоянные споры о том, есть мы или нет, тоже ни о чём дурном не свидетельствует. Французский философ Эрнест Ренан говорил, что нация — это ежедневный плебисцит, постоянный спор, постоянный поиск. Нация — это процесс, понимаете? Не надо считать нацию чем-то стабильным. Вот мне приходит на ум Израиль. Израильское общество тоже состоит из групп и есть много разобщённости, особенно в религиозных вещах. Но когда приходит война, опасность, мальчики и девочки надевают военную форму и вместе идут оборонять свою страну. Я видала, как женщины и мужчины, которые в обычной жизни будут грызться, ссориться (евреи — народ темпераментный) выходят на улицу и кормят их. Прямо вот с борщом выходят, с котлетами, суют котлеты солдатам в карманы. Несмотря на всю свою разобщённость и готовность спорить, они замечательно объединяются, когда есть угроза. И я совершенно не сомневаюсь, что, если в Беларуси, не дай Бог, появится

реальная угроза существованию страны, мы очень хорошо увидим, что мы нация.

З.Л. Які-небудзь прыгожы слоган нам, як нацыі, патрэбны?

Ю.Ч. Национальная идея — это не слоган и не голос крови. Национальная идея, на мой взгляд, — это ежедневные взаимодействия между людьми. Вот тут надо искать. Придумать общие правила, по которым люди ежедневно взаимодействуют, мы не сможем никогда. Их никому не придумать, ни государству, ни интеллектуальной элите. Они появляются сами. Мы можем только для своих групп придумать некие ценности и некие слоганы, а общие — нет.

З.Л. То-бок, яна ў нас ужо ёсць і ёй трэба проста даць вызначэнне?

Ю.Ч. Вот, опять же, вы говорите об определении, но нация — штука пульсирующая, текущая, ей трудно дать определение. Человек не должен каждую секунду ощущать себя причастным к нации. Вот я привела пример с Израилем. У меня там живёт дочь и уже теперь внучка. В Израиле общее чувство причастности к нации бывает, когда есть какое-то противостояние с внешними силами. Или когда есть повод для гордости. Допустим, во время мероприятия, которого нет в других странах. Сейчас в Тель-Авиве интенсивно готовятся к гей-параду, на который съезжается весь мир. Или праздник Пурим, когда все веселятся в карнавальных костюмах. Но в нормальный жизни бывают ситуации, когда кажется, что в одной стране живут просто разные народы.

М.Г. А есть пример национального объединения, не связанного с войной или с праздниками?

Ю.Ч. Швеция. Мои шведские друзья однажды хорошо сказали мне, что они очень благодарны судьбе за Полтаву. После того поражения они перестали заниматься войной и начали совершенствовать свою жизнь. На данный момент национальная идея шведов очень негромкая и неотчётливая: совершенствовать свою повседневность. Эта идея начинается не в коридорах власти и не в литературных салонах. Она

начинается от волонтёров, от людей, которые хотят помочь нуждающимся, поддержать их, наладить мир вокруг себя. У нас волонтёров примерно 4 процента от всего населения, а в Швеции процентов 50, если я не ошибаюсь. Они в самом деле этим увлечены. Мирное постоянное совершенствование своей жизни тоже может быть национальным консенсусом, который объединяет все группы.

З.Л. Адраджэнне мовы можа стаць такой вось аб'яднаўчай для ўсіх ідэяй?

Ю.Ч. На определённом этапе, безусловно, может. А с другой стороны, я вижу круг людей, которые не хотят, чтобы беларусы заговорили по-беларуски. Я имею ввиду тех, кто публично смеётся над ошибками, публично стыдит. Они сбивают абсолютно желание учить родной язык. У меня такое ощущение, что эти люди хотят быть главными беларусами мира.

М.Г. Насколько в нынешних условиях важна национальная литература?

Ю.Ч. Она важна, но вы понимаете, что в наши дни нужны уже какие-то иные механизмы. Мир медиа изменился самым радикальным образом. Если раньше литература была структурообразующим моментом, то теперь литература таким моментом не является. Я в девяностые годы – то есть, совсем вот недавно – носилась по Минску с идеей массового большого перевода всей классики мировой литературы на беларуский язык. Сейчас книги и романы ушли на вторые и третьи роли, стали уделом, условно говоря, посетителей литературных салонов. В наши дни важнее видео, мультфильмы, активность в социальных сетях в поддержку языка и на языке.

М.Г. А я правильно понял, что беларусы — это про постепенность и избегание резких поворотов?

Ю.Ч. У беларусов довольно своеобразный исторический опыт, связанный с войнами. Помня о нём, мы всегда растворяемся, уходим, прячемся. Мы незаметные, мы как бы не слышим, мы как бы не видим, мы как

бы ускользаем. Это очень ярко и чётко выражено в беларуских крестьянских сказках. Особенно в сюжетах про отношения мужика и пана. Мужик всегда либо недослышит приказ пана, либо сделает всё буквально, хотя пан говорил в переносном смысле. Такой посильный непрерывный саботаж. Вот этот посильный саботаж будет тут всегда. Это великолепное средство спасения, когда рядом сильный воинственный сосед. Это не только спасение жизни, но и способ удержания своего. И важно, чтобы беларус считал, что Беларусь, вот эта культура, этот мир, эти дома, эти города — это своё.



# АДАМ
# ГЛОБУС

## «БАРАНІ СВАЁ АЖ ДА ЗНІШЧЭННЯ ЗДРАДНІКАЎ – ВОСЬ НАША НАЦЫЯНАЛЬНАЯ ІДЭЯ»

euroradio·fm

Гутарылі Зміцер Лукашук, Максім Гаруноў
Фота Еўрарадыё

З.Л. Вітаю ўсіх слухачоў, наш сённяшні госць — пісьменнік, мастак, выдавец Адам Глобус.

А.Г. Я.

З.Л. Спадар Адам, нацыянальная ідэя у нас ёсць? Нам яе трэба выпрацоўваць ці трэба пакапацца ў архівах?

А.Г. Што значыць — пакапацца? Мы ёсць. Беларусь ёсць, і, адпаведна, ёсць беларуская ідэя. Без ідэі не паўстала б ні Беларусь, ні наша мова, ні наша культура, ні наша, урэшце, дзяржава. Я вам сфармулюю, як яна гучыць для мяне. Можа, для іншага яна гучыць інакш, а для мяне яна гучыць вельмі проста: «Барані сваё». Два словы. Барані сваё. Вось такая ў нас беларуская ідэя. Калі ў некага ёсць іншая ідэя, хай выкажа, а я паспрачаюся.

М.Г. Чем-то похоже на украинскую национальную идею Леся Подервянского. В переводе на цензурный русский она звучит как «отстаньте от нас».

А.Г. Не, гэта не зусім так. Беларуская ідэя — гэта пафасная ідэя. У нас з украінцамі сапраўды падобная нацыянальная ідэя. Яна, можна сказаць, нават аднолькавая. Нацыянальная ідэя імперыі — гэта заўсёды экспансія, месіянства. Нацыянальная ідэя невялікай нацыянальнай дзяржавы, якой з'яўляецца і Беларусь, і Украіна, і шмат хто яшчэ — гэта менавіта абарона. Вось наш замак, вось наш дом. Я берагу сябе, сваіх блізкіх, абараняю свой дом, абараняю сваю мову, культуру, дзяржаву ў тым ліку.

М.Г. Оборона подразумевает членство в больших союзах? В ЕС, например?

А.Г. Заўсёды любая дзяржава, якая б яна ні была, частку сваіх правоў дэлегуе нейкай імперыі. Мне хацелася б, каб мы менш сваіх правоў дэлегавалі на ўсход і больш на захад. Але, разам з тым, не габлялі сваёй ідэнтычнасці. Пры гэтым трэба разумець, што ў Беларусі вельмі складанае становішча. Купала вельмі дакладна апісваў: ёсць заходнія вучоныя і ёсць усходнія вучоныя. Заходнія вучоныя цягнуць нас на захад. Усходнія цягнуць на ўсход. Бываюць часы, калі нас наогул падзяляюць на дзве часткі: частка на усходзе, частка на захадзе. Як пра гэта добра напісаў наш геніяльны Колас, «нас падзялілі, нас не спыталі нават». Я, дарэчы, дапускаю, што нас могуць і падзяліць, такое можа быць.

З.Л. А можаце прывесці прыклад абароны?

А.Г. У той жа літаратуры, напрыклад. Мне, як паэту, цікава не геапалітыка, а фундаментальная геапаэтыка. Я разумею, што наша нацыянальная ідэя фармулюецца нашымі паэтамі, нашымі літаратарамі, нашымі бацькамі нацыі. Менавіта нашымі, уласнымі, а не кімсьці звонку. Імперыі заўсёды як бы намагаліся прызначыць нам класікаў. Напрыклад, са Стакгольма, з Нобелеўскага камітэта, прысылаюць нам чалавека і кажуць: віншуем вас, у вас новы класік вашай літаратуры. Ці з Масквы нам прысылаюць і кажуць: вось Быкаў, мы даем яму Ленінскую прэмію, цяпер ён ваш асноўны пісьменнік, віншуем вас. А ёсць пісьменнікі і паэты, якіх мы самі выбіраем для сябе — Багдановіч і Караткевіч. Вось на іх і трэба ў першую чаргу звяртаць увагу. Дарэчы, менавіта яны і сфармулявалі жорсткую паэтычную тактыку нашай беларускай ідэі: не «барані сваё», а «жорстка барані сваё». Усе, хто будзе здраджваць радзіме і Беларусі, будуць жорстка пакараны. Здраднік будзе не проста злоўлены і пасаджаны за краты — ён будзе забіты. Да гэтага заклікаў Багдановіч. Тое ж самае ў Караткевіча ў «Дзікім паляванні караля Стаха»: усе здраднікі радзімы, усе, хто прадалі Беларусь і свайго караля Стаха, будуць пакараныя і іх нашчадкі будуць таксама пакараныя. Вось такая беларуская ідэя. Жорсткая і бескампрамісная.

М.Г. Звучит довольно националистично. Знакомый украинский бизнесмен как-то сказал, что если бы Россия стала демократической страной с развитой современной экономикой, то националистов в Киеве никто бы не слушал.

А.Г. Я адразу растлумачу, што я паэт, і перакананні ў мяне не нацыяналістычныя. Па перакананнях я анархіст, прытым радыкальны. Не сіндыкаліст, а анарха-індывідуаліст. Я лічу, што я, маё — гэта вельмі каштоўнае. Лёс нацыяналістаў мяне наогул мала хвалюе. Мяне хвалюе я, мая сям'я, мае суседзі, мая вуліца, якую я буду бараніць, мой горад, мая сталіца і мая дзяржава. Гэта мне бліжэй, бліжэй майму я. Мяне хвалюе мая мова, мой народ, мая нацыя, таму што гэта маё.

М.Г. А что с Россией?

А.Г. Па-мойму, бессэнсоўна здзіўляцца таму, што Расія ніяк не становіцца нармальнай дзяржавай. Расія − гэта імперыя і паводзіць сябе як імперыя.

Але не трэба яе абсалютызаваць. Яна далёка не апошняя імперыя на планеце. Мы маем Кітай. Адносна сваіх правінцый Пекін паводзіць сябе значна больш жорстка, чым Масква адносна сваіх правінцый. І я думаю, што імперыі будуць заўсёды. Нам, як беларусам, бліжэйшая еўрапейская імперыя, гэта новая канструкцыя з еўра, з Бруселем. І мяне не вельмі турбуе лёс Расіі. Мяне больш непакоіла, напрыклад, што Англія выйшла з Еўрасаюза. Гэты крок мяне сапраўды збянтэжыў.

М.Г. А Россия  может измениться, как вам кажется? Насколько это вероятно?

А.Г. Мая знаёмая паэтка Вера Маркава, якая нарадзілася ў Мінску і перакладала старажытна-японскую паэзію на рускую мову, за што японскі імператар даў ей званне «геніяльная руская перакладчыца», лічыла, што Расіі, каб стаць нармальнай, сучаснай, перспектыўнай дзяржавай, трэба згарнуцца да памеру Масковіі. Вось як Аўстра-Венгерская імперыя згарнулася да памеры Аўстрыі. Я з ёй згодны. Мне, дарэчы, не цікавы вопыт імперскіх амбіцый Германіі, мары гітлераўцаў аб Трэцім Райху. Для мяне вопыт Аўстра-Венгрыі значна цікавейшы і важнейшы: як аўстрыйскім немцам у працэсе згортвання імперыі удалося захаваць і вялікую музыку, і жывапіс, і архітэктуру і гэтак далей. Пасля ўсіх трансфармацый Вена засталася такой жа цудоўнай, як і была, і гэта вельмі ўражлівы вынік. Я думаю, што Расія, калі згорнецца да памераў Масковіі, таксама можа быць Аўстрыяй.

З.Л. Як ваш лозунг — «Барані сваё» — данесці да беларусаў, каб яны яго ўспрынялі?

А.Г. А мы ўжо гэта робім, ужо даносім. Калі толькі ствараліся ў Беларусі рэстаўрацыйныя майстэрні, першым іх аб'ектам быў Мірскі замак. Гэта замак абарончага тыпу, наглядная дэманстрацыя нашай нацыянальнай ідэі «Барані сваё». Мы аднавілі Мірскі замак і намалявалі яго на грошах. Спачатку на пяці рублях, потым на пяцідзесяці. Кожны, гледзячы на купюру, ведаў, што вось наш абарончы Мірскі замак. Пазней мастакі, рэстаўратары, ідэолагі, аматары нашай беларускай ідэі, выдалі кніжку «Замкі Беларусі».

М.Г. Допустим, я беларус, я получил специальность, которая востребована в Канаде. Я переезжаю в Канаду, жена едет со мной, наши дети начинают ходить в канадскую школу. Допустим, дети знают, что их корни

из Беларуси, но в общем они растут гражданами Канады. С точки зрения «Барани сваё» наша семья является предателями?

А.Г. Ну вы там будзеце бараніць сваё канадскае. Вось і ўсё. І для нас вы здраднік.

М.Г. Эмиграция — это предательство?

А.Г. У пэўнай ступені канешне.

З.Л. Наш з вамі сябра Фелікс Аксёнцаў жыве ў Таронта. Ён здраднік?

А.Г. У сваім інтэрв'ю часопісу «Маналог» ён столькі разоў сказаў, як ён ганарыцца канадскім пашпартам. І у тым жа інтэрв'ю ён кажа, што самае важнае, самае паўнавартаснае жыццё, якое ён пражыў, было ў рэвалюцыйныя дзевяностыя, калі мы баранілі сваё, калі мы запачаткавалі сваю новую дзяржаву, калі мы змаглі перамагчы тую трухлявую савецкую імперыю, разваліць яе і знішчыць. Для яго гэта былі самыя каштоўныя гады жыцця. Пры гэтым, я ні ў якім разе не асуджаю палітычных эмігрантаў, якія з'ехалі з краіны, ратуючы свае жыцці і лёсы. У майго бацькі быў дзядзька Ян Шайбак, брат маёй бабы. Ён быў у «Грамадзе», у Заходняй Беларусі. Калі прыйшоў сталінскі Савецкі Саюз, яму давялося ўцякаць ад рэпрэсій. Ён жыў недзе ў Польшчы і нават пасля вайны баяўся вяртацца, таму што за яго даваенную палітычную дзейнасць яго б адразу адправілі ў лагер. Я не магу назваць яго здраднікам.

М.Г. Смоленск, Чернигов, Белосток — это своё или не своё?

З.Л. Вільня?

А.Г. Вільня — наша культурная сталіца. Ясна, што гэта наша, як і Беласток, але «Барані сваё» не запачаткоўвае экспансіі. Імперыі могуць нас правакаваць на экспансіўныя дзеянні, але мы павінны казаць ім «не». У тым ўся справа, што «Барані сваё» — гэта абарона, гэта трыста спартанцаў, якія будуць стаяць супраць арды Дарыя.

З.Л. На сёння ў Беларусі даволі шмат прыхільнікаў так званага «русского мира». Вось мы сустракаем заўтра такога прыхільніка, і як мы павінны з ім паступіць: «біце ў сэрцы іх, біце мячамі»?

А.Г. Так. «Не давайце чужынцамі быць. Хай пачуюць, як сэрца начамі аб радзімай старонцы баліць».

З.Л. Ну, гэта вельмі прыгожы верш класіка беларускай паэзіі, а ў рэальнасці як мы павінны паступіць?

А.Г. А ў рэальнасці, ведаеш, ёсць яшчэ верш: «рэжце гітлерцаў паганых, каб не ўскрэслі век яны». Гэта Купала.

З.Л. Мы ж законапаслухмяныя грамадзяне, ёсць Крымінальны кодэкс.

А.Г. Дык мы ж пакуль не рэжам нікога. Мы проста цытуем нашу класіку, якую ў школе праходзім.

М.Г. Сейчас между Литвой и Беларусью есть граница, и она серьёзно охраняется, а между Россией и Беларусью границы нет. Не кажется ли вам, учитывая историю Великого Княжества Литовского, что охраняемая граница должна быть на востоке страны, а не на западе?

А.Г. Я ж анархіст. Я наогул супраць любой мяжы. З іншага боку, а чаму наша мяжа з Літвой здаецца вам менш важнай, чым мяжа з Расіяй? А мяжа з Латвіяй? Што вы пра яе вы думаеце? Ваша пытанне здаецца мне вельмі плоскім і аднабокім. Наша сітуацыя значна складанейшая, чым вы сабе ўяўляеце. Да нядаўняга часу я, напрыклад, ведаў, на якім баку я ў расійска-ўкраінскім канфлікце. Потым я паглядзеў украінскі фільм «Кібаргі». Жудасны фільм, прапагандысцкі, як і ўсё кіно пра вайну. Пасля прагляду я раптам задумаўся: калі будуць біцца латышы з літоўцамі, які бок выберу я? Для мяне высветлілася, што я не ведаю. Калі беларусы пачнуць выбіраць за латышоў яны ці за літоўцаў, далёка не ўсе выберуць літоўцаў. Зараз частка беларусаў стаіць на рускім баку, частка стаіць на ўкраінскім баку. У гэтым канфлікце наша пазіцыя бліжэйшая да нейтральнай. Але гэта не адзіны магчымы канфлікт. Які бок мы выберам, калі ўзнікне польска-літоўскі канфлікт? Сітуацый можа быць значна больш, чым мы сёння сабе ўяўляем і пра гэта нам таксама варта задумацца. Калі паглядзіш з поўначы на поўдзень, а потым з поўдня на поўнач, то раптам высвятляецца, што выбар не такі адназначны, як падаваўся спачатку.

М.Г. Я имел в виду, что у литовцев с беларусами долгая общая история.

А.Г. У нас з кожным суседнім народам свая агульная гісторыя. З палякамі ёсць агульная гісторыя, з украінцамі, з літоўцамі. Пра латышоў чамусьці забываюць. Паміж намі і латышамі ёсць яшчэ латгалы са сваёй мікрамовай, пра якіх мы таксама забываем, а трэба помніць. Абарончы замак трымае ўвесь перыметр.

М.Г. Со всеми пятью соседними народами у беларусов есть общая история, но ни одна из них не важнее остальных?

А.Г. Так. Я роўна стаўлюся да ўсяго перыметра. Мы ўсіх любім аднолькава роўна. Латышоў мы любім, як літоўцаў, рускіх мы любім, як палякаў. Для мяне, напрыклад, усе палякі вельмі падобныя да рускіх, а рускія да палякаў, хоць яны крыўдзяцца, калі ім пра гэта кажуць, я часта гэта бачыў.

З.Л. «Барані сваё» пад якім сцягам?

А.Г. Калі, напрыклад, сёння пойдзе экспансія і наша войска будзе бараніць сваё пад сцягам сённяшняй дзяржавы, то я скажу што трэба бараніць сваё пад сённяшнім сцягам. І калі Лукашэнка кажа, што выйдзе з кулямётам бараніць сваё, я разумею, што ён выйдзе за сваё, выйдзе пад сённяшнім сцягам, і я яго падтрымаю. Больш за тое, я не веру чалавеку, які кажа, што ён не пойдзе бараніць нашу бацькаўшчыну пад гэтым сцягам.

З.Л. А мова? Гэта мае значэнне?

А.Г. Я лічу, што ёсць розніца, на якой мове мы гаворым і на якой мове баронім сваё. Але я не супраць, калі людзі, якія гавораць на іншай мове, будуць таксама бараніць наша, беларускае. Я не супраць, што беларусы, якія гавораць па-руску, будуць са мной сядзець у адным акопе. Разумееце? Але я заўсёды буду казаць: хлопцы, усё ж такі давайце праспяваем «Купалінку».

З.Л. У вас ёсць бачанне, на што нам, беларусам, трэба спадзявацца?

А.Г. У любым выпадку, пры любых абставінах я буду расказваць унукам пра Беларусь і спадзявацца на якасны скачок, як у дзевяноста першым. У савецкі час мы таксама захоўвалі нашу спадчыну, перадавалі яе нашым дзецям, а потым здарыўся гэты скачок, і ў нас з’явілася свая краіна. Тое ж самае і цяпер. Трэба захоўваць і чакаць новага скачка, калі наша родная

мова стане патрэбная краіне і нашы праекты пачнуць ажыццяўляцца. Трэба чакаць скачка, спадзявацца на якасны эвалюцыйны скачок. Рэвалюцыйна-эвалюцыйны скачок, так яго назавем.

З.Л. А важна, каб дзяржава прыняла нашу гэтую нацыянальную ідэю?

А.Г. Я анархіст, я на дзяржаву не спадзяюся. Я спадзяюся на сябе, на сваю сям'ю, на свае каштоўнасці, на свае магчымасці. І на свой народ, дарэчы.

З.Л. І што, дзяржава ніколі не будзе нацыянальнай?

А.Г. Будзе, куды яна дзенецца. Беларусь у любым выпадку застаецца нашай беларускай Беларуссю, ні кім іншым. Я памятаю, як літоўцы, калі яны рабілі сваю рэвалюцыю, казалі што яны зараз зробяць са сваёй Літвы Галандыю. Потым яны зрабілі, а Галандыі не выйшла. Усё адно засталася Літва. І мы таксама, і дзяржава наша. Калі мы думаем, што мы ўвойдзем у Еўропу і кардынальна зменімся, то гэта не так. Мы ўсё адно застанемся Беларуссю. Са сваім паўночным кліматам, з гэтым сваім таполевым пухам, з гэтым вечным хлюпаннем носам. Зараз кожны парыжанін пакашлівае, а мы хлюпаем носам. Ну, такі клімат, разумееце. Клімат жа мы не зменім. Палітычную сітуацыю мы можам змяніць, і ўрэшце яна паціху змяняецца, а клімат не.

М.Г. У. меня последний вопрос: если я «бараню сваё» на территории Беларуси — я беларус?

А.Г. Канешне.

М.Г. Я бараню Беларусь как своё — и всё, я свой?

А.Г. Так. Заходзь, канешне. У нас як і паўсюль у свеце. Калі ты прыехаў у Канаду і кажаш: «Я буду бараніць Канаду», то табе ніхто не скажа «не». Табе скажуць: «Ну, калі ласка».




# АНДРЭЙ ХАДАНОВІЧ

## «МАЯ НАЦІДЭЯ: БЕЛАРУСЬ МУСІЦЬ БЫЦЬ БЯЗМЕЖНАЙ ВА ЎСІХ СЭНСАХ»

euroradio·fm


Гутарылі Зміцер Лукашук, Максім Гаруноў
Фота Еўрарадыё

З.Л. Вітаю ўсіх слухачоў, наш сённяшні госць — можа быць, адзін з самых папулярных беларускіх паэтаў Андрэй Хадановіч. Добры дзень, Андрэй!

А.Х. Добры дзень, вы, безумоўна, перабольшваеце з добрымі словамі, але дзякуй, дзякуй, добры вечар!

З.Л. На ваш погляд, хто павінен найперш фармуляваць нацыянальную ідэю? Можа, паэты, музыканты, мастакі, палітыкі?

А.Х. Думаю, калі звярнуцца да нашай гісторыі, то паэты яе і фармулявалі. Я лічу, што ў тым, якія мы ёсць, вінаваты некалькі беларускіх паэтаў, якія ў розныя часы сфармулявалі рознае разуменне таго, хто такія беларусы. Першыя пакаленні паэтаў малявалі беларусаў пераважна па марксісцкіх лекалах як «прыгнечаны клас», як народ «рабочых і сялян». Дагэтуль школьнікаў мучаць тэкстам «А хто там ідзе» Янкі Купалы. Вялікі паэт напісаў адзін з найсумленнейшых сваіх тэкстаў, дзе намаляваў беларусаў як вялікую колькасць людзей з рукамі ў крыві, з нагамі ў лапцях, якія, як заўважыў адзін сучасны пісьменнік, нясуць сваю крыўду. Усе народы нясуць сваю праўду, а гэтыя нясуць сваю крыўду. Купала і некаторыя яго папярэднікі бясконца эстэтызавалі правілы жыцця сялян і рабочых, гулялі ў гэтую гульню і не разумелі, наколькі гэта небяспечна. У першую чаргу, для іх саміх, для інтэлектуалаў і паэтаў. У выніку ў 1994 годзе людзі з купалаўскага «А хто там ідзе» ўрэшце абралі сабе прэзідэнта, як ім падказвала іх крыўда, іх рукі і ногі, якія недалёка адышлі ад лапцей.

З.Л. А былі спробы выправіць сітуацыю, адысці ад савецкага бачання?

А.Х. Былі, вядома, але з вялікім спазненнем. Першым спахапіўся ў 60-х пісьменнік Уладзімір Караткевіч, які пачаў фармуляваць іншае бачанне беларусаў — выкшталцоных, адукаваных, на якіх, у адрозненне ад «рабочых і сялян» з іх «лапцямі і крыўдай», хацелася быць падобнымі

хлопчыкам і дзяўчатам, якія жывуць у горадзе, ходзяць у школу і разлічваюць паступіць ва ўніверсітэт. У адрозненне ад Купалы, Караткевіч зрабіў стаўку на культ шляхецкай арыстакратычнай Беларусі Сярэднявечча. Але на мой погляд, гэта было не самае ўдалае рашэнне праблемы. Пры ўсёй прыгажосці праэкта Караткевіча, ён відавочна скіраваны кудысьці ў мінулае. Як на мяне, людзі, якія падсядаюць на гэтую версію беларушчыны, непазбежна цягнуцца ў мінуўшчыну за кошт забывання сённяшняга і будучыні. Яны жывуць пазаўчарашнім днём і думаюць пра сучаснасць не прагматычна, а часам нават не паліткарэктна.

З.Л. І які вы бачыце выхад?

А.Х. У вяртанні ў Еўропу. Мне згадваецца Мілан Кундэра з яго культавым тэкстам «Трагедыя Цэнтральнай Еўропы». Як і галоўныя героі Кундэры, мы жывем на ўскрайку цывілізацыі. Мы настальгуем і цягнемся да яе цэнтра. У Кундэры цэнтр уяўляўся Парыжам, Лонданам, Мюнхенам, Прагай. Гэты спіс можна працягваць. Галоўнае, што гэта месца, дзе выконваюцца законы, шануюцца правы кожнага чалавека. То-бок там, дзе чалавечае жыццё. Зноў жа, праблема ў тым, што сучасны Захад зрабіўся зусім не такім, як мы сабе прыўкраснадушна нафантазіравалі. Зараз мы часцей чуем пра нашэсці правых, пра хвалю ксенафобіі, пра Brexit і гэтак далей. На фоне гэтых навін я радзей думаю пра сябе як пра еўрапейца і часцей як пра нашчадка партызан, якому, можа быць, хутка трэба будзе сыходзіць у лес.

М.Г. А если европеец, но не географически, а как сторонник идеи свободной открытой Европы?

А.Х. Я тое ж самае меў на ўвазе пра партызан. Гэта будзе еўрапейскі партызан. Тут трэба адзначыць, што Беларусь у сваіх марах аб сабе ніколі не была маналітнай, манатоннай. Наш умоўны «залаты век» — гэта нашы фантазіі, і іх даволі шмат. Гісторык Арлоў ніколі не бачыў

Вялікага Княства Літоўскага, пра якое піша. Лукашэнка ніколі не бачыў партызаншчыны і Вялікай Айчыннай вайны, пра якую прымусіў чытаць усім ідэалагічныя курсы. Але яны ў гэта вераць, клічуць ісці за імі. Мне някепскай эпохай бачацца 20-ыя гады, калі ў Беларусі была дзяржаўная беларуская, дзяржаўная польская, дзяржаўная ідыш, дзяржаўная руская мовы. Мне было б камфортна ў такім асяроддзі. Мне здаецца, з таго часу мы толькі дэградуем, губляем важныя фрагменты нашай спадчыны. Але агульнае ва ўсіх гэтых фантазій тое, што мы фантазіруем пра Еўропу ці пра яе водбліск, жывучы па сутнасці на мяжы Еўропы. Таму, як я ўжо сказаў, наш новы партызан будзе еўрапейскі.

М.Г. А можно сказать, что есть Беларусь Короткевича (Беларусь в пальто и в шляпе) и Беларусь Янки Купалы (мужики в лаптях), и они конкурируют? Сейчас победили те, кто от Янки Купалы, а те которые Короткевича, ждут своего часа.

А.Х. Мне здаецца, гэта ўжо састарэлы канфлікт. Ён губляе сваю сілу. Акрамя людзей Караткевіча і людзей Купалы, ёсць ужо іншыя людзі. Яны з'явіліся ў нас на вачах і актыўна асвойваюць свет вакол сябе, вакол нас. Гэта чацвёртае пакаленне і чацвёртае бачанне свету, не нацэленыя ні ў 41 год, ні ў 17 год, ні ў 16 стагоддзе. Гэта людзі, якія адкрылі для сябе інтэрнэт, адкрылі наяўнасць гадавой, двухгадовай альбо, барані Божа, шматгадовай шэнгенскай візы. У іх зусім іншы праект Беларусі. Яны менш звязаны з тэрыторыяй, хочуць жыць у адкрытай, свабоднай і ўвогуле ў бязмежнай краіне. Дарэчы, мая ідэальная Беларусь — гэта краіна, з якой у момант раздражнення я буду мець магчымасць з'ехаць, каб паглядзець на яе з віленскай, з пражскай, з парыжскай, з нью-ёркскай перспектывы.

З.Л. На час з'ехаць – гэта можа быць такой нейкай нацыянальнай ідэяй?

А.Х. Гэта палавінка маёй ідэі. Я хацеў сказаць, што ў чалавека ёсць права на безумоўна адкрытыя межы, на магчымасці іх перасякаць,

пераходзіць у шырэйшы свет. Наша няшчасце ў тым, што Беларусь — шмат для каго такое месца, якое лепей любіць на адлегласці. Канешне, цяжэй любіць свой народ, калі ён у гадзіну пік у тралейбусе топча табе ногі. Нашмат прасцей, калі паміж вамі дыстанцыя.

З.Л. Дзе-небудзь у венскай каве з кубачкам кавы.

А.Х. Так, у Вене за кубкам кавы любіць Беларусь зручней за ўсё. Мне даводзілася выступаць у кампаніі некалькіх літаратараў у швейцарскіх гарадах. Я думаў: ну, хто прыйдзе на беларускую паэзію ў Базэлі? Але людзі прыйшлі. Акрамя некалькіх аматараў, каторыя гатовы чытаць нас у перакладзе, прыйшлі жанчыны, якія з’ехалі з Беларусі, шчасліва ажаніліся і ўжо шмат гадоў жывуць у Швейцарыі. Гэтыя цётачкі двух беларускіх слоў звязаць не могуць і, відавочна, не маглі раней, калі жылі ў Беларусі. Але яны плачуць, слухаючы беларускія словы ў нашым выкананні. Плачуць абсалютна ні ў тых месцах. Выступалі камічныя паэты, але сам факт гаварэння па-беларуску непазбежна прабіваў іх на слёзы. Працэсы, якія не адбываліся з імі ў Беларусі, пачалі адбывацца з імі на дыстанцыі, на адлегласці. Беларуская мова зрабілася прыкметай чагосьці, што не было прыкметай для іх тут. Увогуле, ад свайго паходжання не так проста пазбавіцца, як можа здацца. Мой старэйшы калега Мінкін напісаў верш, які называецца «Хата». Гарадскі жыхар раптам знаходзіць паміж высокімі дамамі старую, усю в павуцінні, хату. Унутраны голас папярэджвае яго: не заходзь. Ён зайшоў і занурыуся ў хтанічную атмасферу сапраўднай беларускай хаты. Потым ён выйшаў, але на наступны дзень ён зноў прачнуўся ў гэтай хаце. Увесь верш, колькі б ён ні рабіў, куды б ён ні ўцякаў — наступнае абуджэнне заўсёды там.

З.Л. У гэтым бязмежжы ёсць месца культуры, традыцыям, мове?

А.Х. Я думаю, месца ёсць і гісторыям, і традыцыям, і культурам, і мовам. Усяго гэтага мусіць быць шмат. Але яно мусіць быць да выбару і на фоне

чагосьці вельмі важнага. Правоў чалавека, свабоды слова, узаемнай павагі, напрыклад. А самы галоўны рэцэпт поспеху — існаванню Беларусі, беларускай культуры і беларускай мове не мусіць нічога пагражаць. Пры адсутнасці пагрозы Беларусь будзе, мне здаецца, талерантнай, цярпімай да іншасці шматкультурнай. Усе тыя схільнасці маіх калег да маленькіх таталітарыяў унутры сябе, да навязвання нейкіх каштоўнасцей — яны не ад добрага жыцця. Яны з’яўляюцца вынікам пастаяннай пагрозы вайны, звязаныя з нежаданнем быць заўтра акупаваным.




# ВАЛЕР БУЛГАКАЎ

## «СЁННЯ СПРОБЫ СФАРМУЛЯВАЦЬ НАЦІДЭЮ — АНАХРАНІЗМ, ЦЯГНІК СЫШОЎ»

euroradio·fm

Гутарылі Зміцер Лукашук, Максім Гаруноў
Фота Еўрарадыё

З.Л. Вітаю ўсіх слухачоў, гэтым разам у нас у гасцях рэдактар часопіса «Архэ» Валер Булгакаў. Добры дзень, спадар Валер.

В.Б. Добры.

З.Л. Спадар Валер, Вы выдаяце сур'ёзны часопіс на гістарычную тэматыку, шмат ведаеце, а вось што такое нацыянальная ідэя?

В.Б. Тыповы занятак савецкай інтэлігенцыі. Палякі, немцы, ужо не кажучы пра брытанцаў і іншых прадстаўнікоў еўрапейскіх нацый, даўно такой хірамантыяй не займаюцца. А вось у нашай частцы Еўропы, дзе працэсы фарміравання нацыі не дабеглі да канца і дзе існуюць канкурэнцыі розных нацыянальных праектаў, працягваецца бурленне наконт нацыянальнай ідэі. Само па сабе, гэта пытанне накшталт «вечных вопросов русской литературы девятнадцатого века»: «что делать?» і «кто виноват?». Збоку можа здацца, што ў нас ідзе нейкая выпрацоўка, хаця гэта, на мой погляд, не вельмі карэктна. Калі кажуць, што давайце выпрацуем у 2018 годзе нацыянальную ідэю – гэта нонсэнс. Гэтыя ідэі былі выпрацаваны 100–150 гадоў таму назад. Што такое нацыянальная ідэя для сучаснага немца? Ці што такое нацыянальная ідэя для сучаснага брытанца ці для сучаснага француза? Для іх гэта было актуальна ў 18–19 стагоддзі.

З.Л. Можа быць гэта таму, што беларусы як нацыя яшчэ не сфармаваліся?

В.Б. Гэта пытанне не на адну бутэльку. Беларуская нацыя, на мой погляд, знаходзіцца на стадыі фармавання, і мы да канца не ведаем, які праект пераможа. Зараз перамагае праект нацыі, народжаны ў нетрах БССР. Але з другога боку, мы знаходзімся ў сітуацыі гульні розных праектаў: паслаб трошкі поле палітычнай канкурэнцыі, дай трошкі свабоды – і зноў з'явіцца, напрыклад, Беларускі Фронт, які будзе адстойваць канцэпцыю культурнай нацыі.

М.Г. А насколько правильно сравнивать беларуса и француза? Франция была империей, а Беларусь скорее колонией.

В.Б. По-моему, это бессодержательный вопрос. Колониальная история —

это далеко не вся история. Беларусь действительно долгое время была в составе Российской империи. Но вот была ли Беларусь колонией Речи Посполитой? Для польских историков однозначно нет. Для украинских и частично белорусских – скорее да, чем нет. Вообще, изобретение беларусов как нации со своим отдельным языком и собственной территорией – это явление второй половины 19 века, и случилось оно благодаря тому, что Беларусь входила в качестве колоний в состав Российской империи. Российская империя для борьбы с польским национализмом вынуждена была изобрести теорию, согласно которой на этой территории живут не поляки, а восточнославянское население, которое почти русское и у них есть своя страна «Беларусь». Самостоятельное осознание себя нацией происходило у нас поздно, фактически вместе со странами Центральной Азии и даже странами Дальнего Востока типа Вьетнама или Камбоджи. И поэтому наш режим имеет так много общего со среднеазиатскими режимами.

М.Г. Можно ли сказать, что Беларусь — это российский проект?

В.Б. Нет, все гораздо сложнее и запутаннее. Беларуский проект сам по себе очень сложен. Сначала это было антипольское движение. Затем польская католическая элита восприняла этот проект как инновацию, которой можно ударить по России. По крайней мере, я так вижу эту динамику в конце 19 века.

З.Л. А наогул, разважаючы пра нацыянальную ідэю, наколькі трэба паглыбляцца ў гісторыю? Можа быць, хопіць міфаў?

В.Б. Залежыць ад таго, дзе чалавек атрымліваў дыплом аб вышэйшай адукацыі. Людзі ў нас, як правіла, з'яўляюцца гадунцамі савецкай ці постсавецкай сістэмы адукацыі. Савецкая сістэма адукацыі змешвае паняцці этнасу, народа і нацыі. Гэта мешаніна дагэтуль сядзіць у нашай галаве. Можна вычытаць, што беларускі народ пачаў фармавацца 1000 гадоў таму назад альбо 800. Звычайна студэнт ці школьнік можа быць шакаваны развагамі пра тое, што беларускай нацыі 150 гадоў. Яму здаецца, што гэта нейкая крамола і глупства. Але калі мы гаворым пра 1000-гадовую гісторыю беларусаў, то мы гаворым не пра нацыянальнае адраджэнне, а пра тое, калі будзіцелі пачалі будзіць нацыянальны

рух і калі ўзнік праект Беларускай Народнай Рэспублікі. Перад гэтым былі ўжо нейкія палітычныя дакументы — маніфест, нейкае палітычнае мысленне.

М.Г. А когда славяне пришли на территорию Беларуси?

В.Б. Нябожчык археолаг Міхась Чарняўскі ў адным з тэкстаў, якія мы публікавалі, пісаў, што першыя славяне з'явіліся на беларускіх землях у 7–8 стагоддзях. Гэта быў рух з тэрыторыі сучаснай Украіны. У той час рака Прыпяць размяжоўвала славянскае і балцкае насельніцтва. Міграцыя славян адбывалася па рэках, з поўдня на поўнач, і так на балцкіх землях узнікла новая этнічная супольнасць, якую пасля этнографы класіфікавалі як беларусы. Другая вяха — узнікненне рускага народа.

М.Г. В каком смысле «русского»?

В.Б. Паколькі ў нашых галовах мешаніна і вінегрэт, узнікнення рускага народу − які не быў «русскім» у сучасным разуменні, праз два «с», — гэта працэс, які вельмі затушаваны. Мы не адчуваем важнасці гэтага працэсу. Прадстаўніком гэтага народа былі Францішак Скарына, Сымон Будны і маса беларускіх асветнікаў, якія працавалі і існавалі 500–600 гадоў таму назад. Першы дакумент, які паказвае, што насельнікі, сучасныя беларусы, пачынаюць ідэнтыфікаваць сабе як русіны — гэта карэспандэнцыя паміж ганзейскімі купцамі ў 12–13 стагоддзі. Першы маніфест друкаваны — гэта дзейнасць Францішка Скарыны, які надрукаваў сваю Біблію на «рускай мове». Скарына ніводнага разу не падаў сваю нацыянальнасць як беларускую. Для сябе ён быў альбо ліцвінам, альбо русінам. Мову, якой ён друкаваў, была «руская мова», «рускі язык». Гэта вельмі істотная дэкларацыя ідэнтычнасці, якую трэба ўспрымаць гістарычна, без абертонаў. З друга боку, паколькі я ўжо сказаў, мы часткова славяне, часткова балты, быў яшчэ народ ліцвінаў, які да 18-19 стагоддзя пражываў значна далей на ўсход ад цяперашняй літоўска-беларускай мяжы. Літоўскія нацыяналісты ў пачатку 20 стагоддзя да Маладэчна, Валожына, Навагрудка тэрыторыю ўспрымалі як сваю этнаграфічна. Наша гісторыя вельмі старажытная. Мы не чыстыя славяне. Наша рускасць не з'явілася ў нас з прыходам Расійскай імперыі. Яна было задоўга да і без якой-небудзь сувязі з усходнім суседам.

М.Г. А в чём вы видите главную проблему у беларуских националистов?

В.Б. Маразм беларускай сітуацыі ў тым, што відавочныя рэчы, які я тут кажу, успрымаюцца ледзь не як пасягальніцтва на святыню. Гісторыя была больш складаная, шматвымерная, шматперспектыўная, чым тая прымітыўная схема, пра якую яны кажуць.

З.Л. Паслухаўшы Вас, я зразумеў, што прыкмета таго, што наша нацыя да канца не сфармавалася, — гэта менавіта пошукі нацыянальнай ідэі. Але ўвогуле, нам з вамі варта гэтым займацца ці не?

В.Б. Мы з вамі займаемся фармаваннем нацыі, ведучы прыемныя гутаркі на розныя тэмы. Гэта пасланне, якое мы перадаём нашым суродзічам. Мы выкарыстоўваем беларускую мову, і яна мае абмежавальны сэнс. Хто нас разумее, той і ёсць член беларускай нацыі.

М.Г. А есть какие-нибудь отличия от процесса формирования наций в Европе в прошлом и позапрошлом веках?

В.Б. Безумоўна, і іх маса, проста маса. Да прыкладу, у наш час немагчыма фарміраванне нацыянальнай ідэі пры дапамозе вершаў. Напішаш цяпер верш «Якая ты прыгожая, беларуская мова», і з вас будуць смяяцца. Гэта было актуальна ў канцы 19 стагоддзя, калі была адпаведная публіка. Сёння мы фармуем беларускую нацыю, асвойваючы новыя тэхналогіі. Што значыць – фармаваць беларускую нацыю? Гэта значыць, уключаць у дыялог пра беларускую нацыю новыя слаі беларускага насельніцтва, якія раней былі абсалютна абыякавыя. Я хачу праілюстраваць гэта выхадам новага часопіса «Наша гісторыя», які робіць Андрэй Дынько. Абсалютна прарыўны праект. Другі нумар выйшаў тыражом у 10 000 асобнікаў, і гэта паказвае, што выдаўцам удалося прарвацца да новых катэгорый чытачоў. Гэта і ёсць праца над нацыяй.

М.Г. Нация, которая будет сформирована не с помощью бумажных медиа, а при помощи электронных, будет какой-то особенной или нет?

В.Б. Мы не знаем, что будет. И мы в принципе плохо понимаем, чего хотят беларусы. Мы, например, не можем ориентироваться на результаты

выборов. В 20 веке в Беларуси свободное волеизъявление граждан было всего пару раз: в 1918 году и в 1994 году, когда на выборах победил Лукашенко. Насколько эти данные могут быть нам полезны? Тиражи бумажных газет, журналов, книг и посещаемость сайтов также не дают картины будущих контуров нации. Нам станет понятно, с чем мы имеем дело, когда в стране начнутся нормальные выборы, но когда это  будет и будет ли в 21 веке вообще?

З.Л. Атрымліваецца з вашых слоў, што фармуляваць ідэю — гэта ўсё глупства, і трэба нешта рабіць, а не фармуляваць.

В.Б. Я хочу сказать, что для серьёзных разговоров о национальной идее поезд давно ушел. В наши дни серьёзный, как у вас на передаче, разговор о национальной идее − это анахронизм. Открыть Америку можно было один раз в 1492 году, вместе с Колумбом. Или ранее, со скандинавами. Открыть Америку в 2018 году уже довольно трудно. Тоже самое и с нациями. В наше время нации изобретены, обдуманы, идеи для них разработаны. Мы в Беларуси о чём-то говорим в силу того, что наша наука находится в плохом состоянии. К сожалению, не все это понимают. Наши учёные ещё не написали обзорных работ о том, что такое национализм и как с ним работать.

М.Г. То есть, концептуально совсем-совсем ничего нового?

В.Б. Что-то новое может быть в использовании  цифрового медиа для продвижения концепций, идей и вообще каких-то воззрений, связанных с нацией. Во всем остальном у нас не получится заново изобрести велосипед. Надо определиться, какая из уже существующих и давно опробованных концепций нам ближе, какая должна, по нашему мнению, восторжествовать. Эффективность этой концепции очень просто измеряется — это добро и мир людям, благосостояние общества, интеграция страны в стабильный и предсказуемый мировой порядок. Чем больше всего этого, тем лучше.



# АНДЖЭЙ ПАЧОБУТ

## «СВАБОДА І ГОДНАСЦЬ» — НАЦІДЭЯ ДЛЯ ГРАМАДЗЯН РОЗНЫХ НАЦЫЯНАЛЬНАСЦЯЎ»

euroradio·fm

Гутарылі Зміцер Лукашук, Максім Гаруноў
Фота Еўрарадыё

З.Л. Вітаю ўсіх слухачоў «Еўрарадыё», гэтым разам мы знаходзімся ў Гародні і сустракаемся з сябрам галоўнага савета Саюза палякаў на Беларусі, Анджэем Пачобутам. Добры дзень, Анджэй.

А.П. Добры дзень, Зміцер.

З.Л. Анджэй, як правільна казаць: вы польскі беларус, ці грамадзянін Беларусі, ці паляк з беларускім пашпартам?

А.П. Канешне, я паляк і грамадзянін Беларусі, так я сабе ўяўляю. Для мяне гэта простая фармулёўка.

З.Л. Вось ёсць такое паняцце як нацыянальныя інтарэсы. Для вас асабіста на першым месцы нацыянальныя інтарэсы Беларусі ці Польшчы?

А.П. Я паляк, які жыве ў Беларусі, для мяне асабіста на першым месцы інтарэсы палякаў, якія пражываюць у Беларусі.

З.Л. А ўвогуле для Вас мае сэнс тэма «паляк і беларуская нацыянальная ідэя»?

А.П. Зразумела. Я ж тут жыву. Для мяне нацыянальная ідэя — гэта мара вось як амерыканская мара. Амерыканская мара, як я яе разумею, — гэта мара аб вольным адкрытым грамадстве. У амерыканцаў грамадзянства вышэйшае за паходжанне, вышэйшае за нацыянальнасць. Мне, як паляку, найбліжэйшым быў бы такі амерыканскі грамадзянскі падыход, не звязаны з паходжаннем. Я за тое, каб беларуская мара была не толькі для беларуса па паходжанні, але і для любога грамадзяніна Беларусі, кім бы ён ні быў.

З.Л. Гэта магчыма?

А.П. Мне падаецца, што ў Беларусі проста няма іншага добрага варыянта. Калі казаць пра інтэграцыю палякаў, якія жывуць у Беларусі, пра палітычнае жыццё рэспублікі, гэта магчыма толькі на грамадзянскай глебе, а не на этнічнай. Этнічна мы тут усе розныя, у нас розныя мовы, і ходзім мы ў розныя цэрквы.

З.Л. Тут, у Гародні, мы сустракаліся з такім умераным нацыяналістам Вадзімам Саранчуковым, які казаў: Беларусь трэба будаваць на аснове беларускай мовы. А што на гэта скажуць палякі?

А.П. Мне падаецца, што не з таго канца мы пачынаем. На аснове мовы ў Беларусі мы нацыю не пабудуем. Так склалася, што беларускую мову ў Беларусі, на жаль, рэдка пачуем. На вуліцы ў Гародні, у Менску, у Магілёве мы яе не пачуем. Трэба быць рэалістамі. Нам трэба гаварыць не пра мову, а пра агульныя правілы, пра свабоды, пра гарантыі. Пра справядлівы суд трэба гаварыць. Я табе кажу як прадстаўнік нацыянальнай меншасці, што мы зараз жывем у свеце канкурэнцыі нацыянальных праектаў. Якая ў нас мара, каб людзі з усяго свету хацелі атрымаць пашпарт грамадзяніна Беларусі? Калі мы гаворым толькі пра мову, то не ўпэўнены, што ў нас будзе шмат ахвочых атрымаць наш пашпарт. Думаю, і ўнутры краіны не ўсе захочуць.

М.Г. Приглашать на эфир поляков — это была моя идея. Я хорошо знаю русское отношение к Беларуси: не должно быть никакой Беларуси, беларус — это русский, который забыл, что он русский. Из того, что я прочитал, следует, что у поляков в начале прошлого века тоже было убеждение, что беларус — это поляк, который забыл, что он поляк, и если ему как следует напомнить, то он исправится. Разница в том, что русские и сейчас так думают, а поляки думали раньше, а теперь нет. Я решил, что поляки в Гродно осознали границу между собой и беларусами.

А.П. Чаму ўсвядомілі? Гэта вы вельмі аптымістычна.

М.Г. Ах, вот оно что.

А.П. Так, у нас, як вы правільна сказалі, былі праблемы з прызнаннем беларусаў народам, роўным палякам. Але сэнс у тым, што калі мы кажам пра 20–30-я гады, мы павінны памятаць, што іншай ідэалогіі тады не было. Калі мы возьмем адносіны да нацыянальных меншасцяў, то можна ўзяць, напрыклад, Габрыелу Геніш і пачытаць, як яна, немка, «цёпла» піша пра чэшскіх нацыяналістаў у Празе. Яны нават прозвішчы перараблялі. Палякі ў 20-х былі не лепшымі за чэхаў, але

і не горшымі. Я прапаную памятаць аб тым, пра якія часы мы размаўляем. У 20–30-я гады інакш не было.

М.Г. Хорошо, тогда когда поляки перестали быть здесь такими апостолами польскости?

А.П. Яны былі заўсёды і застаюцца апосталамі польскасці і ў Гродне ў тым ліку. Палякі былі ў Гродне большасцю, а сталі меншасцю, і гэтак сталася ў выніку Другой сусветнай вайны. Калі мы размаўляем пра Гародню, то ў 39 годзе гэта адно грамадства, у 41 годзе ужо другое, у 44 годзе – трэцяе, у 57 годзе – чацвёртае. Пасля ўсіх гэтых змяненняў палякі з большасці сталі меншасцю, і ў ацалелых быў выбар такі, што можна было з’ехаць у Польшчу, і нехта з’ехаў. А нехта застаўся і пагадзіўся быць меншасцю.

М.Г. Положение поляков в Беларуси похоже на положение русских в Крыму?

А.П. Калі іх там большасць была, а потым стала меншасць, тады шукаць нейкіх аналогій можна. У нашым выпадку ўсё змяніла Другая сусветная вайна, гэта вялікая траўма для палякаў, якія жывуць у Гродне.

М.Г. Тогда смотрите, поляки не одумались, как я думал.

А.П. Не адумаліся.

М.Г. Поляков вытеснили из города, они стали тут меньшинством, если я вас правильно понял. А нет желания вернуть своё?

А.П. Разумееш, пытанне перасоўвання межаў мне падаецца неактуальным.

М.Г. А почему? Произошло какое-то осознание?

А.П. Таму што гэта дарага — перасоўваць межы.

М.Г. То есть, поляки постоянно считают, сколько это будет им стоить?

А.П. Кожны чалавек разумее, што такое перасоўванне мяжы. Гэта кроў, гэта сур'ёзна. Можна казаць, што межы справядлівыя, несправядлівыя. Але яны ёсць, яны нам — дадзенасць.

М.Г. Хорошо, а если вдруг сложится ситуация, когда изменение границы не будет стоить ничего?

А.П. Слухай, мы ж не фантасты, каб фантастыку пісаць. Калі мы былі б фантастамі, мы маглі б маляваць невядома якія сцэнарыі, а пасля казаць: «А ўсё ж такі нейкая пагроза ёсць ад палякаў».

М.Г. Ну, вы так сказали, что мы, поляки, нас мало, и поэтому мы успокоились.

З.Л. Не супакоіліся.

А.П. Ва ўмовах нармальнай сітуацыі я не бачу нейкай пагрозы з боку нацыянальнай меншасці. І пастаноўка пытання, што палякі ў Беларусі прадстаўляюць пагрозу — гэта ў корані памылкова. Побач Літва, у якой палякаў менш, чым у Беларусі. У літоўцаў у свой час таксама было шмат размоў аб тым, што палякі прадстаўляюць пагрозу. Сёння там міністр унутраных спраў — Rita Tamašunienė, полька з польскай партыі «Саюз хрысціянскіх сем'яў». І што? Нічога страшнага з Літвой не стала, калі прыгожая жанчына, якая ў сябе дома гаворыць на польскай, заняла пост шэфа ўнутраных спраў. Якая пагроза? Аказваецца, пагрозы няма.

М.Г. Я задаю эти неприятные вопросы, потому что у меня перед глазами «русская весна» 2014 года. Я был в Москве и видел, как вроде бы образованные люди, узнав о присоединении Крыма и начале боевых действий на востоке Украины, просто сходили с ума. Польская ситуация кажется мне похожей на русскую.

А.П. Я разумею, але ў выпадку з палякамі, якія жывуць у Беларусі, гэта абсалютна неактуальна. Абсалютна ніякай пагрозы няма. Я думаю, што свет усё ж такі мяняецца. Бываюць рэцыдывы, калі людзі паводзяць сябе, як у 20-х, але гэта сыходзіць, людзі становяцца мякчэйшымі. Сёння чалавек, маючы шэнгенскую візу ў пашпарце, можа ўвогуле забыць

пра існаванне меж. З Гродна ў Варшаву можна з’ехаць у любы момант і ў любы момант вярнуцца.

М.Г. Я уточню: вы не видите себя вероятной причиной ссоры между Польшей и Беларусью, как русская община в Крыму?

А.П. Ні ў якім выпадку.

М.Г. Может быть, вы хотели бы сблизить Польшу и Беларусь?

А.П. Мы хацелі, каб так было. Але, на жаль, на сённяшні момант беларускія ўлады бачаць у нас пагрозу і лічаць, што калі не трымаць нас у чорным целе, мяжа вернецца пад Мінск, як гэта было да 39-га.

М.Г. То есть, власти вам не доверяют?

А.П. Так, і гэта не ўчора пачалося. Ціск на палякаў пачаўся адразу пасля Другой сусветнай вайны. У 1948 годзе ўлады зачынілі апошнюю школу, нягледзячы на лямант, на скаргі. Спробы неафіцыйнага навучання польскай мове былі вельмі жорстка падаўленыя, уключаючы крымінальны пераслед. Напрыклад, ксяндзоў, якія арганізоўвалі для дзетак навучанне польскай мове. І трэба яшчэ ўлічыць, што некаторыя беларускія нацыяналісты ў дачыненні да палякаў выступаюць на баку ўлады. Не скажу, што ўсе, але бывалі выпадкі. Нацыяналісты, да прыкладу, любяць выцягнуць нейкую касцельную кніжачку з малітвамі, дзе напісана кірыліцай, і сказаць, што хітрыя палякі ў сваіх касцёлах «апрацоўваюць» беларусаў-вернікаў, каб яны станавіліся палякамі. А сэнс такі, што без сваіх школ, без сваіх медый палякі ў Гродне дрэнна чыталі на польскай мове. Ім прасцей было чытаць польскі тэкст, напісаны не лацінкай, а кірыліцай. Гэтыя кніжачкі — вынік таго, што польскую мову выкарчавалі. Я, дарэчы, бачыў запіску за 1948 год аб Воранаўскім раёне, дзе больш за 80 адсоткаў палякаў. Там нейкі камуністычны агітатар па выніках сваёй агітацыйнай дзейнасці кажа, што сюды трэба прысылаць агітатараў, хто ведае польскую мову. На гэтае пісьмо ніхто не звярнуў увагі. І цяпер не звяртаюць увагі. Прапанова палякам, якая была ў савецкі час, па сутнасці актуальная і па сённяшні дзень: «Вы павінны перастаць быць палякамі».

З.Л. Атрымліваецца, што ў свядомых палякаў у Беларусі, што ў свядомых беларусаў у Беларусі сітуацыя падобная: ад беларусаў таксама патрабуюць, каб яны змянілі ідэнтычнасць, перасталі быць беларусамі.

А.П. Так, таму ў нас адносіны ў 80-я гады былі добрыя, хоць і былі розныя гісторыі. Напрыклад, у Вілейцы быў каменны храм, які спачатку быў касцёлам, потым праваслаўным храмам, пасля быў зноў касцёл, пасля зноў царква. Калі прыйшлі 80-я гады, пачаліся спрэчкі, што гэта будзе — касцёл ці царква. Беларускія нацыяналісты казалі, што гэта іх праваслаўны храм, мы казалі што гэта наш каталіцкі касцёл. Храм у выніку стаў нашым касцёлам, але крыўдных рэплік на адрас адно аднаго было ў лішку. Але па сутнасці, тут антаганізму не было. І мне падаецца, што гэта магчыма захаваць. Канфлікты паміж намі ўсё ж такі павінны быць, у нас розныя інтарэсы. Але калі я думаю пра канфлікты, я думаю толькі пра такі дэмакратычны канфлікт, а не пра нейкі іншы.

З.Л. З майго пункту гледжання, пытанні з цэрквамі беларусы павінны рашаць так: тыдзень касцёл, тыдзень царква.

А.П. Такая прапанова зараз немагчымая, таму што прапанова для палякаў у Беларусі і ад улады, і ад, умоўна кажучы, грамадзянскай супольнасці аднолькавая. І тыя, і іншыя патрабуюць ад нас стаць беларусамі. Але яны адзіныя ў тым, што нам трэба мяняцца. Ты ж паглядзі, як, напрыклад, піша і «Савецкая Беларусь», і «Радыё Свабода» пра беларускіх палякаў. Яны не пішуць, што палякі ў Гродне — гэта палякі. І тыя, і другія пішуць: «людзі, якія сябе лічаць палякамі». І што гэта значыць? Што быў нармальны беларус, а потым раптам прыдумаў сабе, што ён не беларус, і ім трэба вярнуць яго на сапраўдны шлях. Цікава, што «Савецкая Беларусь» — гэта такая класічная савецкая прапаганда з «халоднай вайны». «Радыё Свабода» — гэта амерыканцы, і таксама з «халоднай вайны». Ва ўсіх астатніх пытаннях яны ўжо шмат гадоў смяротныя ворагі, а ў дачыненні да нас яны выступаюць адзіным фронтам. Разумееш? Ясна, што іх агульная прапанова для польскай меншасці неактуальная. Яна проста неактуальная. Польшча — моцная, культурная, паспяховая — яна надта побач, каб проста сказаць нам: «Гэй, вы, давайце, станьце беларусамі. У вас нейкае скрыўленне, мы яго зараз паправім, і будзеце нармальнымі беларусамі». І мы размаўляем пра гэта ўсё ўжо 25 год, улічы.

З.Л. А ёсць нейкі правобраз нейкай такой мары, якую Анджэй Пачобут мог бы прапанаваць?

А.П. Мары з пазіцыі нацыянальнай меншасці не надта палкія. Сёння была лінейка ў польскай школе ў Гродне. 90 дзяцей у першыя класы прынялі, і 11 не прынялі. Нам хочацца, каб і гэтых 11 узялі. У нас такі маштаб. Няўжо гэтым натхніш?

З.Л. У самым пачатку ты згадаў пра сваю амерыканскую мару для Беларусі.

А.П. Я казаў пра тое, што Амерыка пабудавана на грамадзянскіх ідэалах, на справядлівых правілах гульні, а не на падставе мовы. І што нам, як меншасці, гэта пасуе. І іншым меншасцям таксама пасуе, не будзем забывацца пра іншых. Татары, напрыклад, або яўрэі. Лукашэнка нездарма аднавіў татарам іх мячэць у Мінску. Татары хочуць быць татарамі, яны жывуць тут ужо шэсць стагоддзяў, захоўваюць ідэнтычнасць, не растваараюцца і пражывуць яшчэ столькі ж. На праект грамадзянскай нацыі пагодзяцца і яны. На праект нацыі на падставе толькі мовы дакладна не пагодзяцца, хоць яны мову ведаюць. Так, і Беларусь — традыцыйна бедная краіна, а Амерыка казачна багатая і існуе дастаткова доўга, каб казаць, што будаваць грамадства на захаванні правоў і адкрытасці — гэта добрая ідэя. І ты ведаеш, што колькасць людзей, якія тут, у Беларусі, звяртаюцца па грын-карту, расце з кожным годам. Амерыканская мара свеціцца на Беларусь, і адсюль маю прапанову: не трэба гуляць з гэтым у амерыканскія латарэі, вывучаць праграмы, як адсюль з'ехаць, вучыць чужую мову, ляцець за акіян. Трэба тут, у нас дома, будаваць тое, што нам на самой справе так падабаецца, да чаго нас цягне, што ўжо шмат разоў і ўсяму свету даказала сваю эфектыўнасць.



# АЛЯКСАНДР ВАСІЛЕВІЧ

## «НАЦЫЯНАЛЬНАЯ ІДЭЯ МУСІЦЬ УВАСАБЛЯЦЬ НЕ БЕЛАРУСЬ МІНУЛУЮ, А БЕЛАРУСЬ БУДУЧЫНІ»

euroradio·fm

Гутарылі Зміцер Лукашук, Максім Гаруноў
Фота Еўрарадыё

З.Л. Мы працягваем пошукі беларускай нацыянальнай ідэі. Сённяшні госць — партнёр вельмі беларускага рэкламнага агенцтва, Аляксандр Васілевіч. Я ведаю, што пару дзясяткаў гадоў таму, была такая працоўная група, якая спрабавала распрацаваць пэўную нацыянальную ідэю. Атрымалася?

А.В. Не, таму што ў гэтай працоўнай групе, на жаль, было зашмат людзей. Яны ўсе былі розныя, цяжка было прымусіць іх працаваць над адным праектам. Тым не менш, гэта быў цікавы досвед.

З.Л. А ўвогуле, нейкі вынік ёсць?

А.В. Выніку не было.

З.Л. Нават, не наблізіліся да фармуліроўкі праекта?

А.В. Нават не наблізіліся.

З.Л. А да разумення таго, што нейкая нацыянальная ідэя нам увогуле патрэбная?

А.В. Гэта вельмі складанае пытанне. У сучасным свеце ідэі нацыянальных дзяржаў патроху трансфармуюцца. Ёсць такое. І мне падаецца, гісторыя з нацыянальнымі ідэямі таксама павінна неяк трансфармавацца. Раней усё было сканцэнтравана на мінулым. Нацыянальныя ідэі будаваліся перш за ўсе на тым, што было калісьці. Цяпер, як мне падаецца, больш важна тое, каб ідэя глядзела ў будучыню. Увесь сэнс сучаснага жыцця — гэта накіраванасць на тое, што будзе праз год, праз некалькі дзясяткаў год. Гэта больш цікавае.

З.Л. Можа, іншым нацыям, у якіх у свой час была свая нацыянальная ідэя, збудаваная на гістарычных мэтах, мінуўшчына ўжо і не трэба. А нам?

А.В. Магчыма, і трэба, але на мой погляд, сёння гэта не асноўнае. Асноўнае — будучыня, тое, што будзе далей. Якую супольнасць альбо краіну мы жадаем пабудаваць? Якой вось гэтую нацыю мы жадаем бачыць праз дзесяць ці, скажам, пятнаццаць гадоў? Як яна павінна выглядаць? На якіх агульных каштоўнасцях яна будзе існаваць? Як яна будзе выглядаць у сучасным свеце? Што мы павінны рабіць для таго, каб у сучасным свеце мы не зніклі, не змыліся і проста не былі неактуальнымі? Разумееце? Трэба глядзець на некалькі крокаў наперад, тады гэта будзе больш мець права на жыццё.

З.Л. А з мінулым як? Забываемся?

А.В. Я не гавару, што нам трэба забыць пра Вялікае Княства Літоўскае, Беларускую Народную Рэспубліку і ўсё іншае. Зразумела, што пра гэта трэба памятаць. Але, тым не менш, што вось у дадзены момант турбуе большасць сучасных людзей, у тым ліку і ў Беларусі? Іх турбуе іх будучыня і тое, што адбываецца зараз, а не тое, што было калісьці раней. Паглядзіце, людзі змяніліся. Як мы ведаем з гісторыі, раней нават у асвечанай і адукаванай Еўропе можна было даволі лёгка адшукаць мільёны людзей, якія былі згодныя загінуць за кайзера, за айчыну, за нейкія ідэі, за яшчэ што-небудзь. Зараз такіх усе менш і менш. Людзі мяняюцца, мяняецца грамадская супольнасць, падыход да жыцця. Трэба адшукваць нейкія такія рэчы, якія адпавядаюць гэтым людзям. Якія могуць іх аб'яднаць.

М.Г. Например?

А.В. Павінна быць нешта такое, з чым вы заўжды будзеце атаясамліваць сябе, не важна, жывяце вы ў Беларусі ці ў нейкай іншай краіне. Трэба нешта такое, каб у вас была магчымасць казаць: я жыву ў Нью-Ёрку ці я жыву ў Варшаве, але я не меншы беларус, чым беларус, які жыве ў Беларусі. Я ганаруся і цікаўлюся тым, што адбываецца ў мяне на радзіме. Магчыма, не ў краіне, а ў горадзе Менску. На мой погляд, вось сёння, у наш час, не мае асаблівага значэнне, дзе ты жывеш, у якім месцы. Усё залежыць ад таго, да каго ты сябе адносіш і ці робіш ты свой унёсак у гэта.

М.Г. А роль государства в национальной идее?

А.В. У нас зараз ёсць нейкая дзяржаўная нацыянальная ідэя, і пра яе мы з вамі не гаворым, таму што ў гэтым пакуль няма сэнсу. Мы размаўляем пра нацыянальную ідэю, якую ўсе мы павінны выпрацаваць самі для сябе і потым выкарыстоўваць у сваім жыцці, параўноўваць сябе з ёй. Наша нацыянальная ідэя павінна існаваць для звычайных людзей, для грамадзян. Тут не мае значэння нават генетычнае паходжанне. Гэта могуць быць і рускія, якія вырашаць стаць беларусамі.

З.Л. Нацыянальная ідэя будучыні, пра якую мы зараз гаворым, на якой мове будзе сфармулявана?

А.В. Клас. Вы мяне так пытаецеся, быццам я гэтую ідэю ўжо сфармуляваў. Да мовы ў мяне даволі простыя дачыненні. Большую частку свайго часу я бела-

рускай мовай не карыстаюся. Я на ёй чытаю і магу неяк размаўляць. Херова, але ж неяк размаўляю. Я працую ў рэкламным агенцтве. З кліентамі я карыстаюся расійскай мовай, потым ангельскай, потым беларускай. Ёсць месцы, ёсць сябры, з якімі я карыстаюся беларускай. Я заўжды прытрымліваўся погляду, што чалавек, які адукаваны, які добра цяміць, павінен ведаць некалькі моў. Нават, калі ён, як я, не мае схільнасці да іх вывучэння. Таму, на мой погляд, беларускую ведаць трэба, і гэта добра. Адказваючы на ваша пытанне пра мову для нацыянальнай ідэі: абавязкова яна павінна быць на беларускай мове. Але таксама яна можа быць і на расійскай, і на ангельскай. Зразумейце, што калі мы глядзім у будучыню, мы павінны быць троху рамантыкамі, але пры гэтым трэба мець пачуццё рэальнасці і здаровы цынізм. Калі мы хочам з гэтай рэальнасцю працаваць, трэба яе трохі падладжваць пад сябе. Калі ты яе пераробліваеш пад сябе, ты павінен разумець бар'еры, якія ў цябе есць. Трэба разумець, што ёсць рэчы, якія ты можаш зрабіць, і ёсць рэчы, якія зрабіць даволі цяжка.

З.Л. Будучыні і мінулага ў нацыянальнай ідэі павінна быць пароўну, пяцьдзясят на пяцьдзясят?

А.В. Дваццаць на восемдзесят. Дваццаць для гісторыі дастаткова, на мой погляд. А вось восемдзесят трэба пакласці на сучаснасць і на будучыню. Як я ўжо заўважыў, сучаснасць і будучыня − гэта тое, што сёння сапраўды займае людзей, турбуе, моцна прыцягвае іх увагу. Гістарычны падмурак важны, але гэта не ўсё. Толькі падмурку недастаткова, каб зрабіць нешта на самой справе важнае і значнае для цяперашніх людзей

З.Л. Як вы лічыце, тое, што адбываецца ў Курапатах, яно неяк нацыю цэментуе? Ці не цэментуе? Як вы ўвогуле ставіцеся да гэтай сітуацыі?

А.В. Па-першае, калі адбываюцца такія рэчы, у грамадстве робяць акрэсленне «свой альбо чужы» − і гэта ўжо добры падмурак для іншых рэчаў. У людзей, з якімі я сябрую, ёсць разуменне таго, што гэта непрымальна. Хутчэй за ўсё мы не паедзем на акцыі пратэсту перад дзвярыма гэтага рэстарана. Але мы ўвогуле не паедзем у гэты рэстаран. Акрамя таго, ведаеце, у гэтай краіне, на грамадзянскую супольнасць толькі-толькі пачынаюць звяртаць увагу. Нават дзяржава. Грамадзянскай супольнасці ў нас ці не было, ці яна была, але ніяк сябе не выяўляла. Зараз, дзякуючы перш за ўсё сучасным электронным медыям, сацыяльным сеткам, мы бачым на свае вочы што грамадзянская супольнасць у нас ёсць. Калі чалавек збудаваў хлеў у цэнтры Мінска, праз сучасныя медыі да яго хутка даходзіць, што палова насельніцтва лічыць, што

гэта хлеў. Ён жа думаў, што гэта добры будынак, прыгожы. Што ён і грошы заробіць, і ўпрыгожыць горад. А грамадзянская супольнасць з усіх бакоў гучна яму тлумачыць, што гэта не так. На мой погляд, гэта правільна і выдатна. Адказ грамадства павінен выпрацаваць правілы паводзін. Напрыклад, каб хто-небудзь іншы не пабудаваў яшчэ адзін леў на процілеглым баку Свіслачы.

З.Л. Вяртаючыся да ідэі: яе ў нас няма, я вас правільна зразумеў?

А.В. Сфармуляванай, канешне, няма. Але рэчы, якія з'ядноўваюць людзей альбо будуць з'ядноўваць, ствараюцца ўжо зараз. Яны будуць у тым выглядзе, у якім ёсць зараз. Калісьці мы рабілі даследаванне беларусаў для сваіх рэкламных мэт. Гэта было гадоў дзесяць таму. Нас тады цікавілі, перш за ўсе, жыццёвыя і базавыя каштоўнасці беларусаў. І там было бачна, што палова беларусаў самастойныя і спадзяюцца перш за ўсё на сябе. Іншая палова альбо спадзявалася на дзяржаву, альбо на кагосьці іншага. Зразумела, што ў гэтых двух палавін будуць розныя варыянты нацыянальных ідэй. Скажу шчыра, што мне бліжэйшы варыянт першай паловы, дзе ёсць акцэнт на самастойнасць, на розум, на ўзаемадзеянне з іншымі, з супольнасцямі, на планаванне сваёй будучыні і яе ажыццяўлення. Мне здаецца, менавіта гэты варыянт у нас цяпер хутка развіваецца, год ад года становіцца ўсё больш папулярным.

М.Г. На какую страну ваша Беларусь будущего будет похожа?

А.В. Ведаеце, я хутчэй за ўсё хацеў бы параўноўваць не з краінамі, а з сучаснымі мегаполісамі. На мой погляд, зараз барацьба ідзе не паміж краінамі, а паміж агламерацыямі. У нашым баку агламерацый, акрамя Масквы, больш няма. Вільнюс – ужо залішне ціхі гарадок. У свой час ён меў усе шанцы стаць наймацнейшай балтыйскай агламерацыяй. Але не стаў і не стане ўжо ніколі. Варшава мае шанцы. Прага мае шанцы. Масква мае шанцы. Нам туды трэба паўзці. Як па мне, было б клёва, калі б Беларусь стала суцэльным мегаполісам. Такіх існуе ўжо зашмат. Берлін, Амстэрдам, Парыж, Лондан, Мілан, Нью-Ёрк. То-бок, каб Беларусь стала сучаснай краінай-мегаполісам, дзе выпрацоўваюцца новыя ідэі, дзе вольна сябе пачувае крэатыўны клас, дзе прадпрымальніцтва і бізнес накіраваны перш за ўсё на знешні рынак. Краіна, дзе кожны чалавек ведае ангельскую, беларускую і расійскую мовы.

М.Г. Беларусь будущего — это Берлин?



А.В. У Берліне зараз добрая тусоўка, таму што там нерухомасць каштуе даволі танна і проста звышвялікая колькасць галерэй. Чаму не, для нас гэта таксама

варыянт. Павінны развівацца розныя кірункі. Мы таксама можам знайсці нейкую спецыялізацыю ў сучасным свеце, каб іншыя людзі, з іншых агламерацый прыязджалі сюды, у гэтую краіну.

З.Л. Ці спадабаецца гэта ваша ідэя тым беларусам, якія любяць цішыню беларускіх лясоў, аграгарадкі?

А.В. Яны могуць ехаць у цішыню беларускіх лясоў, чаму не? Ніхто ж на лясы не спакушаецца. Я таксама час ад часу люблю цішыню. Але, тым не менш, я гарадскі жыхар. І пераважная большасць беларусаў у нашы дні ўжо пару пакаленняў жывуць у гарадах. Яны не ўмеюць жыць у вёсцы, страцілі навыкі. У іх ёсць успаміны пра тое, як жылі ў сяле іх дзядулі і бабулі, але на гэтым іх досвед сапраўднага сельскага жыцця сканчаецца. Падмурку ў сялянскай нацыі ўжо няма даўно. З нашым вясковым досведам нам няма больш што рабіць, гэта ўсё памерла. Зараз трэба неяк асцярожна яго класіфікаваць, перапрацаваць, адшукаць нейкія цікавыя рэчы для развіцця культуры, самаідэнтыфікацыі, самабытнасці нейкай.

З.Л. І ў выніку Беларусь будзе якой?

А.В. Сучаснай. Але сучаснай не ў бытавым разуменні гэтага слова. Краіна, якая будзе на крок наперадзе іншых. Будзе спрабаваць гэты крок зрабіць.

З.Л. У першую чаргу нам для гэтага трэба што?

А.В. Мы не самая чытаючая нацыя. Паглядзіце на нашыя кнігарні. Яны маленькія, прадаецца больш педагагічная літаратура. У нас, па сутнасці, няма эканамічнай крытыкі, эканамічнай дыскусіі. Беларускія think tanks быццам бы існуюць, але неяк зусім ужо незаўважна і ціха. Шлюць нейкія рапарты невядома для каго. Таму ў нас і праблема з нацыянальнай ідэяй, з уяўленнем аб нашай агульнай будучыні і з усім астатнім. Была б клёва, каб у нас з'яўляліся людзі з розных сфер і пачалася б нармальная інтэлектуальная дыскусія. Ва Украіне сітуацыя з абмеркаваннем агульнага мінулага значна прасцеййшая. Там больш людзей, больш інтэлектуальная групоўка. Ім прасцей выпрацоўваць усе гэтыя рэчы. З іншага боку, калі Ісландыя змагла навучыцца гуляць у футбол на сусветным узроўні, то думаю, зможам і мы навучыцца гаварыць аб сваёй сучаснасці і пра сваю будучыню, было б жаданне і настрой.



# КАЦЯРЫНА ШМАЦІНА

## «ПРАГРЭСІЎНАЯ ЕЎРАПЕЙСКАЯ БЕЛАРУСЬ — ДОБРАЯ НАЦІДЭЯ БЕЛАРУСІ БУДУЧЫНІ»

euroradio·fm

Гутарылі Зміцер Лукашук, Максім Гаруноў
Фота Еўрарадыё

З.Л. Вітаю ўсіх слухачоў, у нас у гасцях сёння магістр міжнародных адносін Сіракузскага ўніверсітэта (Нью-Ёрк), спецыялістка па юрыспрудэнцыі з дыпломам БДУ і досведам працы ў амерыканскай асацыяцыі юрыстаў, Кацярына Шмаціна. Добры дзень, Кацярына.

К.Ш. Прывітанне.

З.Л. Вось вы, пажыўшы ў ЗША, адчулі нейкую амерыканскую нацыянальную ідэю?

К.Ш. Калі мы кажам пра ЗША, то там няма разыходжання паміж нацыянальнай ідэяй, якую прасоўвае дзяржава і якую прасоўвае грамадства. У грамады і дзяржавы адзіная, агульная на ўсіх, нацыянальная ідэя. Калі спытаць дзяржаўнага службоўцу і грамадскага актывіста, што такое нацыянальная ідэя ЗША, адказ будзе аднолькавы. У Беларусі, на жаль, будзе разыходжанне. Умоўна кажучы, ёсць тыя, хто за БССР, і ёсць тыя, хто за БНР. Першыя, хутчэй за ўсё, будуць на баку дзяржавы, а другія будуць за грамаду. Паміж імі ідуць пастаянныя спрэчкі. Пра тое, напрыклад, з якога моманту адлічваць нашу незалежнасць: мы маладая нацыя і з'явіліся ў дваццатым стагоддзі альбо даўняя, сыходзім каранямі ў Полацкае княства і Вялікае Княства Літоўскае і гэтак далей. Вось у гэтым я бачу самае важнае адрозненне паміж намі і заходнімі краінамі.

З.Л. А з чым было звязана ваша рашэнне вярнуцца ў Беларусь?

К.Ш. Ну, я больш палітолаг, чым юрыст, і зараз займаюся даследаваннем знешняй палітыкі Беларусі ў Беларускім інстытуце стратэгічных даследаванняў. Для таго каб аналізаваць беларускі кантэкст, лепей у ім і знаходзіцца. Акрамя таго, скажу шчыра што ў мяне як у прафесіянала, як у спецыяліста па міжнародных дачыненнях, ёсць пэўная мара — уключыць Беларусь у міжнародны кантэкст.

З.Л. Хочаце сказаць, што мы па-за гэтым кантэкстам?

К.Ш. Не зусім, але блізка да таго. Аналітыкі ў Беларусі, калі разважаюць

пра Беларусь, факусуюцца на яе адносінах з Расіяй і з Украінай, часам узгадваюць Еўрасаюз. Больш маштабных дыскусій не вядзецца. Напрыклад, пра тое, якое месца Беларусі ў ліберальным парадку. А гэта тая тэма, пра якую зараз вельмі актыўна размаўляюць аналітыкі на міжнародных форумах. На Мюнхенскай канферэнцыі па бяспецы ўжо некалькі гадоў абмяркоўваюць канцэпцыю ліберальнага парадку і рызыкі для яе.

З.Л. Што гэта за парадак?

К.Ш. Ёсць, так бы мовіць, звышдзяржава ЗША і заходні парадак свету, які быў створаны пасля Другой сусветнай вайны, з інстытуцыямі кшталту Сусветнага банка і МВФ, з нормамі міжнароднага права. А ёсць іншыя актары, больш аўтарытарныя, такія як Расія і Кітай, якія не адчуваюць, што яны знаходзяць сваё месца ў гэтым парадку. Яны кідаюць яму выклік праз ўмяшальніцтва ў выбары, праз той жа сумна вядомы кейс з Крымам. Мне хацелася б уключыць Беларусь у гэтую дыскусію. Калі сёння замежныя аналітыкі разважаюць пра Беларусь, яны ўяўляюць яе проста як сферу ўплыву Расіі. Калі яны робяць нейкія праекцыі магчымых канфліктаў у нашым рэгіёне, то кажуць пра канфлікт паміж НАТА і Расіяй. Пра нас нават не ўспамінаюць. Беларусь у іх тэкстах і выступах – гэта проста такое прахадное поле. Ні ў якім разе не самастойны гулец са сваімі ўласнымі інтарэсамі, якія варта ўлічваць. Мне б хацелася як мага хутчэй гэта выправіць і ўключыць Беларусь у поле зроку вядучых аналітычных інстытутаў. Хацелася б зрабіць так, каб яны ўбачылі ў Беларусі актара, убачылі, што мы існуем, што нашае меркаванне аб нашым лёсе неабходна браць у разлік.

З.Л. Ці можна праз аналітыку, праз выступы ў сусветных СМІ, як вы робіце, уключыць Беларусь у сусветны кантэкст? Ці можа трэба, каб Беларусь сама паказала сябе? Як нацыя, як дзяржава, як краіна з нейкай нацыянальнай ідэяй?

К.Ш. Ну, я думаю, што патрэбнае і тое, і другое. Дыпламатычныя перамовы вядуцца і на адкрытых пляцоўках, на нейкіх форумах, і ў кулуарах. Гэта наша агульная справа, наш агульны з дзяржавай інтарэс.

Што да вашага пытання, навошта Беларусі патрэбна нацыянальная ідэя: каб Беларусь была заўважная на палітычнай мапе свету. Каб гэта не была нейкая шэрая пляма каля Польшчы, яшчэ адна постсавецкая дзяржава з нявызначанай ідэнтычнасцю. Зноў жа, калі гляджу на дыскусіі, якія праводзяцца стратэгамі знешняй палітыкі ЗША, яны вельмі мала ведаюць пра Беларусь. Даволі часта яны задаюцца пытаннем, што можа быць беларусам і не патрэбна незалежнасць, што беларусаў задавальняе знаходзіцца ў арбіце Расіі, што можа ў іх няма ўнутранага запыту на суверэнітэт.

М.Г. С вашей точки зрения, запрос на суверенитет у беларусов есть или нету?

К.Ш. Ёсць.

М.Г. Ваше мнение основывается на чём?

К.Ш. Да прыкладу, колькасць антыімперскіх рухаў на нашай тэрыторыі на працягу апошніх двух стагоддзяў. Для мяне паказальна, што яны не спыняліся, нягледзячы на рэгулярныя паразы, і мелі месца нават у савецкі час. Я маю на ўвазе і вялікія паўстанні дзевятнаццатага стагоддзя, і пазнейшую актыўнасць малых нефармальных аб'яднанняў. Гледзячы на іх, я бачу што запыт на незалежнасць быў у нас заўжды і атрыманне суверэнітэту пасля распаду Савецкага Саюза стала менавіта яго вынікам.

М.Г. Вы предлагаете условным экспертам из ООН обратиться к истории восстаний и так убедиться в том, что они ошибаются насчёт Беларуси?

К.Ш. Не толькі. Разам з гісторыяй, сусветная супольнасць мусіць разглядаць тое, што ёсць сёння і зараз. На дадзены момант Беларусь — суверэнная краіна, якая з'яўляецца чальцом ААН, падпісвае міжнародныя дамовы, праводзіць незалежную палітыку. Гэта ўсё — сведчанне суверэнітэту, юрыдычна такая краіна існуе.

М.Г. Тогда почему они упускают это из вида, как вы сказали?

К.Ш. Ну я думаю, што міжнародную супольнасць уводзяць у зман супярэчлівыя заявы і дзеянні кіраўніка дзяржавы. З аднаго боку, ён кажа, што мы хочам развіваць шматвектарную палітыку. З іншага боку, ён вельмі шчыльна супрацоўнічае з Расіяй. З трэцяга боку, ён ахвотна, з вялікім энтузіязмам супрацоўнічае з Кітаем. Некалькі гадоў таму мы атрымалі статус назіральніка ў Шанхайскай арганізацыі кааперацыі. Для Беларусі было зроблена выключэнне як для адзінай еўрапейскай дзяржавы ў складзе гэтай азіяцкай асацыяцыі. То бок, калі глядзець на дзеянні і заявы кіраўніцтва дзяржавы, то еўрапейскага кантэксту, ліберальнага кантэксту там амаль няма. Але я думаю, што ў грамадстве ёсць запыт на дэмакратычную Беларусь, на Беларусь як адкрытае грамадства, Беларусь з каштоўнасцямі ліберальнага парадку, заснаванымі на вяршэнстве права.

М.Г. У всех граждан есть этот запрос?

К.Ш. Не ва ўсіх.

М.Г. Смотрите, вот рядом есть Украина. Сколько революций в борьбе за условный «европейский выбор» устроили украинцы за последние годы?

З.Л. Тры!

М.Г. Да, именно. Глядя на эти революции, легко прийти к выводу, что украинцам либерализм как минимум не безразличен. А что Беларусь?

К.Ш. А якім чынам ліберальныя беларусы могуць сябе праяўляць у нашай краіне? Вы кажаце пра пратэсты ва Украіне. Я не думаю, што ў Беларусі магчыма так жа свабодна выйсці з транспарантам на вуліцу і затрымацца там больш, чым на пяць хвілін.

М.Г. Хорошо, предположим, условные эксперты ООН согласятся с вашим аргументом, что в стране слишком мощный полицейский аппарат и слишком развитые спецслужбы. Тогда на что им посмотреть, чтобы

увидеть запрос на либеральный порядок? Можете что-нибудь порекомендовать?

З.Л. Вось, падыходзяць яны да вас і кажуць: «Кацярына, што вы нам параіце паглядзець, каб мы назаўсёды зразумелі, што ў Беларусі ёсць жаданне быць часткай свабоднага свету?»

К.Ш. Паглядзець на вынікі незалежных сацыялагічных апытанняў па геапалітычных прэферэнцыях беларусаў. Ёсць, праўда, праблемы з правіламі правядзення такіх апытанняў: у Беларусі ёсць адміністрацыйная адказнасць за шэраг пытанняў, калі іх задаваць без санкцый адпаведных дзяржаўных службаў. Ёсць незалежныя апытанні, але яны праводзяцца таксама бог ведае як. З іншага боку, калі не давяраць апытанням, то ёсць асабістыя кантакты заходніх дыпламатаў або даследчыкаў з супрацоўнікамі міністэрства замежных спраў Беларусі. Яны сустракаюцца ў рамках шматлікіх перамоў Беларусі з Еўрапейскім саюзам, са Злучанымі Штатамі. У міністэрстве замежных спраў Беларусі ёсць прагрэсіўныя адукаваныя кваліфікаваныя людзі, якія ў межах сваіх кампетэнцый наладжваюць даволі добры дыялог з Захадам.

М.Г. Уверен, что в МИДе Российской Федерации много людей, которые владеют несколькими европейскими языками, разбираются в современном европейском и американском искусстве и, тем не менее, они всей душой за Владимира Путина. Они могут создать впечатление, что вы имеете дело с прогрессивным европейским обществом, у которого сейчас временные сложности с авторитарным лидером. Делает ли это Россию демократической страной?

К.Ш. Я кажу пра людзей, якія маюць дачыненне да прыняцця рашэнняў, якія перажываюць за лёс Беларусі, маюць уяўленне пра беларускую нацыянальную ідэю, павагу да нацыянальнай ідэнтычнасці. Калі вы не давяраеце дыпламатам, то можна паглядзець на беларускія грамадскія ініцыятывы, якія паўстаюць самі па сабе. Хутчэй за ўсё, гэта будуць праекты, звязаныя з культурнай сферай, з мовай. Карысна было б пазнаёміцца з праектамі, якія шукаюць фінансавання праз

краўдфандынгавыя платформы і знаходзяць яго. Калі грамадзяне Беларусі — не самай багатай усходнееўрапейскай краіны − аддаюць свае грошы на ініцыятыву, звязаную з нацыянальнай памяццю, то можна зрабіць выснову, што запыт на самастойнасць у грамадства ёсць.

З.Л. Можа быць, што-небудзь, звязанае з архітэктурай Мінска?

К.Ш. Ратуша, напэўна. Увогуле, гэта мой улюбёны прыклад. Калі прыязджаюць знаёмыя з Расіі, я звычайна іх ваджу па Верхнім Горадзе і кажу: вось, глядзіце, вашыя дзяржавы некалькі сот год таму шчасліва зруйнавалі нашу ратушу, але мы яе ўзнавілі. Ратуша азначае, што ў мінулым у нас было Магдэбургскае права, як і ў многіх звычайных еўрапейскіх гарадоў. І яшчэ, калі я буду адказная за тое, каб прымаць замежную дэлегацыю, абавязкова ўключу наведванне Мірскага або Нясвіжскага замкаў, каб паказаць нашую спадчыну і першапачатковую прыналежнасць да еўрапейскай гісторыі.

М.Г. Из всего перечисленного у меня появилось ощущение, что ваш оптимизм слегка застилает вам глаза. У вас нет такого подозрения на свой счёт?

К.Ш. Ну, калі засцілае, то не мне адной. Дастаткова паглядзець на колькасць валанцёраў грамадскіх аб'яднанняў у Беларусі. На колькасць моладзі, якая супрацоўнічае з палітычнымі рухамі ў Беларусі, колькі сярод іх беларускамоўных, адказных, упэўненых у сваёй рацыі. Калі б я была адна, я б гэта ўбачыла, але гэта ж не так, вакол мяне шмат людзей.

З.Л. Хто, на ваш погляд, павінен фармуляваць нацыянальную ідэю?

К.Ш. Я думаю, што гэтая ідэя ўжо ёсць і трэба яе неяк акрэсліць і прыгожа прэзентаваць.

З.Л. Калі яна ёсць, вы нам яе агучыце?

К.Ш. Спачатку скажу, што яна павінна быць прыгожа сфармуляваным брэндам, які б вабіў і нас, жыхароў Беларусі, і добра б глядзеўся

на міжнароднай арэне. Каб не было адчування, што гэта нейкая незразумелая постсавецкая тэрыторыя. Трэба вярнуць бела-чырвона-белы сцяг і «Пагоню». Вярнуць сапраўдную роўнасць дзвюх моў. На міжнароднай арэне Беларусь павінна прэзентаваць сябе як прагрэсіўную еўрапейскую краіну з прынцыпова незалежнай знешняй палітыкай. Не абавязкова ў складзе Еўрапейскага саюза, ёсць розныя варыянты. Але дакладна за еўрапейскія каштоўнасці, за дэмакратыю, за вяршэнства права ўнутры краіны. Вы пыталі, хто павінен фармуляваць нацыянальную ідэю. Я думаю, што розныя групы грамадства. Галоўнае, каб дзяржава не засталася абыякавай. Мы, беларусы, грамадзяне, можам знайсці ідэальную фармулёўку нацыянальнай ідэі, знайсці добры вобраз нашай супольнай будучыні. Але, як паказвае практыка, грамадства само па сабе не шмат што можа. Калі ў нас не будзе падтрымкі на дзяржаўным узроўні, калі на ўзроўні дзяржавы будзе наратыў «БССР супраць БНР», то поспеху не будзе.



# АЛЯКСЕЙ БРАТАЧКІН

## «ПАРАЛЕЛЬНА ІСНУЕ НЕ АДНА БЕЛАРУСЬ, КОЖНАЯ СА СВАЁЙ НАЦІДЭЯЙ»

euroradio·fm

Гутарылі Зміцер Лукашук, Максім Гаруноў
Фота Еўрарадыё

З.Л. Сёння ў нас у гасцях — кіраўнік праграм публічнай гісторыі Еўрапейскага каледжа Liberal Arts Аляксей Братачкін. Падчас запісу ўжо некалькі чалавек нам сказалі, што, маўляў, няма чаго займацца глупствам і шукаць нейкую нацыянальную ідэю. Усё гэта — бессэнсоўная справа. Як вы лічыце, усё ж такі нацыянальная ідэя патрэбная? Трэба нам паспрабаваць яе адшукаць?

А.Б. Когда мне задают вопрос, что такое национальная идея в Беларуси, я прошу помнить о том, кто я такой. Я родился в 1974 году, при позднем социализме, в еврейско-беларуской семье. Моя мама была еврейкой, но из детского дома. Этнического и религиозного воспитания у неё не было, она была советским человеком. Мой отец был беларусом, но умер рано. Специфических беларуских культурных моментов в моём детстве не было. После школы я поступил на исторический факультет БГУ. В 1991 году, когда рухнул Советский Союз, я начал думать о том, что такое быть евреем и что такое быть беларусом, и пришёл к выводу, что эти вопросы меня напрягают. Я хочу учитывать свой бэкграунд, но не становиться его заложником. Я против жёстких категорий. Эта моя позиция сохранилась до сих пор и даже укрепилась. Что касается вашего вопроса о национальной идее: я не знаю, от имени кого или чего мне вам отвечать. От имени позднего социализма, в котором я рос? От имени нашей короткой демократии 1991–1994 годов? От имени своего еврейского происхождения? Или от имени беларуского? Или ещё от чьего-то?

М.Г. Вы считаете этот разговор лишним, я правильно вас понял?

А.Б. Скорее, мне близка позиция Роджерса Брубейкера относительно идентичности. Он говорил, что идентичность используют как понятие политической практики, что ею манипулируют различные политические акторы. В Беларуси достаточное количество политических деятелей, интеллектуалов, обычных людей, которые манипулируют этим понятием в различных смыслах.

М.Г. «Манипулируют» в смысле «имеют намерение ввести в заблуждение»?

А.Б. Не исключено, но в целом нет, конечно. Просто используют, пытаются

наполнить содержанием для того, чтобы получить какой-то символический капитал или подчеркнуть свой политический статус.

М.Г. Всё равно звучит как что-то не очень хорошее.

А.Б. Смотрите, если в вашей «национальной идее» понятие «нация» заменить понятием «сообщество», получится что вот у нас есть сообщество, у которого есть границы, есть история, и в этих рамках нам нужно всем вместе выстраивать свою жизнь. Понимаете? Если мы убираем слово «национальная», появляется поле для разговора. Другое дело, если мы говорим о каких-то политиках или каких-то группах, которые используют слова «национальная идея» как категорию политической практики и пытаются чего-то добиться от сообщества, предложить видение того, что происходит. В этом случае разговор идёт о других вещах.

М.Г. Ты что-нибудь понял?

З.Л. (смеётся)

А.Б. Главное, я знаю, что я хотел сказать!

М.Г. Ну, и слава Богу.

А.Б. Я тоже так считаю.

З.Л. На ваш погляд, калі мы гаворым пра тэрыторыю, на якой жыве беларускі народ, ці павінна быць нейкая агульная ідэя, якая прывядзе нас разам да заможнай, квітнеючай Беларусі?

А.Б. Ситуация в мире и у нас в стране часто меняется, и поэтому я против жёстких категорий. Кто после распада Советского Союза знал, что будет сегодня, в 2018 году? На момент распада у нас были какие-то представления о том, каким должно быть наше сообщество. Если бы мы в то время придали этим представлением сакральный статус национальной идеи, то не знаю, как дальше сложилась бы наша история. К сожалению, у нас очень мало социологических данных о том, какие именно идеи существуют в беларуском обществе. Понятно, что их

много и они разные. Безусловно, я считаю, что в обществе должен быть рамочный набор идей. О том, например, что мы за демократию, что мы за рынок. Рамочный набор идей должен обсуждаться в публичном пространстве. Должны быть открытые дебаты в парламенте, должна работать пресса. И тогда будет какой-то консенсус в обществе. Сегодня беларуское общество расколото в спорах о своём возможном будущее. Для одних будущее — стать второй Эстонией: мы не будем говорить о наших травмах, мы просто сделаем технологический рывок и станем стартап-нацией. Для других Беларусь — это такой драматический рассказ о том, как много мы страдали в прошлом. Проблема в том, что в стране нет политики, нет пространства, где бы эти идеи могли быть полностью проявлены.

М.Г. А социальные сети?

А.Б. Я считаю, что социальные сети в Беларуси — это такая квазипубличная сфера. Это большой и сложный вопрос, смогут ли социальные сети в Беларуси повлиять на принятие решений на государственном уровне. Я не знаю ответа на этот вопрос, но, может быть, вы вспомните такие случаи? Если посмотреть исследования, связанные с функционированием интернета в Беларуси, то при очень большой вовлечённости, далеко не все беларусы в Фейсбуке обсуждает политические вопросы. Приличная часть просто транслирует свой быт.

М.Г. А чём, с вашей точки зрения, процесс обсуждения новостей, который проходил в кафе и пабах, как его описал, допустим, Майкл Манн, отличается от обсуждения новостей в беларуском Фейсбуке?

А.Б. Мы говорим об инфраструктуре публичной сферы в Беларуси. Майкл Манн писал о дискуссиях в пабах, в кафе в Европе. Это важная часть западной культуры. Можно вспомнить книгу Рэя Ольденбурга о третьем месте. Конечно, нужно, чтобы в Беларуси формировалась инфраструктура публичности. Она и есть, но довольно специфическая. С одной стороны, есть Фейсбук, Твиттер, Инстаграм, Вконтакте и так далее. С другой стороны, пределы влияния социальных сетей на общество неясны. Социальные сети могут не так много, как вам, наверно, кажется. Есть понятие коллективизма. Социальные сети провоцируют слабый тип социальных связей, слабый коллективизм. Люди, которые

сидят в социальных сетях, часто имитируют политическую активность. Если мы говорим о национальной идее, то люди могут просто поставить лайк, и это никак не обеспечит ни распространение этой идеи, ни её осмысление. Нужно, чтобы сложилась инфраструктура публичной сферы в Беларуси вроде той, о который писал Манн и другие.

М.Г. В 2018 году на концерте в честь столетия независимости Беларуси было 35 тысяч человек. Эти люди пришли со знамёнами, они подпевали. Были задержания, но люди все равно пришли. Насколько я понимаю, они пришли, потому что они обо всём договорились в электронных средствах связи. 35 тысяч человек — вот вам и результат.

А.Б. Я хотел бы уточнить, по поводу чего вот это ваше возражение.

М.Г. По поводу того, что вы говорите, что общение в социальных сетях создаёт слабые связи между людьми и ни на что не влияет.

А.Б. Если мы приходим на концерт и все понимают, что это именно концерт, а не протестная демонстрация, которая проводится от имени незарегистрированной организации в неразрешенном месте, это немножко другой вопрос. Я с вами совершенно не спорю. Я просто хочу сказать, что есть определенные ограничения у публичности в социальных сетях Беларуси. На этом мы поставим точку и давайте перейдём к другим вопросам.

З.Л. Давайце. Ці ёсць у нас нейкая агульная ідэя і ці можна ёй кіравацца?

А.Б. Недавно были опросы, связанные с аннексией Крыма Россией. Опросы проводил независимый институт социально-экономических и политических исследований профессора Олега Манаева. Там были очень двойственные цифры. С одной стороны, на вопрос: «Считаете ли вы, что Россия, забрав Крым, вернула себе своё?» порядка 60% беларусов ответили утвердительно. Но когда им задавали вопрос, хотели бы они, чтобы нечто подобное произошло в Беларуси, люди не соглашались. То есть, с одной стороны мы сами признаём свои границы, но не признаём границы для других стран.



З.Л. Можа быць, самае галоўнае, каб Беларусь працягвалася ў стагоддзях?

А.Б. Это уже что-то экзистенциальное, что-то вроде: «я смертен, но если сообщество, в котором я нахожусь, будет существовать вечно, то и я буду вечен». Это заявка на бессмертие, и так работает идеология национализма.

М.Г. А тот факт, что все говорят пусть и разное, но про Беларусь — это не объединяет?

А.Б. Думаю, да, объединяет, но далеко не всех. Есть, например, такое явление, как западнорусизм. Я говорю не о том, что было в конце 19 − начале 20 веков, а о тех людях, которые сегодня предлагают специфические модели отношений России и Беларуси. Раньше они имели доступ к беларускому государственному телевидению, и у них вполне определённая версия Беларуси.

З.Л. Вы сказалі, што сур'ёзна выпрацоўваць і абмяркоўваць нацыянальную ідэю варта ўжо тады, калі будзе нарэшце сапраўднае палітычнае жыццё ў краіне. Дык усё ж такі дарэмна ці недарэмна мы тут збіраемся?

А.Б. Как преподаватель могу вам сказать, что всё нужно проговаривать. Когда мы что-то проговариваем, мы понимаем, есть ли в этом смысл или оно окончательно обессмыслилось. Я считаю, что и вашу «национальную идею» нужно проговаривать. Знаете, есть такое выражение — «не готовы к переменам». Чтобы таких выражений в наш адрес было поменьше, всё должно обсуждаться. Это важно, это вопрос нашей готовности к переменам.

З.Л. Цягам сённяшняй праграмы мы нацыянальную ідэю не намацалі.

А.Б. А у меня такой цели и не было.



# РЫГОР
# АБРАМОВІЧ

## «ПАСЛУХАЙ ІНШЫХ І ПРЫМІ СВАЁ РАШЭННЕ — ТАКАЯ МАЯ НАЦІДЭЯ»

euroradio·fm

Гутарылі Зміцер Лукашук, Максім Гаруноў
Фота Еўрарадыё

З.Л. Вітаю ўсіх слухачоў, наш сённяшні госць — галоўны рабін рэлігійнага аб’яднання грамадаў прагрэсіўнага іўдаізму Рыгор Абрамовіч. Добры дзень, спадар Рыгор.

Р.А. Добрый день.

З.Л. Спадар Рыгор, а вы не здзівіліся, калі мы прапанавалі паразважаць на гэтую тэму?

Р.А. Удивился и сразу отвечу на вопрос: «Причём тут он?» Помимо того, что я главный раввин религиозного объединения общин прогрессивного иудаизма, я ещё и гражданин Республики Беларусь и минчанин по меньшей мере в пятом поколении. Учитывая, где родился я и где родились мои предки, я буду счастлив поговорить о национальной идее Беларуси.

З.Л. Нацыянальная ідэя для вас — што гэта такое?

Р.А. То, что я понимаю, то что поддерживает меня как личность, и то, что я готов развивать вместе со своими близкими и родными.

М.Г. Сто лет назад Минск был наполовину еврейским городом, а сегодня евреев на его улицах совсем не видно. Когда евреи уезжали отсюда, это был признак того, что Беларусь — это чужая земля для них?

Р.А. Мне часто говорят о том, что евреи уехали из Беларуси. Я всегда отвечаю, что уезжают не только евреи, уезжают и остальные. По-моему, нечестно говорить только о еврейской эмиграции. Я хорошо помню конец 80-х и начало 90-х. Многие тогда потеряли работу, не видели перспектив. Желание уехать было и у евреев, и у беларусов, и у поляков, и у русских. И потом, посмотрите на соседние страны: как много граждан Литвы уехали на заработки в Швецию, в Англию. По-моему, это общая тенденция в нашем регионе. Рыба ищет там, где глубже, а человек − где лучше. Но я бы не сказал, что евреи совсем уехали из Беларуси. Извините, но если евреи уехали, как вы говорите, то кто тогда ходит ко мне на службы? В Минске у нас три синагоги, и они не

пустуют, уверяю вас. Кроме того, есть минский еврейский общинный дом, есть израильский культурный центр, работает посольство, работает еврейское агентство для Израиля.

М.Г. А за кого вы болеете — за Беларусь или за Израиль?

Р.А. Мне часто задают и этот скользкий вопрос. Хочу вам сказать, что я уже был в ситуации, когда команда Беларуси сошлась на поле с командой Израиля. Я тогда болел за спорт, за уровень спортсменов, за то, как они представляют обе страны. Вообще, вопрос «кого ты любишь больше — маму или папу», всегда заканчивается маленьким семейным скандалом. Если же мы говорим о понятии родины, то я родился в Беларуси. Мой папа живёт в Израиле, а мама живёт в Беларуси. У меня была возможность уехать в Израиль и была возможность остаться в Британии, где я учился. Жена и я приняли решение вернуться в Беларусь. Израиль для меня историческая родина, а Беларусь — место рождения, и я не чувствую никакого конфликта. Историческая родина — это родина моего народа, откуда он был изгнан много лет назад. О ней важно знать и помнить, важно поддерживать связь. Если говорить о предпочтениях, то есть один старый анекдот: Рабинович много лет пытается найти место, куда ему уехать и никак не может сделать выбор. Знакомые ему говорят: «Что ты постоянно катаешься, Рабинович? То туда, то сюда. Что тебе нужно, что тебя привлекает?» Рабинович им отвечает: «Ничего не привлекает, кроме пересадки в Париже».

М.Г. Можно ли сказать, что благодаря долгому присутствию евреев в Беларуси Израиль для беларусов тоже не совсем чужой?

Р.А. Почему только для беларусов? Не забывайте, что Израиль — не только еврейское государство, но и место паломничества мирового значения. Авраама признают своим пророком христиане, иудеи и мусульмане. Понимаете, какая это колоссальная цифра? Мэр Иерусалима как-то сказал, что Иерусалим — это столица для миллиардов людей, которые приезжают сюда, чтобы поклонится своим святыням.



З.Л. З вашага пункту гледжання, для нацыянальнага праекта такой

краіны як Беларусь этнічны складнік важны ці не?

Р.А. Почему не важна? Важна, но в Беларуси довольно странное отношение к себе и своей стране. У меня дома стоит беларуский холодильник, беларуский телевизор и беларуская мебель. Я ношу беларуссую обувь. Я не выбирал специально, оно само так получилось. Мой беларуский холодильник работает хорошо, моя беларуская мебель меня вполне устраивает. Моя обувь не натирает мозоли, за что я от всего сердца благодарен её создателям. Когда мои друзья беларусы приходят ко мне в дом и видят мою обувь, мою мебель и мой холодильник, они надо мной смеются: как это я, еврей, купил себе в дом беларуский холодильник? У них холодильники из Польши, Финляндии. Я не хочу с ними спорить, но слушайте, если вы так не любите своё только за то, что оно ваше, о какой этнической составляющей может идти речь? И зачем на таком фоне вы задаете мне эти скользкие вопросы о том, что евреи уехали из Беларуси? Мне просто интересно. Или вот еще пример: недавно была встреча с министром культуры, на которую был приглашен и я. Помимо прочего, обсуждали, как сделать так, чтобы беларусы вновь заговорили на беларуском языке. Обсуждение было крайне неприятное. Выступающие много говорили о принуждении со стороны государства. О том, как сделать так, чтобы беларусы не могли не говорить на беларуском языке. Не уверен, что это правильный путь.

З.Л. А вам не здаецца, што галоўная праблема роднай мовы ў Беларусі — гэта пазіцыя дзяржавы?

Р.А. Знаете, в иудаизме есть давний спор о том, как относиться к Богу: должна ли это быть только любовь или только страх? Если только любовь, то как быть, если я разлюбил Бога и стал атеистом? Если только страх, то я буду выполнять его заповеди механически, как машина. Богословы говорят, что должен быть баланс между любовью и страхом. В наших молитвах должен быть и страх, и любовь. Мне кажется, что к проблеме беларуского языка, который в самом деле слабеет у нас на глазах, надо подходить так же. Нужно, чтобы человек сам хотел говорить на своём родном языке, чтобы он его любил, чтобы желание говорить на родном языке исходило из его любящего сердца. С другой

стороны, должна быть некоторая необходимость. В любом случае, нужно действовать очень осторожно и не делать акцент на принуждение. К своему стыду я признаюсь, что говорю на беларуском с ошибками.

З.Л. А як бы вы вырашылі праблему мовы?

Р.А. Должно быть два языка, русский и беларуский. И нужно избегать разговоров о принуждении. Они опасны и отравляют атмосферу. Надо больше разговоров о любви, о радости. Я сейчас наблюдаю за тем, как тихо умирает идиш, и я смотрю, как люди пытаются его спасти. Думаете, они говорят о принуждении? Нет. Они спасают язык за счёт шуток и анекдотов на нём. Смешные анекдоты и шутки — это наша история, это хорошие эмоции. Это то, что не захочет потерять ни один человек. Но я бы не хотел, чтобы мы, разговаривая о национальной идее, говорили только о языке. Мне кажется, что это важный аспект, но не единственный.

М.Г. А что ещё?

Р.А. С моей точки зрения, было бы полезно поговорить, например, о выдающемся пессимизме беларусов и об их склонности к самобичеванию. Иногда это принимает совсем пугающие формы. Может быть, если получиться разобраться с пессимизмом, станет проще и с языком. Я это понял в Англии. Я воспитанник хореографической школы в Минске, где я знал только одно слово — «надо». У меня никогда не было права принимать решения. Я должен был петь, когда мне скажут петь, и не петь, когда мне скажут не петь. Было такое немножечко как в песне «Я солдат». К тому же, я внешне отличался от остальных детей, и отношение ко мне было не самое тёплое. И вот я приезжаю в Англию, учусь там, преподаю. Это было время, когда они только отказались от розог в воспитании, но у педагогов уже был акцент на индивидуальности каждого ученика и на том, что «у тебя всё получится». Если ты получил плохие оценки, то это не причина тебя пороть. Это причина сказать тебе: «Иди и попробуй ещё раз». К сожалению, Беларусь устроена не так. У нас много такой старой дисциплины, которая уже никому не нужна и даже вредна. И это, я считаю, одна из причин пессимизма.

Оптимизм если и бывает, то наигранный и маршеобразный. По команде через силу улыбающиеся пессимисты — не думаю, что такое общество кого-то привлечёт.

З.Л. Такім чынам, можа нам рабін, з аднаго боку, з другога боку, грамадзянін Беларусі, з трэцяга боку, мінчанін у пятым пакаленні Рыгор Абрамовіч сказаць сваю асабістую нацыянальную ідэю?

Р.А. Я, пожалуй, не скажу ничего про национальную идею, но предложу вам и вашим слушателям подумать о правилах общения. Я часто наблюдаю за тем, как люди спорят в социальных сетях о том, какой должна быть Беларусь. У меня есть ощущение, что вам было бы полезно узнать о правилах общения, которых мы придерживаемся у нас в общине. Пара правил, которые помогают нам оставаться общиной. Первое правило звучит так: если ты недоволен кем-то, ты должен напомнить себе, что иначе не бывает, что всегда есть тот, с кем ты не согласен. Если твое недовольство так огромно, что ты хочешь написать человеку что-то неприятное, то не надо спешить. Сначала напиши письмо и отправь его по электронной почте себе. Открой, прочитай и подумай, насколько твоё письмо помогло бы человеку стать лучше. Мы так делаем, чтобы не останавливать демократическое слово, но и не раздувать из мухи слона. Второе правило гласит: во время спора не надо навязывать решения, которые лично вам кажутся абсолютно правильными. Это путь к распаду общины. Нужно быть скромными, нужно беречь общину и помогать друг другу найти верное решение. Вот эти два правила, как мне кажется, гораздо важнее для развития национальной идеи, чем если бы я дал вам, условно говоря, «пять пунктов, как нам идти к лучшему». Эти пункты, безусловно, нужны, и они появятся в своё время, но через обсуждение, а не через приказ.



# МАКСІМ ЖБАНКОЎ

## «НАЦІДЭЯ — ГЭТА КАЛАЖ З БЕЗЛІЧЫ РОЗНЫХ ВАРЫЯНТАЎ БЕЛАРУСКАСЦІ»

euroradio·fm

Гутарылі Зміцер Лукашук, Максім Гаруноў
Фота Еўрарадыё

З.Л. Вітаю ўсіх слухачоў, сёння наш госць — мысляр і філосаф Максім Жбанкоў. Добры дзень.

М.Ж. Добры дзень, Зміцер. Я не філосаф, я хутчэй спантанны і стыхійны культур-актывіст, і, напэўна, гэта і ёсць мой натуральны стан.

З.Л. Спантанна, але па-культурнаму вы можаце казаць, што ж такое нацыянальная ідэя?

М.Ж. Я 60 год жыву без нацыянальнай ідэі і вось, бачыце, няблага захаваўся. Як на мяне, яе няма, і вы тут на вашай перадачы займаецеся татальнай лухтой, прабачце.

З.Л. Ну, лічыцца так, што калі ёсць нацыя, то ў яе мусіць быць нацыянальная ідэя.

М.Ж. Нацыя – гэта не ідэя, ну што вы. Нацыя — гэта пра абмеркаванне ідэі. Не якой-небудзь адной асаблівай ідэі, а адразу многіх ідэй. Нацыя — гэта прастора суіснавання разнастайных, прыватных праектаў нацыі, я б так сказаў. Нам патрэбна існаванне прасторы для свабоднай і паважнай размовы аб нашым гістарычным шляху і аб усім астатнім. У гэтым сэнсе ідэі зусім не важныя. Значна важнейшыя правілы, па якіх мы іх абмяркоўваем. З майго пункту гледжання, калі ёсць правілы дыскусіі, яны гуманныя, і з імі ўсе згодныя, то хай людзі кажуць пра што хочуць. Хтосьці верыць у БНР? Дзякуй богу. Хтосьці верыць у БССР? Калі ласачка. Хтосьці шчаслівы, што бачыць нашага бацьку кожны дзень у тэлевізары? Ну, нармальна. Як на мяне, беларуская ідэя існуе як калаж візій беларускасці, якіх насамрэч можа быць колькі заўгодна. І тады, што канкрэтна мы лічым беларускай ідэяй? Якую ідэю будзем лічыць правільнай і на якую паставім?

М.Г. Правила обсуждения идеи и являются идеей, я вас правильно понял?

М.Ж. Калі агрубляць, то так. Як я казаў, я жыву без нацыянальнай ідэі. Але я лічу сябе нацыянальна свядомым. Чаму я так лічу? Таму што вось

ёсць мае стасункі з культурнай традыцыяй. Ёсць мае стасункі з культурным ландшафтам. Ёсць мае паставы, каб заставацца тут. Усё гэта разам робіць мяне свядомым беларусам, разумееце? Не тое, што я вывучыў на памяць нейкую ідэю, як камуніст «Капітал», а тое, што я жыву гэтым. Дарэчы, да мовы я гэтак жа стаўлюся. Вось я размаўляю з вамі па-беларуску. Хочаце, можам па-польску пагаварыць? Хочаце, па-руску? Не праблема. Па-ангельску? Давайце па-ангельску пагаворым аб Беларусі.

М.Г. А в чём смысл?

М.Ж. У тым, каб любую з даступных мне опцый я мог спажываць, калі захачу і як захачу, не абмяжоўваючы сябе. І не толькі я, зразумела. Я зыходжу з таго, што ў кожнага ёсць розныя опцыі, розная культурная загрузка. У гэтым сэнсе, нацыя, як сукупнасць дыскусій аб нацыі, заўсёды розная, не лінейная. А тое, што вы кажаце, ваша так званая «нацыянальная ідэя», — гэта спроба загнаць гэтае пастаянна зменлівае мноства дыскусій аб нацыі ў нейкую рамку, якая вам чамусьці здаецца правільнай. Так не трэба рабіць, ды так і не будзе ніколі.

М.Г. Я в букинистическом магазине рядом с вашей Академией наук нашел книгу Янки Купалы, изданную в тридцатых годах. Не помню, как называлась книга, но стоила она 300 евро. Космическая цена для книги в Беларуси. И я подумал, что, судя по цене, и особенно по тому, как мне о ней сказала продавщица, это и есть местный священный текст.

М.Ж. Хто вам казаў, што Янка Купала — наш свяшчэнны тэкст? Вы зараз разважаеце на падставе тэкстацэнтрычнага падыходу. Вы зыходзіце з таго, што мусіць быць ідэя, ідэя мусіць быць тэкстам, трэба шукаць тэксты, якія могуць прэтэндаваць на статус беларускай ідэі. А я вам кажу, што ў нашай сітуацыі тэкстацынтрычнасць не працуе. Трэба разумець нашую сітуацыю. Гэта нацыя партызанская па сваёй сутнасці, якая ўвесь час існавала пад прэсінгам знешніх уплываў. Гэта нацыя, якая сваю тоеснасць адбудоўвала прыхаваным, падпольным чынам. І яна адбывалася не ў нейкіх легітымных тэкстах, свяшчэнных нейкіх выказваннях, а ў стратэгіях руху народа, захопленага ворагам.

М.Г. По-моему, нет такого народа в этом регионе, который хотя бы раз не был бы захвачен соседями.

М.Ж. Вполне может быть, я не историк. Я вам кажу пра тое, як мы сябе разумеем, спрабую разумець, чаму, напрыклад, у нас да гэтага сапраўды, не склалася свайго свяшчэннага тэксту?

М.Г. А роман Ивана Мележа «Люди на болоте»? Он вроде бы с самого начала задумывался как такой беларуский литературный эпос, аналог «Тихого Дона» Михаила Шолохова.

М.Ж. Я не чытаў «Людзі на балоце». І экранізацыю глядзець не буду, таму што гэта дрэннае кіно, нецікавае і непрафесійнае.

М.Г. А романы Василя Быкова?

М.Ж. Зноў жа партызан, зноў жа падпольшчык. Для мяне стратэгія руху больш істотная за тыя тэксты, якія здольныя мне ў гэтым руху дапамагчы. Для мяне тэксты патрэбныя, каб ад іх адштурхнуцца і потым можна дзейнічаць без іх. Каб усё жыццё жыць, перачытваючы Быкава? Пакажыце мне чалавека, які так робіць, і я пасмяюся яму ў твар.

З.Л. А можа быць, любоў да Беларусі і ёсць тое, што аб’ядноўвае нас у нацыю?

М.Ж. Любоў — гэта не ідэя, а эмоцыя. І так, згодны з тым, што маё бачанне бліжэй да эмоцыі, да жарсці. Мне не патрэбна шукаць ідэю ў кніжках, бо я, ахоплены жарсцю, бачу яе ў тым, што я раблю. Я яе бачу, калі прыходжу на канцэрт «Крамы», калі гляджу новае беларускае кіно. Для мяне гэта ўсё розныя вымярэнні ідэі.

М.Г. У татарского поэта Габдулы Тукая есть стих, написанный как такая восторженная суфийская поэзия о чувствах верующего к Аллаху, но там, где обычный верующий упоминал Аллаха, Габдула Тукай говорил о своей любви к татарам и Татарстану.

М.Ж. Так, гэта супадае з тым, пра што я кажу, абсалютна згодны. Сапраўды размова мусіць ісці пра градус эмацыйнай натхнёнасці лакальным сюжэтам, сваёй прысутнасцю.

З.Л. А мне гэта спадабалася: мы ўсе разам і ёсць нацыянальная ідэя, і фармуляваць нічога не трэба.

М.Ж. А навошта фармуляваць ідэю? Калі сур'ёзна, нацыянальная ідэя мае права на існаванне, калі ёсць імпульсам да руху, і гэта мы ўжо маем. У гэтым сэнсе, нам не патрэбны культавыя тэксты, каб рухацца. Ды і я ў цэлым не веру, што ў нас зараз з'явіцца Евангелле, якое растлумачыць, кім нам жыць і што будзе далей. І мне падабаецца гэтая адсутнасць прадказальнасці. На мой погляд, гэта і ёсць адно з вымярэнняў нашага беларускага кайфу.

М.Г. И никаких гранитных памятников, никаких кодексов?

М.Ж. Гэта ж ідалапаклонства, слухайце. Я ж вам кажу, што можна абысціся і без ідалаў, што мы з самага пачатку абыходзімся без іх. Я маю тут казаць «мы», бо я кажу не толькі пра сябе. Калі мы разглядаем беларускую ідэю як ліцэнзію на рух, то я спакойна магу сказаць, што нам гэтая ліцэнзія не патрэбная, бо мы рушым і так. І мне падаецца што гэтая свабода самавызначэння, як сказаў бы Уладзімір Ільіч Ленін, — гэта самае карыснае і самае істотнае, што ў нас ёсць.

З.Л. Мова мусіць быць якім-небудзь падмуркам? Ці не? Ці можна і на гэта не звяртаць увагі?

М.Ж. Вось вы мяне пытаецеся пра мову, а я бачу, колькі лухты гучыць на нашай роднай матчынай беларускай мове, і часам мне хочацца сказаць: хай бы яны размаўлялі на іншай. Вы ж зразумейце, чаму я так супраць канонаў. З майго пункту гледжання, каноны спараджаюць ціск на людзей, падзел на правільных і няправільных. У каноне я бачу агіднае жаданне падпарадкаваць разнастайны рух людзей чарговай праграме, якая выглядае як «адзіна правільная». Як на мяне, любое

праектаванне праз нейкія прымусовыя рэчы абсалютна заганнае, і таму я супраць канона, але за перманентную спрэчку аб ім.

З.Л. Калі я б быў цынікам, я б выцягнуў фармулёўку, што нацыянальная ідэя беларусаў − у магчымасці жыць без раз і назаўжды вызначанай нацыянальнай ідэі. Але мне ўсё ж такі больш падабаецца ідэя, што ўсе мы і ёсць нацыянальная ідэя. Які больш з мною абраных варыянтаў вам спадабаўся?

М.Ж. Абодва варыянта былі агучаныя мной, а я сам з сабой згодны.

З.Л. І з першым, і з другім варыянтам?

М.Ж. Так.

З.Л. Але жывем у адпаведнасці таксама з двума?

М.Ж. Мне трэба, каб была дыскусія, спрэчкі, розныя меркаванні і ўзаемная павага дыскутантаў. Гэта тое, у чым я шчыра ўпэўнены, і я імкнуся жыць менавіта згодна з гэтымі сваімі тэзамі. Бо я веру ў тое, што кажу.



# АЛЕСЬ ДЗЯНІСАЎ

## «КАБ БАЛЕЛА ЗА ГЭТУЮ ЗЯМЛЮ — З ТАКОЙ НАЦІДЭЯЙ Я ЖЫВУ»

euroradio·fm

Гутарылі Зміцер Лукашук, Максім Гаруноў
Фота Еўрарадыё

З.Л. Вітаю ўсіх слухачоў, мы ў Гродна, у памяшканні нашых сяброў — «Цэнтры гарадскога жыцця», адкуль перадаём слова лідару гурта «Dzieciuki» Алесю Дзянісаву. Добры дзень, Алесь.

А.Д. Добры дзень.

З.Л. Алесь, ты нацыяналіст?

А.Д. У Гародні вельмі складана адчуваць сябе нацыяналістам. У нас тут стагоддзямі побач пражываюць і палякі, і габрэі, і літоўцы, і беларусы. Я, скажам так, «культурніцкі нацыяналіст».

З.Л. «Культурніцкі» ў якім сэнсе?

А.Д. Я за асвету, за адраджэнне. За тое, што забыта ў нас у Беларусі — мова тая ж самая.

З.Л. Я спытаўся таму, што калі паглядзець вашы кліпы, то асноўны сюжэт там такі: хлопцы-беларусы пайшлі ў лясы і пры кожнай прыдатнай магчымасці забіваюць камуністаў. Мяркуючы па вашых кліпах, нацыянальная ідэя, якую вы рухаеце ў народныя масы, — гэта «смерць камуністам і ворагам Беларушчыны».

А.Д. Глядзі, я за тое, каб погляд на нашу гісторыю меў альтэрнатыву. На дадзены момант у нас альтэрнатывы няма. Наша дзяржава чапляецца за бальшавікоў, за так званую Кастрычніцкую рэвалюцыю. У нас ужо доўгі-доўгі-доўгі час уся гісторыя пачынаецца з бальшавікоў. Пра гісторыю да бальшавікоў на самым высокім дзяржаўным узроўні гавораць як пра чужую. Рэч Паспалітая — гэта польская гісторыя, Вялікае Княства Літоўскае — літоўская, Полацкае княства — гэта так далёка ад нас, што ніхто не ведае. Зразумела, што ў нейкім сэнсе мы дзесьці і перабольшваем у міфах, якія ствараем у сваіх песнях. Але мне падаецца, што час ад часу варта перабольшваць, каб не забыліся, што былі і іншыя шляхі нашага развіцця ў нашага народа, у нашай краіны.

З.Л. А беларусы сапраўды білі бальшавікоў?

А.Д. Ну, на жаль, трэба прызнаць, што большасць беларусаў у той час ці адседзеліся ў лясах ці падтрымалі бальшавікоў. Гэта праўда, пра гэта трэба

казаць. Але нам трэба разбірацца, чаму яны адседзеліся і падтрымалі.

З.Л. А калі ўсе паверацць тваім міфам і пачнуць патрабаваць, напрыклад, вярнуць ім Смаленск і Вільню?

А.Д. Не, нам не трэба ніякага імперыялізму і шавінізму. Ёсць міжнародныя пагадненні пра межы. Калі ўзнікаюць нейкія праблемы, то вырашаць іх трэба строга ў цяперашніх межах, каб не выйшла як з Крымам і з Данбасам.

З.Л. Калі ўлада раптам вырашыць зрабіць вашыя міфы сваёй афіцыйнай пазіцыяй, што вы на гэта адкажаце?

А.Д. Ну, я не супраць з аднаго боку. Але я заўсёды быў за разнастайныя погляды. Не павінна быць аднаго агульнага пункту гледжання на наша мінулае. Павінны быць нашы міфы, як вы іх назвалі, і павінны быць навукоўцы, якія будуць корпацца ў архівах, высвятляць, як было. Напрыклад, у нас ёсць песня пра князя Давыда Гарадзенскага. Ён у нас герой, крыжакоў лупіў налева-направа. Але ён жа рабаваў крыжакоў, быў рабаўнікам, злодзеем, ні чым не лепшым за іх. Час тады быў жорсткі, людзі рабавалі адзін аднаго, каб выжыць і гэта таксама трэба абавязкова тлумачыць, расказваць.

М.Г. Как я понял, вы одновременно играете и в художника, который сочиняет мифы, и в историка, который разоблачает мифы.

А.Д. Ну, мы ніколі не кажам жалезабетонным голасам, што вось так ўсё і было, не думайце сумнявацца. Мы самі да сябе ставімся іранічна і саркастычна. Мы як бы стварылі міф, а потым з гэтага і пасмяяліся.

М.Г. Я помню первый ваш клип, который я посмотрел. Это был «У лесе будзем жыць і камуністаў біць». И там беларусы расстреливают двух моих соотечественников. Это выглядело не комично. Это выглядело серьёзно. В Украине всегда было много групп с похожими клипами про коммунистов, и там тоже никакой иронии.

А.Д. Не, у прынцыпе, мы ўсе мірныя людзі.

З.Л. Але змазваць свой кулямёт не забываем.

А.Д. Ну, так.

М.Г. Национально-освободительное движение в какой стране вам ближе по духу? Украина, Литва, Финляндия, Словения, Черногория?

А.Д. Мы вельмі падобныя да славакаў. У іх таксама «сялянская нацыя», «сялянскі народ», і вельмі марудна ўсё складалася.

М.Г. Вы беларус?

А.Д. Я напалову беларус, напалову рускі, і ў мяне ёсць украінскія карані. Але справа ў тым, што я лічу сябе часткай гэтай краіны. Не дзяржавы, а менавіта краіны. Вось гэтыя палі, лясы, вось гэтыя бабулі, якія спяваюць песні, хаця мне ў дзяцінстве іх не спявалі – вось гэта ўсё маё. У нас шмат хто з людзей з нацыянальнай арыентаванасцю кажа пра карані. Ведаеце, на мой погляд, чалавек, які ў савецкія часы зрабіў больш за ўсё для беларускай музыкі, — гэта быў Мулявін, просты хлопец з расійскага Урала. Так што, давайце не будзем чапляцца толькі за карані.

З.Л. А нацыянальная ідэя нам патрэбная?

А.Д. Не, не патрэбная. Нам абавязкова патрэбна адраджэнне. Гэта патрэбна. Адзіная справа, што яно не павінна быць жорсткім, разумееце.

З.Л. Адраджэнне чаго?

А.Д. Адраджэнне ўсяго беларускага. Мы тут тытульная нацыя, і ў нас павінна гучаць беларуская мова. Але я адназначна супраць жорсткасці. Адраджэнне павінна прайсці мякка і натуральна. У нас аўтарытарная краіна, і пачынаць трэба з асноўных чыноўнікаў. Я б усіх чыноўнікаў, якія на самым версе, проста па загадзе прымусіў бы размаўляць па-беларуску. Чыноўнікаў сярэдняга і ніжняга ўзроўняў, настаўнікаў у школах і інстытутах заахвочваў бы грашыма, надбаўкамі да заробкаў. І так, без асаблівага ціску, вярнуў бы мову.

М.Г. Что будет, если Лукашенко возродит язык?

А.Д. Я тут нядаўна размаўляў з чалавекам, і ён сказаў фразу, пасля якой я стаў значна менш паважаць яго. Ён сказаў: «Я б гэтай уладзе і Лукашэнку асабіста

прабачыў бы ўсё. Галоўнае, каб ён вярнуў бела-чырвона-белы сцяг, герб «Пагоню», і ўсе б размаўлялі па-беларуску. Я б яму ўсё прабачыў: і правы чалавека, і забітых, і гэтак далей. Усё б прабачыў». Я з такой пазіцыяй не згодны.

М.Г. Почему? Есть вещи важнее родного языка?

А.Д. У якім сэнсе?

М.Г. Ну, может быть, парламент, свобода слова, права человека?

А.Д. Гэта важна, я лічу, што так.

М.Г. Важно, как родной язык?

А.Д. Ну, гэта як параўнаць, што лепей: ровар ці яблыня ў садзе. Розныя трошачкі рэчы. Для мяне, калі па шчырасці, важная мая сям'я, мае сябры, мой горад. Вось гэта для мяне дакладна на першым месцы. Што тычыцца праблемы са свабодай слова і іншым, то трэба быць практычным. У тых умовах, у якіх мы вось зараз знаходзімся, вырашыць праблему з мовай значна прасцей, чым праблему са свабодай слова.

М.Г. Тогда давай так: что важнее — парламент или родной язык?

А.Д. Усе ж такі, напэўна, парламент. Я думаю, што ўжо калі будзе нармалёвы парламент, ён вырашыць і пытанні са свабодай слова, і пытанне з мовай.

З.Л. А з нацыянальнай ідэяй?

А.Д. Ну, калі так сур'ёзна, без жартаў, то як музыкант, які ўжо дзесяць гадоў рубіць хардкор, лічу, што здаровая нацыянальная ідэя павінна быць такая: кожнай жанчыне — моцны х*й, кожнаму мужыку па самагоннаму апарату і ўсеагульны легалайз. І ўсё, будзем жыць шыкарна. Вось я так лічу.

З.Л. А што мне рабіць, калі я не п'ю?

А.Д. Я ж кажу, што легалайз.

З.Л. Не балаваўся ніколі.

считаю, что другого выхода нет и невозможно жить без национальной какой-то идеи. Но что это такое в нашем случае, я пока не очень понимаю. У нас, допустим, до сих пор нет устойчивого герба и флага. У нас есть промежуточные. Наверно, со временем они поменяются. У нас, например, есть советское наследство в виде областей. Могилевская, Витебская, Гомельская и остальные. Что это такое, я тоже не знаю. По идее, Беларусь должна быть устроена как Польша и Чехия, как Германия: у нее должны быть не области, а исторические земли. Скажем, не Гомельская область, а земля Полесье или земля Кривия. Я не специалист, историки лучше разбираются. Наверно, было бы хорошо вернуться к историческим названиям, чтобы адреса у людей были связаны с прошлым.

З.Л. Неяк Лукашэнка, развbooжаючы наконт нацыянальнай ідэі, сказаў, што ну, не дараслі мы яшчэ да нацыянальнай ідэі. А на ваш погляд, дараслі ці не дараслі?

У.Ц. Ну, я, между прочим, тоже так раньше думал, но сейчас передумал. Беларусь никак не может родиться, да. Но она обязательно родится, никуда не денется, я в этом уверен. Просто она родится чуть позже. У нас вот в Минске появляются стекляшки. Поздно, конечно, но появляются. Они называют их новой архитектурой, хотя в Европе эти стекляшки строят уже лет семьдесят. Но, как бы там ни было, мы доросли до стекляшек? Значит, дорастём и до национальной идеи. Как это будет происходить, я не знаю. Она может вдруг так охватить умы, что мало не покажется.

М.Г. А есть признаки близкого рождения Беларуси?

У.Ц. Увлечение народной музыкой, увлечение народными танцами, люди сейчас охотнее говорят на языке. Во всяком случае, гораздо охотнее, чем это было раньше. И именно столичная молодежь много говорит, а не только люди вёски, как раньше.

З.Л. А Уладзімір Цэслер, можа, нам намалюе нацыянальную ідэю?

У.Ц. Не, не, не. Она сама по себе появится, вдруг. Раз — и есть. Её даже не надо формировать. Может быть, она уже есть и нам просто надо

обратить на неё внимание. Что касается меня, то у меня возраст, не забывайте. Мои сверстники очень ленивые, а я стараюсь от них не отставать. Я только на молодежь полагаюсь. Вообще, нам надо полагаться на молодых людей, на образованную молодёжь. Они сейчас образованы, много ездят, много смотрят, сравнивают, делают выводы.

М.Г. А как вы думаете, язык — это важно?

У.Ц. Ну, язык — это основа формирования нации.

З.Л. Вось філосаф Акудовіч сказаў, што не трэба нам заганяцца нацыянальнай ідэяй. У нас ёсць самае галоўнае − свая дзяржава, дзе ёсць свае беларускія законы і па гэтых законах нас садзяць у беларускія турмы, а не адсылаюць у Сібір.

У.Ц. Да, у нас на востоке Беларуси свой Магадан и лучше сидеть на востоке Беларуси, чем на востоке России, конечно.

М.Г. Может, это и есть национальная идея: отбывать срок в Орше, а не в Магадане?

У.Ц. Сидеть желательно дома, да. Но вообще, я бы, наверно, вспомнил о Европе. Возможно, это тоже часть нашей национальной идеи. И возможно, что не самая маргинальная её часть. У меня есть один приятель, человек известный. Он мне как-то сказал, что вот он живёт в России, хорошо её знает. Россия, несмотря на Эрмитаж, на ее литературу и театр, не является европейским государством. Он говорит, что это всё-таки Азия. С его точки зрения, Украина тоже Азия. А вот когда он въезжает на территорию Беларуси, буквально пересекает границу, у него появляется ощущение, что он в Европе. И пока он в Беларуси, его не покидает это чувство. Почему так, он мне не объяснил. И если мы говорим о национальной идее, то очень важно, чтобы каждый делал своё дело, что он умеет. И делал хорошо, лучше, чем кто-либо. И гордиться тем, что ты делаешь. И чтобы люди говорили, что это сделано в Беларуси. Уже и появляется такое: «рабі добра і якасна». Может быть, это и есть вот та большая национальная идея, о который мы говорим.



# АЛЕГ
# ЛАТЫШОНАК

## «ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!» — ЛЕПШАЙ НАЦІДЭІ Я НА СЁННЯ НЕ БАЧУ

euroradio·fm

Гутарылі Зміцер Лукашук, Максім Гаруноў
Фота Еўрарадыё

З.Л. Вітаем усіх слухачоў, мы сёння ў Беластоку ў рэдакцыі нашых сяброў, газеты «Ніва», сустракаемся з вядомым гісторыкам Алегам Латышонкам. Добры дзень, спадар Алег.

А.Л. Добры дзень.

З.Л. Спадар Алег, а вось беларусы, якія жывуць, на Падляшшы, у Польшчы, могуць перадаць усёй астатняй тытульнай нацыі Рэспублікі Беларусь веды пра нацыянальную ідэю, разуменне, што гэта такое, як з гэтым абыходзіцца?

А.Л. Калісьці гаварылі, што на Беласточчыне жывуць беларусы, якія размаўляюць па-беларуску, што ў нас тут ёсць беларускія школы. Гэта ўсё было такім пошукам зямлі абяцанай, месца пад сонцам, дзе жыве сапраўдная Беларусь. Безумоўна, на пачатку дзевяностых, паколькі ў нас тады яшчэ існавала сялянства, беларуская Беласточчына была апошнім астраўком традыцыйнай беларушчыны. Сялянства жыло ў сваіх вёсках, захоўваліся нейкія вясковыя традыцыі. Сялянства жыло на сваіх гаспадарках. Тут у нас гаспадар быў на сваім, чаго не было ў Беларусі з яе калгасна-саўгасным ладам. Сёння, праз трыццаць гадоў, беларускага сялянства на Падляшшы ўжо няма. На вёсцы засталіся толькі фермеры і пенсіянеры, альбо ўжо дачнікі. Апошні як бы агмень нашай сапраўднай беларушчыны выпараваў, і мы нічым не рознімся ад Беларусі ў Рэспубліцы Беларусь. Апрача таго, што там пануе руская мова, а ў нас польская.

З.Л. У Беларусі ідзе арасейшчыванне беларусаў, а на Падляшшы паланізацыя?

А.Л. Так, і вельмі хуткімі тэмпамі. Беларусаў на Падляшшы засталося пяцьдзясят тысяч, а праваслаўных засталося сто пяцьдзесят тысяч. Вельмі ўжо мала беларусаў тут.

З.Л. А што можа ўратаваць беларусаў Беларусі ад русіфікацыі, а беларусаў Польшчы ад паланізацыі? Можа, вось гэтая нацыянальная ідэя, невядомая нам пакуль?

А.Л. Я шмат пісаў пра нацыянальную ідэю. Для мяне гэта была ідэя існавання беларускай нацыі. Я яе разумеў так, што у нас павінна была з’явіцца ідэя, што ёсць беларусы і што гэтыя беларусы — гэта мы. Ідэя павінна была з’явіцца знутры. Не хтосьці звонку назаве нас беларусамі, а мы самі павінны пачаць гаварыць пра сябе, што мы беларусы.

З.Л. І яна ў нас з’явілася?

А.Л. З’явілася, але вельмі позна, у другой палове дзевятнаццатага стагоддзя. Прынялася на пачатку дваццатага і так ужо і існуе. Паколькі ні расійская культура, ні польская культура, якія панавалі ў Беларусі перад Першай сусветнай вайной, не прызнавалі беларусаў як асобны народ, першым імпэтам беларускай нацыянальнай ідэі было змаганне за ўжыванне беларускай мовы. Для беларусаў, то-бок, для ніжэйшых пластоў тагачаснага грамадства на гэтых тэрыторыях, беларуская мова была прыладай змагання за тое, «каб людзьмі звацца», як сказаў Купала. Людзі ў той час змагаліся за беларускую мову не таму што наша мова прыгожая, мілагучная, што гэта мова дзядоў, прадзедаў. Жыццё гэтых дзядоў і прадзедаў было подлае, трэба ясна сказаць. І Купала гэта разумеў. Тады нікому не прыходзіла ў галаў жыць, як дзяды і прадзеды. Наадварот, беларусы прагнулі жыць лепш, прагнулі вырвацца з гэтай галечы. Зноў скажу словамі паэта: «І будзе ўнукаў панаванне там, дзе сягоння плача дзед». Мова для іх была спосабам дасягнуць гэтага панавання.

З.Л. А калі мова перастала быць вось гэтай прыладай барацьбы за лепшае жыццё?

А.Л. Пасля перамогі бальшавікоў, у пачатку дваццатых гадоў мінулага стагоддзя. Тады аказалася, што з рускай мовай селянін лёгка можа падняцца на прыступках сацыяльнай іерархіі. Усе вышэйшыя пласты ў выніку рэвалюцыі былі зніштожаныя. У сялян з’явілася магчымасць падняцца на ўзровень паноў, заняць месца паноў, пры ўмове адмовы ад сваёй мовы і пераходу на рускую. Такія правілы прапанавалі бальшавікі. Тут, у Польшчы, пасля Другой сусветнай вайны, камуністычная ўлада таксама ахвотна прымала гэтых сялян пад адным варункам —

будзеце вы гаварыць па-польску, а не па-беларуску. Сяляне ў Польшчы і ў Савецкім Саюзе пагадзіліся з такімі правіламі. Такім чынам, няма цяпер рэальнай ідэі, дзеля якой беларуская мова была прыладай.

З.Л. І ўсё?

А.Л. Не, не зусім. Вяртанне мовы і нацыянальнага праекта яшчэ магчымае зверху. Калі прынамсі частка эліты, якая кіруе Беларуссю, нарэшце зразумее, што калі не будзе беларускай мовы, то абсалютна знікае падстава існавання Рэспублікі Беларусь. Яна была створана толькі таму, што людзі тут гаварылі па-беларуску. Калі яны не гавораць па-беларуску, то Беларусь не патрэбная. Як краіна расейцаў першай ці там другой катэгорыі, яна доўга існаваць не будзе.

З.Л. А калі яны гэтага так і не зразумеюць?

А.Л. Застанецца, напэўна, рабіць рэвалюцыю, але я бачу, што на Беларусі ахвотных няма. Асабліва ў беларускамоўнай апазіцыі. Калі ідзе пра Беласточчыну, то тут таксама цішыня. Трыццаць гадоў таму мы яшчэ гаварылі пра аўтаномію ў рамках Польшчы, і гэта надавала імпэт нашаму руху. Але беларусаў на Падляшшы усё менш, перспектыва атрымаць аўтаномію знікае. Сёння ў Беластоку мы можам спадзявацца толькі на тое, што беларуская мова ўсё ж такі пераможа ў Беларусі.

М.Г. Православные, о которых вы упомянули, раньше пользовались беларуским языком, я правильно понимаю?

А.Л. Так.

М.Г. Можно ли сказать, что православие для беларусов в Польше важнее, чем национальная идентичность?

А.Л. Я б так не сказаў. Тут ідзе працэс пераходу праваслаўных у каталіцтва. Практычна ўсе мяшаныя праваслаўна-каталіцкія сужэнствы даюць у выніку дзяцей палякаў-каталікоў. Калі я гавару пра праваслаўных, то маю на ўвазе, што яны ахрышчаны ў праваслаўнай царкве. У царкву яны

не ходзяць, асабліва моладзь. Беларуская моладзь у Польшчы яшчэ лічыцца праваслаўнай, але гэта, хутчэй за ўсё, апошняе пакаленне. Акрамя таго, сярод праваслаўнай моладзі мы маем з'яву польскага праваслаўнага шавінізму. Нашумелыя маршы «Żołnierzy Wyklętych» у Гайнаўцы — яны ж арганізаваныя праваслаўнымі палякамі. Я не разумею, як магчымая такая ідэнтычнасць: праваслаўны паляк-шавініст з беларускімі каранямі. На мой погляд, яна шызоідная, доўга не ўтрымаецца і рана ці позна яны ўсе будуць палякамі-каталікамі.

М.Г. От своего языка беларусы избавляются быстрее, чем от своей веры, так?

А.Л. Можна сказаць, што праваслаўе як традыцыйная рэлігія больш устойлівае. Але гавару — і гэтая ўстойлівасць мае свае межы, і, відаць, ужо прыйшло апошняе пакаленне. Калісьці на з'ездах праваслаўнай моладзі на Святой Гары Грабарцы прымала удзел пяць тысяч моладзі. А цяпер і пяцьсот не назбіраецца. За адно пакаленне ў дзесяць разоў меней.

М.Г. Люди переезжают из деревни в города и полностью меняют идентичность?

А.Л. Мы маем дачыненне з людзьмі, якія ўжо ў трэцім пакаленні гараджане Беластока, Бельска ці Гайнаўкі. У іх ужо моцная польская нацыянальная свядомасць. Рэлігійная праваслаўная ідэнтычнасць для іх няважная і мае другараднае значэнне. Для іх важна, што яны палякі.

З.Л. І нават беларускамоўны ліцэй у Гайнаўцы не дапамагае?

А.Л. Ліцэй не беларускамоўны. Беларуская мова там ёсць як прадмет. Зразумела, што вельмі шмат залежыць ад настаўнікаў, але яны не здольныя  супрацьстаяць таму, што бацькі не выхоўваюць дзяцей як беларусаў. У Гайнаўцы была такая польская шавіністычная арганізацыя «Narodowa Hajnówka». У ёй мала што палова праваслаўных, дык яшчэ частка менавіта з гэтага так званага беларускага ліцэя.

З.Л. У Мінску часам кажуць, што для таго, каб беларусам захавацца як нацыя, трэба вярнуцца да традыцый сваіх продкаў, да культурнай спадчыны. Але, слухаючы вас, у мяне такое адчуванне, што нам асабліва і няма да чаго вяртацца.

А.Л. Я супраць таго, каб вяртацца да таго, што ўжо памерла. Вяртацца трэба да таго, што жыва. Вось Дзяды і такога роду спадчына дасканала захавалася. Захоўваецца якраз тое, што фактычна з'яўляецца асновай нашай сучаснай ідэнтычнасці. Культ продкаў, Дзяды — гэта жывое. Няма сэнсу вяртацца да таго, што і так вельмі добра трымаецца. Калі трымаецца, значыць, мы ад гэтага нікуды і не сыходзілі.

З.Л. Акрамя Дзядоў у нас ўсе святкуюць Купалле. Дзяды і Купалле захаваліся з паганскіх часоў. То-бок, у глыбіні душы беларусы — гэта такая паганская нацыя?

А.Л. У нейкім сэнсе, так. Самае трывалае ў нас – гэта менавіта дахрысціянскае. Хто займаецца гэтым пытаннем навукова, бачаць як паганскія традыцыі прынялі хрысціянскія формы, але змест застаецца традыцыйным. Прытым у нас немагчыма будаваць еднасць на рэлігіі. Мы разрозненыя на праваслаўных, католікаў, ёсць шмат пратэстантаў. У нас немагчыма стварыць нацыю на ўзор палякаў. У беларусаў як у нацыі рэлігійны элемент вельмі неакрэслены. Увогуле, узнікненне беларускай нацыі стала магчымым, калі ўсе рэлігіі паслабелі.

З.Л. Можа быць, нам не хапае гістарычных міфаў, міфалогіі, і трэба яе стварыць?

А.Л. Я ведаю, што шмат людзей так думае. Для мяне гэта дзіцячае. Я беларус не таму што мае продкі мелі вялікія дасягненні. Мой дзед быў беларусам, мой бацька быў беларусам, маці ёсць беларускай, і я беларус. І я не лічу трыумфы Вялікага Княства Літоўскага нашымі трыумфамі. Гэта была рабаўладальніцкая дзяржава, якая марна скончыла і адклікацца да яе няма ніякага сэнсу. Мы маем гісторыю поспеху беларускай нацыі, якая пачынаецца з другой паловы дзевятнаццатага стагоддзя. Фактычна з пачатку дваццатага. За адно стагоддзе мы, сяляне, з нічога

збудавалі нацыю і дзяржаву. Мы выцягнулі сябе з балота за свае валасы, як барон Мюнхгаўзэн. Усё гэта адбылося пры жыцці маёй бабулі, якая нарадзілася пры цару, хадзіла ў царскую школу, а памірала, калі Аляксандр Лукашэнка быў ужо другі тэрмін прэзідэнтам Беларусі. Гэта і ёсць поспех. Гэтым трэба ганарыцца, а не перамогай наёмнікаў у бітве пад Оршай.

З.Л. Зараз шмат хто кажа пра рэальную пагрозу страціць незалежнасць і суверэнітэт. Наша мова можа дапамагчы нам захаваць суверэнітэт?

А.Л. Перш за ўсё, мова, паколькі яна ёсць як бы ўвасабленнем нашай гісторыі. Безумоўна, трэба паказваць і багатую спадчыну Беларусі. Нацыя не ўтрымаецца без гісторыі. Калі вучыць гісторыю, то перш за ўсё нацыянальную. На жаль, у Беларусі ставяць помнікі ўсім, толькі не беларусам. Яшчэ не паставілі помніка ніводнаму нашаму вялікаму правадыру.

З.Л. Сапегу адкрылі ў Слоніме, Гедыміну адкрылі ў Лідзе.

А.Л. Не беларусы яны былі, гавару ж. У маім разуменні гэтыя Гедыміны і Міндоўгі — проста акупанты.

З.Л. Якому, на ваш погляд, сапраўднаму беларусу варта паставіць помнік?

А.Л. Івану Луцкевічу, Антону Луцкевічу, Язэпу Варонку. Яны нас стварылі. У Купалы і Коласа помнікі ўжо ёсць, цяпер нам патрэбныя помнікі нашым дзяржаўным дзеячам. Калі ідзе пра дзяржаўных дзеячоў, то помнікі трэба ставіць менавіта тым персанажам, якія стварылі беларускі нацыянальны рух і беларускую дзяржаву.

З.Л. Бацькам-заснавальнікам Беларускай Народнай Рэспублікі?

А.Л. У нас нікому больш не варта ставіць помнікі.

М.Г. Насколько важен тот факт, что Беларусь — беднейшая страна в регионе?

А.Л. Безумоўна так, але беларусы самі выбралі гэты шлях і гэтую ўладу, якая на сённяшні дзень існуе. На пачатку дзевяностых у беларусаў і суседзяў шанцы на эканамічны поспех былі аднолькавыя. Я тады жыў у Польшчы, але безупынна ездзіў у Беларусь. Магу сказаць, што мы былі прыкладна на адным узроўні. Цяпер Польшча апярэджвае Беларусь у два разы. Калі б сітуацыя з беларускасцю была лепшая, то зараз у Беларусі было б, як у Польшчы. Паколькі было горш, а стала яшчэ горш, то так і будзе Беларусь з менавіта такой ідэнтычнасцю.

З.Л. Беларусы не ўсвядомілі сябе беларусамі, і таму ў нас эканамічныя праблемы?

А.Л. Вы зразумейце, што не зробіць Беларусь ніякага эканамічнага рыўка без вельмі моцнай нацыянальнай свядомасці. Карэйцы зрабілі рывок, каб паказаць японцам, што яны не горшыя. Што яны, карэйцы, здольныя зрабіць нешта значнае і вялікае. Без гэтага ў добрым значэнні нацыяналізму ніякі рывок немагчымы. Мусіць быць ідэя, абгрунтаванне, чаму мы маем цяжка працаваць, чаму маем сабе адмаўляць. Проста ідэя прагрэсу — гэта замала.

З.Л. А вы можаце прапанаваць беларусам такую ідэю, дзеля чаго б яны маглі упарта працаваць?

А.Л. Перш за ўсё кіроўныя колы павінны зразумець, што краіна будзе квітнець толькі калі народ захоча сам сабе даказаць, што ён можа. Як у кальвіністаў: кальвініст хоча сабе самому даказаць, што Бог з ім, і таму ён так цяжка працуе. І я думаю, трэба каб кіроўная эліта зразумела, што калі не будзе беларускай мовы, то пасля далучэння да Расіі ўсё, што яны нажылі, прападзе. Ніхто там не будзе з імі лічыцца. Можа быць толькі ў самым пачатку, у першы час. Але вельмі хутка іх прыбяруць.



# АЛЯКСАНДР КРАЎЦЭВІЧ

## «ЗРАБІЦЬ ТАК, КАБ БЫЦЬ БЕЛАРУСАМ У БЕЛАРУСІ БЫЛО КАМФОРТНА»

euroradio·fm

Гутарылі Зміцер Лукашук, Максім Гаруноў
Фота Еўрарадыё

З.Л. Вітаю ўсіх, у эфіры чарговы выпуск праграмы «Ідэя Х», наш сённяшні госць — гісторык Аляксандр Краўцэвіч. Добры дзень, спадар Аляксандр.

А.К. Вітаю.

З.Л. Нацыянальная ідэя нам патрэбна?

А.К. Калі мы не хочам быць асобнай нацыяй, калі не хочам мець асобнай дзяржавы, то нацыянальная ідэя нам не патрэбная.

З.Л. А мы хочам?

А.К. Ёсць грамадзяне Беларусі, якія не хочуць быць нацыяй.

З.Л. І колькі такіх?

А.К. У Беларусі, як і ў любой іншай краіне, людзей, якія думаюць не толькі пра хлеб, — меншасць. У Беларусі два стагоддзі існуе сістэма антынацыянальнага выхавання. З асабістага досведу я ведаю людзей, якія маюць званні дацэнтаў, працуюць у вышэйшых навучальных установах і гавораць: «А чё, разве плохо нам было с Россией в Советском Союзе? Там зарплаты выше, там пенсии выше».

З.Л. Ці патрэбна нам нацыянальная міфалогія?

А.К. Міфалогія з'яўляецца неадменнай часткай любой дзяржаўнай ідэалогіі. Як было ў рэальнасці, ведае толькі Пан Бог. Чалавек не ў стане ведаць, як было ў рэальнасці. Усе нацыі стваралі і ствараюць сваю міфалогію. Усе без выключэння. Я вельмі паважаю нацыянальны шлях летувісаў. Яны былі блізкія да асіміляцыі праз беларусаў, потым праз палякаў, потым праз расійцаў, але здолелі стварыць міфалогію на аснове сялянскай культуры і застацца сабой. Больш за тое, яны прысвоілі ўсю гісторыю Вялікага Княства Літоўскага, якая была на 95% славянская і ў якой летувісы не мелі ніякага значэння — ні іх мова, ні іх культура, ні іх традыцыі.

З.Л. Наколькі добра беларусы ведаюць сваё мінулае? Напрыклад, мінулае ў Вялікім Княстве Літоўскім

А.К. Трыццаць гадоў таму, калі ты гаварыў, што Вялікае Княства Літоўскае было і беларускай дзяржавай, гэта ўспрымалася як дзівацтва. Сёння ўжо няма патрэбы пераконваць адукаваную частку беларускага грамадства, што Вялікае Княства Літоўскае было беларускай дзяржавай. Больш за тое, мы прымусілі гэта сказаць Лукашэнку. У 2017 годзе ён заявіў, што Полацкае княства — гэта наша дзяржаўнасць, і Вялікае Княства Літоўскае таксама. У пачатку двухтысячных гадоў за крытыку выказвання Лукашэнкі пра тое, што Вялікае Княства Літоўскае эксплуатавала беларусаў, мне давялося пакінуць працу ў Гарадзенскім універсітэце. Не прайшло і трынаццаці гадоў, як Лукашэнка паўтарыў тое, за што мяне папрасілі з універсітэта. То-бок, не ўсё так дрэнна.

М.Г. Историк  Олегом Латышонок утверждает, что для Беларуси важнее братья Луцкевичи, Иван и Антон, а не великокняжеские аристократы, которые эксплуатировали беларусов.

А.К. Толькі дзевятнаццатым стагоддзем і толькі на сялянскай культуры сучасную мадэрновую нацыю не збудуеш. Летувісы будуючы сваю нацыю, але не абышліся без глыбейшай гістарычнай міфалогіі. Яны прысвоілі сабе Вялікае Княства Літоўскае і дзякуючы гэтаму сабралі добра ўладкаванае грамадства. І я не згодны з тым, што арыстакраты эксплуатавалі беларусаў. У Сярэднявеччы таксама існавала форма грамадскай дамовы: рыцары ваююць, святары гадуюць душу, сяляне працуюць. Арыстакраты забяспечвалі сялянам правапарадак, увялі найлепшую ў Еўропе кадыфікацыю права — Вялікі Статут Літоўскі. Арыстакраты забяспечвалі сялянам абарону ад знешніх ворагаў: ад крыжакоў, ад маскавітаў, ад татар. То-бок, не трэба гаварыць, што была толькі эксплуатацыя.

М.Г. Аристократы легко уходили на службу империи, если это было выгоднее. В истории России таких примеров много.

М.К. Я з вамі згодны. Гісторыя паказвае, што пры перасячэнні інтарэсаў матэрыяльных і духоўных, нацыянальная арыстакратыя выбірае матэрыяльныя. Калі туркі ў чатырнаццатым стагоддзі захапілі Візантыю, некаторыя візантыйскія зямельныя арыстакраты папрымалі іслам і сталі служыць турэцкаму султану, каб захаваць свае ўладанні. Зноў жа, у летувісаў у дзевятнаццатым − пачатку дваццатага стагоддзя была адмова ад арыстакратыі, якая была спаланізаваная. Але цяпер яны прыцягваюць у летувіскую культуру польскамоўную шляхту васямнаццатага — дзевятнаццатага стагоддзяў і нават праваслаўных Гедымінавічаў. То-бок, будаваць нацыю толькі на сялянскай аснове — гэта неверагодна. Выбітнейшы паэт Расіі Пушкін таксама быў прыгоннікам-эксплуататарам. Гэта не значыць, што расійцы павінны ад яго адмовіцца дзеля сацыяльнай справядлівасці. І ў Сярэднявеччы, і ў Новы час культура стваралася людзьмі, каторыя мелі на гэта час і сродкі: арыстакратыяй, духавенствам, шляхецтвам. Мікалай Капернік апрацаваў сваю геліяцэнтрычную сістэму, бо ён меў сродкі да жыцця. Ён не мусіў працаваць і меў час на тое, каб займацца навукай. Калі мы адмаўляемся ад спадчыны, звязанай з арыстакратыяй, мы становімся халопскай, прабачце, нацыяй.

М.Г. Есть Эстония, у которой, как я понимаю, особой аристократии никогда не было, но это им не помешало построить самое успешное общество на постсоветском пространстве. И есть Гонконг, бывшая английская колония, который, несмотря на колониальное прошлое, тоже передовой и успешный.

А.К. Я бы не стаў прыцягваць сюды прыклад Ганконга. Гісторыя посткаланіяльных краін адрозніваецца ад нашага рэгіёна. І я вас смею запэўніць, што калі б эстонцы мелі ў мінулым дзяржаву, да якой маглі б аднесціся, яны гэта б зрабілі з вялікай радасцю. Эстонія не мае ў мінулым ніводнага дзяржаўнага ўтварэння, якое б яна магла пакласці ў сваю нацыянальную ідэалогію. А мы маем. Калі б дацкія і нямецкія бароны развівалі эстонскую мову, выпусцілі б кодэкс права на эстонскай мове, яны былі б першымі героямі Эстоніі, ім бы ставілі помнікі. Але гісторыя склалася так, што ім няма на што абаперціся ў мінулым. Калі ёсць такая

магчымасць, то ніякая нацыя ад гэтага не адмаўляецца. Дарэчы, эстонцы выжылі як народ дзякуючы таму, што мы, наша Вялікае Княства Літоўскае, не аддала Ордэну Жамойць.

М.Г. Но это ни разу не мешает ей быть образцово-показательной страной. Я это к тому, что аристократическое прошлое не так уж и важно.

А.К. Гэта адзін з найважнейшых фактараў. З чаго пачалося чэшскае адраджэнне? З фальсіфікацыі чэшскай Хронікі пятнаццатага стагоддзя пра слаўную гісторыю Чэшскага каралеўства. Адраджэнне Венгрыі абапіралася на слаўнае мінулае Венгерскага каралеўства. Слаўная гісторыя — гэта вялікі імпульс да нацыяўтварэння. Тое, што эстонцы сталі нацыяй, гаворыць пра тое, што там былі іншыя чыннікі. Расійская імперыя не разглядала эстонцаў як частку свайго народа. Эстонцам дазвалялася пачатковая адукацыя на сваёй мове, чаго не дазвалялася беларусам і ўкраінцам. Эстонія, Латвія, Летува — невялікія краіны, якія бальшавікі гатовыя былі часова аддаць. Аддаць Украіну і Беларусь бальшавікі былі не гатовыя.

М.Г. Но ведь без славной истории, нет?

А.К. Эстонцы захавалі дзяржаўнасць і здолелі адрадзіць яе пасля ўпадку Савецкага Саюза насуперак адсутнасці слаўнай гісторыі. У нас жа такая гісторыя ёсць. Вы што, прапаноўваеце нам адмаўляцца ад летапісаў, ад тысяч дакументаў на беларускай мове, якія стварылі арыстакраты, якія ляжаць у архівах Летувы і Беларусі?

М.Г. Я говорю об акцентах и судя по тому, что пишут в газетах, сейчас в Польше и Венгрии славные истории работаю скорее против демократии, чем за неё.

А.К. Да венгерскай і польскай дэмакратыі нам яшчэ расці і расці. І вы паўтараеце хібы нашых беларускіх сацыялістаў, а потым камуністаў на пачатку дваццатага стагоддзя. Яны ставілі сацыяльныя лозунгі вышэй за лозунгі нацыянальныя, выпіхнулі з беларускага руху памешчыка Рамана Скірмунта, Вайніловіча, іншых. Ведаеце, чым гэта кончылася.

З другога боку, калі Чырвоная Армія ішла на Варшаву ў 1920 годзе, яны ішлі ў перакананні, што польскія сяляне і рабочыя падымуцца супраць сваіх эксплуатататараў. Але аказалася, што для польскіх сялян і рабочых, якія былі шараговымі ў войску Пілсудскага, нацыянальныя вартасці былі вышэйшымі за сацыяльныя і яны затрымалі Тухачэўскага пад Варшавай. Што тычыцца дэмакратыі, то на маю думку, некарэктна супрацьпастаўленне дэмакратыі і нацыянальнай міфалогіі. У Эстоніі, Латвіі і Летуве дэмакратызацыя вельмі цесна звязаныя з нацыянальным будаўніцтвам. Вам не даводзілася бачыць рэпартажы з эстонскага горада як па рынку ідуць кантралёры і штампуюць штрафы гандлярам, якія вывесілі таблічкі не на эстонскай мове? Не забывайце, што частка рускамоўнага насельніцтва і ў Латвіі, і ў Эстоніі не мае грамадзянскіх правоў, таму што не здалі мінімум па дзяржаўнай мове.

М.Г. Как вы относитесь к Антанасу Сметоне?

А.К. Гэта адзін з аўтарытарных кіраўнікоў, якія прыйшлі да ўлады ў прыбалтыйскіх рэспубліках у міжваенны час. Антанас Сметона быў у Літве, Карліс Ульманіс у Латвіі, Канстанцін Пятс у Эстоніі. Яны абмежавалі дэмакратыю ў сваіх краінах і абапіраліся на нацыянальную ідэалогію. Сваім студэнтам я кажу, што абмежаванне дэмакратыі было агульным лёсам многіх краін, якія сталі дэмакратыямі пасля Першай сусветнай вайны. І ў Фінляндыі, і ў Партугаліі, і ў Іспаніі, і ў Венгрыі. Гэта сведчанне таго, што дэмакратыя — гэта справа не аднаразовага акту. Дэмакратыя патрабуе шматгадовага трэнінгу і штодзённага навучання.

М.Г. Допустим, завтра Лукашенко даст команду своей бюрократической машине переходить на беларуский язык, а учебник по истории станет либо ваш, либо такой, с которым вы согласны. Ваша реакция?

А.К. Я перастану ў сваіх публікацыях граміць Лукашэнку як магільшчыка беларускай нацыі і пачну яго граміць як магільшчыка беларускай дэмакратыі.

З.Л. Такім чынам, нацыянальная гісторыя, яе гераізацыя, міфалагізацыя, плюс мова, плюс традыцыі, — вось гэта ўсё вельмі важна?

А.К. Абсалютна слушна. Нацыянальная ідэя — гэта ідэя, якая дапамагае захаванню нацыі як культурнай супольнасці. Мы павінны сябе захаваць хаця б таму, што мы маем тысячагадовую гісторыю і мы — багацце чалавецтва: наша мова, наша культура і гэтак далей.

М.Г. Можно ли сказать, что беларуское пространство для вас — это такая зона комфорта?

А.К. Я вось, пажыўшы тры гады ў Маскве, пераканаўшыся, які там іншы народ, — не кажу, што горшы, але іншы, — я зразумеў, што нам камфортна ў сваёй традыцыі. І я бачу масы беларусаў, якія адчуваюць сябе дыскамфортна, што іх ломяць, выцягваюць са звыклага ладу жыцця.

З.Л. Чаму ў нас цяпер менавіта такі стан рэчаў з нацыянальнай ідэяй?

А.К. Таму што наш аўтарытарны рэжым не абапіраецца на нацыяналізм. Гэта ўвогуле феномен у гісторыі: аўтарытарны рэжым не абапіраецца на нацыянальнае пачуццё. Паглядзіце на ўсю Цэнтральную і Усходнюю Еўропу, асабліва ў міжваенны перыяд. Усюды была моцная нацыянальная ідэя, нацыяналізм нават. У нас наш аўтарытарны рэжым прыдумаў эрзац, у які ніхто не верыць. У сэнсе ідэйным, ідэалагічным мы краіна хаосу, зона беспарадку. Сёння захад Беларусі едзе ў Польшчу. Кожны год з маёй роднай Гародні па карце паляка выязджае вучыцца ў Польшчу больш за тысячу маладых людзей. Выязджаюць і знікаюць там. З усходу Беларусі едуць у Расію.

З.Л. Самы вядомы айцішнік Беларусі, Пракапеня, неяк сказаў, што ім, айцішнікам, не трэба ніякай нацыянальнай ідэі, яны — людзі сусвету, яны глядзяць у будучыню.

А.К. Гэта сведчанне глыбокага правінцыялізму, абмежаванасці нашай тэхнічнай інтэлігенцыі. У нас нармальна калі фізік двух слоў не можа звязаць, не ведае ні паэзіі, ні культуры, ні літаратуры. Я ведаў аднаго доктара фізіка-матэматычных навук, які не мог студэнтам прадставіць Васіля Быкава, хто гэта такі. І вось Пракапеня якраз з гэтай пароды: спецыяліст у сваёй вузкай галіне, які, прабачце, не мае нармальнай

гуманітарнай адукацыі, а лезе з парадамі нацыянальнага маштабу. Вучыцца яму трэба, кніжкі чытаць. Паэзію, філасофію, гісторыю. А потым ужо спрабаваць нешта раіць цэламу народу.

З.Л. Ідэалогію гэтую хто будзе распрацоўваць?

А.К. Незалежныя беларускія навукоўцы.

З.Л. Нацыянальная ідэя — гэта?

А.К. Зрабіць так, каб у Беларусі камфортна было быць беларусам, не ўшчамляючы правоў усіх іншых народаў, якія жывуць на тэрыторыі маёй краіны.

З.Л. Беларусь для беларусаў?

А.К. Без ушчамлення правоў іншых нацый. Мне, як беларусу, сёння ў гэтай краіне некамфортна. Я дыскрымінаваны па нацыянальнай і моўнай прыкмеце. Я не маю дзіцячага садка для сваіх дзяцей, не магу купіць штодзённіка па-беларуску, не магу купіць атласа дарог па-беларуску. Я адчуваю дыскрымінацыю на кожным кроку.



# АЛЕГ ТРУСАЎ

## «НАШ ПРАРОК ЯНКА КУПАЛА ВЫКАЗАЎ НАЦІДЭЮ ДВУМА СЛОВАМІ: «ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!»

euroradio·fm

Гутарылі Зміцер Лукашук, Максім Гаруноў
Фота Еўрарадыё

З.Л. Вітаю ўсіх слухачоў, у нас у гасцях — ганаровы старшыня Таварыства беларускай мовы, рэктар беларускамоўнага ўніверсітэта імя Ніла Гілевіча, спадар Алег Трусаў.

А.Т. Вітаю вас, шаноўнае спадарства.

З.Л. Ваша меркаванне: беларусы як нацыя яшчэ не сфармаваліся?

А.Т. Можна сказаць, што ў свой час мы крыху спазніліся сфармавацца як нацыя, і на дадзены момант мы — нацыя, мадэрновая, але крыху недафармаваная. З другога боку, мы ўжо дваццаць восем гадоў маем незалежнасць. Апярэджваючы ваша пытанне, скажу, што нацыянальная ідэя ў нас ёсць і даўно. Яе сфармаваў наш прарок, Янка Купала, у двух словах: «Жыве Беларусь». Яшчэ раней быў Каліноўскі: «Люблю Беларусь, то ўзаемна».

З.Л. Каму гэтыя два лозунгі, гэтая ідэя адрасаваныя?

А.Т. Ідэяй павінна загарэцца эліта. Нацыю фармуе эліта, адзін-два адсоткі ад нацыі. Асноўная нацыя хоча проста жыць добра, есці хлеб з маслам, менш працаваць, лепш адпачываць. У гэтым няма нічога дрэннага, людзі заўсёды былі такімі, пачынаючы з каменнага века. Але ёсць эліта, і калі яна прачынаецца, то нацыя ідзе за ёй. Той жа Купала, свае першыя вершы напісаў па-польску. Яго маці лічыла сябе полькай з беларускай шляхты. Потым нешта здарылася, узнікла новая палітычная сітуацыя, на сцэну выйшла нікому не вядомая Беларусь, і Купала пачаў пісаць вершы на беларускай мове і нават адгадаў лозунг гэтай краіны.

М.Г. В 1991 году Беларусь стала независимой в результате переговоров между главами советских республик, без мобилизации граждан на борьбу за эту независимость. Вы сказали, что беларусы и в прошлом опоздали со своей нацией, и сейчас не совсем сформировались. Может ли это означать, что беларусы относительно равнодушны к независимости?

А.Т. Катэгарычна з вамі не згодзен. У дзевятнаццатым стагоддзі беларусы

ўдзельнічалі ў двух вялікіх антыімперскіх паўстаннях: 1831 года і асабліва ў паўстанні Каліноўскага ў 1863 годзе. Беларусы тады не хацелі ісці ў «братнюю» Расію, хацелі вярнуцца ў Рэч Паспалітую, якая была створана нашымі магнатамі. Абодва паўстанні расейцы патапілі ў крыві. У 1918 годзе з частковай дапамогай нямецкай акупацыі была абвешчана Беларуская Народная Рэспубліка.

Нягледзячы на тое, што вакол была, прабачце, крывавая вайна, беларусы не жадалі быць ні ў складзе дэмакратычнай Расіі, ні ў складзе манархічнай Расіі. Яны жадалі поўнай незалежнасці, і яны яе абвясцілі. Пасля была польская акупацыя, а пасля ўзнікла Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка. Потым была Другая сусветная вайна, беларусы пралівалі сваю кроў па ўсёй Еўропе. Каб не Першая і Другая сусветныя войны, нас было б як палякаў, ад сарака да пяцідзесяці мільёнаў, а зараз Беларусь пустая. Можаце праехаць трыццаць кіламетраў, і ніводнай вёскі не ўбачыце. А праедзьце па Польшчы: праз кожныя тры кіламетры абавязкова то гарадок, то мястэчка. Мы нацыя, якую ледзь не знішчылі падчас сусветных войнаў. Чаму ў 1945 годзе БССР зрабілі заснавальніцай ААН і фармальна незалежнай? За партызанскі рух, за тое, што мы страцілі кожнага трэцяга. Сталін хацеў, каб усе савецкія рэспублікі ўвайшлі ў ААН, але ўзялі толькі Расію, Украіну і Беларусь за яе ўнёсак у перамогу над фашызмам. Чаму ў 1991, у адрозненне ад Грузіі і Арменіі, нам была не патрэбна асобная працэдура прызнання нашай незалежнасці іншымі краінамі? Таму што фармальна мы як заснавальнікі ААН былі незалежныя з 1945 года.

М.Г. Когда беларусы назвали себя беларусами?

А.Т. Беларусы сталі называць сябе беларусамі толькі з дзевятнаццатага стагоддзя. Да гэтага былі Вялікае Княства Літоўскае і Рэч Паспалітая, у якіх шляхта называла сябе літвой, літвінамі, а сяляне ніяк сябе не называлі, яны былі тутэйшыя, мясцовыя. Трэба сказаць, што гэтая сітуацыя была тыповая для таго часу. Прыгонны раб не мае нацыянальнасці, ён мае хіба што веру. Пытанне нацыянальнасці сялян у Еўропе ўпершыню паўстала ў французаў пасля іх рэвалюцыі. Аб беларусах загаварылі пасля адмены прыгоннага права на тэрыторыі Расійскай імперыі. У першым і апошнім ўсерасійскім перапісе не было графы

«нацыянальнасць», былі мова і веравызнанне. Тады беларускую мову прызналі сваёй сем мільёнаў чалавек. Гэта пры тым, што мова была фактычна забароненай, на ёй не вучылі дзяцей у школе.

З.Л. Наколькі важна, на якой мове «Жыве Беларусь» гучыць?

А.Т. Беларус размаўляе на мове начальства. Калі, дапусцім, нават гэтая ўлада пяройдзе на беларускую мову, праз пару гадоў мы не пазнаем Беларусь.

З.Л. Кажучы пра тое, што эліта найперш павінна прыняць нацыянальную ідэю і загаварыць па-беларуску, вы маеце на ўвазе чыноўнікаў?

А.Т. Так. Чыноўнікаў, міністраў.

З.Л. То-бок, вось не нас з вамі?

А.Т. Не, не нас з вамі. Сапраўдная эліта кіруе краінай. Чаму ў нас дваццаць пяць гадоў стабільная ўлада аднаго чалавека? Таму што ў яго за спінай стаіць паўмільёна дысцыплінаваных чыноўнікаў. Калі гэтым чыноўнікам будзе аддадзены загад перайсці на беларускую мову, яны за год на ёй загавораць. Тым больш што мову яны ведаюць. Можа, ім цяжка гаварыць, але яны яе разумеюць. У нас тут не Ірландыя. У Ірландыі ірландскую мову вучаць у школах, але ж яна вельмі далёкая ад англійскай. У нас жа блізкія славянскія мовы. Нават не зважаючы на тое, што наша мова бліжэйшая да ўкраінскай і польскай, чым да рускай.

З.Л. Нацыянальная ідэя — захавацца як нацыя?

А.Т. Правільна, і таму нам трэба захаваць эліту. Эліта павінна быць патрыятычнай. Яна павінна ведаць шмат моў, але дома на кухні павінна размаўляць па-беларуску. Дарэчы, гэта так і было ў Вялікім Княстве Літоўскім. Галоўная задача эліты — ніколі не гаварыць на іншых мовах на кухні. Эліце трэба гаварыць толькі па-беларуску і не перашкаджаць рабіць гэта іншым.

З.Л. Нацыянальная ідэя, як вы сказалі, павінна натхніць эліту, то-бок чыноўнікаў, вышэйшае кіраўніцтва краіны. А вось простыя людзі? Што з простым Пецем з калгаса?

А.Т. Пецю трэба падняць заробак, і тады ён будзе раніцай і вечарам крычаць «Жыве Беларусь».

З.Л. А Аляксандр Рыгоравіч, як вы думаеце, зможа прыняць гэтую ідэю?

А.Т. Я думаю, ён не прыме. Ён ужо стары чалавек. Я думаю, што прыме той, хто яго заменіць. Наўрад ці ў нас яшчэ раз знойдзецца чалавек, які зможа настолькі абыякава ставіцца да ўсяго беларускага. Я прыкладна здагадваюся, хто хутчэй за ўсё можа замяніць Аляксандра Рыгоравіча. Гэта будзе чыноўнік сярэдняга ці высокага рангу, які разумее нашу гісторыю, культуру і які будзе актыўна карыстацца беларускай мовай, акрамя рускай і іншых замежных. Такіх людзей, дзякуй Богу, у нашай эліты шмат. Я магу наўскідку назваць чалавек дзесяць. Хутчэй за ўсё, яны і прыйдуць. Калі ў нас будуць дэмакратычныя выбары, народ будзе выбіраць чыноўніка-наменклатуршчыка, а не гуманітарыя, не журналіста. Простыя людзі паўсюль выбіраюць эліту, людзей заможных. Ва Украіне каго выбіраюць? Мільянера Парашэнку і коміка Зяленскага, які таксама чалавек паспяховы і не бедны. Амерыка каго выбрала? Мільярдэра Трампа. Зноў жа, у Чэхіі хто бацькі Гавела? Буйныя бізнесмены. Бацька Гавела быў адным з найбагацейшых людзей Чэхіі. Камуністы троху ў яго адабралі, але людзі ведалі, з якой сям'і Гавел, што ён, выбачайце, не фермер.

З.Л. Нацыянальная ідэя спадара Алега Трусава.

А.Т. «Жыве Беларусь, і жыве добра».

З.Л. І каб эліта ў нас стала беларуска свядомай?

А.Т. Так. І тады ў нас ўсё будзе нармальна. Па маіх назіраннях, пасля Украіны працэсы добраахвотнага абеларушвання нашай эліты ідуць такімі тэмпамі, што я нават не веру. Пасля Украіны наша эліта нібыта

прачнулася ад глыбокага сну, украінскія падзеі расплюшчылі ёй вочы. Нашы чыноўнікі раптам зразумелі, што калі «рускі брат» сюды прыйдзе, ён паставіць рускага «губернатара» і рускага начальніка «ўезда», а беларусам нічога не абломіцца. Гэтае разуменне працуе проста цудоўна. У мяне ёсць знаёмы чыноўнік, пра якога я яшчэ пяць гадоў таму думаў, што вось ён ну ніколі не загаворыць па-беларуску. Потым здарылася Украіна, і зараз ён у сваім раёне піша, выступае і праводзіць нарады па-беларуску. І я многіх такіх ведаю, ён не адзіны.



# УЛАДЗІМІР АРЛОЎ

## «ТВАЯ РАДЗІМА — БЕЛАРУСЬ» — КАРОТКІ ЗМЕСТ МАЁЙ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ ІДЭІ

euroradio·fm

Гутарылі Зміцер Лукашук, Максім Гаруноў
Фота Еўрарадыё

З.Л. Сёння ў нас у гасцях — вядомы беларускі пісьменнік Уладзімір Арлоў. Спадар Уладзімір, я з дзяцінства чытаў вашыя кнігі пра гісторыю Беларусі. Можа, менавіта вы, паколькі вы так глыбока зазіралі ў гісторыю нашай краіны, дзесьці там у гэтых глыбінях і намацалі гэтую нацыянальную ідэю?

У.А. Калі мы гаворым пра нацыянальную ідэю, можна пачаць з таго, што неабходна, каб быў нейкі слоган.

З.Л. Божа мой, нарэшце! А то ўсе кажуць: «Які слоган?»

У.А. Вось, «Будзьма беларусамі», напрыклад. Альбо: «Стаць беларусамі», як сказала нядаўна Святлана Алексіевіч. Мне згадваецца гісторыя з маёй вядомай кнігай «Краіна Беларусь». Калі мы на пачатку 21 стагоддзя шукалі назву для яе, то я прапанаваў менавіта «Краіна Беларусь». Тады па радыё, па тэлебачанні па інэрцыі з савецкіх часоў казалі «рэспубліка»: «у нас у рэспубліцы чакаецца надвор'е...», «да нас у рэспубліку прыехаў хто-небудзь». І вось – «Краіна Беларусь». Можа быць, гэтая фармулёўка спрычынілася да таго, што мы не чуем «рэспубліка». Ужо кажуць: «у Беларусі», «у нашай краіне». Другая рэч, што за назвай павінна стаяць напаўненне.

З.Л. З вашага пункту гледжання, у нас ёсць дзяржава ці не?

У.А. Ёсць, але даволі пашыраная думка, што гэта дзяржава не наша, што яна антыбеларуская. Я ў прынцыпе не згодны з гэтым падыходам. Дзяржава зусім не такая, пра якую мы марылі. Часам дзяржаўныя механізмы гэтай дзяржавы працуюць супраць яе. Я маю на ўвазе, напрыклад, русіфікацыю сістэмы адукацыі: мы выразна ўсведамляем, што мова бароніць межы дзяржавы лепш за любую армію. З другога боку, не будзем забывацца пра тое, што дзяржаўныя механізмы дзейнічаюць і па-іншаму. Напрыклад, у нас за гэтую чвэрць стагоддзя з'явіўся велізарны гістарычны корпус беларусацэнтрычнай літаратуры. За ўсе папярэднія стагоддзі такога не было. У нас пастаўлены шматлікія помнікі тым, хто стаяў ля вытокаў нацыянальнай ідэі. Два гады таму Нацыянальны банк Беларусі звярнуўся да мяне і дызайнера Змітра Герасімовіча з прапановай зрабіць для іх каляндар. Я прапанаваў тэму «Вяртаюцца ў бронзе» пра помнікі асобам, якія вярнуліся на манетах нашага Нацыянальнага банка. Мы пачалі вывучаць каталогі і былі прыемна здзіўленыя. Я нават не ўяўляў, што будзе такая канкурэнцыя. Здавалася, там больш за 30 помнікаў, вартых гэтага календара.

З.Л. На ўсіх календара не хапіла?

У.А. Так! Палову календара можна было ў маім родным Полацку наздымаць. Пра некаторыя помнікі мы нават не ведалі! Дакладней, мы ведалі, што яны існуюць, але не ведалі, што іх столькі! У нас некалькі помнікаў Ефрасінні Полацкай, Кірылу Тураўскаму. Ёсць помнік Льву Сапегу, Мітрафану Доўнар-Запольскаму, які на пачатку 20 стагоддзя сказаў прарочыя словы, што народ, які меў дзяржаву ў мінулым, будзе мець яе ў будучыні. Можна згадаць імкненне дзяржавы пашырыць за кошт беларускіх помнікаў спіс сусветнай спадчыны ЮНЕСКА і праграму «Замкі Беларусі» і вынік гэтай праграмы. Гэтага не было б, безумоўна, без існавання сваёй дзяржавы.

З.Л. Такім чынам, у нас ідзе мяккая, павольная беларусізацыя, ці гэта ідзе будаўніцтва дзяржавы на аднаўленні гістарычных падмуркаў?

У.А. Ведаеце, тут нельга казаць пра нейкія адназначныя тэндэнцыі. Мы ўвесь час бачым, што змагаюцца дзве тэндэнцыі: нацыянальная і антынацыянальная, якая інспіруецца, магчыма, агентамі ўплыву «русского мира». Нацыянальна арыентаваныя сілы шмат чаго дасягнулі. Напрыклад, помнік Тадэвушу Касцюшку, створаны за народныя грошы. А з іншага боку, складаная сітуацыя ў адукацыі, дзе кіруе міністр, які заклапочаны, мне здаецца, чым заўгодна, але не тым, каб сістэма адукацыі была беларусацэнтрычнай, беларускай, беларускамоўнай, прынамсі на тым ўзроўні, якога патрабуюць бацькі.

М.Г. А можно сказать, что эта борьба является результатом того, что беларусы медленно осваивают суверенитет своей страны? Истории борьбы, как у латышей, у беларусов не было. Суверенитет достался им почти внезапно, и сейчас они медленно усваивают новую роль.

У.А. Працэс гэты, канешне, супярэчлівы. Асваенне беларусамі Беларусі на пачатку 90-х адбывалася значна хутчэй. А што да вашага параўнання з Латвіяй, вы ведаеце, усё-такі латышы мелі сваю дзяржаўнасць ў міжваенны перыяд. І гэта якраз быў час нацыятворчых працэсаў. Існаванне латышскай нацыянальнай дзяржавы, няхай сабе і дваццацігадовае існаванне, зрабіла велізарную справу, як і ў іншых нашых суседзяў-прыбалтаў.

М.Г. Да, у них 20 лет существовало своё государство, но накануне вторжения СССР Латвия была авторитарной страной с цензурой и урезанной конституцией, почти как и Беларусь сейчас.

У.А. Але не будзем забывацца, што пры Карлісу Улманісу, у адрозненне ад ўлады Аляксандра Рыгоравіча Лукашэнкі, нічога не пагражала ні латышскай

мове, ні латышскай культуры, ні нацыянальнай ідэі. Гэты нюанс нашыя замежныя калегі вельмі часта забываюць. Як забываюць і пра тое, што ўсе гэтыя нафта-газавыя прэферэнцыі не дармавыя. Беларусь плаціць велізарную цану, і частка гэтай цаны – гэта якраз русіфікацыя, антынацыянальная палітыка ў некаторых сферах. Дзякуй Богу, сёння мы дайшлі да моманту, калі ўжо ў самых высокіх эшалонах улады з'явілася разуменне таго, што мова, гістарычная памяць і свядомасць аб'ядноўваюць народ, бароняць яго лепш за любую армію. Вось нядаўна з'явілася канцэпцыя нацыянальна-інфармацыйнай бяспекі. Я думаю, гэта вынік таго, што ў новай геапалітычнай сітуацыі, калі побач з намі вайна, на самым высокім узроўні ўлады разумеюць, што мала казаць, што нам трэба нацыянальная ідэя, што яе трэба напаўняць канкрэтным зместам. Для мяне вельмі цікава, як гэтая канцэпцыя будзе дзейнічаць. Там запісана і ўзмацненне камунікатыўных функцый беларускай мовы, укараненне беларускага погляду на гістарычнае мінулае. Як гэта будзе дзейнічаць, калі па-ранейшаму існуюць чорныя спісы ў медыя? Тым, хто бароніць краіну, закрыты шлях на тэлебачанне, на дзяржаўнае радыё.

М.Г. Мне кажется, в последнее время Владимир Владимирович выставил такие условия Александру Григорьевичу, что у него рука сама тянется к томику Янки Купалы.

У.А. Мне згадваецца мой добры знаёмы, светлай памяці Павел Шарамет. Ён гадоў 10 таму на «Беларускім партызане» выказаў думку, што ён не здзівіцца, калі Аляксандр Рыгоравіч праз месяц загаворыць па-беларуску. Я думаю, што вельмі аптымістычна так думаць. Хацелася б памыляцца. Ужо шмат было ў нашай гісторыі, калі Аляксандр Рыгоравіч мог загаварыць. На жаль, ён вельмі рэдка, мала і коратка гаварыў. Пакуль што ў ягоных вуснах беларуская мова выкарыстоўваецца з нейкімі іншымі мэтамі, а не дзеля таго, каб паказаць мілагучнасць беларускай мовы, яе багацце.

З.Л. Мы прыйшлі да такой высновы, што на сённяшні дзень у беларусаў няма нацыянальнай ідэі. І калі б яна была, тыя працэсы, пра якія вы кажаце, ішлі б хутчэй.

У.А. Безумоўна. Неяк я быў у Вільні на экскурсіі, падняўся на вежу Гедыміна, а туды прывялі літоўскіх школьнікаў. Адзін хлопчык кінуў на зямлю фанцік ад цукеркі. Настаўніца ўбачыла гэта і пачала чытаць яму лекцыю. Я быў са знаёмым літоўскім гісторыкам і запытаўся ў яго, пра што яна так доўга кажа. І ён мне перакладаў. Яна казала, што мы літоўцы, што наша Літва — гэта наш дом, што вы ж дома не смеціце, што нас будуць паважаць па

тым, як мы сябе паводзім у нашым доме. Па-мойму, у Беларусі такога не ўбачыш, каб настаўніца правяла такую лекцыю, што гэта наш беларускі дом. Яна магла б сказаць, што смеціць дрэнна, што трэба ў сметніцу кінуць, а мысліць у нацыянальных катэгорыях — на жаль, далёка не ўсе нашыя настаўнікі гэта ўмеюць. І вось яшчэ мне згадваецца. На пачатку 90-х узнікла ідэя рэгулярнай гістарычнай праграмы на беларускім тэлебачанні тыпу як вёў на расійскім ТБ Эдвард Радзінскі. Мне туды сваталі нават вядоўцаў, мы склалі праграму. Але ўсё скончылася з выбарамі 1994 года, з рэферэндумам 1995 года. Была нават разагнаная рэдакцыя літаратурна-драматургічнага вяшчання, на аснове якой мы збіраліся стварыць рэдакцыю гістарычнага вяшчання. У перспектыве ішла гаворка нават пра гістарычны канал, як гэта ёсць у іншых краінах. Вось так. Гэта ўсё ў руках дзяржавы. Мне згадваюцца словы Янкі Брыля, які аднойчы зазначыў, што калі б беларусу зверху сказалі б быць беларусам, гэта быў бы самы ўзорны беларус.

З.Л. А як павінна гучаць наша нацыянальная ідэя?

У.А. Гадоў 10 таму група нашых навукоўцаў прапаноўвала нават зрабіць дзень беларускай нацыянальнай ідэі. Для мяне гэта крыху дзіўнавата гучыць: кожны дзень павінен быць днём нацыянальнай ідэі. Я думаю, што фармулёўка павінна быць простай і даступнай для кожнага. Але яна павінна была б быць і разгорнутай, што мы, як нацыя, здзейснім сваю місію перад чалавецтвам, перад Богам, калі хочаце, толькі ў сваёй незалежнай беларускай дзяржаве. Ні ў якіх саюзах і гэтак далей. Мы зможам быць беларусамі і здзейсніць сваю місію, напоўніцу раскрыць магчымасці нашага народа толькі ў сваёй дзяржаве.

З.Л. То-бок, слоган: «Твая краіна Беларусь»?

У.А. Ну, давайце: «Твая краіна Беларусь».

З.Л. І тут укладаецца як падтэкст, што твая краіна Беларусь — гэта дзяржава, таму трэба будаваць дзяржаўнасць.

У.А. Ну, напрыклад, так.

З.Л. Добра. Слоган атрымліваецца ў палітычным сэнсе нейтральны. Ніякі ідэолаг не ўгледзіць апазіцыйны кантэкст. А вось са звычайным беларусам, як вы думаеце, пракаціць ён? Што трэба, каб вочы загарэліся?



У.А. Каб гэтым займалася дзяржава, каб дзейнічала сістэма інфармацый-

най бяспекі, каб была сістэма гістарычнай адукацыі, у тым ліку праз тэлебачанне, радыё. Каб падручнікі гісторыі былі вычышчаныя ад усяго шкоднага, злачыннага, якое туды трапіла за гады кіравання гэтага рэжыму. Вось я сёння паглядзеў «Энцыклапедычны даведнік Беларусі», які выйшаў, мне падаецца, у 95-м. Там артыкул «Курапаты» — выразна ўсё напісана. Потым выходзіць «Энцыклапедыя гісторыі». У артыкуле пра Курапаты напісана, што там загінула, па некаторых звестках, 30 тысяч, па іншых — больш. Але невядома ўжо, хто там страляў. Ёсць версія, што НКВД, і ёсць версія, што нямецка-фашысцкія захопнікі. Потым выходзіць том універсальнай «Беларускай энцыклапедыі»: у артыкуле пра Курапаты ўжо нічога не зразумела. Ні колькасці ахвяр не напісана, хоць Зянон Пазняк лічыў, што больш за 300 тысяч. Ні слова пра тое, што там павінен быць мемарыял. Цікава, што ўлада засвоіла, што Полацкае княства і іншыя старажытныя княствы — гэта наша гісторыя. Але калі казаць пра вельмі важны для нас, для нашай нацыянальнай ідэі перыяд 19 стагоддзя, то тут у грамадскасці, у беларускіх гісторыкаў, паразумення з уладай няма.

М.Г. Из того, что вы сказали, следует, что национальная память является товаром. Александр Григорьевич обменивает национальную память на нефть, на газ, на сырьё, благодаря которому Беларусь существует. Пока национальная идентичность будет товаром, за который Москва готова будет платить, эти проблемы никуда не денутся. Это такой бизнес – торговать прошлым. Но как только этот бизнес исчезнет, все вернётся на круги своя.

У.А. Гандаль адбываецца не толькі гісторыяй, не толькі нацыянальнай памяццю, але і мовай. Я думаю, што гэта таксама страшная плата за нафту, за газ. Гэта русіфікацыя нашай сістэмы адукацыі.

М.Г. Это, повторюсь, пока Москва готова платить за это. Как только у неё исчезнет желание платить, в этот самый момент…

У.А. Аляксандр Рыгоравіч, як вы сказалі, загаворыць па-беларуску! Але калі вы палітык, які хоча атрымаць уладу, забяспечыць пераемнасць нейкаму свайму клану, то вы, пры ўсім гэтым, не можаце не ўяўляць, што існуе беларускамоўная супольнасць, яна тут самая актыўная, і значыць, яна тоіць ў сабе патэнцыйную небяспеку. Таму што гэта людзі арганізаваныя, у якіх ёсць досвед, якія могуць на пераломным моманце адыграць сваю справу, стаць каталізатарам, аб'яднаць вакол сябе. І тут наверсе, я думаю, гэта таксама разумеецца.



# ВОЛЬГА
# ЧАКУЛАЕВА

## «МЫ ЖЫВЁМ БЕЗ КАРАНЁЎ, НАМ НЕАБХОДНА АДНАВІЦЬ «СЯМЕЙНЫЯ АЛЬБОМЫ»

euroradio·fm

Гутарылі Зміцер Лукашук, Максім Гаруноў
Фота Еўрарадыё

З.Л. Наша сённяшняя госця — блогер, валанцёрка гуманітарнага маршрута «Беларусь — АТО», ікона стылю Вольга Чакулаева. Вольга, вы здзівіліся, калі я прапанаваў вам паўдзельнічаць у нашай праграме. Вы ніколі не задумваліся над такой глабальнай тэмай, як нацыянальная ідэя Беларусі? Ці лічыце, што гэта не вашая справа — разважаць на гэтую тэму?

В.Ч. Ну, я задумвалася, але ж я лічу, што я не такая ўплывовая асоба, каб нейкія думкі выказваць у эфіры самога «Еўрарадыё».

З.Л. А думкі пра нацыянальную ідэю павінны выказваць толькі ўплывовыя асобы? Звычайныя беларусы не павінны мець дачынення?

В.Ч. Я ж такі абсалютна звычайны, тыповы беларус. Такі ціхі. І мне здаецца, што маё меркаванне нікому не цікава.

М.Г. По-моему, сейчас где-то рядом сидит маленький Александр Лукашенко и радостно вам аплодирует. Я объясню почему: если вы чувствуете, что вы маленький беларус и не имеете права рассуждать о том, что такое беларуская национальная идея, то это значит, что про национальную идею должны рассуждать только большие люди наверху, а вы, как маленький беларус, в любом случае с ними согласитесь.

В.Ч. Не, вы мяне трохі не зразумелі. Я маю абсалютнае права выказваць гэтыя думкі, але мне здаецца, што я не да такой ступені ўплывовы чалавек, каб мае думкі былі цікавыя шырокаму колу слухачоў, скажам так.

З.Л. Уплывовыя людзі не павінны прыслухоўвацца да меркавання маленькіх, як вы кажыце, шараговых беларусаў?

В.Ч. Напэўна, павінны. Мне проста здаецца, што гэтыя самыя маленькія беларусы наогул не думаюць пра нацыянальную ідэю. Ці, скажам так, гэтая нацыянальная ідэя ўжо даўно ў нас сфармулявана: зваліць нафіг з гэтай краіны. На жаль. Мне здаецца, што ў большасці беларусаў менавіта такая ідэя.

З.Л. То-бок нацыянальная ідэя ўсіх беларусаў — зваліць з гэтай краіны? А хто застанецца?

В.Ч. Ну, вось над гэтым і трэба працаваць. Не, гэта жарт быў, безумоўна. Але хіба гэтага не чуеш ад свайго асяроддзя? Ад моладзі, якой зараз па 18–20 гадоў? Асабліва ад тых самых найлепшых хлопцаў і дзяўчатак са свабоднай замежнай мовай. Што яны кажуць? Што няма чаго ім рабіць у гэтай краіне. Няхай нашай нацыянальнай ідэяй будзе заклікаць маладых застацца.

З.Л. Я тады справакую. Ведаю, што ў вас сын менавіта такога ўзросту, які вы назвалі. І наколькі я ведаю, ён вучыцца за мяжой.

В.Ч. Ну, ужо адвучыўся. Зараз ён тут, у Беларусі. Ён вярнуўся. А нас што, вельмі чакаюць за мяжой? Нам што, проста кажуць, маўляў, давайце, беларусы, прыязджайце да нас у Галівуд, працуйце? Дарэчы, я з ім размаўляла наконт гэтай нацыянальнай ідэі. Я думаю, вам будзе цікава запрасіць сюды маладых хлапчукоў, таму што гэта ж ім патрэбна ў першую чаргу. Вось чаго не хапае моладзі? Ім патрэбны герой, ім патрэбны нацыянальны міф. Яны хочуць нечым ганарыцца, яны хочуць мець недзе там, у Сярэднявеччы, а, можа, яшчэ і раней, нейкага такога беларуса, кшталту караля Артура. Яны хочуць кінастужкі пра гэтых герояў. Хто ў нас героі ёсць? Бясспрэчна нашы, якога ні рускія не забіраюць сабе, ні палякі, ні літоўцы, ні ўкраінцы? Скарына. Адзін у нас застаўся бясспрэчны беларус. Давайце вакол яго будзем нешта будаваць. Давайце мы будзем казаць пра тое, што беларусы — абсалютна мірная нацыя, і гэта нацыя асветнікаў, гэта культурная нацыя. Мы яшчэ з часоў Сярэднявечча неслі ў свет культуру і веды.

З.Л. Мы павінны будаваць нацыянальную ідэю на міфе прыдуманым ці створаным?

В.Ч. Магчыма, і так. А што, кароль Артур — гэта быў рэальны чалавек? А чаму не? А чаму нам не разагнаць нейкі міф пра хобітаў? А чаму б нам не прыдумаць, што Хабітанія месцілася на тэрыторыі Беларусі? Чым дрэнны ход? Гэта ж абсалютна мае героі, абсалютныя беларусы.

Абсалютна мірны, спакойны народ, земляробы, якія нешта там сеялі, аралі, збіралі свой ураджай, ні з кім не сварыліся, намагаліся з усімі мець мірныя стасункі, не хацелі заваёўваць гэты свет, талерантныя да ўсяго. Часам лянівыя, напэўна. Але калі ім сказалі: «Трэба ісці», яны, як сапраўдныя беларусы, сказалі: «Ну, а можа так і трэба?» І пайшлі. Свет хто выратаваў? Хобіты!

З.Л. Мы, як штыкі, з зямлі паўскоквалі і крокам рушылі ў кірунку Копыля!

В.Ч. Так! Гэта жарты, але чаму не? Чаму нам не прыдумаць казку?

М.Г. Главная проблема молодёжи в Беларуси в том, что, когда они смотрят на Беларусь, они видят пустое место, я вас правильно понял?

В.Ч. Так. Мы калісьці былі з сынам у Варшаве, ён яшчэ быў маленькі, гадоў 13. І я ўзяла для яго экскурсію. Прыйшоў такі паляк, сказаў сваё прозвішча. Я на яго паглядзела, зразумела, з каго Янка Купала пісаў пана Быкоўскага. Ён пачаў нам расказваць пра Варшаву, пра Польшчу, пра Рэч Паспалітую, пра ВКЛ, пра Літву і гэтак далей. І я думаю: а Беларусі што, наогул не было? Такое робіцца ўражанне, што яе проста не было!

З.Л. Для яго, можа быць, гэта былі Усходнія Крэсы і ўсё?

В.Ч. Ну, так. Але ж Літва была, літвіны былі. А беларусаў не было.

З.Л. Пісьменнік Уладзімір Арлоў зараз піша кнігу «Айчына». Выйшаў першы том, павінен выйсці другі. Там гісторыя Беларусі падаецца ў казачнай, міфалагічнай форме.

В.Ч. Так, пра гэта я таксама размаўляла са сваім сынам. І вось што ён мне сказаў: «Кнігі моладзь не чытае». Давайце нам фільмы, мы хочам кінематаграфічнае палатно.

М.Г. По большому счёту, это такая претензия к «Беларусьфильму».

В.Ч. Я вам магу больш сказаць. А чаму б нам замест таго, каб будаваць чарговы лядовы палац за 100 мільёнаў даляраў не замовіць за гэтыя грошы ў Галівудзе кіно пра нашага Францыска Скарыну? Ну, чаму не?

З.Л. Увогуле можна зрабіць эпічнае мастацкае кіношнае палатно пра бітву пад Оршай, напрыклад. Ці такое крывавае — гэта не тое?

В.Ч. Безумоўна. Усім хочацца мець нейкіх воінаў, якія ваявалі за краіну. Я ж кажу: давайце мы зробім нашай нацыянальнай ідэяй культуру і веды. Мы не ваявалі, мы мірныя людзі. Мы нейтральныя, мы не хочам ні на кога нападаць. Але, калі ласка, і на нас не нападайце. Наша місія — несці веды і культуру ў свет.

З.Л. Аляксандр Фядута ў нас у эфіры сказаў, што нашаму пакаленню ўвогуле няма чаго на гэты конт парыцца. Будзе новае пакаленне, няхай яно само для сябе гэтую ідэю і фармулюе.

В.Ч. Я ў нечым з ім згодная.

З.Л. Ці мы ўсё ж такі павінны ім нейкую затравачку, як кажуць, даць?

В.Ч. Ну, яны ж хочуць на чымсьці грунтавацца. Яны ж хочуць, каб іх продкі, бацькі нешта з сябе ўяўлялі. Таму, безумоўна, мы павінны ў гэтым браць нейкі ўдзел. Але, напэўна, нашаму пакаленню яна ўжо не вельмі патрэбная, гэтая нацыянальная ідэя. Мы ўжо тут, мы ўжо беларусы, гэта ўжо наша радзіма. Мы ўжо свой выбар зрабілі.

З.Л. У той жа час, мы не першы год знаёмыя. Можна зайсці, пагартаць Фэйсбук Чакулаевай, якая то ў нейкай пустыні ў Сахары з бела-чырвона-белым сцягам, то на пірамідах у Мексіцы з бела-чырвона-белым сцягам.

В.Ч. Ну, на пірамідах у Мексіцы з бела-чырвона-белым сцягам — ніякага геройства не трэба. А вось сёння выйсці ў Мінску з бела-чырвона-белым сцягам — гэта геройства.

З.Л. Для нечага ж ты яго цягаеш па ўсім свеце?

В.Ч. Таму што хачу, каб ведалі, што мы беларусы, што гэта наш нацыянальны сцяг. І я тлумачу ўсім што гэта не наш дзяржаўны сцяг, што гэта наш нацыянальны, гістарычны сцяг.

М.Г. Не кажется ли вам, что такая постановка вопроса — «я хочу уехать из страны, потому что здесь нет мифа» — это несколько детский вариант? Если нет, то сделай. Вчера в Киевском сквере был митинг в честь 101 года независимости Беларуси, и там было очень много молодых людей. И играли какую-то музыку, у них были какие-то знамёна, они друг с другом общались. Для того, чтобы люди общались, там должны быть какие-то смыслы. Они где-то что-то прочитали, у них есть какие-то видео, какие-то плакаты. Ну, в общем какая-то своя культура есть. Она не такая шикарная, как если бы ей занимался свой собственный государственный Голливуд, но тем не менее, она существует. И она существует абсолютно без поддержки государства, а наоборот, под прессом государства. Она выживает на абсолютно гражданских, национальных началах. Мне кажется, позиция, когда молодой человек говорит, что «я не вижу здесь ничего, мне ничего не дали, поэтому я отсюда уезжаю», — это такое оправдание. Ни тебе ничего не дали, а ты просто отказался принимать участие.

В.Ч. Да, хорошо, но что мы можем ему предъявить? Как мы можем сподвигнуть остаться здесь? Я сейчас не конкретно про своего сына говорю, а про достаточно большой пласт беларуской молодёжи.

З.Л. Можа, ім трэба даваць не міфы пра мінулае, а мары пра будучыню? IT-краіна?

В.Ч. Я таксама думала, навошта моладзі нейкае мінулае, навошта? Ім жа патрэбная будучыня! Мы ж будуем будучыню. Але выявілася, што на грунце мінулага гэтая будучыня павінна быць.

З.Л. Саму нацыянальную ідэю для моладзі трэба будаваць пра будучыню, пра нейкую касмічную айцішную Беларусь. Але вось у падмурку пакласці крыху міфічнага, гераічнага мінулага.

В.Ч. Так, таму што мы былі о-го-го! Мы ж таксама па ўсім свеце вандравалі. Мы ж не нейкая там сялянская нацыя.

М.Г. А что плохого в том, чтобы быть селянской нацией?

В.Ч. Мне кажется, потому что это в принципе свойство человеческой натуры. Мы же все хотим быть героями, мы хотим иметь героическое прошлое. Я и говорю не пра грандыёзную, вялікую і магутную Беларусь, а пра культурную, асветніцкую і мірную. У нас ёсць першадрукар! Вы ведаеце, што гэта? Гэта першадрукар!

М.Г. То есть не парни с мечами и дубинами, а парни с печатным станком?

В.Ч. І з паперамі.

З.Л. І з айпадам.

В.Ч. І, дарэчы, ад гэтага цягнецца вельмі прыгожы ланцужок для сёлетняй айцішнай краіны. Вось як пачыналі, вось мы працягваем.

З.Л. Як з мовай?

В.Ч. Беларуская мова — гэта такое балючае пытанне! Я не ведаю, як моладзі цяпер растлумачыць, навошта ім беларуская мова. Адзінае, што я магу сказаць — каб за мяжой маглі адрозніць вас ад рускіх ці ад украінцаў ці яшчэ ад кагосьці. А навошта яшчэ? Я сама размаўляю па-беларуску. Я намагаюся, каб сын размаўляў па-беларуску, але нічога ў мяне не атрымліваецца. Разумееш? І мой сын са свабоднай англійскай не размаўляе на сваёй роднай мове. Ну, я не ведаю, што з гэтым рабіць.

М.Г. Я думаю, это всё до первого сеанса национального унижения. Рано или поздно это происходит. И тогда резко человек вдруг осознаёт, кто он, что он, откуда он.

В.Ч. Ці так. Ці бываюць такія выпадкі, калі ў абсалютна рускамоўнай сям'і — я ведаю некалькі такіх выпадкаў, — хлопчык ці дзяўчынка да 15 год кажуць, што ненавідзяць беларускую мову, што не будуць хадзіць на заняткі. Але раптам нешта пераключалася, і чалавек цалкам пераходзіў на беларускую мову, ішоў у беларускамоўную гімназію. І цяпер гэта білінгв не руска-англійскі, а беларуска-англійскі. Вось што адбылося?

З.Л. Неяк шчоўкае само.

В.Ч. Магчыма, гэта быў нейкі пратэст супраць чагосьці.

М.Г. Россия вам поможет. Сегодня не так много желающих быть русскими.

В.Ч. Абсалютна. І зараз заўсёды за мяжой я, мае сябры падкрэсліваем: «Вы рускі?» — «Не, я з Беларусі». Не хочацца, каб нас за мяжой лічылі рускімі. Таму што да рускіх зараз стаўленне вельмі не адназначнае, скажам так.

З.Л. Вольга, мне цікавы яшчэ такі момант: ты са шкадаваннем адзначыла, што нацыянальнай ідэі няма. А для цябе гэта важна? Сярод тых людзей з беларускага бамонду, з якімі ты маеш стасункі, думка пра нацыянальную ідэю, нацыянальная ідэя патрэбная?

В.Ч. Я магу сказаць, што дзякуючы Расіі, дзякуючы руска-ўкраінскай вайне нашмат больш людзей зараз разумеюць, што мы асобная дзяржава, што мы незалежная дзяржава, што мы не Расія, што мы суседзі, але ў нас свая краіна.

З.Л. Які слоган можна ўзяць на ролю нашай нацыянальнай ідэі?

В.Ч. Слова «свабода», безумоўна, павінна там быць. Воля, свабода і годнасць.

М.Г. И просвещение.

В.Ч. Просвещение, да. Потому что, ну ёлки-палки, у нас растащили все наши исторические личности! Нам говорят, что Шагал — французский художник, Мицкевич — польский поэт, Острожский — украинец, Костюшко тоже к вам никакого отношения не имеет. И Смоленск не ваш, и Вильня не ваша. И вообще вас тут не было. Единственный, кто у нас остался бесспорно, — Скорина. С этим никто не спорит, это уже точно наш.

З.Л. Калі мы бярэм Скарыну за пункт адліку стварэння нацыянальнай ідэі, то можа сфармуляваць так: адукацыя і інтэлектуальнасць — ад мінулага ў будучыню?

В.Ч. Магчыма, так.

М.Г. Три слова: алгебра, геометрия, морфология.

В.Ч. Нейтралітэт! Сёння невядома адкуль прыляціць. Мы за савецкім часам думалі, што на нас Захад будзе нападаць. А зараз невядома, магчыма, і з Усходу нешта прыйдзе. Таму каб быць нейтральнай краінай, нам трэба мець нейкую каштоўнасць. Як у Швейцарыі былі банкі. Хто ж на яе нападзе? Там усе грошы ляжалі. Нам вось таксама штосьці такое трэба, каб нас усе спрабавалі зберагчы, каб усе разумелі, што Беларусь не чапаем, бо, напрыклад, у Беларусі ўсе самыя выбітныя праграмісты.

З.Л. Нас уратуе і абароніць ад усяго ўсё ж такі айцішны кірунак ці развіццё нейкай адукацыі?

В.Ч. Ну, вось з'явіўся чалавек, які пралабіраваў усе гэтыя законы, стварэнне спрыяльных умоў для айці. Магчыма, хтосьці нешта пралабіруе яшчэ.

З.Л. Можа, гэта павінен быць, не ведаю, плакат, малюнак, афіша? Скарына з нейкім прасунутым гаджэтам!

В.Ч. Дарэчы! Біблія па-беларуску на нейкім айпадзе!

З.Л. Намёк для мастакоў-дызайнераў — візуалізаваць такую нацыянальную ідэю ад Вольгі Чакулаевай. А для «Беларусьфільма» мы таксама сваю замову і пажаданні абвесцілі.

В.Ч. Мы, магчыма, яшчэ абвесцім краўдфандынг, на Галівуд збярэм!

З.Л. Прададзім пару лядовых палацаў і замовім Таранціну!



# ЯЎГЕН ЛІВЯНТ

## «ДАЦЬ ДОБРУЮ АДУКАЦЫЮ СВАІМ ДЗЕЦЯМ — ТАКАЯ ІДЭЯ ЗДАЎНА Ў БЕЛАРУСАЎ»

euroradio·fm
Гутарылі Зміцер Лукашук, Максім Гаруноў
Фота Еўрарадыё

З.Л. Вітаю ўсіх слухачоў, наш сённяшні госць — уладальнік рэпетыцыйнага цэнтра «100 балаў» і самы вядомы рэпетытар Беларусі Яўген Лівянт.

Я.Л. Добрый день. Я только поправлю. Я не владелец, а совладелец.

З.Л. Ну, гэта ўжо нюансы. Тэму нацыянальнай ідэі хоць раз абмяркоўваць даводзілася?

Я.Л. Я не философ и не особо думал, какая у беларуского народа национальная идея. Но как преподаватель, могу сказать, что одна из идей, которую можно было бы назвать национальной — дать детям хорошее образование. Я уже 30 лет работаю преподавателем и вижу желание дать образование во всех слоях общества. Это такая не национальная, а народная беларуская идея.

М.Г. Почему «народная», а не «национальная»?

Я.Л. Не люблю слово «национальная». Когда оно звучит, люди начинают вспоминать, какая у кого течет в венах кровь, кто на каком языке должен получать образование, начинается вражда.

М.Г. Хорошее образование на каком языке: на русском или беларуском?

Я.Л. Я бы развёл понятия «получить образование» и «получить образование на беларуском языке». Мне кажется, что это даже не в параллельных плоскостях. Это в разных мирах. Я вообще не понимаю, о чём это. Когда в 1993 году прошла школьная реформа, которая называется «беларусизация», она имела самые разрушительные последствия. Она была проведена быстро, а любая школьная реформа, которая проводится быстро, не дает ничего, кроме разрушения. Мне кажется, что негативное восприятие образования на беларуском языке является следствием оголтелых действий, которые были предприняты в 1993 году. И эта оголтелость никуда не делась. Вот я сейчас прочитал в газете,

что человек в Гомеле через суд требовал, чтобы в школе организовали класс обучения на беларуском языке для одного ребёнка. Для одного ребенка, понимаете? Мне кажется, реакция общества на такую экзальтированность и оголтелость будет негативной. Если экзальтированности и оголтелости станет меньше, реакция будет более позитивной. При этом, судя по тому, что вижу я, у молодёжи нет никакого отторжения от беларуского языка и культуры. Отношение позитивное или нейтральное.

З.Л. А як у такім выпадку быць? Ну вось ёсць, напрыклад, я, які хачу карыстацца сваім правам. Маё права прапісана ў Кодэксе аб адукацыі. Там сказана, што майму дзіцяці павінны даць адукацыю на беларускай мове, калі я гэтага захачу. Я прыходжу ў школу, а мне кажуць: «Выбачайце. Вось абыдзіце бацькоў, угаварыце іх, дагаварыцеся. Калі яны з вамі пагодзяцца, каб іх дзеці таксама вучыліся па-беларуску, мы арганізуем». Так, я разумею, што вось я прыходжу і патрабую па-беларуску, сустракаю супраціўленне. Як нам быць у гэтай сітуацыі?

Я.Л. Лично я не видел у чиновников отторжения от создания беларускоязычных школ и гимназий. Мне кажется, что этому человеку в Гомеле, который приходит и требует открыть класс для одного ребёнка, скандал важнее, чем реализация его требований. Нельзя открыть гимназию или школу с беларуским языком преподавания за один день, понимаете? К этому нужно подготовиться. Если говорить о трендах, то в Минске количество беларускоязычных гимназий медленно растёт. И вообще, ситуация с языком не такая уж сложная. Вы говорите со мной по-беларуски, но я вас прекрасно понимаю, мне не нужен переводчик. Говорить на беларуском я не буду, потому что я буду говорить коряво. Преподавать тоже не смогу. Но у меня есть ученики, которые говорят со мной по-беларуски, и у меня не возникает проблем в процессе обучения.

М.Г. С вашей точки зрения, так ли уж важно, на каком языке ребёнок будет получать образование?

Я.Л. Нет. На мой взгляд, хорошее образование важнее языка, на котором его получают. И вы знаете, я всю жизнь не люблю идеологов, не люблю людей, которые профессионально занимаются идеологической работой. Я не люблю, когда мне лезут в мозги. Думаю, такая же позиция у большого количества людей. Люди не любят, когда им лезут в мозг и за них решают, на каком языке им говорить, на каком языке давать образование их детям. А когда лезут слишком сильно, это вызывает негативную реакцию, о которой я говорил.

М.Г. А если перевести образование в Беларуси на английский язык? Английский сегодня — язык высокой культуры, образование на нём принесло бы больше пользы.

Я.Л. Я бы сказал: «А можно я сам выберу?» Я бы хотел, чтобы в Беларуси появились школы и вузы с преподаванием только на английском языке. Но это не должно быть — «мы все переходим на английский язык, и точка». Это ж будет тоталитаризм чистой воды.

М.Г. То есть, образование в Беларуси должно быть устроено следующим образом: кому интересно на беларуском — пожалуйста, кому на немецком — пожалуйста, китайский — пожалуйста, русский — пожалуйста?

Я.Л. Вот вы опять всё сводите к языку, а я считаю, что наше образование отстаёт, потому что оно единообразно. Вот, сейчас лицеи пытаются объединить с колледжами, убрали гимназии. Формально гимназии есть, но экзамены в 5-е классы отменили. Весь мир идёт к разнообразию системы образования, а Беларусь — к единообразию. В развитых странах две соседние школы будут отличаться по форме собственности, по организации учебного процесса, программам, да вообще по всему, и я считаю, это правильно. Мы не знаем, какое образование будет нужно завтра. На каком языке, в какой форме, с каким содержанием и так далее. И поэтому разнообразие — это самое насущное требование сегодняшнего дня, как инстинкт самосохранения, я бы даже так сказал. А у нас шаг влево, шаг вправо — и сразу запрет. Мне кажется, что образование должно разнообразным, а не единообразным.

Должны быть пересечения, когда робототехника преподаётся на беларуском, русская литература на английском, и тому подобное. Всякие формы и сочетания должны быть возможны.

М.Г. Система образования в какой стране кажется вам образцовой?

Я.Л. К сожалению, плохо знаю систему образования других стран, но попытаюсь ответить на ваш вопрос. Вот сейчас много говорят о модернизации экономики к нашей стране. Если вы назовёте страны, в которых происходит модернизация экономики, параллельно всегда идёт модернизация системы школьного образования. Они идут параллельно, и иногда модернизация школьного образования опережает модернизацию экономики. Фантастическая реформа системы образования в Грузии. Казахстан уже лет 15 занимается реформой системы школьного образования, и их реформа очень интересна.

З.Л. А мова, традыцыі, культура беларуская. Яны павінны прысутнічаць?

Я.Л. Когда вы говорите «должны присутствовать», это сразу вызывает у меня негативную реакцию. Про беларуский язык я расскажу на примере моего образовательного центра. Это коммерческий центр. Люди приходят к нам получать образование и платят за это деньги. В первый год нашего существования люди заказывали обучение только русскому языку, и у нас был очень хороший преподаватель русского языка. На второй или третий год существования нашего центра мы сформировали первую группу по обучению беларускому языку. Понимаете? Люди пришли к нам учиться и платят свои деньги, чтобы учить беларуский язык. Не только для экзаменов, а просто так, для себя. И их всё больше. Сейчас у нас работает два преподавателя беларуского языка. Причем Иван Ясюк, аспирант БГУ, загружен с каждым годом всё сильнее. Я вижу, как растёт у него нагрузка, и вижу, что внимание к родному языку есть. Но как только вы скажете «вы должны», вы получите в ответ негативную реакцию.

З.Л. Я вам раскажу такі прыклад. Я жыву таксама на ўскрайку Мінска.

У нас новая школа, гады чатыры ці пяць, як адкрылася. Там, па-мойму, першых класаў толькі штук 8. Побач есць творчы цэнтр для дзяцей. Там ёсць кружок, бясплатны, па вывучэнню беларускай мовы. Выкладае там жанчына, я яе ведаю. Яна прыйшла 1 верасня ў нашу школу і раздавала рэкламкі, каб бацькі прывялі дзяцей туды навучаць беларускай мове. Па выніку ў гэты бясплатны гурток бацькі прывялі нуль дзяцей. Гэта з васьмі толькі першых класаў, дзе ў класе, здаецца, па 30 чалавек.

Я.Л. Ну, вы знаете, реклама — вообще, дело неблагодарное. На мой взгляд, преподавателю надо было заранее договориться со школой, прийти в класс, выступить перед родителями, объяснить им, в чём смысл его курса. Я думаю, результат бы был. В образовании крайне важна личность преподавателя. Особенно в начальной школе. Если это интересный человек, если он профессионал и несёт добро, то результат будет. И хочу отдельно сказать, что халявы не будет. Людям, которые хотят добиться возрождения и развития беларуской культуры, придётся потрудиться.

З.Л. Мне проста прыгадаўся такі аргумент адных бацькоў, якія супраць выступалі таго, каб навучанне было па-беларуску. Яны сказалі, што гэта засмечвае мозг і дзеці пачынаюць горш вучыцца, калі яшчэ будзе і беларускую мову вучыць.

Я.Л. А вы проявите уважение. Это их позиция.

З.Л. А вы як спецыяліст як лічыце: засмечвае мозг веданне беларускай мовы?

Я.Л. Преподаватель нашего центра и аспирант БГУ Иван Ясюк проводил занятия по теме «Прагматичный смысл изучения беларуского языка». Он говорил, что человеку, который знает беларуский язык, проще понять польский, чешский, сербский, украинский и остальные славянские языки. Я похвастаюсь, что идею таких занятий предложил ему я. Идея появилась так: когда мы приезжали в славянские страны вместе с ребятами из России, у нас, в отличие от них, никогда не

было проблем в общении в кафе, гостинице и так далее. Ребята из России смотрели на нас круглыми глазами: «А как вы понимаете, что он сказал?» А мы не задумывались, понимаем мы или нет. Мы знаем беларуский, и мы понимаем других славян. Мы это увидели и появилась идея занятий. Это один аспект. Второй аспект: я считаю крайне вредным, когда из политкорректности говорят, что ребёнок в первом классе должен получить 5 часов русского языка и 5 часов беларуского. Я читал исследования, в которых было сказано, что в первом классе учить русский и английский или беларуссий и английский — это нормально, а вот русский и беларуский — не нормально. Близкие языки мешают друг другу. Как было у меня? Я не учил беларуский язык самостоятельно. Я учил его вместе со всеми. Первые два класса у меня был только русский. С третьего потихонечку добавлялся беларуский. Так как грамматика, синтаксис и пунктуация приблизительно одинаковые, то на хорошую базу русского языка легко накладывался беларуский язык. Сейчас у меня есть проблемы в общении, что скажете? Я у вас хоть раз переспросил? Мы с вами легко общаемся, хотя я кроме как в школе, никогда не изучал беларуский язык.

З.Л. За тридцать лет независимости количество беларускоязычных школ сократилось в два раза.

Я.Л. Позвольте отвечу жёстко: не надо лгать. Вы сказали, что количество беларускоязычных школ уменьшилось в два раза. Это правда, но причина не в том, что беларускоязычные школы закрывали, а в том, что закрывали деревенские школы. Большинство беларускоязычных школ было в деревнях. Они закрываются, потому что деревни исчезают. Мы видим урбанизацию во всём мире, она происходит очень быстрыми темпами. Извините, но у меня такого рода ложь вызывает только негативную реакцию. Я сразу понимаю, что имею дело с пропагандой, начинаю злиться и не хочу обсуждать.

З.Л. Ну і заканчэнне: з якой ідэяй вы прапаноўваеце пабудаваць Беларусь?

Я.Л. Сегодня беларуская сборная по робототехнике находится в Таиланде на чемпионате мира. Знаете, сколько это стоит и кто за это заплатил? Крупные айтишники нашей страны. Я не думаю, что они говорят по-беларуски. Эти люди выделяют существенные средства для того, чтобы молодые люди в нашей стране получали современное, хорошее образование и участвовали в мировых чемпионатах. Вот у этих людей надо спросить, что такое национальная беларуская идея, что такое патриотизм. Мне кажется, они в этой области большие эксперты, чем те, кто громко об этом заявляет.



# СЯРГЕЙ ШУПА

## «КАЛІ РАСІЯ ПРАГЛЫНЕ БЕЛАРУСЬ, ТО ГЭТА СТАНЕ ЯЕ АПОШНІМ СНЯДАНКАМ»

euroradio·fm

Гутарылі Зміцер Лукашук, Максім Гаруноў
Фота Еўрарадыё

З.Л. Вітаю ўсіх слухачоў, наш сённяшні госць — філолаг, перакладчык, грамадскі дзеяч, Сяргей Шупа. Прывітанне, Сяргей.

С.Ш. Прывітанне.

З.Л. Сяргей, вы былі звязаныя з рознымі патрыятычнымі, нацыянальнымі адраджэнскімі рухамі з канца сямідзясятых гадоў. Вось як вам здаецца, у канцы сямідзесятых і пачатку васьмідзясятых гадоў у людзей, якія былі ўдзельнікамі руху адраджэння, ужо было бачанне нацыянальнай ідэі, разуменне таго, што нацыянальная ідэя нам патрэбная?

С.Ш. Спачатку трэба разабрацца, што такое нацыянальная ідэя, каб нам не хадзіць коламі. Нацыянальная ідэя — гэта, фактычна, функцыя дзяржавы. Для дзяржавы нацыянальная ідэя — гэта ідэал, у кірунку да якога будуецца нацыянальная ідэнтычнасць. У ранейшыя часы такое адбывалася ва ўсіх дзяржавах, якія нядаўна атрымалі незалежнасць. Ім трэба было вызначыць свае геапалітычныя арыенціры, стаўленне да суседзяў, акрэсліць, чым мы адрозніваемся ад іншых, што яднае грамадзянаў. Што было ў нас? Беларуская Народная Рэспубліка існавала хутчэй у выглядзе праекта, хоць нацыянальная ідэя там была даволі ясна акрэсленая. Беларуская Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка — гэта дзяржава-фікцыя, якая стваралася і кіравалася звонку. Беларусы ў дваццатыя гады спрабавалі выкарыстаць яе ў сваіх мэтах, збудаваць нешта ва ўмовах, калі правілы гульні вызначаюць іншыя. У іх мала што атрымалася. Толькі сёння ў нас ёсць дзяржава, якая мае сусветнае прызнанне і можа вызначыцца з нацыянальным праектам. На жаль, мы цудоўна бачым, што яна гэту задачу не ставіць. Можна дапусціць, што ў дзяржаўных колах сучаснай Беларусі вядзецца гаворка пра нацыянальную ідэю. Але куды яна хіліць, мы дагэтуль ясна не разумеем. Пры гэтым у грамадстве відавочна існуе нацыянальная ідэнтычнасць. Яна існуе незалежна ад намаганняў дзяржавы, ад яе палітычных праграм. Гэтую ідэнтычнасць я б не атаясамліваў з нацыянальнай ідэяй. Нацыянальная ідэнтычнасць — гэта такая дадзенасць ці сукупнасць дадзенасцяў. Такіх ідэнтычнасцяў у Беларусі ўжо склалася і яшчэ складваюцца не адна, не дзве і не тры.

З.Л. Адміністрацыя Прэзідэнта замаўляла аднаму сацыялагічнаму цэнтру, каб той сфармуляваў ім нацыянальную ідэю.

С.Ш. Нацыянальная ідэя ў нацыянальнай рэспубліцы — гэта справа нацыянальнай дзяржавы, яшчэ раз паўтару. Нацыянальная ідэя мусіць рэалізоўвацца, і гэта пад сілу толькі нацыянальнай дзяржаве. Возьмем для прыкладу адукацыю. У нашай краіне адукацыя ў руках дзяржавы, і яна адкрыта ігнаруе наш нацыянальны праект. Гэта праблема, і яе немагчыма вырашыць, выкарыстоўваючы рэсурсы грамадзянскіх арганізацый. Самадзейныя намаганні нашай культурніцкай эліты наўрад штосьці пасунуць. Мы ўжо не першае дзесяцігоддзе вядзем партызанскую вайну за розум беларусаў, але нашыя спробы стварыць паралельную сістэму адукацыі не фармуюць нацыю. Яны задаюць нейкі кірунак, задаюць тон, могуць быць маяком, але не болей. Ёсць, напрыклад, Коласаўскі ліцэй — суперустанова, дае найвышэйшы ўзровень адукацыі, але яна не фармуе сённяшнюю нацыю. Дзяржава павінна пачаць выконваць свае абавязкі. Чаму ў нас няма беларускамоўнай адукацыі, хоць, паводле Канстытуцыі, дзве дзяржаўныя мовы? Увогуле, у дачыненні да беларускай мовы там куча пытанняў, якія сёння выглядаюць проста абсурдна.

З.Л. А чаму так, як думаеце?

С.Ш. Таму што наша дзяржава рухаецца па савецкай каляіне, з якой ёй вельмі цяжка выскачыць. На пачатку дзевяностых была спроба павароту да беларускай мовы, але ва ўладзе быў камуніст Кебіч, і тую кволую беларусізацыю праводзілі людзі, якія працягвалі сядзець у крэслах, у якіх яны апынуліся за савецкім часам. Ім было наогул цяжка зразумець, навошта гэта рабіць, які ў гэтым сэнс.

З.Л. Расейская мова ў Беларусі — гэта ўжо назаўжды ці яшчэ не?

С.Ш. У нас няма расейскамоўных і няма беларускамоўных. Мы ўсе білінгвы. У нас няма людзей, якія б зусім не разумелі на адной ці на другой мове. Адрозніваецца прапорцыя, у якой чалавек ужывае ў сваім жыцці гэтыя мовы: ад вялікага працэнта да нуля. Ёсць людзі,

якія скажуць: «Я совсем ничего не понимаю на этом языке и не жалею об этом». Не ўпэўнены, што такіх можна назваць беларусамі. Калі ты свядома не належыш да гэтай нацыі, то ў цябе адмоўнае стаўленне да беларускай мовы. У Беларусі, я думаю, зусім адмоўнага стаўлення мала. Калі спытаць людзей на вуліцы, як яны ставяцца да беларускай мовы, мы пачуем павагу і шкадаванне, што чалавек дрэнна яе ведае. Зноў жа, дзяржава мусіць адчуваць гэта, трымаць руку на пульсе, неяк сачыць. Калі людзі зусім пяройдуць на расейскую мову і перастануць шкадаваць па згубленай роднай мове, вялікая імавернасць таго, што мы страцім сваю краіну. Мова, стаўленне да мовы, дыстанцыя да мовы — гэта і прыкмета датычнасці да нацыі і прыкмета існавання нацыянальнай дзяржавы.

М.Г. А какой должна быть Беларусь в итоге?

С.Ш. З усімі жыць у міры, ні з кім не ваяваць. З беларускай мовай. Належаць да палітычнай сям'і блізкіх па лёсе і геаграфіі народаў. У маім уяўленні, месца Беларусі разам з балтыйскімі краінамі і Малдовай. Мы з імі знаходзімся паміж Расіяй і Заходняй Еўропай, і ў нас ёсць праблемы і з тымі, і з тымі. На ўсходзе ад нас хочуць нешта, мы не заўсёды разумеем чаго. На захадзе нас часта не разумеюць, як не разумеюць Украіну і часам Польшчу і Чэхію. Для мяне відавочна, што мы не можам быць па-за Еўрапейскім саюзам. Я абсалютна панеўрапеец і ўпэўнены, што гэтая мадэль можа нас выратаваць. Я назіраю за жыццём у некалькіх еўрапейскіх краінах і бачу, што Еўропа дала ім вельмі шмат магчымасцяў.

М.Г. Вы перевели на беларуский язык роман «Арэхавы палац» хорватского писателя Миленко Ерговича. Можно ли сравнивать Беларусь и Балканы?

С.Ш. Ну, параўнанне Балкан і Беларусі — ужо агульнае месца. Мы з Ергавічам тры дні хадзілі па Мінску, увесь час параўноўвалі гісторыі двух народаў і пагадзіліся, што Беларусь пацярпела больш. Першая сусветная вайна цягнулася ў Беларусі сем гадоў. Два мільёны бежанцаў сышло ўглыб Расіі. Мы не ведаем дакладна, што ў нас тут

адбывалася паміж сямнаццатым і дваццаць першым гадамі. Тады не было незалежных журналістаў, як цяпер, якія маглі б прыехаць, паглядзець і апісаць. Гэта быў цёмны час. Мы амаль цалкам страцілі польскамоўную частку нашай спадчыны. Пра яўрэйскі элемент мы таксама ведаем. За сем гадоў сусветнай вайны мы страцілі дванаццаць адсоткаў насельніцтва, я маю на ўвазе яўрэяў. Гэта былі цэлыя класы насельніцтва: рамеснікі, лекары, прафесары.

З.Л. Пры якіх умовах Беларусь пачне развівацца ў правільным кірунку?

С.Ш. Усё будзе залежаць ад таго, чые будуць каналы, праз якія свядомасць уваходзіць у галовы. У чыіх руках апынецца сістэма дзяржаўных сродкаў масавай інфармацыі, якія транслююць, якія мы святы святкуем, якія помнікі на вуліцах стаяць. У чыіх руках будзе сістэма масавай адукацыі ад дзіцячага садочка да дактарантуры. Калі гэта будуць людзі з новымі марамі, то ў нас пачнуцца змены. Калі гэта будуць тыя ж самыя людзі, то змен не будзе. Проста ўзмоцніцца, тое, што ўжо ёсць. Але я веру, што наша ўлада трансфармуецца. Улада — гэта не адзін чалавек, гэта цэлы апарат, і ён памалу развіваецца. Ён не можа не развівацца, таму што гэта супярэчыла б законам прыроды.

З.Л. То-бок, нам трэба чакаць, калі яны там разаўюцца?

С.Ш. Проста рабіць усё што можам, каб трымаць нейкі мінімальны ўзровень. Мастак — маляваць карціны, пісьменнік — пісаць кніжкі.

М.Г. Насколько важна позиция России в отношении Беларуси?

С.Ш. Я лічу, што пакуль Расія існуе, Беларусь так і будзе боўтацца паміж нічым і нічым. Адзіны шанц для Беларусі на спакойнае жыццё і развіццё — гэта распад Расіі. Мы пра гэта даўно ўжо гаворым. Калі Расія падзеліцца на дзяржавы чалавечых памераў, яны не будуць мець амбіцый захапляць кагосьці. Яны будуць проста жыць годным чалавека жыццём, і тады ў Беларусі ўсё будзе спакойна і нармальна. Тое, што зараз Расія пачала закручваць клапаны нацыянальным рэспублікам,

якія ўваходзяць у склад федэрацыі, — гэта ўжо вялікая пагроза для яе цэласнасці. Калі казаць пра перспектывы ўваходжання Беларусі ў склад Расіі, то я лічу што так, такое магчыма, напэўна. Але я лічу, што калі Расія праглыне такую вялікую партызанскую краіну з слаўнымі традыцыямі індывідуальнага тэрору, то гэта можа быць апошнім яе сняданнем.

З.Л. Нацыянальная ідэя ад Сяргея Шупы?

С.Ш. Паважаць сябе, найперш. Не называць сябе нейкім «расейцам са знакам якасці», гэта такое трошкі самапрыніжэнне. Мы паважаем сябе і паважаем усіх іншых. Але пачынаць трэба з сябе. Ты не можаш паважаць іншых, калі ты не паважаеш сябе. Калі ты прыніжаеш сябе, то ты і іншым здрадзіш. Мы жывем у адным свеце, мы не ізаляваныя ад яго і трэба ў гэтым свеце адчуваць сябе годна і годна падаваць сябе ўсім навакольным. А сюды ўлічваецца і мова, і традыцыі, і гісторыя, і тое, чым мы можам быць карыснымі і цікавымі астатняму свету.



# ІГАР
# СКАРЫНІН

## «НЕ ГАНАРЛІВАСЦЬ, А СЦІПЛАСЦЬ — У ГЭТЫМ НАЦЫЯНАЛЬНАЯ ІДЭЯ БЕЛАРУСАЎ»

euroradio·fm

Гутарылі Зміцер Лукашук, Максім Гаруноў
Фота Еўрарадыё

З.Л. Вітаю ўсіх слухачоў, наш сённяшні госць — бізнесмен, спартсмен, блогер Ігар Скарынін. Добры дзень, спадар Ігар.

І.С. Добры дзень.

З.Л. Скажыце, а вось вы не здзівіліся, калі я вам прапанаваў падумаць над гэтай тэмай?

І.С. Я крайне удивился, потому что эта тема для профессионалов: для историков, лингвистов, философов. Мое мнение как бизнесмена, спортсмена, семьянина и блогера будет дилетантским. Но я могу сказать, что меня сюда позвали, чтобы услышать глас народа.

З.Л. Мне заўсёды было цікава: а прадстаўнікі бізнесу ў Беларусі думаюць пра нацыянальную ідэю?

І.С. Да, бывает такое.

З.Л. А вось вам асабіста як бізнесмену, як сем'яніну, як спартсмену нацыянальная ідэя ўвогуле патрэбная?

І.С. У моих отношений с национальной идеей была определенная эволюция. Я родился в русской семье. Мои родители за год до моего рождения переехали в Беларусь с Урала. Когда я был школьником, я совсем не ощущал себя беларусом. Я ощущал себя русским мальчиком, живущим в Минске. Первые мысли о том, что я беларус, начали появляться в раннем подростковом возрасте, когда я стал ездить на спортивные соревнования. Я ездил по Советскому Союзу, фехтовал за Беларусь и понял, что на самом деле я не просто русский мальчик. Я русский мальчик из Беларуси, и это немножко другое. Следующее обострение национального самосознания произошло, когда я женился. Моя жена − потомственный архитектор. В её семье очень трепетное отношение к беларускому наследию, и я ещё больше почувствовал себя беларусом. Но учтите: в советское время надо было указывать в паспорте национальность, и я писал, что я русский. Следующий этап был в девяностые годы, когда я занялся бизнесом. Мне быстро стало понятно, что беларуский бизнес отличается от бизнеса во всех пяти соседних странах. У него есть особенности, и я начал гордиться

беларускостью своего бизнеса. Это было совершенно отчётливое чувство. В четырнадцатом году я окончательно решил, что я беларус, и стал писать в анкетах, что я беларус. Спасибо событиям четырнадцатого года. Они позволили мне осознать себя полностью беларусом. Да, русскоговорящим беларусом, но что делать?

М.Г. Четырнадцатый год?

І.С. Владимир Владимирович Путин лично отправил меня в книжный магазин в «Галерею Ў». Я пришёл и спросил: «Посоветуйте, пожалуйста, что мне интересного почитать на мове». Я помню, что они мне посоветовали Наталку Бабину. Потом был Глобус, потом был Бахаревич и много всего интересного. В общем, Владимир Владимирович Путин лично сделал меня беларусом окончательно.

М.Г. Тогда вы настоящий русский человек. Пока вам Владимир Владимирович не сказал вам, что вы беларус, вы себя беларусом не считали.

І.С. Наверно, да. Могу согласиться.

М.Г. А до приказа из Москвы о том, что вы беларус, вы читали что-нибудь про Беларусь?

І.С. Я читал, конечно.  И по мере взросления интерес становился больше, больше и больше.

М.Г. А можете назвать какой-нибудь роман, или фильм, или стих, который попался вам в советские времена, когда вам было лет двадцать, и вам понравился?

І.С. Думаю, это был Короткевич.

М.Г. А у него что?

І.С. «Дзікае паляванне караля Стаха» и «Замок Ольшанский». Эти книги произвели на меня сильное впечатление, и это был, наверно, первый раз, когда я что-то такое ощутил. Поймите, я был мальчик, который рос в семье без бабушки в деревне, в которой говорят на мове. Моя

бабушка приезжала с Урала и говорила со мной на таком интересном окающем языке с неправильными ударениями. Я хорошо чувствую русский язык, но мову не чувствовал, и мне было сложно.

З.Л. Караткевіча вы прачыталі беларускага, не пераклад?

І.С. Менавіта беларуского.

З.Л. А ў вас увогуле было такое, што вы селі і пачалі разважаць пра Беларусь, пра нацыянальную ідэю?

І.С. Обычно это происходит, когда есть какой-нибудь раздражающий фактор. Например, пренебрежительное высказывание о беларуской мове. Несмотря на то, что я не могу ясно выражать свои мысли на мове, мне всегда хочется за нее заступиться. Мне совершенно очевидно, насколько это большая ценность, и даже драгоценность.

З.Л. Вы зараз так цікава расказалі пра ўсведамленне сябе беларусам, а дачку адправілі вучыцца ў Кембрыдж ці ў Оксфард?

І.С. Кембридж.

З.Л. Чаму?

І.С. Там лучшее образование. Но на самом деле это в некотором роде трагедия, что приходится отправлять детей за границу для получения хорошего образования. Она училась здесь, она ответственная девочка и она постоянно мне говорила: «Папа, я в школе теряю время, я лучше учусь, когда я не хожу в школу».

З.Л. Я чуў вашу гісторыю пра вашага выкладчыка з Кембрыджа. Яна мне спадабалася.

І.С. Да, руководитель нашего колледжа оказался уроженцем Уэльса. Во время встречи с родителями и учениками он интересно рассуждал о том, что знание языков улучшает работу ума и сделал отступление о валлийском языке. Он сказал, что сейчас сожалеет о том, что в детстве не понимал важность своего родного валлийского и теперь, уже

в зрелом возрасте, очень рад тому, что знает его. Мне было интересно и приятно слышать это.

З.Л. Вы параўналі валійскую з беларускай?

І.С. Он сам их сравнил и это было удивительно. Мы беседовали после официальной части, и оказалось, что он знает о ситуации с беларуской мовой, о положении, в котором она оказалась по политическим причинам.

М.Г. А у вас, как у русского, никогда не было ощущения, что беларуский язык — это как русский язык с ошибками? Такое мнение часто можно прочитать в сети.

И.С. Мой папа всё время мне повторял, что мову надо учить. Папа говорил: «Игорь, ты живёшь в Беларуси, ты должен учить мову». Ему самому мова давалась тяжело, он старался изо всей силы, но все равно говорил, что мову надо учить. Папа работал недалеко от места, где мы жили, и когда приходил домой на обед, всегда включал беларускамоўную передачу «У абедзенны перапынак». Я хорошо помню наши с ним обеды: играет передача «У абедзенны перапынак», мы с папой сидим за столом и обедаем. К сожалению, сегодня мне надо серьёзно подумать, чтобы написать что-нибудь по-беларуски. Я чувствую свою ущербность в этом плане. Хотя мне всего пятьдесят шесть лет, и время ещё есть. Но национальная идея, на мой взгляд, не в этом.

З.Л. А ў чым?

І.С. Существует понятие национальный гордости. Я бы хотел ему противопоставить понятие национальной скромности. Национальная скромность беларусов, на мой взгляд, это именно та понятная и разделяемая многими конструктивная объединяющая идея, которую вы на этой передаче ищете.

З.Л. Чаму менавіта яна?

І.С. Потому что, с моей точки зрения, национальная идея, во-первых, должна быть массовой и понятной каждому. Во-вторых, она должна

быть не разделяющей, а объединяющей. Она не должна вызывать противоречия, отторжения, острой дискуссии. Национальная идея должна быть направлена не в прошлое, а в будущее. Она должна быть конструктивной, не разрушающей и не противопоставляющей нас ни нашим соседям, ни самим себе. По-моему, скромность подходит под все эти требования.

З.Л. І калі мы прымаем гэтую нацыянальную ідэю, то да чаго ў выніку яна павінна прывесці нашу нацыю?

І.С. Во-первых, я всерьез считаю, что скромность — это свойство, присущее многим беларусам на всех уровнях. Во-вторых, — отвечая на ваш вопрос — я считаю, что скромность в роли национальной идеи должна привести нашу нацию к желанию совершенствоваться, к желанию учиться и к желанию брать лучшее у всех, с кем мы встречаемся в своей жизни. Когда мы говорим о национальной гордости, то это всегда желание превознестись над кем-то, подчеркнуть свои достоинства. Мне кажется, это неправильно, и скромность гораздо полезнее. В первую очередь потому что скромность позволяет видеть чужие достоинства и учиться.

З.Л. Адразу згадваецца анекдот аб тым, як беларуса павесілі, ён павісеў і прывык. І яшчэ анекдот пра цвік у зэдліку: беларус сеў на цвік, паёрзаў, паёрзаў і са сціпласці сказаў, што можа быць, так і трэба. І ў чым веліч гэтай нацыянальнай ідэі?

І.С. А нам обязательно нужно величие? Мне кажется, что величие — это немного про другую страну. Лично мне приятно чувствовать себя частью скромной нации. Приятно и как бизнесмену, и как спортсмену. Предположим, я выиграю турнир. Как я к отнесусь к своей победе? Я напомню себе, что перед этим я много раз проиграл. Я гораздо чаще проигрывал турниры, чем выигрывал. Я буду праздновать свою победу, но я не буду гордиться. Я ничем не лучше фехтовальщиков, которые проиграли. Я должен быть рад, что мне удалось победить, но эта победа не делает меня великим фехтовальщиком, не делает меня лучше проигравшего. Когда другой выиграет, я пойду и поздравлю его, это никак меня не унизит. Или если я организовал бизнес, который, допустим, на данный момент успешен. Очевидно, что это не самый лучший

бизнес в мире, правильно? Когда я приезжаю в хорошо организованную немецкую фирму, я вижу, что у них бизнес более продвинутый и мне есть чему учиться. Мне смешно говорить о величии, о котором вы меня спросили. Мне смешно говорить, что я великий бизнесмен. Я профессионал, но мне всегда есть чему учиться. С моей точки зрения, скромность полезнее, чем величие, тем, что она не дает тебе застыть в самодовольстве. Скромность всё время напоминает, что надо развиваться, что твой сегодняшний успех — это просто очередная ступень. Если мы говорим про национальности, то если сказать, что мы великая нация и пуп земли, я буду категорически с этим не согласен. И я буду категорически не согласен с любой нацией, которая будет утверждать нечто подобное. Я не считаю, что я лучше поляка, украинца, латыша, русского или литовца. Я считаю, что мне есть чему у них поучиться. При этом я и горжусь тем, что я беларус и не превозношусь из-за этого. Я нахожусь в гармонии со своей беларускостью.

М.Г. Но по-беларуски вы говорите с трудом, верно?

І.С. Я уточню: я нахожусь в гармонии со своей специфической неправильной русскоязычной беларускостью.

М.Г. Беларусы — это нация без головокружения от успехов? Успехи у неё есть, но головокружения они не вызывают, так?

И.С. Да, и вы знаете, я же не придумал что беларусы скромные. Они в самом деле такие. В последние годы я всё чаще и чаще сталкиваюсь с ситуациями, когда люди ну очень сдержанно относятся к своим успехам. Есть вещи, которые у нас получаются неплохо, но мы склонны считать, что нам надо ещё постараться. Я уверен, что это правильно, потому что это путь к непрерывному росту.

М.Г. А если беларусы скажут, к примеру, что у них были великие предки, которыми им надо гордиться?

И.С. Предки может быть и великие, но а мы что? Нужно же самим что-то делать. А если надо что-то делать, то скромность всегда полезнее и эффективнее, чем гордость. Это я вам как практик говорю.

З.Л. Як з дапамогай сціпласці, пра якую вы кажаце, нам вярнуць мову ці абараніць суверэнітэт, калі не дай бог давядзецца?

І.С. Чтобы что-то сделать, надо много трудиться. Язык, суверенитет, ещё что-нибудь — в любом случае нужно много и упорно трудиться. Это как в бизнесе: никто не зарабатывает сто миллионов долларов на желании заработать сто миллионов долларов. Сто миллионов долларов зарабатывают на желании сделать хорошо, а оно не бывает без скромности.

З.Л. Ну хоць крыху пахваліцца можна?

І.С. Зачем хвастаться? Зачем, я не понимаю? Я считаю, что хвалить себя — это вообще неправильный посыл. Тебя должны похвалить. Сделай что-нибудь хорошее, и тебя похвалят. С другой стороны, если, допустим, меня похвалят, то я точно знаю, что мне будет неловко, но по крайней мере, в этом будет какой-то смысл. А если я буду хвалить себя сам, это будет абсолютно бессмысленная процедура. Я не хочу ничем хвалиться. Мне как человеку хвалиться незачем. Нам как нации хвалиться незачем. Если нас кто-то похвалит, мы его послушаем, отнесёмся к этому критически и продолжим работать дальше. И, кстати, я уверен, что если мы будем скромными, у нас будет всё хорошо с нашими соседями. Из скромности вытекает дружелюбие. Это абсолютно современное, конструктивное и правильное качество. Со скромным соседом приятно жить. Если ты всё время хвастаешься, рассказываешь всем, какой ты хороший, люди начинают от тебя уставать. Есть много примеров, как это бывает.

З.Л. Макс любіць казаць, што нацыянальная ідэя павінна быць такая, каб у людзей, вобразна кажучы, загарэліся вочы. Ад вашай ідэі вочы будуць свяціцца?

І.С. Это же было уже. Куда-то там идти с горящими очами — мы так прожили почти целое столетие. Пожалуйста, давайте как-нибудь без горящих очей. Давайте с улыбкой, с дружелюбием, со спокойствием, с признанием того, что другой ничуть не хуже, чем ты.

М.Г. Я имел в виду коллективный энтузиазм, желание работать, оставаться в своей стране. Как правило, в странах, где нет коллективного

энтузиазма по поводу счастливого общего будущего, граждане массово эмигрируют, как в Боснии, в Украине, в Молдове.

І.С. Я вам приведу примеры из девяностых годов. Просто опишу историческую ситуацию. Вести бизнес тогда было очень сложно. Настолько сложно, что не было смысла изучать бизнес как учебную дисциплину. Всё было очень не по правилам, не по нотам, и казалось, что так будет вечно. Ты просто стараешься выжить в постоянно меняющейся и достаточно враждебной среде. Но при этом, чтобы выжить, ты ориентируешься на своего крупного немецкого поставщика. Ты берёшь с него пример, учишься. Как у него организовано, какие есть регламенты. Проходит время, он приезжает к тебе и говорит: «Игорь, а можно я к тебе привезу делегацию наших российских клиентов, чтобы они посмотрели, как надо работать?» То есть, ты старался, тянулся, чему-то учился, и вдруг к тебе привозят людей, чтобы показать, как надо работать. Значит, что-то у тебя получилось. В этот момент ты понимаешь, что в общем тебе интересно работать дальше. И ещё понимаешь, что твоими стараниями в какой-то мере меняется среда: из агрессивной она начинает становиться более упорядоченной, дружелюбной, пригодной для жизни и так далее. Но исходным посылом является всё-таки не алчность и не величие, а скорее старание. Скорее старание. Но как только ты решаешь, что ты достиг, то можно включать секундомер и начинать отсчитывать время до момента какой-то катастрофы.

М.Г. То есть, скромности вполне хватит для того, чтобы выжить в самых сложных условиях, никакого величия не нужно, я правильно вас понял?

І.С. Да, именно. Скромность − это не слабость, как вы, судя по вашим вопросам, считаете. Скромность может очень многое, на самом деле. И я считаю, что эта национальная идея была присуща беларусам даже в Советском Союзе, когда у нас не было своего национального государства. Это не изобретение наших времен и это не тяга к демократии, как может показаться со стороны. Это определенная характерная особенность беларусов и всех, кто сюда попадает. Местная скромность затягивает, делает людей не гордым, а скромными и старательными.



З.Л. Калі гэта перакласці на мову лозунга, то ваша нацыянальная ідэя

павінна гучаць: «Будем скромными!»

І.С. Я думаю, что лозунг — это такой вопрос маркетинга. Но если мы противопоставляем национальную скромность национальной гордости, то из этого лозунг можно сформулировать.

З.Л. І як ён гучыць? Гэта мая была версія, а ваша?

І.С. Не готов я выдать сейчас хлёсткий лозунг. Но противопоставить национальную скромность национальной гордости я настойчиво советую.

З.Л. У вас сціпласць уключае ў сябе даволі шмат якасцяў накшталт працавітасці і прыязнасці. А якую вы б паставілі на першае месца?

І.С. Я думаю, дружелюбие, трудолюбие. Вот это я бы поставил вперёд. Это важнее национальной символики, в моем понимании.

М.Г. У вас получается, что беларусы — это первый европейский народ, освободивший себя от пут величия.

І.С. Знаете, а в этом что-то есть. Я не готов сейчас категорически с этим согласиться, но в этом что-то есть.

М.Г. А у вас есть пример дурного увлечения величием? Россия, может быть?

І.С. Бесспорно, конечно. Очень хочется избегать противопоставления Беларуси и России. Но в если надо привести пример, то да.



# ВІКТАР
# БАБАРЫКА

## «СТАЦЬ ЭЛЕКТРОННАЙ ШВЕЙЦАРЫЯЙ — НАЙЛЕПШАЯ НАЦЫЯНАЛЬНАЯ ІДЭЯ БЕЛАРУСІ»

euroradio·fm

Гутарылі Зміцер Лукашук, Максім Гаруноў
Фота Еўрарадыё

З.Л. Вітаю ўсіх слухачоў, наш сённяшні госць — незалежны эканаміст Яраслаў Раманчук. Добры дзень, Яраслаў.

Я.Р. Прывітанне, сябры.

З.Л. Яраслаў, а вы не здзівіліся, калі я запрасіў эканаміста паразважаць пра такую аморфную з'яву, як нацыянальная ідэя?

Я.Р. Я здзівіўся, чаму так позна. Недзе дзесяць гадоў таму я афіцыйна заявіў аб тым, што нацыянальнай ідэяй беларусаў павінна быць «Беларусь — адзін адсотак» — 1% сусветнай эканомікі. Сёння Беларусь займае 0,07%. Нават адной дзясятай няма. Трэба, каб усе інстытуцыі, арганізацыі, філосафы, эканамісты, бізнесоўцы працавалі менавіта на гэтую мэту. Калі Беларусь будзе адзін адсотак сусветнага ВВП, значыць мы будзем працаваць у дзесяць разоў лепш. І беларусы, безумоўна, тады будуць мець вельмі стабільную, вельмі дабрабытную краіну.

З.Л. Уявіў сабе сцэну: зараз па палях трактары распырскваюць гной. Да трактароў падыходзіць Яраслаў у сваіх лакіраваных чаравіках, і так элегантна страсянуўшы бруд, звяртаецца да трактарыста: «Вася, ідзі сюды, я табе прынёс нацыянальную ідэю: «Адзін адсотак».

Я.Р. Ведаеце, нацыянальная ідэя — гэта ўвогуле пра інтэлектуальныя эліты. Пра людзей, якія з пункту гледжання нейкага інтэлектуальных, нематэрыяльных актываў з'яўляюцца арыстакратамі ў сваёй краіне.

З.Л. А трактарыстаў куды?

Я.Р. Трактарыстам трэба тлумачыць тое ж самае, але іншымі словамі. Вось твае дзяды, твае матка і бацька пакінулі табе нейкія актывы. Твая мэта — прымножыць іх, зрабіць у два разы, у тры разы большымі. Ну, і захаваць сямейныя традыцыі. У Беларусі кожнае пакаленне, па сутнасці, пачынала з нуля. Маё пакаленне пачынала з нуля. Пакаленне маіх бацькоў пачынала з нуля, таму што была калектывізацыя і ўсю зямлю забралі. Калі ў нас будзе ідэя, што трэба памножыць у два разы тое, што табе пакінулі твае бацькі, гэта будзе зразумела кожнаму. А галоўная мэта гэтага падваення — пашырэнне месца Беларусі ў свеце. Ты

падвойваеш актывы сваёй сям'і і тым самым робіш сваю краіну прыкметнай на карце свету. Гэта павінна быць заданнем для ўсіх нашых інстытутаў, для усіх колаў. Мы можам гэта зрабіць толькі разам. Адзін прэзідэнт гэтага не зробіць. Адзін мільярдэр не зробіць. Адзін Вася з калгасу не зробіць. Толькі ўсе разам, супольна.

М.Г. Александр Григорьевич уже много лет обещает про пятьсот долларов каждому гражданину Беларуси, но общественного подъёма, объединения, о котором вы говорите, не получается. Почему?

Я.Р. Пяцьсот даляраў у месяц — гэта пра самае простае выжыванне, пра цярпімую беднасць, якая мала каго натхняе. Я ж кажу пра сапраўдны эканамічны росквіт. Вось як Ірландыя, якая пачынала рэформы ў 1960 годзе, калі ў іх было 600–700 даляраў на душу насельніцтва. За пяцьдзясят гадоў яны ў сто разоў павялічылі свой дабрабыт і абагналі нават Вялікабрытанію. Калі будзем працаваць як адна каманда, мы таксама, зможам абагнаць і Расію, і нават Польшчу.

З.Л. Прасцей кажучы, нацыянальная ідэя — гэта павялічыць свой дабрабыт?

Я.Р. Не толькі свой ці сямейны. Так яно не працуе. Трэба зразумець, што поспех краіны складаецца не з асобных поспехаў сямей ці асобных поспехаў людзей. Поспех краіны складаецца з поспехаў інстытутаў, арганізацый, з таго, напрыклад, драйву, які могуць даць інтэлектуалы. Калі інтэлектуальныя арыстакраты ў Беларусі, якія генеруюць ідэі для культуры, менеджменту, эканомікі, створаць матрыцу, якая будзе прымальнай для асноўных эканамічных і сацыяльных гульцоў, то праз адно-два пакаленні мы дасягнем такога ўзроўню, што ніхто не будзе спрачацца, ці залежная Беларусь, ці незалежная. Гэта будзе проста сучасная сусветная краіна.

М.Г. На данный момент у беларусов нет вовлечённости в Беларусь как в проект, они в него не верят, и это основная проблема, так?

Я.Р. Вельмі добрае слова «вовлечённость». Вось калі я быў малым дзіцем, мы жылі ў мястэчку і я пасвіў кароў у сваёй цёткі. Кожная карова

льснілася, як вылізаная. Чаму? Таму што яны былі прыватнымі. Прыватны ўласнік «вовлечён» у валоданне сваёй каровай, клапоціцца пра яе, пільна сочыць за яе станам. Гэта відавочная рэч, і сам Лукашэнка неаднаразова казаў, што, калі прыватна, тады і парадак ёсць, і чысціня — усе кампаненты дабрабыту. Прыватная ўласнасць дае жар у вачах, дае «вовлечённость», як вы кажаце. Найважнейшы момант — калі чалавек працуе на сваім, а потым разумее, што і падаткі, і грашовая сістэма, і суды, і паліцыя — усе гэта працуе на яго, таму што гэта яго супрацоўнікі: ён іх кантралюе, ён з імі супрацоўнічае. Гэтае разуменне і дае грамадству той драйв, тое жаданне працаваць, якога нам так не хапае. Дарэчы, праблема можа быць у тым, што антылібералізм зашыты ў нас ў падкорцы. Паглядзіце на палітычныя праграмы, на лозунгі, на дыскурсы наконт прыватызацыі ў Беларусі: гэта ўсё непрыманне прыватнай уласнасці.

М.Г. Ваш рецепт — частная собственность?

Я.Р. Безумоўна, так. Я, да прыкладу, кожны раз кажу: без прыватнай уласнасці на зямлю ў Беларусі немагчымы дабрабыт. Людзі павінны працаваць на сваёй зямлі. Поспехі Новай Зеландыі, Чылі сведчаць пра тое, што, калі зямля прыватная, калі людзі могуць кааперавацца і рабіць добры бізнес, то яны адначасова і патрыёты Новай Зеландыі, і патрыёты Чылі. Я размаўляў з навукоўцамі гэтых краін. За трыццаць, пяцьдзясят гадоў гэтыя краіны выйшлі са стану, калі яны былі ў тры разы бяднейшы за нашы, у стан сярэднеразвітых краін, куды едуць мігранты. Яшчэ адзін прыклад: «Еўраопт» у Аршанскім раёне ўзялі стратныя прадпрыемствы «Белкаапсаюза» і давялі іх да рэнтабельнасці. І высноexternа: дайце нам яшчэ. «Белкаапсаюз» — гэта дзесяць тысяч адзінак па ўсёй краіне. Чаму ў іх атрымалася дамагчыся рэнтабельнасці? Таму што яны паставіліся да гэтай сеткі як да сваёй уласнай, як да прыватнай. Мой пункт гледжання: аддаць менавіта мясцовым прадпрымальнікам, менавіта мясцовым людзям, каб яны былі гаспадарамі гэтых актываў. Навошта? Каб менавіта беларусы былі гаспадарамі сваёй зямлі.

М.Г. Насколько важны традиционные ценности беларусов, то же православие?

Я.Р. Я думаю, трэба паглядзець на царкоўныя тэксты, на тое, якія каштоўнасці яны нам нясуць. Я чытаў нейкія энцыклікі з Ватыкана і чытаў тэксты праваслаўных святароў з Расіі. Тое, што яны там кажуць, гэта, па сутнасці бальшавізм і марксізм. З пункту гледжання эканомікі, гэта тое, што, безумоўна, аддаляе Беларусь ад нашай мэты. Было даследаванне Андрэя Ларыонава, які параўноўваў на працягу апошніх трохсот гадоў матэрыяльны дабрабыт і рэлігію ў розных краінах. Ён зрабіў выснову, што праваслаўныя краіны маюць значна меншыя тэмпы развіцця. Пратэстанты на першым месцы, каталіцызм і іўдаізм на другім месцы і ўжо потым праваслаўе.

З.Л. Беларусь на якой мове?

Я.Р. Трэба, каб дзяржаўныя органы кіравання размаўлялі на роднай мове, на беларускай мове. Трэба шанаваць і сімволіку, і гісторыю. Пры гэтым вельмі важна разумець, што на дадзены момант у нас сітуацыя такая, што для беларускіх прадпрымальнікаў, у якіх ёсць свае буйныя паспяховыя кампаніі, чужое ўсё тое, пра што кажуць пра мову ў культурных асяродках. Есць людзі, якія дваццаць, трыццаць гадоў нешта ствараюць, не думаючы ні пра ідэнтычнасць, ні пра нацыянальную ідэю. Дакументы яны робяць цалкам на рускай мове, таму што ў іх няма опцыі рабіць на беларускай. Але ў іх ёсць дзеці, у іх ёсць унукі. Калі будзе актыўнічаць грамадская супольнасць, дзеці і ўнукі рана ці позна самі вернуцца да Беларусі. Я нагадаю вам досвед Квебека. За трыццаць гадоў яны зрабілі ў англамоўным асяроддзі франкафонны штат. Гэта быў эвалюцыйны шлях, паступовы, які крок за крокам стварыў попыт на мову і падтрымаў мясцовую ідэнтычнасць. Асобна заўважу, што ў нашых прадпрымальнікаў добрым тонам лічыцца веданне некалькіх моў. Большасць беларусаў-прадпрымальнікаў кажуць: «Ну, тры-чатыры мовы трэба ведаць: рускую, беларускую, польскую, нямецкую, ангельскую, там, можа быць, кітайскую». Я, напрыклад, лічу, што, прынамсі, для беларусаў трэба ведаць пяць моў, у тым ліку і мову тваёй ідэнтычнасці.

М.Г. А почему только дети и внуки?

Я.Р. На дадзены момант у нас асаблівая сітуацыя, звязаная з пазіцыяй дзяржавы. Шмат беларускіх фірмаў ужо дабіліся сусветнай вядомасці,

але ў Беларусі іх могуць пасадзіць, распрануць, збанкрутаваць. Беларусы, які дабіліся поспеху, не могуць адчуваць сябе ганаровымі грамадзянамі нашай краіны. Акрамя таго, дзяржава не стварае спрыяльных варункаў для вялікага беларускага бізнесу. Яна іх стварае для кітайцаў, для арабаў, для нейкіх асобных кампаній. Усё гэта разам прыводзіць да таго, што дзяржава сваім рукамі адлучае самых паспяховых беларусаў ад нацыянальнай ідэі, ад нацыянальнага нашага праекта.

З.Л. Як павінна выглядаць нацыянальная ідэя? Гэта павінна быць кніга, маніфест?

Я.Р. Груба кажучы, гэта павінен быць тэкст заданняў для кожнай сацыяльнай групы, які павінен быць распрацаваны ў вялікіх мазках нашых вялікіх мысляроў. Не шляхам «усе павінны гэта вывучыць», а — «я магу стварыць тыя варункі, якія давядуць да таго, што людзі будуць працаваць менавіта ў Беларусі». Сэнс у тым, каб тыя тысячы беларусаў, якія зараз працуюць, арганізуюць прадпрыемствы за межамі Беларусі, павінны вярнуцца назад і працаваць, развівацца ў сябе дома. Не проста таму, што гэта дом, а і таму, што тут будуць лепшыя ўмовы для прадпрымальніцтва. І можа быць, мае сэнс зрабіць што-небудзь абсалютна новае. Я, напрыклад, за тое, каб зноў з'явілася такая гістарычная рэч, як магчымасць кожнага беларуса карыстацца залатымі грашыма на залатым стандарце. Вярнуць беларусам іх залаты талер. Я хачу, каб Беларусь была першай краінай у свеце, якая адновіць рэальны сэнс грошай. Вось гэта быў такі наш, як кажуць, сярэдні палец для ўсіх тых, якія навязваюць нам свае грошы.

З.Л. На гэтай кнізе будзе якая-небудзь кароткая назва? Там не напішаш жа проста «Тэхнічныя заданні па выкананні нацыянальнай ідэі», а вось нейкі слоган.

Я.Р. Мы кожны год робім экспертныя школы і прыдумляем слоганы для сваёй майкі. Майка два гады таму была: «Вышывай свободу», ідэя была ў тым, што кожны чалавек – вось нітачка, якая вышывае гэтую свабоду. І потым робіцца наш нацыянальны арнамент, наша Беларусь, якая, як мы ўсе верым і спадзяемся, калі-небудзь абавязкова зойме вартае месца ў свеце.



# ПАВЕЛ
# ДАНЭЙКА

## «ГАНАРЫЦЕСЯ ТЫМ, ШТО ВАС НЕЛЬГА ЗАБІЦЬ, ШТО ВЫ ФЕНІКСЫ»

euroradio·fm

Гутарылі Зміцер Лукашук, Максім Гаруноў
Фота Еўрарадыё

З.Л. Вітаю слухачоў «Еўрарадыё», наш сённяшні госць — дырэктар бізнес-школы Інстытута прыватызацыі і менеджменту Павел Данэйка.

П.Д. Привет.

З.Л. Калі верыць кіраўніку нашай дзяржавы, незалежнай Беларусі амаль трыццаць гадоў, а мы нават не знайшлі нацыянальнай ідэі. Вось вы як прадстаўнік бізнесу можаце сказаць, ёсць у нас нацыянальная ідэя ці не? І ці патрэбна яна ўвогуле нам з пункту гледжання кіраўніка бізнес-школы?

П.Д. Когда говорят о национальной идее, я не совсем понимаю что это такое. Обычно идёт отсылка к Америке. У американцев есть какая-то национальная идея. А какая национальная идея у португальцев? Кто-то знает? У ирландцев? Я понимаю, что сейчас может речь идти о самоидентификации, о самопонимании, о том, кто мы такие — беларусы. А можно поговорить, например, о понятии культурного кода нации, как у Клод Рапай. Это относительно рациональная научная концепция, её можно обсуждать. А национальная идея — я не понимаю, о чём идёт речь просто.

М.Г. В 2016 году глава администрации президента Украины, Борис Ложкин написал книгу, которая называется «Четвёртая Республика». На её презентации был весь политический бомонд страны, включая президента, премьер-министра и мэра столицы. Книга была представлена как манифест новой Украины. Ложкин утверждает, что Майдан был ещё одной европейской национальной революцией. Первая была в Голландии во второй половине 16 века. Ложкин считает, что и в Голландии, и в Украине движущей силой были предприниматели, и целью революции, её идеей, была свобода предпринимательства.

П.Д. Капиталистическая экономика, да. Капитализм создал нации. Это факт, и к чему мы сейчас это обсуждаем?

М.Г. Если «это факт», как вы говорите, и если верить Борису Ложкину,

то бизнес и национальная идея связаны, и у этой связи есть давняя история. А вы сейчас сказали, что не видите смысла в вопросе о национальной идее.

П.Д. Понимаете, формирование нации предполагает формирование национального мифа и истории о том, кто мы такие. Национальная идея, как я понимаю, была сформулирована в США, но это страна, которая возникала совершенно по-другому. Она возникала как страна религиозной свободы и бесконечных возможностей. Но есть ещё такие вещи как культурный код, который характеризует страну. Самопонимание беларусов, кто они такие, как они себя видят. Вот это обсуждать интересно. В основном я занимаюсь аналитикой. Первый аналитический центр в этой стране был создан мною. Первый опрос, который мы провели, — это был 1993 год — показал, что только 17% беларусов были твёрдо за независимость. И была большая группа, которая была против независимости. Сегодня твёрдо за независимость 65-80%. Мы идём к концу гражданской войны, которая началась в 1917 году и продолжается до сих пор. Почему? Потому что Лукашенко, в отличие от России и Украины, отказался от насилия. У нас, к примеру, два государственных языка. Мне часто говорят, что в Украине многое делается для того, чтобы украинский язык стал доминирующим. Я считаю, что это плохо, когда государство принуждает граждан к тем или иным действиям. Я считаю, что это вызывает гражданские войны. Гражданская война – это ситуация, когда существует две правильные точки зрения, и люди готовы убивать друг друга, отстаивая их, готовы насильно навязывать свою точку зрения.

З.Л. На Данбасе зараз грамадзянская вайна?

П.Д. Да, безусловно.

З.Л. А роля трэцяй краіны?

П.Д. У меня был поразительный опыт в Крыму. Я спросил у таксиста, кого он поддерживает, Януковича или Тимошенко, а он сказал, что «это

хохлы, они не наши люди». Конечно, в конфликте на востоке Украины есть третья сторона. Но без поддержки определённой группы украинского населения никакая третья или четвертая сторона не получила бы этот конфликт. Вернёмся к Беларуси. В 1984 году у меня была дискуссия в кафе тут, неподалёку, с одним из лидеров нашего национального движения. Мы обсуждали, как беларуский язык может быть привит в стране. Он говорил, что надо переводить на беларуский язык Шекспира, а я говорил, что надо издавать «Playboy». И сегодня я убеждён, что самым мощным инструментом возрождения беларуского языка был бы нормальный мультканал на беларускай мове. Круглосуточный, который смотрели бы дети. И тогда не нужно будет ничего им навязывать. Я пытаюсь сказать, что мы страна, у которой шанс решить эти принципиальные вопросы не через захват государственной власти и навязывание, а через диалог в обществе и поиск решений, который не ущемляет ничьих прав. И к тому же, в моём понимании терпимость — это очень важная часть нашего национального самосознания. У нас сдержанная толерантность, но не в европейском смысле слова. Беларуская толерантность позволяет сосуществовать разным точкам зрения, она против насилия.

М.Г. А Беларусь станет беларускоязычной?

П.Д. Мы придаём чрезвычайно завышенное значение языку. Есть чудная страна Ирландия.

М.Г. Не сказал бы, что ирландцы сильно рады тому, что не могут говорить на гэльском.

П.Д. Я люблю Ирландию. В своё время я привез кучу дисков с песнями ирландской революции. Они были на английском языке, я отдал их Алесю Камоцкому, и он сделал чудесный диск ирландских песен на беларускай мове. Кельтский тогда понимали меньше пяти процентов населения. Сейчас ещё меньше. Но уважают ли ирландцы свой язык? Очень. Я был в гостях в ирландской школе менеджмента. Смотрел, как у них организован процесс, и в конце захотел сказать им что-то

приятное. Сначала сказал, что они очень веселые, а они ответили, что с такими соседями каким им ещё быть. Я попробовал с другой стороны. Говорю: «Вы такие ярые католики», а они в ответ: «Ты знаешь, если англичане были бы католиками, мы бы все были протестантами». Для меня это значит, что ирландская идея живёт и без знания языка.

З.Л. Калі казаць пра адсутнасць канфрантацыі ці ўціску, то за час кіравання Аляксандра Лукашэнкі колькасць беларускамоўных школ да сённяшняга дня скарацілася роўна напалову, і я думаю, не таму, што людзі так хацелі.

П.Д. А откуда мы знаем, что это не так? У нас у родителей есть право выбора. Если бы родители хотели, они бы отстаивали беларуский. Вообще, давайте посмотрим на 90-е. Было вдохновение национальным возрождением, но вдохновение проходит, потому что есть повседневная жизнь. Есть необходимость учиться в университете, например. И опять же, если бы вы сказали, что есть решение на государственном уровне уничтожать беларуские школы, — это было бы одно, а если просто идёт процесс, то давайте разберёмся, почему он идёт? Люди хотят или не хотят? Чиновники хотят или не хотят? Учителя хотят или не хотят? Давайте сделаем исследование и будем его обсуждать. А так это просто мнение.

М.Г. Насколько я могу судить, беларусы считают, что у них есть шанс на свою страну со своим языком.

П.Д. Какой процент беларусов так считает?

М.Г. Вот, Змитер, ты какой процент беларусов?

П.Д. Небольшой. Но я хотел сказать, что мы не пытаемся понять, что реально происходит с языком. Я не вижу никаких исследований по этому поводу. Но есть простые индикаторы. Можно отследить, какой язык выбирают люди, когда они снимают деньги в банкомате? Или когда они ставят автоответчик на свои телефоны? В бытовой жизни я

для себя отмечаю, что люди начинают использовать беларуские слова в русской речи. Для меня это признак того, что идёт беларусизация страны, но не через возрождение языка как такового, а через символы того, что мы беларусы. Но никто же не пытается заняться исследованием реальной ситуации. Ты упомянул беларускоязычные школы: кто разбирается, что там происходит? Берутся отдельные факты, вырывают из контекста. У меня ощущение, что в моей экономической школе идёт рост рефлексии о беларускости. И я вижу, насколько власть стала открытой к диалогу по разным аспектам развития экономики и культурных проектов. Мне кажется, у нас хорошая основа для дальнейшего развития этих диалогов и формирования гражданского общества. Я включен во многие комиссии, и я понимаю, что иногда мы больше, чем власть, не готовы к тому чтобы вести диалог.

З.Л. Зараз мы шмат чуем пра тое, што Беларусь — гэта IT-краіна. Вам падабаецца такая нацыянальная ідэя?

П.Д. Начнём издалека. Я был из той группы людей в Советском Союзе, которые учили нормальную экономическую теорию.

М.Г. Это где?

П.Д. Когда я учился на политэкономии, нам ввели курс «Экономика».

М.Г. Здесь, в Минске?

П.Д. В Минске, в Киеве, в Петербурге и в Москве. Когда начинались реформы, нам казалось, что вот есть Вашингтонский консенсус, есть западные друзья, которые всё знают. Со временем оказалось, что Вашингтонский консенсус был ошибкой. Трансформация системы предполагает трансформацию институтов. Институт — это набор ценностей в обществе. Вашингтонский консенсус предлагал создание организаций, которые свойственны рыночной экономике. Но если организация не опирается на соответствующие ценности в обществе, то она превращается в «квази»: это когда у вас есть фондовый рынок,

который не является фондовым рынком. Беларусь не пошла этим путем, и в результате мы получили развитый частный сектор и отсутствие приватизации. Это был большой плюс. Известно, что число людей, способных быть предпринимателями, ограничено. В России и Украине они рванули реанимировать советские предприятия, многие из которых просто невозможно реанимировать. В Беларуси они начали создавать новые бизнесы. Благодаря мягкой бюджетной политике у них была возможность формировать производственные компании, нацеленные на украинский и российский рынки и производить продукцию по схеме «европейское качество по китайской цене». И у них получилось. В Киеве и Москве всюду висят вывески: «Белорусские продукты», «Белорусская косметика», «Товары из Беларуси». После успеха беларуских предпринимателей у общества и власти изменилось отношение к предпринимательству. В 90-е годы до 70% называли их ворами и спекулянтами.

З.Л. «Вшивыми блохами».

П.Д. Да. А в 2005 году впервые произошёл перелом. Большинство сказало, что они хорошие парни и девчонки, потому что увидели, что это нормальные производственные компании. И у нас начались реформы. Я думаю, что в Беларуси проделаны офигенные реформы по формированию хороших условий для бизнеса. И нас научили платить налоги. В 1993 году я выступал в Штатах и говорил, что я этому государству не плачу налоги и платить не буду. Но потом государство мне объяснило, и я ним согласился.

М.Г. А как объяснило? Можно пару его аргументов?

П.Д. Нас так били.

З.Л. У прамым сэнсе?

П.Д. В прямом. Но я хочу обратить ваше внимание, что мои украинские коллеги до сих пор пребывают в состоянии 93-го года. Платить налоги

для них — это странно. К чему я это говорю? Нужны были жёсткие меры, которые объяснили бы, что бизнес должен вести документацию, платить налоги и быть прозрачным. Украинские и российские коллеги, когда делают совместный проект с беларусами, жалуются, что мы придаем такое внимание бумагам. Но нас тут так били, что ты уже волей-неволей это всё делаешь.

З.Л. А я ад украінскіх вашых калег чуў, што там лепш развіваецца IT.

П.Д. В Украине?

З.Л. Да.

П.Д. Может быть. Но в Беларуси нет внутреннего рынка. Наши сразу работают на США. И льготы, которые им давало государство, позитивно сработали.

З.Л. Можа гэта быць нацыянальнай ідэяй?

П.Д. Почему бы и нет? Посмотрите, как успехи в IT зажигают молодежь. Я думаю, что идеология предпринимательства могла бы стать национальной идеей.

З.Л. Проста ўзбагачэнне? Куй грошы, не адыходзячы ад беларускай мовы?

П.Д. Нет. Речь скорее о качестве. Беларуские компании сильны в создании продукта, в отличие от украинских, которые сильны в маркетинге. У нас есть сравнительные опросы, и для беларуских компаний качество продукции – это приоритет.

З.Л. Абяцанне Лукашэнкі 500 долараў сярэдняга заробку можа для сярэднестатыстычнага беларуса стаць нацыянальнай ідэяй?

П.Д. Не думаю. Мы несколько раз достигали этих 500 долларов, и потом

девальвация их уничтожала. На сегодняшний день понятно, что если не реструктурировать государственный сектор и не заткнуть дырку, в которую утекают наши налоги, то выход на эту цифру просто не реалистичен. Я не говорю о приватизации. Приватизацию нужно уметь делать, там масса негативных вещей. Венгры, например, за три года продали все свои предприятия на Запад и в результате убили предпринимательскую национальную инициативу. Когда у тебя выбор, идти работать на хорошую зарплату в «Ford» или брать на себя риски и начинать с нуля свой бизнес, ты выбираешь «Ford». Или раздать предприятия олигархам, как в России, и вместо «Ford» у тебя «Газпром». Приватизацию нужно научится делать, но первая задача, которая сейчас стоит перед страной, — это реструктуризация госсектора и выработка предпринимательской концепции, которая была бы предсказуема и понятна обществу.

М.Г. По поводу коммуникации с властью: спросил у пары знакомых граждан Беларуси, которые уехали в Стокгольм учиться на архитекторов, рассчитывают ли они после выпуска найти работу дома? Они рассказали историю о том, как беларус, получив в Швеции диплом архитектора, вернулся домой и начал искать работу. Ему предложили место в агрогородке и отдельно гарантировали корову и корм для неё. Он решил, что это слишком щедро, и перестал искать работу архитектора в Беларуси.

П.Д. По некоторым дисциплинам в Беларуси в самом деле нельзя найти работу с адекватной оплатой. Пускай эти ребята получат диплом в Швеции и работают там, а когда придёт время, смогут вернуться. Так уже было в Польше. Когда Ярузельский пришел к власти, была огромная эмиграция, а когда начались реформы, поляки из США и Англии приняли в них самое активное участие. Это нормально. Мы тоже должны иметь хорошую диаспору. Это важно. Но беларусы, к сожалению, — очень растворимая нация.

М.Г. Потому что национальной идеи нет?

П.Д. Потому что одна из основных наших идей — это адаптация. Нас так долго били, что мы привыкли меняться, как хамелеоны. С другой стороны, как говорила одна моя очень хорошая китайская подруга: «Вы не умеете гордиться собой. Вы всё время стонете, что у вас прерывистая история. Так гордитесь, что вы фениксы, что вас нельзя убить, что вы всегда возвращаетесь». Вот это, по-моему, действительно может быть частью национальной идеи в вашем смысле.




# СЯРГЕЙ ЛЕПІН

## «У ПАГОНІ ЗА НАЦЫЯНАЛЬНЫМ НЕЛЬГА ЗАБЫВАЦЬ ПРА СПРАВЯДЛІВАСЦЬ І БОГА»

euroradio·fm
Гутарылі Зміцер Лукашук, Максім Гаруноў
Фота Еўрарадыё

З.Л. Вітаю ўсіх слухачоў, наш сённяшні госць — протаіерэй Сяргей Лепін. Добры дзень, айцец Сяргей.

С.Л. Добры дзень.

З.Л. Айцец Сяргей, ва ўяўленні нас, звычайных людзей, святары думаюць пра Бога, пра нешта ўзвышанае. А вось пра нацыянальную ідэю вы асабіста задумваліся? Было ў вас такое, што прыйшлі вы ў царкву, сталі на калена і кажаце: «Божа, а што ж такое нацыянальная ідэя? Дай мне яе разуменне».

С.Л. Па-першае, скажу, што Гасподзь утварыў царкву не дзеля таго, каб мы там прыдумвалі нацыянальныя ідэі. Ён стварыў нас і паставіў на служэнне для таго, каб мы прапаведавалі Евангелле ўсяму свету. Нягледзячы на тое, хто перад намі: мужчына, жанчына, стары, малады, габрэй, элін ці беларус. Фарміраванне нацыянальнай ідэі не ў нашай кампетэнцыі. Але мы вельмі заклапочаны, каб наша грамадства развівалася, каб наша краіна Беларусь была незалежнай. Мы спадзяемся, на працягу часу гэта будзе ўсё больш і больш відавочна для максімальна шырокага кола людзей ва ўсім свеце.

З.Л. Добра. Вы зараз адказалі як святар. А калі ўзяць чалавека, Сяргея Лепіна, у мінулым такога добрага рок-музыканта.

С.Л. Не, не добрага. Я быў музыка так сабе.

З.Л. Тады як беларускі грамадзянін. Вось для яго нацыянальная ідэя мае значэнне?

С.Л. Магу адказаць як выкладчык філасофіі. Я па адукацыі філосаф і зараз крыху выкладаю філасофію ў БДУ. Што такое нацыянальная ідэя? Нацыянальная ідэя − гэта тое, што абслуговае незалежнасць. І раз гэта так, то выбачайце, Беларусь ужо незалежная дзяржава. У нас ёсць свае межы, свая мова, свая валюта. У нас ёсць свае прадстаўніцтва ў ААН і іншых міжнародных суполках. У нас ёсць усё, што спрыяе нашай незалежнасці. Нават калі вы не верыце, што ёсць такая краіна Беларусь, паглядзіце на мапы, загугліце. Усё ідзе добра. Але я бачу ў нас нейкі комплекс нацыянальнай няўдаласці. Мы неяк вымушаны апраўдвацца

ў сваёй незалежнасці, неяк даводзіць, што мы сапраўды незалежныя, што мы маем права на незалежнасць.

З.Л. Незалежнасць — гэта і ёсць нацыянальная ідэя?

С.Л. Так. І вось глядзіце. Многія лічаць так, што калі ёсць нацыянальная дзяржава, то павінна быць і нацыянальная ідэя. Колькі нацыянальных дзяржаў — столькі нацыянальных ідэй. Я падрыхтаваўся і выпісаў цытату. Гэта словы Арнольда Тойнбі з кнігі «Спасціжэнне гісторыі». Паводле Тойнбі, няма ніякай англійскай, ні французскай, ні нямецкай ідэі. Ёсць агульная заходняя ідэя. Калі няма ангельскай ідэі, чаму павінна быць якаясьці асабістая ідэя ў беларусаў? А калі не, то да якой супольнасці тады мы належым: да ўсходняй, да заходняй ці да паўночнай? Гэта такое адкрытае пытанне, над якім можна паразважаць. Ці патрэбная беларусам нацыянальная ідэя? Ну, дапусцім, патрэбная. Я казаў, што мы супраць усяго благога і за ўсё добрае. Але давайце зададзімся іншым пытаннем. Ці ёсць нацыянальная ідэя, напрыклад, у Нямеччыны? Ці ёсць яна, напрыклад, у Аўстрыі? А калі ёсць, то як яны адрозніваюцца? І наогул, дзе б я мог знайсці гэтую нацыянальную ідэю? Спампаваць яе, параўнаць, пачытаць і паглядзець, што патрэбна Беларусі, а што не? Мы заўжды гаворым пра нейкую ўмоўную кропку, такую недасягальную. Па меры набліжэння, яна становіцца ўсё далейшай. Патрэбна разумець, што калі мы гаворым пра нацыянальную ідэю, то мы маем на ўвазе нешта вельмі-вельмі ўмоўнае. І Тойнбі, і Шпэнглер, і Данілеўскі падкрэслівалі ўмоўнасць гэтых спроб падзяліць свет на Захад і Усход, на іншыя тыпы. Гэтыя тыпы існуюць як ідэалагічныя і метадалагічныя канструктары. Яшчэ памылка, якую я бачу, — гэта рэдукцыя нацыянальнай ідэі да прапаганды і палітычных маніпуляцый. Мне не падабаецца, калі нацыянальную ідэю патрабуюць шукаць у нейкіх там генах. Балцкі субстрат, эльфы, ліцвіны, не ведаю яшчэ што. Прыхільнікі гэтых тэорый у найбліжэйшай будучыні пачнуць ужо хадзіць вымяраць форму чэрапа.

З.Л. А мова?

С.Л. Мова — гэта вельмі важная частка нашай спадчыны. Мы павінны захаваць яе і перадаць нашым нашчадкам. Я заўсёды кажу, што беларус — гэта не той, у каго бацькі былі беларусамі, а той, у каго дзеці будуць беларусамі. Але мы павінны разумець, што не ў кожнай незалежнай

дзяржавы ёсць свая мова. У некаторых незалежных дзяржаў існуе некалькі моў. Палітыкаваць гэтую тэму небяспечна. Той, хто намагаецца адбудаваць нацыянальную ідэю на падмурку мовы, будуюць калі і не на пяску то на вельмі хілай аснове. Як гэта ні сумна, але шмат беларусаў цураюцца сваёй мовы, грэбуюць ёю. Давайце глядзець праўдзе ў вочы. Я спадзяюся, у будучыні сітуацыя зменіцца. Па-філасофску я аптыміст, але эмацыянальна я песіміст, на жаль.

М.Г. Вы сказали, что вам не хватает книг, чтобы узнать, что такое национальная идея. Это довольно неожиданное признание. Национализм появился примерно 150 лет назад и, с тех пор много написано о том, что это такое.

С.Л. Пачакайце, мы адасабляем нацыяналізм і нацыянальную ідэю. Так?

М.Г. Вы считаете, национализм и национальная идея — это о разном?

С.Л. Гэта пытанне. Я думаю, што так.

М.Г. Очень хорошо. Зафиксируем этот момент. На всякий случай скажу, что есть такой чешский историк Мирослав Грох. Он известен всему миру как автор периодизации национализмов в Восточной Европе. Он и про беларусов писал. Лет пятнадцать назад издатель Валер Булгаков переводил его тексты о беларусах на беларуский язык. Текст вышел в журнале «Архэ», рекомендую ознакомиться.

С.Л. Не, я не спрачаюся. Я ведаю, што нацыяналізм — палітычная з’ява, вывучаецца палітолагамі, філосафамі, сацыёлагамі. Але я супраць адасаблення нацыяналізму і нацыянальнай ідэі.

М.Г. Хотите сказать, что существует национализм без национальной идеи?

С.Л. Я лічу, што існуе нацыянальная ідэя ці спробы яе адбудаваць без нацыяналізму.

М.Г. Хорошо. По поводу языка. В православных храмах Беларуси нет

изданий на беларуском языке. Ни молитвословов, ни Евангелий, ни наставлений. Крайне редко можно найти газету с текстом на беларуском. Я видел такую в Гродно. В католических храмах всё наоборот. У католиков и проповедь на беларуском, и месса на беларуском, и наставления на беларуском, и Евангелие на беларуском, и журналы с газетами на беларуском. Почему если я захочу услышать «Отче наш» на беларуском языке, мне нужно идти к католикам?

С.Л. Я не магу сказаць, што ў нас досыць праваслаўных храмаў, у якіх адбываецца набажэнства на беларускай мове. Але і тыя службы, якія адбываюцца на беларускай мове, на жаль, не збіраюць поўныя храмы. Я царкоўны чыноўнік і настаяцель царквы ў Ракаве. Я завозіў у свой храм літаратуру на беларускай мове. Хачу вас упэўніць, што яна ляжыць на прылаўку, пакуль у трубачку не пачне скручвацца. На жаль, ніякага спажывецкага попыту на яе няма.

М.Г. Я видел много молитвословов на церковно-славянском языке. В них ну совсем ничего не понятно. По-моему, католическая месса на беларуском языке понятнее, чем православная литургия на церковно-славянском языке.

С.Л. Па-першае, праваслаўнае набажэнства значна складанейшае, чым каталіцкае. Калі я прыйду на лекцыю па вышэйшай матэматыцы, якая чытаецца на зразумелай мне мове, на рускай ці на беларускай, я ўсе роўна нічога не зразумею, таму што размова ідзе пра вышэйшую матэматыку.

М.Г. На церковно-славянском эта лекция будет ещё менее понятна.

С.Л. Я згодзен з тым, што ў любым выпадку славянская мова менш зразумелая, чым руская мова.

М.Г. И беларуская.

С.Л. Калі нам кіравацца разуменнем, то трэба ўсё перакладаць на рускую мову, а не на беларускую мову. Руская мова сустракаецца ў праваслаўных храмах часцей, чым беларуская. Не таму што мы супраць. Мы стараемся служыць на мове там, дзе ёсць попыт. Мы заклапочаны

лёсам беларускай мовы, але наша пазіцыя такая, што абшчына сама абірае, на якой мове ёй маліца. Мы не фарсіруем гэтыя пытанні зверху. Калі ў рэчаіснасці будзе расці попыт на беларускую мову, яе ў нашых цэрквах стане больш. Але ў мяне ёсць прыклад з майго жыцця. Калі ці першая, ці другая дачка ішла ў першы клас, быў бацькоўскі сход. Пыталіся, на якой мове мы хочам вучыць нашых дзяцей. Я разумеў, што трэба выбіраць беларускую мову. Але на ўсе чатыры класы знайшлося толькі два чалавекі, хто абраў для свайго дзіцяці беларускую мову: я і яшчэ хтосьці. Не думаю, што ахвочых маліцца на роднай мове прынцыпова больш, чым ахвочых вучыць на ёй сваіх дзяцей.

М.Г. А вам не кажется, что использование беларуского языка в богослужении придало бы ему респектабельности? Беларусы стесняются своего языка, считают его деревенским. Но когда я захожу в католический храм и ко мне на беларуском языке обращается епископ, я понимаю, что беларуский язык – это не только язык деревни, но и язык молитвы, язык богословия, язык проповеди, язык Священного Писания.

С.Л. Мы не маем нічога супраць таго, што наша мова вартая таго, каб гучаць у царкве. Але яшчэ раз гавару, мы не Міністэрства культуры, мы не Міністэрства асветы, мы не Інстытут беларускай мовы. Мы не маем права быць больш заклапочанымі яе лёсам, чым Інстытут беларускай мовы. Асабіста я не супраць. Усё беларускае духавенства, якое вучыцца ў навучальных установах праваслаўнай царквы, падрыхтавана, каб праводзіць набажэнствы на беларускай мове. Хто не ведае мовы, вучыць яе ў нас у акадэміі. Яшчэ раз скажу: мы глядзім на рэчы такімі, якія яны ёсць. На мой погляд, не патрэбна легалізацыя беларускай мовы. Мы не павінны нікому даказваць, што гэта сапраўдная мова, што яна чагосьці там вартая. З майго пункту гледжання, гэта як ламацца ў адчыненыя дзверы. Гэта і так зразумела, што яна вартая.

М.Г. Ваши ответы звучит так, словно православная церковь в Беларуси является одним из государственных министерств, и вы сейчас как церковный чиновник защищаете своё министерство от обвинений, указывая на границу своих компетенций и утверждая, что ответственность лежит на соседних министерствах.

С.Л. Калі вы бачыце так, то калі ласка. Але я хацеў сказаць, што ёсць

рэчы, якія датычацца нашай кампетэнцыі і нашых абавязкаў. За іх мы нясем адказнасць перад Богам і людзьмі. А ёсць такія рэчы, якім мы спачуваем, але за якія мы не ў адказе. Мы можам заклікаць людзей уважліва ставіцца да свайго здароўя, але мы не маем права выпісваць таблеткі. Вось і са спортам і з іншымі з'явамі мы маем такую ж сітуацыю. Мы спачуваем навуцы, мы заклікаем вучыцца. Але мы не выкарыстоўваем кафедру для таго, каб прапаведаваць навуковыя вынікі ці займацца прапагандай здаровага ладу жыцця. Уявіце, што святар з кафедры будзе заклікаць вернікаў: «Усе на лыжы» альбо: «Усе вучыць вершы Купалы і граць на жалейцы». Цікавая царква будзе.

М.Г. А как вы для себя ответили на вопрос: почему в вашей школе всего две семьи выразили желание обучать детей на беларуском языке?

С.Л. Гэта цікавае пытанне, але не царква ў гэтым вінавата, ўсё ж такі.

З.Л. У нас у студыі быў чалавек, які вельмі шмат зрабіў для папулярызацыі беларускай мовы. І ён сказаў, што беларуская мова адродзіцца, калі на ёй загаворыць прэзідэнт Беларусі. Беларусы вельмі паважліва ставяцца да кіраўніка краіны. Калі кіраўнік пачне гаварыць па-беларуску, то праз месяц загавораць міністры, праз тры месяцы загавораць іншыя чыноўнікі, праз некалькі год — усе грамадзяне. А калі кіраўнік праваслаўнай царквы нашай краіны загаворыць? Гэта будзе ого-го які прыклад.

С.Л. Але ж гэта ўсё мары. Зразумела, не так складана зрабіць беларускую мову афіцыйнай. Але ў гісторыі шмат дзе было, калі афіцыйная мова была такая, а звычайная была такая; калі пісьмовая мова была такая, мова навукоўцаў такая, а мова у побыце была такая. Большая колькасць прыхажан звыклася маліцца на славянскай мове, і аб іх таксама трэба падумаць.

З.Л. Частка нашых суразмоўцаў указалі, што нацыянальная ідэя аб'ядноўвае, цэментуе, грунтуе нацыю. І калі няма нацыянальнай ідэі, то яе адсутнасць нясе пагрозу незалежнасці.

С.Л. Калі ў нас атрымаецца пабудаваць нацыянальную ідэю, якая дапаможа захаваць мову, вышыванкі, пісанкі, ручнікі, танцы, спевы, я толькі

за. Але я нават і ўявіць сабе не магу, якой у рэальным сэнсе павінна быць гэта ідэя. Што гэта такое — нацыянальная ідэя? Гэта вельмі добра вывучаная тэма, але што нам дапаможа захаваць беларускую мову? Давайце знойдзем гэта, і хай гэта будзе нацыянальная ідэя. Вось адкрыццё беларускіх школ — гэта нацыянальная ідэя?

З.Л. Ну, частка яе.

С.Л. Пераклад сусветнай класікі — гэта нацыянальная ідэя. Пераклад надпісаў на вуліцы — гэта нацыянальная ідэя. Як гэта можна не падтрымаць? Ну давайце падтрымаем. Але ж прымусь некаторых грамадзян клапаціцца пра мову – і яны абавязкова давядуць справу да таго, што астатнія гэтую мову ўзненавідзяць. Давайце вучыцца на памылках іншых, пазбягаць крайнасцей, шанаваць адно аднаго, нягледзячы на мову, нацыянальнасць, на рэлігію, на палітычныя густы.

З.Л. Я пачуў нацыянальную ідэю ад айца Сяргея: вучыцца на памылках, пазбягаць крайнасцей, паважаць адно аднаго. Ну, і шанаваць, што ёсць на гэтай зямлі — мову традыцыі і ўсё астатняе.

С.Л. Я невыпадкова казаў, што беларус — гэта не той, у каго бацькі былі беларусамі. У мяне таксама па пашпарце ўсё неадназначна: мама ў мяне руская, бацька — беларус. Нехта быў латыш, і хтосьці наогул з Напалеонам прыйшоў. Вось і я беларус — гэта толькі беларус. Якімі будуць нашы дзеці — за гэта трэба змагацца.

З.Л. А месца Бога тут дзе?

С.Л. Я рады, што вы ўрэшце захацелі паразмаўляць пра Бога. Бог — сярод нас, у нашай любові, у нашай павазе. Бог у нашых малітвах адно за аднаго. Я думаю, што не трэба блытаць тое, што існуе, з тым, што павінна быць. Я думаю, што ў пагоні за нацыянальным мы не маем права страчваць тэму справядлівасці, тэму любові, тэму Бога. Калі мы ўсе тут зробімся беларусамі, будзем хадзіць у вышыванках, пісаць шматтомныя працы на беларускай мове, а пры гэтым мы будзем ненавідзяць сваіх суседзяў, якая нам ад гэтага карысць?



# ПАВЕЛ СЕВЯРЫНЕЦ

## «НАША НАЦЫЯНАЛЬНАЯ ІДЭЯ — ГЭТА ХРЫСТОС, ЯКІ ГАВОРЫЦЬ ПА-БЕЛАРУСКУ»

euroradio·fm

Гутарылі Зміцер Лукашук, Максім Гаруноў
Фота Еўрарадыё

З.Л. Вітаю ўсіх слухачоў, наш сённяшні госць — палітык, сустаршыня аргкамітэта па стварэнні партыі Беларуская хрысціянская дэмакратыя Павел Севярынец. Добры дзень, Павел.

П.С. Добры дзень.

З.Л. Вы прыйшлі адразу з кніжкай, і на ёй напісана, што гэта кніга пра нацыянальную ідэю.

П.С. Тут дзвесце феноменаў беларускай нацыянальнай ідэі. Ідэя — гэта ўспышка, і мы збіраем дзвесце самых вядомых у свеце беларускіх успышак, складаем іх, і ў нас атрымліваецца поўная карціна. А поўная карціна такая, што яны прыводзяць нас да Ісуса Хрыста, які гаворыць па-беларуску. Ісус Хрыстос, які гаворыць па-беларуску, з'яўляецца найпрасцейшай формай нацыянальнай ідэі.

З.Л. Ісус Хрыстос гаворыць па-беларуску?

П.С. Абсалютна.

М.Г. Иисус был первым пророком беларуской национальной идеи?

П.С. Той, хто ўпершыню стаў на калені на беларускай зямлі і памаліўся Богу, — той заснавальнік нацыянальнай ідэі ў Беларусі.

З.Л. І што гэта значыць на практыцы?

П.С. Кожны з нас імкнецца ў сваім жыцці да максімальнай свабоды, праўды і справядлівасці. Любы вернік ведае, што Хрыстос і ёсць увасобленая праўда, свабода і справядлівасць.

З.Л. Наколькі беларусам, на ваш погляд, блізкая такая нацыянальная ідэя?

П.С. Абсалютная большасць сімвалаў Беларусі — гэта хрысціянства. Бела-чырвона-белы сцяг — белая палатніна з крывёй укрыжаванага Хрыста. «Пагоня», вершнік на белым кані — вобраз Ісуса Хрыста.

Нацыянальны гімн, які спяваюць зараз у эміграцыі, на мітынгах, на кангрэсах − «Магутны Божа» — гэта спеўная малітва. Усе тры галоўныя сімвалы сыходзяцца на Ісусу Хрысту. Нават геапалітычны крыж, на якім мы знаходзімся, — гэта яшчэ адно сведчанне. Самы лепшы час Беларусі, залаты век Беларусі, — гэта быў час, калі Беларусь найбольш верыла ў Ісуса Хрыста. Калі мы забывалі Хрыста, мы знікалі як нацыя. Пры камуністах мы на семдзесят гадоў адышлі ад Хрыста і ледзь не зніклі.

М.Г. В чём разница между церковью и нацией?

П.С. Паміж царквой і нацыяй вялікая розніца. Царква — гэта супольнасць людзей, якія вераць у Ісуса Хрыста.

М.Г. А нация?

П.С. Нацыя — гэта шырэй, але ў нацыі ёсць ядро, ёсць сэрца. Скажам, кожны паляк — каталік. Зараз гэта не так, але ўсе ведаюць, што ёсць культурны код і калі вы не верыце ў Бога, то назавіце каталіцтва проста культурным кодам. Мая сястра, напрыклад, не верыць у Ісуса Хрыста. Але яна прызнае, што хрысціянства з'яўляецца абсалютнай асновай беларускай культуры, беларускай літаратуры, беларускай свядомасці, беларускай гісторыі.

М.Г. Нация равна церкви?

П.С. Не зусім так. Так не будзе.

М.Г. Понятно, что так не будет, но вы стремитесь к тому, чтобы церковь поглотила нацию?

П.С. Не. Кожны чалавек мае абсалютна поўнае права верыць альбо не верыць. Свабодная воля − яна каштоўная, і царква павінна падтрымліваць свабоду волі. Мы супраць таго, каб царква атаясамлівалася з дзяржавай альбо нацыянальная ідэя атаясамлівалася толькі з хрысціянствам. Але ёсць у арэха ядро, а ёсць шкарлупіна. Калі вы зараз паглядзіце на структуру беларусізацыі ў нас у краіне, то галоўным будзе

не міністэрства адукацыі, не тэлебачанне, не дзяржава, а каталіцкі касцёл. У нас паўтара мільёна каталікоў моляцца і спяваюць па-беларуску. Тадэвуш Кандрусевіч зараз з'яўляецца лідарам мільёна беларусаў, якія спяваюць і моляцца па-беларуску. Гэта аснова, на якую не можа раскрыць сваю пашчу нават «рускі мір», бо разумее, што захлынецца. А калі браць апазіцыю, то там толькі некалькі тысяч чалавек, і многія з іх па-беларуску не гавораць.

М.Г. А кто входит в церковь? Католики?

П.С. Каталікі — гэта частка бачная царквы.

М.Г. Православные?

П.С. Праваслаўныя, я сам праваслаўны, гэта частка бачная царквы. Пратэстанты — без пытанняў, частка бачная царквы.

М.Г. Иудеи?

П.С. Іўдзеі не з'яўляюцца часткай хрысціянскай царквы. Яны з'яўляюцца часткай сваёй супольнасці, якая мае непасрэдную сувязь з Бібліяй.

М.Г. А если человек не верит в Христа, но ценит христианскую мораль? Например, требование помогать нуждающимся?

П.С. Калі людзі бачаць у хрысціянстве нейкую маральную сістэму, то гэта добра. Але хрысціянства без Хрыста не працуе. Зараз, напрыклад, бум хрысціянства ў Афрыцы, у Лацінскай Амерыцы, у Кітаі.

М.Г. Вас не смущает, что этот бум в бедных странах?

П.С. Нічога страшнага, хрысціянства якраз і прыводзіць людзей да свабоды і да багацця.

М.Г. Но в богатых странах церкви наоборот пустеют.

П.С. Калі хрысціянства будуе, яно будуе на стагоддзі. Яго інерцыя

дазваляе Штатам і Еўропе існаваць і сёння карыстацца дабротамі, якія прынесла хрысціянства. Па вялікім рахунку, павагу да бліжняга, павагу да жанчыны, правасвядомасць прынесла і ўмацавала хрысціянства. Паглядзіце на немцаў. Барбарская краіна, дзякуючы хрысціянству, стала магутнай, але калі Гітлер адмовіўся ад Хрыста, Германія рухнула. Зараз, калі там цэрквы мяняюць на казіно, ў Германіі пачаліся праблемы з еўрапейскай ідэнтычнасцю, з нямецкай ідэнтычнасцю, з нямецкай ідэяй. Людзі зноўку пачынаюць выбіраць крайне правых, галасаваць супраць мігрантаў. Гэта звязана з крызісам хрысціянства і адказаў на сённяшні еўрапейскія праблемы два: фашызм або хрысціянства. Калі мы не выбіраем хрысціянства, мы непазбежна скацімся ў фашызм, таму што іншага адказу няма.

М.Г. Ваши первые шаги на посту президента?

П.С. Вызваліць палітычных вязняў, адмяніць кантракты. Мы дадзім людзям свабоду. Каб пабудаваць новую эканоміку, не трэба планаваць пабудаваць 200 заводаў. Трэба проста даць беларусам, якія ў сваёй аснове нармальны хрысціянскі народ, працаваць. Як казалі ў сярэднявечнай Еўропе, «маліся і працуй».

М.Г. На кого в итоге должна быть похожа Беларусь?

П.С. У эканамічным сэнсе хутчэй за ўсё на Нямеччыну. Дарэчы, там кіруе хрысціянска-дэмакратычны саюз, старшынёй якога доўгі час з'яўлялася Ангела Меркель. Сацыяльна-рынкавая эканоміка — гэта баланс паміж рынкам і сацыяльнымі абавязкамі дзяржавы, і для нас гэта падыходзіць. Беларусы − славянскія немцы, у нас гэта павінна прайсці. У галіне права − англа-саксонскае права. У галіне тэрытарыяльнай абароны − Швейцарыя. Цэрквам будзе дадзеная свабода казані, бо ў гэтым зараз ёсць сур'ёзныя абмежаванні. Пустыя будынкі будуць аддадзеныя царкве, каб яна магла ладзіць там рэабілітацыйныя цэнтры для наркаманаў, алкаголікаў, хоспісы, дабрачынныя сталоўкі, шпіталі. Можа быць невялікія льготы на ЖКХ, для хоспісаў, і ўсё. Царква на парадак лепш спраўляецца з дапамогай, чым сабесы, дзе раскрадаюць дзяржаўныя грошы, прызначаныя для грамадзян, якія жывуць у нястачы.

М.Г. С утра была новость о том, что в Эстонии участковый врач не дал пациентке противозачаточную таблетку, потому что он католик. Внутри медицинского ведомства Эстонии сейчас говорят о том, что нужно спрашивать у врача о его религиозных убеждениях. Что вы об этом думаете?

П.С. Беларуская хрысціянская дэмакратыя ў 2014 годзе з дапамогай цэркваў праз дэпутатаў так званага парламенту ўнесла змены ў закон аб ахове здароўя. Раней у нас было дзевяць сацыяльных паказчыкаў для абортаў. Па дзевяці прычынах можна было абартаваць дзіця да шасці месяцаў. Дактары не мелі права адмовіцца ад правядзення нават па асабістых перакананнях. Гэта было самае ліберальнае заканадаўства сярод суседзяў. Мы сабралі дваццаць пяць тысяч подпісаў, унеслі змены. Дзякуючы нашай ініцыятыве засталося два паказанні, і цяпер дактары маюць права адмовіцца. У Лагойску, напрыклад, ужо не робяць абортаў. У Гарадзенскім раддоме не робяць абортаў. Сёння намесніца міністра аховы здароўя кажа, што дзякуючы тым зменам у закон, за пяць гадоў у Беларусі нарадзілі больш дзесяці тысяч дзяцей. Пакажыце, калі ласка, яшчэ адну партыю ў Беларусі, якая бы у прамым сэнсе ўратавала дзесяць тысяч жыццяў?

М.Г. Если на выборах президента США победит Пит Буттиджич, открытый гей, живущий в браке с мужчиной, вы будете с ним говорить?

П.С. У мяне ёсць досвед зносін з палітыкамі-геямі. Калі яны свае асабістыя перакананні пакідаюць пры сабе і мы проста гаворым пра справы, то няма праблем. Гарантыя бяспекі для Беларусі, крэдыты, супрацоўніцтва ў эканамічнай сферы, калі ласка. Я спакойна  стаўлюся да гэтага. Больш за тое, як вернік, я проста абавязаны сведчыць гэтаму чалавеку, што з майго пункту погляду ён робіць памылку. Мне даводзілася гадзінамі размаўляць на гэты конт з адкрытымі геямі і з лесбіянкамі. Ёсць людзі, якія ходзяць у царкву ці касцёл, перажываючы сваю гомасексуальнасць як праблему. Такія людзі ідуць па дарозе святасці. Я не ведаю, ці вытрымаў бы я такую праблему, а яны ходзяць, яны моляцца, каб Госпад іх ад гэтага збавіў. Алілуя.

М.Г. Если вы будете президентом, ваше мнение по этом вопросу можно будет ставить под сомнение, критиковать?

П.С. Будзе прыблізна як у Амерыцы. Я зараз сачу за праймерыз, праглядаю некалькі агрэгатараў. У людзей ёсць выбар, за каго аддаваць свой голас — за сацыяліста Сандэрса, за мільярдэра Блумберга, за адкрытага гея Бутыджыча. У іх ёсць магчымасць пачуць аргументы і супраць, і за. Мы, хрысціянскія дэмакраты, лічым такое становішча нормай і хацелі б, каб і ў Беларусі можна было б свабодна абмяркоўваць агульныя праблемы. Ва ўсіх павінны быць аргументы — у вернікаў, у святароў, у нявернікаў, у геяў. Гэта засноўваецца на Евангеллі. Кожнаму чалавеку Бог дае свабоду волі. Ты будзеш несці адказнасць за наступствы свайго выбару, але выбар у цябе ёсць, і яго ніхто не мае права забраць.

З.Л. А вы дазволіце аднаполыя шлюбы?

П.С. Я лічу, што для сённяшняй Беларусі гэта праблема другасная. Першасная праблема — Лукашэнка павінен сысці, і нам трэба правесці рэформы судова-прававой сістэмы, медыцыны, пенсійнага забеспячэння. Гэта тое, што цікавіць 99% людзей. Пытанне аднаполых шлюбаў тычыцца значна меншай групы. Я перакананы, што дэмакратычны парламент сам выдатна разбярэцца з гэтым пытаннем.

М.Г. Вы будете приносить присягу на Библии или на Конституции?

П.С. Вельмі можа быць, што і на Бібліі, і на Канстытуцыі, калі такая працэдура будзе ўсталяваная. У Штатах прэзідэнт кладзе руку на Біблію.

З.Л. Беларусь — толькі па-беларуску?

П.С. Ведаеце, не трэба палохаць беларусаў беларускай мовай. Бог даў нам тую мову, на якой найбольш поўна і найбольш ясна выражаная ягоная ідэя пра Беларусь. Безумоўна, нельга забараняць размаўляць па-руску, але я не ўяўляю беларускай нацыянальнай ідэі, выражанай па-руску. Нацыянальная ідэя — гэта не тое, што народ думае пра сябе ў часе, а тое, што думае Бог пра гэты народ у вечнасці. Народ — гэта ўсе, хто быў перад намі, і тыя, хто будуць пасля. Калі мы возьмем

беларускі народ, якім ён быў апошнюю тысячу гадоў, мы ўбачым пераважна хрысціян, якія верылі ў Бога як свайго Збаўцу і размаўлялі па-беларуску, а не па-руску, як цяпер. Гэта і ёсць народ, з якім мы, дасць Бог, сустрэнемся на нябёсах.

З.Л. У народ Беларусі ўваходзяць і беларусы, і палякі, і літоўцы, і татары.

П.С. Сябры, у рэальнасці ўсё так і ёсць, мы не можам нікога выключыць, але знайсці ядро, знайсці цэнтр мы можам. 80% грамадзян Беларусі называе сябе беларусамі, гэта тытульная нацыя…

З.Л. Вы прыходзіце да беларускага татарына, які нарадзіўся ў Беларусі, жыве ў Беларусі, але робіць намаз, ходзіць да мячэці і кажаце: «Хрыстос гаворыць па-беларуску». І вось што ён вам павінен адказаць?

П.С. У Беларускай Хрысціянскай Дэмакратыі ёсць суполка у Іўі, дзе татары спрадвеку жывуць. Я іх пытаўся: «Слухайце, а як вы прыйшлі ў БХД?» Яны мне гавораць: «Мы ў хрысціянскай краіне. Былі б мы ў мусульманскай краіне, можа быць, былі б у братах-мусульманах. Тое, што вы гаворыце, грунтавана на дзесяці запаведзях, як і ў нас. Тое, чаго вы хочаце для Беларусі, на 90% адпавядае таму, што хочам мы». То-бок, маральныя нормы, дапамога бліжняму, запаведзі Божыя — у БХД гэта ёсць і вось, калі ласка, суполка у Іўі працуе, суполка дзейсная, усё цудоўна. Тое ж самае тычыцца, і атэістаў, каторых у БХД ёсць, агностыкаў, іўдзеяў, прадстаўнікоў іншых нацыянальнасцяў.

З.Л. Вось вы прыходзіце да трактарыста Пеці і прыносіце яму гэтую нацыянальную ідэю: Ісус цябе любіць. Ён вам кажа: «А мне з гэтага што? Вось колькі я буду зарабляць, што ў мяне будзе ў халадзільніку? Гарэлка па колькі будзе?»

П.С. Ведаеце, калі мне сказалі словы «Ісус цябе любіць», а сказаў мне іх Аляксей Шэін, вядомы пісьменнік, сябра Маладога Фронту, я быў няверуючы, і я быў проста агаломшаны, разумееце? Гэта пранікае ў сэрца чалавека. Я спытаў у яго: «Адкуль ты гэта ведаеш?» Ён мне адказаў: «А Ісус усіх любіць». І я пакаяўся на Евангеллі, якое мне перадаў Аляксей Фралоў, сімфанічны дырыжор, сённяшні. Ён кальвініст, пратэстант.

М.Г. Православным в Беларуси нужна автокефалия?

П.С. Беларуская праваслаўная царква павінна імкнуцца да большай самастойнасці. Магчыма, да поўнай самастойнасці. Але адначасова я разумею, што такія рашэнні прымаюцца не палітыкамі і не асобнымі вернікамі. Такія рашэнні прымаюцца саборна царквой. Хрысціянская дэмакратыя стаіць на субсідыяльнасці: праблемы павінны вырашацца на тым узроўні, на якім яны існуюць. Рашэнні павінна прымаць царква, людзі, якія непасрэдна ўцягнуты ў гэтую супольнасць. Ці гатовая зараз беларуская царква да аўтакефаліі? Не. Была спроба мінскай епархіі паслаць мітрапаліта Паўла ў Маскву з патрабаваннем прасіць самастойнасці. З Масквы жорсткі загад — не трэба.

М.Г. А богослужения на каком языке?

П.С. Значыць, у мяне ў Свята-Петрапаўлаўскім саборы багаслужбы ёсць на беларускай мове і багаслужбы на царкоўнаславянскай. Дарэчы, у Беларусі ў праваслаўных дзве літургічныя мовы, рускай мовы сярод іх няма.

М.Г. А должны служить?

П.С. Для рускамоўных ёсць казань па-руску, і яна ў абсалютнай большасці праваслаўных цэркваў па-руску. На жаль, не па-беларуску.

М.Г. Вдруг случится так, что более успешными окажутся католики и через двадцать лет не один миллион, как сейчас, а пять миллионов беларусов будут посещать костёлы. Или, например, тоже самое произойдёт с протестантами. Как вы, православный, к этому отнесетесь?

П.С. Ідэальным для Беларусі з'яўляецца гармонія ўсіх трох асноўных канфесій. Калі гэта атрымлівалася, мы перажывалі найвышэйшы ўзлёт нашай культуры, духоўнасці, эканомікі. У нашым залатым веку траціна ўплывовых родаў былі кальвіністы, траціна каталікі, траціна праваслаўныя. Трыадзінства складае структурную асаблівасць беларускай нацыянальнай ідэі. Праз розныя канфесіі мы адкрытыя ўсяму свету. Мы можам зразумець амерыканца як пратэстанты. Праз наш касцёл

нам адкрыты велізарны каталіцкі свет. У нас шмат праваслаўных, і дзякуючы ім мы можам зразумець Расію, Украіну, Егіпет, Блізкі Усход. Мы ўвогуле такі духоўны эпіцэнтр, і нездарма у нас заключалася Брэсцкая унія — самая паспяховая хрысціянская унія за дзве тысячы гадоў.

М.Г. Мои знакомые беларусы боятся, что, став президентом, вы отрастите усы и будете как Лукашенко, с той разницей, что он опирается, условно говоря, на Маркса, а вы будете на Евангелие.

З.Л. І КДБ пераймянуюць у інквізіцыю.

М.Г. Сколько раз вы собираетесь быть президентом?

П.С. Калі мы дамаўляліся пра адзінага кандыдата ад апазіцыі, мы падпісалі пагадненне, у якім указана, што, калі нас выберуць, мы абавязваемся займаць пасаду прэзідэнта адзін тэрмін.

М.Г. А если народ попросит?

П.С. Няважна.

З.Л. А калі яны вось прама маліцца будуць?

П.С. Пераступаць праз гэта нельга. Адзін.

З.Л. Нацыянальная ідэя ад Паўла Севярынца?

П.С. Беларуская нацыянальная ідэя — гэта Ісус Хрыстос, які гаворыць па-беларуску.



# НАТАЛЛЯ ВАСІЛЕВІЧ

## «БОГ НЕ ДЛЯ ТАГО, КАБ ЗАТЫКАЦЬ ІМ «ДЗІРКУ» АДСУТНАСЦІ НАЦІДЭІ»

euroradio·fm

Гутарылі Зміцер Лукашук, Максім Гаруноў
Фота Еўрарадыё

З.Л. Вітаю ўсіх слухачоў, наш сённяшні адмысловы госць — тэолаг Наталля Васілевіч. Добры дзень, Наталля.

Н.В. Прывітанне.

З.Л. Наталля, раскажыце мне як тэолаг, нацыянальная беларуская ідэя ёсць? Ці ўсё ўжо даўным-даўно напісана ў Старым і Новым Запавеце?

Н.В. На мой погляд, ёсць. Нацыянальная ідэя ёсць, як дэпазіт у банку, з якога мы можам здымаць колькі нам трэба. На гэтым дэпазіце ёсць пэўныя канцэпты, вобразы, метафары, практыкі. Стыль жыцця вакол нас час ад часу змяняецца, але ў нас ёсць дэпазіт, і нам ёсць адкуль браць рашэнні для новых і новых выклікаў. Між іншым, не абавязкова браць толькі са свайго дэпазіту. Культура — гэта адкрытая прастора. Калі сапраўды трэба, кожны можа браць адусюль і колькі ўнясе.

З.Л. Якое месца займае Бог, рэлігія ў нацыянальнай ідэі?

Н.В. Мне здаецца, што гэта рэчы не абавязкова звязаныя паміж сабой. Мне не вельмі падабаецца, калі Бог ставіцца ў цэнтр нацыянальнай ідэі, як прапануе той жа «Малады фронт». Народы, палітычныя нацыі складаюцца з людзей розных рэлігійных поглядаў. Упіхваць Бога ў нейкую аб'ядноўчую канструкцыю мне здаецца не мэтазгодна. Бог не для таго, каб ім закрываць дзіркі. Богам можа закрываць экзістэнцыйную дзірку ў сваёй душы, а нейкія нацыянальныя недахопы я б не стала. Тым больш, што гэта заўсёды робіцца штучна.

З.Л. Напрыклад?

Н.В. Калі я чытаю Паўла Севярынца, у яго заўсёды ўсё сыходзіцца з Богам. Нават шкварка можа стаць вобразам, звязаным з ахвярай у Іерусалімскім храме. Я думаю, што святары Іерусалімскага храма, калі б пачулі параўнанне туку ахвярных жывёл з беларускай шкваркай, схапіліся б за галаву. Я люблю паэтычныя метафары, вобразы, але не люблю калі нацягваюць плоскую Зямлю на глобус. На мой погляд, не трэба гэтага рабіць. Сам для сябе ты можаш пабудаваць любую карціну

свету. Калі ты, да прыкладу, лічыш, што людзі ў Аўстраліі ходзяць уверх нагамі, то калі ласка. Калі такая карціна свету прыносіць табе радасць, то чаму б і не, ўрэшце? Але гэта твая прыватная карціна свету: ты сам з ёй жыві, нікому іншаму навязваць яе не трэба. Ты можаш ёю падзяліцца, і калі людзі прымуць, то яны прымуць, а калі не, то і не.

З.Л. А нацыянальная ідэя — гэта што такое, з вашага пункту гледжання?

Н.В. Нацыянальная ідэя — яна шматстайная. Нешта такое, што я б нават не стала фармуляваць. Мне здаецца, што ад фармулявання яно становіцца не дрэвам, якое расце, а крэслам ці сталом, які ўжо нікуды не расце. Хаця стол — рэч патрэбная, але я аддаю перавагу жывым дрэвам, якія растуць, неяк развіваюцца па сваёй логіцы, па сваіх законах.

М.Г. Чем отличаются национальные чувства и религиозные чувства? Вот есть музей Максима Богдановича, который посвятил себя Беларуси, и есть церковь какого-нибудь святого, который посвятил себя Богу. В чём разница?

Н.В. Я не перажываю ніякіх узвышаных пачуццяў, калі заходжу ў музей Багдановіча. Для мяне музей Багдановіча не з'яўляецца сакральнай прасторай. Але калі я чытаю вершы Багдановіча, я магу перажываць нейкія высокія пачуцці. І гэтаксама ў царкве. Я не магу сказаць, што я перажываю ўзвышанае менавіта ў царкве як у сакральным будынку. Для мяне царква — гэта ў першую чаргу супольнасць людзей, якія разам моляцца. Я перажываю ўзвышанае ў словах малітвы. Само па сабе перажыванне ўзвышанага можа адбывацца дзе заўгодна: на беразе возера, у падвале, у склепе, у іншых месцах, якія маюць прыдатную атмасферу. Антураж не заўсёды супадае са зместам. Дарэчы, Максім Багдановіч адзін з маіх любімых паэтаў і менавіта таму, што ён стараўся быць беларусам, не ведаючы беларускай мовы. Яму прыйшлося вучыць беларускую мову. Калі ён прыехаў у Вільню і беларусы ўпершыню яго сустрэлі, ён ужо быў вядомы беларускі паэт, але па-беларуску размаўляць не ўмеў. Ён умеў толькі пісаць. У вершах Максіма Багдановіча, калі іх перакладаць на рускую мову, захоўваецца

рыфма. Цалкам верагодна, што ён перакладаў з рускай мовы.

М.Г. Насколько я понимаю, христианская этика и национальная этика во многом противоречат друг другу. Например, в отношении насилия. Националисту легко убить человека, который нападает на его страну, а у христианина с этим могут быть проблемы.

Н.В. Людзі могуць па-рознаму інтэрпрэтаваць сваю веру. Нават і хрысціянства можа быць ваяўнічай зброяй, якая не толькі легітымізуе, але і матывуе на гвалт. На Кангрэсе даследчыкаў Беларусі, які будзе ў Вільні ў верасні, мы робім цэлую тэалагічную секцыю, якая будзе прысвечана царкве і гвалту, ахвярам, агрэсарам і сведкам. Праблема гвалту, праблема вайны, праблема мяжы гвалту, як мы можам яго прызнаваць, мне здаецца, нявырашаная і па сёння.

М.Г. У православных тоже?

Н.В. Праваслаўнае багаслоўе за дваццатае стагоддзе прайшло пэўную эвалюцыю. На пачатку стагоддзя існаваў канцэпт так званай «справядлівай вайны». Цяпер у дакуменце «Місія праваслаўнай царквы ў сучасным свеце» паняцця «справядлівай вайны» няма. Справядлівым можа быць толькі мір. Вайны справядлівай ніколі не бывае. Безумоўна, патрэбны яшчэ час, каб асэнсаваць, што такое мір, справядлівасць. Прынамсі для мяне, правы чалавека — больш важны канцэпт, чым нацыянальная незалежнасць. Я лічу правільнай сітуацыю, калі нацыянальная дзяржава адмаўляецца ад часткі свайго суверэнітэту на карысць, напрыклад, Еўрапейскага суда па правах чалавека. Мне здаецца, што гэта нармальна, што грамадзянін, чые правы парушаюцца, можа ісці судзіцца супраць сваёй дзяржавы ў міжнародны суд. У гэтым абсалютна няма ніякай здрады і нават наадварот.

М.Г. С вашей точки зрения, в реальности национальная повестка и христианская повестка, несмотря на противоречия, тесно переплетены и их трудно разделить, так?

Н.В. Калі я бываю ў сваёй праваслаўнай царкве, мне часам здаецца,

што паміж мной і людзьмі, якія побач моляцца, прорва. Як паміж евангельскімі Лазарам і багачом: мы не можам пераходзіць адзін да аднаго ні туды, ні сюды. Мы настолькі па-рознаму ўспрымаем увесь свет і нават Бога. Але ўсё роўна мы збіраемся разам у нашай царкве. Я лічу, што ў гэтым няма нічога дзіўнага або супярэчлівага. Калі мы паглядзім, як людзі будуюць сваю ідэнтычнасць, то ўбачым, што ў людзей могуць быць абсалютна розная наборы пазлаў, мазаік, з якіх яны сабе самі збіраюць карціну свету. Не заўсёды людзі збіраюць яе свядома, згодна з лагічным планам. Вельмі часта ёсць нейкі знешні ўплыў — сям'і, адукацыі, тэлебачання, нейкіх лідараў. Разумеючы, які гэта складаны працэс, нельга патрабаваць упарадкаванасці і аднолькавасці ў думках аб тым, як уладкаваны свет.

З.Л. Наколькі ўвогуле прымальны прымус у пытаннях ідэнтычнасці?

Н.В. Усё павінна грунтавацца на свабоднай волі чалавека. Я не прымаю нацыянальную ідэю як нешта навязанае. Я не хачу, каб мне хтосьці сказаў, што вось ты беларус, таму рабі вось так. Мне часта прыходзіцца сутыкаецца з падобным. Я, напрыклад, размаўляю па-беларуску і я праваслаўная, а мне кажуць: «Гэта несумяшчальна, як можна гаварыць па-беларуску і быць праваслаўным?» Альбо: «Ты гаворыш па-беларуску, але чаму ты не ў аўтакефальнай якой-небудзь царкве?» Ёсць вызначаныя ўстойлівыя стэрэатыпы, і нібыта ім трэба адпавядаць. Але гэта так не павінна быць.

З.Л. Я памятаю, што вы не хочаце вызначаць нацыянальную ідэю, але вось цяпер як бы вы яе агучылі?

Н.В. Жыві сваім розумам, я б вось так сказала.

З.Л. Каб жыць сваім розумам, мова, веданне гісторыі, культуры, спадчыны — гэта важна ці не?

Н.В. Я думаю, што так. Ад прадзедаў спакон вякоў мне дасталася спадчына. Не абавязкова яна мне патрэбна вось прама зараз. Напрыклад, мне ў спадчыну дасталася дача. Я не магу яе прадаць, таму што ў нашы

дні ў людзей з'явіліся іншыя прыярытэты, ім не патрэбна лецішча, свой маленькі сад. То бок, спадчына — гэта не заўсёды тое, што табе патрэбна вось зараз, што ты можаш імгненна канвертаваць у нешта каштоўнае. Пры гэтым, сёння кавалак зямлі дзесьці пад Мінскам нікому не патрэбны, а хто ведае, што будзе праз дваццаць гадоў? Прыярытэты зменяцца, і гэтая зямля раптам здабудзе цану. Такая ж сітуацыя і з мовай. Гэта наша спадчына, і асабіста я шаную яе і карыстаюся, не звяртаючы ўвагі на яе не самае лепшае цяперашняе становішча. Вельмі цяжка з гэтай спадчынай: што сёння неактуальна, можа стаць актуальным заўтра, і наадварот таксама.

З.Л. З вашага пункту гледжання, нацыянальная ідэя — гэта больш пра наша светлае ўчора або больш пра наша светлае заўтра?

Н.В. Пра светлую будучыню і пра адкрытасць. Нядаўна чытала ў фэйсбуку пра бульбу, што бульбашамі нас зрабіла савецкая ўлада, а так мы бацвіннікі. Многія не могуць памысліць, што яшчэ сто гадоў таму бульбу ніхто не еў і яна не была настолькі істотнай і важнай. А сёння бульба ледзь не самы абавязковы складнік нашай нацыянальнай ідэі. Пры гэтым, калі я ўпершыню прыехала ў Бон, у Рэйнскую зямлю, то аказалася, што дранікі — гэта іх нацыянальная страва, яны пастаянна ядуць дранікі. Мы хацелі з сяброўкай зрабіць уражанне на гаспадароў, надралі дранікаў, а аказалася, што зрабілі іх традыцыйную страву. Альбо тыя ж васількі, якія мы лічым нашымі: насамрэч у некаторых народаў валошка таксама з'яўляецца ідэнтыфікацыйнай кветкай. Я гэта ўсё да таго вяду, што ні ў аднаго народа няма манаполіі на сэнсы, на вобразы, на асацыяцыі, на метафары, на сімвалы. Ёсць адкрытае ўзаемнае піратства, кантрабанда. Хтосьці кажа што Марк Шагал належыць ім. Хтосьці лічыць сваёй Святлану Алексіевіч. Мой адказ на гэта: калі ласка, бярыце Святлану Алексіевіч любіце яе, чытайце. Я не бачу, што б мы згубілі ад гэтага. Мы таксама можам браць штосьці чужое і рабіць гэта сваім. Як мы калісьці ўзялі бульбу ці нам яе нават навязалі, ужо і не важна. І ўсё, і бульба цяпер наша. І добра.



# ЗМІЦЕР
# ДАШКЕВІЧ

## «БЕЛАРУСЬ, МОВА, СЦЯГ І ГЕРБ САПРАЎДНЫЯ – ГЭТА КВІНТЭСЕНЦЫЯ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ ІДЭІ»

euroradio·fm

Гутарылі Зміцер Лукашук, Максім Гаруноў
Фота Еўрарадыё

З.Л. Наш сённяшні госць — галоўны змагар «Маладой Беларусі», Зміцер Дашкевіч. Мы адзначаем амаль 30 гадоў незалежнасці Беларусі, але нацыянальнай ідэі да гэтага часу няма. Як ты лічыш, чаму?

З.Д. Прычына ў тым, што ў нас ёсць Лукашэнка, і ён ужо дваццаць гадоў будуе нацыю на тым, што беларус — гэта рускі са знакам якасці. У яго нічога не атрымліваецца. Але гэта толькі адна частка праблемы. З іншага боку, грамадзянскія актывісты не разумеюць значэння слоў, якімт карыстаюцца. Часам адны і тыя ж словы выкарыстоўваюць з розным разуменнем. Калі я васямнаццаць гадоў таму прыходзіў у «Малады фронт», моладзь вакол мяне біла сябе ў грудзі: «Мы беларускія нацыяналісты». Я ўвесь час ставіўся да гэтага падазрона — хто такія «беларускія нацыяналісты»? Шмат чытаў Эдварда Сміта, думаў. Потым зразумеў, што гэта пустыя словы. Людзі б'юць сябе ў грудзі — «я беларускі нацыяналіст», а размаўляюць па-руску і дзяцей сваіх па-руску выхоўваюць. Я прыйшоў да вельмі простай высновы: трэба жыць спакойна, размаўляць на сваёй мове, вучыць гэтай мове дзяцей.

З.Л. Нацыянальная ідэя — гэта тое, што павінна быць прынятае ўсімі?

З.Д. Што такое «ўсімі»?

З.Л. Усёй нацыяй?

З.Д. Такія вось займеннікі «ўсе», «мы», «разам» больш пасуюць псіхушцы. Людзі розныя, па-рознаму глядзяць на свет. Я б казаў пра нейкую крытычную групу людзей, у якіх павінен быць кансенсус па базавых пытаннях: герб, сцяг, мова, незалежнасць.

З.Л. А чаму з усіх бакоў мы чуем, што нацыянальнай ідэі ў Беларусі няма?

З.Д. Ад каго мы чуем? Ад людзей, якія называюць сябе касмапалітамі? Ад людзей, якія называюць сябе рускімі? Ад прыхільнікаў Сталіна? Ад беларусаў мы не чуем гэтага. Ад патрыётаў Беларусі мы гэтага не чуем.

Мы чуем гэта ад людзей, якія не могуць знайсці сваё месца ў Беларусі ў кантэксце беларускай дзяржавы. Ад іх мы чуем.

З.Л. А дзеючы кіраўнік Беларусі можа знайсці сваё месца ў кантэксце беларускай дзяржавы?

З.Д. Канешне, не можа. 24 гады яго кіравання гэта даказваюць яскрава.

З.Л. Але апошнія год-два падчас сваіх выступаў ён кажа, што трэба і мову адраджаць, і пра Беларусь і пра беларускасць.

З.Д. Я думаю, гэта кан'юктура. Адзіная ідэя, якой жыве Лукашэнка, — гэта абсалютная, бязмежная ўлада. Сёння знешнія абставіны такім чынам склаліся, што нацыянальныя інтарэсы Беларусі супалі з прыватнымі інтарэсамі Лукашэнкі. Калі заўтра будзе іншая кан'юктура, то будуць іншыя захады, іншая палітыка.

З.Л. Мы тут прыйшлі да высновы, што каб данесці нацыянальную ідэю да жыхароў Беларусі, трэба прыдумаць нейкі слоган. Вось быў ужо слоган «За Беларусь».

З.Д. «Жыве Беларусь» — купалаўскі слоган, які прынялі ўсе.

З.Л. На жаль, на сённяшні дзень далёка не ўсе гатовы прымаць гэты лозунг.

З.Д. Ну яшчэ раз, слова «ўсе» я кажу з пэўнай доляй умоўнасці. Усе — гэта група людзей, прыхільнікаў перамен, незалежнасці, дэмакратыі і свабоды. За рэдкім выключэннем, якое ёсць заўсёды, яны яго прынялі.

З.Л. «Жыве Беларусь», канешне, грэе сэрца, але можа, трэба нешта іншае, каб пазбегнуць канфлікту ў грамадстве? Ёсць, напрыклад, нацыянальная ідэя Францыі — «Свабода, роўнасць, братэрства».

З.Д. Справа ў тым, што гэта, напэўна, утапічна − пазбегнуць канфлікту. Людзі заўжды раздзеленыя на розныя партыі, і гэта нармальна.

Беларускае грамадства падзеленае. 20 гадоў Лукашэнка працаваў над тым, каб падзяляць людзей, і ён гэтага дасягнуў. Пакаленне вырасла, якое не ведае, напрыклад, што такое бела-чырвоны-белы сцяг. Акрамя таго, цяпер ёсць расейская прапаганда. Пуцін вельмі добра працуе над тым, каб яшчэ раз нас падзяліць. Калі ў нас насамрэч пачнецца адкрытая дыскусія пра будучыню Беларусі, я думаю, што будуць вельмі прыкметныя і сталіністы, і прыхільнікі Расійскай імперыі.

З.Л. Можа, нацыянальная ідэя, калі мы яе добра сфармулюем, выступіць разрадам, які дапаможа падштурхнуць беларускую нацыю да таго, каб яна спазнала сябе, пачала гаварыць па-беларуску?

З.Д. Канешне, каб большасць загаварыла на беларускай мове, патрэбны нейкі цуд. Ва Украіне да гэтага спрычынілася трагедыя — вайна. У мяне ёсць добры прыклад: мой сябар, пратэстанцкі пастар, які жыве пад Кіевам. Па крыві ён паляк, нарадзіўся і жыў у Польшчы, ажаніўся з беларускай. З самага пачатку ў сям'і яны размаўляюць з дзецьмі па-беларуску. Да вайны, калі ён вадзіў сваіх дзяцей у школу, то быў самым страшным украінскім нацыяналістам, бо ён казаў: «Не вучыце маіх дзяцей на рускай мове». Пасля Крыма, пасля крывавай разні на Данбасе, якая працягваецца, усе навокал яго перайшлі на ўкраінскую мову. Усе зрабілі выгляд, што яны заўсёды размаўлялі па-ўкраінску. І такіх прыкладаў я ведаю шмат. Вайна стала каталізатарам. Часта сустракаеш людзей ва Украіне і ў Беларусі, якія кажуць: «Пасля Данбаса мне сорамна, брыдка размаўляць па-руску». Але дай Бог, каб у Беларусі ўсё прайшло без вайны. Як чалавек, які імкнецца чытаць Біблію, я атрымаў такое духоўнае адкрыццё: народы, нацыі і мовы — гэта тое, што стварыў Бог, і ён будзе за іх змагацца, колькі б розныя ідэалогіі — камунізм, касмапалітызм — ні спрабавалі зрабіць універсальную расу, універсальнага чалавека.

З.Л. Ты вось загаварыў пра Бога, і я вось згадаў расійскага філосафа Уладзіміра Салаўёва, які казаў: «Ідэя нацыі ёсць не тое, што яна сама думае пра сябе ў часе, а тое, што Бог думае пра яе ў вечнасці».

З.Д. Ну, з біблійнага пункту гледжання, гэта вельмі правільна. У Бібліі ёсць шмат народаў, пра якія Бог прарочыў, што яны знікнуць, і яны

зніклі, а беларусы ў трэцім тысячагоддзі ёсць, і асабіста мне гэта дае ўпэўненасць, што яны і далей будуць. Хаця для людзей-няверднікаў, гэта, канешне, не аргумент.

М.Г. А вы всегда говорили на беларуском языке?

З.Д. Да 87-га года мы жылі ў Расіі. І калі пішуць лінгвісты, сацыёлагі, што ідэнтычнасць чалавека фарміруецца ў першыя гады, я жыў першыя 6 гадоў у Расіі. Я слухаю з захапленнем Шаўчука, Цоя, яшчэ нейкія расейскія рок-групы. Але дзіцю свайму ў кватэры я ніколі не пастаўлю дыск Шаўчука, пры ўсёй павазе. Я максімальна, наколькі гэта ад мяне залежыць, стрымліваю гэтую расейскасць, але яна ўва мне ёсць.

З.Л. Бог жа даў чалавеку свабоду выбару?

З.Д. Але каб гэтай свабодай скарыстацца, трэба дарасці да пэўнага ўзросту, трэба пакласці падмурак пад гэтую свабоду. Мы ведаем, што зрабілі беларусы са свободай, якую яны атрымалі ў 90-х гадах − яны сказалі Лукашэнку: «Вярні нам Савецкі Саюз». Шушкевіч праз некалькі гадоў потым сказаў, што зерне дэмакратыі і свабоды было пасеяна на непрыдатную глебу. Павінна быць прыдатная глеба, і задача бацькоў — сфарміраваць гэтую прыдатную глебу для самастойнага выбару дзіцю.

З.Л. Калі я вучыўся на журфаку, у нас дэканам быў прафесар Алег Слука. Потым ён напісаў кніжку «Нацыянальная ідэя — шлях народа». Ён прапанаваў фармуліроўку нашай нацыянальнай ідэі з трох слоў — «свабода, незалежнасць, справядлівасць». Гучыць прыгожа, але вось чаму не было гэта прынята?

З.Д. Прыгожыя словы можна казаць доўга, у рознай паслядоўнасці, у рознай канфігурацыі, але ад гэтага нічога не мяняецца. Мы павінны разумець, што ў Беларусі ёсць, паводле сацыялагічных апытанняў, 20%, для якіх не прымальная незалежная беларуская дзяржава. Гэта трэба разумець як дадзенасць, як надвор'е. Ёсць 20% сталіністаў, для якіх незалежнасць не каштоўнасць, яны супраціўнікі незалежнасці. А ёсць людзі, для якіх свабода не каштоўнасць, справядлівасць не каштоўнасць.

З.Л. Ты нядаўна быў у Празе. Ці было ў цябе там такое, што ідзеш па вуліцы і чуеш па акцэнце беларуса?

З.Д. У Празе я быў у такіх кам'юніці, дзе было шмат беларусаў. У мяне такі выпадак быў у Амерыцы ў 2006 годзе. Я прагульваўся па Вашынгтоне, і мне выгукнулі: «Жыве Беларусь!» Мажліва, на мне была вышыванка ці «Пагоня». Канешне, мне было радасна, канешне, мы абняліся, пацалаваліся, павіталіся, ну і разышліся. Мне прыемна, што недзе на іншым краі свету гукаюць табе: «Жыве Беларусь». Я думаю, што калі б мы выехалі ў Еўропу і пачулі трасяначку любімую, я падышоў бы і пацалаваўся з чалавекам.

М.Г. Звучит как признание в любви.

З.Д. Так, у любові да Беларусі. І любоў павінна прыносіць плён. Для мяне гэты плён — у выкарыстанні беларускай мовы, у выкарыстанні беларускіх сімвалаў — сцяга, герба «Пагоня». Гэта дае любові сэнс, напаўняе значэннем, а не проста пустыя словы, якія прамаўляюцца Лукашэнкамі, сталіністамі, камуністамі, імперцамі. Павінен быць сэнс і калі будзе сэнс, будзе Беларусь.

З.Л. Можа, хто-небудзь напаўняе любоў сэнсамі чырвона-зялёнага сцяга, а нехта за — імкненне ў еўразійскія прасторы?

З.Д. Ведаеце, нават само значэнне слова «любоў» у сучасным свеце моцна перакручана, вельмі дэградавана. Хто што толькі ні ўкладае ў гэтае значэнне. Гэта такая здрадлівая любоў, калі чалавек кажа: «Я люблю Беларусь, але мы рускія са знакам качаства. Давайце аб'едзінімся ў Саюзнае гасударства». Ёсць рускія, ідзі любі рускіх. Ёсць руская дзяржава, ты можаш у ёй самарэалізавацца. Але ёсць незалежная беларуская дзяржава, і калі ты не паважаеш каштоўнасці незалежнай дзяржавы, то гэта вялікае пытанне, каго ты любіш.



# РЫГОР
# АСТАПЕНЯ

## «СТАЦЬ НАЙЛЕПШАЙ КРАІНАЙ У ЕЎРОПЕ — НАЙЛЕПШАЯ НАЦІДЭЯ НА СЁННЯ»

euroradio·fm

Гутарылі Зміцер Лукашук, Максім Гаруноў
Фота Еўрарадыё

З.Л. Вітаю ўсіх слухачоў, наш сённяшні госць — заснавальнік Цэнтра новых ідэй, доктар грамадскіх навук Рыгор Астапеня. Добры дзень, Рыгор.

Р.А. Прывітанне.

З.Л. Беларуская нацыянальная ідэя табе баліць?

Р.А. Баліць, але я не вельмі разумею, што гэта. Не ў тым сэнсе, што беларусам не патрэбна нацыянальная ідэя, а ў тым, што я не разумею, як яе сфармуляваць. Мне здаецца, у нас занадта складаная гісторыя, складаны праект, каб яго можна было змясціць у такую простую форму як нацыянальная ідэя.

М.Г. Беларусь — настолько сложный объект?

Р.А. Беларусь — даволі амбівалентная краіна. Беларускі гістарычны досвед даволі амбівалентны.

М.Г. А можно пример?

Р.А. Ну, вось глядзіце: за мінулыя стагоддзі беларусы былі з Расіяй, і беларусы былі супраць Расіі. Людзі, як я, якія прытрымліваюцца нацыянальнага светапогляду, робяць націск на часы, калі мы былі супраць Расіі, былі ў складзе Вялікага Княства Літоўскага. Пры гэтым, калі мы паглыбімся ў гісторыю Вялікага Княства Літоўскага, то выявім, што там хапала момантаў, крыўдных для беларусаў. Тая ж самая забарона праваслаўя. Нармальна гэта было? Не, не нармальна. Беларусы ў большасці ходзяць у праваслаўныя храмы. Відавочна, што ведаючы пра ганенні на праваслаўе, мы не можам проста так узяць і сказаць што Вялікае Княства − гэта наша беларуская спадчына. Наша гісторыя ў Княстве − яна складаная, супярэчлівая, мнагазначная і мае патрэбу ў надзвычай акуратным тлумачэнні. Я прывёў толькі адзін прыклад, але такога ў гісторыі беларусаў можна адшукаць вельмі шмат. Таму я і не магу адразу вам адказаць, што такое наша нацыянальная ідэя.

М.Г. И совсем нет никаких вариантов?

Р.А. Ну, можна сказаць, што мы проста любім усіх. Нібыта ў нас няма ні да каго прэтэнзій, мы ветлая і міралюбная краіна, адкрытая для ўсіх. У прынцыпе, мы да гэтага ідзем. Зараз у Беларусі ўсе імкнуцца быць расплывістымі: мы любім усіх, прыязджайце да нас, пагаворым, правядзем перамовы, яшчэ штосьці. Але ўсё адно яно не да канца тлумачыць, хто мы.

З.Л. Калі гэта так складана, навошта нам тады ўвогуле з гэтым разбірацца?

Р.А. Трэба разбірацца, каб зразумець сябе, каб збудаваць нейкую спрошчаную версію, якую мы будзем перадаваць іншым пакаленням.

З.Л. Каб што?

Р.А. Нам трэба разабрацца з тым, хто мы такія, каб мы маглі існаваць, ставіць сабе задачы. Мы тлумачым мінулае не проста каб патлумачыць мінулае, а каб зразумець адкуль мы, дзе знаходзімся, што будзем рабіць далей. Наша бачанне нашай гісторыі шмат чаго вызначае. Напрыклад, калі мы будзем увесь час падкрэсліваць гістарычныя этапы, калі мы ваявалі супраць Расіі, то натуральна будзе ставіць пытанне: дык, а чаму мы ў саюзе з Расіяй? Са старым супернікам такі шчыльны саюз, як на дадзены момант, наўрад ці будзе магчымы.

З.Л. А калі мы скажам, што мы проста тутэйшыя?

Р.А. Калі мы прымем, што мы тутэйшыя, то ніякага руху не будзе. Будзем сядзець тут і жыць як жылі. Мы павінны прыдумаць нешта больш сэксуальнае, больш бадзёрае. Напрыклад, прыняць як факт, што мы самая крутая нацыя ва Усходняй Еўропе. У прынцыпе, гучыць нармальна. Але, зноў жа, яна не тлумачыць, на якой мове мы павінны размаўляць. Яна не тлумачыць, у якім саюзе мы павінны быць. Гэта такая пустая каробка, у якую можна засунуць усё, што заўгодна.

М.Г. Для вас беларуская мова — это ценность или средство коммуникации?

Р.А. Каштоўнасць і, канешне, сродак камунікацыі. Але ў першую чаргу каштоўнасць. Я заплаціў пэўную цану за пераход на яе. Шчыра кажучы, гэта была даволі балюча.

М.Г. Почему?

Р.А. Калі я пераходзіў, я быў падлеткам. Я жыў у Салігорску, гэта шахцёрскі, прамысловы горад, вельмі рускамоўны. Па-беларуску не размаўляюць ні школьныя настаўнікі беларускай мовы, ні у найбліжэйшых вёсках. Калі я пачаў гаварыць па-беларуску, у людзей вакол рэзка змянілася стаўленне да мяне: стала негатыўным і нават варожым.

М.Г. Какая мотивация была для перехода?

Р.А. У нейкі момант я падумаў, што калі ў мінулым нас настойліва русіфікавалі, калі з намі паступалі несправядліва, то трэба аднавіць справядлівасць. Я паставіў сабе такое пытанне: я з Мураўёвым-вешальнікам, які прымушаў нас перайсці на рускую мову, ці з Каліноўскім, які гэтую мову адстойваў? На якой мове мне варта размаўляць? Гэта быў крыху такі падлеткавы максімалізм, але пасля ішло па накатанай.

М.Г. А сейчас бы вы так сделали?

Р.А. Так. Але цяпер я ўспрымаю мову проста як сродак камунікацыі. Цяпер я проста раблю ўсё па-беларуску. Я раблю тое, што я хачу рабіць, і раблю так, як хачу: на беларускай мове.

М.Г. Беларуский язык сближает вас с теми, кто говорит на беларуском языке?

Р.А. Першы час, калі на яе пераходзіш, то так, ёсць адчуванне блізкасці з беларускамоўнымі. Але цяпер ужо не. Чуеш, што чалавек гаворыць па-беларуску — ну, хай гаворыць, маладзец.

М.Г. А нет соблазна перейти на английский или польский?

Р.А. Я на беларускай думаю, мне яна вельмі падабаецца, я яе люблю. Гэта вельмі важная частка маёй ідэнтычнасці. У мяне ў школе былі даволі дрэнныя адзнакі па беларускай мове і па беларускай літаратуры. Не ўрокі беларускай літаратуры прывялі мяне да беларускай мове. Я перайшоў сам і свядома, таму што ўсур'ёз лічу сябе беларусам.

М.Г. А в семье вы на каком языке говорите?

Р.А. У мяне жонка рускамоўная. Вы зразумейце, што я нікому нічога не навязваю, ні да чаго не прымушаю, не патрабую. Я не прапаведнік беларушчыны. Я проста раблю тое, што лічу патрэбным.

М.Г. По-моему, это лукавство. По-моему, вы самый обычный проповедник. Тот факт что вы, имея работу в Лондоне, говорите на беларуском языке, делает вас просто живым знаменем беларушчыны для молодых.

З.Л. Ён раскусіў цябе ці не?

Р.А. Ну, дапусцім. Насамрэч, я проста не думаю, што сёння ёсць месца для такой прамой пропаведзі. Сёння дастаткова проста быць, а ўсё астатняе неяк само сабой утворыцца.

З.Л. Тады адразу яшчэ раз пытанне пра нацыянальную ідэю.

Р.А. Калі вы так хочаце нацыянальную ідэю, то я думаю, што мы павінны стаць найлепшай краінай ва Усходняй Еўропе. Гэта рэальна дасягальная рэч.

М.Г. Откуда такая уверенность?

Р.А. Варта разумець, што ў нас як у новай краіны, як у маладой краіны, ёсць магчымасць пачаць усё з чыстага ліста. У нас ёсць шанец на паспяховы старт. Паглядзім на Штаты, на іх электаральнае галасаванне: Госпадзі, ды гэта ж вар'яцтва, насамрэч. Амерыканцы часта выбіраюць

людзей, якія набіраюць менш галасоў. Але ім цяжка змяніць гэтую сістэму бо яна ўжо склалася, за ёй стаіць доўгая гісторыя. А ў нас можна пачаць амаль з нуля. Мы можам стварыць найлепшыя істытуты, таму што наш уласны інстытуцыйны багаж — ён мінімальны. Шмат у якіх сферах гэта магчыма. Сфера адукацыі, напрыклад. Там не такая вялікая канкурэнцыя, і калі правільна распарадзіцца інвестыцыямі, Беларусь даволі хутка можа дагнаць Фінляндыю і Сінгапур.

З.Л. Але рабіць гэтую лепшую краіну ва Усходняй Еўропе трэба на беларускай мове? Ці без розніцы, на якой?

Р.А. Без розніцы.

З.Л. Пад якім сцягам?

Р.А. Канешне, бел-чырвона-белы. Чырвона-зялёны ў параўнанні з бел-чырвона-белым тухлаваты. Я да яго нармальна стаўлюся, ёсць і ёсць, але ён так сабе. З пункту гледжання брэнду, з пункту гледжання дызайну, з пункту гледжання проста пачуццяў, ён абы-што. Бел-чырвона-белы рэальна весялейшы. Бел-чырвона-белы і эстэтычна, і вобразна харошы.



# ВІТАЛЬ ГУРКОЎ

## «ЧЫМ БОЛЬШ ШМАТГРАННАЙ БУДЗЕ БЕЛАРУСКАСЦЬ, ТЫМ ЛЕПШ ДЛЯ БЕЛАРУСІ»

euroradio·fm

Гутарылі Зміцер Лукашук, Максім Гаруноў
Фота Еўрарадыё

З.Л. Вітаем усіх слухачоў, сёння мы будзем фармуляваць нацыянальную ідэю разам з 12-разовым чэмпіёнам свету па муай-тай, Віталём Гурковым. Віталь, а вось для сябе вы можаце адказаць на пытанне: што такое нацыянальная ідэя?

В.Г. Есць такі фільм «Патрыёт» з Мэлам Гібсанам. Мне здаецца, што нацыянальная ідэя павінна быць дзесьці ў гэтым шэрагу, з гэтай думкай.

З.Л. Нацыянальная ідэя — гэта пра патрыятызм?

В.Г. Ну, трэба спачатку паглядзець фільм. Там патрыятызм — шырокае паняцце, куды ўваходзіць шмат важных складнікаў, такіх як сям'я, дзеці, мірнае неба. Нацыянальная ідэя — яна і ў тым, каб не забывацца, хто мы, адкуль мы родам, якая ў нас гісторыя, якія ў нас былі пэўныя акалічнасці, што ў нас ёсць свая мова, свая культура, свае традыцыі.

З.Л. Нацыянальная ідэя — гэта пра спадчыну і мову?

В.Г. Так, але ў маім разуменні гэтых рэчаў, мова і спадчына цесна звязаныя з развіццём, з пастаянным ростам. У мяне ёсць сябры з маленькімі дзецьмі. У сям'і яны размаўляюць па-беларуску, але праскокваюць словы і па-руску, бо дзеці адначасова ведаюць дзе мовы. Дзве мовы — гэта інтэлектуальны плюс для дзіцяці. З дзвюма мовамі яму будзе прасцей камунікаваць у гэтым новым глабальным свеце. Потым да іх дадасца ангельская, нямецкая, французская мовы. Кітайская (смяецца) хутчэй за ўсе, але гэта ўжо будзе як развіццё першапачатковага выхавання.

З.Л. Валоданне роднай мовай вось асабіста для цябе — гэта што? Даніна павагі мінуламу, сродак камунікацыі?

В.Г. Прыкмета вышэйшай адукацыі, у першую чаргу. Калісьці шмат хто лічыў беларускую мову калгаснай ці мовай старых: «Ну, мая бабуля там нешта так размаўляла». Сёння і час, і свет мяняюцца, і ўжо для мяне ведаць і нават камунікаваць па-беларуску — гэта пра сапраўдную адукаванасць. Калі сёння ў Мінску чалавек добра валодае беларускай мовай, гэта значыць, што ён як мінімум атрымаў адукацыю ў нейкай

прыстойнай навучальнай установе, хутчэй за ўсё тут, у сталіцы. Валоданне беларускай мовай — гэта сведчанне інтэлігентнасці, розуму чалавечага.

З.Л. Як кажуць, раней беларуская мова з вёсак ішла ў гарады, а зараз наадварот, з гарадоў у вёскі.

В.Г. Ну, прыкладна так. Можна толькі парадавацца.

М.Г. Есть такая известная украинская группа «Океан Ельзи». У её участников лица завсегдатаев львовского кафе или программистов. Когда смотришь записи выступлений вашей группы «Brutto», то у вас на сцене много агрессии, кулаков, прыжков.

В.Г. Не бачу ў гэтым нічога дрэннага. Тым больш, што гуртоў з такім, як вы сказалі, нібыта агрэсіўным падтэкстам і вобразам у нас амаль няма. Але ў нас жа ёсць і кранальныя песні. Напрыклад, «Вечірнє сонце». На ўкраінскай мове, дарэчы. І дзякуй Богу, у Беларусі, шмат выдатных гуртоў, якія працуюць у іншым кірунку. Слухач лёгка можа знайсці сабе гурт, які грае нешта больш спакойнае.

З.Л. Але вызначаная ваяўнічасць нашай нацыянальнай ідэі не перашкодзіць, правільна?

В.Г. Так, але я б загадзя зрабіў акцэнт на іншым. Я вось быў на спартыўных спаборніцтвах у Адэсе і там выпадкова наткнуўся на артыкул аб тым, як спартовец пасля пераможнага бою паказаў сардэчка. Бінты ў яго на кулаках былі блакітны і жоўты. Мне падаецца, калі ў нас будзе такое разуменне сілы, то чалавек у патрэбны момант будзе і стаяць за сваё, і бараніць сваё, але гэтая здольнасць не перашкодзіць яму быць нармалёвым ў мірным, звычайным жыцці. І мы не навязваем нічога. Не трэба ўсім быць, як мы. Мы разумеем, што ўсе розныя. У грамадстве не павінна складвацца толькі адна мадэль паводзін. Мне здаецца, чым шматграннейшай будзе вось беларускасць, тым лепей будзе для грамадства.

М.Г. У нас к вам принципиальный вопрос: а вы будете бить людей, если они будут говорить то, что вам не нравится? Мы со Змитром — люди гуманитарные и страшного говорливые, нам важно знать, что нам за это будет.

В.Г. Ну, калі б мы білі ўсіх, хто там нешта казаў нягоднае, то кулакоў бы не хапіла (смяецца).

М.Г. А сейчас не бьёте, потому что нет возможности всех ударить?

В.Г. Я не бачу ў такой агрэсіі нейкіх добрых вынікаў, якія потым прывядуць да нейкіх пазітыўных змен. Агрэсія — крайняя ступень таго, што чалавек можа зрабіць, і ёсць такі тып людзей, якія па-іншаму не разумеюць проста.

М.Г. А можно точнее? Нам очень важно уловить грань.

В.Г. Гэта ж асабістая грань (смяецца) у кожнага індывіда.

З.Л. Веданне нашай гісторыі што нам дае?

В.Г. Мне здаецца, што вельмі цяжка пабудаваць будучыню, не ведаючы мінулага. Трэба зрабіць працу над памылкамі. Напрыклад: «Я хачу, каб усе вуліцы горада Мінска былі падпісаныя па-беларуску». І ты глядзіш: вуліца Леніна (смяецца) — як яна будзе? Я хачу, каб нашы героі мінулага былі ўвасобленыя на нейкіх шыльдах ці каб былі помнікі пастаўленыя.

М.Г. Кроме героев, у каждого народа бывают ещё люди, причастные к преступлениям. С ними как?

В.Г. Пра гэта трэба расказваць. Расказваць такім чынам, што вось было, гэта дрэнна і вось да чаго гэта прывяло ў выніку. Мне здаецца, не трэба замоўчваць. Розныя старонкі былі ў гісторыі, розныя персанажы. Мне падабаецца, як палякі робяць акцэнты на сваіх буйных дзеячах, на палітыках, музыкантах, пісьменніках, мастаках.

М.Г. Поляки запретили говорить о причастности поляков к геноциду евреев.

В.Г. Я пра гэта не чуў. Што тычыцца нас, то ў нас зусім іншая сітуацыя, як мне здаецца. Можа быць, у палякаў і ёсць нейкія праблемы з разуменнем свайго мінулага, сваёй нацыянальнай ідэі, як вы гэта называеце. Але ў нас я яе ўвогуле не бачу. Яе няма. Мы то «там», то «там», не зразумела. Мы не можам ніяк вызначыцца. У нас колькі намяшана розных субстанцый у галовах. Часам мне здаецца, што мы ніколі да нейкага агульнага не прыйдзем.

З.Л. Вы, выходзячы на рынг з капай бела-чырвона-белай, — гэта прасоўванне нацыянальнай ідэі?

В.Г. Я лічу, што так.

З.Л. А калі выходзіце на сцэну ў майцы з «Пагоняй» і песнямі пэўнай накіраванасці?

В.Г. Так, канечне. Але падкрэслю, што ў нас ёсць і беларускамоўныя песні, і на ангельскай, і на ўкраінскай мове. Як творца ты можаш рабіць што хочаш. Ты можаш наогул ні на што не звяртаць ўвагі. Але пры гэтым калі ў цябе атрымліваюцца добрыя песні пра Беларусь і людзі іх слухаюць, то ты ўсё роўна датычны да нацыянальнай ідэі.

З.Л. Гэта задача кожнага музыканта, спартсмена, ці гэта асабістая пазіцыя?

В.Г. Асабістая пазіцыя. Пры гэтым трэба разумець, што ў творчасці шмат выпадковага, нечаканага. Нехта ставіць перад сабой як задачу прасоўванне нацыянальнай ідэі, але ў яго нічога не атрымліваецца. Нехта робіць проста так, без думкі, і атрымліваюцца вельмі крутыя, буйныя рэчы. Шмат песень былі напісаныя па-беларуску з думкай аб нацыянальнай ідэі. Але яны настолькі дрэнныя, што хутчэй адпужваюць людзей ад беларушчыны. Бывае, што чалавек нешта піша ў падтрымку Беларусі, таму што ён кан'юнктуршчык і адчувае, што вось зараз гэта

модна і прыцягвае ўвагу. Мне здаецца, што гэта не зусім добра, але калі яго песні будуць хоць трохі цікавыя, то і няхай.

З.Л. А Міхалок у пытанні нацыянальнай ідэі кан'юнктуршчык?

В.Г. Ён творца. Ён не робіць нешта наўмысна. Наколькі я ведаю, ніколі не было зроблена нешта наўмысна: «А вось гэта мы для беларусаў зробім, а вось гэта для астатніх» (смяецца).

М.Г. Михалок не знает, что у него придумается, оно само получается, так?

В.Г. Не, гэта не так выглядае. Гэты яго песенны канвеер вельмі добра працуе. У яго, натуральна, ёсць шматтомнікі, якія былі напісаныя калісьці. Калі ён працуе над альбомам ці праектам, ён проста зазірае ў свае запісы. Тая ж песня «Воины Света» была напісаная за чатыры гады да Майдану. «Грай» таксама. Ён увесь час нешта запісвае, а потым захоўвае. Гэта менавіта творчыя працэсы, якія проста потым вырваныя ў пэўны канцэптуальны альбом, які падыходзіць пад нейкі перыяд часу, які знаходзіць адгалосак у наваколлі.

З.Л. Што верне беларусаў да іх нацыянальнай ідэі?

В.Г. Я калісьці казаў пра гэта. Гэта ўсё вельмі проста робіцца. Напрыклад, шмат падлеткаў не разумеюць, навошта ім ведаць беларускую мову. Яны ёю не карыстаюцца і быццам бы не асабліва шкадуюць аб гэтым. А вось калі б яна была абавязковай пры адукацыі ці для паступлення ў вышэйшую навучальную ўстанову? Каб быў абавязковы іспыт па беларускай мове ці каб усе іспыты праводзіліся б па-беларуску. Калі ты хочаш атрымаць вышэйшую адукацыю, то вучы нашу родную мову. Калі не хочаш вучыць, то ёсць прыкладная тэхнічная адукацыя, ПТВ, калі ласка. Мне здаецца, нават вось гэтая мінімальная мера ўжо палепшыць агульны стан.



# ГАННА
# СЕВЯРЫНЕЦ

## «ГЭТА ЗЯМЛЯ НАША І МЫ ТУТ ГАСПАДАРЫ — ІНШАЙ ІДЭІ БЕЛАРУСАМ НЕ ТРЭБА»

euroradio·fm

Гутарылі Зміцер Лукашук, Максім Гаруноў
Фота Еўрарадыё

З.Л. Вітаю ўсіх слухачоў «Еўрарадыё», наш госць — настаўніца, даследчыца, пісьменніца Ганна Севярынец. Добры дзень, спадарыня Ганна!

Г.С. Добры дзень!

З.Л. Спадарыня Ганна, спытаю вас як у даследчыцы: а можа быць, нацыянальную ідэю дзе-небудзь у архівах пашукаць?

Г.С. У архівах яна таксама будзе, канешне, бо колькі існуюць свядомыя беларусы, столькі яны і шукаюць нацыянальную ідэю.

З.Л. А колькі існуюць свядомыя беларусы?

Г.С. Мне цяжка сказаць, калі ўтварылася беларуская нацыя і ці з'явілася яна ўвогуле. А вось што тычыцца свядомых беларусаў, то я думаю, той студэнт, які першым у 1500 годзе запісаўся ў дакументах пражскага ўніверсітэта беларусінам, ён быў першым свядомым беларусам. Гэта было дастаткова даўно.

З.Л. Вы зараз пра Францішка Скарыну гаворыце?

Г.С. Там быў не Скарына, быў іншы студэнт. Бо Скарына, здаецца, не падпісваўся беларусінам.

М.Г. А какой признак того, что нация появилась? Вот вы выходите улицу в Минске, оглядываетесь и понимаете, что у беларусов нация есть.

Г.С. Нацыя існуе тады, калі яна мае добра сфарміраваную, прынятую нацыянальнымі элітамі і народам ідэю. Калі яна ведае сваю гісторыю, па меншай меры ў стадыі міфаў. Калі ў нацыі ёсць культурны код, які фармулюецца праз веданне літаратуры, вобразаў, агульных для ўсіх. І калі грамадства мае агульны погляд на сваё далейшае развіццё. Мне падаецца, тады мы можам казаць, што ёсць нацыя. Напэўна, у навуцы гэта выглядае неяк інакш.

М.Г. То, что Вы сейчас описали, похоже на массовые советские митинги

в честь Дня труда. Идёт большая колонна людей, у всех одна и та же идея, они одинаково смотрят на своё прошлое, одинаково понимают своё настоящее и одинаково видят своё будущее.

Г.С. Ну, нават у першамайскіх калонах такога не было. У нацыі ёсць нейкае агульнае ўяўленне пра сябе і пра сваю будучыню, але яно не абавязкова аднолькавае ў дэталях.

М.Г. Но ведь похоже, согласитесь.

Г.С. Нацыя — гэта у любым выпадку, нешта абагульняючае, правільна? Тое, што яднае, у любым выпадку. Калі мы кажам пра нацыю, мы абагульняем пэўную колькасць людзей у межах нейкіх крытэрыяў. Таму гэта, канешне, будзе нейкая калона, над якой будуць вісець транспаранты.

З.Л. Зінаіда Бандарэнка сказала, што ўся наша нацыянальная ідэя можа быць выказана проста — беларуская мова. А вы як думаеце?

Г.С. Я не магу сказаць, што ў Беларусі магчыма вырашыць пытанне ў адназначным сэнсе. Яно тут ніколі і не вырашалася. Мы павінны разумець, што людзі, якія размаўляюць на іншых мовах, людзі, якія жадаюць рэалізоўвацца ў іншых мовах, яны таксама павінны быць уключаны ў нацыю, таму што інакш нічога не атрымаецца. Вось вы сказалі пра калону з транспарантамі. Я лічу, што неабавязкова яны будуць толькі па-беларуску. Наш агульны нацыянальны код можа ўключаць нават транспаранты на ідыш. Мы з'яўляемся мультыкультурнай нацыяй, і гісторыя ў нас мультыкультурная. Мы знаходзімся на перакрыжаванні, і таму гэта не абавязкова аднолькавая мова і тры нейкія аднолькавыя лозунгі. Але нешта нас павінна абагульняць.

М.Г. Тогда вернёмся к первомайской демонстрации. Правильно ли я вас понял, что не должно быть одной большой колонны? Должно быть много маленьких колонн, которые идут к какому-то одному пункту. Все они за Беларусь, но на идише, на татарском, на польском. Будут и русские за Беларусь, но с портретами царя, с казаками.

Г.С. Усё правільна, але нашы рускія будуць без цара. У беларусаў няма цара.

М.Г. Ну, это часть нашей русской культуры, мы без царя не можем.

З.Л. А гэта беларускія рускія, табе ж сказалі.

Г.С. Так, гэта будуць беларускія рускія, яны зусім іншыя, яны могуць без цара. Беларусам цары не патрэбныя. Калі цара Мікалая Другога ў 1917 годзе скінулі, беларусы не былі ў роспачы, таму што яны і без цара ўмелі жыць.

М.Г. А русские, которые тут жили?

Г.С. Па-featureознаму. Рускія не абавязкова з царом у галаве і з казакамі.

М.Г. Слушайте, я из Москвы приехал, я лучше знаю. Русских без царя не бывает.

Г.С. Дык гэта ў Маскве. А ў нас бывае.

М.Г. Хорошо, таким образом, будет множество мелких колонн. Они придут к одному месту, выскажут своё уважение Беларуси. А что потом? Они переругаются, потому что они разные?

Г.С. Пасварыцца беларус умее і любіць, але я не думаю, што гэта ўключаецца ў нашу нацыянальную ідэю. Можа быць спрэчка, абмен аргументамі, пошук рашэння. У нас тут перакрыжаванне культур, цывілізацый, геаграфічнае перакрыжаванне. Гэта наш нацыянальны архетып. У нас на перакрыжаванні адбываюцца падзеі асноўных сюжэтаў беларускай мастацкай літаратуры. На перакрыжаванні стаіць хутар у аповесці Васіля Быкава «Знак бяды». На перакрыжаванні стаіць вёска ў рамане Кузьмы Чорнага «Бацькаўшчына». У нас няма іншага шляху, акрамя гэтага перакрыжавання і досведу жыцця на ім, таму, канешне, тут будуць розныя культуры, розныя ўяўленні і дыялог паміж імі. У нас унікальны досвед жыцця менавіта ў такой сітуацыі.

З.Л. А чаму ўвогуле мы дагэтуль гаворым аб нацыянальнай ідэі?

Г.С. Таму што супольная ідэя, якую прыме ўся супольнасць, не фармулюецца за дзесяць год. Яна павінна сфармулявацца цягам гісторыі. А хто нашым элітам даваў магчымасць разважаць над нацыянальнай ідэяй? Без ямаў, без прорваў паміж імі? Вось былі бацькі-заснавальнікі БНР. Хто ім даў перадаць наступным пакаленням свой досвед, сваё ўяўленне пра нацыянальную ідэю? Хто даў нашым адраджэнцам ва ўвесь голас сказаць пра нацыянальную ідэю? Ніхто не даў. І Грамаду, і нашых тут, ва ўсходняй Беларусі, пазнішчалі ўсіх, хто мог гэта рабіць. Яна і не сфармулявана і па сёння, таму што не было магчымасцей пакуль што.

М.Г. Если всё так затягивается, то может такое случится, что беларусы так и не станут политической нацией? Как вы относитесь к такой перспективе?

Г.С. Я не ведаю, я пра гэта нават не думаю, таму што павінна, павінна адбыцца. Мне заўжды здавалася, што мы знаходзімся ў такім цяжкім становішчы менавіта для фарміравання нацыі. Некуды ж гэта павінна выплеснуцца.

З.Л. У беларусаў як нацыі, на ваш погляд, якая місія?

Г.С. Мне слова «місія» не падабаецца яшчэ з тых часоў, калі я працавала ў гандлі і павінна была фармуляваць місію для аптовага аддзела, каб гандляваць аліўкамі і маслінамі. Я не стала б казаць пра місію. Што значыць місія? Гэта чалавечае слова з чалавечага абыходу. Беларусы як народ павінны выпрацаваць стратэгію жыцця на сваім перакрыжаванні паміж культурамі. Як народ, яны павінны выпрацаваць стратэгію існавання ў мультыкультурным асяродку, стратэгію жыцця на сваёй зямлі. Ну так любы народ павінен зрабіць. Нехта ўжо зрабіў, а мы яшчэ толькі вучымся.

М.Г. Вот вы говорите, что беларус должен сделать то, должен сделать это. Очень много усилий надо ему совершить. Но ведь он может сейчас

через интернет устроиться на работу в Германии, за два часа доехать до Вильнюса, сесть на лоукост до Германии и улететь.

Г.С. Калі ласка. Ёсць людзі, якім падабаецца чакаць, калі лёс дасць ім шанц наладзіць сваю краіну, а ёсць людзі, якім нармальна з'ехаць. Усім падабаецца рознае. Мне, прыкладам, зусім не трэба ехаць у аэрапорт. Я не ўяўляю, як я прыеду ў чужую краіну і буду там жыць па правілах, якія складаліся для чужога народа. Я іншая, мне гэта нецікава. Мне не цікавыя ўмоўныя матэрыяльныя выгоды ці даброты. Навошта яны мне патрэбныя? Правілы, па якіх жывуць людзі за мяжой, для мяне чужыя і не цікавыя. Мне цікава на іх паглядзець, вывучыць, параўнаць са сваімі, але прымаць і падпарадкоўваць сябе гэтым правілам мне не хочацца. У мяне ёсць свая зямля, і я на ёй хачу гаспадарыць. Але я разумею, што людзі бываюць розныя, і добра, што зараз ёсць шлях у аэрапорт.

М.Г. То есть, тем, кто остаётся, вы обещаете возможность самим для себя построить удобную им страну и получить удовольствие от участия в историческом процессе?

Г.С. Ні ў якім выпадку! Божа барані! Такія гучныя словы. Я гэта абіраю прыкладам да сябе. Мне цікава ўдзельнічаць у гэтым працэсе. А што там трэба астатнім беларусам, я не ведаю. Што тычыцца літаратуры і публіцыстыкі, то ў пачатку 20-х гадоў мінулага стагоддзя фармулёўка ідэі, фармулёўка шляхоў развіцця Беларусі ішла. На жаль, гэта ўсё знаходзілася пад вельмі пільнай увагай Масквы. Мы — памежная рэспубліка, і да нас заўсёды была самая пільная ўвага, каб не дапусціць сепаратысцкіх настрояў. А нацыянальная ідэя — яна вырастае з таго, што ты ўсведамляеш сябе асобна. І таму ў Беларусі рэфлексія аб нацыянальным і палітычным была вынішчана самым жорсткім чынам. У 1928 годзе ў Мінску працавала сумна вядомая камісія Затонскага. Гэта была камісія, арганізаваная ЦК ВКПБ у Маскве. Яны даследавалі развіццё нацыянальнага пытання на Беларусі. Затонскі ў сваёй справаздачы напісаў, што на Беларусі склалася ўнікальная сітуацыя: кіраўнікі дзяржавы, усе, хто стаялі на чале БССР, знаходзяцца пад вялікім уплывам

пісьменнікам і паэтаў, і вышэйшае кіраўніцтва не прымае ніякіх мер, не параіўшыся з пісьменнікамі і паэтамі. Гэта было насамрэч так, яны ўсе вельмі сябравалі. Ішоў працэс фармулявання нацыянальнай ідэі, у якім удзельнічалі і палітыкі, і пісьменнікі, і паэты. Калі б ім далі яшчэ 20-25 год, яны б, канешне, нешта б зрабілі. Асабліва калі ўзяць да ўвагі, якімі тэмпамі тады ішла беларусізацыя. Але іх вынішчалі, а мы і па сёння не ўзняліся на той узровень шырыні і глыбіні дыскусіі, якая ішла ў 20-х.

З.Л. Вы для сябе пачалі фармуляваць сваю нейкую нацыянальную ідэю?

Г.С. Мы – гаспадары на сваёй зямлі. Мы на ёй нарадзіліся. Мы сюды паклалі сваіх продкаў. Мы хочам самі легчы ў гэтую зямлю, калі прыйдзе час. І таму гаспадарыць на ёй будзем толькі мы. І мы будзем вырашаць, як тут жывецца. Ні сусед з усходу, ні сусед з захаду, ні нейкія людзі, якія не маюць тут каранёў і грунту, а тыя, хто тут жыве, павінен быць гаспадаром, незалежна ні ад чаго.

З.Л. Калі коратка сказаць: «Гэта наша зямля».

Г.С. І што мы тут гаспадары. Дзеці часта пытаюць у мяне, што такое «гаспадарыць». Я ім кажу, што гэта калі вы маеце права вырашаць, як і што будзе адбывацца, напрыклад, у вашай школе, у вашай гімназіі. Калі гэта ваш урок, у вашым класе, то ён павінен быць менавіта такім, як вы і толькі вы лічыце патрэбным і карысным для сябе. Кожны беларус хоча жыць у сваёй сядзібе, каб была свая гаспадарачка, дзе ты ўсё ведаеш, дзе ўсё пад цябе. Калі ты хочаш, каб і твая краіна была дагледжаная, як твая сядзіба, ты павінен ведаць уласную гісторыю, уласную культуру і ўласную літаратуру, уласныя спевы. Гэта тое, што дае табе адчуванне гаспадарства. А калі ты гаспадар, ты клапоцішся пра сябе і пра сваю будучыню. Ты трыста разоў запытаешся, навошта мне на маёй тэрыторыі, напрыклад, чужая ваенная база? Ці патрэбна яна мне? Калі не, то давайце адмовімся ад чужой ваеннай базы. І ўвогуле, давайце працаваць на сваіх грашах, на сваіх рэсурсах. Давайце

заключаць дамовы з іншымі краінамі на ўмовах, якія мы можам выканаць, а не на тых, па якіх мы павінны распрадаваць свае набыткі. Я не думаю, што тыя, хто зараз кіруе краінай, адчуваюць сябе гаспадарамі на гэтай зямлі. Адсюль у нас гэтыя аўтазакі, адсюль у нас гэтая міліцыя бясконцая, што страшна. Але іншай сілы, якая тут будзе гаспадарыць, пакуль што няма. Яна пакуль яшчэ расце.



# ПАВЕЛ УСАЎ

## «БЕЛАРУСЬ — ГЭТА ТЫ, А ТЫ — ГЭТА БЕЛАРУСЬ» — ТАКОЙ ІДЭЯЙ МУСІМ ЖЫЦЬ»

euroradio·fm

Гутарылі Зміцер Лукашук, Максім Гаруноў
Фота Еўрарадыё

З.Л. Вітаю ўсіх слухачоў, наш сённяшні госць — кіраўнік Варшаўскага цэнтра палітычнага аналізу і прагнозу, доктар палітычных навук, палітычны аналітык і аглядальнік Павел Усаў. Добры дзень, Павел.

П.У. Добры дзень.

З.Л. Павел, а ці варта з палітычным аглядальнікам гаварыць на тэму нацыянальнай ідэі?

П.У. Калі мы кажам пра кантэкст беларускай палітыкі, то безумоўна. У Беларусі з розных прычын ідзе палітычная барацьба супрацьлеглых праектаў будучыні і у кожнага ёсць шанец перамагчы. Ёсць савецкі праект, які насаджваецца беларускай уладай. Ёсць праект так званага «расейскага свету», які з'явіўся пасля 2014 года і вельмі агрэсіўна ўводзіцца ў беларускую інфармацыйную прастору. Ёсць праект грамадзянскай супольнасці, якая звязвае развіццё краіны з дэмакратыяй.

З.Л. Беларусы, як нацыя, сфармаваліся?

П.У. Канчатковага афармлення пакуль не адбылося. Гэта бачна па стаўленні грамадзян да незалежнасці. У краінах, дзе нацыя ўжо аформілася, — Польшча, Эстонія, Літва — немагчымае пытанне: «А ці патрэбна нам незалежнасць?» У Польшчы і Літве сітуацыя можа быць якой заўгодна складанай, але ніхто не будзе гаварыць што вось нагода, каб пазбавіцца суверэнітэту. У нас жа, мяркуючы па сацыялагічных апытаннях, у значнай групы грамадзян абсалютна размытыя прадстаўлення аб каштоўнасці незалежнасці. Частка грамадзян выказваецца за інтэграцыю з Расеяй. Але мне здаецца, гэта не зусім іх віна. Сярэднестатыстычны беларус − кансумент ідэй, ён не фарміруе ідэі. Яго неразуменне звязанае з тым, што на працягу 25-гадовага кіравання Лукашэнкі не была сфарміраваная нацыянальная палітыка дзяржавы. За 25 год можна было б вярнуць беларусаў да беларускай мовы, культуры, гісторыі. Да разумення, што мы былі часткай агульнай цывілізацыі Вялікага Княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай. На жаль, 25 гадоў гэта ўсе адкідвалася дзеля савецкага погляду на беларускую дзяржаўнасць. У выніку стварылася агульная дэзарыентацыя.

М.Г. Если беларусы не очень лояльны Беларуси, то может быть они Лукашенко?

П.У. Я б не сказаў, што беларусы лаяльныя да Лукашэнкі. Лаяльнасць да яго была як да гаспадара, які больш-менш справядліва пераразмяркоўвае эканамічныя рэсурсы. Ён ніколі не генераваў ідэй — ні палітычных, ні культурных, ні дзяржаўных. Лукашэнка заўсёды прывязваў Беларусь да расейскага свету: «вось мы — частка вялікай дзяржавы», «Савецкі Саюз — наша ўсе», «давайце вернемся да СССР», «беларусы — гэта рускія са знакам якасці». Гэта такое механічнае паўтарэнне таго, што лічылася правільным у познім Савецкім Саюзе. Ягоная прырода, ягоная натура — яна антыбеларуская, ён не можа яе перафарматаваць, і вакол яго няма асоб, якія маглі б паўплываць на змены ягоных прэферэнцый. Я думаю, што ён такім застанецца да самай смерці.

З.Л. У Лукашэнкі было некалькі спроб напісаць нацыянальную ідэю, і ні адна не пайшла ў народ. Чаму?

П.У. Навошта нейкая новая «канцэптуальная канцэпцыя», калі ўсе неабходныя элементы ў нас ужо ёсць? У нас ёсць і свае бацькі-заснавальнікі, і пісьменнікі, і літаратура, і інтэлектуалы, і свая ўнікальная мова. Я ўпэўнены, што ў нашай сітуацыі не трэба складаць новых канцэпцый. Трэба проста не перашкаджаць развіццю таго, што ёсць. Праблема ў тым, што з прыходам Лукашэнкі ў 1994 годзе ў нас пачалося мэтанакіраванае стварэнне ўсялякіх перашкод, барацьба з сімваламі беларускай нацыі. Напрыклад, змена герба і сцягу ў 1995 годзе. Дзяржава свядома ставіць рэпрэсіўна-адміністратыўныя бар'еры на шляху натуральнага развіцця нашай нацыянальнай свядомасці. Вось простае пытанне: што перашкаджае Лукашэнку размаўляюць па-беларуску? Колькі міністраў у нас размаўляе па-беларуску?

З.Л. Вось вы сказалі — мова, а што яшчэ?

П.У. Зноў жа адзначу, што такое пытанне у сфарміраваных дзяржавах не задаюць. Такія пытанні там даўным-даўно вырашаныя, і пра іх не спрачаюцца. Акрамя мовы, важная гісторыя, усведамленне

сваёй гістарычнай спадчыны. Таксама важная аўтакефалія сваёй праваслаўнай царквы і яшчэ шмат-шмат чаго.

М.Г. А что, если Лукашенко прав, и девяти с половиной миллионам беларусов в самом деле не нужно ничего этого?

П.У. Я б не сказаў, што дзевяці з паловай мільёнам. Значна меншай частцы. Нацыянальны дыскурс і нацыянальная канцэпцыя ў пэўнай ступені ў нас ўсё ж такі ўкаранілася, але цяжка дакладна сказаць, у якой колькасці насельніцтва. Беларускі народ — не tabula rasa, гэта таксама важна разумець.

З.Л. І нам зусім нічога не трэба прыдумляць, я вас правільна зразумеў?

П.У. Увесь інструментарый у нас ёсць. Праблема ў тым, што ўлады імкнуліся яго дыскрэдытаваць, атаясамліваючы беларускую нацыянальную павестку з нацызмам, фашызмам і таму падобным.

З.Л. І калі заўтра здарыцца цуд і ўлада зменіцца на больш нацыянальна арыентаваную, то пытанне нацыянальнай ідэі само неяк устаканіцца?

П.У. Я думаю, што так. Канечне, будзе пэўная канфрантацыя. Частка насельніцтва будзе даволі негатыўна ўспрымаць нацыянальнае адраджэнне, але у цэлым усё будзе ціха і гладка. Безумоўна, гвалтоўна рабіць нічога не трэба. Праз адукацыю можна хутка папулярызаваць беларускую мову, беларускую культуру, зрабіць так, каб грамада зразумела, што гэта іх мова, гэта іх культура.

З.Л. Вас зараз абвінавацяць у нацыяналізме, прычым такім ваяўнічым, і скажуць: «Вы забываецеся пра значную колькасць жыхароў Беларусі, грамадзян Беларусі: палякаў, літоўцаў, украінцаў, рускіх».

П.У. Ніхто не будзе навязваць беларускую мову як адзіную мову для ўсіх. Зараз большасць этнічных беларусаў пазбаўленыя магчымасці карыстацца сваёй мовай. Як толькі нехта пачынае карыстацца беларускай мовай нават у крамах, яго адразу абвінавачваюць у фашызме,

але гэта ж абсурд. Гэта кажа пра тое, што з галовамі беларусаў штосьці ненармальна. Калі расейская мова ўспрымацца як адзіная мова, якой трэба карыстацца ў Беларусі, гэта відавочна ненармальна.

З.Л. Як вы бачыце будучыню рускай мовы ў Беларусі?

П.У. На дадзены момант, расейская мова — гэта важны элемент агрэсіўнай ідэалогіі і інструмент інфармацыйнай вайны, і стаўленне да яе адпаведнае. Але так будзе не заўсёды, я думаю. Калі ў дзевяностых гадах я ўпершыню прыехаў у Літву і намагаўся размаўляць з літоўцамі расейскай мовай, на мяне глядзелі як на ворага народа. Я тады яшчэ быў школьнікам, не ведаў літоўскай, размаўляў па-расейку і ў крамах мяне не хацелі абслугоўваць. У Польшчы ў той час было таксама вельмі асцярожнае стаўленне да тых, хто размаўляе па-расейску. Калі я зараз прыязджаю ў Літву і размаўляю па-расейску, да мяне ставяцца абсалютна нармальна. Расейская мова ў Літве ужо ня нясе пагрозы, не звязаная з элементамі інфармацыйнай вайны. Думаю, нас чакае нешта падобнае.

З.Л. Нацыянальная ідэя ад Паўла Усава, у адпаведнасці з якой ён жыве і якую хацеў бы перадаць суайчыннікам?

П.У. Нацыянальная ідэя — гэта, перш за ўсё прыналежнасць да нацыі і разуменне таго, што ты частка гэтай нацыі, што Беларусь — гэта ты, і ты — гэта Беларусь.



# МАКСІМ БАГДАНОВІЧ

## «БЕЛАРУСЬ МУСІЦЬ СТАЦЬ КРАІНАЙ, ДЗЕ ТАБЕ НЕ ПЕРАШКАДЖАЮЦЬ ЖЫЦЬ»

euroradio.fm

Гутарылі Зміцер Лукашук, Максім Гаруноў
Фота Еўрарадыё

З.Л. Вітаю ўсіх слухачоў, наш сённяшні госць — Максім Багдановіч, які скончыў беларускамоўную мінскую гімназію нумар чатыры і адразу паступіў у Гарвард. Добры дзень, Максім.

М.Б. Дзень добры.

З.Л. Мы пачнем з самага галоўнага пытання. Табе сямнаццаць гадоў, ты свабодна гаворыш па-беларуску. У Гарвардзе, дзе ты атрымліваеш адукацыю, ужываецца англійская мова. Тут, у Беларусі, людзі ў асноўным гавораць на рускай мове. Калі ты вось зараз выйдзеш на вуліцу, хутчэй за ўсё ты не пачуеш беларускай. Маё пытанне гучыць так: навошта табе беларуская мова?

М.Б. Ёсць некалькі аргументаў. Па-першае, беларуская мова ўнікальная. У гарвардскім кампусе, здаецца, ніхто акрамя мяне па-беларуску не размаўляе. Можа, знойдзецца нехта ў Дэпартаменце славянскіх моў, але гэта наўрад. Па-другое, мяне завуць Максім Багдановіч. Маючы такое імя, не размаўляць па-беларуску — гэта нейкае блюзнерства. Ну, і мне проста падабаецца размаўляць па-беларуску, гэта дае мне асалоду.

М.Г. А вам иногда не кажется, что с вашим таким особым отношением к беларускому языку вы в некотором отношении фрик и чудак?

М.Б. Так, але я магу растлумачыць, чаму я фрык, і я магу растлумачыць, чаму я не фрык. Чаму я фрык? Таму што я размаўляю па-беларуску. Я не ведаю, якая статыстыка, але зразумела, што далёка не ўсе беларусы вось так ставяцца да беларускай мовы. Акрамя таго, не ведаю, колькі ўвогуле беларусаў навучаецца ў амерыканскіх універсітэтах. У Гарвардзе ўсяго два. Таму беларускамоўны студэнт Гарварда — гэта больш падобна на статыстычную аберацыю і ў гэтым сэнсе робіць мяне фрыкам. Цяпер чаму я не фрык? Таму што Гарвард заахвочвае мяне быць унікальным і паказваць гэтую ўнікальнасць усім. Людзі цікавяцца тым, што ўнікальнае, што рэдкае, што незвычайнае. Ва ўніверсітэце, напрыклад, людзі ведаюць, дзе знаходзіцца Беларусь, ведаюць, якая яе сталіца. Некаторыя ведаюць пра наш палітычны рэжым і нават ведаюць, хто такі Лукашэнка, што мяне ўпершыню, прызнацца, вельмі здзівіла. Мне здаецца, менавіта такое стаўленне да асаблівасці з'яўляецца адной з галоўных прычын таго, што Амерыка, яе сістэма адукацыі, квітнее. З дваццаці топавых універсітэтаў свету шаснаццаць заўсёды будуць амерыканскія: Ель, Прынстан і гэтак далей.

М.Г. Гарвард мотивирует вас быть беларусом?

М.Б. Універсітэт ухваляе асаблівасць і непадабенства да іншых. На кожнай калектыўнай фатаграфіі хтосьці будзе ў хіджабе, хтосьці белы, хтосьці чорны, хтосьці зялёны, і ніхто не саромеецца. Усе рады, што яны такія асаблівыя. Кіраўніцтва наогул хоча, каб мы, студэнты, адзін з адным мяняліся досведам. Я жыў у адным пакоі з чалавекам, чые бацькі зарабляюць больш за мільён даляраў у год. Я пабачыў, што такое быць амерыканскім вышэйшым класам, яны пабачылі, што такое паходзіць з усходнееўрапейскай краіны. І вось гэта і ёсць асноўная мэта маёй адукацыі. Не ў тым, што я прыходжу на лекцыю і нейкі выдатны прафесар нешта мне распавядае пра фізіку. Гэта важна, але, мне здаецца, не самае галоўнае. Самае галоўнае — тое, што калі я стасуюся з кімсьці, з кім заўгодна, у мяне пашыраецца кругагляд.

М.Г. И вы, как настоящий беларус, быстро приспособились к другими правилам. Вот в Москве, в МГУ имени Ломоносова, беларусы обычно стараются не выделяться, а в вашем университете всё наоборот.

З.Л. Хутка адаптавацца да новага асяроддзя — гэта такая вядомая беларуская рыса, не бачу ў ёй нічога дрэннага. Проста трэба зразумець, што калі беларус едзе ў Стэнфард, ці ў Оксфард, ці яшчэ ў які-небудзь замежны ўніверсітэт, то яго там будуць заахвочваць цікавіцца сваёй асаблівасцю, падштурхоўваць да адрознення. Ён пачне капацца, шукаць сваю ідэнтычнасць, паказваць сваю беларускасць. Магчыма, як вы кажыце, у Маскве асяроддзе працуе наадварот.

З.Л. Мы на сёння ў Беларусі маем сітуацыю, калі нават беларускамоўныя беларусы прыходзяць у краму і саромеюцца сказаць прадавачцы нешта па-беларуску. Шмат хто кажа: «Ну, вось мне падабаецца беларуская мова, але я саромеюся гаварыць, таму што буду рабіць памылкі». Што нам з гэтым рабіць?

М.Б. Мне здаецца, што ў гэтай сітуацыі вінаватая не толькі дзяржава, хоць толькі яе звычайна і вінавацяць. У мяне ёсць адчуванне, што ёсць віна і ў грамадства, што мы самі вінаватыя. Часам ёсць адчуванне, што кам'юніці беларускамоўных не хоча, каб беларуская мова і беларускасць пашыраліся. Здаецца, што частка беларускамоўнай супольнасці звыкла быць ізаляванай і хоча падтрымліваць кшталту «манаполію» на беларускасць.

Гэта відаць з таго, як часам ставяцца да памылак, якія дапускае чалавек, калі ён пачынае гаварыць па-беларуску. Не ўсе беларускамоўныя дапамогуць яму, а часам нават груба і абразліва папракнуць: «Спачатку мову вывучы». Калі мы хочам, каб на беларускай мове пачалі размаўляць больш, трэба перастаць крыўдзіць людзей і звяртаць увагу на памылкі. Як спадар Трусаў кажа, «лупіце на трасянцы»

М.Г. А в Гарварде отношение к ошибкам какое?

М.Б. Прафесар можа выйсці да дошкі, зрабіць памылку і яму скажуць: «Ой, вы там «перформанс» не так напісалі». − «Ой, прабачце». Ён проста  выправіць, і ўсё. Гэта нармальна, нават калі гэта прафесар англійскай мовы і ў яго можа быць некалькі ўзнагарод. Мне задаецца, што славянскія культуры маўлення ў цэлым не вельмі талерантныя да памылак. Столькі год мяне ў школе вучылі пісаць у адпаведнасці з правіламі: граматыка, пунктуацыя, гэтак далей. Але навошта яны мне? Па праўдзе кажучы, начхаць я хацеў на пунктуацыю. У тэксце мне важная думка, а не правільная пунктуацыя. Да таго часу, пакуль я разумею, пра што піша аўтар, мне ўсё роўна, як ён карыстаецца коскамі. Мне здаецца, было б лепш, каб найперш у школах вучылі як проста і зразумела выказваць свае думкі, а потым, ці паралельна, як гэтыя думкі аформіць. Я аб гэтым падумаў мінулым летам, калі за тры дні пісаў тэставае эсэ для ўніверсітэта. Трэба было вызначыць мой узровень пісьма і параіць адпаведны курс англійскай мовы. Заданне было − прыдумаць і ясна выказаць свой аргумент, абапіраючыся на тры акадэмічныя тэксты, які яны мне даслалі. Для мяне гэта быў стрэс. Мяне гэтаму не вучылі. Мяне навучылі, дзе правільна ставіць коскі, і распавялі пра пятнаццаць кейсаў для працяжніка — дзе ён трэба, дзе не.

З.Л. Вось на дадзены момант як гучыць ваша нацыянальная ідэя для Беларусі?

М.Б. Напэўна, не ўся ідэя, але яе найважнейшая, з майго пункту гледжання, частка: каб нашы людзі, каб мы ўсе разам перасталі думаць, што скажуць суседзі, сваякі, мінакі. Быць крыху амерыканцам. У Штатах чалавек, умоўна кажучы, можа голы выйсці на вуліцу, гучна крычаць што-небудзь пра Трампа, і ўсім будзе пляваць. Я першы час вельмі здзіўляўся, калі назіраў падобнае. Два знаёмыя беларускія экспаты, якія даўным-даўно з’ехалі, распавялі гісторыю са свайго досведу. Гэта прыблізна 1980 год,

Нью-Ёрк, вечар, яны разам выйшлі на шпацыр. Нехта перад імі ідзе па вуліцы і выкінуў паперку ад марозіва. Не ў сметніцу, а проста кінуў сабе пад ногі і пайшоў далей. Яны ўбачылі і адразу падумалі: а хто ім дазволіў гэта выкінуць? Вось такое беларускае мысленне: а хто ім дазволіў? Не «а хто ім забараніў», а «хто ім дазволіў». Мне надзвычайна падабаецца гэты прыклад. Ён вельмі характэрны. У нас у любой сітуацыі першай рэакцыяй будзе: «а хто дазволіў?» А ў амерыканцаў зусім наадварот: «а хто мне забараніў, а?» Мне ніхто не забараняе — хачу і выкідваю. Гэта добры прыклад іншай парадыгмы, але я ўсё ж такі супраць таго, каб выкідваць смецце сабе пад ногі. Мне падабаецца такая свабода мыслення і дзеяння, а не смецце пад нагамі.

З.Л. Нацыянальная ідэя Амерыкі — «раблю што хачу»?

М.Б. Раблю што хачу, пакуль я не перашкаджаю іншым людзям.

З.Л. І вы прапаноўваеце перанесці амерыканскую ідэю на беларускую рэчаіснасць?

М.Б. Да нейкай ступені, напэўна, так. Мне здаецца, такія змены былі б пазітыўнымі ў беларускім кантэксце. У Беларусі сёння паўсюль на білбордах можна ўбачыць лозунг «Квітней, родная Беларусь». Гучыць прыгожа, але не зусім ясна, у якім сэнсе «квітней». Хто квітней: нейкая дзяржава Беларусь ці кожны канкрэтны грамадзянін? Я думаю, што ідэя амерыканскай нацыі сапраўды ўдакладняе гэты лозунг. Я маю на ўвазе іх акцэнт на канкрэтным грамадзяніну і яго дабрабыце, а не нейкай абстрактнай «дзяржаве». Такім чынам, мне здаецца, адзін з такіх галоўных пунктаў іх праекта − гэта тое, што Амерыка − краіна, дзе «робяць грошы». Чаму «грошы»? Не таму, што я меркантыльны, а таму што гэта не ідэальны, але канкрэтны спосаб вымераць дабрабыт асобнага чалавека. Амерыканцы жывуць з адчуваннем, што эканамічны пірог бесперапынна расце, яго хопіць на кожнага, і можна рабіць грошы. Не зарабляць грошы, а менавіта рабіць грошы. Розніца адчувацца лепш па-англійску: «earn» супраць «make». «Earn», зарабляць — гэта залежаць ад кагосьці, быць камусьці абавязаным. А «make», рабіць — гэта самастойна, абапіраючыся на сябе, на свае сілы. Мне здаецца, Беларусь можа мець падобны дэвіз.

М.Г. Насколько я понимаю, Америка — это страна чудаков. Они туда съехались со всего света и живут по своим чудацким правилам. Вы вот, как

мы выяснили, тоже чудак, и вам там нравится. А вы уверены, что правила чудаков понравятся обычным беларусам, которые живут в Беларуси?

М.Б. Я не сацыёлаг, але сярод кола маіх стасункаў, ёсць вялізарны запыт на «менш дзяржавы». Разумееце, як я ўяўляю краіну ў будучыні? Мне хацелася б, каб у Мінску быў офіс «McKinsey & Company», каб гарвардскія студэнты ездзілі сюды на стажыроўкі. Каб у Бярэсці быў філіял «Goldman Sachs», а ў Баранавічах офіс «Google». І супрацоўнікі гэтых кампаній былі б грамадзянамі Беларусі. Калі я размаўляю аб гэтым з людзьмі, якія мяне разумеюць, у мяне робіцца адчуванне: блін, усе такія, як я. Нядаўна раніцай ехаў у таксі, распавядаў пра свае ідэі кіроўцу, і ён быў згодны. Яму таксама хацелася б больш свабоды і менш дзяржавы. Ні адзін пункт не выклікаў у яго пытанняў. Такім чынам, я не адзін такі. Можа быць і «чудак», але не ва ўсім. Я не бачу сябе адзінокім. Я бачу вакол сябе людзей, якія аднолькава са мной мараць пра будучыню.

М.Г. Вы считаете, что вы первая ласточка?

М.Б. Не самая першая, канешне, але камусьці трэба пачынаць грызці гэты кактус. Дарэчы, у гэтым годзе яшчэ адзін хлопчык трапіў у Гарвард. Сем год не было ніякіх беларусаў, потым я паступіў, на наступны год яшчэ адзін. І я дапамагаю тым, хто збіраецца паступаць, дзялюся досведам.

З.Л. Пасля Гарварда збіраецеся вяртацца на радзіму?

М.Б. Я хачу прынесці карысць сваёй радзіме. Я магу вярнуцца адразу пасля Гарварда, і тады я не змагу прынесці шмат карысці. Я магу вярнуцца праз некалькі год, пасля працы ў міжнароднай кампаніі, ці стварыўшы сваю, маючы досвед, грошы, мо нават і вядомасць. Зразумела, што ў гэтым выпадку карысці ад мяне будзе значна больш. І я хачу дапамагаць людзям. У тым ліку і таму што я атрымліваю задавальненне ад таго, што я магу дапамагчы. Мне здаецца, гэта нармальна, што дапамога бліжняму радуе.

З.Л. Канчатковая і ўстояная нацыянальная ідэя ад Максіма Багдановіча?

М.Б. Краіна, дзе табе не перашкаджаюць развівацца, рабіць грошы, мець сям'ю. Вось як у Адама Сміта ці Мілтана Фрыдмана.



# ЮРЫЙ ДРАКАХРУСТ

## «ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ» – НАША НАЦІДЭЯ, І Ў ЯЕ ФАНТАСТЫЧНАЯ ВЫЖЫВАЛЬНАСЦЬ»

euroradio·fm

Гутарылі Зміцер Лукашук, Максім Гаруноў
Фота Еўрарадыё

З.Л. Вітаю ўсіх слухачоў, сёння мы шукаем нацыянальную ідэю з палітычным аналітыкам, публіцыстам, аглядальнікам радыё «Свабода» Юрыем Дракахрустам. Добры дзень, спадар Юрый.

Ю.Д. Добры дзень.

З.Л. Што гэта такое ўвогуле — нацыянальная ідэя?» Вось у вас ёсць ваша асабістая фармулёўка?

Ю.Д. У мяне ёсць разуменне, і яно грунтуецца на формуле французскага філосафа Эрнеста Рэнана. Ён сцвярджаў, што нацыя — гэта не супольная мова, не супольная тэрыторыя, не супольная кроў і не супольная культура. Нацыя — гэта супольны лёс. І другое яго вызначэнне, што нацыя — гэта штодзённы плебісцыт пра тое, ці застаемся мы разам. Мне здаецца, у гэтых двух тэзісах вельмі важныя некалькі рэчаў. Першае, што мова, культура, тэрыторыя, кроў — гэта ўмовы, якія могуць забяспечваць адзінства, але насамрэч нацыя — гэта адзінства само по сабе. Можна быць адзінымі без гэтых чыннікаў і можна быць не адзінымі з гэтымі чыннікамі.

М.Г. И что сегодня объединяет беларусов?

Ю.Д. Мноства малых і вялікіх супольных гісторый. Напрыклад, ёсць такая рэч, як спрэчкі беларусаў з расіянамі ў сацыяльных сетках пра «Беларусь — Белоруссия». Да 91-га года ў рускім маўленні гэтую краіну называлі «Белоруссия». Так было прынята. Прайшло 20 гадоў, і калі ў Беларусі чалавек гаворыць «Белоруссия», усе адразу разумеюць, што ён з Расіі прыехаў. Гэта змянілася кардынальна, ва ўсім беларускім грамадстве, ад апошняга пастуха да самага верху. Змянілася ў дакладнасці з фармулёўкай Эрнеста Рэнана. На маёй памяці быў выпадак, калі беларускі даследчы цэнтр па заказе адміністрацыі прэзідэнта павінен быў напісаць працу пра Беларусь. Самі працаваць яны не хацелі і заказалі расіяніну. Большую частку грошай яны пакінулі сабе, нешта далі яму, і калі ён праслаў ім сваю работу, яны проста пераслалі яе ў адміністрацыю. Там адкрываюць і чытаюць: «Белоруссия, Белоруссия, Белоруссия. Гэта хто пісаў?» Ну,

усё і раскрылася. Мне было цікава, што гэта была рэакцыя людзей з адміністрацыі прэзідэнта, а не з сядзібы БНФ і не з «Еўрарадыё». Іх рэакцыя была тоесная рэакцыі самых простых людзей на Фэйсбуку: «Блін, што такое? Якая «Белоруссия»? У нас так не гавораць, у нас так не прынята».

М.Г. А что сегодня разъединяет беларусов?

Ю.Д. Думаю, сюжэтаў пра раз'яднанне ў нас няма. Ёсць шмат сюжэтаў, якія сведчаць пра адзінства ў негатыўным плане. Нашы праблемы не раз'ядноўваюць нас, а падкрэсліваюць нашу еднасьць, як і ў формуле Рэнана. Тэарэтычна, мы з вамі можам разважаць, што вось жывуць людзі ў Гомельскай вобласці, пацярпелыя ад Чарнобыля. Гомельская вобласць мяжуе з Расіяй. Яны маглі б сказаць: «Нашто нам гэты хцівы, сквапны Мінск? Нашто нам гэтая Гарадзеншчына? Там нацыяналісты, каталікі. Вось побач брацкая, любімая, родная Расія. Мы ж рускія людзі». Такое тэарэтычна магло б быць? Магло.

З.Л. А вы думаеце, такога няма?

Ю.Д. Не. Канешне, не. Я не ўяўляю сабе сюжэт, каб таксіст у Гомелі, у Віцебску, у Берасці сказаў: «А што мне Лукашэнка, ён жа бульбаш, а мы іншыя». Хай гэты таксіст будзе сто разоў рускі, ці паляк, ці габрэй, у Беларусі так нельга гаварыць, гэта табу.

М.Г. Хотите сказать, что у беларусов монолитное общество, без трещин внутри?

Ю.Д. Так, я хачу гэта сказаць. У Малдовы было Прыднястроўе, у Украіны быў Крым, а ў нас нічога падобнага няма. Памятаю, у пачатку 90-х у нас была размова пра Яцвяжскую аўтаномію. Я тады рабіў апытанне сярод беларускіх палітыкаў, як яны ставяцца да магчымасці Яцвяжскай аўтаноміі. Ведаеце, які быў адказ і ў нацыяналістаў, і ў камуністаў? Во ім! (рашуча паказвае Гарунову дулю).



М.Г. Насколько я понимаю, беларусы не собирались и не договаривались

о том, что они хотят быть вместе, хотят быть нацией. Была игра случая. В конце прошлого века был неожиданный распад СССР, а до того был неожиданный распад империи Романовых, и в результате появилась Беларусь.

Ю.Д. Аднак усё ж такі, рада БНР была, не? Пэўныя інтэнцыі да незалежнасці ў нашым грамадстве былі і адмаўляць гэтага нельга. Што тычыцца вашай думкі пра гульню выпадку, то гэта, безумоўна, так. Але, слухайце, ці магло б быць так, што напрыклад, Баварыя была б асобнай дзяржавай?

М.Г. Думаю, да.

Ю.Д. Вось. Цалкам магло б быць. Усю сваю гісторыю яны былі асобным княствам. Той факт, што яны сталі часткай Германіі — гэта вынік выйгрышу Прусіі ў вайне з Аўстрыяй. Калі б Прусія прайграла, ці калі б вынікі вайны звялі ў нічыю, цалкам імаверна, што сёння існавала б незалежная Баварыя. Або выпадак Аўстрыі. Нам сёння цяжка паверыць, што яе магло б і не быць, але нават аўстрыйскія сацыял-дэмакраты пасля Другой сусветнай вайны казалі, што Гітлеры прыходзяць і сыходзяць, а адзінства нямецкай нацыі застаецца. Яны гатовыя былі аб'яднацца з Германіяй, вялі перамовы, але саюзнікі не далі ім гэтага зрабіць. Абставіны маглі б скласціся так, што Аўстрыя магла б быць часткай вялікай раздольнай Нямеччыны. Вы ж, спадзяюся, не лічыце, што Беларусь чымсьці прынцыпова адрозніваецца ад Баварыі і Аўстрыі?

М.Г. Не считаю, но согласитесь, что Беларуси как-то уж очень сильно повезло на пути к суверенитету.

Ю.Д. Слухайце, вось што перашкаджала ў дваццатыя гады і пазней далучыць Беларускую ССР да РСФСР? Дорога была свабоднай, але штосьці перашкаджала. Я ў свой час напісаў артыкул, які назваў «Беларуская народная рэспубліка як усмешка Чэшырскага ката». Я там разважаў, што вось у 1918 годзе паўстала дэмакратычная Беларуская рэспубліка. Прыходзяць бальшавікі, усіх давяць, але потым бяруць на

ўзбраенне ідэю тых, каго яны толькі што расціснулі і ствараюць рэспубліку. Без буржуазнага нацыяналізму, канешне, але ж рэспубліка з поўным пакетам міжнародных дакументаў. Потым бальшавікі ў Курапатах вынішчаюць усю нашу інтэлігенцыю, але праз нейкі час інтэлігенцыя нараджаецца наноў, нарастае нібыта з нічога. А потым адбываецца абсалютна фантастычная сітуацыя, чысты хімічны эксперымент: на чале нацыянальнай дзяржавы апынаецца чалавек з абсалютна імперскімі мазгамі, Аляксандр Лукашэнка, які казаў: «Я папаўзу на каленях да Расіі», «мы рускія людзі». І што? Сталі мы часткай Расіі? Не. Зноў штосьці перашкаджае. Калі вы хочаце ведаць маё меркаванне, то для мяне наш шлях да суверэнітэту кажа пра тое, што наша незалежнасць — гэта тое, чаго немагчыма пазбыцца, немагчыма «разбачыць». Чаму? Таму што яна аб'ектыўна ёсць.

З.Л. Я б вярнуўся да нацыянальнай ідэі. Сыходзячы з вашых слоў, яе можна коратка сфармуляваць: «Беларусь, а не Белоруссия»?

Ю.Д. Вельмі няўдалая фармулёўка, на мой погляд. Навошта нам лішні раз спрачацца па пытанні, якое мы для сябе ўжо вырашылі?

М.Г. Я услышал лозунг: «Беларусь есть».

Ю.Д. Ведаеце, апошнія дваццаць сем гадоў беларусы служаць у сваім войску. Беларусы збіраюць свае падаткі і карыстаюцца сваімі грашыма. Расійскія турысты прыходзяць у краму са сваімі рублямі, а прадавачкі ім: а чего ты мне суёшь свои деньги? Ты ці нашы суй, ці баксы.

М.Г. По-моему, вы опять говорите о признаках единства.

Ю.Д. Пра іх, так. Проста хачу дадаць, што акрамя ўжо сказанага, я іх бачу, што ў выніках апытання: «Як вы ставіцеся да тых, хто ваюе на баку Украіны?» і «Як вы ставіцеся да тых, хто ваюе на баку ДНР?» — у нас па 5–6 адсоткаў за адных і за другіх. 90 адсоткаў адказалі: «Не, нашым няма чаго там рабіць». Магчыма, украінцам гэта не спадабалася. Магчыма, расійцам не спадабалася. Але для мяне гэта паказчык таго, што беларусы сапраўды нацыя: мы аднолькава бачым свае інтарэсы. Гэта вельмі важная рэч.

З.Л. Ну, з нацыяй разабраліся, яна ўсё ж такі ёсць. А лозунг які? «Беларусь ёсць»?

Ю.Д. Увогуле, мяне задавальняе, але я б не пагадзіўся з тым, што беларусам так ужо патрэбен лозунг. Ёсць такі палітолаг Юрый Шаўцоў. Ён добра сказаў, што беларускае нацыянальнае не маніфестуецца, а праяўляецца. У беларусаў не прынята прызнавацца ў сваіх патрыятычных пачуццях, у сваёй любові да Беларусі. Наогул, як мы ўяўляем сябе беларусаў? Спалоханыя, адасобленыя, не ўдзельнічаюць у палітыцы, ахвотна эмігруюць, імгненна асімілююцца, так? Пару гадоў таму расійскія сацыёлагі зрабілі велізарнае апытанне сваіх мігрантаў. Здаецца, 30 адсоткаў беларусаў, якія ў іх там працуюць, хацелі б застацца ў Расіі. Па армянах – хацелі б застацца 80 адсоткаў, па ўкраінцах — 66 адсоткаў. Нас цягне дамой. Цягне дамой. Вот гэтага беларуса спытай — чаму?

М.Г. Почему?

Ю.Д. Любоў да радзімы, я думаю. Лічбы кажуць пра тое, што ў Беларусі яна ёсць. Але ў адрозненне ад украінца, беларус саромеецца прызнавацца ў высакародных матывах. Нават калі яны ў яго ёсць. У нас так нельга, так не прынята: гэта будзе нясціпла.

З.Л. Лозунг ад Юрыя Дракахруста мы можам сфармуляваць?

Ю.Д. Калі вам ужо так моцна трэба, то «Жыве Беларусь!», канешне. Што я буду прыдумляць? Да мяне ўсё прыдумалі.



# АНДРЭЙ КАЗАКЕВІЧ

## «МАЯ НАЦІДЭЯ — СТВАРЭННЕ ПАЗІТЫЎНАГА ВОБРАЗУ БЕЛАРУСІ»

euroradio·fm

Гутарылі Зміцер Лукашук, Максім Гаруноў
Фота Еўрарадыё

З.Л. Вітаю ўсіх слухачоў «Еўрарадыё». Наш сённяшні госць — дырэктар інстытута палітычных даследаванняў «Палітычная сфера» Андрэй Казакевіч, які таксама з'яўляецца заснавальнікам і галоўным ініцыятарам правядзення Міжнароднага кангрэсу даследчыкаў Беларусі. Добры дзень, Андрэй.

А.К. Добры дзень.

З.Л. Андрэй, што такое нацыянальная ідэя?

А.К. Уяўленне палітычнай супольнасці, у якой ёсць межы і інтарэсы, аб самой сабе.

З.Л. А для беларусаў яна патрэбная на сённяшні дзень?

А.К. Крыху парадаксальная пастаноўка пытання. Нацыянальная ідэя — гэта неабходны атрыбут любой нацыянальнай палітычнай супольнасці, якая мае сваю ўласную дзяржаву. Калі вобразу беларусаў няма, тады няма і супольнасці беларусаў, няма і беларусаў. Без вобразу ёсць проста людзі, якія з'яўляюцца часткай нейкай іншай нацыі.

З.Л. А якім вы бачыце вобраз нашай беларускай нацыі?

А.К. Можна пачынаць з таго, што беларус, гэта той, хто жыве ў Беларусі. Ці той, хто мае беларускі пашпарт. Ці «рускі са знакам якасці», як кажа Лукашэнка. Ці чалавек, які мае нейкую гістарычную повязь з Мірскім замкам. Гэта ўсё ў выніку і фармуе тое, што з'яўляецца нацыянальным вобразам, нацыянальнай ідэяй. Гэта не нейкая адна ікона, на якую ўсе моляцца, а разнастайныя практыкі, якія дазваляюць беларусу адрозніваць сябе ад іншых народаў, ад небеларусаў.

М.Г. Беларусы получили суверенитет почти без борьбы. Может быть им не нужна национальная повестка?

А.К. Можна, канешне. Але рызыка ў тым, што у гэтым выпадку ты не сам вызначаеш свой лёс, і гэта мае свой кошт. Беларусам пашанцавала амаль

без намаганняў атрымаць суверэнітэт, прызнаны ўсім светам. Але, напрыклад, калі мы кажам пра русіфікацыю, то яна у нас прайшла вельмі глыбока. Беларуская мова знаходзіцца ў найцяжэйшым становішчы, і гэта адна з плат за тое, што мы не змагаліся за свой суверэнітэт. Але не толькі мы такія. І іншыя народы таксама не заўсёды змагаліся. Палякі падымалі паўстанне за паўстаннем, а славакі гэтага не рабілі, але атрымалі дзяржаўнасць, як і палякі. Калі згадаць канец 80-х — пачатак 90-х, то у эстонцаў і латышоў была такая прымаўка, што мы будзем змагацца за сваю незалежнасць да апошняга літоўца. Літоўцы будуць класціся пад савецкія танкі, а мы потым мірненька ўсё атрымаем. Ну, і ў цэлым, я думаю што для беларусаў гэта вельмі натуральна — чакаць. Не нарывацца, вельмі асцярожна да гэтага падыходзіць. Часам гэта працуе, хоць зноў жа, усё мае свой кошт.

М.Г. Но последние 100 лет беларусам в самом деле сильно везёт, разве нет?

А.К. Гэта відавочна, але справа не толькі ў шанцаванні. Калі ўявім сабе, што бальшавікі ў 1919 годзе далі б Беларусі статус не саюзнай рэспублікі, а аўтаномію ў складзе Расійскай Федэрацыі, зараз у нас сітуацыя была б як у рэспубліцы Карэліі. Было б пару тысяч беларусаў, якія размаўлялі б па-беларуску і ўвогуле разумелі б гэтую мову, мелі б беларускую ідэнтычнасць. З іншага боку, нельга ігнараваць той факт, што пэўная колькасць людзей працавала на незалежнасць, ахвяравала свой час і нават сваё жыццё. Нічога б не было без таго, калі б людзі з першай хвалі беларускага адраджэння не чакалі, не марылі, што калі-небудзь прыляціць чорны лебедзь і ў іх з’явіцца свая краіна на сваёй мове. Беларусы − не ўсе, але некаторыя − марылі аб сваёй краіне і ў выніку атрымалі статус дзяржаўнасці ў рамках камуністычнай імперыі. Гэта было не зусім тое, пра што ім марылася, але не так ужо і мала.

З.Л. Нацыянальная ідэя можа быць у выглядзе слогана?

А.К. Гэта пытанне з 19-га стагоддзя. У 19-ым стагоддзі лічылася, што мусіць быць маніфест, праграма, корпус літаратурных тэкстаў. Тады

было іншае грамадства, іншыя медыі. Я думаю, што ў наш час патрэбны акцэнт на эстэтыцы. Трэба казаць, што Беларусь, яе замкі, пушчы, паэзія, мастацкая літаратура, архітэктура маюць высокую эстэтычную каштоўнасць, што ў іх ёсць сваё абаянне. Тое самае і беларуская мова: яна не толькі спадчына, але і тое, што можа быць цікавым у тым ліку і для замежнікаў. Трэба зрабіць наша культурнае жыццё больш разнастайным, больш цікавым. Стаўка на разнастайнасць культурнага жыцця больш эфектыўная і больш адпавядае сучаснаму грамадству, чым пазіцыя біблейскага прарока, які нешта там адкрывае для насельніцтва.

З.Л. На пачатку дзевяностых гадоў мінулага стагоддзя з Адміністрацыі Прэзідэнта была замова на фармуляванне нацыянальнай ідэі, і так і не сфармулявалі. Чаму?

А.К. Была і яшчэ адна спроба стварэння ідэалогіі беларускай дзяржавы, запушчаная ў 2003 годзе. Там таксама ішлі па сцэнарыі з 19-га стагоддзя: напісаць 10 падручнікаў, правесці кола семінараў, вызначыць нейкую ідэю, ідэалогію нават, якая будзе цэментаваць усё беларускае грамадства. Былі накіраваны дзяржаўныя грошы. Эксперымент быў добры, узнікалі некаторыя ідэі, цікавыя для даследчыкаў, але не спрацавала. Я б не сказаў, што гэта ўсе трэба абсалютна скідваць, але вынік быў мінімальны. Грамадзянскія ініцыятывы, якія ішлі паралельна і якія былі ніяк не звязаныя з маніфестамі і лозунгамі, аказаліся значна больш эфектыўнымі і ўплывовымі на фарміраванне нацыянальнай беларускай ідэнтычнасці.

М.Г. Нужна ли Беларуси своя автокефальная православная церковь?

А.К. Гэта складанае палітычнае пытанне. Я лічу, што праваслаўная царква ў Беларусі мусіць быць аўтакефальнай. Ці мусяць зараз беларусы кінуцца рабіць аўтакефалію? Я сумняваюся. Трэба чакаць выпадку накшталт распаду Савецкага Саюза і, калі прыляціць чорны лебедзь, трэба будзе ўзяць аўтакефалію. Змагацца за яе, рабіць раскол, як ва Украіне, спараджаць дадатковыя канфлікты, я думаю, не варта. Найлепшай стратэгіяй для тых, хто ўключаны ў жыццё праваслаўнай супольнас-

ці, было б павелічэнне аўтаноміі беларускай праваслаўнай царквы. Не толькі адміністратыўнай, але і культурнай, духоўнай, асэнсавання свайго мінулага, сваёй гісторыі.

М.Г. А перевод богослужений на беларуский язык?

А.К. Так, гэта вельмі важна. Я разумею, што гэта не можа быць усеагульнай практыкай. Трэба разумець сучасную лінгвістычную сітуацыю. Ёсць рэгіёны, дзе людзі амаль не разумеюць беларускай мовы. Але я лічу, што трэба спрыяць пашырэнню выкарыстання беларускай мовы ў набажэнствах. Гэта вельмі важна і шмат бы дадало, нават не толькі з пункту гледжання ідэнтычнасці, але нават узбагачэння рэлігійнага жыцця ў Беларусі.

З.Л. Выбачайце, я зноў пра слоган. Няўжо зусім састарэла?

А.К. Я лічу, што прыдумаць адзін нейкі слоган — гэта клаўнада. Я не лічу, што ўвогуле слоганы згубілі сваю эфектыўнасць, але іх мусіць быць тысяча.

З.Л. Рэкламістка Юлія Ляшкевіч прапаноўвала мяняць слоган нацыянальнай ідэі кожны тыдзень.

А.К. Мяняць не трэба, яны мусяць існаваць паралельна. Некаторыя сыходзяць, некаторыя зноў нараджаюцца. Некаторыя маюць лакальнае значэнне, у межах пэўнага рэгіёна ці сацыяльнай групы, некаторыя – агульнанацыянальныя. Але зноў жа, не навязваць як нейкую такую кандовую канструкцыю. Я бачу іх як такую дынамічную сістэму, а не вызначаны набор.

З.Л. Паводле вас, нацыянальная ідэя на сёння — гэта такі аптымістычны набор з Беларусі мары.

А.К. Не, я б менш за ўсё хацеў, каб ён выглядаў як мроя, мара, утопія. Я думаю, што яна мусіць быць заземленай, будавацца на практычных рэчах, якія выканальныя ў будучыні. Пазітыўны вобраз праз супраць-

пастаўленне сябе да іншых, праз асэнсаванне свайго мінулага і праз нейкі аптымістычны погляд у будучыню.

М.Г. У левых есть лозунг: «будь реалистом, мечтай о невозможном», а в вашем случае — «будь практичным, мечтай о практичном»?

А.К. Я заходжу з правага боку, а не з левага. Як чалавек права-цэнтрысцкіх поглядаў, я вельмі падазрона стаўлюся да ўтопій і ўсякага роду мрояў. Я лічу, што будаваць на гэтым нешта сур'ёзнае не варта. Асабліва калі ты не вялікая нацыя. Лепш сыходзіць ад досведу, ад практыкі. Я б не хацеў, каб праект нашай будучыні быў пабудаваны на нейкай утопіі. Утопія, вяртаючыся да першапачатковага значэння гэтага слова — гэта месцы, якога няма, якое можа быць, а можа і не быць.

М.Г. Очень такое бюргерское мечтание, консервативное.

А.К. Не бюргерскае, не буржуазнае, але, так, я б сказаў, што гэта кансерватыўная стратэгія. Мы невялікая нацыя, мы не можам сабе дазволіць рызыкаваць. Нам трэба быць асцярожнымі.

З.Л. Але свой кавалак космасу мы заваюем?

А.К. Так. Не першымі туды паляцім, але ў другіх эшалонах дакладна.



# ВІНЦУК
# ВЯЧОРКА

## «БЫЦЬ ТВОРЦАМ ПРАСТОРЫ НЕВЯЛІКАЙ НАЦЫІ — ГЭТА ВЕЛІЗАРНЫ БЕНЕФІТ»

euroradio·fm

Гутарылі Зміцер Лукашук, Максім Гаруноў
Фота Еўрарадыё

З.Л. Вітаю ўсіх слухачоў «Еўрарадыё». Наш сённяшні госць — мовазнаўца, адзін са стваральнікаў БНФ, Вінцук Вячорка. Спадар Вінцук, калі верыць вашай біяграфіі на Вікіпедыі, то Вы займаецеся нацыянальным адраджэннем і нацыянальнай ідэяй з 1979 года.

В.В. Так, напэўна. Гадоў з 18 я ўдзельнічаю ў ініцыятывах, структурах, праектах, скіраваных на рэалізацыю гэтай ідэі. Праблема ў тым, што я практык, а не тэарэтык. Мне прасцей гаварыць прыкладамі, чым канцэптуальнымі абагульненнямі.

З.Л. Практыка нацыянальнай ідэі — што гэта?

В.В. Напрыклад, мы намагаліся зрабіць масток паміж пакаленнямі адраджэнцаў 1910-х, 1920-х і 1930-х гадоў і намі. Гэта было вельмі важна тады. Мы мала ведалі пра нашых бацькоў-заснавальнікаў, пра тых, хто пачынаў адраджэнне Беларусі, хто стаяў ля вытокаў. Савецкая цэнзура на ўсялякі выпадак хавала ад нас поўную карціну нашага нацыянальнага адраджэння. Мы стараліся яе аднавіць. У 70-х у нас быў праект вяртання беларускай эстэтыкі ў савецкі урбаністычны ландшафт. Мы, менская ўніверсітэцкая моладзь, вырашалі, што нам бракуе жывой прысутнасці эстэтычнай беларушчыны, прымальнай беларушчыны. На той момант у Беларусі была псеўдафарклорная музыка на савецкім радыё, а побач, у вёсках, была жывая культура аўтэнтычнага, акапэльнага спеву, былі рытуалы, абрады, купальныя, калядныя, гукальныя традыцыі. Мы, як маглі, вярталі гэта на гарадскія вуліцы.

З.Л. Вы спявалі народныя песні на вуліцы, я вас правільна зразумеў?

В.В. Так.

З.Л. І як людзі на вуліцы рэагавалі на вашы спевы?

В.В. На наша здзіўленне, быў нечакана цёплы прыём, былі ўсмешкі. Патухлыя вочы нашых мінчукоў пачыналі прасвятляцца. Было бачна, што ім падабаецца, што яны сумуюць па гэтых песнях. Калі яны раптам бачылі моладзь, якая акапэльна спявае цудоўныя напевы, у іх святлелі твары. І амаль адразу ж мы атрымалі рэакцыю ўлад. Ёсць у Беларусі

такі вядомы журналіст, Павел Якубовіч. Ён доўгія гады быў галоўным рэдактарам газеты «Савецкая Беларусь». І за савецкім часам, і цяпер гэта ўзорнае прапагандысцкае выданне. У тыя часы ён быў самым папулярным аўтарам камсамольскай газеты «Знамя юнасці». Яе наклады былі звыш 500 тысяч. Ён пісаў пра тэмы, якія былі на мяжы дазволенага. Паглядзеўшы на нашы спробы прыўнясення беларушчыны ў саўковы горад, ён разразіўся іранічным опусам, «как это так, молодые люди в джинсах, напяливают на себя какие-то вышитые рубахи, поют какие-то архаические песни. Зачем это всё?» Савецкая сістэма адчула небяспеку.

М.Г. Вы нашли способ, как вернуть беларусам улыбки?

В.В. Так, але тут ніякага сакрэту. Ведаеце, нашае пакаленне — гэта новая ўрбаністычная беларуская нацыя. Тры пакаленні назад мы жылі ў вёсках і на хутарах. Гэта вельмі важна, каб разумець некаторыя нюансы. У 50-х гадах здарылася ўрбанізацыя, і беларусы масава пераехалі ў гарады. Адсюль гэтая цёплая рэакцыя на наша спевы: людзі памяталі вясковую песенную культуру і сумавалі па гэтых песнях, па сумесным спеве.

М.Г. А эти ваши поиски и эксперименты: вы, ваша группа — вы были первыми?

В.В. Не, што вы. Былі людзі пасляваеннага пакалення, мастакі Аляксей Марачкін, Яўген Кулік, мастацтвазнаўцы, фізікі. Гэтыя людзі, старэйшыя за нас, ведалі пра нас і падтрымлівалі. Яны збіраліся пакрыёма ў майстэрнях, абмяркоўвалі важныя беларускія пытанні, ладзілі заканспіраваныя мастацкія выставы ў гонар юбілеяў нашых дзеячаў і гістарычных падзей. Ну, скажам, умоўныя тысячагоддзі Беларусі: 980 год — гэта першае ўпамінанне Полацкага і Тураўскага княстваў. Ясна, што ў 1980 годзе нельга было і нават гаварыць пра нейкае 1000-годдзе нейкай Беларусі, нейкай дзяржаўнай традыцыі. Яны зрабілі патаемную выставу. Зусім недалёка адсюль, на апошнім паверсе дома насупраць КДБ. Мастак Яўген Кулік, які пасля намаляваў наш герб, выстаўляў у акне сваю кветку, калі ён дома, і прыбіраў, калі не было. І пакрыёма менская інтэлігенцыя, чалавек 15-20, збіраліся і ладзілі выставы для сябе. По-

тым з'явіліся мы. Яны нас прынялі і паціху перадавалі нам самвыдавецкую літаратуру, знойдзеныя на гарышчах беларускія кнігі і часопісы. Я, як і ўсе мае сябры, начамі рабілі копіі гэтых выданняў. Мы ставіліся да гэтага як да нашай місіі. Яны думалі, што мы пяроймем вось гэтую закрытую мадэль захавальнікаў праўды. А мы абнаглелі да таго, што выйшлі на вуліцу. І як толькі мы выйшлі на вуліцу, адразу атрымалі фідбэк ад людзей. Выявілася, што гэта патрэбна людзям, і гэта стала крыніцай нашага аптымізму. Мы зразумелі, што мы падтрымліваем не агмень, які гасне, мы распальваем цёплае вогнішча.

М.Г. Было ли что-нибудь, кроме тайных выставок?

В.В. У нас адбываліся сходы, амаль рэгулярныя. Зборкі былі з дзвюх частак. Першай частка былі спеўкі пад кіраўніцтвам Ларысы Сімаковіч. Гэта кампазітарка, харэограф, яна вучыла нас спяваць. А другой часткай былі лекцыі. Мы даволі хутка абнаглелі да таго, што адна з лекцый была «Ці можа Беларусь эканамічна вытрымаць самастойна». Часта і трэцяя частка была, як у студэнтаў бывае.

М.Г. Но это была такая скрытая тайная жизнь, как у партизан, я правильно понимаю?

В.В. Спачатку, можа быць, так. Але мы сталелі, адтавалі. Калі некаторыя з нас ужо нараджалі дзяцей, мы задумаліся, што ў Менску няма ніводнай беларускай школы. 1983 год. Ніякіх перабудоў, ніякіх Гарбачовых. У Маскве сядзіць ці то Андропаў, ці то Чарненка. Ні пра якую свабоду выказвання гаворкі не ідзе. Мы сабраліся, чалавек 25, надрукавалі вытрымкі з Канстытуцыі і Закона аб адукацыі, прыйшлі ў мікраераён Сцяпянка і пачалі грукацца ў кватэру і пыталі: «Ці хацелі б Вы, каб вашы дзеці размаўлялі па-беларуску?» А Сцяпянка была такім мікраёнам: там і рабочыя, і інтэлігенцыя, і разначынцы ўсякія. Цікава тое, што інтэлігенцыя і разначынцы трохі нас шугаліся, а рабочыя за мілую душу адказвалі нам па-беларуску: «Так, калі ласка, чаму не». І мы сабралі, уявіце сабе, подпісаў 600 ці 700, за тое, каб там побач была беларуская школа. Мы хадзілі некалькі дзён, пакуль нехта не наткнуўся на не ў меру пільнага грамадзяніна, які патэлефанаваў куды варта. Кагосьці з нашых спыніла міліцыя. Але ўлады не ведалі, што з намі

рабіць. Беларусь лічылася спакойным рэгіёнам. Гэта не заходняя Украіна, гэта не Эстонія, гэта не Грузія. Тут нічога падобнага быць не можа. Відаць, яны вырашылі не псаваць сабе статыстыкі судовым працэсам. Нам нічога не зрабілі, а праз нейкі час ціха стварылі ў Мінску беларускамоўную школу. Першую пасля вялікага перапынку.

М.Г. В наше время националисты объединяют людей вокруг горя, вокруг исторической травмы. А у Вас повестка «как хорош наш язык, как хороши наши обряды». Правильно ли я понял, что момента «давайте объединяться вокруг коллективной боли и коллективной жажды мести» у вас не было?

В.В. Мы разумелі, які гістарычны шлях прайшлі нашы продкі і ў чым прычына такога гаротнага стану нашай мовы, культуры, самасвядомасці. Можа быць, гэта свядома было, але мы сапраўды пачыналі з пазітыву. Але я думаю, што для фармавання нацыянальнай свядомасці важны і пазітыўныя, і негатыўныя моманты, супольна пражытыя. Гэта ж аснова пачуцця локця. Таму калі раскрылася праўда найперш пра Курапаты, а потым пра Чарнобыль, яны былі магутнымі прычынамі для фармавання беларускай палітычнай нацыі. Аднак вось гэтым пазітывам мусілі ўраўнаважвацца. З майго пункту гледжання, негатыўныя крытэрыі павінны кампазітаваць пазітыўныя. Абавязкова гэта трэба.

М.Г. А как вы и ваши товарищи отреагировали на распад Советского Союза?

В.В. Гэта быў адзін з найбольш гістарычных момантаў. Я тады ездзіў ад Рыгі праз Вільню да Кіева, як і многія мае сябры. Мы адчувалі, што ад Таліна да Тбілісі мы ўсе робім адну справу. Гэта было фантастычнае братэрства, дзе з паўпаварота можна было зразумець чалавека. І тады не было ўзаемных разлікаў на конт межаў. Не буду казаць пра паўднёвы Каўказ, пра Арменію і Азербайджан. В Усходняй Еўропе такіх пытанняў увогуле не было. Усе разумелі, дзе сатана, дзе чорная сіла. Усе разумелі, што ўсе нашы нацыянальныя адраджэнні — гэта адначасова і дэмакратычныя адраджэнні. Не проста нацыяналізм, а нацыянал-дэмакратызм. Такі нацыянал-дэмакрат, адраджэнец канца 80-х, ён апрыёры за свабоду і апрыёры не матывуецца нянавісцю. Мне заўсё-

ды прыкра, калі я бачу, калі цяпер распальваюцца гэтыя нянавісці ці беларуска-літоўскае, ці ўкраінска-беларускае, ці нейкае яшчэ, ці пра палякаў гэтыя нянавісці. Гэта не наша.

М.Г. Нет ли у вас рецепта, как сделать так, чтобы национализм оставался в рамках демократии, в рамках универсальных гражданских ценностей?

В.В. Рэцэпта няма. Але ў нас ёсць вельмі добры грунт. Беларусы як грамадзянская, як палітычная нацыя — гэта, па-першае, наша сярэднявечная гісторыя. Я думаю, што Вялікае Княства ў сэнсе талерантнасці, гармоніі з меншынямі, міжрэлігійнага міру — гэта выдатны прыклад. Усякае бывала, але каталіцка-праваслаўных войнаў у нас не было. У межах шматнацыянальнай, шматвернай дзяржавы ўдавалася вякамі вытрымліваць мір. Паглядзіце на лёс беларускіх татар, на мусульман. Яны жывуць у Беларусі 600 гадоў. Беларускі іслам — гэта добры прыклад поўнай інтэграванасці ў мазаіку літоўскай дзяржавы, у якой на адной вуліцы стаяць царква, касцёл, сінагога і мячэць, і паміж імі нуль праблем.

М.Г. Получается, Ваш рецепт — хорошее прошлое?

В.В. Мінулае ніколі не бывае зусім добрым. На жаль, і ў нас былі пагромы. Кожны беларус можа расказаць гісторыю, як беларускія і яўрэйскія сем'і не разумеліся.

З.Л. Такім чынам, усё-такі нацыянальная ідэя ад Вінцука Вячоркі, вось Ваша асабістая?

В.В. Пазітыўнасць, натхненне аптымізмам. І што для мяне асабіста найважней, калі ты рэалізуешся як беларус, ты можаш столькі рэчаў зрабіць упершыню, колькі да цябе ніхто не рабіў. Гэта абсалютна не параўнаць з ідэнтычнасцю так званых вялікіх нацый. Быць творцам прасторы невялікай нацыі — гэта велізарны бенефіс.



# ПАВЕЛ
# БЕЛАВУС

## «ГАЛОЎНАЯ ІДЭЯ —
## ЗРАБІЦЬ УСЁ, КАБ ГЭТАЯ НАЦЫЯ
## НЕ ЗНІКЛА»

euroradio·fm

Гутарылі Зміцер Лукашук, Максім Гаруноў
Фота Еўрарадыё

З.Л. Вітаю ўсіх слухачоў «Еўрарадыё». Сёння наш госць — адзін з арганізатараў канцэрта да 100-годдзя БНР, чалавек, які арганізаваў першыя ў Беларусі дні вышыванкі, заснавальнік і кіраўнік крамы з нацыянальным каларытам symbal.by Павел Белавус. Добры дзень, Паша.

П.Б. Прывітанне. Добры дзень.

З.Л. Калі ты адчуў патрэбу далучыцца да нацыянальнай ідэі?

П.Б. Я для сабе аналізаваў, як да нас у арганізацыю прыходзяць людзі. Ва ўсіх калісьці быў пэўны штуршок, натхняльны фактар. Для мене ў дзяцінстве такі фактар быў песні гурта «NRM». Праз іх я ўбачыў, што нацыянальныя рэчы — яны жывыя і могуць гучаць для мяне як для школьніка класна. У класе дзявятым я паехаў у летні лагер пад Мінскам, і там у мяне быў важатым малады студэнт Павел Свярдлоў, ваш рэдактар. Ён лабаў нам на гітарцы песні групы «NRM» на беларускай мове. Я, хлопчык, які прыехаў з Ліды, тады першы раз у жыцці ўбачыў, што беларускамоўныя ёсць не толькі на школьных уроках беларускай мовы і літаратуры, але сапраўды ў жыцці. У мяне быў і беларускамоўны дзіцячы садок, і беларускамоўны клас у школе, але толькі калі я ўбачыў нефармальнае выкарыстанне беларускай мовы, гэта стала штуршком у бок Беларусі. А пасля лагера я знайшоў у Лідзе касеты «NRM», часопіс «Студэнцкая думка», арганізацыю «Зубр».

З.Л. Табе проста стала цікава?

П.Б. У той момант для мяне быў важны фактар субкультурнасці і забароненасці. У гэтым узросце ўсё, што забаронена, — у гэтым ёсць рамантызм, які цягне да сябе.

М.Г. Ваша история звучит немного как история религиозного обращения. Вы увидели Беларусь, как апостол Павел увидел Иисуса по дороге в Антиохию, и теперь проповедуете её.

П.Б. Ну, гэта нават занадта прыгожа гучыць. Я магу сказаць, што яно атрымалася само. Напрыклад, я паступіў ва ўніверсітэт Брэста, і мне выпадкова трапіў у рукі самвыдат на беларускай мове арганізацыі «Дзедзіч», у якім расказваецца, якія беларусы класныя хлопцы і якая ў Берасці класная тусоўка. Мне стала цікава, і так я трапіў у берасцейскую

тусоўку. Калі я прыйшоў з войска, у мяне не было ідэі, што неабходна стварыць нейкую краму ці там арт-сядзібу. Выбар быў такі: альбо ісці зноў працаваць у турфірму, альбо займацца сваёй справай. Тут з'яўляецца кампанія — Дзіма Афанасенка, Франак, Вінсэнт — і пачалося нейкае бурленне, творчасць, пошук. З гэтага нараджаецца «Арт-сядзіба». Яна з'яўляецца, бо ў мяне і ў нашай кампаніі ёсць патрэба нешта рабіць.

М.Г. То есть, сначала это было вашим хобби?

П.Б. Мне цяжка вызначыць, што гэта было ў самым пачатку. Але потым мы звярнулі ўвагу на тое, што мерапрыемствы, якія мы праводзім, збіраюць шмат людзей. Так шмат, што мы зразумелі, што ёсць заўважны попыт на вышыванкі, на бела-чырвона-белыя сцягі. Попыт увесь час расце, але гэтым ніхто не займаецца, ніша нікім не занятая. Мы падумалі і вырашылі адкрыць нашу кампанію, абсалютна нічога не ведаючы пра тое, як трэба будаваць бізнес.

М.Г. Тогда давайте утончим: вы апостол или бизнесмен?

З.Л. Ці бізнесмен-апостал?

П.Б. Калі казаць пра фінансы, то ў мяне ніколі не стаяла мэты зарабіць бабла. У нас як у працы адбываецца? Мы зарабілі нейкую суму і адразу ўклалі яе ў сайт, у новае памяшканне, у новую прадукцыю, у грамадскую кампанію. Чым больш мы зарабляем, тым больш мы можам рэалізоўваць нашыя ідэі. У нас ідэя на першым месцы. Дзякуючы працы з'яўляюцца рэсурсы, якія дазваляюць гэтую ідэю рэалізаваць. Вы спыталі пра грошы. Акрамя грошай ёсць яшчэ і рэпутацыя, і мы ёю таксама карыстаемся. Аўтарытэт дазваляе прыйсці ў федэрацыю футбола і прапанаваць зрабіць мерапрыемства. Мы не можам зараз вырашаць глабальныя праблемы ўнутры Беларусі. Але мы можам рэалізоўваць ідэі, якія нараджаюцца ў галаве наконт мерапрыемстваў. Напрыклад, тое ж свята БНР: мы заўжды хацелі зрабіць класнае крутое мерапрыемства, якое застанецца ў памяці. Пра 97-годзе, і пра 98-годзе, і пра 99-годзе мы марылі, каб гэта было сапраўды крутое святочнае мерапрыемства. Але атрымалася правесці на 100-годзе, таму што мы дараслі да таго, што можам правесці мерапрыемства такога маштабу. Праз 5 гадоў, можа быць, мы дарасцем яшчэ да больш сур'ёзнага мерапрыемства, бо рэальна вучымся на практыцы.

М.Г. То есть, вы апостол, которому нужен бизнес, чтобы поддержать его проповедь?

П.Б. Так-так. Напрыклад, у нас ёсць ідэя выпусціць мільён налепак з «Пагоняй» і раздаць людзям. Мы разумеем, што на гэта патрэбна пэўная сума, якой у нас няма. І мы вырашаем: альбо мы зараз шукаем партнёра, альбо запускаем краўдфандынг. І людзі вераць, што мы класныя хлопцы, якія сабраныя грошы не прап'юць, грошы пойдуць на арганізацыю мерапрыемства. Але наогул мы проста ўсе вельмі захопленыя нашай справай. Калі праходзіць час пасля мерапрыемства, ва ўсіх пачынаецца зуд: а што далей?

М.Г. А что вдохновляет больше всего?

П.Б. Самым магутным імпульсам з'яўляецца рэакцыя людзей. Калі ты выкідываеш фотку з прынтом, людзі табе пішуць: «Дзе ўзяць?» — а пасля прыходзяць і набываюць. Альбо калі ты па выніках сваёй працы бачыш вялікую колькасць водгукаў, падзякаў і ўсё астатняе. Вось гэта самае натхняльнае.

З.Л. Я памятаю, што мы пазнаёміліся ў Кіеве ў годзе адзінаццатым ці дванаццатым. Падчас нейкай вячэры Паша мне расказаў пра ідэю выпускаць вышымайкі. Я яго абсмяяў. Я сказаў, што каму нахер трэба гэтыя вышымайкі. Я тады ў Кіеве купіў нармальную ўкраінскую вышыванку, сапраўдную, вышытую, і казаў, што так патрэбна рабіць. Мы ідэю зганьбілі, а Павел усё-такі даказаў сваю правату.

М.Г. А у вас есть представление о горизонте, о том, что должно появиться в итоге?

П.Б. Каб беларус адчуў сябе беларусам і каб ён пачаў у сваім уяўленні прысвойваць сабе сваю краіну, разумець, што яна належыць яму. Мы даем магчымасць зрабіць першы крок да таго, каб зразумець, што я беларус і Беларусь — гэта мая краіна, мая ўласнасць. Першы крок — ён візуальны. Чапляй стужачку на заплечнік, ці стужачку ў машыне, ці яшчэ што. Калі я сам апрануў нашу вышымайку і паехаў у метро, пасажыры на мяне так глядзелі, што я зразумеў, што для людзей, якія апранулі нашу вышымайку, гэта ўжо ўчынак.

М.Г. А дальше что?

П.Б. Чалавек пачынае задумвацца пра больш складаныя рэчы. Напрыклад, пра гісторыю сваёй краіны. Ці пра тое, а навошта я заяўляю, што я беларус. Праз гэтыя маленькія крокі адбываецца фарміраванне нацыі і ўмацаванне яе.

М.Г. И что в итоге? Мы со Змитером хотим от вас услышать финальную цель всего этого.

П.Б. Для чаго гэта адбываецца?

М.Г. Да.

П.Б. Каб яна нахран не знікла.

М.Г. Кто? Беларусь?

П.Б. Ну так. Каб у выніку на мапе з'явілася нармальная краіна, якая не будзе баяцца, што ў любы момант у яе забяруць там нейкі горад ці штосьці яшчэ. У выніку, наша мэта — гэта яднанне нацыі пад агульнымі каштоўнасцямі. Хочацца, каб на гэтай зямлі як мага ў большай колькасці людзей былі агульныя каштоўнасці.

М.Г. Зачем?

П.Б. Таму што я прадстаўнік беларускай нацыі. Я не хачу быць адзінокім мамантам, сядзець на ледавіку і чакаць, калі ён пад табой растане.

М.Г. Получается, такой природный процесс: беларусы сохраняют свою Беларусь, потому что не могут не сохранять свою Беларусь.

П.Б. Таму што яны беларусы, а як па-іншаму? Каты жывуць як каты. Яны не баяцца, што заўтра яны стануць сабакамі.

З.Л. А што мы страцім, калі гэтага не будзе?

П.Б. Страцім сябе, вельмі проста. Беларусы, як кажуць, — статкавыя жывёлы, яны не могуць жыць паасобку. Можна казаць пра натуральную

патрэбу чалавека атаясамліваць сябе з пэўнай нацыяй, з пэўнай краінай, з яе асаблівасцямі. Ніколі такога не будзе, што я — грамадзянін планеты Зямля. Такога ніколі не будзе. Увесь свет, акрамя беларусаў, імкнецца падкрэсліць, што мы людзі не аднекуль з космасу, а канкрэтна з пэўнай краіны з пэўнымі каранямі. На гэтым завязана ўсё на гэтай на гэтай планеце: канкурэнцыя, спорт, палітыка. Таму мы і не павінны выпадаць з тых працэсаў, якія на зямлі адбываюцца.

М.Г. А вы сравнивали себя с соседями? Есть какие-то параллели?

П.Б. На постсавецкай прасторы гэта натуральны працэс. Ва Украіне, у Польшчы, у Літве — паўсюль адбываюцца аднолькавыя працэсы. Такія крамы і такія актыўнасці, як у нас, паралельна адбываюцца ва ўсіх постсавецкіх краінах. Чаму? Таму што адбыўся развал імперыі. Кожная нацыя засталася сама з сабою. Кожная по-свойму, але ў прынцыпе ўсе аднолькава праходзяць зараз працэс фармавання пасля разыходжання па сваіх хатах. І таму і Беларусь не магла застацца збоку ад усіх гэтых працэсаў.

З.Л. І ў выніку, можаш нам зараз сфармуляваць нацыянальную ідэю? Вось памятаеш у французаў: «свабода, роўнасць, братэрства»? У нас такое можна?

П.Б. «Усё для Беларусі». Калі ты будзеш рабіць для Беларусі, то Беларусь дасць табе ўсё.

З.Л. Гэта яна цяпер табе дасць? Ці потым калі-небудзь?

П.Б. Нешта цяпер, нешта потым. Мы ж гаворым аб праекце, пра тое, якой бы мы хацелі бачыць сваю краіну. Хацелася б, каб укладаючы ў гэтую краіну, яна вяртала табе не менш. Каб нацыянальная ідэя гэтай краіны дазваляла табе перайсці на новы ўзровень свядомасці, які не дае табе пасраць пад лесвіцай у сваім пад’ездзе. Нам патрэбная нацыянальная ідэя, якая дапаможа нам ставіцца да сваёй краіны як да сваёй уласнасці, шанаваць яе, берагчы. І тады гэтае наша стаўленне вернецца да нас у квадраце.

# Літаратура па гісторыі беларускага нацыяналізму і фармаванні нацыянальнай ідэнтычнасці

***Тэарэтычныя працы:***

Андерсон, Бенедикт. Воображаемые сообщества. Москва: Кучково поле, 2001.

Валіцкі, Анджэй. Нацыя, нацыяналізм, патрыятызм. Мінск: Медысонт, 2012.

Геллнер, Эрнст. Нации и национализм. Москва: Прогресс, 1991.

Грох, Міраслаў. У нацыянальных інтарэсах. Патрабаваньні й мэты эўрапейскіх нацыянальных рухаў XIX ст. у параўнаўчай пэрспэктыве // ARCHE. 2007. № 6, 7–8. С. 159–188.

Калхун, Крэйг. Национализм. Москва: Издательский дом «Территория будущего», 2006.

Сміт, Энтані. Нацыяналізм у ХХ стагоддзі. Мінск: Беларускі фонд Сораса, 1995.

Hobsbawm, Eric and Ranger, Terence. Invention of Traditions. Cambridge University Press, 1983.

***Гісторыя. Сярэднявечча і Ранні Новы Час:***

Бардах, Юліуш. Штудыі з гісторыі Вялікага Княства Літоўскага. Мінск: Медысонт, 2010.

Белы, Алесь. Хроніка Белай Русі. Імагалогія Беларусі XII–XVIII стст. Смаленск: Інбелкульт, 2013.

Латышонак, Алег. Нацыянальнасць — беларус. Вільня: Інстытут беларусістыкі, 2009.

Марзалюк, Ігар. Людзі даўняй Беларусі: этнаканфесійныя і сацыя-культурныя стэрэатыпы (X–XVII стст.). Магілёў: УА «МДУ імя А. А. Куляшова», 2003.

Плахій, Сяргей. Рускі Вавілон. Дамадэрныя ідэнтычнасці ў Расіі, Украіне і Беларусі. Вільня: Інстытут беларусістыкі, 2012.

Снайдэр, Тымаці. Рэканструкцыя нацый: Польшча, Украіна, Літва і Беларусь. 1569–1999. Мінск: Медысонт, 2010.

*Гісторыя. Мадэрнасць (XIX–XX стст.):*
Бабкоў, Ігар. Генэалёгія беларускай ідэі // Arche: Пачатак. 2005. № 3. С. 136–165.
Błaszczak, Tomasz. Białorusini w Republice Litewskiej 1918–1940. Białystok: Białoruskie Towarzystwo Historyczne, 2017.
Булгакаў, Валер. Гісторыя беларускага нацыяналізму. Вільня: Інстытут беларусістыкі, 2006.
Віславух, Севярын. Нацыятварэнне ў Заходняй Беларусі. ARCHE. 2018. № 1.
Гамулка, Крысціна. Паміж Польшчай і Расіяй. Беларусь у канцэпцыях польскіх палітычных фармаванняў. Вільня: Палітычная сфера, 2008.
Долбилов, Михаил и Миллер, Алексей (ред.). Западные окраины Российской империи. Москва: Новое литературное обозрение, 2007.
Казакевіч, Андрэй і Асадчы, Андрэй. Пачаць пісаць па-беларуску. Рэгіянальны і сацыяльны склад беларускага адраджэння, 1880–1918 (канца XIX — пачатку XX стагоддзя). Палітычная сфера. 2011, № 16–17 (1–2). С. 87–114.
Куль-Сяльверстава, Святлана. Палітыка. Культура. Асоба. Нарысы па гісторыі культуры Беларусі. Гродна: ЮрСаПрынт, 2012.
Лінднэр, Райнэр. Гісторыкі і ўлада. Нацыятворчы працэс і гістарычная палітыка ў Беларусі XIX–XX ст. Мінск: Медысонт, 2005.
Ляхоўскі, Уладзімір. Ад гоманаўцаў да гайсакоў. Вільня: Інстытут беларусістыкі, 2012.
Маркава, Алена. Шлях да савецкай нацыі: палітыка беларусізацыі (1924–1929). Мінск: Галіяфы, 2016.
Мартин, Терри. Империя «положительной деятельности». Нации и национализм в СССР, 1923–1939. Москва: РОССПЭН, 2011.
Міхалюк, Дарота. Беларуская Народная Рэспубліка, 1918–1920. Смаленск: Інбелкульт, 2012.
Радзік, Рышард. Вытокі сучаснай беларускасці. Мінск: Медысонт, 2012.
Rudling, Per Anders. Rise and Fall of Belarusian Nationalism. University of Pittsburgh Press, 2014.
Рудовіч, Станіслаў. Час выбару: праблема самавызначэння Беларусі ў 1917 годзе. Мінск: Тэхналогія, 2001.
Смалянчук, Алесь. Паміж краёвасцю і нацыянальнай ідэяй. Польскі рух на беларускіх і літоўскіх землях. 1864–1917 гг. Гродна, 2001.

Смалянчук, Алесь. Раман Скірмунт (1868–1939): жыццяпіс грамадзяніна Краю. Мінск: Зміцер Колас, 2018.

Staliunas, Darius. Making Russians: Meaning and Practice of Russification in Lithuania and Belarus after 1863. Leiden: Brill, 2007.

Терешкович, Павел. Этническая история Беларуси XIX — начала XX века. Минск: БГУ, 2004.

Туронак, Юры. Мадэрная гісторыя Беларусі. Вільня: Інстытут беларусістыкі, 2006.

Weeks, Theodore. Nation and State in Late Imperial Russia: Russification on the Western Frontier, 1863–1914. Dekalb: Northern Illinois University Press, 1996.

Унучак, Андрэй. «Наша ніва» і беларускі нацыянальны рух (1906–15). Мінск: Беларуская навука, 2008.

Чарнякевіч, Андрэй. БНР. Триумф побеждённых (история создания Белорусской Народной Республики). Минск: А.Н. Янушкевич, 2018.

Чарнякевіч, Андрэй. Нараджэнне беларускай Гародні: З гісторыі нацыянальнага руху 1909–1939 гадоў. Мінск: А.М. Янушкевіч, 2015.

Чернявская, Юлия. Белорусы. От «тутэйшых» – к нации. Минск: ФУАинформ, 2010.

***Сацыялогія і філасофія:***

Акудовіч, Валянцін. Код адсутнасці. Мінск: Логвінаў, 2007.

Bekus, Nelly. Struggle over Identity. The Official and the Alternative «Belarusianness». Budapest: Central European University Press, 2010.

Казакевіч, Андрэй. Канцэпцыі (ідэі) беларускай нацыі ў перыяд незалежнасці, 1990–2009 // Палітычная сфера, 2010, № 14, С. 21–40.

Ластоўскі, Аляксей. Русацэнтрызм як ідэалагічны праект беларускай ідэнтычнасці // Палітычная сфера. 2010. № 14. С. 58–79.

Lewis, Simon. Belarus — Alternative Versions. Nation, Memory and Cosmopolitanism. Routledge, 2019.

Науменко, Людмила. Белорусская идентичность. Содержание. Динамика. Социально-демографическая и региональная специфика. Минск: Беларуская навука, 2012.

Науменко, Людмила и Водолажская, Татьяна. Этническая и гражданская принадлежность в восприятии населения современной Беларуси. Минск: Беларуская навука, 2006.

Radzik, Ryszard (red.). Tożsamości zbiorowe białorusinów. Lublin: Wydawnictwo UMCS, 2012.

***Першакрыніцы:***

Грыб, Тамаш. Выбранае. Мінск: Кнігазбор, 2017.

Каліноўскі, Кастусь. Выбраныя творы. Мінск: Беларускі кнігазбор, 1999.

Ластоўскі, Вацлаў. Выбраныя творы. Мінск: Беларускі кнігазбор, 1997.

Луцкевіч, Антон. Барацьба за вызваленне. Вільня: Інстытут беларусістыкі, 2009.

Луцкевіч, Антон. Да гісторыі беларускага руху. Вільня: Інстытут беларусістыкі, 2010.

Лёсік, Язэп. Выбраныя творы. Мінск: Беларуская навука, 2018.

Станкевіч, Адам. З Богам да Беларусі. Вільня: Інстытут беларусістыкі, 2008.

Цьвікевіч, Аляксандр. «Западно-руссизм»: Нарысы з гісторыі грамадскай мыслі на Беларусі ў XIX і пачатку XX в. 2-е выд. Мінск: Навука і тэхніка, 1993.